№3 (94)
/травень-чэрвень/ 2018

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Сяргей Дубавец



...з батыскафаў выходзяць спустошаныя арганаўты
з файламі, флэшкамі, вершамі і раманамі,
ім не падпарадкаванымі...

# «Мяне ніколі так не любілі геніі...»

***Вершы з Вісбю***

***1.***

Другі тыдзень аж цёмна ад снегу, такія завеі.
Не адчыніш дзверы, не выйдзеш з дому.
У вакне фіранкі ўжо амаль да паловы знізу.
Змрок егіпецкі клейкі можна памацаць рукою,
тварам, крокам, заваленым снегам целам.
Увушшу гудзе манатонна і страшна ці то самое вуха,
ці то мора, ці то завея, ці ветранік на званіцы Бога.
Там, дзе Бог не любіць, а карае з усёй сілы,
Каб няверны не перашкодзіў промыслу Бога,
Будзь ён хоць фараонам. Асязальная цемра,
бездарожжа, бязвыйснасць, бяззорнасць
Вісбю.

***2.***

Віскае снег у Вісбю падэшвамі *Asics*. Іксамі
Пакідае след за сабою на ровары Олаф –
Быццам яму не так, як табе, не холадна.
Руіны шэрыя рымскія сабачы мароз ціскае,
Хапаючы іх час ад часу за хрыбетнік зубамі.
Анна сёння не прыйдзе. «Яна не з вамі»?
«Чаму не рэстаўруюць помнікі Вісбю?» –
пытаюся ў гугла, ён не дае адказу, але ўжо па-руску.
Незнаёмая Анна ў сваім цацачным доме,
які ад марозу ўціснуўся ў шэраг такіх самых у Вісбю,
Анна не прыйдзе ніколі. Да Анны прыедзе
Олаф.

***3.***

Хто не крычыць на вуліцы, той не дзіцё.
А вы як гледзіцё? Калі навaліла снегу, калі
вы хочаце сэксу (як першы раз), калі выйшлі
з барнае пары, а неба – закрытае. Што, усё?
Сэрца прагне працягу. На санках, на сноўбардзе,
проста на задніцы, на гэтай грэбанай лесвіцы,
не пачышчанай ад снегападаў, з неразрознымі
прыступкамі, ногі намацваюць ледзь...
«Гдзе Александр Грігор'ічь?» Он здзесь.
Таксама і ў Вісбю. Неба адкрыецца ў сне.
Кожнаму па чуць-чуць. Спі. Мая радасць –
заснуць.

***4.***

Вясна ў Вісбю з 30 лютага. *Coming soon... Bad news
sir*. У апошні момант Вісбвыканкам адмовіў у
гастрольнай ліцэнзіі. У праграме – той самы
завейны свіст. І бяззорнасць. Больш у Вісбю
ніколі не будзе вясны. Толькі сцюжа ды храмаў
разбураных чарапы. Ну і ты, з пустаты, гарбаты
ад ветру, у пустату, пераходзіш пусты.
З першага на другое піва. Ад афіцыянта-сірыйца
ў «Італіян піца» да афіцыянта-сірыйца ў
«Бруклін-бургер». Што паглядзець у Вісбю? Кампутар.
Ці як фільмы цяжкія сны. Больш у Вісбю не будзе
вясны.

***5.***

Храп накрыў прытулак пісьменнікаў Вісбю.
Гюнтар сніць сябе Грасам, Сільвія – *Saint*.
На сайт выстаўляе Васілій хуліганскія скрыпты

«Вялікая айчынная вясна», «сталінскія імпрэсіі», «Пуцінскі жым-жым». Мы ляжым кожны ў сябе, у сабе, са сваім снапом у галаве. Грас сніць сябе Гюнтарам, Васілій, можа быць, з Сільвіяй. У Празе я ведаў адну Сільвію... У снах, у снапах, праз храп прарываецца: Fuck! Гюнтар страціў канец думкі і ад страху, што страціў фах, не паказваецца раніцай брызлай у Вісбю.

***6.***

Калі перайсці на той бок вострава (Па пояс у снезе, хіба, і гэта самае простае.) ад Вісбю да Клайпеды зусім блізка, 270 км на вёслах. (Ага, у гэткі вятрыска.) У Клайпедзе можна спыніцца. Помніш «Мемфіс каля абеліска»? (Не факт, што цябе там помняць.) Зрэшты, можна й без стомы, без спыну, узяць на пуп – з думкай «дадому». Далей сядаеш на колы і 300 км да Вільні як адзін момант. (Аўтастрада на вечным рамонце, не разагнацца.) І яшчэ 170 да Менску. (Плюс мяжа...) Язык твой будзе свінцовы, калі паспрабуеш вымавіць: бывай, Свенска.

***7.***

Нізкае сонца любы краявід робіць цікавым і ў Вісбю. Кавы? Пад таблічай кронпрынца доўгія гутаркі, доўгія цені ад нізкага сонца замятае завея. Завея і сонца, як гэта можа быць? – дзівіцца Гюнтар. І кава. Усё проста. Кава – ад кронпрынца, завея – ад Маісея. Сонца – ад госпада нашага Бога. – Ён забраў святло ў фараона і аддаў габрэям, яны ва ўсім вінаватыя, – кажа Васілій. Сільвія не кажа нічога. З’ехала ўчора ў сваю Харватыю. Уцякла ад егіпецкай цемры, ад завеі, ад нізкага сонца, ад кавы кронпрынца і ад Васілія.

***8.***

У балтыйскіх русалак у Вісбю шурпаты дэкор: завейныя крылы, перфаратары-цыцкі, ашчэр і хардкор. Яны б’юцца з цёплымі бліскамі, узвісквають. З імі дзядзька іх Балтамор, дабрадушны бязвольны бамбіза. Ідзе бітва за горад Вісбю паміж градусамі, ціскамі, пырскамі. Востраў Готланд з папераменным поспехам захоплены то русалкамі, то турыстамі.

І апошнія фоткаюць першых на тэлефон. Мор-р-р! – сірэны равуць ад бязвыйснасці, адчуваюць – пяройдуць на стогн неўзабаве. Русалкі рачкуюць – крок за крокам здаюць пазіцыі. З імі дзядзька іх Балтамор.

***9.***

Перакладчыца ці то на ці то з суахілі Сільвія на развітанне сказала нам і Васілію, не перакладчыку, проста пісьменніку: «Мяне ніколі так не любілі геніі...» І з'ехала, пакінуўшы азадачанага сам-насам з бутэлькай каньячнаю ў Вісбю. Пад снегападам. «Цікавы атрымаўся рэбус, – думаў Гюнтэр. – Каго яна мела на ўвазе?» «Между нами ничего не было», – паспяшаўся Васілій з адказам. «Дарэмна, – падумаў Гюнтэр і паўтарыў, – дарэмна», разглядаючы ў пакоі Сільвіі на сцяне партрэт Музарэвы.

***10.***

У Вісбю жыве дзяцінства. Узгоркі, вуліцы, домікі, ліхтары пакінутыя – як тады. Не знесеныя ўзгоркі, вуліцы, домікі – «жыдоўскія клапоўнікі», ліхтары – як у Мазыры, як у Менску. У Мінску няма дзяцінства. Няма ў Мазыры пахаў, прысмакаў, водбліскаў – як тады. «Памяць урастае ў камень» амаль дзе б ты ні быў: у Вільні, ва Ўроцлаве, у Празе, у Лондане, у Страсбур*ы*, у домікі, вуліцы, ліхтары. У Вісбю жыве дзяцінства, бяры. На радзіме яго няма ні ў Мінску, ні ў Мазыры.

***11.***

Як жа звалі сабор у Празе, у мяне ў вакне на намнесці Міру, што адлічваў па галаве кожную паўгадзіну? Людміла! Такая эротыка, а на справе – чорная готыка. Такі самы сабор у Вісбю і таксама ў вакне і па галаве – кожную паўгадзіну, паўдумку, паўсказу... Толькі ўжо без эротыкі-готыкі, бо раманіка, самая ранняя. І не чорная, а светлая. І завецца Марыяй. Што ж вы так мяне праследуеце? Толькі словы складу да паловы – бам! Толькі новы раздзел адкрыю – у вакне Людміла з Марыяй.

### *12.*

Мне так часта ў Вільні пахла Балтыкай, нават
часам у Менску пахне Балтыкай, ёдам,
соснамі, хвалямі Вісбю і Лімбажы, музеем Мана
ў Нідзе, вядзьмаркамі Ёдкрантэ і вікінгамі
Готланда. У Вісбю мала што нагадвае Вільню
і нішто не нагадвае Менску, апроч жадання
вярнуцца. У Вісбю не пахне Балтыкай. У
Клайпедзе, Нідзе, Лімбажы мне ніколі не пахне
Балтыкай, быццам яна так далёка, як Менск,
як Вільня. На Балтыцы пахне Свенска і,
калі могуць пахнуць жаданні, мне пахне
Менскам.

### *13.*

Ты, Марыя, воблачны слуп у вакне маім
удзень і агнявы слуп уначы. Будзь памочніцай
уцячы. Ад мяне за табою паўсюль мора. Стань
мне за спінаю. І расступяцца воды, даючы
мне па дне дарогу дадому паміж дзвюх сценаў
вады. Стань, Марыя, паміж сушай і мной, а калі
я адолею гэты шлях і знікну з вачэй тваіх, ты
вярні свае воды на месца. І няхай ужо
здзейсніцца меса над патопленымі воямі
і калясніцамі. Няхай з волі твае вернуцца воды.
Не дай фараону перашкодзіць майму сыходу
з Вісбю.

### *14.*

У Вісбю вяртаюцца гусі, іх крыкі зблытваюць
думак ясныя рыскі, думкі плывуць туманныя,
нібы падманныя. З батыскафаў выходзяць
спустошаныя арганаўты з файламі, флэшкамі,
вершамі і раманамі, ім не падпарадкаванымі.
Едуць у Вісбю турысты, робяць пераможныя
сэлфі з блікамі сонечнымі на сцяне,
значыць, быць у Вісбю вясне, разам з
гусінымі крыкамі, вершамі і флэшкамі,
зблытанымі рыскамі на сцяне, з турыстамі,
зданямі самнамбулічнымі, нібы ў сне. Але
без мяне.

*Вісбю, люты-сакавік 2018*

Франц Сіўко



...зрабіць грунтам уласных учынкаў
чужы досвед мала каму дадзена...

# Раз – шкілет, і два – шкілет

***Аповесць***

## I

Што лецішча можа быць так сабе, Тадэвуш Піліпавіч зразумеў яшчэ падчас тэлефонных перамоваў з гаспадыняю дома. Пусціць у жытло кватаранта за мізэрныя грошы, амаль, лічы, задарма – такое дабрачынства ў часы, калі кожны штомоцы грабе пад сябе, хіба што ў сне або ў казцы ці ў мыльным серыяле сустрэнеш. Ды і самі перамовы прайшлі неяк надта ж ужо паспешліва. Быццам толькі і мела кабеціна наўме як хутчэй каго-небудзь гэтым нехлямяжым будынкам за трыццаць вёрст ад горада ашчасліваць. А калі яшчэ і ключы ад дома не асабіста, а праз нейкага ці то сваяка, ці то нават суседа Тадэвушу Піліпавічу перадала, дык і зусім ніякіх сумневаў наконт узроўню тутэйшых дачных выгодаў у яго не засталося.

Але што ажно так будзе ўсё на гэтым вузкім падворку на ўскрайку аточанага хвоямі пасёлка занядбана, ён, канечне ж, не чакаў. Мала таго, што куты дома засмечаныя, дык яшчэ ж і наўкола яго рознага друзу – ногі зломіш. Кроку не ступіць без таго, каб не ўзбіцца на стыканую ржавымі цвікамі бэльку ці не спатыкнуцца аб зараслую быльнягом купку жвіру або патрушчанай цэглы.

Будынак пасля рамонту, а выглядае так, быццам і рук ні да чаго рамонтнікі пры ім не прыкладалі. Адзінае, што пра той расхвалены гаспадыняю па тэлефоне рамонт нагадвае, – комін. Абгорнуты бляхаю цагляны чатырохкутнік з вычварнымі антэнападобнымі вусікамі-драцінкамі па-над краямі. Безгустоўны, як занадта мудрагелістая прычоска на галаве абы-як апранутай маладзіцы. Сам па сабе вока быццам здалёку і цешыць. А зірнеш зблізку – і куды яно, тое ўсцешліва-прывабнае, знікае.

Словам, такое бязладдзе ўсярэдзіне і абапал дома, што лепш было б, можа, яго наогул не бачыць.

Хаця, што праўда, і выгода (і немалая, між іншым) таксама маецца – месцазнаходжанне лецішча. Акурат жа тое, што Тадэвуш Піліпавіч ад самага пачатку з увагі на акалічнасці справы, дзеля якой бавіць тут час у самоце вось ужо чацвёртыя суткі, і падшукваў. Канечне, нядобра, што давялося дзеля гэтага пакінуць без нагляду кватэру сына Генадзя, у якой узахвоціўся пабыць за вартаўніка, пакуль той адпачывае з жонкаю і сынамі ў Балгарыі. Але ж усюды не паспееш, чымсьці трэба і ахвяраваць. Тым больш, што час Генадзевага адпачынку неўзабаве заканчваецца і не сёння дык заўтра вернуцца сын з нявесткаю і двое іх гарэзлівых хлопцаў-мацачкоў дахаты.

Вось-вось, яны вернуцца, а ты і цягніся тады, бацечка Тадзюня, зноў у сваю "хрушчоўку", ды ўздрыгвай там штохвіліны ад грукату суседчыных абцасаў над галавою, ды, заходзячыся злосцю на той несупынны грукат, бегай па кватэры ў марным пошуку ратунку ад яго. Ды калі ўжо на тое пайшло, нахабства вось гэтага гундосага чмяля, што ўляцеў учора ўвечары ў пакой і даймаў яго амаль палову ночы сваім зумканнем, а цяпер ціхамірна падрэмвае, рахманы з рахманых, на фіранцы, у параўнанні з тым шалёным грукатам – нявінная забава прыроды, на якую і зважаць не варта. І не даражы тут, пры такім раскладзе, лішняю хвілінаю спакою, і не радуйся, што можаш, хай сабе і без асаблівага шыку, а ўсё ж адпачыць ад да сябе падобных ды справакаванае іх паводзінамі собскае непрыязнасці да ўсяго роду людскога.

Шоргат колаў аўто даносіцца да вушэй Тадэвуша Піліпавіча і тут жа сціхае, праглынуты нечаканым парывам ветру з расчыненага акна. Чмель на фіранцы варушыць крыламі, узлятае, пачынае бязладна мітусіцца ў цесным прагалку паміж сцяной і канапаю.

"Дзякуй Богу, хоць мух ды камар'я пакуль што няма", – думае Тадэвуш Піліпавіч і цягнецца даланёю да фіранкі, каб перагарадзіць чмялю шлях да адступлення. Той жвава, як для жамярыны гэткай грувасткай камплекцыі, шмыгае пад столь, незадаволена гудзе. Затым, не маючы, мусіць, ахвоты трапляць у зладаваную Тадэвушам пастку, рэзка пікіруе на дол і тут жа куляю вылятае ў акно.

Час падымацца, але якраз падымацца Тадэвушу Піліпавічу зусім і не хочацца. Цяжкая, гнятлівая апатыя скоўвае ягонае прыкметна раздабрэлае апошнім часам цела, зноў прыгінае да канапы.

Быццам адчуваючы нежаданне чалавека што-кольвечы рабіць ды хочучы пацвяліцца з ягонае лянівае нямогласці, няўрымслівы чмель вяртаецца ў пакой. Няспешна кружляе колькі хвілін вакол канапы, уладкоўваецца таўсматым жмутам рудавата-шэрых паўсцінак на фіранцы.

“Той самы, відаць, а можа, ужо другі”, – думае Тадэвуш Піліпавіч і намагаецца ўзгадаць, ці паклаў у валізу падчас збораў да ад’езду купленую адмыслова дзеля выправы на лецішча мухабойку.

* * *

Апатыя апаноўвае Тадэвуша Піліпавіча не першы раз. Праз усё жыццё, колькі ён сябе памятае, апаноўвае. Такі адмалку няроўны, пераменлівы ягоны характар. Надта ж, сапраўды, няроўны. То энергія пругка струменіць з кожнае сітавіны, ліецца праз край, то абыякавасць дарэшты ім завалодвае. Толькі, здаецца, паспее галава збольшага астыць ад нейкага неспадзеўнага ўзруху, як вось ужо і яна, апатыя-лянота, тут як тут, шчэрыцца. У якім, канечне ж, колькі б яно, тое ваярства, ні доўжылася ды якім бы зацятым-заюшлівым ні было, сама ў рэшце рэшт і пераможа.

Апошні наступ апатыі даўся Тадэвушу Піліпавічу ў знакі па дарозе ў Парыж, куды ён выправіўся турыстам два месяцы таму, напрыканцы траўня, з мэтаю хоць крыху адысці ад маркоты ў сувязі са смерцю жонкі Караліны. Збіраўся паехаць раней, ды ўсё адцягваў паездку, ніяк не мог адважыцца на такую нявінную авантуру. І колькі Генадзь ні ўгаворваў бацьку не марудзіць, колькі ні абяцаў і грашыма памагчы, і надзейную турфірму праз інтэрнэт падсобіць знайсці – усё было дарэмна.

А тут во ўзяў ды і спакусіўся Піліпавіч справакаванымі нападам тэрарыстаў на рэдакцыю “Charlie Hebdo” таннымі распродажнымі коштамі, набыў-такі пуцёўку ў культурную сталіцу свету. У выніку не сказаць, каб што прайграў, але дакладна – нічога і не выйграў. Бо ўжо ў дарозе зразумеў, што ў плане эмацыйнага ўспрыняцця тамтэйшых выдатных мясцін будзе турпаездка не з шыкоўных, і загадзя змірыўся з наканаванасцю.

І сапраўды, ні цікавосткі Прагі, дзе іхняя група прабавіла палову сутак перад тым, як накіравацца да французскае мяжы, ні нават знакамітыя парыжскія відарысы градуса Тадэвушавай абыякавасці не збілі. Базіліка Сакрэ-Кёр, Манмартр, плошча Пігаль, Эйфелева вежа, знакамітыя бульвары – усё мінула неяк наўзбоч глуздоў хісткім, невыразным ценем-прывідам. Дык і атрымалася так, што ці не найбольшым уражаннем засталіся ў памяці Тадэвуша Піліпавіча бруднаватыя накрыўкі на ложку гатэльчыка ў акрузе са шматабяцальнай прыпіскай у праспекце, што гэта, маўляў, не абы-што вам, спадары турысты, а самая што ні ёсць хоць і “ўскраіна”, ды ўсё-такі як-ніяк – “цэнтра горада”. Ды яшчэ нарыў пад пазногцем вялікага пальца левай рукі, зароблены ім у час, калі, падымаючыся аднаго разу з буфета да сябе ў нумар, неасцярожна затрымаў далонь на створцы дзвярэй вузенькага, ледзь дваім змясціцца, гатэльнага ліфта. І, канечне ж, вандроўнікі-суайчыннікі, якія так нагружаліся ў мясцовых крамах розным харчам, што толькі дзівіцца часам заставалася, як давалі рады пасля ўвесь той харч спажыць.

– Малако будзеце купляць? – нібы адмыслова ў працяг тэмы пра ежу перарывае ягоныя лянівыя ўспаміны жаночы голас за акном. – Будзеце? Вызірніце ж, калі ласка, на хвілінку... Гэй, чалавеча! Дзе вы там? Ад-гук-ніцеся!

Тадэвуш Піліпавіч падхопліваецца з канапы, намагаючыся не натыкнуцца рукою на чмяля ды злуючыся на нахабу за тое, што, мабыць, з-за ягонага гудзення не пачуў набліжэння аўто, адхінае ўбок фіранку.

– Дык будзеце? Не? Малако таннае, кошт на дваццаць капеек ніжэйшы за крамнае. І свежае, толькі што ад каровы... Бярыце – не пашкадуеце. Тлустае. Паставіце ў слоіку ў лядоўню, дык за паўсутак на трацiну пасудзіны вяршкоў настаіцца.

Жанчына год шасцідзесяці, даволі густоўна, як для вяскоўкі, апранутая, з кароткімі пасамі фарбаваных валасоў на галаве, жвава выскоквае з салона легкавушкі, похапліва мітусіцца ля багажніка з шыхтам напоўненых малаком паўтаралітровікаў з-пад мінералкі. На акно лецішча, адкуль цікуе за ёю з-за скамечанай ільняной фіранкі Тадэвуш Піліпавіч, яна не глядзіць. Але што там, за фіранкаю, нехта ёсць і што той нябачны нехта яе бачыць і чуе, не толькі, відаць, здагадваецца, але і, мяркуючы па ўпэўненасці голасу, не сумняваецца. Адзінае, чаго, мабыць, яна пакуль што не ведае, дык гэта тое, што яе не толькі бачаць, але і даўно ўжо, у першы ж дзень, як толькі яна тут, ля дома, са сваім танным малаком аб’явілася, пазналі. Хаця ні сказаць ёй пра тое, ні нават словам азвацца на яе заклікі вызірнуць ні разу за паўтыдня не рызыкнулі.

– Вяршкоў! – адчуваючы, як нахлынвае ні з таго ні з сяго жаданне конча сказаць што-небудзь насуперак, і не маючы ані сілаў, ані імпэту тое неспадзеўнае жаданне ў сабе загасіць ды адначасова намагаючыся як мага больш рашуча засведчыць перад жанчынаю ўласную абазнанасць у вясковых гаспадарчых справах, выгуквае Тадэвуш Піліпавіч. – А тое, што па зняцці вяршкоў застанецца, пад плот загадаеце выліваць, ці як?

І хоць фраза атрымліваецца не такая ўжо рашучая, прынамсі, не да такой ступені, як яму самому, можа, хацелася б, жанчыну яна абыякавай не пакідае.

– Ну, навошта ж адразу ажно гэтак па-свінску – пад плот? Навошта такое марнатраўства? – абураецца яна і свідруе акно дапытлівым паглядам. – Скажаце яшчэ... Скісне малачын*а* – жонцы ад прышчыкаў ратавацца кіслае прыдасца. Вунь як спраўна памагае... Нанач памажа вашая каханачка тварык – і ні на якія крэмы ды спа-салоны не трэба раскашэльвацца. Не абы-якая эканомія. А самому з бадуна таксама чым блага кісленькага папіць? Быццам не ведаеце, быццам так-такі ніколі не пілі... Падумайце... Калі пастаянна будзеце купляць, тады і не адразу, а пасля можна разлічыцца, оптам, – кажа і застывае ля аўто з бутэлькаю ў руцэ ў чаканні адказу.

– Мабыць, буду, – зацікаўлены не так завабліваю прапановай, як дасціпнаю гаманой суразмоўніцы, адказвае Тадэвуш Піліпавіч. – Пастаўце бутэльку там... дзе-небудзь.

Жанчына торкае пасудзіну пад разгалісты куст парэчак, абвешаны шматкамі цэлафану, што начапляўся, мабыць, на голле яшчэ падчас так званага рамонту дома.

– Заўтра ў гэткі ж час зноў прыеду, – кажа і садзіцца ў аўто. Ад’язджае колькі метраў ад лецішча, высоўвае вонкі галаў, весела дадае: – А во, як пажадаеце, яшчэ файную рыбу магу вам падвезці. Жывых карасікаў, толькі што вылаўленых, наўпрост з сажалкі. Пасмажыць іх з цыбуляю ў алеі, вяршкамі добранька паліць – за вушы ад такога смакоцця самі сябе не адцягнеце. Вёска – не горад вам, абы-што не прапануе.

“Ну, канечне, – не прапануе, як жа”, – думае Тадэвуш Піліпавіч і куляецца бокам на канапу. Ляжыць колькі часу нерухома, глядзіць на чмяля, што ціхамірна корпаецца на падваконніку каля пагбанае бляшанае жырандолі з пукамі ссохлых зёлак замест свечак. Затым нацягвае на галаву прасціну ў надзеі, што, можа, зноў зморыць сон, але дарэмна. Сон яго не морыць, і чмель, як на злосць, цяпер, калі раптам захацелася скінуць з сябе абрыдлае павуцінне апатыі-адзіноты, голасу не падае. Затое круціцца ў глуздах ды не дае ні на чым, апроч сябе, засяродзіцца ўскалыхнуты словамі гандляркі пра рыбу пяцідзесяцігадовае даўніны ўспамін пра ментузоў з карм*ы* Шаршатачкавай лодкі.

Ага, канечне, толькі рыбы яму тут, на гэтым зарослым па вокны крапівою лецішчы не хапала! Добра, ментузоў не прапанавала дабраслівіца, а ўсяго толькі карасікаў... Як ведала, што можна яму прапанаваць, а што не. А можа, і сапраўды ведала, здагадалася па голасе, хто перад ёю? Ці па твары, можа, пазнала, калі неасцярожна высунуўся на момант з акна, адшморгваючы фіранку... Ды наўрад...

Спраўная, аднак, цётачка! А гамоніць як спрытна! Слова што ні мовіць – акурат у сярэдзіну трапляе. Сказаў бы яму хто-небудзь паўстагоддзя таму, што гэткаю языкатай стане ціхмяная, негаманкая суседка Яня Лаўцэвіч – нізавошта б не паверыў. Яшчэ вось каб гэтак вёскі не хваліла, дык і наогул цаны ёй, гэтай кабеціне, дадушы, не было б.

Бо вёскі ён, Тадэвуш Дзерваед (папросту – Тадзя, патомны вясковец), і без таго даўняга выпадку з ментузамі і не любіць, і занадта, у адрозненне ад сяго-таго з равеснікаў-гараджанаў у першым калене, не рамантызуе. Адмалку наеўшыся яе сумнеўных даброт аў, не тое каб з узростам дазвання іх адцураўся – не, хутчэй пастараўся запхнуць згадкі пра іх як глыбей у спіжарню памяці. Як запіхваюць звычайна туды старыя, быццам бы ўжо і непатрэбныя, што карціць як хутчэй выкінуць, а разам з тым яшчэ і неблагія, з якімі шкада развітацца, рэчы. Што зусім напачатку было зрабіць і не проста. Асабліва ў пару, калі былі яшчэ жывыя Піліп і Ядзюня, Тадзевы бацькі, і кожнае наведванне іх у вёсцы зацягвала ў вір мінулага так, што ад гарадскога ягонага, адносна камфортнага *цяпер* заставаліся рожкі ды ножкі.

Тры гады вучобы ў тэхнікуме, праца, спачатку, падчас вучобы, лабарантам, затым ветэрынарным фельчарам у прыгараднай гаспадарцы, служба ў войску, выкладчыцтва ў тэхнікуме, новае, пераважна гарадское, асяроддзе – усё быццам карова языком злізвала ў хвіліны тых наведванняў, вяртаючы да дзён прамінулых, да часоў, калі, як любяць пісаць і дэкламаваць ахвотныя да рамантычных метафараў паэты, “дрэвы былі вялікія”.

* * *

У Дзерваедах, куды Тадэвушавы бацькі вярнуліся пасля няўдалае спробы асесці дзе-небудзь у горадзе, і сапраўды дрэвы былі вялікія. Такія высачэзныя шугалі па-над стрэхамі прыземістых хат у неба срэбналістыя надвісленскія таполі, такія кудлатыя, разгалістыя ліпы і дубы ахоўвалі паселішча ад староннягa вока, што два з паловаю дзясяткі сядзібаў, большасць гаспадароў якіх (за выключэннем аднаго Мацура і двух Лаўцэвічаў) мелі прозвішча Дзерваед або Лакотка, і з недалёкай адлегласці ўгледзець было няпроста. Дваццаць пяць хат, гэтулькі ж хлявоў ды пуняў,

шэсць – у складчыну на некалькі сем'яў – лазняў, пяць студняў, пачатковая школка, у якую сцякалася па веды малеча з навакольных вёсак і хутаркоў і па сканчэнні якой выпраўлялася вучыцца далей ў дзесяцігодку ў Чарас*а*х, што за чатыры вярсты ад Дзерваедаў, – звычайнае заходніцкае паваеннае паселішча з будзённымі яго клопатамі ды адвечным калаваротам сезонных працаў.

Тадзева дзяцінства акурат прыпала на гады хрушчоўскай адлігі. Але пра гэта ён даведаўся ўжо пазней, дарослым чалавекам. Бо ў аточаным векавымі дрэвамі памежным закутку цывілізацыі пад назовам Дзерваеды поступу тае адлігі і не адчулі, і, папраўдзе, не надта і прагнулі. Калі ж і прагнулі, то зусім не ў той паставе, у якой вымкнулася яна насустрач чаканням схільнай да інтэлектуальных пошукаў-роздумаў частцы жыхароў якога-небудзь вялікага горада.

Дык і атрымалася так, што часы быццам бы мяняліся да лепшага, а ўмовы існавання вяскоўцаў, тых жа дзерваедаўцаў, – наадварот, да горшага. Самавітыя гаспадары зусім нядаўна яшчэ аднаасобных падворкаў, каржакаватыя дзяды ў самаробных брылях ды пашытых за польскім часам картузах пакрысе сыходзілі ў лепшы свет, пакідаючы скалектывізаваныя прашчураўскія спадкі на волю кепканосных, драбнаватых, схільных да самазабойстваў сыноў-выпівох.

Як ні дзіўна, але менавіта на час адлігі прыйшліся ў Дзерваедах і пік п'янства, і пік самагубстваў. Чацвёра мужчынаў, двое Дзерваедаў і двое Лакоткаў, амаль адначасова, з розніцай у некалькі месяцаў, пазбавілі сябе жыцця. Не даўшы рады працівіцца поклічу зялёнага змея ды не вытрымаўшы звяглівых папрокаў уласных жонак, павесіліся хто ў прылеглым да свірнаў і асецяў бярэзніку, хто, як, напрыклад, стрыечны Тадзеў дзядзька Ганэрак, і ў роднай хаце, на перакінутай праз м*а*ціцу вяроўчыне.

Апошнім засіліўся ў Дзерваедах тры гады таму Лакоткавых Юзік, ці, як усе яго ў наваколлі звалі, – Юз*і*ла, бацька Тадзевай аднакласніцы Карольцы. Міхалка, Юзілаў бацька, выліў неяк у роспачы ад сынавых запояў свінням у карыта застаўленую пад сівуху брагу, і гэтага дастаткова сталася, каб нябога пазбавіў сябе жыцця. Уранні знайшлі Юзілу ў свірне ў пельцы, дарэшты астылага, з учарнелым, бы галаўня, тварам, з вырачанымі вачыма і высалапленым на падбароддзе языком.

З часу тых самагубстваў, мабыць, Тадзева прыязнасць да вёскі і пачала мізарнець. Не тое каб саступіла дарэшты нейкай там нелюбові – не, да гэтага, дзякаваць Богу, усё ж такі не дайшло. Але і звыклае замілаванасці, якою сілкавалі ягоную душу Дзерваеды з іх маляўнічымі пагуркамі, нізінамі і векавымі таполямі раней, да трагічных добраахвотных сыходаў з жыцця аднавяскоўцаў, мясціна больш не выклікала. Побытавы складнік вясковага існавання, знешне ціхамірна-прыстойнага, а насамрэч поўнага тых жа, што і ў горадзе, жарсцяў, тых жа праяваў хцівасці, зайздрасці, сквапнасці, няўцямна-дурнаватае варажнечы на глебе нішчымства, падгарачанай нейкімі старымі, шматгадовае даўніны, крыўдамі, вывернуўся раптам вонкі жорсткімі швамі споду безвыходнага калгаснага жыцця, закружыў, заматляў, прымусіў паглядзець на сябе ды на свет навокал больш пільна, больш уважліва, уніклівa, аб'ектыўна. І не толькі бясстрасна, бесстаронне, як на штосьці хоць і вабнае, ды ўсё адно чужое, паглядзець, але і сякія-такія крокі зрабіць да пераменаў.

У Біцясаве, прымежным мястэчку па той бок ракі, за дзесяць вёрстаў ад Дзерваедаў, адчыніўся тэхнікум па падрыхтоўцы фельчараў-ветэрынараў. Гэта была першая навучальная ўстанова такога кшталту на тутэйшых абшарах. То і не дзіва, што зусім нядаўна яшчэ бяспашпартным мясцовым жыхарам, з якіх мала хто сам меў за плячыма сямігодку ці хаця б пачатковую школу, але, канечне ж, як і ўсе бацькі на свеце, марыў пра годную адукацыю для дзяцей, уявілася яна дарункам нябёсаў.

Першым з маладых дзерваедаўцаў надумаўся пайсці ў Біцясава вучыцца Тадзя Дзерваед. Але не таму, што так ужо, можа, вабіла яго ветэрынарыя. З якою ён дагэтуль, папраўдзе, за выключэннем выпадкаў, калі даводзілася памагаць (штосьці там патрымаць, падаць або прынесці ці аднесці) лекарусаматугу Клямпасавічу ў час лячэння свінні або цяляці, не сутыкаўся. Хутчэй прычыніліся да таго складнікі практычныя: блізкасць месца вучобы ад бацькоўскае хаты ды тое, што можна было падчас яе падпрацоўваць лабарантам пры тэхнікумаўскай ветстанцыі, зарабіць якую-ніякую капейку. Як нярэдка гэта бывае, у значнай ступені паўплываў на рашэнне хлопца і просты збег абставінаў.

Так яно тады ўсё ў Дзерваедах пачыналася. Ды, на жаль ці на шчасце, моцы канчаткова спраўдзіцца не дабрала. Не лёс быў Тадзю застацца на ўсё жыццё вяскоўцам, глытнуць як след прашчураўскае сялянскае долі. Звабіў хлопца пасля некалькіх год працы фельчарам горад, канчаткова ж дарабіў справу адступніцтва пераход на выкладчыцкую працу. І сёння шэсць сотак гарода пры па-гарадскому абсталяваным блочным дамку за шэсць вёрстаў ад горада, у які цяпер, пасля таго, як прыбрала там усё пакрысе да рук увішная нявестка Ілона, жонка сярэдняга сына Мірона, і ходу яму няма, – хіба гэта сапраўднае вясковае? Тое любае і нялюбае адначасова, да якога і прыхінуцца асаблівага жадання не ўзнікае, але якога і адцурацца дазвання, выдзерці з коранем з душы, каб і надта хацеў, наўрад ужо калі-небудзь атрымаецца.

## II

Якім бы наравістым ні надаралася часам лета ў ваколіцах Дзерваедаў, няўрод на трускалкі, аднак, наведваўся ў вёску рэдка. Нават не ў самыя спрыяльнае для гэтых ягад надвор'е лехі з трускалкамі на гусценька акупаваным хвашчом ды павітухаю тамтэйшым суглінку нязменна радавалі вока шчодрым ураджаем. Такая прыдатная была ў Дзерваедах для вырошчвання трускалак глеба, што і на продаж іх людзям хапала, і на варэнне ці на кампот яшчэ з каптуром ад продажу заставалася.

Дзіва, але нават і на занядбаных, парослых пустазеллем здзічэлых нічыйных градах, дзе колькі год запар ніхто ўжо наогул нічога не садзіў і не сеяў, трускалкі па-ранейшаму выспявалі спраўна. Кволымі парасткамі прабіваліся раптам расліны па вясне з няўдобіцы на свет Божы, а праз месяц-другі, глядзіш, ужо наліваліся сакавітаю чырванню. Смех дый годзе: здаецца, дзірван дзірваном мясціна, а ягад на ёй паўнютка, як быццам з неба зоркі ўначы пападалі на разоры ды да радасці дарослых і дзятвы на тыя трускалкі няўзнак перарабіліся.

За ўвесь час, што існуюць Дзерваеды, мабыць, толькі аднойчы надарыліся там з трускалкамі непярэліўкі. І то не па ўсіх гародах, а часткова, у асобна ўзятай, так бы мовіць, гаспадарцы – на сотках Міхалкі Лакоткі па мянушцы Шаршатачка.

Што з трускалкамі ў ягоным гародзе дзеецца нешта не тое, першы заўважыў тады сам гаспадар. Адцвілі, здаецца, акурат у пар*у*, пусцілі дружна завязь, а далей як хто сурочыў расліны – гэтак пачалі яны раптам чахнуць. Флянцы зніцелі, лісце пабілася дзіркамі, зрабілася месцамі што зверху, што спадыспаду, воглае і слізкае, быццам смаркачамі яго наўмысна нейкі злыдух-варажына абляпіў.

Міхалкава незамужняя дачка Броня торкнулася следам за бацькам у гарод паглядзець, што там да чаго. Разгарнула адзін лісцік, другі, глядзь – а там, унутры лісця, аграмадныя, з палец, слімакі. Такія тлустыя, такія агідна-раздабрэлыя корпаюцца-варушацца ў лісці трускалак істоты, што ледзьве дала кабеціна сабе рады, каб стрымаць ваніты.

Зляцеліся суседкі паглядзець на дзіва. Пачалі навыперадкі меркаваць, як пазбавіць лехі ад неспадзеўнае навалы. І хоць меркавалі больш не ад спачування, а з перасцярогі, каб, крый Бог, не перакінулася пошасць на іншыя гароды, зацікаўленасць жанчын справаю перасягала ўсялякія межы. Хтосьці ўзгадаў бабулін расповед пра тое, як у даўніну ратавалі ягаднікі ад слімакоў з дапамогаю попелу.

– Ай, што там той попел, – не пагадзілася на прапанову скарыстацца пракаветным спосабам Броня. – А вось запусціць курэй, дык умомант пажаруць гэтую гідкую нечысць. Або во яшчэ лепш: індыкоў на яе нацкаваць. Ужо гэтыя буркатлівыя зласліўцы дадуць паскудству рады.

Сказана – зроблена.

Індыкоў Лакоткі самі не гадавалі, давялося дзеля такой неадкладнай справы па людзях пазычаць. Тыя, за выключэннем даўніх лакоткаўскіх непрыяцеляў Дзерваедаў (пра прычыны непрыяцельства расповед наперадзе), адгукнуліся на патрэбу суседзяў ахвотна.

Птушкі, якіх перад тым, як пусціць у гарод, пратрымалі двое сутак у загародцы не кормленымі і не поенымі, аблаташылі лехі з трускалкамі спраўна. Уранні пачалі латашыць, а к заходу сонца таго ж дня, лічы, ужо і скончылі. Ды так панаядаліся крылатыя рупліўцы дармовых слімакоў, так панапхалі імі свае знашчаныя двухдзённаю бяскорміцай воллі, што ледзьве маглі зд*ы*хацца.

А ўранні наступнага дня сведкаю іншае бяды стала Броня. Пайшла а сёмай гадзіне да птушніка, каб зноў выпусціць індыкоў на лехі з трускалкамі, і як не самлела ад сполаху. Індыкі бегалі па загародцы, бы звар’яцелыя, і раз’юшана адзін аднаго клявалі. Амаль ва ўсіх грабеньчыкі, наросты-барадаўкі на шыях і не прыкрытыя пер’ем лапікі скуры пры копчыках і на жыватах сачыліся крывёю. А ў аднаго нават вока было выдзяўбанае, і на месцы яго зеўрала дзірка велічынёю з добрую фасоліну.

Уражаная ўбачаным Броня паспрабавала птушыную збродню як-небудзь залагодзіць. Сыпанула спачатку шчодра круп, затым пакрышыла хлеба, але ўсё было дарэмна. Індыкі не толькі не суцішыліся, але, наадварот, здаецца, яшчэ болей усхадзіліся. Тады яна пайшла сказаць пра ўсё бацьку.

Згадзіўшыся з дачкою, што ўсё гэта даволі дзіўна, Міхалка, каб апярэдзіць закіды нядобразычліўцаў, што, маўляў, гэта самі яны, шкадлівыя Лакоткі, наўмысна неяк раздражнілі птушак, каб давесці да гэткага стану, вырашыў паклікаць фельчара з біцясаўскай ветстанцыі. Броня перад тым паткнулася дзеля прыліку па параду і да Клямпасавіча, але ён, абражаны не першым ужо выпадкам звароту суседзяў да спецыяліста з дыпломам, што-небудзь раіць катэгарычна адмовіўся.

Фельчар жа, сталага веку чалавек з вузлаватымі далонямі, абсівераным тварам і спецыфічным пахам быдла ад вопраткі, не дурань выпіць на дармаўшчыну ды пагаманіць нападпітку пра хваробы свойскае жывёлы, прыехаў ахвотна і хутка. Утаймаваць індыкоў і яму, аднак, не ўдалося. Затое прычына іх агрэсіўных паводзінаў была названая адразу: канібалізм, або так званы масавы расклёў, справакаваны перакормліваннем птушак пасля перыяду працяглага галадання. Што, напрыклад, здараецца гэтаксама са свіннямі, толькі там церпяць ад канібальства хвасты і вушы супляменнікаў, а нярэдка – і нованароджаныя парасяты, якімі без згрызотаў сумлення пачынаюць ласавацца іхнія ахопленыя бацылаю канібальства маткі.

Іншымі словамі, сказаў фельчар, як след нацешыўшыся разгубленасцю прысутных перад праявамі ягонае вучонасці, пааб'ядаліся індыкі з голаду, вось і сталася вынікам гэткае вычварнае здарэнне.

– А што вы хацелі, людцы, ад жывёлы пры такіх умовах утрымання? – дадаў напрыканцы. – Вось вас саміх пасадзі ў цесненькі катух ды пратрымай два дні без ежы і пітва – што атрымаецца? Ці не пачнеце адзін аднаго без дай прычыны жэрці?

І хоць абгрунтаванне дыягназу прагучала даволі зняважліва, абвяргаць яго ніхто не асмеліўся. Балазе згаданы расклёў відавочна меў месца і, больш за тое, усё яшчэ, нягледзячы на кволыя Броніны захады па яго спыненні, працягваўся. А вось каб дзейсна, аднойчы і назаўсёды яго спыніць, выйсце, на думку лекара, мелася адно: усіх індыкоў panішчыць.

Броня з Міхалкам спрабавалі запярэчыць, што гэта, маўляў, выйсце кепскае, бо птушкі ж не свае, а пазычаныя, таму ці не лепш было б вярнуць іх гаспадарам. Але фельчар быў няўмольны.

– Вернеце, а яны і разнясуць хваробіну па іншых хлявах ды загародках, – сказаў катэгарычна і тыцнуў прутам у індыка, які толькі што пазбавіўся носавага выростка і, мяркуючы па ўсім, вось-вось павінен быў пазбавіцца і страўніка. Вантробы няшчаснага ўжо вытыркаліся з раскляванага чэрава, і было дзіўна, як яны яшчэ дагэтуль з яго не вылузнуліся.

– Ну, добра, – пагадзіўся Міхалка і пашкандыбаў у хату па стрэльбу. Спачатку падумаў, што, можа, прасцей было б скарыстацца сякераю, але не наважыўся: чорт ведае, што за хваробіна гэты канібалізм? Пачнеш секчы індычыя шыі ды яшчэ падхопіш яго сам, як трапіць неўспадзеў кропля крыві на рукі. Здурнееш ды і паляціш вар'ятам па полі...

Праз колькі хвілін Міхалка вярнуўся. І ледзь паспела жаласлівая Броня схавацца ад жахлівае сцэны масавага забойства індыкоў за рогам хлява, як усё ўжо было скончана. Як заўсёды ў такіх выпадках, – не без драбка ўласцівага дзерваедаўцам, звыклым адмалку на ўсім ашчаджаць, сумневу: а што, калі і не такія ўжо насамрэч хворыя былі індыкі і можна было іх не нішчыць?

Ды сумнеў сумневам, але, што праўда, слімакі больш ні назаўтра, ні паслязаўтра ні ў Шаршатачкавым, ні ў чыім бы то ні было яшчэ гародзе не аб'явіліся. Пазнікалі, быццам іх ніколі ў Дзерваедах наогул не было.

А трускалкі – дай веры! – неўзабаве падняліся. Пакрыліся спрэс нанова лісцем і кветам ды і забуялі пладамі. Ды так шчодра, а галоўнае – так хутка і дружна забуялі, што затрымкі ў тэрмінах выспявання ягад у параўнанні з мінулымі гадамі не здарылася.

І яшчэ адно адбылося важнае падчас таго выпадку ў Дзерваедах: адзін з мясцовых хлопцаў, які вось ужо колькі часу вагаўся ў выбары далейшага

жыццёвага шляху, менавіта пад уражаннем ад спрытных дзеянняў фельчара ды ягоных ведаў канчаткова тое зрабіў.

Хлопца звалі Тадзя Дзерваед. Яму было без месяца васямнаццаць (як і амаль усе ягоныя равеснікі, ён, з увагі на тое, што давядзецца пасля сканчэння пачатковай школы пешкі хадзіць у дзесяцігодку штодня за чатыры вярсты, пайшоў у першы клас не ў сямі-, а ў васьмігадовым узросце), і свет калі і не здаваўся яму бясконца прыязным ды гарманічным, дык зусім не з-за нейкіх там слімакоў на лісці трускалак ці шалёных індыкоў. Бо не пра слімакоў і індыкоў думаў ён у той летні надвячорак, перасцярожліва цікуючы здаля, з-за рога пуні, за тым, што дзеецца на Міхалкавым падворку.

На аточаным жа бухматымі кустамі ядлоўцу ды густымі зараснікамі ніцае вярбы Міхалкавым падворку калі чым і перайма́ліся, дык гэта гібеллю птаства. Шэсць велізарных, на падоймішча, індыкоў і дзве ўкормленыя, ажно пер'е на іх ільсніцца, індычкі – немалая па беднаватым часе страта. Тым больш, што ўсе птушкі, як вядома, па суседзях панапазычаныя і цяпер невядома, чым і як іх падзеж пазычантам (дарма што суседзі, а хто-ніхто нават і сваякі) сплочваць. Восем індычых галоваў – не жартачкі. Такія выдаткі, што хоць да пер'іны-пушыны ўсіх абскубі, грашыма ад продажу на біцясаўскім кірмашы тых пер'я ды пуху стратаў і блізка не пакрыеш.

– Утрамбаваць гэтае наскубанае як след у насыпцы, дык добра, калі хоць на адну падушку яго хопіць, – казала Броня і маркотна абводзіла вачыма корабы са скубаннем. – І добра, калі яшчэ – цьфу-цьфу! – хваробы не падхопіш, гэтак во шторазу дакранаючыся...

– Пустое, цётачка, – адгукалася на цётчыны словы Карольця ды знарок (рызыкантка дый годзе) па чарзе апускала руку спачатку ў адзін лазовы кораб – з пер'ем, затым у другі – з пухам. – Хіба вы не чулі, што дзядзька той, фельчар, сказаў? Не перадаецца птушыная хвароба людзям, не пе-ра-да-ецца! А што няшмат пер'я – гэта праўда. Ну, такая, значыць, і в*ы*звалка[1] з яго будзе. А вось каб прадаць саміх індыкоў, дык і зусім іншы, мабыць, быў бы цымус.

– Прадаць! Гэткіх прадаць? Дохлых? Смеху варта! – жахалася-жагналася Броня. – Ну, прыдумала ты, дзеўка. Прыдумала ўжо дык прыдумала...

– Што ні прыдумала, а ўсё ж лепей, як нічога, – падаваў голас Міхалка. Ён другі тыдзень рамантаваў лодку, якую ўзяўся засмаліць-залапіць к пачатку трускалкавага сезону, што ўжо быў не за гарамі. Завіхаўся пры лодцы з ранку да вечара: то малатком зацята клацаў, то габляваў штосьці, то шмараваў. То выпростваўся з рыштункам у руцэ над кармою, страсаючы з плячэй стому, то зноў прысядаў, упетрваўся вачыма ў дол. Але аднача́сна і прыбіраць рук з пульсу іншых справаў клышаногі руплівец не жадаў, сачыў за ўсім з-пад далоні ўважліва, па-гаспадарску. – Жыць захочаш – вунь як пачнеш усялякае-*я*кае прыдумваць, мазгі напружваць.

Дзедава падтрымка Карольці была даспадобы. І, як толькі цётка Броня скончыла абскубваць апошняга індыка ды знікла з корабамі ў прыцемку сяней, дзяўчына наблізілася да яго.

– Вось добра было б, каб лодку ты, дзядуля, як шыбчэй падмастачыў,

[1] Даход ад продажу (*дыял.*).

– сказала пад постук малатка, якім Міхалка забіваў дубовую затычку ў адтуліну таўшчынёю ў палец на сутыку дна і бакавіны лодкі. – На не кранутых слімакамі градах, што на ўзгрэве за пуняю, ягады даспяваюць, дык можна абіраць іх ужо і ў Біцясава несці. А то перастаяць, азызнуць – хто захоча гэткія купляць? Разам во і пер’е ды пух можна было б занесці. У торбы, каб зручней было несці, спхаць – і на кірмаш...

– Дык ужо амаль падмастачыў. Не паспее ссутоніцца на дварэ, як, глядзіш, і на вадзе будзе пасудзіна. Заўтра пагойсаю па рыбных мясцінах, апрабую пасля рамонту. А паслязаўтра можна будзе і на той бок з трускалкамі ды рыбаю і пер’ем выпраўляцца, – сказаў стары і пачыкільгаў да павеці па рыдлёўку – капаць яміну для абскубаных дохлых птушак.

Спяшаўся Міхалка: яшчэ апоўдні замовіў на вечар у суседа Франькі Мацура каня перацягнуць адрамантаваную лодку да берага, а ўжо сонца зусім нізка. Перадумае Франька даць каня – і хоць на сабе тады валачы ўвесь гэты немаленькі цяжар да вады.

* * *

– Дык пойдзеш ты з намі ці не? – дапытвалася Карольця і ўсё трымалася даланёй за клямку. Быццам і хацела ўжо пайсці з хаты і ўсё ніяк не наважвалася тое зрабіць. Ды мацала пальцамі папсуты слясак, што раз-пораз выслізгваў з адтуліны, ды перасмыкала, бы карова пашчэнкамі падчас жавання, шыракаватымі сваімі, абцягнутымі вузенькаю паркалёваю спаднічкай сцёгнамі. – Думай жа!

– Ну, можа, надумаюся, – нерашуча сказала Яня, кладучы ў шуфлядку падручнік нямецкае мовы, па якім каторы дзень запар рыхтавалася да іспытаў у інстытут. Падышла да акна, адшморгнула ўбок фіранку, каб паглядзець, што там дзеецца на дварэ.

Хмары па-ранейшаму сноўдалі сюды-туды па небе: то пасоўваліся бліжэй, гусцелі, то, гнаныя ветрам, раптам пачыналі радзець, рассейвацца дзіравым сітам па-над прыхопленым перадвечароваю шэранню надрэччам, над вастраверхімі алешынамі, задрамалымі ў абдымку з жгутамі маладога, абсыпанага гронкамі жаўтлявых суквеццяў хмелю.

– Па радыё абяцаюць заўтра к вечару навальніцу, – працягвала Карольця. – Але што яна нам! Абы толькі ад ракі паспець па сухім дамчаць да Біцясава, а там ужо дамо сабе рады. Тры кошыкі трускалак ды колькі жменяў пер’я і пуху прадаць такім увішным, як мы, маладзіцам, – раз плюнуць. То і няхай сабе тады заходзіцца неба грымоццем...

– Угаварыла. Пайду...

– Вось і добра! – усцешаная Янінаю згодаю, сказала Карольця ды дзелавіта падцяла вусны: – Адыходзім а шостай, падаіўшы кароў. Дзед хутка не можа хадзіць, то трэба раней выправіцца. Дык ужо не пазніся. Не праспіш? А хочаш, уначачкі сёння прыйду да цябе? Раптам навальніца ўначы ўзляціць – вось і не так страшна будзе ўдзвюх.

– Дык і прыйдзі, – радая, што гэтак проста ўсё ўладзілася з неначкамі, сказала Яня і зашморгнула фіранку. – А то вось, калі хочаш, цяпер адразу заставайся, што дарэмна ад хаты да хаты цягацца...

– Цяпер нельга. – Цень рашучае нязгоды слізгануў па твары Карольці, стаіўся зморшчынкамі злосці ў куточках вуснаў. – Бронька гэтая, цётка... Як бес яе падсуклечвае ва ўсё нос соваць, усюды лезці. Так і пільнуе,

праціўнота, так і шнарыць вачыма, так і высочвае... Гэта ж не папярэдзь яе загадзя, куды пойдзеш, дык такі лямант усчыніць, што і не будзеш потым ведаць, як адкараскацца. Яшчэ ж прыдумае чорт ведае што...

– Во як, аказваецца, няпроста ўсё ў вас, – не зважаючы асабліва на словы сяброўкі, зажартавала Яня. – А збоку дык і не скажаш пра тое. Такая, здаецца, згода між вамі траімі – на зайздрасць.

– Праўда што – здаецца... Яно ж так: у чужым роце і зубоў болей, – сказала Карольця і ступіла ў сенцы.

Страх перад навальніцаю пачаў пераследаваць Яню Лаўцэвіч чатыры гады таму, калі маланкаю забіла ўлетку іх карову. Яня толькі што падаіла тады Чыжуню, а баба Фрасеня вырашыла яе перавязаць на лепшую пашу. І толькі паспела старая выдзерці з зямлі калок ланцуга, каб торкнуць яго ў дзірван у іншым месцы, як жахнула маланка.

Карова грымнулася бокам на дол бы падкошаная. Баба ж Фрасеня неяк злаўчылася за хвіліну перад тым адкінуць калок прэч, дзякуючы чаму, мабыць, і засталася жывая. Але старую так моцна тады скаланула, што яна літаральна здранцвела. І неўзабаве, так ад таго здранцвення як след і не ачуняўшы, памерла.

Ад таго часу Яня, якая ўсё тое страхоцце на ўласныя вочы бачыла, бо акурат павярнулася, каб перасцерагчы бабу Фрасеню, што не след трымаць у навальніцу ў руках жалеззе, і стала баяцца маланкі. І кожны раз, як толькі яна ўсчыналася, нават тады, калі была ў хаце не адна, а з маткаю, міжволі плішчылася ў які-небудзь закуток, ды жагналася, ды пачынала адмаўляць пацеры. Калі ж маці, як сёння, побач не было, або бегла да суседзяў, або клікала каго-небудзь да сябе.

Апошнім часам удзень найчасцей клікала яна суседа Тадзю, аднагодка і аднакласніка Тадзіка Дзерваеда, які ад нядаўняе пары, падобна, пачаў да яе заляцацца. Заляцанак якога яна хоць надта ўсур'ёз не ўспрымала, аднак жа і адпрэчваць не спяшалася: ціхмяны, сарамяжлівы хлопец ёй падабаўся.

Маці таксама супраць маладога суседа нічога не мела. Але і візітаў ягоных, якія рабіліся ўсё больш частымі, асабліва не ўхваляла. Узгадвала, якім ветлівым ды пашанотным быў да шлюбу Янак, Янін бацька, і ў якога звераператварыўся пад уздзеяннем гарэлкі праз дзясятак год сумеснага жыцця, ды і пачынала перасцерагаць дачку ад залішняе даверлівасці адносна мужчынаў. Яні, якая і сама дастаткова набылася сведкаю, як п'яны бацька лётае з сякераю (і такое здаралася) за маці вакол хаты, патрабуючы сказаць, дзе схаваная гарэлка, гэткія яе павучанні здаваліся занадта ўжо просталінейнымі, і яна старалася вельмі на іх не зважаць. Ва ўсялякім разе з Тадзем сяброўства не парывала.

Вось і сёння, напэўна, паклікала б яна ўвечары – не, не ўнаначкі, канечне, барані Бог, а так проста пасядзець – Тадзю, ды – непярэліўкі. Хлопец сышоў у Біцясава падаваць дакументы для паступлення ў тэхнікум, і калі вернецца – невядома. Як і невядома, ці вернецца да заўтрага маці. Стрыечная Яніна сястра Лінка, якая жыве з бацькамі і нежанатым братам у Чарасах, нарадзіла першынца, і яна, пакінуўшы Яню за гаспадыню, паехала на ровары ў адведкі. Дык іншага выйсця Яні, як скарыстацца прапановаю Карольці, і не засталося.

*Хлапечы твар вымыкаецца на святло з прыцемку сянец, гайдаецца расплывістым, няясным адбіткам на шыбіне акна. Тадзя Дзерваед нясмела, быццам не пэўны, ці будуць тут, у гэтай хаце, яму радыя, перакрочвае праз парог, застывае спарудаю пры дзвярах кухні.*

*– Тадзік! – Яня падхопліваецца з месца, мкнецца насустрач хлопцу. Да дзвярэй, аднак, не даходзіць, збітая з тропу перасцярожлівай думкаю, ці не занадта паводзіць сябе з суседам эмацыйна, ці не занадта вачавідзь радуецца ягонаму прыходу, спыняецца пасярод пакоя. – Падаў дакументы?*

*– Падаў, а як жа, – напускаючы на сябе рашучасць, адказвае Тадзя. – Праз два тыдні ўжо і першы экзамен здаваць. Карольця, бачыў, ляцела ад цябе, сцёгнамі круціла... Ці не ўнаначкі напрошвалася?*

*– А што, калі і ўнаначкі? – паціскае плячыма Яня і паварочваецца тварам да акна з намерам перавесці размову на што-небудзь іншае. Варажнечу паміж сем'ямі аднакласнікаў, Дзерваедаў і Лакоткаў, яна і заўсёды ўспрымала даволі нервова. Цяпер жа, калі вось гэтак ледзь не штодня, ледзь не штохвіліны даводзіцца ёй міжволі выбіраць паміж Карольцяю і Тадзем, пазбягае слізкае тэмы асабліва старанна.*

*Што ёй тая чужая варажнеча-непрыязнасць? Ні адна, ні другі, што Карольця, што Тадзя, ёй кепскага не зрабілі. Да абаіх яна добра ставіцца, то што лезці ў чужую зваду са сваім медзяком? Захочуць – самі разбяруцца. Абы даў Бог жадання захацець. Мяркуючы ж па ўсім, з'явіцца яно не хутка, калі наогул калі-небудзь з'явіцца.*

*– Ну, глядзі, – неяк няўважліва, быццам штосьці яму муляе, прамаўляе Тадзя і робіць крок да дзвярэй. – Пайду, стаміўся крыху.*

*– А мне яшчэ карову даіць, – пераадольваючы ніякаватасць ад такое ягонае паспешлівасці ды не жадаючы саступаць бачнасць ініцыятывы аб расстанні ў ягоныя рукі, адказвае наўслед хлопцу Яня і падымаецца, каб ісці ў істопку па даёнку. Думае, ці не занадта гэта здрадліва – не сказаць Тадзю пра заўтрашнюю ходку з Лакоткамі на кірмаш, але тут жа сябе і супакойвае: маўляў, такое бяды, не пытаўся – і не сказала. Не спяшаўся б гэтак сыходзіць – можа і сказала б, а так...*

*Адхінае Яня фіранку ў надзеі, што, можа, ён хацяб азірнецца наастатак, ды марна. Тадзя крочыць прэч ад хаты так шпарка, што праз хвіліну ўжо і знікае за рогам абсаджанае вішняком вулкі.*

*"Няйначай, пакрыўдзіўся, – вяртаецца ў думках да размовы з хлопцам Яня. – Дзіўны нейкі. Захаканы так, быццам дзесяць вёрстаў подбегам ляцеў. Ажно шчокі вунь, бы маладая квашаніна ў цеснай місцы, таргаюцца... Долата нейкае з кішэні, як у цеслі таго, тырчыць".*

*Думае так Яня ды пазірае раз-пораз на цадзілку, што плешчацца за акном на шыпшынавым кусце ў парывах ветру, ды зноў няўзнак перабягае ў думках на непрыязнасць паміж сем'ямі аднакласнікаў.*

*Ох, гэтая варажнеча... Колькі сябе памятае Яня, гэтулькі яны, Тадзевы і Карольціны сваякі, і варагуюць. Ужо колькі часу мінула, як пачалося тая нялюдская, ваеннае яшчэ пары звада, а канца ёй не бачна.*

Дваццаць сем год таму Карольцін дзед, кульгавы Міхалка Лакотка, празваны аднавяскоўцамі за вострасць языка і порсткасць нораву Шаршатачкам, пад страхам расстрэлу і расправы над сям'ёю быццам бы паказаў нямецкім карнікам падчас аблавы на партызанаў спрат, дзе хаваўся Тадзеў дзед Пётра са сваім старэйшым сынам Зыгмонам.

Дзерваеды доўга адстрэльваліся, і немцы, каб не марнаваць патронаў на двух зацятых партызанаў, кінулі ў пограб гранату. Што засталося пасля выбуху ад мужчынаў, назаўтра па адыходзе карнікаў бачылі з дзерваедаўцаў нямногія. Але тыя, што бачылі, запомнілі відовішча надоўга. Целы бедакоў так паразносіла асколкамі, што вяскоўцы ледзь здолелі іх збольшага сабраць. Так і пахавалі ў адной труне, не даўшы рады дазнацца, дзе тут чые могуць быць парэшткі.

Ад таго дня варажнеча і пачалася. Міхалка бажыўся, што ў гібелі Дзерваедаў невінаваты. Але яму не паверылі. Затое паверылі нагаворам паліцыянта Уладака Шумака. Як Міхалка ні намагаўся давесці, што Уладакавы словы – усяго толькі помста яму, Міхалку, за тое, што ён перад вайною выкрыў таго з кражаю збожжа, так давесці свае праўды і не змог.

Уладака неўзабаве застрэлілі партызаны. І хоць іншых сведкаў таго, што Пётру і Зыгмона выдаў менавіта Міхалка, не знайшлося, таўро вінаватага ў іх гібелі за ім ад тых часоў і замацавалася.

У абедзвюх сем'ях старэйшыя даўнаватае тае гісторыі ад малых не хавалі, і міжволі варожасць перакінулася і на іх. Яня памятае, як настаўніца ў школе пасадзіла Тадзю ў першы дзень вучобы за адну парту з Карольцяю, а ён, абражаны гэткаю перспектываю, – сядзець побач з унучкаю Міхалкі, вінаватага ў смерці ягоных дзеда і дзядзькі, – тут жа хуценька перасеў да яе, Яні.

Міхалка надта праўды сваёй болей не даводзіў, і яго з часам пераcталі чапаць. Проста абыходзілі, як абыходзяць штосьці ганебнае, не вартае таго, каб на яго зважаць. І ён, прыняўшы відавочную непрыязнасць ды пагарду аднавяскоўцаў за хоць і прыкрую, але ж непазбежную наканаванасць, не знайшоў іншага выйсця, як наўмысна ад усіх аддаліцца. Мабыць, дзеля гэтага і сядзібу сваю шчытненька абсадзіў ад старонняга вока кустамі маладога ядлоўцу і прутамі вярбы, і сцежкі, што да яе вялі, перакапаў раўчукамі, і ў працу дазвання, з галавою занурыўся.

Спачатку, яшчэ калі працаваў вартаўніком на калгасным элеватары, загадаваў Міхалка пры падворку пчол. Але бортніцтва штосьці не заладзілася: пчолы то мерзлі ўзімку, то ўлетку раптам падымаліся і ні з таго ні з сяго кудысьці роем увадначас зляталі.

Кінуўшы гадаваць пчол, Міхалка заняўся гандлем. Перакупліваў у прымежных латышоў-аднаасобнікаў, большасць якіх пасля высылкі саветамі ў краі не гэтак далёкія багацейшых з іх ды спраўнейшых складалі такія ж, як сам ён, печкуны[1], адносна танны статак і, крыху патрымаўшы яго на маладой атаве, здаваў потым у Біцясаве на мясакамбінат.

На розніцу ў коштах пры куплі і здачы тых укормленых латгальскіх бычкоў і цялушак, канечне, раскашаваць было немагчыма, але і скардзіцца, што справы зусім дрэнь, таксама не выпадала. Адзінае, што не спрыяла такому саматужнаму, паўлегальнаму гандлю, дык гэта тое, што патрабаваў ён значных фізічных сілаў, а дзе было ўзяць іх кульгаку Міхалку?

Тут і прыдалася маладзёну засвоеная ў дзяцінстве ад бацькі і дзеда патомная справа – рыбацтва. Міхалка перакупіў за восем мяшкоў ячменю ў чалавека з суседняй вёскі няновую лодку ды і пачаў сноўдаць на ёй ад рання да вечара з вершамі, сеткамі і невадамі па рацэ. Налоўленае што

[1] Той, хто шмат, цяжка працуе, вытв. ад пекацца (*дыял.*).

сваякам раздаваў, што падсольваў-падсіверваў ці падвэнджваў, а потым вёз у Біцясава прадаваць. За прыбыткам надта не гнаўся, дык адносна танныя Міхалкавы ляшчы, шчупакі, ліні, язі, плоткі ды нават ліліпуцікі курмялі і ракі-недаросткі на кірмашы расхопліваліся ўвобміг. А з часам і кола пастаянных Міхалкавых пакупнікоў у наваколлі склалася. Бывала, ледзь паспее вытыркнуцца ягоная галава з-за прысадаў, як ужо галас на кірмашы між радамі ваўсю шугае: “Шаршатачка! Шаршатачка з рыбаю!” З рыбаю, а часта і са шкуркаю андатры, якой тады даволі шмат усюды распладзілася, стрэлам-другім па якой Міхалка таксама ў часе гойсання па рацэ не грэбаваў.

Гэта ўлетку. Узімку ж Міхалка звычайна займаўся нарыхтоўкаю дроў і ўсё тым жа паляваннем. Толькі не на андатраў, як улетку, ужо паляваў, а на лісіц ці шашкоў. Шпурне ўвечары наводдаль ад лазні кавалак якога-небудзь шмакуддзя, якой-небудзь смярдзючай дохліны, засядзе сам у будынку пры акенцы і чакае, пакуль рудая хітраванка ці той жа сквапны на дармовае шашок не спакусіцца пачастункам. Здаралася, што і два лісіныя хвасты за ноч упалёўваў. За лета ж і наогул штук дзесяць-пятнаццаць шкурак у Міхалкі да радасці якой-небудзь тутэйшай модніцы (жонка яго Маня, якая пафарсіць любіла, але ж зусім маладою неўзабаве пасля вайны памерла) набіралася.

Бліжэй к вясне, як толькі крыху вышэла на даляглядзе сонца, пачынаў Міхалка даглядаць лодку: бясконца падрамантоўваў, падгаблёўваў, шараваў, лапіў, смаліў. Даглядаў, як даглядаюць у добрай сям’і любае, доўгачаканае дзіця. Дык і праслужыла пасудзіна чалавеку спраўна вунь колькі год. Вось на гэтай самай лапленай-пералапленай лодцы заўтра і паплывуць Шаршатачка, Карольця з цёткаю Броняй і Яня на кірмаш. Броня і Карольця – пры кашах з ягадамі ды торбах з пер’ем, Міхалка, як заўсёды, з рыбаю, а Яня – так сабе, збоку прыпёку, за кампанію.

Апошні і адзіны раз Яня была ў Біцясаве на кірмашы год дзесяць таму. Бацька вазіў тады неяк увосень на продаж парасят і ўзяў яе з сабою. Людзей так шмат было ў той дзень на кірмашы, такая гамэрня панавала на пыльным і шырокім, памерамі з добрую пожню гандлёвым пляцы, што нічога асабліва Яня і не запомніла. Апроч купкі паваенных калек, бязрукіх ды бязногіх, што туліліся ўздоўж радоў у чаканні міласціны, якую ўсе тут тады яшчэ называлі на польскі лад (ад прыходу другіх саветаў мінула не так шмат часу) – ялмужнаю. Давалі няшчасным няшмат, і даванне тое суправаджалася такім страшэнным гвалтам, такім усплескам жвавасці сярод калек, такою зацятаю звадаю абдзеленых лёсам людзей за хоць які, хоць і не самы лепшы кавалак, што і праз гады вусцішна ўсё тое ўспамінаць.

* * *

Ноч, надзіва, прайшла даволі спакойна. Увечары вецер, праўда, пагойсаў па падстрэшшы ды па завуголлі, паскавытаў, папалохаў густым, пранізлівым енкам. Але бліжэй к поўначы аціх і да рання болей не ўзнімаўся.

І ўсё адно дзяўчаты недаспалі. Бо спачатку доўга размаўлялі. Затым Карольцы ўзбрыло раптам у галаў пераняцца ўласнаю знешнасцю. І яна з паўгадзіны, можа, калі не болей, круцілася перад люстэркам, усё вышуквала ў паставе ды твары то нейкія вельмі прывабныя рысы, то, наадварот, жахлівыя недахопы. Першага, вядома ж, аказвалася нашмат больш, як

другога. Ды і тое другое Карольцяя, дзеўка даволі самаўпэўненая, без асаблівых пакутаў сумлення пераводзіла ў катэгорыю першага.

– А што там тыя шырокія сцёгны? – казала і акідвала сябе паглядам у люстэрку то з аднаго, то з другога боку. – Такой бяды! Мужчынам, кажуць, якраз шырокія больш падабаюцца. Хіба не? Валяр'яна Сцяпанавіча, напрыклад, узяць... Я ж бачу, на што больш за ўсё чалавек у жанчынах зважае. Дарма што прылюдна пра мараль балбоча... А ты заўважыла гэта? Не?

– Гэта ўсе заўважылі, – не баючыся пакрыўдзіць сяброўку, бо тая сама распачала размову, азвалася Яня. – Ён цябе на ўроках да дошкі знарок кожнага разу выклікаў, каб потым, як вяртаешся зноў да парты, на іх... на сцёгны твае паглядзець. А то і аблізнуцца наўслед...

– Вось жа кот марцовы! А яшчэ настаўнік... Тое вы заціхалі-наструньваліся ўсе, як ён мяне выклікаў. А я ўсё даўмецца ніяк не магла, што за халера: то г*а*лас невыносны ў класе стаіць, а то раптам такая ціша напятая ні з таго ні з сяго запаноўвае? Ну ж, старэча...

– Хм, старэча! Яму ж толькі трыццаць. А можа і менш нават... І нежанаты яшчэ, сама ведаеш.

– Ведаю, анягож... Яшчэ б не ведаць. Ты як? Бачыла, Тадзюта Дзерваедчык ляцеў ад цябе надвячоркам... Так мчаўся, быццам вятрак яму хто ў дупу ўставіў. Далёка ў вас зайшло?

– Не далей, мабыць, як у цябе з Валяр'янам Сцяпанавічам.

– Ой, цябе зачапі... Ужо як цётка Броня, гляджу, робішся. Тая апошнім часам кожную гаману на мужчын пераводзіць. І ўсё з падцвельваннем нейкім, з дурнымі намёкамі... Цалаваліся?

– Ага, як жа... Прыбег зах*а*каны, быццам сто грабежнікаў за ім з доўбнямі гналіся. З долатам нейкім у кішэні, і твар ажно льсніцца ад поту... Хвіліну пабыў – і проздзверы, дзіва, як аб парог не спатыкнуўся. А ты кажаш – цалаваліся... Ці да пацалункаў тут?

– Во як – ажно з долатам, смех дый годзе. Ну, ці мала што... Глядзі, не варонь... Пойдзе ў тэхнікум – дзеўкі там хутка, спрытнюгі местачковыя, абкруцяць хлопца. І вокам не паспееш плюснуць, як ужо не твой будзе. Падбяруць увобміг. Але што гэта я пра адно і тое... – Карольця чарговы раз упетрылася паглядам ва ўласны адбітак у люстэрку. – Новую сукенку пашыць, ці што? А то гэтая надта ж нешта паўніць мяне. Мабыць, сселася пасля мыцця... Бы кадка я ў ёй, праўда?

– Не выдумляй, добра ты выглядаеш.

Ад размовы пра Карольціну знешнасць перайшлі да іншых тэмаў ды і не заўважылі за гаманою, як ноч мінула.

На дварэ было не тое каб сцюдзёна – неяк надта ж няўтульна, золка, бы ў дачасна выстылай, кепска напаленай напярэдадні лазні.

Карольця паманулася збочыць да сваёй хаты, каб цяплей апрануцца ды ўсторкнуць на ногі якія гумовікі, але ў апошні момант перадумала: дзед Міхалка-Шаршатачка і сам ніколі звычайна нікуды не спазняўся, і іншым такую звычку – спазняцца – калі і дараваў, дык вельмі неахвотна. Тым больш што быў ён ужо на прыстані, уходжваўся, бачна было, з прымацаваным да аскабалка старадрэвіны ланцугом для прывязвання лодкі. Дзяўчаты здалёк убачылі ягоную прыгорбленую, увянчаную рудым саламяным капелюшом паставу, і дадалі ходы.

На прыстані смярдзела рыбаю ўперамешку з падсушаным багавіннем і аернікам, якімі Міхалка адмыслова ўсцілаў кожны раз дно скрыні, каб надаць тавару, як сам казаў, паболей “каларыту натуральнасці”. На карме аднавокая Броня, саракадвухгадовая кабеціна ў спадніцы з моднай апошнім часам “чортавай скуры”, абжаргаўшы каленямі кошык, даперабірала трускалкі. Звечара, відаць, не паспела, дык, каб не адштурхнуць непрывабнасцю ягад распешчанага, пераборлівага біцясаўскага пакупніка, цяпер старалася зліквідаваць учарашнія недаробкі.

– Ну, дзеўкі, павысып*а*ліся вы хоць? – спытала, пазяхнуўшы ды зіркаючы спадылба то на пляменніцу, то на Яню.

– Выспішся тут, калі адно страшнейшае за другое праз усю ноч сніцца, – махнула рукою Карольця.

– Што ж так? Зноў сны? І што ўжо за страхоцце сёння табе саснілася?

– Ды гід*а* розная, цётачка Броня, усё рыба нейкая... Спачатку быццам лінёк. Невялічкі такі, пухнаценькі-вачасценькі. Вымкнуўся з ціны, паплаваў па-над глеем, суцішыўся. Затым круць-верць – на вялізнага шчупака перарабіўся ды да мяне з глыбіні, гляджу, прастуе... Падплыў і давай аб лытку бокам церціся. Ды моцна так цeранууся, ажно засвярбела мне... І што да чаго?

– Ого, засвярбела ёй, гляньце! Дзіва што... Лінёк, шчупачок... Гэта, мая ты дзевачка, на сынка табе сон. На сынка-байстручка, няйначай. Карася, ліня, акуня прысніць – гэта ўсё на байструка. Шчупака – якраз на сына-байструка. Складзі ў адно ды і глядзі, што атрымаецца. Не такая ўжо вялікая навука, здаецца.

– Але ж скажаце, цётачка! – усплёснула рукамі Карольця і, відаць, не жадаючы больш чуць гэткіх глупстваў, скіравала пагляд на ката Міхася, Шаршатачкавага цёзку і заўсёднага хаўрусніка падчас рыбалкі, які раз-пораз высоўваў пысу з-пад лодкі, цікаваў за кашом з ментузамі наўзбоч борта.

Міхалка шыкнуў на ката, падхапіў аберуч кош, выкуліў рыбу ў скрыню карм*ы*. Выцер твар рукавом, абапіраючыся на здаровую нагу, пачаў павольна спіхваць лодку з водмелі глыбей у ваду.

– А давядзецца-такі вярнуцца ўсё ж дахаты – па торбы з пер’ем і пухам, – усхапілася раптам, успомніўшы, што забылася пра галоўнае, Карольця.

– Не тузайся, – зласнавата асадзіў яе Міхалка. – Вунь твае торбы-тарбэнцыі пад кустом. Дзед дбайны, пра ўсё загадзя паруціцца, не тое што іншыя некаторыя... Нясі сюды.

Карольця вінавата ўсміхнулася, падхапіла торбы, кінула ў лодку.

Раптам вецер сціх. Зайшоўся наастатак роспачлівым енкам і, дарэшты аслабелы, счэз у праніцаным шэранню лабірынце з камлёў прыбярэжных альшын. Броня ўзняла галаў, зірнула на неба краем адзінага, аблямаванага рэдкімі светлаватымі вейкамі вока.

– Кепска будзе, – сказала і похапліва пераражагналася.

Яня і Карольця дружна засмяяліся, узгадаўшы адначасова назву праграмнага школьнага верша.

– Не каркай, бы тая варона, – ці то смехам іхнім, ці то словамі дачкі ўзлаваны, узбрыкнуў Міхалка і ў сваю чаргу задраў галаў угору. – Хмары тае з шалупініну, а яна – кепска будзе. Будзеш абы-што вярзці – жахне маланн*я*, і сапраўды кепска стане, другога вока пазбавішся.

– Другога і д’ябал мне, татка, не зачыніць, не тое што твая малання, – агрызнулася Броня. Правае вока яна страціла яшчэ ў маленстве,

натыкнуўшыся ў хмызе на патарчаку. Да бацькавых жа недарэчных пацвельванняў наконт сваёй аднавокасці даўно прывыкла і, дарма што непачцівасцю ў стаўленні да старога асабліва не грашыла, нагоды даць яму здачы падчас гэткае во слоўнае перапалкі не прамінала.

Міхалка пакруціў пальцам ля скроні ды і, адарыўшы жанчыну грэблівым паглядам, узяўся за вёслы. Па тым, як і другі, і трэці раз зірнуў ён спадыльба на неба, уважлівая Яня, аднак, зразумела, што Броніна перасцярога дарэмнаю не была, што Міхалка і сам з-за надвор'я непакоіўся, адно што, у адрозненне ад дачкі, выгляду пра тое не падаваў.

Міхась вымкнуўся з кустоўя, кінуўся да лодкі, быццам просячы гаспадара не пакідаць яго на беразе, жаласна замяўкаў. Але скакаць у лодку не стаў. Наструніў спіну, пачаў церціся бокам аб калок-аскабалак. Затым узняў угору хвост, порстка, быццам падчас палявання, шмыгануў у хмыз.

І раптам вецер вярнуўся. Нечакана, як і сціх, нахапіўся, завіхурыўся чортам, закружляў, замітусіўся па-над вадою. Хмара крыху рассунулася, але не рассеялася дарэшты, як звычайна яно падчас моцнага ветру бывае, а толькі дзе-нідзе месцамі парадзела, пабілася лапікамі святлейшага. А праз хвіліну зрабілася яшчэ больш шчыльнай, густой, марудліва-непаваротлівай. Завісла коўдраю над галовамі і тут жа, не даючы долу і ўсяму жывому на ім апамятацца, сыпанула спорным, як з палівачкі, дажджом.

Тым часам лодка ўжо на добры дзясятак метраў аддалілася ад берага. Міхалка спраўна махаў вёсламі, не зважаючы на вохканні жанчын, стырнаваў і стырнаваў наперад. Такія перапады надвор'я, як вось гэты сённяшні, былі яму не ўпершыню, і ён пачуваўся ў рачной дзікай стыхіі калі не дазвання, дык даволі ўпэўнена. Упэўненасць ягоная міжволі перадалася і жанчынам, таму нават тое, што лодку хоць і не нашмат, але ж усё-такі пачало зносіць цячэннем убок ад прыстані на супрацьлеглым беразе, іх да часу надта не палохала.

Пярэпалах усчаўся тады, калі адчулі пад нагамі ваду. Пачалі пахапліва вычэрпваць яе бляшанкамі, бо спачатку падумалі, што нацякло, мабыць, з дажджу. Але хутка зразумелі: справа не ў дажджы, а ў самой лодцы, у дзірцы памерам з палец на сутыку дна і бакавіны. Яе намацала Карольця, тыцнуўшы даланёй у месца, дзе найбольш энергічна пульсавала, вірылася вада. Збялелая, яна ўсё намагалася то заторкнуць дзірку кавалкам анучы, то хаця б прыкрыць уласнаю пятою і раз-пораз роспачліва наракала, што не ўмее плаваць.

Лодку моцна гайдала хвалямі, дык пакуль Міхалка шнарыў рукою ў скрыні з праалееным пакуллем ды ладаваў з таго пакулля затычку, вады набралася ў чоўне пад самы борцік.

Міхалка прыўзняўся на сядзенні, каб заткнуць дзірку, але не ўтрымаўся нагамі на слізкім дне, няўклюдна шмякнуўся азадкам на ранейшае месца. Лодка гайданулася, пахілілася набок, пачала павольна тануць. Жанчыны закрычалі, забыўшыся на кошыкі з ягадамі ды торбу з пер'ем, паўчэпліваліся рукамі ў барты судна.

– Выскоквайце і трымайцеся лодкі! – перакрыкваючы голасам вецер, скамандаваў Міхалка і кінуў вёслы ў ваду.

Але каманда ягоная была ўжо недарэчы, бо і без яе праз хвіліну ўсе чацвёра былі ў вадзе. Яня чула наастатку, як енчыла побач з ёю, намагаючыся ўтрымацца пры лодцы, цётка Броня. Бачыла, як, роспачліва пакружляўшы вакол Броні ды не знайшоўшы вольнага месца, каб учапіцца

рукамі ў край борта поруч з ёю, Карольцprobably раптам імкліва наблізілася да жанчыны, квэцнула штомоцы па пальцах, якімі тая трымалася за яго. Як Броні не стала, а праз хвіліну ўзнік пры тым месцы, дзе толькі што яна была, мокры, аблеплены зблытанымі валасамі Карольцін твар. Як затым пачалі ўсплываць з кашоўды, б'ючыся ў хвалях, заліваць усё навокал чырванню трускалкі ды залюлялася, загайдалася на хвалях індычае пер'е. І толькі паспела Яня гэта ўсё ўбачыць ды пашкадаваць у думках пра тое, што вось жа дарэмна праганялі яны з Карольцяю з лехаў суседскіх дзяцей, не даючы малым паласавацца дармовымі ягадамі, якія цяпер і змарнуюцца, як страшэнны віхор пранёсся па-над вадою, і ўсё знікла.

На згібе ракі лодку прыбіла да берага. Там яна зачапілася за голле і карэнне кустоўя, там яе неўзабаве і падцягнулі мужчыны баграмі да берага. Гэты момант Яня памятала так смутна, што пазней нават акалічнасцей свайго цудоўнага выратавання і збольшага не магла ўзгадаць. Апроч таго, што, калі яе зраненыя рукі адарвалі ад борта лодкі, яны так крывавілі, што ледзьве дала рады пасля іх загаіць. Так моцна ўчапілася Яня ў хвіліну сполаху ў борт, што быццам прырасла да яго.

Як ні дзіўна, уратавалася і Карольця, хоць і не ўмела плаваць. Доўга не ўтрымаўшыся пры лодцы і пасля таго, як саслізнула з борта, вызваляючы ёй месца, аслабелая Броніна рука, ухапілася за парожні кошык з-пад ягад ды, трымаючы яго перад сабою і б'ючы штомоцы нагамі па вадзе, плыла па цячэнні, пакуль не прыспела лодка з падмогаю. Памагла ёй, напэўна, і тонкая балоневая куртачка, што надзьмулася пухіром за спінаю. Яе людзі своечасова і ўбачылі з берага, а то невядома, чым бы ўсё для дзяўчыны скончылася.

Міхалка і Броня патанулі. Старога знайшлі на водмелі наўзбоч выспачкі метраў за сто ад месца пераправы. Там жа, паблізу, выцягнулі з вады і Броню. Цела жанчыны гайдалася пасярод запарушанага багавіннем і пер'ем віру, і незакрытае яе вока абыякава глядзела ў неба. І пасля, колькі ні клалі ёй на павекі суседкі (зазвычай небаязлівая Карольця нават наблізіцца да труны чамусьці ні разу не наважылася) медзякі, так яно, тое неслухмянае, упартае вока, і не закрылася. Так і ляжала Броня, быццам выконваючы дадзенае надоечы бацьку абяцанне, на покуці з незакрытым.

Да гібелі старэйшых Лакоткаў дзерваедаўцы паставіліся спачувальна. Нават да гібелі Міхалкі, якога гэтак зацята недалюблівалі і іначай як Шаршатачкам за вочы, а часам і ў вочы, не звалі.

Лодку выцягнулі на бераг, агледзелі. Сапраўды, на краі дна, на сутыку яго з бортам, свяцілася дзірка з пасамі прыліплага пакулля, якім Міхалка марна спадзяваўся яе падчас віхуры заткнуць.

Падзівіліся ўсе: такі, здаецца, дбайны гаспадар быў Міхалка, а бач ты – недагледзеў відавочнае хíбы. Нядаўна ж зусім аглядаў-падрамантоўваў лодку. Гэтак акуратна кожны шоўчык засмаліў, гэтак старанна ўсё падладаваў-падправіў – на заглядзенне. А адтуліны таўшчынёю ў палец у такім бачным месцы і не заўважыў. Як магло такое здарыцца?

Формаю адтуліна нагадвала форму сучка, дык дасведчаныя мужыкі спачатку выказалі здагадку, ці не выпаў, ці не вылузнулася, маўляў, ён, той сучок, з дна ўжо пасля рамонту. Але неўзабаве такое прыпушчанне самі ж і забракавалі: тры дні запар перад выправаю ў Біцясава гойсаў

Міхалка па рацэ, лавіў рыбу. То хіба за кароткі час перапынкаў паміж тымі гойсаннямі мог сучок ажно гэтак усохнуць, каб так вось лёгенька ўзяць ды вылушчыцца з гнязда? Ды, хутчэй за ўсё, і не сучок то быў, а затычка. Можа, акурат яна, тая затычка, выслізнула ды і стала прычынаю бяды. Выслізнула, перакулілася, як толькі лодка асела, праз борт і знікла сярод хваляў, нікім не заўважаная. Што і не дзіўна пры гэткім разгуле стыхіі, калі вецер так шалёна шкуматаў усё наўкола, што лісце на галінках прыбярэжнага хмызу чыста паабдзіраў.

Так, не знайшоўшы вартага адказу, пытанне пакрысе і счэзла, заслоненае пахавальнымі ды рознымі іншымі, якіх гэтак шмат адвеку на вёсцы, турботамі.

Ментузоў са скрыні ў карме Міхалкавай лодкі хтосьці з суседзяў прапанаваў пусціць на закусь падчас хаўтураў па тапельцах, але Карольця не дазволіла. Самаруч выграбла са скрыні ўсё да апошняе рыбіны, панесла ў хлеў свінням. Шаснаццаць ментузоў кінула ў карыта, сямнаццатага, самага вялікага і тлустага, акуратна загарнула ў лісце дзядоўніку, зноў прынесла ў хату. Паманулася ісці ў істопку, каб пачысціць, але тут жа штосьці і перадумала. Абгарнула рыбіну шчытна паверх дзядоўніку кавалкам мешкавіны, каб надта не распаўсюджваўся ад яе смурод, занесла ў пограб. Вярнуўшыся, пайшла ў запечак, забілася ў самы цёмны, куды нават удзень ніколі не сягала святло, кут і праляжала там нерухома, упетрыўшыся вачыма ў столь, да самае раніцы.

* * *

Два дні мінулі ад хаўтураў па Міхалку і Броні, а Тадзя ўсё не выходзіў з хаты. Сядзеў пры акне, глядзеў, як мітусіцца наўзбоч сажалкі чародка маладых, па вясне выседжаных курыцаю індычат ды гультаяваты стары індык-забіяка, што, дзякуючы варажнечы паміж сем'ямі Дзерваедаў і Лакоткаў, пазбегнуў лёсу пазычаных Лакоткам іншымі суседзямі, купаецца ў пыле пасярод сцежкі. Маці некалькі разоў спрабавала Тадзю разварушыць, заахвоціць да якой-небудзь справы, ды, бачачы, што ўсё марна, што чапаць сына, бадай, пакуль што не мае сэнсу, махнула рукой, пакінула ў спакоі.

На трэці дзень надвячоркам, якраз тады, калі Тадзя быў у хаце адзін, на сцежцы насупраць панадворка Дзерваедаў спынілася раварыстка. Ровар належаў Яні Лаўцэвіч, але прыехала на ім не сама Яня, а яе сяброўка Карольця. Аб'ехала няспешна наўкола індыка, што ні на пядзю не зрушыўся з месца перад пагрозаю быць стаптаным, дастала з сумкі штосьці накшталт вялікага канверта, змайстраванага ці то з грубай паперы, ці то з кавалка нейкай тканіны, памахала ім у акно Тадзю.

“Напэўна, паперы з Біцясава, з тэхнікума прыслалі”, – заінтрыгаваны нязвыклым выглядам канверта падумаў ён і падаўся на двор. Падаўся порстка, як толькі мог – папраўдзе, не гэтак карцела яму даведацца пра змест той паперчыны, як, можа, перакінуцца з Карольцяю словам. Собскаю персонай дзеўка заявілася – нездарма ж гэта, штосьці ж змусіла яе пайсці на такі крок, зрабіць насуперак таму, чаму вучылі ўсе гэтыя гады заюшлівыя старэйшыя.

Ды дарэмна ён спяшаўся. Бо пакуль прамінаў Тадзя пакой ды прамарудзіў пару хвілін у кухні ў перагароджаным вілкамі вузкім праходзе

паміж прыпекам і сталом, Карольця сама ўжо была ля дзвярэй, варушыла знадворку клямкаю.

Ён штурхнуў ад сябе дзверы, лёгка адчыніў іх. І толькі паспеў узняць вочы ды раскрыць рот, каб павітацца з дзяўчынаю, як штосьці воглае, слізкае і смуродлівае з агідным глухаватым гукам шархнула яму па галаве, не даючы апамятацца, замільгала раз-пораз прад вачыма. Другі, трэці ўдар... яшчэ... яшчэ... яшчэ...

Тадзя памануўся ўнурыць галаў у плечы, каб калі не ўхіліцца зусім ад наступных udaraў, дык хаця б крыху змякчыць іх, як яны і скончыліся. Скончыліся раптоўна, імгненна, як скончаецца часам улетку кароткі сляпы дождж. Але невыпадкова скончыліся: вярталася да хаты сцежкаю наўзбоч сажалкі Ядзюня, Тадзева маці.

Карольця кінула ментуза, якім толькі што хвастала хлопца па галаве, на груду жвіру ля ганка, выцерла аб кавалак мешкавіны, у які ён быў загорнуты, спэцканыя рыбінай рукі, хуценька пабегла да арэшыны з прыслоненым да камля Яніным роварам.

* * *

Праз месяц пасля трагедыі на рацэ Яня збіралася на працу ў Біцясава. Інстытут замежных моваў адчыніць перад ёю дзвярэй не пажадаў, бо падчас уступных экзаменаў дзяўчына недабрала балаў. Была гэтак растузаная смерцю Міхалкі і Броні Лакоткаў, гэтак цяжка адыходзіла ад нядаўняга рачнога жаху, што здавала іспыты як скрозь сон. Асабліва даймаў яе прыпамін з апошніх хвілін у лодцы, тыя дзіўныя, незразумелыя паводзіны Карольці, пра якія яна і хацела цяпер сяброўку распытаць, і асцерагалася.

Лёгка сказаць – распытаць! Такое дзікае падазрэнне – не жартачкі. Пра такое не толькі спытаць – употай падумаць і то не абы-якой рызыкі-смеласці трэба набрацца.

Але ж і ад думак, вядома, не ўцячэш. Вось і круцілася ў галаве, і не давала Яні спакою жахлівая здагадка. Дык і не дзіва, што і балаў на экзаменах, здагадкаю тою ў думках занятая, недабрала, і надта, папраўдзе, з-за правалу пасля і не перажывала. Маўляў, як ёсць, так і ёсць, рук не падкладзеш.

Вярнуўшыся дахаты, Яня параілася з сім-тым з настаўнікаў і вырашыла дзеля здабыцця стажу пайсці ў выхавацелькі дзе-небудзь пры школьным інтэрнаце. Акурат вызвалілася палова стаўкі ў дзесяцігодцы ў Біцясаве. Ніхто з настаўнікаў школы заняць тае куртатае, капеечнае вакансійкі не захацеў, і дырэктарка з дазволу раённае ўправы адукацыі прапанавала яе Яні, дарма што была дзяўчына без належнае адукацыі.

Раптам зазбіралася ў Біцясава і Карольця. Яна пару ўступных іспытаў з-за сямейнае трагедыі прапусціла наогул, нават дакументаў нікуды не падавала. Ды, падобна, і без трагедыі падаваць не збіралася. Хаця нахлебніцтвам ні дзед Міхалка, ні Броня, якая пасля смерці братавай (Ганна шэсць год таму трапіла ўвосень на полі пад колы камбайна) была дзяўчыне за матку, ніколі сірату не папікалі, сваё месца ў хаце яна ведала добра. І ўсё рабіла так, каб залежаць ад сваякоў як найменш.

І вось табе навіна: быццам бы збіраецца Карольця ў Біцясава, будзе рабіць сартавальшчыцай у цэху гароднінакансервавага завода. Заводзік той невялічкі, кепска аснашчаны, ледзьве ліпіць. Людзі на ім доўга не

затрымліваюцца, дык і бяруць туды кожнага, хто ні пажадае, – гэткі часовы прыстанак для шукальнікаў месца пад сонцам і розных выпівох. Канечне ж, часовым, спадзяецца Карольця, будзе ён і для яе. Цётка Лёдзя, матчына сястра, працуе масавічкай у клубе веттэхнікума, напрыканцы года выходзіць на пенсію – вось і тое самае месца пад сонцам для Карольці. Галоўнае – як-небудзь зачапіцца, а там ужо неяк будзе.

Тым часам Яня, пакуючы валізу ды дабіраючы то адно забытае, то другое, не-не ды і пазірала ў акно, чакала хоць якога знаку ад Тадзі. Нервавалася: за ўвесь час пасля здарэння на рацэ толькі двойчы яны з хлопцам і бачыліся. Ды і то похапкам, нават як след не пагаварылі. Бо як падмянілі ўваднача́с Тадзю, такі зрабіўся адстаронены, занурыста-недасяжны. Ходзіць маўчком, слова лішняга ні да каго не прамовіць.

Акурат такі цяпер заўсёды Тадзя, як быў у той злашчасны вечар напярэдадні выправы на кірмаш, калі забег да яе, вярнуўшыся з Біцясава: твар панылы, шэры, вочы ўніклівыя, як быццам штосьці ўкраў, а што – прызнацца не асмеліцца. І наогул увесь нейкі не такі, як раней. З чаго такая перамена? Зразумела, з чаго – з яе, Янінага падману. Непрамоўленага, не сказанага, а ўсё-такі, як ні круці ды ні паварочвай, – падману.

Канечне. З падману, з чаго яшчэ? Было б іначай – даўно загаварыў бы. Адно добра: разам будуць у Біцясаве, дык, можа, там, наводшыбе ад людскіх паглядаў, раскатурхаецца аднакласнік Тадзя, загаворыць нарэшце.

Хтосьці ўвайшоў у сенцы, шкрабнуў рукою па клямцы. Карольця ўкулілася ў хату, села на зэдаль пры акне.

– Ой, стамілася, – сказала і скупенька, як праз сілу, усміхнулася. – Надвор'е нішто, дык вырашыла мэтлахі перасушыць-перaтрэсці. Рызззя гэтага ў хаце па кутках назбіралася за гад*ы* – не дапавыносіцца. Адных толькі зношаных, дзіравых дзедавых ботаў і чаравікаў, бадай, каля дзясятка пар пад плот выцягнула. Цётчыных палітонаў, шашалем паточаных, сумак нейкіх, партманетаў, іспадак розных, панчох – тое не тое бярэма... А ў шуфлядзе шафы, на самым нізе пад бялізнаю, уяві сабе, на пачак грошай натыкнулася. Руку торк пад стос наўлечак, а там яны, грошы! Амаль дзве тысячы рублёў дзясяткамі... Паклаў, мусіць, каторы са старых ды і забыўся... Ох, гэтыя старыя... Матка твая, казалі мне, бядуе, што трэба конча вам карову на маладзейшую памяняць, а не выпадае з-за грошай... Дык калі што якое – не саромейцеся, кажыце. Я багатая цяпер, магу і пазычыць. А магу і так, без аддачы даць. Лёгка прыплыла капейчына – лёгка няхай і сплыве.

Пачынаўся апошні тыдзень жніўня. Дні стаялі цёплыя, лагодныя. Лета раптам ні з таго ні з сяго расшчодрылася, быццам адмыслова вырашыла кампенсаваць дзерваедаўцам бясконцую паласу непагадзі. Праўда, з раніцы неба ўсё яшчэ па-ранейшаму хмылілася, але к поўдню зноў весялела; хмары сплывалі, далягляд выясняўся, паветра налівалася сонцам, поўнілася водарам ранніх яблыкаў, сена, збажыны.

І рака была спакойная, толькі дзе-нідзе на самым быстраку наўзбоч выспачкі злёгку моршчылася паскамі хваляў. І ўсё адно думаць, што вось зараз давядзецца пераплываць яе на хай сабе і надзейна, як сцвярджае Карольця, адрамантаванай Шаршатачкавай лодцы, было непрыемна. Хіба не тое самае мог бы ён сам сказаць пра лодку ў дзень сваёй гібелі? І што наогул значыць – надзейна адрамантаваная? У адным месцы – надзейна, у другім, глядзіш – не зусім, а то і зусім ненадзейна...

Яня так доўга не адважвалася сесці ў лодку, што Карольця ажно зазлавала:

– Ды садзіся ўжо, не круціся вужакаю! Будзеш цяпер усё жыццё пераправаў баяцца? Маланкабояззі табе мала? Мужыкі такім шворанам дзірку заканапацілі, што ніякімі абцугамі яго цяпер, каб і хацеў, не выдзераш. На ўласныя вочы бачыла, як рабілі.

Яня перасцярожліва апусціла вочы долу, упетрылася паглядам у дно лодкі. Сапраўды, яно было роўнае, быццам вычасанае з цэльнага кавалка дрэва.

– Я ж кажу: ніякім долатом не выб'еш затычкі! Вось што значыць майстры, – паўтарыла казанае хвіліну таму Карольця і порстка шмарганула ступаком па месцы, дзе ледзь-ледзь вымалёўвалася на фоне дрэва заканапачаная смалою затычка.

Аднак яе бадзёры напамін пра долата прагучаў так, быццам яна знарок хацела хоць ускосна нагадаць пра Тадзю, і гэта Яні зусім не спадабалася. Да такой ступені падалося ёй гэта ў тую хвіліну лішнім і недарэчным, што яна нават распачынаць размову пра сплату пазычкі на набыццё маладой каровы, якую днямі прывялі ўдзвюх з маці з хутара пад Чарасамі, не стала.

## III

Тадэвуш Піліпавіч прахопліваецца ад дрэмы, акідвае памяшканне ўважлівым паглядам. "Пакой як пакой, – думае і пераскоквае вачыма з аднаго прадмета на другі. – Шпалеры зусім новыя, мухамі нават нідзе не заседжаныя. На сталі вунь каб пляміна табе, на сцяне – каб ражына... І што ад першага дня ў галаў узбрыло, быццам так ужо ўсё тут, у гэтым доме, кепска? Нервы, няйначай..."

Узгадвае Піліпавіч учарашнюю тэлефонную размову з малодшым сынам, Аляксеем, яшчэ больш весялее. І нездарма: што-што, а ўзняць суразмоўцу настрой дасціпны, зычлівы хлопец умее. Аптыміст, якіх мала: рызыкант, весяльчак-весялун, гаварун. Не ў бацьку ўдаўся, дарма што з выгляду – выліты ён, Тадэвуш Піліпавіч, у маладосці. Нос праменькі, вочы-гузікі, пастава, жэсты – усё ягонае, Тадэвушава. Адзінае, што знешне нагадвае ў Алёшку Лакоткаў, – маўленне. Такое падчас хвіліны ўзруху таропкае, такое, здараецца, паспешліва-няўцямнае, што і рады іншым разам ледзьве дасі датумкаць, што чалавеку ў гэты момант абыходзіць.

А вось жа, аднак, нягледзячы на такую відавочную хібу маўлення, да публічнае прафесіі хлапчына пахіліўся: святар. Ды не проста які-небудзь там вікарый[1], не – сам за пробашча[2], немаленькаю парафіяй[3] кіруе. Казаннямі ягонымі падчас службы, кажуць, заслухваюцца парафіяне. Асабліва парафіянкі, колькасць якіх з прыходам у парафію айца Аляксея Дзерваеда, лічы, амаль падвоілася. Адно і глядзі, каб не збіла каторая з тропу ды не завабіла ў цянёты граху. Што пры гэткім дэфіцыце ў храме вернікаў-мужчынаў было б, напэўна, і не дзіўна.

Ды, дзякаваць Богу, спраўны маладзён Алёшка – як-небудзь дасць рады не ўквэцацца ў гідкае. Балазе і справаў у пробашча – вышэй

---

[1] Намеснік пробашча.
[2] Кіраўнік парафіі.
[3] Прыход.

галавы. Хрост, пахаванні, шлюбы, адведзіны старых-нямоглых – усё на ім. Зноў жа, штоквартал ездзіць у замежжа грошы на рамонт касцёла ды пабудову новай плябаніі[1] збіраць. Днямі з Амерыкі вярнуўся, распавядаў пра тамтэйшае жыццё.

Такі вось незвычайны адзін з іх, Тадзіка з Карольцяю, сыноў атрымаўся. Такі здатны да справы, такі адукаваны ды разумны хлопец. Для любога бацькі мець такога сына – і гонар, і ўсцеха. Для яго ж, Тадэвуша, – яшчэ і надзея. Бо, магчыма, усё-такі аднойчы настане дзень, калі наважыцца ён урэшце сказаць святару падчас споведзі тое, што гэтулькі год носіць у сабе, але пра што прызнацца пакуль што ніяк не дабярэ смеласці, і зробіць гэта на вуха не староннямў, хай сабе і ў арнаце[2], чалавеку, а менавіта сыну. Калі такое здарыцца – Бог ведае. Споведзь, гэты які-ніякі, але ж момант агалення душы, – рэч і заўсёды для яго, Тадэвуша, няпростая, нервовая. З улікам жа таго, *што* мае ён намер сказаць падчас яе ксяндзу Аляксею, – нервовая ўдвая. Але і загадзя адракацца ад яе адбыцця з якіх бы то ні было прычын – таксама не выйсце. Таму і рабіць гэтага – адракацца – ён, далібог, не збіраецца. Бо дакладна ведае: час – не толькі лекар, але і штукар; такі сюрпрыз здатны часам паднесці, што толькі ахнеш.

Гэта – Аляксей, на якога, каб зразумець ды не мець сумневу, чый ён сын, адно паглядзець дастаткова. А вось ужо абодва Аляксеевы браты – адыстар Лакоткі. Асабліва Мірон. Стоадсоткавы Шаршатачка, адно што – цьфу-цьфу! – не кульгавы. Як і Міхалка, гэткі ж схільны да розных пераўвасабленняў, нездарма ж, відаць, па сканчэнні школы пайшоў вучыцца на актора. Амаль дваццаць год ужо, як служыць у тэатры.

Яно б і няхай, канечне, але ж... Быццам і артыст, кажуць, неблагі з іхняга Мірона атрымаўся, а матэрыяльна ўсё перабіваецца з кулька ў рагожку. Усё чакае нейкае неверагоднае, зорнае ролі. Такой, што і азалаціць яго, можа, і вядомасці нясветнае надасць. А калі яна, тая роля, надарыцца і ці надарыцца наогул – хто ведае. І, між іншым, выпіць дзяцюк не дурань – тут ужо ці не ад дзеда Юзілы звычка перадалася. Добра, ажаніцца паспеў у пару, дык хоць жонка ў каршэнь штурхае, не дае дарэшты апусціцца. І ўнучкаю бацькоў ашчаслівіў. А то ўсё хлопцы ўнукі ў іх з Карольцяю былі. У кастрычніку дваццаць два Аніце, унучцы, спаўняецца, неблагая дзяўчына, не тое што матка яе, прайдзісветка Ілона.

А самы, бадай, удалы з тройцы братоў, самы спраўны ў сэнсе ўмення найлепшым чынам уладкавацца ў жыцці – бізнесовец Генадзь. Той самы, якога ён, Тадзя, немаўлём за роднага сына прыняў. Гэты не толькі свайго нідзе і ніколі не праміне, але, хоць зрэдку, хоць рад*ы* ў гады, і брат*а*м падсобіць капейчынай. Як у ваду глядзела Карольця, калі прадказвала за два гады да смерці такі расклад з сынамі ды намаўляла Тадэвушу Піліпавічу менавіта на Генадзя найбольш спадзявацца ды Мірона не пакідаць без помачы.

Але што ён можа памагчы? Калі б і хацеў – надта з пенсіі не разгонішся. Хіба што ўзяць ды да ранейшага занятку, да фельчарства, вярнуцца, прыткнуцца дзе-небудзь хаця б на паўстаўкі рабіць. Пенсію самому тады можна было б пражываць, зароблёнае на працы аддаваць дзецям – так многія робяць.

---

[1] Парафіяльны дом.

[2] Верхняе літургічнае адзенне ў ксяндза.

Ды зноў жа, што з яго сёння, з таго фельчарства, з паўстаўкі тае, будзе наедку? Гэта даўней, бывала, купаліся фельчары ў раскошы, бы якія-небудзь шахі. Парася вылегчыць, цяля вылечыць, карове памагчы ацяліцца – нарасхват былі даўней фельчары на вёсцы. Дык і карысталіся каровіна-свінячыя эскулапы з тае запатрабаванасці як толькі маглі. Левыя грошы самі ў рукі плылі, вунь які быў прыварак да афіцыйнага заробку. І харчам расплочваліся людзі за паслугу, і пітвом, і капейчынай. Свінні, бывала, як пачнуць напрадвесні па хлявах парасіцца, ці каровы цяліцца, ці авечкі каціцца – толькі паспявай ездзіць глядзець. Пасля гледзінаў, як звычайна, – пачостка. Вылечыў ты жывёліну, не вылечыў, даў хваробіне рады, не даў, а ўсё адно без яе з хаты гаспадары не выпусцяць. Дня без застолля не мінала.

Праз іх, тыя застоллі-пачосткі, і кінуў ён фельчарства. Сам бы, можа, не кінуў, ды Карольця, бачачы, што співацца мужык пачынае, пераканала кінуць. І добра, што пераканала, бо ўсё адно праз пару год, як перайшоў ужо рабіць выкладчыкам у тэхнікум, усе тыя назбіраныя падчас фельчарства тысячы ляснулі. Як вокам міргнуць на нікчэмныя паперкі перарабіліся.

Без малога трыццаць тысяч савецкіх рублёў ляснула ў Тадэвуша і Карольці-Караліны Дзерваедаў на пачатку дзевяностых. Усё да капейчыны, што гадамі збіралі-ашчаджалі, што ягонае фельчарства ды супольная абачлівая беражлівасць прынеслі, уваднačас спрахла. І хоць не толькі ў іх, вядома, спрахла, нікому ў тым, нават сваякам найраднейшым, нават суседзям найбліжэйшым, прызнавацца не сталі.

Бо прызнаешся – і пачнуцца роспыты: што, ды як, ды адкуль, маўляў, гэткія вось не маленькія зберажэнні? Маўляў, на кепскія заробкі ўсё жыццё вы, панове, наракалі, а адкуль жа тады грошыкі? Бусел у дзюбе вам іх прынёс разам з сынамі, ці што? А самае паскуднае, што дзеля выгляду быццам бы і паспачувае каторы з зычліўцаў, а ў той жа час употай і парадуецца: тутэйшы чалавек, дарма што ўласнаю спагадлівасцю любіць пахваліцца, – зайздроснік яшчэ той.

Дык і перажывалі Дзерваеды страту грошай цішком, кожны сам па сабе, як перажываюць часам у маладосці няўдалае каханне ці неспадзеўную здраду. Бедная ж Карольця так перанялася стратаю, што і захварэла нават. Спачатку нервы ў жанчыны схібілі, зрабіліся напятыя, бы тая струна гітарная, – слова насуперак не скажы. Затым, на нервовай, мабыць, глебе, – на страўнік занемагла. Больш за год праляжала ў дыспансеры, пакуль акрыяла.

І вось праз колькі часу вярнулася зноў да нябогі тая самая хвароба. Не гэтак неспадзявана, як калісьці, заявілася, але затое з намерам болей не адпусціць. Так неўзабаве, не даўшы рады вызваліцца з путаў немачы, з тае справакаванае шмат год таму нервамі хваробы, і згасла Карольця. Сышла, пакінуўшы тузін сямейных клопатаў на Тадзю-ўдаўца.

Ён жа, што праўда, жончыну смерць перажываў куды цяжэй, чым нават калісьці смерць бацькоў. Не таму, што, можа, спалохаўся цяжару адказнасці за сыноў. Не, іншае, куды больш таемнае і глыбокае, больш асабістае да таго прычынілася. Сышоў чалавек, які быў адзіным, хто гэтак шмат пра яго, Тадзю, ведаў. І ведаў, і разам з тым заставаўся запарукаю спраўджання надзеі на дараванне – калі не Божае, дык хаця б людское.

А як Карольці не стала, і яна, гэтая апошняя надзея, сіратлівым прывідам заблукала ў закутках свядомасці.

Жыць з такім успамінам – канечне ж, няпроста. Бо хоць і не смыліць ён штодня, і не даймае штохвіліны, і не пераследуе кожнае ночы, але ж і таемных спратаў мінулага дарэшты, такая-разгэткая сволач, не пакідае. Гадамі можа не трывожыць, а варта неўспадзеў нейкай дробязі вылузнуцца ў памяці – і тае ж хвіліны нагадае пра сябе. І чым далей у жыццёвы гушчар, тым больш сувора, больш жорстка, нягоднік, нагадае. І плішчыцца тады жывасілам у душу, пячэ прадаўнім тым, страхавітым успамінам пра злашчаснае Шаршатачкава долата ў кішэні. Пячы пячэ, а паўстаць ва ўсёй сваёй мярзотнасці перад светам дзеля нават хаця б хвіліннага адхлання чалавеку не жадае.

* * *

*Выспа ўтварылася наводдаль ад пераправы год сем таму. Неўпрыкмет насунула льдзінамі на водмель падчас крыгаходу глею і жвіру ўперамешку з пяском ды розным ламаччам, і з таго часу, ледзь павузее, памялее на пачатку лета рака, уздымаецца нанесенае па-над вадою, пакрываецца па халуях[1] дзе асакою, дзе аерам, а дзе ўжо і ладнымі вырасткамі вербалоззя.*

*Спачатку, да тае пары, як пачалі завітваць на выспачку людзі, гняздзіліся тут кнігаўкі. Але апошнім часам, мабыць, навучаныя горкім досведам суседства з людзьмі, ладзіць на выспе гнёзды гаманкія птушкі перасталі. Пакрычаць-палямантуюць па вясне над лапікам зяленіва ды і ляцяць на сталае жыхарства куды-небудзь у іншае, больш спакойнае, непрыступнае месца.*

*У гарачае, як цяперашняе, лета выспачка для дзерваедайцаў – старт-пляц для пешае, уброд, пераправы праз раку. Чым чакаць невядома колькі часу кульгаку Міхалку-Шаршатачку з лодкай, куды прасцей распрануцца ды, закінуўшы за спіну кіёк з вопраткай, перабрысці ад берага да выспы, а затым, адпачыўшы пару хвілін на сугрэве, на цёплым пяску, – рушыць далей, да другога берага. І хутка, і выдаткаў (скнарысты Шаршатачка, вядома, не тое што чужога – сваяка без платы не павязе) ніякіх. А калі яшчэ Міхалка, як сёння вось з Тадзем, занатурыцца, зробіць выгляд, быццам цябе не заўважыў, ды яшчэ пры гэтым і абразіць паманецца, тады без сумневу дарога табе на другі бераг уброд, праз выспу.*

*Тадзя ведаў найкарацейшы шлях да супрацьлеглага берага як свае пяць пальцаў, бо пераходзіў гэткім чынам раку неаднойчы. Таму, нягледзячы, што было ў гэты дзень на дварэ халаднавата і стомленасць пасля хуткае хады ад Біцясава добра-такі ва ўсім целе адчувалася, палез у ваду ахвотна.*

*У вадзе было значна цяплей, як на беразе. Дык і прайшла Тадзева пераправа амаль незаўважна. Менш за чвэрць гадзіны ад берага да выспы, кароткі адпачынак, яшчэ з дзясятак хвілін убродад выспы – і вось ён, апошні быстрак, ад якога да дзерваедаўскага берага метраў дзесяць. Праўда, на быстраку шмат вострага каменя і месцамі сам ён крута абрываецца ды*

[1] Затопленае месца на згібе ракі, куды ўвесну падчас крыгаходу наплывае розны друз.

*пераходзіць у даволі глыбокія донныя віркі. Але для чалавека, які дасканала ведае маршрут пераправы, гэткая перашкода – драбяза.*

*Бераг расхінуўся насустрач Тадзю купкамі лазняку, абдаў парывам ветру, сцебануў па вачах россыпам пяску.*

*Міхалкава лодка пагойдвалася на хвалях наўзбоч выросткаў аерніку, нагадвала вялікую, застылую ў пене рыбіну. Тадзя наблізіўся да яе, кульнуўся бокам на спрамлены смалою дол. І, як знарок, адразу ж акурат патрапіў тварам на месца на сутыку дна і борта, дзе расплывалася абрысамі прад вачыма шчыльна забітая ў дошку затычка.*

*Жаданне папомсціцца з Шаршатачкам за крыўду, папалохаць яго як след працяла Тадзевы глузды.*

*Ён падхапіўся з месца, выскачыў з лодкі, хуценька падцягнуў яе на сухое. Сунуў руку ў чэрава кармы, дзе стары складваў звычайна налоўленую рыбу і дзе цяпер, пасля рамонту лодкі, знайшло да часу прыстанак рознае цяслярскае прычындалле. Пальцы ягоныя хвіліну прамарудзілі ў нерашучасці, затым павольна, быццам усё яшчэ не пэўныя, ці варта тое рабіць, ці не, ліхаманкава намацалі малаток і долата.*

*Уся справа заняла некалькі хвілін. Можа, дзесяць, можа, пяць. А можа, і ўсяго толькі тры: час мінаў незаўважна. Незаўважна і неяк надта ж адстаронена. Так, быццам і не з ім, Тадзем, усё адбывалася, а з кімсьці яшчэ, каго ён і не ведаў нават толкам, і бачыў упершыню.*

*Затычка вылузнулася з паза дошкі лёгка, як намасленая. Куды ён дзеў яе пасля таго, як яна вылушчылася з дрэва, Тадзя не памятаў. Затое добра памятаў, як хіснуўся наводдаль лодкі па сухую траву, як похапліва, быццам хто за ім гнаўся, нарваў ды зладаваў з яе пучок. Як запхнуў той шорсткі, ажно кроў пырснула на згібе з пальца, пучок на месца затычкі – на ўсялякі выпадак, каб дзірка не выявілася перад гаспадаром лодкі дачасна, ледзь адплыве лодка ад берага.*

*І яшчэ памятаў Тадзя, як шпурнуў малаток у хмыз. А вось як долата апынулася ў кішэні ягоных штаноў, хоць забі, не мог пасля ўзгадаць. Не заўважыў, як, мабыць, сунуў яго ў кішэню ды і паляцеў з ім да Яні. Затым, дома ўжо, ад Лайцэвічаў дахаты прыйшоўшы, другія, чысцейшыя ды сушэйшыя апрануў нагавіцы, а на долата ў кішэні старых і забыўся. Так грунтоўна забыўся, што ні праз тыдзень яго не спахапіўся, ні праз два. Аж да таго дня, як прыехала да хаты з ментузом у пакунку з мешкавіны Карольця на ровары, не спахапіўся. А спахапіўся, торкнуў руку ў кішэню – і як варам скуру апякло.*

*Жаданне як хутчэй пазбавіцца ад жалязякі літаральна розум яму адняло. Ужо засланку печы адсунуў Тадзя, каб кінуць яе ў агонь, але, на шчасце, у пару спыніўся, падумаўшы, што вось раптам матка пачне выграбаць попел ды і ўбачыць, і здагадаецца, што да чаго. Прыхаваў да часу долата сярод рыззя ў запечку, а позна ўвечары, як добра сцямнела, панёс да ракі, шпурнуў у ваду далей ад берага.*

*Так, дзякуй Богу, і знікла з вачэй тое долата, як і не было яго ніколі. Адно, што засталося на памяць пра яго, – адчуванне пякоткі на скуры. Ды яшчэ – ўражанне, быццам у кашулі ён, Тадзік Дзерваед, нарадзіўся. Цеснай, дарма што на вырост, з разлікам на не адзін год наперад пашытай, а ўсё-такі – якой-ніякой, а апраткі.*

* * *

– Малако! Ма-ла-ко! – Голас гучыць так пранізліва, што ад паўсонных трызненняў Тадэвуша Піліпавіча імгненна не застаецца следу. – Бярыце пасудзіну, што ўчора вам пакінула, і ідзіце сюды. Чуеце?

Тадэвуш Піліпавіч падхопліваецца з канапы. Узгадвае, што так і не ўзяў пакінутую жанчынаю ўвечары пад кустом бутэльку з малаком, ідзе на двор, каб, можа, хаця б цяпер гэта зрабіць. Але дарэмна: гандлярка ўжо стаіць ля куста, хітае дакорліва галавою, і цень заклапочанасці блукае па яе гусьценька напудраным ілбе.

– Вось і паспадзявайся на вас, мужчынаў, – кажа незадаволена, дастаючы з-пад голля ўчорашні паўтаралітровік. – Згадзіліся браць, а не ўзялі... Што, рукі не дайшлі? Ох, мужыкі, мужыкі... Як жанчыны побач няма, дык ні туды ні сюды. Цяпер во, пэўна, скажаце, што і плаціць ужо адмаўляецеся...

– Ды не адмаўляюся... Заплач*у*.

– Ну, і на тым дзякуй. А то сядзеў тут адзін такі да вас... Усяго, бывала, увечары назамаўляе з бадуна, назаўтра ўранні замоўленае прывязеш – а ён у хамут ужо... Занатурыцца, гаўнюк, і не возьме нічога. І вязі тады зноў тавар дахаты. Яшчэ і аббрэша... Быццам і клопату мне пільнейшага няма, як яго ўлагоджваць. Ці лёгка з гэткімі боўдзіламі, га?

– Я не з такіх.

– А хто вас ведае, з такіх вы ці не... – Жанчына паціскае плячыма, зганяе цень з ілба, шырока, на ўвесь рот усміхаецца. – Што наконт рыбы скажаце?

– Не, рыбу браць не буду. Наогул яе не спажываю. Ні карасёў, ні іншай якой. Ну, хіба што ментуза, можа, узяў бы...

– Во захацелі – ментуза! Дзе ж яго ўзяць? Ментуза тут, таварыш дарагі, даўно ўжо нямашака. Быў, ды сплыў... Экалогія, дзядзечка, дрэнь, вось і знік мянтуз, загадаў доўга жыць. Можна сказаць, на Шаршатачку скончыўся...

– Ого – на Шаршатачку! – заспеты знянацку згадкаю знаёмае – куды ўжо знаёмей – мянушкі, выгукнуў ён. І, не ведаючы, як паводзіць сябе далей, няўпэўнена дадаў: – Ды пажартаваў я наконт ментузоў...

– Вядома ж – пажартавалі... Жартаўнік вы... ты наш, Тадзя Піліпавіч. Тадзя? Ці, можа, як-небудзь інача цяпер завешся? Не памяняў імя?

– Навошта? – кажа ён і змаўкае. Што Яня ў рэшце рэшт, раней ці пазней, абавязкова пазн*а*е яго, ён надоечы не сумняваўся. Але што ўсё адбудзецца гэтак надзіва будзённа, проста – зусім не чакаў.

– Як навошта? Каб гучала адпаведна... сітуацыі. Тодар, Федзя – ці мала як можна было б... Многія ж памянялі. Вось і я – Ніна цяпер. Паводле пашпарта Яніна. А так, штодзень – Ніна Іванаўна.

– Не, я не мяняў, – кажа ён і ўзгадвае, як падчас службы ў войску некаторыя хлопцы, сапраўды, спрабавалі зваць яго Федзем. – Тадэвуш – нармальнае імя. Людзі не з такімі нязвыклымі для вуха жывуць і не пераймаюцца...

– Гэта праўда, – пагаджаецца Яня. – А я цябе адразу, вось як толькі ўбачыла, пазнала. Можа, і не пазнала б гэтак хутка, калі б акурат заўчора на твой здымак у “Аднакласніках” не натыкнулася.

– Здымак? Гэта Алёшка, малодшы сын, напэўна, выклаў...

– Можа. Такі ў святарскім строі мужчына.

– Ага, ён. Ксёндз.

– Добра... Свой святар, сямейны – ого! І яму, пэўна, добра... Ксяндзы вандруюць шмат, я чула...

– Гэта праўда. Але што з тых вандраванняў? – рады зачэпцы пагаманіць да часу пра што старонняе, хапаецца за тэму Тадэвуш Пііпавіч. – Два гады пасля семінарыі на Філіпінах адбыў, дык ледзь не спражыўся там, кажа, у тым задушлівым іхнім, вільготным азіяцкім клімаце. Мала таго, што горача, дык яшчэ і ў вечным страху, штодня ў чаканні якога-небудзь тэракта. Што добрага?

– Ну дык не адны ж, пэўна, Філіпіны гэныя на свеце... Ёсць жа і іншыя, спакайнейшыя краіны.

– А ў іншых што? З шапкаю па крузе жабраком хадзіць – ці вялікая радасць? Тую ж Амерыку ўзяць... Іншы дабрадзей, кажа, ахвяруе вось такому, як Алёшка, чужынцу-зборшчыку пяць даляраў, а паводзіць сябе потым так, быццам азалаціў, быццам з галавы да ног абсыпаў грашыма. Там добра, дзе нас няма.

– Гэта праўда. Ведаю, бо сама па замежжы крыху пакалясіла. Чула, Карольця твая памерла. Спачуваю.

– Дзякуй.

– Не мучылася хоць напрыканцы?

– Не, дзякуй Богу...

– І то добра, як па сённяшнім часе. Людзі вунь гадамі-дзесяцігоддзямі, здараецца, пакутуюць... На бутэльку, і паеду я, відаць... Як наконт ягад? Клубніцы даспяваюць. Яшчэ дзень-два, і, мабыць, дойдуць...

– Ого, дык ты яшчэ і клубніцамі гандлюеш!

– Гандлюю. А што, лепш рукі склаўшы сядзець, халяўнага чакаць? Паглядзела б я, як ты круціўся б пры такіх крэўных.

– Пра каго гэта ты?

– Пра сынка-недарэку, пра каго яшчэ... Мальцу чацвёрты дзясятак, а розуму – бы ў таго дзіцяці. Быццам спыніўся семнастовікам у развіцці – і ні кроку далей. Рабіць не хоча, яшчэ, прабач, і блядзей у хату на дармовае навалачэ. Надоечы танных курыных кумпячкоў накупляла, дык агледзецца не паспела, як ужо і пажэрлі. Я з хаты па справах – яны ў хату, і паспрабуй дапільнавацца. Але што гэта я разгаварылася? О-ёй, першая гадзіна, трэба далей ехаць. Дык не будзеш рыбу? Шкада, шкада... То, можа, сапраўды, клубніцаў да малака? У нас сёлета дзялянка – на паўгарода. Такія вялікія парасл ды салодкія клубніцы – пальчыкі абліжаш.

– У каго гэта “ў нас”?

– У нас з Валянцінаю, нябожчыка мужыка майго сястрою. А ты, мабыць, падумаў, быццам я ўсімі гэтымі гароднiннымі ды жывёлагадоўчымі справамі займаюся? Не, я ў горадзе жыву. А тут усяго толькі служка – сезонны пасярэднік паміж гаспадыняю тавару і пакупніком. Нават рыбы не лаўлю сама, Валянціна і блізка да става мяне не падпускае, собскаю персонаю кожны дзень стаіць з вудаю. А наогул, не за так, канечне, я служу, сёе-тое маю ў кішэню... Не ахці што, але ж які-ніякі прыварак да пенсіі.

– Ну, клубніцы, бадай, можна набыць. Калі ўжо гэткія яны вабныя ў вас, то чаму ж не ўзяць, – пагаджаецца Тадэвуш Піліпавіч. Хоча спытаць напрыканцы, ці не памятае яна старога мясцовага назову ягад – трускалкі, ды, пакуль збіраецца з думкамі, жанчына ад’язджае.

Пра тое, што Яня Лаўцэвіч гандлюе вясковымі прысмакамі ў гэтым дачным пасёлку, ён даведаўся ад дачкі дзерваедаўскага суседа, нябожчыка Франькі Мацура. Паехаў неяк увосень, напярэдадні Задушнага дня, у вёску прыбраць магілы сваіх і Карольціных сваякоў і там, на кладах, Ванду і сустрэў. Якая, да ягонае радасці, сама гаворку, што акурат яму абыходзіла, і распачала. Яна адзіная з усіх іхніх равеснікаў засталася ў Дзерваедах на сталае жыццё, таму і ведала пра кожнага больш за ўсіх.

Распытваць, што там ды як склалася ў колішняй ягонай сяброўкі Яні, ён жанчыну не стаў. Адзінае, што парупіўся даведацца, – дзе яе шукаць. Усё астатняе, вырашыў тады, само высветліцца, калі будзе ў тым патрэба. Зрэшты, якая там патрэба – не дзеля жаніхоўства ж ён надумаўся праз гэтулькі год сустрэцца.

І вось яна, сустрэча... Не сказаць каб надта цёплая, але ж і непрыязнасці, а тым больш нейкай злосці ён з боку Яні ў адносінах да сябе не адчуў. Абыякавасць – так, але ж, аднак, не варожасць. Хаця Бог ведае, ці насамрэч гэтак яно і ёсць: у чужую душу не ўлезеш. Было б усё так проста, як нам здаецца і хочацца, дык не жыццё было б, а суцэльны рай.

Тым часам аўто гайдаецца сярод парослых драбналессем грудкоў, павольна, як нехаця, сунецца ў накірунку шашы. Тадэвуш Піліпавіч колькі часу глядзіць яму наўздагон, сіліцца ўявіць, як выглядае за стырном яго гаспадыня. Ды марна: аблічча жанчыны расплываецца, мізарнее і ўрэшце зусім чэзне, заслоненае нечаканаю, як снег па вясне, згадкаю пра даўнейшае. Пра тое, што і забылася амаль, а вось, неўспадзеў ускалыхнутае, выплыла са схронаў памяці, замільгала перад вачыма хісткім, няпэўным, як гэты мройлівы, спярэшчаны сонечнымі блікамі ранак за акном, прыпамінам.

*Навюткі, з блішчастымі спіцамі ў колах і гарэзлівым званочкам на стырне ровар, і Карольця на ім, і смурод ад расшматанага аб ягоны твар ментуза, і адчуванне роспачы пры думцы, ці не бачыў хто, як хвастала рыбінай па твары і ці не пойдзе заўтра па вёсцы вясёлая пагалоска. А яшчэ – неадступны, як зацяты восенькі дождж, страх: што яна, Карольця, ведае, каб гэтак вось бязбоязна, не асцерагаючыся атрымаць здачы, лупцаваць яго рыбінай? І тая жахлівая ноч з прыступам псіхозу, што скончыўся ў рэшце рэшт бальніцаю. І тупое, на мяжы вар'яцкага відзежу неўразуменне, калі назаўтра пасля таго, як прывалаклі яго амаль непрытомнага ў палату, дзверы яе расчыняюцца, і Карольця ўваходзіць у цесны, са сцяною на адно акно, бальнічны пакойчык, схіляецца над ложкам.*

*– Ляжыш? – кажа спачувальна ды, крутнуўшыся ў праходзе тугімі, бы набітыя пер'ем клункі па дарозе на біцясаўскі кірмаш, сцёгнамі, сядае побач, абдае твар капою рудаватых, навалкаваных бігудзямі валасоў. – Рыбы прынесла. З'ясі?*

*– Не ўжо, дзякуй, – адмаўляецца ён. Хоча спытаць, чаму яна гэтак хутка змяніла злосць на літасць, а разам і спраўдзіць здагадку пра прычыну тае шалёнае злосці, але яна не дае загаварыць. Прыкладае далонь да ягоных вуснаў, хуценька перасядае з ложка на табурэт.*

*Медсястра Таня са стойкаю для кропельніцы ў адной руцэ і шпрыцам у другой увальваецца ў палату, запаўняе сваім таўсматым целам вольны прамежак прасторы паміж ложкам і сцяной.*

*– Чулі мы пра вашыя Дзерваеды, як жа, – кажа нізкім, як у мужчыны,*

*голасам і намацвае пальцамі вену на Тадзевай руцэ. – І што ж там здарылася такое на рацэ, што ажно два чалавекі патанулі?*

*– Што здарылася, тое і здарылася. – Карольця адсоўваецца яшчэ далей ад ложка, стульвае вусны ў непрыступнай усмешцы. – Цяпер ужо рук не падкладзеш.*

*І па тым, як глядзіць дзеўка на яго спадылба, як доўга яшчэ потым пільна ўзіраецца ў ягоныя шырока раскрытыя вочы, Тадзя ўсё ў тую хвіліну пра таемныя яе думкі, мабыць, і здагадваецца.*

*Спраўджваць нялюдскую здагадку пры Тані, аднак, нялоўка, і ён вырашае дачакацца, калі тая пойдзе. Ды дарэмна. Калі медсястра, правалаводзіўшыся даволі доўга з голкаю, урэшце патрапляе яму ў вену і збіраецца адыходзіць, Карольця таксама падхопліваецца з месца.*

*– Ментузяціну забылася! – гукае ён наўздагон не без таемнае надзеі гэткім чынам затрымаць дзяўчыну.*

*– Ой, праўда! Толькі не ментузяціна гэта, а карасі. Франька, сусед, з ночы дзедавы вершы павытрасаў ды прынёс пачаставаць. Ментузяціна! Перш чым балбатаць абы-што – паглядзеў бы як след... Вось жа рыбны знаўца!*

*Карольця вяртаецца, з незадаволеным выглядам бярэ пакунак з рыбаю, пахапліва торкае медсястры ў руку.*

*– Вам падарунак на ўдачу, каб наступным разам лацвей калолася, – кажа і заходзіцца гучным і разам з тым натужлівым, як праз сілу, смехам. – Бярыце, у нас гэткага дабра – заваліся. Не свінням жа скормліваць.*

Шлюбам яны пабраліся праз два месяцы пасля ягонае выпіскі з бальніцы. Пабраліся спехам, доўга не думаючы. Так, быццам і сумневу ніякага быць не магло, што акурат во гэтак, як робіцца, і было ім ад самага пачатку лёсам наканавана. Быццам сам Усявышні загадзя пра іхнія лёсы паклапаціўся і толькі штурхаў цяпер абаіх, дарма што гэткія маладыя, у каршэнь, прыспешваў з'яднаць іх як мага хутчэй.

Так паменела ў Дзерваедах адною Лакотчышкай, затое Дзерваедаў, наадварот, на адну асобу пабалела. Бо Карольця Юзілаўна Лакотка надта пераймацца стратаю спадчыннага прозвішча не стала і перарабілася ў Караліну Іосіфаўну Дзерваед ахвотна, без лішняе мітрэнгі.

Ядзюня перажывала, што сыходзяцца Тадзя і Карольця не вянчаныя, то, каб яе заспакоіць, паабяцалі па вясне, як толькі выдасца вальнейшы ды цяплейшы дзень, выправіцца па касцёльны шлюб у бліжэйшую з латвійскіх святыняў.

Гасціны з увагі на жалобу па Міхалку і Броні не ладзілі. Па роспісе ў Біцясаве ў пассавеце пасядзелі, вярнуўшыся ў Дзерваеды, гадзіну-другую за сталом у хаце з Тадзевай маткаю ды і сышлі на Шаршатачкаў падворак. Тадзя спачатку ўпіраўся, даводзіў, што, можа, не след яму на тым Лакоткавым, спаконвеку ім, Дзерваедам, варожым котлішчы гэтак во адразу, ад першага дня шлюбу атабарвацца, але Карольця ўпарта стаяла на сваім. А каб канчаткова пераканаць маладога, што так, як яны маюць намер цяпер зрабіць, і будзе найлепш, распавяла, *што* за месяц да трагедыі на рацэ ўведала ад дзеда пра вытокі прадаўняе варажнечы паміж іхнімі, наваспечаных сужэнцаў, сем'ямі.

Тое, што ўсё-такі, як вынікала з Карольцінага аповеду, Міхалка ўвесь гэты час цярпеў ад пагарды-нянавісці аднавяскоўцаў не бязвінна, што

прыклаў-такі ён, нягоднік, руку да гібелі Пётры і Зыгмона Дзерваедаў, Тадзю не так узлавала ці хаця б узрушыла, як супакоіла. А больш за ўсё здзівіла, і найперш – самім фактам прызнання правіны.

– Чаму ён табе прызнаўся? – уражаны пачутым, спытаў ён і ўнурыўся паглядам у асветлены месяцовым святлом з акна (сядзелі ў прыцемку, без электрычнасці) твар Карольці. – І чаму ўчыніў гэтак з дзедам ды дзядзькам?

– Страшна стала перад немцамі за сябе і за сям'ю, вось і ўчыніў. Хіба не зразумела... Страх – гэта ж вунь які магутны кіроўца, хіба не так? – адказала яна і, быццам знарок, каб падражніцца ўласнаю абыякавасцю да прадаўняе тае, парослае мохам часу справы, шырока, на ўвесь рот пазяхнула. – А чаму прызнаўся? Хто ж ведае чаму... Мне і самой гэта, папраўдзе, дзіўна было. То маўчаў колькі год, а то раптам – такое выкуліў ні з таго ні з сяго вонкі: от наце вам, ешце... Можа, каб пазбыцца цяжару з душы, выкуліў, можа, з іншае якое прычыны... Але і тут, мабыць, без страху не абышлося. Ну, а вось ты... чаму?

Такога пытання Тадзя чакаў, але толькі не цяпер і не ў гэткім выглядзе. І, заспеты ім знянацку, не на жарт сумеўся.

– Я... Ты пра што пытаешся?

– Сам ведаеш, пра што. Кажы ўжо, не чужыя ж...

– Мабыць... мабыць, таму, што злы быў, і злое тое і вылезла ў апошнюю хвіліну. Таксама ж усё проста.

– На каго злы?

– На яго, на Шар... на дзеда твайго нябожчыка, на каго яшчэ...

– З-за чаго? З-за таго даўняга, што ў вайну здарылася?

– Не толькі. Як сказаць... Усё неяк увадначас атрымалася, у адну хвіліну. Я з Біцясава вяртаўся. Гукнуў яго з таго берага, каб перавёз. А ён азірнуўся на крык, спыніўся на хвіліну і пайшоў прэч ад лодкі. Потым яшчэ раз азірнуўся. Ды мала таго, што зноў пайшоў, яшчэ і плюнуў у мой бок. Дзіва, як яшчэ азадак не агаліў ды не выставіў... Усё гэта ўзлавала мяне. Пакінуць чалавека аднаго на беразе, ды ў такое няпэўнае надвор'е, ды яшчэ гэтак зняважліва – хіба не варта таго, каб узлавацца? Але...

– Што?

– Таго, што атрымалася, я зусім не хацеў. Думаў толькі папужаць, павучыць яго, можа, крыху... Маўляў, паплыве неўзабаве старэча лавіць рыбу, а тут вада пад нагамі – вось і няхай тады паскача, і ўзгадае ўласнае прыкрае... А тут, як на тое, гэты віхор праклятый ўзляцеў. Хто мог падумаць, што так яно станецца...

– Бачыш, як усё, сапраўды, проста, – сказала Карольця і зноў пазяхнула – ляніва, як праз не магу, абыякава.

“Даравала, мабыць”, – падумаў ён з палёгкаю, і гэта ўсё ў іх узаема-адносінах канчаткова і вырашыла. Так грунтоўна вырашыла, што, калі праз гадзіну пасля таго, як закіпела кіпенем у абаіх кроў ды штурхнула ў абдымкі адно аднаго, раптам усхадзілася на дварэ віхура кшталту нядаўняе на рацэ, яны яе амаль не заўважылі.

Што Карольця не дзеўка, ён здагадаўся сам. Якім чынам – і сам не разумеў, бо досведу фізічных любошчаў да тае шалёнае, пад несупынны посвіст ветру і шум дажджу ночы не меў. Але ж здагадаўся.

А вось пра тое, што ўжо і дзіця нават Карольця чакае і што бацька дзіцяці – чарасоўскі настаўнік гісторыі Валяр'ян Сцяпанавіч, яна

прызналася сама. Прызналася гэтаксама будзённа і проста, як распавядала толькі што пра даўні пракудлівы ўчынак дзеда Міхалкі. І, напэўна, гэтаю простасцю паводзінаў яго, Тадзю-паняверчыка, і ўлітасцівіла. Тады, на тую хвіліну, – мабыць, на хвалі падагрэтай жарсцю дабраслівасці ўлітасцівіла. Пасля – рупнасцю ў хатніх справах. Балазе гаспадыня з Шаршатачкавай унучкі, дарма што гадавалася без маці, пры дзеду ды цётцы, атрымалася – лепшай пашукаць.

Пра тое, хто бацька дзіцяці, ні адзін, ні другая, хоць і не згаворваліся між сабою, нікому, у тым ліку і Валяр'яну Сцяпанавічу, не сказалі. Так неўзабаве і з'ехаў аматар пругкіх дзявочых сцегнякоў, не даведаўшыся пра ўласнае бацькоўства, настаўнічаць кудысьці на сваю малую радзіму.

Так і пачалося Тадзева сумеснае з Карольцяю жыццё.

Чаму менавіта яго яна абрала на ролю мужа ды бацькі чужога дзіцяці, Тадзя так тады толкам і не зразумеў. І толькі зусім нядаўна, напярэдадні жончынай смерці, прыадчынілася таямніца. Не дарэшты, хаця размову Карольця сама пачала. Відаць, добра муляла і ёй тое таемнае з далёкае мінуўшчыны, што не вытрывала, каб напрыканцы жыцця, ды яшчэ ў такім цяжкім стане, калі ніводнае хвіліны без болю не праміне, не распачаць пра яго гаману.

– Памятаеш, даймаў ты ўсё мяне, як толькі ажаніліся, чаму не паглядзела на варажнечу між нашымі сем'ямі, пайшла за цябе? Дык вось... Казаць нічога не буду, а падказаць, дзе шукаць на гэткае пытанне адказ, – усё ж падкажу... Спытай у Янькі Лаўцэвічышкі, мабыць, яна ведае. Спытай, што яна бачыла тады... у той дзень, як... як дзед і цётка Броня патанулі... Ведае і памятае – тваё шчасце, і ты будзеш ведаць. Хаця, можа, лепей яго, такога ведання, і не трэба... А калі скажа Янька, што не ведае, – значыць, не лёс табе ведаць. І жыві сабе тады спакойна далей. Зарасло быльнягом – туды яму і дарога...

Сказала гэтак Карольця, заплюшчыла вочы і адышла ў лепшы свет з лагоднаю ўсмешкаю на твары.

Яні Лаўцэвіч ён тады, растузаны смерцю Карольці, шукаць не стаў. А вось цяпер, як крыху супакоіўся ды стаў вальнейшы, нарэшце рашыўся. І вось яна, Яня-Яніна, і вось ён, мабыць, запознены жаданы адказ.

## IV

Ніна Іванаўна падагнала аўто пад бярозіну, заглушыла матор. Вылазіць адразу з салона, аднак, не стала: захацелася, пакуль не ўгледзела яе з акна гаспадыня сядзібы, балбатлівая братавая Валянціна, з якой яны ў складчыну даглядаюць гарод і якая гэтак спрытна пераклала на яе клопаты па збыце гародніны і садавіны ды продажы малака і рыбы, пасядзець у самоце, падумаць пра тое, што ўскалыхнула сустрэча з Тадзем.

Ах, Тадзя... Так нечакана ўсё атрымалася, што ажно дасюль ад тае нечаканасці ў галаве трымціць. Быццам нейкія струны там, неасцярожным дотыкам патрывожаныя, затаргаліся-задрыжэлі, а спыніцца, падгарачаныя хваляваннем, ніяк не дадуць рады. Ведала б загадзя, што за прыгода чакае яе ў тым дачным пасёлку, можа, дзесяць разоў падумала б, ці варта туды наогул ехаць. Тым больш, што і пакупнікоў там – кот наплакаў, болей паліва спаліш, чым на іх сціплых апетытах заробіш.

З хаты даносіліся гукі тэлевізара, па гравійцы наўзбоч гарода, чутно

было, раз-пораз праносіліся, натужліва рыпелі коламі па кепска ўтрамбаваным гравіі – дарогу правялі тут зусім нядаўна, – апошнія легкавікі.

Ніна Іванаўна варухнулася, каб перамяніць позу ды вызваліць ад напругі нагу, якую нязручна вывернула лыткаю да дзверкі ў хвіліну, калі спыняла машыну, пачала ўзгадваць падрабязнасці спаткання з Тадзем.

Але ж як мяняюцца з узростам людзі! Асабліва мужчыны. І амаль заўсёды, магчыма, з-за таго, што спаконвеку меней за жанчын сочаць за сабою, – да горшага. Ледзь пасталее дзяцюк – і ўмомант у мех старызны ператвараецца. Учора яшчэ, здаецца, быў маладзён – вачэй не адвесці, а сёння – хоць плюнь ды выкінь. Ад аднаго толькі валосся ў вушах ды носе і зашмальцаваных калашынаў нагавіц і гэткіх жа (цьфу, што за слова ўзгадалася!) кятурак[1] на ваніты міжволі пацягне.

Вось хоць бы і Дзерваедчыка гэтага пастарэлага, Тадзю, узяць. Гамоніць, а капелюша не здымае з галавы. Усё адно як саромеецца зняць. Відаць, добры плех тля выскубла на цемі, што так і не наважыўся яго агаліць. А можа, дзеля таго не зняў капелюша, каб за ёю ямчэй было з-пад яго цікаваць? Ці, можа, недахопы ў яе знешнасці выглядаць?

Бо таксама ж не дзяўчынка яна, не папрыгажэла і не памаладзела, вядома... Ды і хваляванне, хоць з усяе моцы намагалася яго падчас сустрэчы прыхоўваць, прывабнасці ёй, канечне ж, не дадавала. Голас вунь двойчы на пачатку размовы як не сарваўся.

Праўда, цікава было б даведацца, што ён падумаў, як убачыў яе. Лішняга слова не прамовіў, ды чорт ведае, што пры гэтым роілася ў ягонай прыкрытай капялюшыкам галаве.

Тэлевізар сціх. Шырокі Валянцінін цень хіснуўся па сцяне насупраць акна, пагайдаўся сюды-туды, зліўся з прыцемкам слаба асветленага экранам пакоя. Ці то мыш, ці то птушка пранізліва піскнула ў зарасніку парэчак за рогам хаты, і вось ужо зноў, быццам не жадаючы цярпець ніякіх старонніх гукаў, загрымеў у хаце тэлевізар.

“Ці не серыял пачынаецца”, – падумала Ніна Іванаўна і з асалодаю выпрастала ногі ў прадчуванні мажлівасці яшчэ колькі часу пабыць у адзіноце ды аддацца ўражанням дня ўперамешку са згадкамі гэтак нечакана ўскалыхнутых дзякуючы спатканню з прывідам у капелюшы дзён прамінулых. Можа, упершыню ад часоў тых даўніх аддацца без перасцярогі, дарэшты, напоўніцу – не дзяўчо ж яна, сапраўды, каб не даць рады ўласным эмоцыям.

Так, не дзяўчо яна. Цяпер і пагатоў не дзяўчо, але і замуж выходзячы ім не была. Не ў сэнсе, што, можа, дзявоцкасці да замужжа пазбавілася, не, барані Бог. А не была дзяўчом у тым разуменні, што нямала мела на той момант за плячыма гадкоў. Як кажуць, амаль што сталаю ўжо жанчынаю паспела скочыць у апошні вагон. І хоць даволі позні яе, на дваццаць дзявятым годзе, шлюб спадзеву на незямное, падгледжанае ў модных на той час індыйскіх фільмах каханне не апраўдаў, лічыць яго няўдалым (такім, што дзень пры дні толькі і дадае жанчыне цяжкога одуму і зморшчынаў) не выпадае.

Праўда, шлюб быў як шлюб, не лепшы, можа, але ж і не горшы за іншыя. Бо чалавек ёй, Яні Лаўцэвіч, трапіўся ўсё-такі неблагі. Не п’яніца,

[1] Шырынка (*дыял.*).

не валацуга, не лайдак. Прынамсі грошы, у адрозненне ад іншых мужчын, ад самага пачатку сумеснага жыцця прыносіў дадому і аддаваў жонцы спраўна. І не як-небудзь там дзеля прыліку, каб толькі пыл у вочы пусціць ды мазгі запудрыць, а даастатку, да капейчыны ўсё заробленае аддаваў. Ды і пасаду ягоную загадчыка склада пры хлебазаводзе, дзе ён, Фрэдак Сузень, рабіў па сканчэнні тэхнікума, да няўежных прылічыць было нельга. Мука, дрожджы, нават такія дробязі, як сода, ці соль, ці воцат або тыя ж разынкі для печыва – усё ў ягоных руках, будзь толькі ўвішным, не варонь.

Другое яе шанцаванне ў познім замужжы – тое, што падчас родаў абышлося без кесарава сячэння. Узяло ды і, насуперак прадказанням разумнікаў-дактароў ды розных цётак-варажбітак, абышлося. Хлопчык-мацачок вылузнуўся з улоння на свет лёгка і зусім здаровенькі – чым не ўдача?

Прабыўшы належны тэрмін у адпачынку па доглядзе за дзіцем, настаўніца Ніна Іванаўна Дзерваед у школу не вярнулася, а ўладкавалася на хлебазавод лаборанткай. А праз сем год, калі сыну споўнілася акурат дзесяць, і здарылася сумнае. Падчас фінансавай праверкі на заводзе выявіліся немалыя злоўжыванні. Дырэктара неўзабаве пасадзілі, на Фрэдака, які на той час ужо рабіў галоўным інжынерам, таксама завялі справу. Не вытрымаўшы гэткага выпрабавання, мужчына захварэў на сэрца і праз два месяцы памёр.

Так Ніна засталася адна. Рабіць на заводзе пасля гэткіх падзей не хацелася, трэба было ўладкоўвацца кудысьці яшчэ. На гарантаваны, ды ўсё ж нялёгкі заробак у школе вяртацца пасля адноснае заводска-лабаранцкае, пад крылом мужа-начальніка, вольніцы не хацелася, і яна пачала шукаць варыянтаў уладкавацца куды-небудзь у іншае месца. Дзе і зарабляць можна было б больш, і праца была б не такая беспамерна-нервовая ды мітуслівая, як у школе.

Была сярэдзіна так званых нулявых. Якраз пусціліся тады ўсюды расці, бы грыбы пасля спорных дажджоў, розныя грамадскія няўрадавыя арганізацыі. У адну з іх, што спецыялізавалася на прасоўванні ў свядомасць грамадзян постсавецкае прасторы гендарных пытанняў, Ніна Іванаўна і паткнулася неяк у надзеі зачапіцца за магчымасць сталага занятку. Кіраўнічка арганізацыі, таксама былая настаўніца, акурат падшуквала сабе рэферэнта, і тут Німіны веды нямецкай мовы і прыдаліся.

Праз паўгода пасля пачатку працы ў арганізацыі Ніна пазнаёмілася з Цітмарам. Саракавасьмігадовы нежанаты немец са Штутгарта прыехаў у горад упершыню, мовы не ведаў, і кіраўнічка прыставіла да яго Ніну ў якасці адначасова і гіда, і перакладчыцы.

Ніна ўзялася памагаць замежніку ахвотна. І, вядома ж, у адрозненне ад некаторых іншых жанчын, што спалі і бачылі сябе ў абдымках самавітых нетутэйшых кавалераў, без якога-кольвечы разліку. Хаця занурысты, не надта гаманкі (спытаеш – адкажа, але сам першы ніколі не зачэпіць) Цітмар, папраўдзе, ёй і падабаўся, разлічваць на што-небудзь большае за дзелавую супрацу з мужчынам ёй у галаў не прыходзіла. Да таго часу, пакуль гэткае не прыйшло аднойчы ў галаў самому Цітмару, і яна не мусіла на такі паварот справаў адрэагаваць.

Усё, што адбылося потым, здарылася так хутка, што Ніна вокам плюснуць не паспела. І ўжо праз некалькі месяцаў, акурат у ноч вігіліі Божага Нараджэння, пакінуўшы сына ў Дзерваедах на апеку маці, упершыню

выправілася за мяжу. Выправілася быццам бы з намерам пераймання досведу працы жаночае арганізацыі, а насамрэч найперш – у адведзіны да Цітмара.

Сям'я Цітмара выбар сына калі і не ўхваліла, дык выгляду пра тое не падала. Жанатаму брату і яго жонцы, відаць па ўсім, уласных клопатаў хапала. Маці ж, жанчына даволі флегматычная і нават часам, як падалося Ніне, празмерна да ўсяго абыякавая, вырашыла, мусіць, за лепшае ў адносіны сына і ягонае іншаземнае каханкі не ўмешвацца, то бок пусціць усё на волю лёсу.

Лёс жа так распарадзіўся, што неўзабаве Нінін сын Максім, на той час пятнаццацігадовы хлопец, даволі сур'ёзна захварэў, і яна мусіла тэрмінова вяртацца на радзіму. Прыкрую перашкоду справе мацавання адносінаў, праўда, падсаладзіў Цітмар: падараваў ці то ў знак падзякі за прыхільнасць, ці то з намёкам на працяг яе ў будучыні, значную суму грошай. На якія Ніна, даклаўшы крыху наашчаджаных сваіх, вось гэтую машыну, у якой па сёння калясіць па лецішчах у пошуку пакупнікоў, тады і набыла.

Падлячыўшы сына, Ніна зноў зазбіралася ў Штутгарт. Але тут, як на злосць, арганізацыю, з ласкі якой мясцовыя жанчыны да пары да часу бясплатна калясілі па Еўропе, залічылі да апазіцыйных і ўвадначас зачынілі. Стасункі з замежжам перайшлі ў сферу тэлефанаванняў. І Ніна, якая, у адрозненне ад Цітмаравай маткі, пакідаць уласныя справы на волю лёсу не любіла, быццам каб знарок пацвердзіць выслоўе, што апетыт падчас яды прыходзіць, вырашыла скарыстацца магчымасцю працягваць адносіны з Цітмарам напоўніцу.

Яе палкія, поўныя намёкаў на сур'ёзнасць пачуццяў тэлефанаванні, здаецца, далі-такі плён. Цітмар не толькі напісаў ёй электронны ліст, але і паабяцаў прыехаць. Гэтым разам, праўда, не па справах арганізацыі, а прыватным чынам, адмыслова да яе – пагасціць колькі дзён.

Узрушаная перспектываю хуткага спаткання, Ніна ўзялася даводзіць да ладу жытло. Пафарбавала ў кватэры падваконнікі ды дзверы, падклеіла шпалеры, набыла сякія-такія дробязі для дэкору. Хацела яшчэ абкласці пліткаю сцены ў ванным пакоі, але не паспела, бо майстар паабяцаў зрабіць хутка, а потым так доўга ўсё нешта цягнуў з пачаткам працы, што і засталася справа нязробленая.

Быццам адчуваючы яе нявыкрутку з рамонтам, Цітмар раптам прыслаў ліст, у якім даводзіў немагчымасць спаткання цяпер, а абяцаў яго праз нейкі час, можа, наступным летам. Спаслаўся пры гэтым на кепскі стан здароўя і нават, прабачаючыся, даслаў нейкую ці то выпіску з гісторыі хваробы, ці то даведку. Затым пайшлі чарадою эсэмэскі – то быццам бы з лякарні, то яшчэ аднекуль.

– Мама, ну не хоча ён цябе, не хоча, як ты не разумееш! – пераняўшыся яе дэпрэсіўным настроем з нагоды няпэўнасці ў адносінах з мужчынам, сказаў неяк дапалы не па ўзросце Максім. – Хвароба, кепскае самаадчуванне – адгаворкі ўсё гэта. Ад-га-вор-кі...

– Чаму гэта адгаворкі? Гэткі ўжо ты знаўца-псіхолаг! – успыхнула яна, абражаная. Але да сынавых словаў мусіла ўсё ж такі прыслухацца. Балазе і сама ўжо час ад часу ўпотай падумвала, ці не гуляе дзяцюк з ёю ў нейкую гульню, ці не водзіць за нос.

Канчаткова высветліць сітуацыю памагла адна інтэрнэт-фрэндэса, вялікая аматарка займацца чужымі справамі. Неяк яна даслала Ніне адрасы

мужчын-замежнікаў з сайта знаёмстваў, і адным з тых адрасоў якраз аказаўся адрас Цітмара.

Ніна даслала з сынавай скрыні каханку ананімны ліст з анкетаю (што веру ў Бога – сказаць не магу, бо агностык, піць – шмат не п'ю, але крыху, маўляў, – тонкі намёк на жаданне быць запрошанай у рэстаран – ужываю), на які ён, валацуга, тут жа, не марудзячы ні хвіліны, і адказаў.

Такіх двурушных дзеянняў па-за ўласнаю спінаю Ніна і не чакала, і дараваць не магла. Можа, з увагі на адыходлівасць сваю і даравала б, калі б быў Цітмар хаця б крыху бліжэй. Але ён быў далёка, і градус яе кахання да мужчыны пасля такое здрады міжволі пайшоў на спад. А праз колькі часу стасункі між імі і наогул спыніліся. Без асаблівай крыві, затое з пацверджаннем агульнавядомага, што, сапраўды, усе мужчыны сволачы і што ў любой справе рабіць у гэтым сэнсе выключэнне з правіла для дзецюка толькі таму, што ён, бач, замежнік, – вялікая аблуда.

* * *

Тэлефон сціхае, але праз хвіліну зноў заходзіцца мелодыяй. Тадэвуш Піліпавіч цягнецца рукою да пуфіка, каб намацаць мабільнік, ды спрасоння не дае рады. Пакуль ягоная сонная далонь ліхаманкава мітусіцца па краі пуфіка і натыкаецца ўрэшце на тэлефон, мінае колькі хвілін.

– Алё! Прывітанне, бацька! – Генадзеў голас гучыць неяк нязвыкла злавесна і разам з тым быццам знарок адстаронена. Так сын размаўляе вельмі рэдка, толькі тады, калі зусім не ў гуморы. – Спіш, мабыць? Адпачываеш?

– Ты, Генусь? – Тадэвуш Піліпавіч уключае вольнаю рукою святло, глядзіць на гадзіннік. – Ого... Дванаццатая... Так позна? Дзе ты?

– Дома, дзе яшчэ мне быць... Дзве гадзіны таму ўкуліліся ўсім кагалам у хату, вось сядзім, бядуем пад гарбату...

– Што значыць – бядуем? Чаму?

– А вось таму, – сярдзіта выгуквае Генадзь. – Абакралі нас, Тадэвуш Піліпавіч, вось што...

– Як – абакралі? Дзе? Бач ты, як яно ў дарозе здараецца...

– Ды не ў дарозе – дома абакралі. Вярнуліся, а тут, ведаеш, дзверы насцеж... Замок на месцы, спраўны, а ўсё расчынена. Заходзь і бяры што хочаш.

Тадэвуш Піліпавіч падхопліваецца з канапы, торкае вобмацкам ногі ў тапкі.

– Відаць, улезлі з даху праз балкон у кухню, – працягвае Генадзь. – З кухні далей, па ўсёй кватэры пайшлі шпацыраваць... Футра Юліна, гэнае, што летась у Польшчы набыла, звалаклі. Сёе-тое з тэхнікі. Грошы, што Анітцы планавалі аддаць, таксама ляснулі.

– Сем тысяч даляраў! – ахае Тадэвуш Піліпавіч, адчуваючы, як раптоўна цяплее ў грудзях ды пачынае ўзбуджана лекацець сэрца. Грошы яму, канечне ж, абыходзяць вельмі. Бо гэта якраз траціна сумы, што засталася ім з Карольцяю ад абмену трохпакаёўкі на аднапакаёўку. Міронава доля, якую ён меўся неўзабаве, паводле дамовы з Міронам, аддаць ягонай Аніце, а пакуль што пазычыў Генадзю на справы бізнесу. – Божа літасцівы! Ну, а што міліцыя? Выклікалі ж пэўна?

– А што міліцыя? Прымчаліся, абгледзелі ўсё. Шукалі адбіткі пальцаў,

аж, прабач, херачка што знайшлі! Каб хоць след дзе застаўся... Прафесійна злодзеі папрацавалі. Трэба было, бацька, табе перціся на тое чужое далёкае лецішча... Быццам у нас горш табе было б. Воўкам табе наша кватэра смярдзіць, ці што...

– Дык каб жа я ведаў, што гэтак яно атрымаецца...

– Каб жа ведаў! Ну, але... Што карысці цяпер скавытаць ды пасыпаць галаву попелам. Казаў той, не мы першыя, не мы апошнія. Сем тысяч шкада, канечне, ды што папішаш. Дзякуй, на дыван, як вунь летась у знаёмых маіх, не апаражніліся зладзюгі. Уяўляеш: вяртаешся з адпачынку дахаты ўвесь такі з сябе, у выдатным такім, мажорным настроі, а пасярод пакоя куча гаўна на дыване цябе падчэквае. А ведаеш, што за ўсё цікавей?

– Што?

– Тое, што пярсцёнка з брыльянтамі дурні не ўзялі. Памятаеш, я Юлі да дня народзінаў даражэзны пярсцёнак купіў? Дык вось акурат жа яго і не ўзялі. Хаця і схаваны не быў, навідавоку, у спальні на пальцы гіпсавага манекена вісеў. Мабыць, падумалі, што біжутэрыя, і пагрэбавалі ўзяць. Ламачча featureрознае хуценька схапілі, а брыльянт пакінулі.

– Ну, то хоць за гэта ім дзякуй.

– Ага, ёсць за што дзякаваць... Што дазвання не распранулі ды па свеце голымі не пусцілі... Так, па-твойму?

– Што я? Прыкра мне, вось што.

– Ай, не пераймайся ўжо так. Прыкра! Што зрабілася, таго не вернеш, – неяк увадначас палагаднелым голасам кажа Генадзь. – Аніта тэлефанавала, казала, хоча днямі са сваім хлопцам да цябе наведацца. Дык ты там ужо надта не распавядай ім пра гэтае нашае брыдкае. Яна – адно, свая дзеўка, але ж хлопец яе... Як-ніяк староннi чалавек, што ў вушы ўводзіць... А то пойдзе па людзях пагалоска, дык і ведаць не будзеш, куды ад жартачкаўпадцвельванняў хавацца. Хтосьці і парадуецца яшчэ такому здарэнню, а то і анекдот прыдумае...

– Добра, не буду нічога казаць.

– Галоўнае – пра скрадзеныя грошы не кажы, каб лішніх размоваў не правакаваць. Я і Мірону з Алёшкам таксама казаць пра даляры не буду. Скажу, канечне, што ўлезлі бандзюкі ў кватэру ды сёе-тое з рэчаў узялі, а пра даляры – маўчок... Дык і ты маўчы, не кажы. А то атрымаецца, быццам знарок мы ўсё прыдумалі, каб не аддаваць Аніце бацькавай долі. Розныя здагадкі пачнуцца... Радня раднёю, а часам і ад яе трэба заставацца на адлегласці. Зразумеў?

– Зразумеў. Яшчэ б не зразумець, – пагаджаецца Тадэвуш Піліпавіч і перакладае слухаўку да другога вуха. – Твае як?

– Добра, што ім зробіцца. За добрым гаспадаром – усе як за сцяною каменнай. Мірон жа ці адгукаецца? – У голасе Генадзя прамільгвае характэрная, якая заўсёды ў ім з'яўляецца, варта загаварыць пра малодшага брата, нотка паблажлівасці.

– Адгукаецца, – не жадаючы чапаць балючага, адказвае Тадэвуш Піліпавіч і хуценька пераводзіць размову на тэму аб пераразліку пенсіі, які яму маюцца неўзабаве зрабіць у бок падвышэння з улікам адпрацаваных пасля выхаду на пенсію год.

Аднак Генадзю, мяркуючы па ўсім, гэта не надта цікава. І ён, спаслаўшыся на тое, што хтосьці, маўляў, звоніць (дай ты рады – апоўначы!) у дзверы, спыняе размову.

## V

Дзень толькі пачаўся, а гукаў наўкола так шмат, быццам тут не лецішчы ўсюды побач, а якое-небудзь прамысловае прадпрыемства. Асабліва даймае, рэжа вушы несупынны гул аўто ад гравійкі. Машыны на вялікай хуткасці раз-пораз праносяцца па ёй, шоргаючы коламі па гравіі, паволі аддаляюцца, цішэюць і нарэшце зусім патанаюць у чэраве ўхутанага шэранню прыдарожнага гайка.

Тадэвуш Піліпавіч перакульваецца на другі бок, слізгае паглядам па экране мабільніка. Без чвэрці сем, роўна дзесяць хвілін да сігналу. Каторы дзень запар ён прачынаецца сам у адзін і той жа час. І гэта яму, чалавеку, які звычайна без гадзінніка і кроку не ступіць, нават і дзіўна. Зрэшты, дзівіцца няма чаго, бо такое заўсёды з ім здараецца ў хай сабе і не непасрэднай, але ж прысутнасці старонняга чалавека.

Старонні чалавек зараз тут для яго – гандлярка Ніна Іванаўна, у дзявоцтве Яня Лаўцэвіч. Якая штораніцы пад’язджае да лецішча акурат а восьмай, ні хвілінаю раней ці пазней, і да прыезду якой ён кожны раз выходзіць загадзя падрыхтаваны, наструнены, не раўнуючы бы маладзён у храм за хвіліну да ўзяцця шлюбу. Прынамсі да сённяшняга дня так было, а як яно складзецца ад хвіліны размовы, дзеля якой ён тут, на гэтым лецішчы, другі тыдзень, бы той Рабінзон на сваёй выспе, кантуецца і якую менавіта сёння плануе распачаць, – Богу толькі вядома.

Так, каля дзясятка дзён маркоціцца Тадэвуш Піліпавіч пустэльнікам у чужым доме, аж самому не верыцца, што гэтак надоўга хапіла ў яго цярпення ды вытрымкі трываць такую побытавую неўладкаванасць. Каб не стос скарыстанай бялізны на зэдлі ў куце пакоя, дык і сам не паверыў бы, што аказаўся на такі подзвіг здатны. Дарэчы, не забыцца папрасіць па тэлефоне Аніту, каб што-небудзь заўтра, прасціну там якую, наўлечку, можа, прывезла. Раптам давядзецца яшчэ на колькі часу тут застацца, то хай будзе чысцейшае на ўсялякі выпадак.

Думкі пераскокваюць на прыезд унучкі, робяцца штохвіліны ўсё больш дакладнымі, канкрэтнымі. Прыедзе дзяўчына не адна, з хлопцам, то трэба ж яму – як-ніяк родны дзед – хоць збольшага да прыёму гасцей падрыхтавацца. Тым больш што хлопца ён дагэтуль не бачыў. То, можа, Яню папрасіць, каб падкінула чаго-небудзь вясковага для пачосткі гасцей? Тых жа абяцаных клубніц, напрыклад. Але толькі, канечне, не рыбы. Якой ён і сам вось ужо колькі дзясяткаў год не есць, і глядзець, як робяць гэта іншыя, без прыступаў млоснасці не можа.

Будзільнік тэлефона абзываецца з пуфа: час падымацца.

Ён спускае далоў ногі, ідзе ў кухню мыцца. І толькі паспявае наліць у рукамыйнік вады ды збольшага апаласнуць рукі і твар, як з двара даносіцца сігнал клаксана.

– Іду-у! – крычыць ён у акно і ідзе на двор.

Ніна Іванаўна сядзіць у аўто з прыглушаным маторам і вылазіць з салона, бачна па ўсім, гэтым разам не збіраецца.

– Малако, – кажа і высоўвае з салона бутэльку. – Хадзі, сам вазьмі. Мне тэрмінова трэба ў суседні пасёлак з’ездзіць, дык вельмі ж спяшаюся.

– А клубніцы? – расчараваны тым, што, мабыць, пагаварыць, як ён планаваў, зноў не атрымаецца, кажа ён і сунецца да машыны.

– Непярэліўкі з клубніцамі, вось што, – кажа яна і суе бутэльку яму

ў далонь. – Трасца нейкая раптам на лехах аб’явілася, нейкія брыдкія слімакі ледзь не ў палец таўшчынёю... І жаруць лісце, і жаруць, халеры... Ягад, праўда, няшмат яшчэ зжэрлі, але што будзе далей, як адно бадылле застанецца, хто ведае? Дык паеду да знаёмага агранома, каб падказаў, што рабіць. Так што цяпер ні да чаго мне... Пазней, калі што якое, сюды па цябе прыеду і завязу на месца... Сам і нябярэш ягад, колькі табе трэба, не вялікі пан. Калі застанецца што набіраць...

– Я яшчэ пагаварыць з табою хацеў, – кажа ён і як мага лагодней, быццам ад гэтага залежыць, пагодзіцца яна на размову або не, усміхаецца.

– Пагаварыць? Пра што гэта?

– Пра сёе-тое, – адказвае ён і прастуе да дома.

– Ну, добра. Пагаворым... Канечне, як жа, пагаворым, абавязкова, не чужаніцы ж мы якія-небудзь адзін аднаму. Але ж пошасць гэтая, гэтыя слімакі... І вось адкуль што ўзялося, каб хто сказаў.

Ніна Іванаўна запускае матор, ад’язджае колькі метраў, высоўвае галаву з салона.

– А памятаеш, як у Дзерваедах на Шаршатачкавым гародзе з дапамогаю індыкоў ад слімакоў пазбаўляліся? – кажа і слізгае какетлівым паглядам па ўласнай выяве ў люстэрку. – Ты тут, пры доме, птаства якога часам не загадаваў? Во запусцілі б у гарод, і ніякія парады былі б непатрэбныя. Ха-ха!

– Не загадаваў, на жаль, – кажа Тадэвуш Піліпавіч і азіраецца, каб паглядзець, як яна зрэагуе на ягоныя словы. Але дарэмна: аўто ўжо далекавата.

Бліжэй к абеду прыязджае Аніта. Адна, бо яе Іллю, праграміста з куртаценькім стажам працы ў нейкай фірме па продажы богведама чаго, надоечы пакусалі падчас карпаратыву пры пасецы прыгараднага дэндрарыя пчолы, дык ехаць у людзі з апухлым тварам ці то пасаромеўся, ці то, можа, і наогул не захацеў, а толькі тым, што, маўляў, саромеецца, дзеля выгляду прыкрыўся.

– Сарамлівы наш Іллюк, як дзевачка, – каментуе паводзіны каханка Аніта і моршчыць лоб. Бачна, што такое далікатнасці ў мужчынах яна за належнае не ўспрымае і, мяркуючы па інтанацыі голасу, не ўспрымае даволі ваяўніча.

Аніце дваццаць два. Не падлетак, але апранаецца, як пятнаццацігадовае дзяўчо. Край спаднічкі – у п*а*ры міліметраў ад сярэдзіны азадка, грудзі паўголыя. На фоне гэткае манеры апранацца ў сукупнасці з прыроджанай рэзкасцю паводзінаў яе праніцаныя тэзамі высокай маралі развагі аб жыцці-быцці выглядаюць часам даволі дзіўна і неяк, папраўдзе, штучна. Пагаманіць жа Аніта (нягледзячы, што дзяўчына не такая ўжо сталая і бабскага ў разважаннях яшчэ, здаецца, набрацца к гэткаму веку была б не павінна) і любіць, і нагоды не прамінае. Вось і зараз, відаць па ўсім, мае намер скарыстацца магчымасцю нагрузіць суразмоўцу сабою ды сваімі бзікамі напоўніцу.

– Што ў цябе, дзядуля, новага? – пытаецца і пачынае няспешна (рабіць любую справу з рэзкімі пераходамі, спачатку павольна, як скрозь сон, затым нечакана ўспыхліва – яшчэ адна асаблівасць яе характару) даставаць з валізы прысмакі. – Дзядзька Генадзь вярнуўся з адпачынку – ведаеш?

– Ведаю. Увечары сюды тэлефанаваў.

– Увечары ці, можа, уначы ўсё-такі? Нам дзесьці ці не а дванаццатай,

здаецца, патэлефоніў. Тату пабудзіў, дык той надта ж незадаволены быў. Бурчэў: чаму гэтак позна?

– І што казаў?

– Тата? А што ён скажа? Я ж кажу: бурчэў, лаяўся. Быццам сына свайго ты не ведаеш...

– Не бацька. Я пра Генадзя... Прычым тут твой тата...

– А-а, дзядзька Генадзь? Ды я не ведаю дакладна, не чула ўсяго, што яны там гаварылі. Адно здагадалася па татавых паводзінах, што нейкая даволі нервовая была іхняя гамана. Што абакралі яго быццам бы, пакуль быў у Балгарыі. Тата, як даведаўся пра гэта, усю ноч потым не мог заснуць.

– З-за таго, што Генадзя абакралі?

– Ну так. А што дзіўнага? Браты ж яны як-ніяк, – кажа з выклікам у голасе Аніта і свідруе Тадэвуша Пілiпавіча пранiклівымі сваімі, рудаватымі, як у нябожчыка Міхалкі, вочкамі.

– Вядома, браты... Але ж супакоіўся, напэўна, пасля?

– Супакоіўся, хоць і не зусім. Паспакайнеў, як даведаўся, што не ўсё ўзялі. Нейкі дарагі-раздарагі пярсцёнак з брыльянтам, аказваецца, пакінулі злодзеі... Ці то не заўважылі, ці то не ацанілі як след... А што там за пярсцёнак – не ведаю. Дзіўна: у дзядзькі Генадзя – гэткі скарб. Адкуль такая нясветная раскоша?

– Адкуль? Купіў... Юлі ў падарунак.

– Купіў? Ого. Каштуе, відаць, нямала гэткі падаруначак. Дурні...

– Чаму гэта – дурні? Мелі грошы на той момант – вось і набылі каштоўнасць. Уклалі, так бы мовіць, у вартую справу... Усе так робяць.

– Я не пра дзядзьку з цёткаю, а пра тых... пра злодзеяў-недарэкаў.

– А-а... Ну, канечне, твая праўда – недарэкі. Драбязу згрэбсці, а вартае пакінуць – хіба не дурасць?

– І я тое ж кажу. На футра пакваліцца, а на брыльянт увагі не звярнуць – што можа быць дурней? А з грашыма што? Сцібрылі? Не?

– Ой, не ведаю... Хваляваўся, мабыць, Генусь, дык блытана неяк распавядаў. То я і не зразумеў як след, што там да чаго. Але, здаецца, пра грошы нічога ён не казаў.

– Значыць, не скралі. То і дзякуй Богу. – Аніта змаўкае, вытрымлівае невялікую паўзу. – І няма чаго надта перажываць. Згуба футра для такога крутога, вёрткага мужчыны, як дзядзька Генадзь, справа несмяртэльная, – кажа і ўключае электрагарбатнік. – Набудзе новае. Во пакуль мы гарбаты з табою, дзядулік, пап'ем, глядзіш, ужо і набудзе.

Аніта ад'язджае а шостай. Ад'язджае раптоўна, неяк надта ж эмацыйна пагаварыўшы перад тым з кімсьці па мабільніку. Запэўнівае дзеда, што пойдзе пешкі на прыпынак маршруткі, але да прыпынку не даходзіць. Тадэвуш Піліпавіч вызірае ў акно акурат у тую хвіліну, як яна садзіцца ў запыленае аўто бурачковага колеру.

Відавочны, нават калі ён і не планаваны загадзя, падман дзяўчыны, як і тое, што яна быццам бы ведаць дагэтуль не ведала пра падораны Генадзем жонцы брыльянт, яго непрыемна ўражвае. Тым больш што такі момант няшчырасці здараецца між ім і Анітаю не ўпершыню. Вось адкуль, напэўна, і халадок між імі падчас кожнае размовы, і нейкая часам адчужанасць. Быццам і прычыны для яе, той адчужанасці, няма, а разам з тым і не адчуць яе нельга, і не пераймацца ёю, вядома, не выпадае.

На шчасце, горыч ад няшчырых паводзінаў унучкі разліцца раўчукамі жоўці па целе Тадэвуша Піліпавіча не паспявае. Бо літаральна праз колькі хвілін па яе ад'ездзе вяртаецца да лецішча Ніна Іванаўна. І не ўлегцы вяртаецца, не з пустымі рукамі, а з вялікім пакункам чырвоных, налітых сокам клубніц.

– Прабач, абяцала самога цябе завезці па ягады, аж во як яно ўсё раптам перамянілася, – кажа, вылазячы з аўто. – Праўду кажуць: дзе коратка, там і рвецца. Паехала да таго агранома, а ён і параіў апрацаваць гародчык растворам. Думаю: раствор жа, “Слімакс” гэты, напэўна, атрутны, дык што з ягадамі будзе? То перад тым, як распырскваць яго па лехах, абабрала хоць збольшага чырванейшыя клубніцы. Бяры, частуйся. Бяры, не бойся, грошай не запатрабую.

– Чаму не, можна і за грошы, – кажа Тадэвуш Піліпавіч і дастае з пакунка навобмацак клубнічыну. Падносіць яе да рота, але тут жа хуценька і адымае: ягадзіна з аднаго боку, заўважае краем вока, як быццам кімсьці падзяўбаная.

– Ой, прабач, – бянтэжыцца Ніна Іванаўна. – Вось пачаставала дык пачаставала... Але гэта не слімакоў работа, а, мабыць, птушка якая залётная паласавалася... Можа, шпачок увішны ці верабей пастараўся... Сам ведаеш, яны любяць дармовым, без нагляду пакінутым пакарыстацца. А памятаеш, як Шаршатачка нас, дзятву смаркатую, акурат во такімі падзяўбанымі ягадамі частаваў? Як набярэ, бывала, ні з таго ні з сяго раздобрыўшыся, пушчэйшых[1], недаспелых ці падзяўбаных ягадзін у шапку і нясе праз усю вёску, каб бачылі ды ацанілі суседзі дабрыню ягоную, да месца, дзе мы бавімся. Падзеліць тыя ягады на ўсіх, паўсміхаецца і сунецца назад. А мы – лепшыя ў рот, а падзяўбанымі – адзін у аднаго кідацца. А то і наўслед Шаршатачку, у знак падзякі, значыцца, гэткія-разгэткія няўдзячныя гарэзы, шпурнем адну-другую...

– Ц*а*цы яшчэ тыя мы былі, – кажа Тадэвуш Піліпавіч.

– Ага, не кажы, фальшывае за вярсту адчувалі, дарма што малыя зусім, кату пад пяту... І адчувалі, і ад сапраўднага ўвобміг беспамылкова адрознівалі.

– Праўда твая. Але ж памяць у цябе, аднак, Яня: такую драбязу памятаеш.

– А ты не памятаеш хіба нічога?

– Цьмяна, як скрозь сон. Штосьці лепш, штосьці горш, а штосьці і зусім блага. А так, каб усё памятаць – не, такога і блізка няма. Ды і хіба такое магчыма?

– А гэта як паглядзець. Калі нешта вартае, дык і праз сорак, і праз пяцьдзясят год пра яго не забудзешся. Калі нават і захочаш забыцца – не атрымаецца. Зноў жа, ад чалавека, ад асаблівасцяў памяці яго шмат залежыць. Мне, сапраўды, як ты кажаш, Бог даў памяці – лепшай не трэба. Ды і табе, думаю, таксама. Быццам я не памятаю, як ты хутка ўсё, што патрабавала памяці, у школе схопліваў. Хутчэй за ўсіх у класе... Вокамгненна! А вось штосьці ці то сціплічаеш цяпер, ці то духамі круціш, наўмысна няпраўду кажаш...

– Ну, калі так, калі такая ты ўжо памятлівая ды праўдзівая, то вось і скажы тады... – адчуваючы скурай, як абдалі гарачынёю твар апошнія

[1] Горшых (*дыял.*).

словы суразмоўніцы, але робячы выгляд, што даволі фамільярны гэты, як для размовы людзей, што гэтулькі год не бачыліся, слоўны выпад яго зусім не зачапіў, кажа Тадэвуш Піліпавіч і на хвіліну змаўкае, быццам падшуквае і не можа падшукаць належных словаў.

– Што?

– Што? А вось тое... Вось што падчас пераправы ў той дзень, як Міхалка з Броняю патанулі, здарылася на рацэ такое, пра што ніхто, апроч вас, цябе і Карольці, не ведае? Намякала штосьці мне Карольця за хвіліну да скону, а сказаць – так і не сказала. Сілілася-сілілася, ды на тым усё і скончылася. То вось і скажы ты, можа... Скажаш? Ці таксама... духамі пачнеш круціць?

Ніна Іванаўна колькі часу сядзіць моўчкі, як спаралізаваная, толькі часценька-часценька, быццам не хапае ёй паветра, дыхае ды цярэбіць залаты свой кулон на шыі, ды варушыць бязгучна вуснамі, быццам і хоча штосьці сказаць, і не наважваецца, вуснамі. Бачна, што пытанне заспела яе знянацку і што чакаць ад яе цяпер талковага адказу, нават калі і захоча сама гэта зрабіць, – марная надзея.

– Ого, як глыбока закідваеш ты сваю вуду! – кажа яна нарэшце і хуценька, быццам даючы знак, што спадзеў ягоны на праўдзівы адказ, сапраўды, марны, мітусліва прыкрывае клубніцы кавалкам тканіны. – А вудзільна не баішся аб вылаўленае паламаць? Пацягнеш на сябе, а там, на зазубе, – шкілет? Ды такі страхавіты, што, каб чапаць яго, добрым рызыкантам трэба быць.

– Якая там рызыка! – кажа ён і махае рукой. – Калі і вымкнецца нешта і зусім мулкае на свет Божы – што цяпер, па часе, за бяда? Усё адно людзей тых даўно ўжо няма на свеце... Ды і мы...

Ён хоча сказаць “не маладзёны”, але не пэўны, як успрыме яна гэткі выраз, ці не зазлуе, спыняецца на паўслове.

– Ну дык тым больш тады адказна, як няма, – не зважаючы на гэтае ягонае “ды і мы”, кажа жанчына. – Вось раптам возьмеш і награшыш супраць чалавека нагаворам? Раптам зусім і не было нічога такога, а толькі здалося табе ўсё з упуду? Ачарніць нябожчыка, які здачы даць не можа, – гэта ўжо неяк зусім жа не па-людску. Вось не думала, што пра гэта ты будзеш пытацца... Ды пачакай, пачакай... А што, як вось я ў цябе запытаюся? Пра гэта не падумаў?

– Пра што запытаешся?

– Пра сёе-тое... Ці мала пра што можна? Пра які-небудзь твой прыхаваны шкілецік... Пра які-небудзь востранькі цяслярскі інструменцік у кішэні, напрыклад... Як? Згода?

– Ну, вось, завяла катрынку, – жартаўліва, каб не так відавочны быў для суразмоўніцы ягоны сполах, кажа Тадэвуш Піліпавіч і зноў торкае руку ў пакунак з ягадамі.

– Глядзі, зноў жа абдзяўбаную не выцягні, – перасцерагае Ніна Іванаўна, але марна: дзіравая будзе тая клубнічына, не дзіравая – яму ўжо без розніцы. Кроў б’е Тадэвушу Піліпавічу ў галаў, адзываецца нудотным тупым болем у скронях, гарачаю хваляю расплываецца па целе. Ніна Іванаўна, мабыць, гэта адчувае, бо тут жа спрабуе неяк выправіць становішча.

– Не пераймайся гэтак, не адзін ты такі... – кажа і глядзіць яму прама ў вочы. – Мяне вунь колькі мітрэнжыў дазнаўца падчас допытаў, што ды як было падчас тае віхуры. А я занатурылася, казаў той, уперлася рогам

і нічога яму не сказала. Ні сло-ва! Як сказаць? Сёння па пазычкі ідзеш да чалавека, кланяешся яму нізенька, у самыя ножкі, а заўтра пад суд яго падвесці? Гэта ж якою г*а*дзінай трэба быць, каб гэткае зрабіць...

– Пачакай, якія пазычкі? Пра што ты?

– А пра тое... Як думаеш: старую карову-перадойку, пакуль не здохла няўрокам, на маладзейшую трэба нам з маткаю было ўрэшце памяняць? Вядома, трэба. А дзе грошы, каб дакласці да таго, што ад здачы старой займееш, узяць? Вось Карольцечка твая, дзякуй ёй, і выручыла. Выдзеліла з тых, што ў шафе, Шаршатачкам ці то Броняй прыхаваныя, знайшла. Не пахвалілася хіба табе, не сказала нічога пра знойдзеныя пад наўлечкамі чырвоненькія савецкія дзясяткі? Ой, ці можа быць такое? Пэўна ж, сказала... Нябось, і расшукаў ты мяне цяпер толькі дзеля таго, каб іх, дзясяткі тыя, спагнаць?

– Грошы, значыцца... дзясяткі, – дарэшты агаломшаны пачутым, прамаўляе Тадэвуш Піліпавіч і глядзіць разгублена на мабільнік. Што размова набудзе вось гэткі нечаканы накірунак, ён не чакаў і цяпер і рады ўжо быў бы яе спыніць, але не ведае як.

На ягонае шчасце, суразмоўніца гэта ведае, здаецца, добра.

– Бяда з вамі, гарадскімі, – кажа і дакорліва, акурат гэтак, як заўсёды гэта рабіла, не жадаючы працягваць якой-небудзь сямейнай спрэчкі, Карольця, ківае галавою. – Што ні прапануй – усё вам не так. Клубніцы конча каб цалюткія былі, без дзіравінкі. Рыбы не ясцё... І дагадзі тут вам, дамарослым гідліўцам... А ўжо ў голаў што як возьмеце, дык, як адна мая даўнейшая сяброўка любіла казаць, ніякім долатам адтуль гэнага ўзятага не выпхнеш. Пакутуеце, а яно, можа, зусім і не вартае пакутаў. Бо, можа, і без вашага ўдзелу гэтак, як ёсць, усё адно калі-небудзь сталася б. Калі не яшчэ горш...

– Вось скажаш – толькі каб спагнаць! – вяртаючыся да ранейшага, недарэчы кажа Тадэвуш Піліпавіч і з задавальненнем адзначае, як твар жанчыны ўспыхвае пры гэтым плямамі ўдзячнасці.

Не паспела сонца распачаць ранішнюю сваю прагулянку па-над гаем ды птушкі як след не папрачыналіся навокал, а Тадэвуш Піліпавіч ужо на нагах. Як наструнены соваецца па пакоі: то на край канапы прысядзе, то да акна хіснецца паглядзець, што там на дварэ дзеецца, то ў сенцы вызірне.

Да прыезду Генадзя, які, паводле дамовы, павінен пад'ехаць па бацьку на лецішча а дзясятай, застаецца яшчэ каля дзвюх гадзін. Але Тадэвушу ўжо не толькі не спіцца, але і наогул – ні да чаго душа не ляжыць. Паганы настрой як апанаваў яго падчас учарашняе размовы з Нінай Іванаўнай, так і не пакінуў аж во да якое пары.

Ён куляецца на канапу, намагаецца калі ўжо не заснуць, дык хаця б больш-менш давесці нервы да ладу. На шчасце, гэта яму нарэшце сяк-так зрабіць удаецца...

Прачынаецца ён ад чыіхсьці крокаў. Расплюшчвае вочы і бачыць перад сабою Генадзя. Той стаіць побач, усклаўшы правую нагу на пуфік, масіруе даланёю лытку.

– Даймае? – пытаецца Тадэвуш Піліпавіч і моршчыць твар ва ўсмешцы. – Схадзіў бы ты, можа, Генусь, усё-такі да доктара? На месцы, не за сем мораў сунуцца, як нам колісь было ў нашых Дзерваедах.

У Генадзя, нягледзячы на ўзрост далёка не старэчы, праблема з суставамі. Але наведацца ў паліклініку яму ўсё з-за розных бізнес-справаў не выпадае. І Тадэвуша Піліпавіча такая сынава абыякавасць да ўласнага здароўя і непакоіць, і, папраўдзе, раздражняе. Хоць ён і ўсяляк стараецца гэтага не дэманстраваць, а толькі, кіруючыся агульнавядомаю ісцінай, што са сваім статутам у госці не ходзяць, абмяжоўваецца калі-нікалі кароткімі, ненавязлівымі павучаннямі.

– Нічога, не век жа будзе даймаць. Падаймае і перастане, – кажа Генадзь.

– Ну, дай-то Бог. Але ж штосьці доўга не перастае. Глядзі, каб на што горшае не перарабілася.

– Не пераробіцца, не бойся. Анітка не тэлефанавала?

– Што тэлефанаваць, калі толькі ўчора тут собскаю персонай была? Толькі лішнія выдаткі з гэтых частых тэлефанаванняў. Вунь, кажуць, зноў днямі тарыфы на перамовы ў эмтээсе падскочылі... А чаму раптам пытаешся пра яе?

– Ды так, – кажа Генадзь і пачынае масіраваць другую нагу. Па тым, як ён глыбока раз-пораз уздыхае, бачна, што размову пра пляменніцу ён пачаў не выпадкова і аднымі ўздыхамі справа не абмяжуецца.

– Кажы ўжо, што муляешся, – падбухторвае сына Тадэвуш Піліпавіч. Ён ужо добра адышоў ад сну і адчувае сябе даволі бадзёра не толькі каб гаварыць ці задаваць пытанні, але і ўважліва слухаць, і пачутае належным чынам успрымаць.

Генадзь колькі хвілін маўчыць, затым адкасвае калашыну, пачынае імкліва хадзіць па пакоі.

– Ёсць размова, бацька, – кажа з загадкавым выглядам. – Толькі ж глядзі – між намі...

– Наконт хлопца гэнага, Іллі, ці як яго там?

– І наконт хлопца таксама. Толькі, мабыць, не тое, што ты падумаў. Думаеш, з Аніткаю што-небудзь здарылася? Што, можа, зацяжарыла яна? Дык не хвалюйся дарэмна, не такая Аніта дурніца, каб па дробязі заляцець... Дзеўка не промах, дарма што з выгляду быццам кулёма. Ды і не дзіва пры такой матцы, як Ілона.

– А што Ілона?

– Нічога... проста ўзгадаў да слова. А ты вось нешта заўсёды, Піліпавіч, як толькі зойдзе пра яе размова, перапытваеш, быццам намякаеш на што...

– Я намякаю? На што?

– Ну, не ведаю, ці мала на што можна... Адкуль мне ведаць.

Тадэвуш Піліпавіч на хвіліну адварочваецца, быццам прыслухоўваючыся да чыіхсьці крокаў, а насамрэч – толькі каб не спатыкацца з сынам паглядам. Пра тое, як заспеў ён Генадзя з Ілонаю на тады яшчэ цалкам сваім лецішчы ў абдоймах адно аднаго год шэсць таму, сын, хутчэй за ўсё, і па сёння не ведае. Хаця, мяркуючы па гэткіх вось выразах, што толькі што зляцеў з ягоных вуснаў, магчыма, смутна і здагадваецца. Тадэвушу ж Піліпавічу распачынаць з Генадзем размовы на гэтую тэму зусім не хочацца. Калісьці – што было, тое было – меў такі намер. Але з часам усё яно, тое непрывабнае, падгледжанае на лецішчы неяк само сабою адышло на дзясяты план, зрабілася нецікавым. Як любяць казаць прасунутыя Генадзевы сыны, – перастала чапляць. І, напэўна, дзякуй Богу, што перастала. Бо што казаць даросламу чалавеку, такую размову пачаўшы? Ушчуваць яго? Выхоўваць? Лаяць? Тым больш рабіць гэта цяпер, калі гэтулькі і свайго

непрывабнага на свет Божы панавыплывала... Якому хаця б збольшага неяк даць рады, прывесці да суладдзя з сумленнем...

– Дык што ты мне сказаць хацеў?

– Што? Вось не паверыш, калі скажу. Але слухай... Словам... такія, бацька, пірагі: стаўся да гэтага, як хочаш, хочаш – смейся, хочаш – асуджай, але ў нас з Юляю склалася ўражанне, што гэта яны ўдвох з Іллём скралі грошы.

– Анітка з Іллём? Ого, сыне... Ну ж навіна! Ад такой навіны і вобзем можна грымнуцца. Ого! Ну... а доказ хоць які маеце?

– Ды што той доказ. Логіка падказвае. Сам падумай... Нічога ў кватэры не перакулена, не зрушана з месца, быццам ведаў чалавек, дзе што ляжыць, і праменька туды і ішоў. Зноў жа, уваходныя дзверы так спрытна адамкнёныя, як ключом усё адно... І пры гэтым каб шнарык дзе на замку застаўся, каб драпінка. Хіба не дзіўна ўсё гэта? Потым – паводзіны Аніціны... Ведаеш, што яна сказала мне па тэлефоне? Што прэтэнзій да мяне з-за нясплаты бацькавай часткі ад продажу тваёй кватэры мець не будзе. Разумееш: пра грошы загаварыла, а я ж нікому пра іх не казаў. Хіба ты, можа, прагаварыўся?

– Не, я таксама нічога не казаў. Але калі так, то чаму яна гэтак зрабіла? Навошта ёй было красці тыя тысячы, калі ўсё адно яны ёй належалі?

– А вось і не ўсё адно... Ты не ўсё ведаеш. Не ведаеш, што мы з ёю напярэдадні майго ад'езду ў Балгарыю пасварыліся. Не ведаеш? Ці, можа, сказала?

– Не, нічога не казала.

– Дык вось – пасварыліся. Надта ж мне падчас размовы ў той дзень адно яе з'едлівае выказванне на Юлін адрас не спадабалася... І я ў дурным запале і плявузгнуў, што, маўляў, вось вазьму ды і не аддам таго, што ты мне з Міронавае згоды пазычыў, тых клятых даляраў. Маўляў, дакументальна пазыка не афармленая, папер ніякіх няма, дык і праз суд нічога не спагоніш. Словам, шантажнуў... Бачыў бы ты, як з твару дзеўка перамянілася. Літаральна спалатнела. Так, здалося мне, перанялася тою смешнаю пагрозаю, што я ўжо і пашкадаваў нават, што гэтак сказаў.

Тадэвуш Піліпавіч колькі часу неўразуменна глядзіць на сына.

– Ну, мала што перанялася, – кажа і паціскае плячыма. – Хіба гэта доказ, што яны скралі? Ды і пра пярсцёнак ваш не магла дзяўчына не ведаць. Усе сваякі, у тым ліку бацька з маткаю, ведалі, а яна – не? Быць такога не можа.

– А можа, яны якраз знарок пярсцёнак не ўзялі, каб падазрэння пазбегнуць? Можа, гэта ход такі іхні хітры? – не пагаджаецца Генадзь і ідзе на двор заводзіць аўто. – Хіба так не можа быць?

– Напэўна, можа, – не маючы больш ахвоты спрачацца, адказвае Тадэвуш Піліпавіч і ідзе следам за сынам. – Быць шмат што можа, ды не абавязкова ж бывае. Як-ніяк сваякі...

– Ага, сваякі... Толькі чамусьці крымінальную хроніку як ні паглядзіш, дык дзевяноста адсоткаў забойцаў, рабаўнікоў і злодзеяў – усё яны, сваякі, – кажа Генадзь і акуратна – трымаць сябе ў руках нават падчас самых бурных спрэчак ён умее – вырульвае на гравійку.

– А я? – роспачліва гукае Тадэвуш Піліпавіч і кідаецца наўслед аўто. Машына даязджае да першага дрэва, спыняецца.

– Ну, бацька, нервы ў цябе – ні к чорту! Спрасоння ты гэткі, ці што? –

Генадзь высоўвае галаву з салона, але вылазіць не спяшаецца. – Ад'ехаўся дзесяць метраў – і ўжо гэтулькі панікі... Збірайся пацыху, а я ў пасёлак па цыгарэты пакуль што з'езджу. Браў пачак з дому, ды, мабыць, дзесьці пасеяў, як заязджаўся на запраўку.

У доме даволі прахалодна, і гэта неяк адразу Тадэвуша Піліпавіча супакойвае, настройвае на філасофскі лад. Што пасля непрыемнай размовы з Генадзем пра ўнучку і яе хлопца вельмі нават дарэчы. Тым больш дарэчы, што, папраўдзе, як бы ні было яму тут, на гэтым чужым, закінутым лецішчы, часам непамысна і самотна, з'язджаць у горад таксама не хочацца.

Зрэшты, так у яго, невыпраўнага дамаседа Тадэвуша Дзерваеда, заўсёды: варта хаця б пару дзён у нейкім, нават калі яно і зусім яму чужое, месцы прабавіць, як ужо пры расстанні з ім няведама адкуль і з чаго з'яўляецца маркота. Што і дзіўнавата, бо празмерна чуллівым ён ніколі, колькі сябе памятае, здаецца, не быў. Апроч, бадай, таго вар'яцкага лета, калі загінулі на рацэ Міхалка і Броня. Але там было, канечне, іншае. Ад згадкі пра якое не толькі даць волю ўласнай чуллівасці, а і па шыю горкімі слязамі заліцца было б не толькі тады, а і сёння, далібог, не грэх.

Не грэх было б, ды вось жа штосьці не заліваецца. Ды больш за тое, яшчэ так адстаронена, так абыякава тое рачное страхоцце шматгадовае даўніны ўзгадваецца, быццам зусім ён да яго не мае дачынення. Перамалолася, перагарэла – час не толькі лекар, але і магільшчык яшчэ той, аказваецца.

Гудзенне даносіцца да вушэй Тадэвуша Піліпавіча, аддаецца ў вушах ледзь улоўнымі перападамі тонаў. Суцішыцца на імгненне, і вось зноў трымціць-гудзе, бы туга напятая, патрывожаная дотыкам пальцаў драціна.

Такім надакучлівым гудзеннем звычайна нагадвае пра сябе ў гарадской кватэры няспраўнасць водаправоднага змяшальніка. Але ж тут, на гэтым лецішчы, водаправода няма. Ды і дроту, калі не лічыць вусікаў на коміне па-над дахам дома пасля таго, як пашчыравалі там гора-рамонтнікі, – таксама. Быццам зумер недзе спрацоўвае, а дзе – нізавошта не здагадаешся.

Гудзенне, здаецца, зыходзіць з-пад ложка, і ён нахіляецца долу, каб туды зазірнуць. Але нічога там, апроч пылу і бруднай пластыкавай скрынкі для захоўвання анучак, ваксы і іншых прычындалаў для догляду за абуткам, не бачыць.

Раптам гудзенне сціхае, змяняецца дрогкім шубуршэннем, што зыходзіць, без сумневу, акурат з нетраў скрынкі.

Тадэвуш Піліпавіч выцягвае скрынку на святло, рэзкім рухам рукі здымае з яе накрыўку.

Пухнаты чмель з кароткімі паўсцінкамі на таўсматым, як у па-зімоваму апранутага вартаўніка ў старых савецкіх фільмах, тулаве з незадаволеным гудзеннем падпаўзае да краю скрынкі, колькі часу няўклюдна мітусіцца сюды-туды ў пошуку шляху да волі. Затым нечакана порстка здымаецца з месца, пакружляўшы хвіліну-другую пад столлю, заціхае пры люстры.

Тадэвуш Піліпавіч думае, што няблага, напэўна, было б расчыніць акно ды выпусціць жамярыну на двор, але гэта зрабіць немагчыма. Бо форткі ва ўсіх вокнах шчыльна заканапачаныя, а рамаў з шыбамі на кожным – па дзве. Другія ён самаруч прывалок сёння ўранні з падпола і ўставіў, атрымаўшы напярэдадні па тэлефоне, падчас размовы наконт сканчэння

тэрміну кватаранцтва, гэткую просьбу ад гаспадыні лецішча. Дурніца, відаць, усур'ёз думае, што падвойныя вокны ў доме памогуць засцерагчыся ад злодзеяў. І ён адгаворваць кабеціну не стаў, зрабіў, як прасіла. Балазе паабяцала налета, калі раптам ён пажадае, пусціць у дом пажыць і, можа, нават не так, як цяпер, – за грошы, а наогул без усялякай платы.

Тым часам чмель выпаўзае з-пад споду люстры на столь, распачынае нанова працяглае сваё, манатоннае, як покліч муэдзіна на ранішнюю малітву, гудзенне. Цяпер, калі ён вісіць дагары нагамі на адлегласці выпрастанай рукі ад галавы Тадэвуша Піліпавіча, паквітацца з ім за ўсе ягоныя (ці кагосьці з ягоных суродзічаў) начныя выкрутасы было б зусім няцяжка. Нават мухабойкі не трэба, дастаткова пстрыкнуць пальцам ці прыціснуць гэты таўсматы жывы камяк з дапамогаю шматка паперы або якой анучкі да калянай паверхні столі так моцна, каб аж хруснуў ён, каб аж пырснуў ва ўсе бакі нагулянымі за нядоўгі свой век сокамі.

Шматок паперы ён заўважае на падваконніку. Хапае яго пальцамі, падносіць угору, да таго месца на столі, дзе корпаецца чмель. Спрытна падторквае яго пад брушка і ножкі чмяля, але, замест таго, каб тут жа не марудзячы ажыццявіць тое, пра што думаў хвілінаю раней, пачынае моўчкі назіраць за жамярынай. Чмель хвіліну-другую сядзіць нерухома, затым, страпянуўшыся ўсім целам, жвава ўспаўзае на паперчыну. І потым увесь час, што патрабуецца Тадэвушу Піліпавічу, каб дайсці з паперкаю перад сабою да дзвярэй у калідор і далей з калідора на двор, паслухмяна, быццам упэўнены, што кепскага яму не зробяць, сядзіць на ёй. Сядзіць да часу без руху, праўда, з растапыранымі крыламі, і, як толькі Тадэвушава нага ступае на маснічыну ганка, усхопліваецца з месца і знікае за рогам дома так хутка, што Тадэвуш Піліпавіч і вокам не паспявае міргнуць.

Генадзева аўто зноў уязджае на панадворак. Збіты з панталыку хітрымі чмялёвымі паводзінамі Тадэвуш Піліпавіч колькі хвілін неўразуменна глядзіць на сына.

– Ну, дык што там усё-такі з Анітаю? – пытаецца, вяртаючыся нарэшце ў яву. – Што-небудзь збіраешся высвятляць?

Генадзь акуратна, як ён і ўсё робіць, што датычыць аўто, адчыняе багажнік.

– Ну, скажаш – высвятляць, – зазначае порстка і заводзіць матор. – Такія рэчы, бацька, добра, калі праз дзясятак год высвятляюцца. Выпадкова як-небудзь, бы між іншым, як няўрокам прагаворыцца, можа, каторая з дзейных асобаў... А бывае, што і ніколі не высветляцца, так і застаюцца пад сямю замкамі. Вунь колькі ўсяго навокал страшнога ды нялюдскага адбываецца – і што мы пра тое ведаем? Эх... Калі Анітка з Іллём гэта зрабілі, дык адно тады добра ўсё-такі – што не чужыя тваім крэўным скарыстаюцца. Праўда? Як думаеш? Добра гэта?

Апошняга Тадэвуш Піліпавіч якраз і не ведае, і Генадзева пытанне, так і застаўшыся без адказу, патанае ў працяжным, як нядаўняе гудзенне чмяля ў скрыні з рыззём, гуле легкавіка.

А пятай ён дома. Кватэра сустракае яго пахам нежылога памяшкання і воблакам пылу, што, асветленае сонцам, вольна, бы рухлівы шарык з драбінак смецця ў нерухомай вадзе става, гайдаецца ў паветры. Раз-пораз буркатліва нагадваюць пра сябе батарэі ацяплення, ды чутно, як мітусіцца, грукае абцасамі па падлозе ў кватэры вышэй няўрымслівая суседка. Дом

даволі стары, дзіравааваты, вось і даводзіцца цярпець усе яго – ад перагуку батарэй да шуму вады ў чужой прыбіральні – нязручнасці. Асабліва даймаюць яны Тадэвуша Піліпавіча цяпер, калі застаўся адзін, без жонкі. Папраўдзе, гэткага надакучлівага побытавага непамысноцця хапала і раней, пры Карольцы. Але ўдваіх пераадольваць яго было куды лягчэй. Нават тады, калі злосць між імі (і такое, вядома, здаралася) з-за рознасці поглядаў на нейкую справу зашкальвала і ні аднаму, ні другой давесці сваёй праўды не ўяўлялася магчымым, захоўваць філасофскі падыход да ўсяго на свеце было значна, значна прасцей. Словам-другім старэчы перакінуліся, пажартавалі, паперастарэкваліся – і ўжо, глядзіш, весялей, і ўжо нават самае гідкае ды паганае і ўспрымаецца не так востра, і, галоўнае, забываецца нашмат хутчэй.

Як ні дзіўна, але згадка пра жонку вяртае Тадэвуша Піліпавіча не да часоў прамінулых, а да нядаўняга колькідзённага побыту на чужым лецішчы. Што даведаўся ён новага падчас яго пра далёкія гады ўласнае маладосці? Пра тыя яе дэталі, пра якія варта было б распавесці ў якасці прыкладу ці, наадварот, перасцярогі маладым наступнікам, што з дня ў дзень, хто адносна паважліва, з пашанотаю (ці хаця б удаваннем яе) да досведу прашчураў, хто, наадварот, з поўным ігнараваннем, а то і непрыманнем яго чакае свае чаргі на галоўную ролю на авансцэне жыцця? Усім гэтым самаўпэўненым, скептычна-іранічным Іллям, Анітам, Максімам ды Ілонам, якія, нягледзячы на сваю прасунутасць, паўтарэння памылак продкаў, як бы ні стараліся, пазбегнуць не здолеюць. Дай жа Бог, каб усё-такі здолелі, ды штосьці не надта ў тое верыцца. Зрабіць грунтам уласных учынкаў чужы досвед мала каму дадзена. Бо ён – бы тое рэха: чуцён, а не схопіш, не прысабечыш. І тым больш – не перайначыш, не пераробіш на ўласны густ.

Канечне, на большае спадзяваўся ён, ад'язджаючы на гэнае недагледжанае чужое лецішча. Што, можа, сякія-такія старыя вузлы ўрэшце разблытаюцца і ўсё, як цяпер модна казаць, пазламі ў адзінае, непарушнае цэлае складзецца. Не надта, аднак жа, як бачна, склалася. Бо некаторыя з тых вузлоў не толькі не разблыталіся, а, наадварот, яшчэ ці не тужэй пазавязваліся. І атрымалася: цэлае быццам бы навідавоку, ды вось толькі, на жаль, не тое, якога жадалася.

Зрэшты, яшчэ не вечар. Вось надумаецца раптам каторая з нявестак ці проста знаёмых набыць добрых трускалак-клубніц на варэнне, і ён так хутка ды ахвотна падкажа ёй надзейны адрас, быццам усё жыццё толькі і рабіў, што чакаў гэткага моманту, гэткае нагоды для працягу ўзноўленага колькі дзён таму даўняга прыяцельства. І не толькі падкажа, дабраслівец, адрас, а і карацейшую дарогу да дома гандляркі Ніны Іванаўна, канечне ж, не палянуецца паказаць.

Хатні тэлефон адзываецца з калідора. Ускалыхнутае крокамі Тадэвуша Піліпавіча воблака пылу разбэрсваецца ўбакі, павольна асядае на знэнджаныя доўгаю адсутнасцю гаспадара прадметы і рэчы.

Яму чамусьці здаецца, што гэта тэлефануе Ніна Іванаўна. Але згадка пра тое, што хатнімі ж нумарамі яны не абменьваліся, а толькі мабільнымі, падказвае: не, мабыць, хтосьці іншы.

– Ну, дзядуля, ты даеш, аднак, – голас Аніты гучыць дакорліва, але разам з тым неяк быццам лянiва. Быццам і абыходзіць дзяўчыне штосьці, і разам з тым і сказаць пра гэта яна не хоча. – Вярнуўся з лецішча

і сядзіш сабе дома ціхутка, усё адно як і няма цябе. Хоць бы азваўся... Няйначай, па кабеціне той, што наведвала цябе там, у тым страхавітым дачным доме, сумуеш. Сумуеш, праўда ж, прызнайся? Дарэчы, тут мама побач, хоча штосьці таксама табе сказаць.

У адрозненне ад дачкі, Ілона гаворыць хутка-хутка, задыхана, быццам яна толькі што бегла праз перашкоды немаведама колькі вёрстаў. Так звычайна ў яе бывае, калі яна хвалюецца ці калі нешта надта ёй абыходзіць. Гэтым разам абыходзіць нявестцы, як становіцца зразумела далей, крадзеж у кватэры Генадзя.

– Вы, тата, думайце сабе, як хочаце, але мы, я і Мірон, лічым, што, калі кража і была, дык здзейсніў яе не хто іншы, як... сам Генадзь. Гэта, вядома ж, усяго толькі прыпушчанне, таму і ў вушы, зразумела, нікому ўводзіць не трэба. Барані Бог! А то скажаце – і пачнецца вэрхал, і застанемся мы з вамі без віны вінаватыя. Так атрымаецца, быццам мы такія ўжо нелюдзі, што толькі пра грошы і думаем. Дык і не будзем наогул больш пра гэта гаварыць. А дарэчы, тата, Аніта праўду кажа: што гэта вы нас неяк зусім ігнаруеце? Прыехалі і маўчыце, як вады ў рот набраўшы. Патэлефанавалі б ужо хоць, ці што... А то думай-варажы, ці жывы вы там, ці, можа, ужо памерлі...

Тадэвуш Піліпавіч шчытней, як заўсёды робіць гэта падчас размоваў з Ілонаю, каб не бачыць нервовага лекацення ўласных рук, прыціскае да вуха слухаўку. Хоча выгукнуць у адказ "не дачакаецеся", але, ацвярэзены думкаю, што жарт, бадай, занадта ж будзе зацяганы, толькі лянiва – ці не халерная апатыя чарговы раз нагадвае пра сябе – пазяхае. Хоць успрымаць усур'ёз балбатню жанчыны яму не хочацца, але і нажываць ворага праз няўвагу да таго, што нараджаецца ў яе разгарачаных дзікім падазрэннем глуздах, – таксама. На шчасце, размова з Ілонаю працягваецца нядоўга.

Тым часам стук абцасаў наверсе з кожнаю хвілінаю робіцца ўсё больш гучным: у суседкі, відаць па ўсім, на падыходзе момант найбольшае актыўнасці. "І трэба ж гэтак грукаць... Гарцуе па памяшканні, непапушчы конь па пожні, ад аваднёў ратуючыся", – думае Тадэвуш Піліпавіч і куляецца ніцма на ложак.

А праз колькі хвілін ён ужо так моцна спіць, што ні грукату ўгары, ні перагуку клаксанаў аўто ў двары не чуе. І прачынаецца на момант толькі тады, калі падае ў сне на дах індычатніка з самае высокае ў Дзерваедах таполі, што тулілася калісьці кронаю акурат да страхі іхняе пуні. І тут жа зноў, заспакоены, што гэта ўсяго толькі сон, а не дурная ява, засынае. Толькі гэтым разам яшчэ больш моцна, з такою колькасцю каляровых ды чорна-белых відзежаў засынае, што, калі, прачнуўшыся пад ранне ад холаду ў нагах (увечары не парупіўся як след накрыцца), спрабуе дэталі першага, з таполяю і індычатнікам, сну хоць збольшага ўзгадаць, – усё дарэмна.

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць
шаноўнага **Франца Іванавіча СІЎКО** з юбілеем
і зычаць яму моцнага здароўя, бадзёрасці, аптымізму
і, вядома ж, – новых выдатных твораў!

Аксана Данільчык



...хто сёння піша маімі пёркамі,
можа быць ты?..

# Сказаць – каб быць пачутай...

* * *

І вырастаюць,
адваёўваючы ў неба
і запаўняючы сабой
прастору
вычварыстыя эмбрыёны лісця,
і распраўляюць
скурчаныя тканкі
дзеля найноўшых дасканалых формаў

І хутка іх пуантылізм зялёны
настолькі зробіцца густым,
што перакрые
ракі істужку срэбную,
і з вокнаў
я буду бачыць
толькі плёскат лісця.

Па-за спляценнямі
галінаў, птушак, гнёздаў
адбітак сонца,
што дрыжыць на хвалях,
мне будзе дасылаць сваё вітанне
агнямі праз пласты
жывых матэрый.

Злаўлю яго,
як успамін маленства,
і буду новыя ствараць сусветы
ў аддаленых каморках
уяўлення.

* * *

Са дна ракі
зялёныя
стварэнні
ўздымаюцца
нібыта россып
зораў.

Сваім імкненнем
выйсці на паверхню,
каб разгарнуць
нарэшце
скруткі лісця
і акругліць
пяцікацовыя абрысы,
яны засведчылі
змяненне
паравінаў.

Ракі празрыстасць,
чысціню нябёсаў,
ходу жыцця
без нашага
удзелу –
я бачу,
углядаючыся
у хвалі.

* * *

Ты прыедзеш, і скончыцца дождж,
што стаяў перад вачыма маскітнаю сеткай,

а дзікі вінаград на сцяне паўразбуранага дома
расправіць лісце і напоўніцца
сваім сапраўдным колерам.

Калі я прыдумала такое,
як я магла прыдумаць такое?

Ты прыедеш і скончыцца дождж,
і застанецца размытым святлом
ліхтароў на асфальце.

Я з тых, хто прыдумляе,
а можа з тых, хто прадбачыць...

Потым дождж пачнецца ізноў,
і жыццё пачнецца спачатку,
не згадваючы пра мінулае,
якое страціла значэнне –
многія рэчы страчваюць
ранейшыя значэнні,
але набываюць новыя.

Чуеш, як дыхаюць рэкі,
яны шэпчуць свае гісторыі,
хто ведае, ці даслухаем мы іх да канца.

Там, дзе злучаюцца Вілія і Нёман,
я раптам убачу цябе,
нібыта ўпершыню ўбачу цябе,
і нарэшце зразумею, хто ты.

* * *

Хоць слова
хай адно толькі слова

Адарвецца як кропля з даху
і ў сваім запаволеным падзенні
апусціцца мне на вусны

Такая невыноснасць у паветры
можаш стукаць можаш прасіць
– а я нават не ведаю як –
усё безвынікова усё канчаткова

І вось я стаю
і стукаю абцасам па тонкім лёдзе
па тонкім восеньскім лёдзе

прабіваючы свабоду вадзе
але насамрэч гэта мая несвабода
шукае выйсця,
як дзіцё,
што ў новых боціках
імкнецца куды-небудзь убіцца
(пажадана туды, дзе па самае калена)
быццам ад гэтага лягчэй

Нават калі я блізка
нават калі я непазбежна блізка
я ўсё роўна далёка

Урэшце
я вымаўляю гэтае "ўсё"
і рушу туды,
дзе вочы жалезных птушак
ззяюць металічным бляскам,
пакідаючы за сабой
аблітае лёдам вецце,
што прасвечваецца
восеньскімі промнямі.

## ПЕРАД УЯЎНЫМ ПОЛЫМЕМ КАМІНА

Як запісаць
экзістэнцыйны рух прасторы
і гоман ветру
на яе абсягах
і словы
што згараюць
быццам трэскі
і цёплым дымам
ахінаюць вечар
і словы вымаўленыя
не табой не мною
а часам,
увасобленым
у іскрах.

Якая
аб'ектыўная рэальнасць
нам дадзена
між гэтых сноў зімовых,
чыя, скажы мне,
існасць ці няіснасць
прадвызначае
нашыя памкненні...

На музыкі
ашчадныя спружыны
кладуцца нашыя
узрушаныя целы
і спасцігаюць
кожны раз нанова
мелодыі
вяртання і сыходу.

Бясконцага вяртання
і сыходу
між парываннямі душы
дзе-небудзь затрымацца...

* * *

Сонца-леў
скочыла ў вогненнае кола.
Імгненне спынілася...

...І ўсе ільдзяныя сонцы
што зараз гараць
над пыльнай Нямігай
асветленай белым ззяннем
не слепяць вачэй
быццам хочуць сказаць: пара
сыходзіць у іншыя сферы
вось гэтым раннем
апошнім у гэтым годзе
і нават больш –
апошнім у гэтай ролі...
а можа і ў гэтым целе...

...абсыпалі снегам
з галінаў прамерзлых бяроз
і паляцелі галубкі
туды
дзе як сімвал
зімовай містэрыі
ззяе
паргелій.

* * *

Сказаць – каб быць пачутай?
Гэта важна?
Або сказаць, каб сказанае стала

набыткам
вуліцы дажджу дарогі
агнёў,
што ўспыхнулі
між туманамі...

Сказаць – навошта?
Ад таго, што словы
цяпер
нявыказанымі застануцца
не зменяцца ні шлях
ні далягляды
ні накірункі ліній
на далонях...

Тады – нашто?
Чаму ізноў спрабую
сказаць табе пра
тысячу адценняў
брутальнай восені,
пасля якой – раптоўна
для ўсіх памерці
і ніколі больш
не нарадзіцца...

Не аддаваць
ні гораду ні свету,
прайсці маўкліва
кропку незвароту,
не прагучаць.

Але пакінуць
ноту
святла,
якая будзе
паўтарацца...

* * *

Непераможная
вера туліпанаў
у магчымасць дасягнуць сонца
схапіць яго пасткай пялёсткаў
напоўніцца яго святлом
паварочвацца з ім
направа і налева
выцягвае іх шыі

да самых вышыняў
недасягальных жывой матэрыі

Стоячы на дыбачках
яны адчуваюць
магутнасць зямлі
пад нагамі
і музыку
што струменіць па іх целах
што гучыць
у асцярожных
кроках
ветру
і закручваецца ў спіралі
разам з лёгкім
водарам
цёплай глебы

Ах, сонца, ты даруй маё бяссілле
Я парастак, я птушкі крык слабы
Ты можаш нават абпаліць мне крылле
Ды толькі калі ласка не забі, –

шапчу ёй услед

Бо ўздымае нас вышэй і вышэй
непераможная
вера тюліпанаў

## ***ДАЖДЖЛІВАЕ ЛЕТА***

Па зямлі –
як па дне ракі,
рукі –
срэбныя плаўнікі
рассякаюць струмені вады,
і сонца
час ад часу ўзнікае ў палонцы,
што прабіла
праз хмараў ільды.

* * *

Кароль-алень
выйшаў з зараснікаў рапсу,
спыніўся і стаў глядзець на мяне,
а я ўявіла, што гэта можа быць ты,

толькі не зачараваны кімсьці,
а па сваёй добрай волі
з’яўляешся мне ў гэтым абліччы.

Пазнаць цябе загадкава нязвыклым,
ля возера зарослага на ўзлеску,
пазнаць цябе так небяспечна блізка,
што ўжо нікуды, толькі крок насустрач,
і па вільготнасці вачэй вішнёвых
чытаць твае ласкавыя намеры,
карміць з рукі малінамі і хлебам,
і паслухмянасці тваёй дзівіцца.

Пераламленне промняў і адбіткі
святла на твары, на кляновым лісці,
адкуль такая суперадчувальнасць
убачыць тое, што другім нябачна?
Я правяду цябе між паляўнічых
пад зорным небам да лясной хаціны
і па замовах старажытнай кнігі
вярну тваё звычайнае аблічча.

* * *

Калі я думаю пра цябе,
а ты пра мяне,
дзе сустраюцца нашыя думкі?

...падступная
шматназначнасць
беларускага “калі”...

* * *

...я згубіла белае пёрка ў белых снягах, калі
шукала ягады марошкі, якой ніколі не бачыла,
але чытала пра яе ў саамскіх казках...

...я згубіла шэрае пёрка на восеньскім узлеску,
калі застылыя хмызы раптам ператварыліся
ў казуляў і зніклі ў тумановых лагчынах...

...я згубіла чорнае пёрка, калі спрабавала запісаць
тваю гісторыю, а папера супраціўлялася,
рвалася і словы падалі ў шчыліны яе разрываў...

...я згубіла срэбнае пёрка, калі ўглядалася
ў балтыйскія хвалі, але маё адлюстраванне
болей не адпавядала майму настрою...

...я згубіла залатое пёрка, калі ляцела да цябе
праз хмарнае неба, а вакол мяне падалі
палаючыя рэшткі касмічнага карабля...

...цяпер маё крылле – вітраж з выбітымі шкельцамі,
у закінутай царкве, дзе ўсё яшчэ
адчуваецца прысутнасць святара...

...хто сёння піша маімі пёркамі,
можа быць ты?

### УЗДОЎЖ РАКІ

Хіба паэзія гэта толькі словы, толькі словы ці знітаванасць?

Я проста ішла, бо можна проста ісці, не спрабуючы
дасягнуць мэты, а спасцігаючы свет па-за межамі
ўласнай абмежаванасці.

І калі я спынялася, рукі, што нарэшце вырваліся на
волю з цемры пальчатак, лекаваліся травой і
дзьмухаўцовым пылком, а нахабныя галубы
падыходзілі зусім блізка і раскрывалі дзюбы ў
чаканні хлеба. Я садзілася на цёплы бетон і сачыла
за рухам парушынкі, якая не падала, а ўздымалася
ўверх, дзякуючы невядомай мне сіле. І гэта быў не вецер.

Я зразумела шлях ракі, і шлях высакавольтных ліній,
і мне здавалася, што я ў полі і за шэрагам металічных
вежаў бачу перспектыву.

Ісці і адчуваць на ўласным досведзе нелінейнасць
часу і прасторы.

Я бачыла вадаспады і дзяцей, што бегалі пад імі,
а пырскі ляцелі ў розныя бакі, і гэтая плынь, якая
падскоквала на камянях, ачысціла маю свядомасць,
мае вочы зрабіліся яснымі, а сэрца спакойным.

Я магла жыць далей.

Валеры Гапееў



...не адзін дзень

нам тут жыць...

# Пазл

***Фрагменты рамана***

## Фрагмент 1. Ніначка, 25 гадоў назад

Думка пра тое, што дзіця трэба забіць, не скаланула, не напалохала, адно ў душы замест пакутлівага “што рабіць?” узнік іншы клопат, практычны, таму зусім не страшны: колькі гэта будзе каштаваць?

Словы Верачкі, якія тая сказала наўпрост яшчэ пры ўладкаванні на завод: “Заляціш – глупстваў сама не рабі, звяртайся. Мая баба не адной дапамагла”, апяклі напачатку сваёй бессаромнасцю, бо мусова ставілі яе, цнатлівую дзяўчыну, у адзін шэраг з распусніцамі, а цяпер згадваліся з палёгкай і нават удзячнасцю. Верачка, старэйшая, бач, хутка даведалася пра жыццё, і ад пачатку хацела ёй давесці: выпадковая цяжарнасць – не такая і бяда, хоць і клопат немаленькі. Таму адкрылася Верачцы без лішніх разваг.

Якраз надарыліся выхадныя, і хоць аўтобуса ў той дзень не было, сабралася. Спадзявалася, пашанцуе. Не пашанцавала.

Нечакана падняўся вецер, халодны, працінаў наскрозь. Ды і не было чаго там было працінаць: куртачка кароткая, не зімовая, спаднічка вузкая і таксама кароткая, надзела, дурніца, тонкія калготы. Думалася, спадзе мароз, а ён узмацніўся.

Ля горада вецер быў не такім моцным, балазе, і пастаяла хвілін пяць, не болей. Пакуль ехала ў спадарожнай машыне да павароткі, забылася на холад, горача ажно было ў салоне. А выйшла з машыны на голы прастор – да самой вёскі, якая сіняй пасачкай на гарызонце, спрэс сівыя палі – аж захліпнулася ад калючага ветру, насычанага цяпер драбнюсенькімі снежнымі пясчынкамі.

І трох хвілін не змагла пастаяць на паваротцы – пайшла, спадзеючыся: нейкая машына нагоніць хутка. Забяруць, будуць ехаць, хіба першы раз? Вусцішна трохі, бо ўжо шарэе, па дарозе поўзаюць белыя пасмы снежнага пылу. Ды не было машын, праносіліся па трасе, не збочвалі. А вецер хапаў за ногі, лез пад спаднічку, біў наўскос, сляпіў вочы, мусіла ісці больш бокам, хаваючы твар.

Ніколі раней гэтыя чатыры кіламетры ад павароткі дадому не былі такімі доўгімі.

Заскочыла ў сенцы, дзверы ў хату расчыніла, застыла на парозе, не верачы ў рэальнасць хатняга цяпла. Маці спалохана глядзела на яе.

– Ніхто не падвёз?

Вусны закусіла, адмоўна пакруціла галавой.

Пераапранулася ў цёплае, мяккае, хатняе. На другой палове хаты ўціснулася ў куток канапы, спінай да цёплай грубы, піла невялікімі глыткамі прыгатаваны маці чай – пахла мятай і чаборам. Адказвала на простыя пытанні бацькі: як працуецца на заводзе, ці файна ў інтэрнаце, ці хапае грошай.

А думалася пра іншае. Пра што нельга было не думаць. Пра Віктара. Разумны, разважлівы, сур'ёзны хлопец – такім падаўся напачатку. З ім было лёгка і цікава: ён гэткі дасціпны, здавалася, на любое пытанне ведаў адказ. У цэху яго паважалі і жанчыны, і сябры-наладчыкі. Пасля арміі толькі, а разважаў па-даросламу: "Трэба сваё ўсё займець, ці хоць грошай мець дастаткова, каб бацькі не папракалі ні куском, ні кутком. А тады пра жаніцьбу думаць. Не маленькая ж... Ды табе колькі год? А мне? Нагуляцца трэба, каб потым не цягнула..."

Згаджалася – бо разумнае кажа. Гулялася – бо падабалася гульня, ды ў дадатак бацькі ягоныя ў адпачынак з'ехалі. Як было не падабацца такой "гульні ў гаспадыню"? Падабалася... Аж пакуль не заслала вочы ад адной навіны: затрымка ў яе. Раней па месячных можна было каляндар правяраць, дзень у дзень. Затрымка!

Канечне, Віктар разумны. Ёй усяго дваццаць – якое замужжа? А Віктару дваццаць два. Зарана весці размовы пра дзяцей. Ён хоча паступіць вучыцца, бо не рамантаваць жа ўсё жыццё станкі на заводзе. Таму і не рызыкнула адразу сказаць аб "залёце", адно спыталася: што рабіць, калі не ўсцерагуцца? "Сёння хіба праблема – аборт?" – здзівіўся Віктар, зірнуў, бы спыталася пра глупства нейкае, усім вядомае, як на дурнічку-вяскоўку, якая не ведае, навошта відэлец з нажом ля талеркі кладуць. Яна маўчала, а ён спытаў далей, са спалохам спытаў, і з раздражненнем – у ягоным жыцці з'явілася

прыкрая непрыемнасць: “Ты заляцела?” – адначасова ўскладаючы на яе ўсю адказнасць за іх “дарослыя гульні” і абвінавачваючы ў няўмеласці.

У яе не хапіла моцы адказаць, сцяліся вусны і слёзы неспадзявана выкаціліся з вачэй, а ён засіпеў: “Не раві! Яшчэ не хапала, каб суседзі пачулі...”

Яна пачала апранацца, адчуваючы неміласэрны зняважлівы сорам. Вінаватая ў сваёй цяжарнасці, дурніца-вяскоўка, голая ў чужой кватэры перад вачыма, якія раптоўна сталі чужымі. Спяшалася, дрыжалі рукі. Божа, як было сорамна ў тыя хвіліны.

Тры дні пасля той размовы не падыходзіў да яе станка Віктар, калі патрэбны ёй быў наладчык, то сябра пасылаў. Яна сама падышла, падабрала момант, як ён адзін застаўся ў кутку наладчыкаў, спынілася пакорліва, ціха прашаптала-паабяцала: “Я зраблю аборт...” А ён паціснуў плячыма, усё роўна як яго не тычыліся гэтыя словы: “Дык твая справа”. А плечы яго расправіліся ад палёгкі.

Маці нібы пачула думкі дачкі, дачакалася, пакуль бацька выйдзе ў сенцы пакурыць, падышла, грузна прысела.

– Як ты там? Ясі добра? Гатуеш ці ў сталоўцы грошы распускаеш?

– У нас сталоўка добрая. Там танна... Варым разам, на траіх.

– На прысмакі грошы не траць. Збірай. І купі сабе чаго, у нас вунь штаны шарсцяныя ёсць у магазіне, схадзі заўтра, бегаеш у калготах.

– Ды хапае ў мяне штаноў.

– Бачу, як хапае! А Зойчына з табой жыве цяпера?

– Жыве. Але мы ў розных пакоях.

– Глядзі, яна верціхвостка шчэ тая. Уся ў матку.

– Ды нармальна Верка жыве, яе брыгадзіркай паставілі, хваляць, – Ніначцы было крыўдна за сваю старэйшую сяброўку-аднавяскоўку, якая ёй па першым часе многа дапамагла, падтрымала ў інтэрнаце, ды і цяпер.

– Хваляць... Сёння хваляць, заўтра зганяць, то я не ведаю. Ты з хлопцамі як? Няма нікога шчэ? Ці ўжо гнаць самагонку?

– Ды не, – ціха адказала Ніначка. І сцялася ўся, як ад прадчування ўдару.

– То глядзі мне, – маці, пэўна, для большай вагі сваіх слоў узнялася, стала насупраць, вялікая, мажная, з моцнымі рукамі. – Як дазнаюся пра якое, пракляну, з хаты выганю.

І пайшла адразу, цяжка ступаючы па масніцах, а тыя пакорліва ўзрыпвалі.

Ад маці не схаваешся, ніяк. Сястра яе, цётка Паліна, ў раённай бальніцы гінеколагам. І калі на работу ўладкоўвалася, медагляд праходзіла, так не хацела Ніначка да яе на прыём патрапіць, ды тая (па ўсім – маці наказала) сама тады ў кабінет зайшла, маладзенькую доктарку замяніла. Ніначцы страшна не было, агідна больш: ужо не доктар, а цётка родная аглядае, маці пазней перакажа.

Цудоўна, што ёсць Верачка. Як прадбачыла, ужо ад пачатку адносін з Віктарам, папярэджвала: “Глядзі! Заляціш і праляціш! Яны такія”.

Бацька вярнуўся ў хату, прынёсшы з сабой сумесь рэзкага паху тытуню і свежага марознага паветра.

– Вецер не сціхае, нешта нарве за ноч.

Пад раніцу выпаў снег.

Ніначка ішла сцішанай, нібы перапуджанай нечаканай чысцюткай беллю, што звалілася на яе з неба, вуліцай. Амаль ніхто не трапляўся на шляху, дык і добра. І хата Вераччынай бабулі, старой Аксінні, блізка ля магазіна. Ніначка вырашыла – спачатку зойдзе ў магазін і возьме наказанага маці:

хлеба і батона, салёнай рыбы, кіло цукру, бацьку цыгарэт, мыла. А пасля пойдзе да знахаркі.

Сцяжынка да веснічак бабы Аксінні ляжала нечапаным пульхным палавіком. І радасна кальнула ў грудзях: значыць, нікога староннягa няма ў хаце, ні з кім не сустрэнецца.

Старая Аксіння, невысокая, тоўстая, грузна тупала па хаце сваімі нагамі-калодамі, абутымі ў самаробныя буркі з кароткімі халявамі. Сесці запрасіла да стала, так, каб святло ад акна падала на госцю. Свой твар наблізіла, зазірнула мокрымі чырвонымі вачыма ў вочы Ніначцы, прысела побач, цяжка выдыхнула.

– Во мне з-за вас якое мучэнне, – без абвінавачванняў, проста прагаварыла Аксіння. – Ногі баляць-баляць, сядзець-ляжаць не магу, бы выцягвае хто жылы жыўцом... Даўно? – спытала раптам.

– Што? – не зразумела, сцялася ад нечаканага пытання Ніначка. Пасля зачырванелася, ажно адчула жар на твары, апусціла вочы, прамовіла ціха, – Два месяцы. Затрымка два.

Папярэджвала яе Верачка: нічога старая пытацца не стане наконт таго, па што прыйшла, яна ўсё пабачыць, калі во такое дзела, жаночае... Ды ўсё адно сорам апёк.

– То не страшна, не страшна. Я табе дам, ды сама гатаваць будзеш. Не змагу нацерці.

Старая ўзнялася, цяжка соўгаючы ногі, накіравалася ў закутак ля печы, ад якой несла цяжкім, невыносна густым духам гарэлага тлушчу. Корпалася там з хвіліну, потым прынесла і паклала на стол нешта скручанае, бы пачварку якую засохлую.

– Ета корань такі. Ён памыты, не бойся. Патрэш на тарцы, дробненька. Цяжка ета, ды для сябе ж. Тады сталовую лыжку кораня ў слоік, кіпнем заллі. Далей во гэтага дадай, адну шчопаць, – Аксіння паклала на стол скамечаны цэлафанавы пакет, які быў завязаны вузельчыкам, а ў вузельчыку нешта чарнела, бы пыл які. – Хай ноч пастаіць. Пі раніцай і вечарам, па шклянцы. За тры дні павінна выгнаць.

Ніначка пасунула па стале руку, расціснула далонь, вызваляючы змакрэлую ад поту, складзеную ў чатыры столкі грашовую купюру (суму сказала Верачка). Старая без усякай ніякаватасці зачапіла паперку кароткімі тоўстымі пальцамі, разгарнула яе.

– Етага многа тут!

– Я яшчэ папрасіць хачу. Мне б адвароту якога...

– Не займаюся я такім! – выгукнула сярдзіта Аксіння. – І нашчо яно табе гэткае недалужнае? Думаеш, прываротам утрымаеш, то жызня будзе, га? – зірнула не з асуджэннем, а з мудрай перакананасцю ў вачах.

– Ды не, я не тое, мне не ўтрымаць, мне каб самой, забыцца, – зачасціла Ніначка, адчуваючы, як расце, падступае да горла ванітным камяком яе сорам.

Старая прысела поруч, паківала галавой.

– Я табе скажу, як яно з цябе выйдзе, то ўсё выйдзе. І нічога чуць не будзеш. Але ж калі баішся, скажу. Тое проста. Картка ягоная ў цябе ёсць?

– Ёсць, – кіўнула Ніначка.

– Дык от... Як яно з цябе выйдзе, ты картку да мёртвага прыкладзі, абы кроў засталася, а затым картку спалі... Шчэ слухай: зародка самога ў смецце не кідай, у зямлю пахавай. Ды не пад ногі, каб не тапталіся, і глыбей, каб сабакі не выцягнулі. На могілках лепей. Глядзі ж.

Ніначка адчула прыступ ванітаў, зразумела – не зможа далей вытрымаць ні хвілінкі, трэба хоць адзін глыток свежага паветра, падхапілася, схапіла са стала той корань і мяшэчак, сваю торбу з прадуктамі.

– Стой! – уладна спыніла яе старая, зноў шаркаючы, пацягнулася да прыпечку, вярнулася адтуль з вузельчыкам. – На, перадасі Верцы. Як хто папытае, так і скажы: гукнула Аксіння, яек унучцы перадаць. Бяжы... Хай неба табе спрыяе, дзеванька, – нечакана ціха, з прыдыханнем закончыла яна.

...Пашанцавала – у пакоі засталася адна, сяброўкі на начной былі. Мабыць, многа заварыла Ніначка таго кораня, ці шмат сыпанула тонкага цёмнага парашку – боль пачаўся на другія суткі, падняў яе сярод ночы. Пякучы, невыносны, бы нехта прасунуў у яе знізу, у сярэдзіну дручок з крукам, зачапіў за жывое і цягнуў, цягнуў так, ажно яна скручвалася ў абаранак, падцiскала пад сябе калені, ажно пальцы ног дробна ўздрыгвалі...

Скурчаная, паднялася, уключыла начнік, выцягнула падрыхтаваныя чыстыя анучы, апусцілася на калені. І тужыцца не давялося – разанула, ледзь стрымала крык, які рваўся з горла, захрыпела. І адчула – выйшла. Усё выйшла. Устала, у парадак сябе прывяла.

І толькі цяпер зірнула ўніз, пад ногі.

Маленечкі, у далонь памесціцца, чалавечак, бы лялечка дзіцячая, хіба чырвона-крывавы, як выразаны з кавалка мяса, са звыродлівай завялікай галоўкай. Зацкавана глядзела на тое, што жыло ўсяго суткі таму ў ёй, магло б вырасці. Падалося, ледзь-ледзь варухнулася, і яна жахнулася ад нечаканай думкі: яна зрабілася забойцам, забіла сваё.

Торгнула шуфляду ў тумбачцы, дастала маленькую – на пашпарт здымаўся – фотакартку Віктара, прысела на калені, апусціла яе асцярожна выявай да той чырвонай лялечкі.

Здранцвеўшы, глядзела на маленечкія ножкі, якія высоўваліся з-пад белага прастакутніка. Рука дрыжала, калі ўзялася за край карткі, пацягнула. А цельца тарганулася ўслед. Прыклеілася картка.

“І хай, і хай!” – нешта закрычала ў ёй, яна расціснула пальцы, абы не кранацца гэтага, крывава-чырвонага. Загарнула анучу, тую ў яшчэ адну, і яшчэ... Потым ляжала на ложку з гадзіну, бо заныў жывым болем ніз жывата. Пасля мыла падлогу, а як пачало віднець, апранулася, скрутак паклала ў торбу, выйшла з інтэрната і пайшла на могілкі.

Яна была там тры дні назад, выглядзела свежую магілу. Бо першыя маразы прыхапілі коркай зямлю, як выкапаеш ямінку? Праўда, нечакана пацяплела, прайшлі дажджы, і цяпер вось Ніначку за дзвярыма сустрэў цёплы вецер, моцны, роўны, бы плынь спакойнай ракі. Яна зарадавалася яго цеплыні і свайму рашэнню прыхапіць у апошні момант у кішэню палітончыка простыя нажніцы – імі будзе зручна капаць зямлю. Усё ж лепей, чым разграбаць нечую магілу...

Да могілак хвілін пятнаццаць ходу, спяшалася паспець да абуджэння вуліц. А вецер бы здурэў, пхаў у грудзі, жывот, ногі, бы жывое нешта, разумнае, стрымлівала, не пускала. Кожны крок рабіла, як у вадзе ішла. Ажно спынялася аддыхацца, адвярнуўшыся, бо ў тым ветру, здавалася, і не ўздыхнуць, загусцела ўсё там...

Ніякага страху не адчула перад могілкамі, адно хвалявала, ад аднаго тарахцела сэрца: каб жа ніхто не пабачыў. Нырцанула за веснічкі, пад густыя цені старых дрэў.

Раптоўна сцішэла. І сэрца больш не трымцела – так тут стала спакой-

на, быццам на роднае месца патрапіла. Прайшла да кута, які намеціла. Зусім супакоілася, калі пачала капаць зямлю, як рабіла сваю звычную з дзяцінства справу. Ужо добра развіднела, капаць нажніцамі было лёгка – тут было пясчана, рукам зусім не холадна.

Прысыпала яміну нарэшце, рукі абтрэсла. Ні хвалявання, ні ўзрушэння не было, толькі палёгка: вось і завяршылася ўсё добра, вось і мінуўся гэты чорны час двух месяцаў страху і безвыходнасці, калі не спала начамі, падвывала ў падушку, як заставалася адна. Вось і ноч страшная мінулася. Цяпер яна прыйдзе ў інтэрнат, у душ пойдзе. Доўга-доўга будзе стаяць пад гарачымі струменьчыкамі, намыльвацца і змываць пену. Яна змые з сябе ўсё: адчай і агіду, боль і разгубленасць, грэх і сорам.

І пачне жыць наноў. Чыстай, з чыстага.

Падыходзіла да інтэрната, заспакоеная, упэўненая ў кожным сваім кроку, сённяшнім і заўтрашнім, а ля самых дзвярэй драпнула, бы котка, дурэючы, кіпцюром – нечакана і востра – думка пра фотакартку Віктара, якую пахавала на могілках разам з ненароджаным дзіцем.

“І так спрацуе адварот”, – падумала-пераканала сябе, прыслухоўваючыся да сваіх думак-адчуванняў, якія маглі нарадзіцца ад згаданага імя хлопца. Не, нішто не варухнулася. Мёртва ўсё было ў душы.

На змену прыйшла, з Верачкай павіталася, і тая аб усім здагадалася:

– Якая ты бледная... Усё?

– Усё. Як баба Аксіння і казала.

– Глядзі ж, не лезь да яго болей, падыдзе, дык гані прэч, сволач такую.

– Ён мне ніхто... мяне баба навучыла. Я зрабіла.

– Чаму навучыла? – насцярожылася Верачка.

– Як адварот зрабіць... З карткай. Прыкласці яе і спаліць. Толькі я не спаліла, прыстала картка, а я разам закапала...

Вераччыны вочы спалохана акругліліся, яна прашаптала здаўлена:

– Ты картку з зародкам на могілках закапала? Ты ж Віктара на смерць выракла!

– Выжыве. Гэты – выжыве, – абыякава адказала Ніначка. Яе насамрэч не ўсхвалявалі нікольк і словы сяброўкі, адно лянотна падумалася: чаго яна расперажывалася?

## Фрагмент 2. Клешч

Яму пачало шанцаваць, калі ён быў яшчэ яйкам. Ягоная маці, удосталь насмактаўшыся крыві на бадзяжным сабаку, пругкай крывава-чорнай ягадзінай упала якраз у гэтым куце могілак, на кавалачку рыхлай зямлі. Бадзяжны сабака быў прыпыніўся тут – тонкім нюхам учуў пад адталай зямлёй неглыбока закапаную гніючую плоць. Грабануў колькі разоў лапамі, але ўвагу яго адцягнуў іншы пах – востры і прызыўны, што імгненна абудзіў звярыны юр. Сабака задраў морду, пацягнуў носам паветра, пачуў у густым кустоўі на могілках глухое бурчанне і прыцішаную грызню – там сабралася гайня вакол адной сучкі. Яе першая ў жыцці цечка напаўняла старыя могілкі даўкім водарам.

У гэты момант кляшчыха і адчапілася ад скуры, выкараскалася з поўсці і ўпала ў згрэбеную сабачай лапай кучу зямлі і прэлай лістоты. Унутры цела кляшчыхі пачалося імклівае таямнічае пераўтварэнне крыві ў яйкі – сабачая цёплая сутнасць павінна была даць шанец працягу роду.

Адно з нованароджаных яек упала і скацілася глыбей у ямінку, зробленую сабачымі лапамі.

Калі клешч нарадзіўся і стаў німфай, ён, разбуджаны цяплом сонца, выбіраўся наверх, караскаўся па якой травіне, што гэтаксама, імкнулася ўверх. Можа, той самы сабака ў нейкі год прылёг адпачываць у гэтым зацішным кутку могілак. А можа, зусім іншы. Ды якая розніца, чыю піць кроў, бо трэба менавіта кроў – гарачая, густая, якая ўрываецца ў цябе і імкліва мяняе тваю сутнасць. Кляшчу хапіла гадзіны, пакуль спаў сабака, увабраць у сябе столькі крыві, каб пасля ўпасці, закапацца ў травяную подсцілку і пераўтварыцца з німфы ў дарослага кляшча.

Потым былі многія гады голаду. Зрэшты, клешч не ведаў нічога і пра час: яго абуджала вясенняя цяплынь, ён выбіраўся са сваёй неглыбокай схованкі, марудна поўз па сцяблінцы наверх, чапляўся нагамі, каб не быць здзьмутым ветрам. І чакаў. Чаканне і было яго жыццём. Ён не разважаў, ці спраўдзяцца некалі яго спадзяванні, і паўз яго пройдзе жывая істота, набліжэнне якой ён адчуе па воблаку цеплыні. Тады ён падрыхтуецца: напружыніць кароткія ножкі, выставіць наверх пярэднія лапы з учэпістымі кіпцюрыкамі. Магчыма, яму трэба будзе скочыць. Магчыма, ён прамахнецца. Клешч нічога не ведаў і пра верагоднасць. Ён проста жыў. Жыў чаканнем. Чаканне было сэнсам і сутнасцю.

Гэтым летам клешч пачуў рэзкую трaскатню нейкіх механізмаў. У кляшча быў слабы зрок, у мроіве цёплага паветра ён бачыў мужчыну, які механічнай касой скошваў траву на могілках. Рухі мужчыны былі раўнамерныя – туды-назад. Уздрыгвалі і падалі долу тысячы сцяблінак, на сотнях якіх, верагодна, сядзелі ў насцярожаным чаканні іншыя кляшчы. Ім не пашанцавала – яны ўпадуць долу і не змогуць больш падняцца над зямлёй на якую вышыню, каб учапіцца хоць бы за мышыную поўсць, калі шэранькая імкліва і насцярожана будзе аббягаць свае сцежкі.

Гучная трaскатня і смуродны пах былі бліжэй і бліжэй, клешч ужо адчуў гарачую вонкавую абалонку чалавека, як раптоўна сціхла.

– Тваю маць... – без асаблівай злосці вылаяўся чалавек. – Ну і халера яго бяры.

І на могілках зноў запанавала цішыня.

Невялічкі зацenены куток застаўся няскошаным.

## Фрагмент 3. Віктар

Віктар Анішчук любіў, калі ў якога багатага на грошы заказчыка жонка пачынала праяўляць не проста цікавасць да праекта будучага дома (тое рабілі практычна ўсе жонкі), але і капрызлівую патрабавальнасць. Напачатку сваёй практыкі ён ледзь стрымліваўся, хаваў старанна грэблівую ўсмешку, спрабуючы ўкласці самымі простымі словамі ў бялявую жаночую галоўку хоць якія асновы пра нясучыя сцены і прапорцыі, каб стрымаць дзіцячыя фантазіі. Ды цягам часу зразумеў: капрызныя будучыя гаспадыні давалі важкі прыварак. Цяпер Віктар цярпліва выслухоўваў падобных жанчын, імкнучыся захаваць на твары зацікаўленасць і сваю гатоўнасць унесці змяненні ў праект, пасля ўздыхаў:

– Разумею, разумею... Але ж гэтыя рашэнні ў пэўнай ступені зробяць праект больш дарагім... Бо трэба пералічваць...

– Пералічвайце, – зазвычай ставіў кропку ў падобных сітуацыях гаспа-

дар, які ці то з млявасцю пазіраў на раскладзеныя паперы і слухаў размову жонкі з архітэктарам, ці то лянiва курыў убаку за астылым кубкам кавы. – Не адзін дзень нам тут жыць...

Асаблівы азарт у такіх жанчын выклікала карцінка ў 3Д фармаце на маніторы. Віктар некалькі месяцаў ахвяраваў на дасканалае вывучэнне і авалодванне праграмай 3Д-мадэлявання, цяпер з лёгкасцю мог перастаўляць мэблю і лесвіцы, дзверы, устанаўліваць ці зmяшчаць перагародкі, мяняць памеры акон прама перад вачыма заказчыкаў. Тады ажыўляўся і гаспадар, часам жонка з мужам горача спрачаліся. Віктар адно пасміхаўся ў думках: па ранейшай дамоўленасці такое папярэдняе мадэляванне аплачвалася па гадзінах занятасці.

Апошні праект, дзе ўсё ад пачатку залежала ад хударлявай жанчыны гадоў трыццаці, з шырачэзным, ды такім худым і плоскім тазам, ажно косткі тырчалі з-пад джынсаў, літаральна вынес Віктару мазгі. Сям'я была з прыезджых. Ліля, так звалі жанчыну, толькі з уваходамі вырашалася з тыдзень. То ёй трэба два ў супрацьлеглыя бакі, то раптам адзін, то паварочвала дом адносна вуліцы. У яе было безліч часопісных старонак з карцінкамі дамоў, іх унутраным убраннем, і яна ўсё перабірала і перабірала варыянты. Яе муж, такі ж хударлявы, маўклівы, адно пацягваў піва ў цяньку і ківаў згодна і моўчкі галавой, калі яна хапала ноўтбук і бегла да яго: "Арцёмчык! Я вырашыла – будзе так!" У Віктара здавалі нервы, ды ў каго не здадуць, калі ўжо амаль гатовая палова праекта была асуджана на месца ў сметніцы, бо Ліля нечакана вырашыла ўвогуле змяніць памеры жытла і яго прапорцыі. Цярпенне было ўзнагароджанае – у канторы гаспадары атрымалі нарэшце альбом з праектам, Віктар – канверт з абумоўленай даплатай "за цярпенне і разуменне", як патлумачыў гэты самы Арцёмчык, да якога Віктар урэшце пачаў ставіцца з разуменнем і сімпатыяй.

Антаніны, жонкі, дома не было. Паклаў на тумбачку жонкі канверт з атрыманымі далярамі. Хацеў ужо званіць жонцы, бо ж дзіўна, дзве гадзіны таму павінна была б быць у кватэры, і не тэлефанавала ж, але тут пачулася бразганне ключоў з таго боку дзвярэй.

Віктар сустрэў жонку ў вітальні, чмокнуў у шчаку.

– Як дзень? Ты б патэлефанавала, я б заехаў за табой...

– Ат, не перажывай... не думала, што так затрымаюся, – казала Антаніна з лёгкай стомай, па сваёй звычцы распранаючыся тут жа, у вітальні, да трусоў, потым нацягвала доўгую цішотку і так праводзіла рэшту вечара: з высока аголенымі нагамі. Гэта як Максім з'ехаў на вучобу, з'явілася ў яе такая звычка. Віктар любіў гэтыя моманты пераапранання жонкі. У свае сорак яна не абрасла тлушчам, як некалі паправілася крыху пасля цяжарнасці і родаў, такой і заставалася два дзясяткі гадоў: з невялікімі, прыгожай формы грудзьмі, круглым высокім азадкам і доўгімі, хвалююча-прывабнымі для Віктара нагамі з маленькімі пяшчотнымі ступнямі.

– Зноў які семінар? Галодная? – запытаўся Віктар.

– Не семінар... Ага, дастань там расольнік, разагравай, – Антаніна прайшла ўслед за мужам на кухню, прысела на канапку. – У райвыканкаме былі... Восенню ж выбары, зноў мяне ў камісію, намеснікам, – закончыла кісла.

– Не перажывай, адбудзеш, не першыя ж. Ды і заплацяць, капейка не лішняя.

– Ат, ведаеш... Як агідна бывае. Усё гэта бачыць ды яшчэ рабіць і за тое грошы атрымліваць. І вось не разумею, ніяк не разумею, – нервова стала

казаць Антаніна: – Ніхто ж нічога не пералічвае, нікому тыя бюлетэні не паказваюцца. Самі там агучваюць лічбу, якую трэба. Дык навошта нам, тут, на месцах падробліваць, які сэнс? Каб запэцкаць, каб маўчалі? Невыносна...

– Ну, не ты, дык іншыя, – паспрабаваў супакоіць Віктар жонку. – Грошы не пахнуць, казаў адзін стары рымлянін, – рагатнуў, пабачыў, што яна не ўсміхнулася, дадаў цвёрда: – Ад цябе, і ўвогуле ад нас, нічога не залежыць. Размаўлялі ж на гэтую тэму.

– Дурніца была, трэба было ў першы раз адмовіцца наадрэз, – не супакойвалася Антаніна.

– Ат, не бяры да галавы, здаравей будзем. І як было адкруціцца, калі на катэгорыю здаваць сабралася? Яны ж умеюць так прапаноўваць, каб не адмовіўся. Давай не будзем пра сумнае, пра тое, чаго нам не змяніць.

Віктар, быццам адчуваючы нейкую сваю правіну за настрой жонкі, стаў наліваць расольнік сам у талеркі, дставаў смятану, лыжкі, рэзаў хлеб.

– Я вось здаў праект нарэшце! – радасна гукнуў ён, зрабіўшы ўсё. – Там на тумбачцы... Ох, і дастала ж мяне дзявуля. Затое – цярпеў не дарэмна. Усё, у суботу едзем глядзець хату. Глянецца табе – купляем. І заліваем на ўчастку фундамент...

Ад гэтай навіны, згадкі пра іх дом, марай пра будаўніцтва якога яны жылі апошнія дзесяць гадоў, твар Антаніны пасвятлеў. Яна адкінулася на спінку канапы, уздыхнула з прыдыханнем:

– А Божачкі, хутчэй бы! Так хочацца туды...

Участак пад будаўніцтва яны купілі год назад.

Сваю кааператыўную двухпакаёўку пабудавалі, калі сыну споўнілася пяць. Антаніна была з вёскі, яе любоў да зямлі напачатку выяўлялася праз незлічоную колькасць хатніх кветак, якімі былі застаўлены ўсе падвоканні, потым яна пачала асцярожна пытацца ў мужа пра набыццё дачы. Мабыць, купілі б, ды Віктар на той час перайшоў у аддзел прыватнай забудовы – у райцэнтры нарастаў бум будаўніцтва, на ўскраіне горада паўставалі новыя дамы, нібыта спрачаючыся між сабой арыгінальнасцю, велічынёй і дарагоўляй. Віктар, распрацоўваючы на заявах праекты, адчуваў напачатку ціхую зайздрасць, непрыкметна для сябе ў вольныя хвілінкі пачаў рабіць накіды дома. Свайго. Вось каб была магчымасць...

І наступным разам, калі Антаніна зноў распачала гутарку пра набыццё дачы (не, яна не канючыла, марыла ўслых, цалкам усведамляючы іх рэальнасць: выплаты па крэдыту за кватэру, адсутнасць аўтамабіля, сваю невялікую зарплату), Віктар выклаў перад ёй эскізы.

– Навошта нам дача? Цяпер у нас заказаў – не паспяваем. І "левыя": зарабляй – не хачу. Ловяць ля дзвярэй, тэлефануюць... Давай пачнём збіраць. На будаўніцтва свайго дома.

Антаніна тады кінулася яму на шыю – ён угадаў яе сапраўдную мару.

Потым была інфляцыя, выплаты па крэдыту год ад году мізарнелі. Адмовіліся ад штогадовых паездак на мора. Антаніна атрымала вышэйшую катэгорыю, брала класнае кіраўніцтва, рыхтавала вучняў да экзаменаў (крадком, рэпетытарства не афармляла), ад зімы да лета яна зарабляла добрую суму. Нельга сказаць, што яны адмаўлялі сабе ва ўсім дзеля будучага жытла, але прывыклі жыць ашчадна. Мэбля, купленая яшчэ пры засяленні ў кватэру, спраўна служыла другі дзясятак гадоў, сына ўгаварылі паступаць не ў сталічнае ВНУ, а ў недалёкі абласны цэнтр, на бюджэт. Дый інтэрнат ён там дакладна атрымліваў. Пакуль былі жывыя, тады-сяды

дапамагалі бацькі абоіх. Неўзабаве, праўда, Віктар пахаваў маці, а праз год бацьку. Кватэра засталася ягонай сястры, ён атрымаў пэўную суму за пакой. Сястра хутка прадала кватэру, з'ехала за мужам у Расію. Ад цешчы ў апошнія гады помачы не было: на яе шыі сядзеў малодшы сын, якога выгнала з дому жонка за п'янства і лайдацтва. На цешчу, хваравітую худзенькую жанчыну, якая пастарэла неяк раптоўна пасля нараджэння ўнука, Віктар ніколі надта не разлічваў – яна жыла без мужа. Той загінуў у лесе. Як заўсёды, зімовай раніцай, выпраўляючыся па дровы, хапнуў тры чаркі самагонкі, ездзіў заўсёды адзін. Яго знайшлі пад тоўстым бярозавым камлём. Верагодна, нёс на плячы ды спатыкнуўся, упаў, а камель той зверху – і па шыі. Каб з некім быў, то хоць калекам, ды жыў бы далей, а так – замерз. Хоць ці было б лепей? Бо хапіла Аксінні, ягонай жонцы, за не такое і доўгае замуства ўсяго: і бітая хадзіла, і начавала ў хляве ля каровы, і хлеба ў людзей пазычала дзяцей пакарміць, бо як пачынаўся запой – тыдзень чорнай бядой накрывала хату...

Апошнія гады ціхамірнасці, адсутнасць сына, добрыя заробкі абаіх (штомесяц папаўняўся іх валютны рахунак) і, галоўнае, новая сапраўдная мара пра свой дом вярнулі ў сям'ю юнацкую бесклапотнасць: Віктар як наноў закахаўся ў сваю жонку, а яна, імгненна ўлавіўшы ў яго настроі ўзрослую пачуццевую цікавасць да сябе, вяла сябе калі дурасліва, калі амаль распусна (канечнеканечне, сам-насам з мужам), абуджаючы яго жаданні і свае. Ніколі больш не апранала ў кватэры стары халат – была ці то ў доўгай цішотцы і ў трусіках па вечарах, ці то ў кароткай маечцы і ў цеснаватых шортах. Тады ж яны набылі аўтамабіль, няхай і не новы шыкоўны, ды патрэбны цяпер: сына праведаць ездзілі, затым заязджалі, як надвор'е дазваляла, у які лясок, далей ад дарогі, проста перакусвалі, а было і кахаліся ў аўтамабілі ці пад бярозкамі, смяяліся з сябе – быццам не было ім месца. Папраўдзе, дык да вяселля і пасля, як здараўся ў іх секс, то толькі ў кватэры на ложку. І вось нібыта паспрабавалі таго, што было і сорамным, і смешным, і такім прываблівым сваёй гарэзлівасцю і рызыкай.

Усё гэта разам з запланаванай будоўляй свайго дома вярнула іх назад, калі яны яшчэ пачыналі жыць разам, але ж тады і планавалася зусім не так грунтоўна.

– А дзе наш малады спецыяліст? – спытаў Віктар, сабраўшы посуд у ракавіну.

– Во буду тэлефанаваць, – Антаніна пацягнулася па тэлефон – за пяць гадоў вучобы сына яна прывучыла і сябе, і яго да часу тэлефанавання: штодня ў восем вечара. – У абед званіў, казаў, праходзіць медкамісію.

Яна набрала сына.

– Сыночак, як твае справы? Дзе ты гуляеш, галодны зусім?... Малайчынка... Заўтра апошні?.. Вой. А куды далёка?.. Ой, глядзі там, Максімка, не жартуй... Веру, канечне, я цябе ведаю, ты разумны і адказны ў нас, я цябе вельмі люблю... Так, і таму хачу, каб усё было добра... А да нас у госці збіраецеся?.. Дабранач...

Адключыла тэлефон, зірнула на Віктара з лёгкай трывогай у вачах:

– Заўтра апошняга ўрача праходзіць, з таго тыдня на працу. А зараз едзе на лецішча. Ягоная Наташка запрасіла. Там бацькі яе адпачываюць, у іх водпуск, вось і прапанавалі дзецям.

– Дык чаго ты непакоішся, дурнічка? – засмяяўся Віктар. – Усё ж нармальна.

– Бо дурнічка, – паціснула плячыма Антаніна. – Вырас сын. Сказаў, сярод наступнага тыдня нейкім вечарам прывядзе яе да нас. Пазнаёміць.

– Значыць, трэба хутчэй будаваць дом!

– Пакуль мый посуд, твая чарга!

– Я помню.

Віктар выціраў рукі, Анатніна зайшла ў кухню з тым самым канвертам, які ён пакінуў на яе тумбачцы.

Пяшчотна абхапіла Віктара за шыю, пацалавала.

– А мой ты работнічак! – адхілілася, не размыкаючы рук. Зазірнула ў вочы, гулліва схіліла галаву набок: – А між іншым, сёння ў нас з табой першая пасля двух тыдняў ноч, калі мы нечакана засталіся адны.

Прасунула далёка сваю голую нагу між ног Віктара, прыціснулася гнуткім целам.

– Я так засумавала...

## Фрагмент 4. Ваенкам Фёдар Тарасенкаў

Фёдар Тарасенкаў, раённы ваенны камісар, баяўся вышыні. І цяпер, укладваючы дошкі на столі, адчуваў гідотны страх, пад каленямі несупынна трымцела.

Знізу пачуўся тупат дзіцячых ног – у пакой забеглі яго дачушкі-блізняты.

Страх Фёдара раптоўна выплюхнуўся грозным крыкам:

– Чаго бегаеце тут? Каму сказана было не з'яўляцца ў доме, пакуль я наверсе?!

І пасля зірнуў уніз.

Дзяўчынкі стаялі. Яны баяліся бацькавага крыку, былі прывучаныя слухацца кожнага яго слоўца. Так, бацька ім казаў, як прыехалі на лецішча: унутр не заходзіць, пакуль ён працуе.

– Татачка, нам толькі планшэт падзарадзіць, – гатовая вось-вось расплакацца, сказала адна з сясцёр. Да свайго сораму, Фёдар часта блытаўся да гэтай пары ў дзяўчынках: хто з іх Даша, хто Маша. Загадаў раней жонцы абавязкова купляць розныя апранахі. А гэтыя неслухі займелі звычку апранацца хто ў што. Ім усяго па пяць, а тут, бачыш, справядлівасць нейкую адчулі: каб усё было калі не аднолькава, дык па-роўнаму. Сёння адна носіць чырвоны каптурок, а другая памаранчавы, а назаўтра памяняюцца...

– Адставіць! – гаркнуў зверху на дзяцей Фёдар. – Бягом марш на газон!

Не толькі вышыня псавала настрой – не хапала дошак. А яшчэ ж шукаць брусок на абшыўку... А ў швагра Васіля праз тыдзень адпачынак, вось зладаваў бы ўсё наверсе, падбілі б знізу столь – гатова амаль! Год дамок без мансарды... І не купіш жа! Жонка наадрэз адмовілася выдаткаваць хоць колькі грошай на лецішча на гэты год: "Усё, ні капейкі больш не дам! З-за нейкага дамка я не паеду на мора? І дзецям ты абяцаў – у гэтым годзе!"

І не дасць. Расходы распісаныя на шэсць месяцаў наперад (што праўда, ваенкам "вёў двайную бухгалтэрыю" – частку грошай ад жонкі прыхоўваў на розныя свае мужчынскія патрэбы). І дочкам сапраўды абяцаў – яны паедуць з маці ў Крым. Жонка нарадзілася там – дачка вайскоўца, і штогод, часцей адна, бо не супадалі адпачынкі, ездзіла ў Судак, Кактэбель, які іншы горад – па чарзе. Гады тры назад была зазбіралася куды ў Еўропу ці ў Турцыю, але тут Крым адхапіла сабе Расія. Жанна, прыпадаючы да

тэлевізара ў час апошніх навін аб тых падзеях, забывала пра існаванне нечага іншага ў кватэры, хціва падавалася наперад, уціскала свае фарбаваныя кіпцюрыкі ў далоні, вусны варушыліся ў бязгучным: “Крым наш! Наш Крым...” Ніколі не бачыў такой радаснай жонку, як ад гэтай навіны. Ён, папраўдзе, падзяляў яе радасць – няма чаго гэтым хахлам выёжвацца, бач, у НАТА захацелі, ды як ваенны бачыў сур’ёзны канфлікт і стрымліваў сябе ў жаданні нешта большае патлумачыць жонцы: баба ёсць баба, геапалітыка – не яе розуму справа...

Мусіў злазіць.

Жонка ляжала ў гамаку, што чапляўся адным канцом да вугла дома. Штораз, калі яна ўкладвалася туды, Фёдару падавалася, што дамок натужліва ўпіраецца – Жанна была не з худзенькіх, да таго ж высокая і шырокая ў косці. Дзяўчынкі сядзелі на падкошаным газоне, пабачылі бацьку, падхапіліся:

– Татачка, дазволь уключыць на зарадку планшэт!

– Дазваляю, – без усмешкі, строга адказаў.

Дзяўчынкі пабеглі. Фёдар зірнуў на жонку – яна заплюшчыла вочы, мабыць, драмала. Скіраваўся ў альтанку, якую нядаўна прывезлі і склалі за дамком. Ён любіў тут сядзець і павольна пацягваць піва – гадзінамі. Бо сама альтанка – то яго ўменне дамаўляцца.

Ад дарогі пачуўся сухі шоргат шын і замёр. Фёдар з лёгкім раздражненнем адставіў убок бляшанку піва, якую намерваўся адкрыць, устаў і пайшоў насустрач госцю – у веснічкі заходзіў галоўны інжынер лясгаса.

Кіраўнікоў прадпрыемстваў раёна і іх намеснікаў ваенны камісар павінен ведаць, і Фёдар ведаў: да заняткаў па тэрытарыяльнай абароне ён ставіўся з усёй сур’ёзнасцю ваеннага і патрабаваў таго ж ад кожнага, хто меў пэўныя абавязкі.

– Не перашкоджу адпачынку? – парукаўся галоўны інжынер, пабачыў, як прыўзняла галаву ў яго напрамку жонка ваенкама з гамака, павітаўся з ёй: – Добрага дзянёчка! Перапрашаю за неспакой, на хвілінaчку вось. Маё ж лецішча там вунь, – махнуў рукой некуды за лясок, які клінам уразаўся ў дачны пасёлак. – Суседзі.

Жанчына села, папpавіла валасы, з гуллівай усмешкай павіталася ў адказ:

– І вам добры! Заходзьце, калі суседзі! А то нешта сумнавата тут...

– Тады давайце да нас праз гадзінку! А то і мая сумуе адна, грады надакучылі... Вогнішча, мяска і пад мяска, – прапанаваў ён як добрым сябрам. – Дамовіліся?

Сярэдняга росту, каржакаваты, з невялікім пузам, ён упэўнена стаяў на дарожцы, быццам рос з яе. І хоць пастава яго побач з падцягнутым ваенкамам прайгравала ў стройнасці, ды было ў ёй гэтулькі энергіі, нечага здаровага, мужчынскага, што ваенкам удаваў на абструганае бервяно побач з няхай і не вельмі роўным, затое жывым, моцным дрэвам. Падабенства дадавала і гаворка: хуткая, смелая.

– Феда-ар! – з дакорам працягнула жонка ваенкама. – Ты б хоць пазнаёміў...

– Так, вінаваты, – замяўся на момант той. – Мая Жанэта, – сказаў да галоўнага інжынера, а той ужо сам, зрабіўшы два крокі да гамака, кіўнуў галавой, быццам пакланіўся: – Аляксандр!

І ўжо цяпер, бы на праве блізкага сябра, агледзеўся вакол гаспадарскім вокам.

– Добры ўчастак! Вось, адразу відаць, лецішча для адпачынку. Тры градкі на агурочкі-цыбульку, і хопіць! Разгорнуць усю зямлю пад бульбу, а як пасядзець з чарачкай, дык лезь у куст парэчак у цянёк. І дамок акуратны які...

– Ды работы тут многа, – адгукнуўся Фёдар. – Зазірнём, як цікава.

– Ага, мне заўсёды цікава, як хто будуе, сам колькі я такіх склаў! – ажывіўся яшчэ больш галоўны інжынер.

Зайшлі ў дамок, дзяўчынкі сядзелі на канапе з планшэтам.

– Дзеці! Пабеглі пагуляць! – коратка загадаў Фёдар, дзяўчынкі спахапіліся, выбеглі.

– Ай, якія прыгажунькі, – паспеў крануць галоўкі абедзвюх Аляксандр. – Вечарам да нас да лецішча прыходзьце, у лесе гняздо птушынае пакажу! – І задраў галаву: – Харошы варыянт, харошы, – ухваліў убачанае. – Агульны пакой-сталоўка знізу, пакойчык для палкіх ночак наверсе. Лесвіца акуратна стаіць, бач, не замінае і шкапік пад ёй... Файна! Крышку засталося.

– Гэтае “крышку” на трэці год адкладаю, – не ўтрымаўся, прызнаўся Фёдар, раптоўна адчуўшы ў гэтых агледзінах прыхаваны сэнс, магчымую выгаду для сябе: не проста так прыпыніўся галоўны інжынер ля іх, мае нейкую патрэбу. – Трэба дошкі, трэба брусок на абшыўку, ды бач, усё ўперлася ў фінансы. А ў цябе, думаю, справы нейкія да мяне?

Ён звяртаўся да ўсіх цывільных выключна на “ты”, нават намесніку старшыні райвыканкама, які быў старшынёй прызыўной камісіі, “тыкаў”, і гэта нікім не аспрэчвалася, прывыклі быццам.

– Ці было так, каб мы жылі і клопатаў нейкіх не было? – з лёгкай гарчынкай адгукнуўся інжынер. – Тут такая справа, браце... На нарыхтоўцы аператар Харвестара нагу падвярнуў моцна. Які аператар, золата хлопец! Зараз падмену знайшоў яму, ды цямця-лямця такі, няўклюда і няўмека, дрэў баіцца, план ні разу не даў, а тут пастаўкі на экспарт. І на табе: учора другі аператар прыходзіць, Сярожка Кошаль, павестка ў руках. Кажа, заўтра пакуль не бяруць, але павестку выпішуць і неўзабаве забрыюць. Фёдар, выручы, дай хлопцу да восені адтэрміноўку! – ён глядзеў у твар ваенкама з чаканнем згоды.

Ваенкам не здзівіўся. Не раз было падобнае, праўда, кіраўнікі зазвычай прасілі не забіраць спецыялістаў у “партызаны”, дый не проста прасілі.

– Атрымліваў Кошаль адтэрміноўку раней?

– Была, – нехаця прызнаўся інжынер. – Дзіця якраз нарадзілася, той восенню.

– То шанцаў амаль няма, – суха вымавіў Фёдар.

Прамоўленае ім “амаль” надало інжынеру смеласці, і ён заўсміхаўся па-змоўніцку.

– Дык пашукаць можна той шанец, га? – і загаварыў наўпрост: – Слухай, пакінь мне хлопца на паўгода, за дзве гадзіны ў цябе і два кубы дошак будзе, і бруска куб, і яшчэ шалёўкі закінуць хлопцы на цяплічку. Свае ж людзі, разлічышся пазней, як будуць грошы. Там і зніжка нейкая будзе. Ну?

– Варта падумаць, – пакусаў вусны ваенкам, а ў душы ягонай грала музыка.

– Ды якія тут думы, – зноў заўсміхаўся інжынер, дастаў мабільны тэлефон, загаварыў уладна: – Пятровіч, давай тэрмінова. Я зараз на лецішчы. Значыць, закіньце да Мазура куб саракоўкі абрэзанай, глядзі, каб сухой.

Пяцёрка брусок, куб, шалёўкі трохі дадайце... А дзе Мазур? Сам садзіся за руль, маць вашу. Кіруй да мяне прама. Усё, чакаю! – сунуў тэлефон у кішэню, павярнуўся да ваенкама: – Гадзіна-паўтары, і ўсё будзе на месцы. Значыць, дамовіліся, так?

– Калі так, то неабходна ратаваць прадпрыемства ў плане выканання экспартных паставак, – без усмешкі адказаў ваенкам, працягнуў руку. – Зробім. Хай заўтра прыйдзе раней твой рабочы і зойдзе да мяне перад агульным зборам.

– Не пытанне!

Назаўтра на зборы прызыўнікоў настрой у ваенкама быў добры: з'явіліся ўсе выкліканыя, такім чынам, замяніць спецыяліста Харвестра з лясгаса ў яго было кім, каб забяспечыць патрэбную лічбу прызыўнікоў без дадатковых пошукаў. Маладыя хлопцы, некаторыя ўжо і падстрыжаныя пад нуль, адгукаліся на свае прозвішчы, выходзілі да стала, атрымлівалі позвы, распісваліся. Гучалі звычайныя саленаватыя жартачкі. На гэтай працэдуры ваенкам дазваляў такое расслабленне.

– Анішчук Максім Віктаравіч! – гукнуў спецыяліст па прызыву.

Названы – высокі чорнавалосы прыгажун – падняўся з разгубленым тварам.

– А гэта... У мяне ж адтэрміноўка да восені, таварыш капітан, – загаварыў ён да ваенкама.

– Раней пойдзеш, раней прыйдзеш, – адказаў за ваенкама спецыяліст. – Падыходзь, распісвайся.

– Я ж адно на працы пачаў больш-менш у курс уваходзіць, бо перавялі былі...

– Выдатна. Значыць, будзе куды вяртацца. Рабочае месца забяспечана, – умяшаўся, суха пракаментаваў словы юнака Фёдар Тарасенкаў, дадаўшы строга: – У цябе няма законных падстаў для адтэрміноўкі. Закончылі размовы. Будуць пытанні – на асабістым прыёме заўтра. Толькі раю не траціць час. Праз чатыры дні быць у 9.00 тут для адпраўкі. Гэта ўсіх тычыцца, я яшчэ скажу.

Пасля ўсіх, хто атрымаў на рукі позвы, павялі няроўным строем у гарадскі Дом культуры – там былі традыцыйныя выступленні намесніка старшыні райвыканкама, ветэрана і святара. Нейкі сяржант з войска, мінулагодні прызыўнік, хаваючы вочы, казаў блытана пра тое, як добра быць салдатам.

## Фрагмент 5. Віктар

Жонка патэлефанавала Віктару якраз у той момант, калі ён абмяркоўваў з чарговым заказчыкам магчымасць "зрабіць дзешавей" праект: ён робіць усё як прыватная асоба, а не як архітэктар канторы, перадае ім, яны прыносяць гатовы праект на ўзгадненне – вось іх выйгрыш. Канечне, і яго, Віктара, заробак, ён не хаваецца, кажа праўду. Такія моманты былі для Віктара заўсёды непрыемнымі, напружанымі, хоць і далёка не першы раз ён рабіў такія прапановы. Людзі ж розныя сустракаюцца. Таму "скінуў" званок ад жонкі. Пэратэлефанаваў праз чвэрць гадзіны.

– Максіму выдалі павестку! – адразу выгукнула Антаніна.

– Якую павестку? – разгубіўся ён.

– У армію! Яго забіраюць праз чатыры дні. Яму ж абяцалі адтэрміноўку

да восені, трэба званіць у ваенкамат, яны нешта наблыталі! – зачасціла Антаніна.

– Чакай, чакай, Тонечка, супакойся, – усё зразумеў Віктар. – Максім жа казаў, быццам яму на словах толькі паабяцалі, пакуль уладкуецца. Яго ж мінулай восенню маглі забраць, сама ведаеш. Дык ці рана, ці позна...

– Але ж маглі папярэдзіць раней! Як жа так, раптоўна – некалькі дзён засталося! Мы ж не падрыхтуемся, – не магла супакоіцца Антаніна.

– Ну, Тонечка, менш часу для хваляванняў будзе, – паспрабаваў суцешыць жонку Віктар. – Раней пойдзе – раней прыйдзе. Ва ўсім ёсць добрае, варта паглядзець добра, – амаль зухавата казаў ён. – Адправім сына, вернецца Максім цераз год – у нас свой дом на ўчастку будзе, а яму кватэра застаецца, хай прыводзіць сабе туды жонку. Такі от сюрпрыз яму ад нас. – Ды яно так, – пацішэла Антаніна. – Але ж сэрца не на месцы... Сніла сёння: вялікая-вялікая чорная птушка сядзела ў адкрытым акне і глядзела на мяне. Вусцішна стала, хацела яе прагнаць, падышла, а тут не птушка, а полымя барвовае, ды ў мой бок як шугане... Прачнулася, аж сэрца захадзілася. Увесь ранак месца сабе не знаходжу. І во – навіна.

– Некалі мне мама казала, што бачыць у сне полымя – да добрага здарэння, – паспяшаўся заспакоіць і Антаніну, і сябе Віктар, бо расказаны сон нечакана ўстрывожыў і яго. Але ён не выдумляў: чуў ад маці, як яна тлумачыла сон суседцы: бачыць пажар – да вялікай радасці. – Вечарам збяромся разам, абмяркуем. Але ўпэўнены, наш Максім да гэтага часу супакоіцца і зразумее: няма ніякага страху. Цяпер не як раней, провады – не вяселле рабіць, пасядзяць сябры, пагуляюць. Усё будзе добра.

– Можа, у якім кафэ столікі замовіць? – падумала ўслых Антаніна, што значыла для Віктара: яна супакоілася, і не трэба яму званіць у той ваенкамат. Ды і толку з таго тэлефанавання? Ваенкамат – не тая сістэма, дзе можна дамовіцца.

– Давай пачакаем вечара і сына, – прапанаваў Віктар. – Ён зараз дзе?

– Ды казаў, пойдуць на піва...

– Ну і выдатна, няхай пагуляе. Да вечара.

– Да вечара.

Віктар бяздумна падышоў да вакна. Куст бэзу перад канторай адцвіў – ранняя выдалася вясна, нядаўнія пышныя пахучыя гронкі выглядалі запэцканымі ў бруд галінкамі. Імклівы цень прымусіў яго ўздрыгнуць – падалося, у вакно ляціць камень.

Сінічка. Села, зачапілася кіпцюрыкамі за ніжнюю раму, маленечкім чорным вочкам на вяртлявай галоўцы цікавала за ім, Віктарам. Пасля дробненька, але так выразна пастукала ў шыбіну.

“Каб на цябе!” – вылаяўся ў думках Віктар, узмахнуў рукой. Сінічка спырхнула не адразу. Яшчэ тройчы хутка дзюбнула ў шкло.

## Фрагмент 6. Клешч

З першымі цёплымі промнямі сонца, якія зазірнулі ў гэты куток няскошанай травы, клешч павольна ўскараскаўся на самы верх адной са сцяблінак, трывала ўшчаперыўся ножкамі ў суквеццe, пакінуўшы вольнымі першую пару ўчэпістых, з кручкамі лапак – іх ён выставіў наперад. І замёр маленечкай спружынкай у чаканні, гатовы альбо ўчапіцца, альбо зрабіць невялікі скачок ў напрамку жывой цеплыні, якая наблізіцца, паплыве міма яго.

Клешч чакаў. Для яго не існавала часу – і яму было лёгка пераносіць гэтае чаканне свежай крыві, якое расцягнулася ўжо на многія гады. Клешч нічога не ведаў аб законах жыцця свайго арганізма, якія няўмольна адлічылі гэтую вясну як апошнюю ў яго жыцці – чарговай зімы ён не здолеў бы перажыць, не насмактаўшыся крыві. Клешч проста чакаў, і сэнс без ведання часу і законаў не страчваў нікольки сваёй дзейснай сілы, якой і жыў клешч. Чакаць, нічога не ведаючы пра час, – хіба мала тых, хто пазайздросціць такому чаканню?

***

– Ну, вы й знайшлі месца – на могілках!

– Ціха, усё нармальна – тутэйшыя мерцвякі даўно выправіліся ў Вырай, мы нікога не патурбуем.

– Усё нармалёва, зараз раскладзёмся на магілцы, быццам некага памінаем...

– Ну так, памінаць будзем тваё вольнае жыццё!

– Пайшоў ты! Праз год зноў вольным буду.

– Маўчыце, дурні! Тут хапае ўтульных месцаў без магіл. Пацанамі тут бегалі, хапала, дзе прыткнуцца і пакурыць крадком. Вось, бачыце, які культурны, зацішны куточак, проста створаны для невялікай мужчынскай кампаніі з вядром піва! Самога некалі сюды прывялі, во як я вас.

– О, і праўда, тут нават не скасілі...

– Сядайце! Эх, дзе яшчэ калі на траве пасядзіш. А то б пякліся зараз пад брызентавым тэнтам...

– Клас! І праўда, лепш паўлежачы, чым сярод горада. Дайце сербануць хутчэй, пакуль халоднае.

– Чакай, тут у мяне адна белая з сабой. І прыкус ёсць – маці сабойку збірала, я папёрся на работу, зусім вылецела з галавы, што ў ваенкамат сёння, добра, майстар нагадаў. Ну, трымайце свае пластыкоўкі...

– За тое, каб вярнуліся жывымі і здаровымі!

– Цьфу на цябе, гэтак сур'ёзна, бы той ветэран! З Беларусі нас не выпруць, маці піражкі будзе прывозіць раз на тыдзень.

– Ты скажаш!

– А то? Мы вунь з Міколам як не едзем на вахту ў Мінск, дык цётка адна прэцца з торбамі да сына. Праз паўгадзіны тры купэ – яе і два суседнія – ведаць будуць.

– Ціха, шнуркі, дзед казаць пачынае... Значыцца, Афгана няма – маліцеся. Ды не думайце, быццам там вас гулянка чакае. Зрэшты, ведайце: асноўныя правілы, бы на той самай гулянцы ў якой вёсцы: стой за сябе, за сябра. Упадзеш адразу – будзеш поўзаць на пузе да дэмбеля. Не дай сябе зачмарыць. Дзедаўшчына не воўк, а слабых задушыць. Самі душацца. Але і героя з сябе не курчы. Такім хутка рогі ломяць, добра, калі не з рукамі ці хрыбтом разам. Значыцца, Макс, Генік, Лёха! Жадаю вярнуцца жывымі і здаровымі! П'ем!

– Эх, тры дзянёчкі...

– Два.

– Зараз дома забегаюць, казалі – вечар рабіць. Вазьму бухла і закусі ды на прыроду з кампаніяй. Прыдумаюць – традыцыя.

– Мы да Вінцуся на провады ў вёску ездзілі – во, там гулялі! Усёй вуліцай.

– Не хачу ніякай гулянкі, быў. Дзядзькі, цёткі, маці з плаксівым галасам. Ат, макрэдзь развязуць, сам пачынаеш думаць: не на паўтара гады ў армію, а на дзесяць у турму...
– Цьфу на цябе, дурань!
– Налівай!
– За тых, хто нас заўсёды чакае, шнуркі! За маці! І каб там гэты тост быў абавязкова другім!
– Там табе нальюць.
– Паўгода сухамяткі, а далей чалавекам жыць будзеш, не ссы.
– А я сваю адпусціў! Чорт ведае, як яна тут без мяне будзе, што я там пабачу.
– Казарму ты там пабачыш... Але лагічна: захоча – без абяцанняў пачакае. Ды глупства ў такім узросце думаць аб нечым з бабамі, акрамя сексу. Во, Макс, ты старэйшы самы, скажы?
– Не скажу. Калі б мяне не заграблі зараз знянацку, дык па восені б ажаніўся...
– У твае дваццаць два жаніцца? Во, чаму яшчэ я за тое, каб усіх салагаў у армію адпраўлялі – там наконт жаніцьбы мазгі хуценька на месца становяцца.
– Гэта чаму?
– Таму, шнуркі. Месяц без сяброўкі сваёй прабудзеш, другі, трэці – от тады пабачыш: засталася яна ў тваёй галаве ці яе з іншай дурасцю на кросах ды страявой выветрыла. Ну, вас ёсць каму чакаць, за іх і вып’ем!

***

Не воблака, а вялізны, выразна акрэслены шар жывой цеплыні ўзнік перад кляшчом. Ён быў то блізка, на магчымасці скачка, то аддаляўся, рабіўся амаль недасяжным. Клешч не спяшаўся, ён выбіраў момант, кіруючыся пачуццём маленькага драпежніка ў засадзе. На нейкую секунду гарачы шар рэзка апусціўся ўніз (“эх, добра мы сюды зайшлі, і паляжаць можна!”). Клешч скочыў.

Валасы былі густыя. Клешч стаў прабівацца туды, дзе ззяла цяпло, дзе пульсавала блізка пад скурай гарачая вена.

***

– Ад гэтага піва толькі мачавы пузыр і пуза растуць! Прапаную яшчэ схадзіць па гарэлку. Мы з Максам, як ён старэйшы, застаёмся тут, вартаваць месца і піва. Бачце, не адны мы такія хітрыя – тут ужо народу, не раўнуй на тую Радаўніцу, адно па кутках.
– Грошай вобмаль, не збіраліся ж...
– Спакуха, я спансірую! Вернецеся, дык аддасце! Ну, прымаецца?
– Нармалёва!
– Во, Кныш, я да суседа забягу, у яго машынка ручная ёсць. Ты ж пад нуль пастрыжэш?
– Не пытанне! Нясі!
– Клас! Ты, Макс, будзеш стрыгчыся?
– Канечне! Зайду пасля да сваёй – вось і першая праверка!
– Хадзем!

***

Клешч смактаў кроў. Цяпер ужо гэтая дзея была сэнсам і жыццём. Металічныя зубы машынкі для стрыжкі захапілі яго цела да галавы і зрэзалі. Клешч перастаў існаваць, выканаўшы сваю ролю, пра якую не мог ведаць.

## Фрагмент 7. Ларыса Стральчак, тэрапеўт

Здаецца, таксікозу як такога і не было – толькі ад дзясятага тыдня Ларысін нюх абвастраўся, рос адпаведна з ростам жывата, а цяпер пераўтварыў яе літаральна ў службова-пошукавага сабаку: яна пачала адрозніваць сваіх калег-урачоў, медсясцёр і санітарак па іх асабістым паху. І не парфумы, не, а менавіта паху самога чалавека. Перад Ларысай адкрыўся неверагодны нябачны свет розных водараў, і ўсё б было добра, забаўна і цікава, каб яны, пахі-водары, не былі такімі вострымі, часам гідотнымі, ад якіх у спазме сціскаўся страўнік. Яна цяпер вяла прыём толькі ў павязцы, спырскваючы яе штогадзінна асвяжальнікам паветра.

Ніколі не задумвалася раней аб існаванні вакол людзей такога густога, часцей – непрыемнага, іншым разам – нясцерпна-агіднага нябачнага воблака. Дзіўна, усе іншыя пахі – тытунёвага дыму, кветак, фарбы, скошанай травы, аўтамабільных выхлапаў, кавы, парфумы, бальнічнай кухні і соцень іншых хоць і адчуваліся надзвычай востра, маглі раздражняць і нерваваць, выклікаць чханне ці кашаль, слёзы з вачэй. Але не выклікалі ванітаў у адрозненне ад пахаў нямытага, заскарузлага чалавечага цела. Далібог, кладуць у бальнічную палату пасля санпрапускніка, дык чаму б і наведванне ўрача ў паліклініцы не зрабіць праз той санпрапускнік?

У адзінаццаць гадзін Ларысе трэба было быць у ваенкамаце, на прызыве. Гэта было перацярпець лягчэй: там здаровыя юнакі, у іх зазвычай чыстае цела, адно што ўвесь ваенкамат будзе накрыты цяжкім воблакам гарэлачнага перагару. Пакуль жа – гадзіну трываць на прыёме. Яшчэ калі заходзіла ў кабінет, ледзь стрывала – уздоўж сцяны сядзела капой жанчына ранняга пенсійнага веку, дыхала цяжка шырока адкрытым ротам выкінутай на гарачы пясок тлустай рыбінай-мянтузам. І яна зайшла ў кабінет, ступаючы на тоўстых, бы ступы, нагах, і памкнулася адразу да яе, Ларысы, быццам не бачачы пастаўленай па той бок стала, табурэткі.

– А доктарачка, а ратуйце... Задыхаюся во... Трэці дзень... Кроку не зрабіць...

– Сядайце там, – строга ўказала жанчыне медсястра.

З медсястрой, якая ўжо мела дваіх дзетак, Ларыса адчувала сябе абароненай і была ёй удзячная – тая разумела яе з паўслова, а паводзіла сябе з пацыентамі хоць і не груба, але строга і дастаткова рэзка, свае абавязкі імкнулася выконваць як найхутчэй, каб скараціць час знаходжання ў кабінеце якога асабліва смуроднага пацыента.

Ціск, тэмпература... Ранейшыя запісы ў картцы... Зараз трэба зрабіць самае цяжкае: паслухаць. І трэба загадаць распрануцца да пояса, падысці так блізка, калі ад смуроднай хвалі з потнай скуры не абароніць і спырснутая маска...

Цёпла. На вуліцы – цёпла, а на гэтай няўклюдзе – швэдар паверх кофты... Божа, яны збіраюцца да ўрача, няўжо не зойдзе ў галаву такая простая думка: хаця б трохі абмыць сваё цела, падпашкі памыць, бялізну

надзець свежую... І нельга ж закрыць вочы, нельга не бачыць зашмальцаваных лямак даўно не белага бюстгальтара...

Страўнік сціснуўся, гатовы ў кожнае імгненне выбухнуць праз рот выпітай дома травяной гарбатай. Ларыса стаіла дыханне, ды смурод уваходзіў у яе не праз рот і нос, а праз скуру, вочы, якія раптоўна запоўніла слязьмі.

Дыханне было чыстае. Сэрца... Атлушчэнне...

Выпісала накіраванне на УГА. Патлумачыла коратка пра валідол.

– А таблетак якіх каб ад дыхання? Доктарачка...

– У вас з сэрцам праблемы. Кардыёлаг назначыць лячэнне.

Жанчына нарэшце выйшла, медсястра хуценька расчыніла вакно, ды было позна – Ларыса выбегла з кабінета, падпарадкоўваючыся ірвотным пазывам.

...Ветрык пацягнуў ад ваенкамата, і Ларыса ажно прыпынілася, захліпнуўшыся смуродам перагару. Яна падыходзіла, глядзела на стракаты натоўп: юнакі, дзяўчаты, людзі сярэдняга веку, пажылыя. Узбуджаныя, нявыспаныя твары. Ларыса амаль убачыла над гэтым зборышчам густы туман паху. Павязку на твар захацелася надзець адразу ж, каб хоць нечым прыкрыць сябе, крочачы паўз шумныя купкі.

Нечаканая нервовасць адчувалася ў самім ваенкамаце: тэлефанавала некаму дзяжурная, суха павітаўся ваенкам, Фёдар Тарасенкаў, прайшоў у свой кабінет, не прыпыніўся. На ўчастку прызыву, дзе ёй выдзелілі закутак, патлумачылі: трое з адной вялікай вёскі дагэтуль не прыбылі, паднялі на ногі сельсаветчыкаў і ўчастковага міліцыянера. Здараецца, апошнюю ноч перад адпраўкай гуляюць іншыя да бяспамяцтва, быццам яна апошняя ў іх жыцці. Восенню так не бывае амаль ніколі, і куды жывейшыя чакаюць адпраўкі, цішком пахмяляюцца тут, у скверыку перад ваенкаматам.

Пакуль ніякіх пытанняў да яе, Ларысы, не было. У памяшканні ўчастка прызыву пахі былі больш-менш нармальныя, хіба ад адной жанчыны ў форме з пагонамі сяржанта несла надзвычай востра потам праз рэзкі духмень дэзадаранту. Ларыса паназірала і зразумела: праблема ў жанчынысяржанта ёсць – ад яе трымаліся воддаль іншыя работнікі.

Праз паўгадзіны даставілі траіх падгулялых вяскоўцаў. Чакалі транспарт і “купцоў”.

Напачатку яна пачула крокі, падвоеныя. Зайшоў сяржант, работнік ваенкамата. За ім – даўгалыгі юнак. Ларыса напялася адразу. Па дзвюх прычынах: ад яго несла цяжкай, проста невыноснай гарэлкава-тытунёвапарфумнай сумессю (і жаночай, і мужчынскай). А другое: твар быў бледным. Было нешта больш нездаровае ў яго напятай на скулах скуры, чым проста стан апахмелу. Прызыўнік сеў насупраць, бліснуўшы позіркам.

– Што здарылася? – запытала яна прахалодна.

– Галава надта баліць.

– Тут са здаровай галавой наўрад ці хто знойдзецца ў двары, – пракаментаваў сяржант, які стаў воддаль. – Меры не ведаеце!

– Ды не перабіраў учора, – запярэчыў юнак. – Не павярнуць галавы, – сказаў ён да Ларысы, узняўшы на яе чырвоныя нявыспаныя вочы.

Страўнік пачаў сціскацца, Ларыса задыхала ротам, адчуваючы, як імкліва прыбывае вадкая сліна.

– Не спалі ноч? – яна дастала тэрмометр. – Устаўляйце пад паху.

На аголеных па локаць руках “гусіная скура”. Ліхаманка? Ці тут, у

будынку, халадней, чым на сонечным двары? Заўважыла, як трымцяць, напружаныя, мышцы на руцэ юнака, загадала строга:

– Не напружвай руку! Ведаю вашы хітрыкі!

Хлопец уздрыгнуў, паспрабаваў сесці разняволена.

– Імя, прозвішча...

– Максім Анішчук... Віктаравіч...

– Адрас... Давайце тэрмометр...

Завышана, але нязначна. Крыху загарэлы лоб блішчыць дробненькімі кропелькамі поту. Ціск трохі завышаны, канечне. І смурод, які невыносны смурод! Божа, чаму яны не адварочваюцца, адказваючы на пытанні? Якое выхаванне...

– Жывот не баліць? Паносу няма? Добра спалі?

– Не баліць. Няма. Ды не спаў.

– Чаму?

– Ну, гулялі ўначы. Ля рэчкі, – прызнаўся юнак з выдыхам, ад якога Ларысу ледзь не званітавала на пусты стол з яе сшыткам. Хапнула паветра ротам раз і другі.

– То цяпер не скардзіцеся, што галавы не павярнуць, – раздражнёна канстатавала яна. – Не лета ж яшчэ. Наце.

Дастала канвалюту аспірыну, выціснула таблетку ў далонь прызыўніку.

– Вунь вада, запіце. Калі не пройдзе, адразу звярніцеся ў санчасць.

Ён кіўнуў, закінуў у рот таблетку. Сяржант наліў у пластыкоўку вады з бутэлькі, працягнуў. Нарэшце пайшлі.

Ларыса паднялася, нетаропка пайшла ў туалет, бы ўзнагароджваючы сябе за пакуты. Рот быў поўны сліны. Званітавала лёгка, без болю ў страўніку. Стала адразу лягчэй.

У калідоры зірнула ў акно – хлопец, які прыходзіў да яе, стаяў у атачэнні жанчыны, дзяўчыны і мужчыны. Зразумела: маці, бацька, сяброўка. Нешта прытрымала Ларысу, яна глядзела, як жанчына з пяшчотай пагладжвае твар сына тонкімі пальцамі з дагледжанымі пафарбаванымі пазногцямі. Дзяўчына, невысокага росту, драбнатварая, тым часам прыціснулася пад руку юнаку, абхапіла яго аберуч, замёрла.

Ларыса раптам здрыганулася ад няўцямнай трывогі. Мільганула недарэчная думка: паклікаць юнака назад, распытаць падрабязней пра сімптомы, агледзець пільней. І тут жа ўспомніўся смурод перагару. Менавіта ўспомніўся. Тым часам ля ваенкамата спыніліся два грузавыя аўтамабілі з крытымі бартамі. Уздыхнула з палёгкай.

## Фрагмент 8. Міхась Сідарэнка, фельчар-дэмбель

– Шнуркі, сука, чаму без лізолу падлога памытая! Да мяне! Па новай! Зараз зубнымі шчоткамі будзеце ўнітазы драіць! Бягом, сказаў!

Два салдаты-паўгодкі, абодва кульгавыя – крывавыя мазалі і пацёртасці аж да мяса, уціскалі галовы ў плечы, стаялі перад фельчарам.

– Вінаваты, таварыш ваенфельчар! – адважыўся апраўдвацца смялейшы. – Не знайшлі лізолу...

– Сук-ка! Рыхцікаў!

– Тут, таварыш сяржант! – вынырнуў з кубрыка санітар.

– Што за хрэнь? Лізолу не знайшлі! У кішэні зараз паналіваю! Чаму мяне не пыталі!?

Санітар не адважыўся запярэчыць: гадзіну таму фельчар сам зачыніўся ў вольнай палаце (больш у санчасці нікога і не было з хворых), загадаўшы не турбаваць, хіба надарыцца атамная вайна. Міхась не стаў разважаць наконт сваёй вінаватасці, адамкнуў шкапік з сансродкамі, тыцнуў:

– Дзесяць хвілін! Памыеце херова – здам вечарам на кухню!

Ісці на кухню абодвум хворым салдатам ніяк не хацелася, яны ўжо паспрабавалі такой міласці – “рабоў” з санчасці, якіх лічылі простымі сачкамі, а ніяк не хворымі, *прыпахвалі* па поўнай – давалі самую цяжкую і брудную работу. Быццам ты вінаваты, што чаравікі, большыя ўсяго на адзін памер за патрэбны, здольныя на адным марш-кідку сцерці скуру на назе да крыві. А потым пачынаецца загніванне, нага гарыць агнём, ноччу не дае спаць торганнем. І не знайсці ніякага паратунку, усе лекі – альбо зялёнка, альбо белая сентыметынавая мазь.

Міхась Сідарэнка пайшоў у прыёмны пакой, упаў на кушэтку. Нясцерпна балела галава. Колькі ён учора выпіў? Прапаршчыку з тэхроты няма чаго прадаць. Ды і навошта цяпер?

Ён збіраў і прадаваў спірт ад самага пачатку, як толькі займеў такую магчымасць. За гэта хай і недалюблівалі, ды паважалі дзяды і дэмбелі: не адмаўляў прадаць якую сотку (максімум – дзвесце грамаў), але менавіта прадаць. Мог і ў доўг даць. Але заўсёды – толькі за грошы.

Міхась Сідарэнка збіраў на пярсцёнак для Марыны, на цывільныя апранахі сабе, як выйдзе на дэмбель. Грошы, якія атрымліваў, у “чапку” не траціў: курыць ён і не пачынаў ніколі, цукеркі-пячэнне-кола – не прываблівалі, вырашыў год пацярпець. Затое будзе з чым пачынаць жыццё па-новаму. Свайго бацьку ён і не помніў, маці, прадавачка ў кіёску “Саюздруку”, гадавала яго адна. Яна памерла, калі ён здаваў “госы”. Ні братоў, ні сясцёр – ён раптоўна застаўся адзін. Сястра маці, цётка Ліда, жыла ў Расіі, на пахаванне спазнілася. Клікала да сябе, ды ненавязліва клікала, усяго толькі казала абавязковыя ў такім выпадку словы ветлівасці. Таму прызыў у армію быў для Міхася выйсцем са стану ашаламляльнай разгубленасці і поўнай абыякавасці да ўсяго і ўсіх пасля пахавання маці. Хоць і падтрымлівала Марына, яе бацькі, Міхась ніяк не мог ачомацца ад раптоўнай самоты. Год у арміі праляцеў, бы адзін месяц, і праўда, стаўся паратункам. На службе не было цяжка, адно клопатна і нязвыкла, ды гэта і ратавала першыя месяцы – не было часу на самакапанне і цяжкія думы. Марына пісала эсэмэскі, папаўняла баланс тэлефона, хоць і не прасіў ніколі. Але ад пачатку як павялося, дык і пайшло... Іншым разам размаўлялі падоўгу, праўда, у апошнія месяцы радзей.

Рублі ў горадзе мяняў на долары, прыхоўваў надзейна. Фельчар-дэмбель, якога ён змяняў у санчасці, выходзіў за вароты КПП у атачэнні шматлікіх сабутэльнікаў, зухавата-п’яны. Ён і расказаў раней, як можна збіраць “вадкую валюту”, колькі трэба здаваць штовечар ваенурачу, чырванатвараму капітану Барысенку, як паводзіць сябе са стараслужачымі, бо тыя ў той жа вечар пачнуць “праверку на вашывасць” новага фельчара. І, крый Божа, не заводзіў сабе сабутэльнікаў і сам трымаўся.

Усё ішло добра. У апошнія месяцы нават вельмі добра, і пачала навязліва казытаць думка пра немагчымасць вось такога добрага без хоць якіх непрыемнасцей. Бо так, без аніякіх клопатаў і няўдач, было незадоўга да раптоўнай смерці маці (памерла ў сваім кіёску, у пякельна-спякотны

травеньскі дзень ад інсульту). Міхась Сідарэнка гнаў прэч гэты ўспамін-параўнанне, а ён раз-пораз звінеў камарыным піскам ля вуха.

І вось учора... Учора ён атрымаў эсэмэску ад Марыны. Пісала, што яшчэ за тыдзень да смерці ягонай маці была прыняла рашэнне: ім неабходна разлучыцца. Бо ў яе зніклі да яго пачуцці як да мужчыны. Ён стаўся яе сябрам, ды больш за тое – амаль братам, але як мужчына... Не. Яна не парывала з ім, бо лічыла за свой доўг падтрымаць у час бяды, даць яму час навучыцца жыць у новых абставінах. Праз нейкі месяц ён пачне новае жыццё, то хай не будзе пустых надзей. Ён адразу паверыў і зразумеў. Марына, якая вучылася тады на другім курсе, вылучалася ўдумлівай сур'ёзнасцю і адказнасцю, на гэта і звярнуў ён увагу пры знаёмстве.

Міхась узяў у "чапку" літр колы, зачыніўся вось тут, у прыёмным пакоі, перачытваў эсэмэску, наліваў спірту ў шкляную мензурку, дадаваў колы і піў. Першы раз у жыцці піў у самоце. Сярод ночы падняў двух хворых, роў дзіка, надаваў ім кухталёў (біць моцна не атрымалася, нешта стрымлівала. Мо таму, што і тут першы раз?), выдаў два лязы і адправіў церці ўнітазы ў прыбіральні пад наглядам паўсоннага санітара. Праз гадзіну салдаты, у якіх прайшоў спалох, зазірнулі ў пакой, бо пачулі здаўлены крык і стук – ён п'яна і слёзна крычаў і таптаў абцасамі цяжкіх чаравікаў свой мабільны тэлефон. Слушна вырашыўшы не чапаць фельчара, салдаты пайшлі ў туалет курыць.

У памяшканні густа запахла лізолам. Праз акно Міхась пабачыў капітана Барысенку, выйшаў у калідорчык.

– Таварыш ваенурач! У вашу адсутнасць нічога надзвычайнага не здарылася. Хворых – двое.

– Здароў! – кіўнуў капітан, павёў носам – з усіх пахаў яму найпрыемнейшы быў пах лізолу ды іншых дэзсродкаў. – Парадак тут? Чаго сам памяты? – капітан дапытліва зірнуў на твар фельчара.

– Усё ў норме, таварыш ваенурач! – хацеў, ды не атрымалася адказаць зухавата, Міхась, таму нечакана для сябе прызнаўся: – З асабістым не вельмі... Атрымаў тут. Вінаваты.

Капітан ведаў: Міхась застаўся сіратой, ведаў і пра Марыну, якая прыязджала, як заведзена – на прысягу, то і бачыў яе, нават вітаўся і перакінуўся словам, калі напароўся на іх апошняе расстанне на КПП.

– Херня, наладзіцца, – ваенурач адмахнуўся ад фельчара, пайшоў у свой кабінет, азірнуўся і гукнуў: – Заходзь.

– Не наладзіцца, – выдыхнуў той на парозе, і капітан з-пад ілба насцярожана зірнуў, паморшчыўся і загаварыў жорстка:

– Слухай, Сідарэнка... ты ведаеш, колькіх я тут ратаваў? Пальцаў не хопіць. Трох з таго свету вярнуў, у час пятлю адразалі. А большасць набіралася рознай гадасці, клізмы ставіў. Не ўсе потым аддзячылі, ды ведаю – ачомаліся. І ты ачомаешся. І будзе яшчэ ў цябе дзеўка. Маліся, што цяпер во носам закруціла, а не пасля вяселля... Праз чатыры гадзіны ў часці маладыя будуць. Каб быў як агурок. Ідзі, пахмяліся, ды толькі паўсоткі і ніякай колай не разводзь. Я ў штаб. На шухер пастаў і падрамі паўгадзіны. Пытанні?

– Няма!

– Тэрыторыю паўторна сам прагледзь: ні лісціка, ні дай Бог, недапалка.

– Ёсць!

– Выконвай.

Капітан абы-чаго не мог прапаноўваць – у патрэбны час Міхась Сідарэнка быў “у форме”. Галава не балела, млявасць знікла. Была злосць. Нечаканая, ледзь не хіжая злосць на вось гэтых, пакуль апранутых у цывільнае, штучна-зухаватых юнакоў, якія бязладным строем цяпер ішлі ў лазню. Нічога, адно лазня, дзе вас будуць знянацку паліваць халоднай вадой са шланга, і пераапрананне ў форму не па памеры выветрыць з вас дух асабістага “я”, вы будзеце станавіцца ў строй ужо куды жывей, вы адчуеце, як змылі з сябе сваю незалежнасць, сваё бесклапотнае мінулае, як сталі шараговым салдатам у страі такіх самых шараговых...

Фельчар другі раз прайшоўся перад цяпер маўклівым, без смешачак строем, і сустракаў дзе-нідзе ўжо і зацкаваныя вочы.

– У каго ёсць скаргі на самаадчуванне? У каго скаргі?

– Мне галава баліць... – пачуўся голас.

Міхась знайшоў яго позіркам. Статны, чорнагаловы. Твар крыху бледны. Блага хлопцу, і лазня не дапамагла ачомацца. Гульнуў, мабыць, няслаба ноччу...

– Такое мамцы сваёй казаць будзеш, салага! Я пра скаргі пытаюся, а не пра вашы галовы з перапою! Паўтараю: скаргі ёсць? Раптам узнікнуць – звяртацца да сяржантаў, толькі разам з імі ў санчасць!

Чорнагаловага прывялі назаўтра пасля адбою – сяржант і двое маладых, прытрымліваючы пад рукі. Той самы – чарнявы.

– Забірай салагу к чорту, – вылаяўся сяржант. – Мала чаго не самлеў, на нагах не трымаецца. Дзень бы сонны. Тэмпературыць, мабыць. Лоб халодны...

– Заводзьце!

Пакуль навабранец сядзеў з тэрмометрам пад пахай, фельчар запаўняў кнігу паступленняў. “Бляха, куды ваенкаматаўскія там глядзяць? Відаць жа, з тэмпературай. Збылі з рук – і ім добра. А ты тут круціся...”

Блізка трыццаць восем.

– Так, Максім Анішчук, гуляў напоўніцу? Дзе мог прастыць?

– Ды не піў асабліва, – млява адказаў юнак. – Ля ракі...

– Ага, сама тое месца, салагі! Асабістыя рэчы здавай, усе. І тэлефон, а ты думаў? Курорт тут табе? Званіць адсюль з дазволу і ў прысутнасці начальніка санчасці, ваенурача. Ясна? Таблеткі якія піў?

– У ваенкамаце... нешта давалі, не ведаю...

– На, пі... Армейскія таблеткі ўніверсальныя: ломіш папалам – адна палавінка ад галавы, другая – ад жывата. І не пераблытваць! Заўтра з ранку прыйдзе капітан, пабачым. Устаць! Галаву ўніз, глядзець на свае ногі. Падняць галаву, глядзець мне ў вочы! Ды стой, салага! У вочы глядзі!

Міхась прытрымаў навабранца, які, падняўшы галаву, ледзь не зваліўся – яго рэзка павяло ўбок. “Галавакружэнне, позірк амаль не канцэнтруе. Фігова... Пабачым раніцай”.

Разгарнуў пакладзены на стале кішэнны блакнот, страсянуў – ці няма грошай.

– Глядзі, салага, каб не казаў потым, быццам у цябе тут тры сотні баксаў ляжала, а я пацягнуў... Тэлефон правяраем... Дзе тут кнопка... Так, працуе... Твая? – павярнуў ён тэлефон экранам да навабранца. Адтуль сонечна ўсміхалася дзяўчына лёгкай, шчаслівай усмешкай – вуснамі і вачыма.

– Мая...

– Бля. Санітар! Пакладзі гэтага!

Раптоўна юнак стаў ненавісным Міхасю. Экран яшчэ свяціўся дзявочым тварам, такім падобным на Марынін: бялявыя валасы да плячэй, акуратны невялікі носік, выразныя бровы над шэрымі вачыма.

“Сук-ка! Хрэн дачакаецца! Во хрэн!”

Капітан Барысенка забег раніцай, фельчар ледзь паспеў на хаду зашпіліць рэмень. Даклаў: адзін хворы, невялікая тэмпература, відавочна, прастыў.

– Не страшна? Бракуе мне часу, машына чакае.

– Не, тэмпература, слабасць, як звычайна.

– Тады назірай. Мяне сёння і заўтра не будзе, я па справах. Як што – у дывізіі. У штабе ведаюць. Стане паднімацца тэмпература – калі антыбіётыкі.

– Ды зразумела, таварыш капітан, не першы дзень.

– Ну, глядзі!

Хворы Максім Анішчук ляжаў у вільготным ложку, пот буйнымі кроплямі блішчаў на твары. Затое тэмпературы не было. Яна ўзнялася к ночы – ажно да трыццаці дзевяці. Міхась Сідарэнка вырашыў калоць антыбіётыкі. Раніцай юнак пачуваўся лепш, папіў чаю, з’еў бутэрброд з маслам. Днём тэмпература была блізкая да нормы, ноччу ўзнялася нязначна. Раніцай капітан Барысенкаў агледзеў салдата і выпісаў з наказам прыходзіць на ўколы колькі дзён.

Праз дзесяць дзён спалоханы днявальны заляцеў у санчасць перад адбоем і выклікаў фельчара ў роту. Навабранец Максім Анішчук ляжаў у ложку. Трызніў. Няўцямна зіркаў па баках. Лоб не быў надта гарачы. А шыя – як закамянела.

“Менінгіт, бля!” – ад здагадкі Міхась Сідарэнка пахаладзеў.

## Фрагмент 9. Антаніна Анішчук, маці

Ніяк не магла зразумець, а тое падалося надта важным. Чаму раптам ў час праводзінаў сына, калі ён, стомлены бяссоннай ноччу (прызнаўся), з чужым для яго, цяжкім і такім брыдкім ёй перагарам, паддаўся яе абдымкам, не адхіліўся, як заўсёдна, ад яе грудзей, замёр на імгненне, ёй раптоўна згадаліся першыя ў яе жыцці выбары? Яна тады прыйшла пасля падліку галасоў вельмі позна, бо гулялі з адчайнай весялосцю доўга, бы тое быў абрад таемнага прысвячэння іх, новых членаў камісіі, у асобную касту. На палову атрыманых грошай за работу ў камісіі яны накуплялі віна і гарэлкі, нешта з мяснога. А больш напрыносілі з дому: закатак, сала, нават вараную бульбу прыцягнуў у каструлі муж сакратара якраз у хвіліны падпісвання выніковага пратакола. “Мы выконваем дзяржаўную задачу, усе вы ад гэтага часу – дзяржаўныя людзі, якія ў адказе за парадак у краіне разам з нашым прэзідэнтам”, – трошкі напышліва, з перакананай верай у свае словы казаў старшыня камісіі, трымаючы чарку. За трэцяй-чацвёртай чаркай яны пазбавіліся няёмкасці ад позіркаў вочы ў вочы, якая існавала ў іх усе дні работы і ўзрасла да шчымлівага сораму ў час падліку галасоў, і вось – абрынулася, рассыпалася, растварылася. Зроблена! “Не мы, дык іншыя. Ад нас нічога не залежыць. Так трэба!” – за гэтымі цаглінкамі іх цытадэлі апраўданняў схаваліся як дробязныя парушэнні кшталту дазволаў жонцы галасаваць за мужа, так і “галасаванне” імі самімі за (дзясяткі адразу) тых, хто не прыйшоў (“Найпершая задача – забяспечыць даведзены працэнт яўкі!”). З цяжкасцю, але закрываліся цаглінкамі апраўданняў і тыя купкі падлічаных бюлетэняў

“супраць”, якія рукой старшыні лёгка дадаваліся ў адну купу з бюлетэнямі “за”, нервовыя падлікі алоўкам на асобным аркушы слупком, прыцішаны хуткі шэпт-загад: “Дайце яшчэ сюды!”

Вярталася далёка апоўначы, з душы спаў цяжар мінулага. Дома не спалі. Сын, Максім, выбег са свайго пакоя босы, у піжаме, яна прысела, ашчаперыла, прыціснула да сябе – як часцінку самага сапраўднага, роднага, падсвядома жадаючы наталіць сваю спустошаную душу ягонай дзіцячай светлай шчырасцю. А ён нечакана моцна заўпіраўся, яна зірнула ў вочы сыну і пабачыла там ніякаваты сорам – васьмігадовы хлопчык упершыню збянтэжыўся ад прыцiскання сябе да пругкіх матчыных грудзей, свяціўшых жывым цяплом у глыбокім дэкальтэ сукенкі.

– Ад цябе пахне, фу! – апраўдаўся ён, сарамліва адвярнуўся.

Так, ад яе пахла, бо піла яна ўсё, як і ўсе: пачалі з шампанскага, потым было віно, гарэлка, самагонка...

Усе гэтыя гады, а сына абдымала часта, помніла тую ягоную збянтэжанасць, тым больш пазней, калі Максім стаў юнаком – высокім і гожым, узяўшы ад сваёй бабулі Аксінні, маці Антаніны, чорны волас, густыя бровы і выразныя вочы. То абдымала асцярожна...

І вось упершыню з таго часу Максім сам падаўся ёй насустрач, яна быццам забылася на тую няёмкасць, прыціснула да сябе сына так, як і да тых першых выбараў – як маленькага, для каго грудзі маці не маюць ніякай сексуальнасці, а значаць адно сытую цеплыню, спакой і бяспеку.

Максім патэлефанаваў з войска на другі дзень, коратка даклаў: усё добра. Праз тыдзень расказаў: была тэмпература, цяпер усё ў норме, галава не баліць, апетыт ёсць. Прастыў той ноччу ля ракі. І каб не перажывалі, калі будзе тэлефанаваць зрэдчас: тут армія, а не інстытут, разумелі там і не нерваваліся. Голас ягоны і папраўдзе гучаў без прыкмет хваробы. Пазней ён увогуле паводзіўся бадзёрым, жартаваў, расказваў, чым кормяць, як вучыцца хадзіць страявым (то першая навука тут, бо ж прысягу прымаць – каб прыгожа!). Апавядаў: трохі сумна, ды тут гэты вялікі сум маладых салдат падзелены на ўсіх, то лягчэй. Год праляціць хутка!

Потым званкоў не было.

Антаніна захвалявалася.

– Хай бы хоць эсэмэску напісаў, – нервавалася яна вечарам, седзячы на кухні з кубкам чаю.

– Тонечка, ну служба ж... – суцяшаў яе Віктар. – Я служыў, адзін ліст на два тыдні – вось і ўся сувязь. Не трэба быць такой кваткухай...

– Не раўняй некалі і цяпер, – парыравала Антаніна.

– Ат, хопіць табе, – нават зазлаваў Віктар. – Армія ёсць армія – ён жа сам табе казаў, што ўпотайкі тэлефануюць, маладым увогуле не даюць тэлефонаў. Першыя дні дазволілі, а зараз да прысягі маглі забраць тэлефоны. Не дзіцячы ж там садок. І я служыў... Лепш не згадваць некалішнія часы і парадкі. Усё будзе добра, – ён нахіліўся над жонкай, удыхнуў пах яе валасоў, крануўся вуснамі галавы.

У гэтую ноч Антаніна прысніла бязмежную бель, падобную на заснежанае бясконцае поле. Толькі гэта быў не снег, дакладна. Ёй было там зусім не холадна. Там было светла, не ад сонца, святло падала не з вышыні, яно струменілася адусюль – нязыркае, ветлае і ...нетутэйшае. Яна некуды ішла, адна, без суму і нуды, ішла, ведаючы: наперадзе – самае светлае і самае добрае.

Прачнулася з незразумелым пачуццём: ад сну несла трывогай, нечым

незразумелым, невыказна нежывым, так, нежывым: ніколі раней не бачыла ў снах нечага такога, чаго не магла пабачыць у жыцці. Яе пужала тое пачуццё, якое зведала ў сне: поўную суладжанасць з сабой, адсутнасць хоць якога хвалявання, нейкае шчасце, але такое, якое пужала сваёй незвычайнасцю і здольнасцю пранікаць у кожную клетачку яе цела.

Антаніне патэлефанавалі а дзясятай гадзіне. Пабачыла незнаёмы нумар, і ўнутры нечакана пахаладзела. Выйшла ў калідор.

– Вас турбуе ўрач абласной бальніцы Вадзім Канапелька. Ваш сын Максім Анішчук пераведзены да нас з армейскага шпіталя з падазрэннем на энцэфаліт. Стан цяжкі. Вам трэба прыехаць...

Антаніна не помніла, што рабіла пасля. Пісала заяву на тры дні без утрымання ці адразу тэлефанавала Віктару? Ці доктару, удакладніць адрас? У настаўніцкай павісла гнятлівая цішыня, каляжанкі павыходзілі па сваіх пільных справах. Антаніна не вытрымала цішыні кабінета, пабегла на школьны двор, адтуль – да стаянкі аўтамабіляў, дзе чакала мужа.

– Супакойся, прашу, сказалі ж – толькі падазрэнне, дый сённяшнія лекі не ўчарашні дзень, – нервова часціў Віктар, перадаючы жонцы ключы. – Едзь асцярожна... Ці ўсё ж давай пачакаем, я адбуду з гэтай камісіяй (меліся здаваць шматпавярховы дом), і паедзем разам...

– Пакуль прыедзем, там нікога не будзе з дактароў, – выгукнула Антаніна. – Я езджу лепш за цябе, ты ведаеш. У цябе зараз рукі калоцяцца, ты так паркаваўся...

Думка пра магчымую хваробу сына запаланіла ўсё яе нутро, яна дзейнічала, бы на аўтамаце, які кіраваў яе рухамі і дзеяннямі, з механічнай жорсткай дакладнасцю.

Урач, зусім малады, а ўжо амаль лысы, гутарыў з ёй у кабінеце нядоўга, разумеючы жаданне маці пабачыць дзіця. Папярэдзіў: хлопец з-за транквілізатараў мае затарможанае мысленне, то каб не здзіўлялася і не палохала хворага сваім адчаем. Зайшла ў палату і ледзь не ўскрыкнула ад болю: твар сына быў чужым. Не схуднелым, не змучаным і не стомленым, а менавіта чужым. Сын глядзеў на яе і не бачыў, не пазнаваў. Адсутны позірк...

Ён зрэагаваў на голас. Антаніна заплакала бязгучна, пабачыўшы жывы агеньчык у вачах свайго дзіцяці – ён нарэшце пазнаў яе, паспрабаваў вінавата ўсміхнуцца.

– Вынік залежыць ад індывідуальных асаблівасцей арганізму, – гаварыў доктар, – ад самога вірусу, ад эфектыўнасці лячэння. Вяртанне ў ранейшае становішча цалкам магчымае, нават пасля другой стадыі.

А яна сядзела бяздумна ў крэсле, і яе розум адгукнуўся ўвагай на словы і пачаў разумець іх сэнс тады, калі доктар пачаў гаварыць пра лекі.

Ёсць эфектыўныя, імпартныя, бальніца іх не мае. І не можа мець – пакуль чакаецца афіцыйны дазвол на прымяненне гэтых лекаў у нас. Іх можна купіць, канечне. Ён падкажа адрасы. На жаль, між намі, за валюту. Толькі ў сталіцы. Вось тэлефон, і ўнізе кошт. Так. Не малы, але гарантаваны якасны эфект. Бо тое, чым лечым цяпер...

У Антаніны з'явілася задача, якую яна павінна была вырашыць дзеля сына. І розум запрацаваў спакойна, разважліва: патэлефанаваць Віктару, сказаць, каб тэрмінова прадаў пэўную суму даляраў, грошы перавёў на яе картку. Зрабіць усё, пакуль даедзе да Мінска. Там купіць валюту, затым – лекі, да вечара паспее вярнуцца ў бальніцу. Гэта – важна. Больш нічога істотнага ў свеце не існуе.

## Фрагмент 10. Сяргей Кошаль, Аляксей Зыбка, аператары Харвестараў

– Я казаў, тут нікога не будзе!

Кавярня насамрэч была амаль пустой. Сцены цёмнага колеру, нізкая столь, трошкі святлейшая за сцены, надавалі памяшканню падабенства з сутарэннем. Завешаныя цюлем вокны выходзілі на поўнач, таму і пасярод дня, сонечнага і цёплага, тут быў паўзмрок і прахалода. Дзясятак столікаў пуставаў, толькі ў адным куце сядзеў мужчына з кубкам кавы.

– І мы давай туды, падалей, ля сценкі! – прапанаваў-распарадзіўся Сяргей.

– Там жа мужык, – запярэчыў Аляксей, няўклюдна перасоўваючыся на мыліцах – за паўтара тыдні так і не навучыўся добра, ды і патрэбы не было.

– А чаго мы яго баяцца будзем? – рагатнуў Сяргей. – Ідзі, сядай, зараз бяру...

Аляксей асцярожна (бо падлога падавалася надта слізкай) перастаўляў мыліцы, паклыпаў да стала, які, як і той, за якім сядзеў мужчына, быў прыстаўлены да сцяны – утульна сядзець утрох ці ўдвух.

На голас хлопцаў з бакоўкі выйшла дзяўчына гадоў дваццаці пяці з сумным тварам.

– Піва разліўное нясвежае, – папярэдзіла яна адразу, бы з жаданнем пазбавіцца наведнікаў. – У халадзільніку адно нямецкае дарагое...

– Ой, лялечка, як цябе... – зухавата пачаў Сяргей, зіркнуў на бэйдж, – ага, Валерыя бацькаўна, от дай нам дзве бутэлечкі дарагога нямецкага, ага, у бакальчыкі налі... Усміхніся, прыгажунька, а то замуж ніхто не возьме...

– Трэба мне замуж, – буркнула прадавачка, але твар крыху пасвятлеў ад кароткай усмешкі. – Што яшчэ?

– О, мы сёння гуляем... Значыць, два па пяцьдзясят каньячку... Сонейка, я чэсна прызнаюся, бутэлечку мы з сабой узялі, бо тут ён занадта дарагі, ты ж не будзеш нас бэсціць, праўда?

– Не буду, як закусіць добра возьмеце, – ужо шырэй усміхнулася яна, разліваючы піва.

– Канечне, канечне! Прапануй, сонейка?

– Ну... – дзяўчына азірнулася на вітрыну. – Піца нясвежая, піражкі ёсць, з тварагом.

– А Божачкі, як я люблю піражкі з тварагом! Хачу два і шакаладку вялікую. Нешта ў цябе каўбас ніякіх...

– Можна замовіць, рэстаран што трэба прыгатуе, – яна кіўнула наверх – на другім паверсе будыніны быў той рэстаран. – Ды чакаць прыйдзецца.

– А мы не спяшаемся, сонейка! Гатуй нам мяса па кавалку з якім гарнірам, абы не з рысам.

Прадавачка яшчэ больш падабрэла, спытала, у якія шкалікі наліваць каньяк.

– Я пабягу замоўлю другое, потым за ўсё разлічыцеся? – запыталася-прапанавала яна.

Сяргей адчуў насцярогу ў яе пытанні, запэўніў:

– Так, радасць мая, мы нікуды не збяжым, прыйшлі пасядзець добра, але ж і есці хочацца...

Хлопцы, зрабіўшы замову, па-гаспадарску дасталі прынесены каньяк, Аляксей адкрыў бутэльку, даліў у шкалікі:

– Не люблю першую піць птушынымі глыткамі.

– Давай, – згадзіўся Сяргей. – Ну, дзякуй табе! За ўдалы адкос ад арміі. Выручыў ты мяне, разлічуся, як мае быць, дай зарабіць!

Чокнуліся, выпілі.

– Не спяшайся ніколі разлічвацца, – пражаваўшы кавалак піражка, павучальна адзначыў Аляксей. – І сам ніколі не патрабуй разліку.

– Гэта чаму?

– Таму! Мне некалі дзед так казаў. А дзеда сусед, стары яўрэй, вучыў. От мы толькі што ўзялі выпіць. Разлічыліся, пайшлі. Хто нам тая дзеўка? Ніхто. І застанецца нікім. Так і з іншымі. Ты справу зрабіў і разлік атрымаў – ты яму не сват, ён табе не брат. А от зробіш ды аплату не патрабуеш – ужо чалавек нібыта і сябра. Ён застаецца вінен. Надарыцца момант – аддзячыць, як зможа.

– Ага, іншаму зробіш і дзякуй не пачуеш, – буркнуў Сяргей.

– Бясспрэчна, – згадзіўся сябра. – Не без гэтага. То рабі паслугу чалавеку, для якога ў адказ паслугу аказаць – як два пальцы абассаць. Каб не напружна было, быццам між іншым. От цяжка мне было дзясятак тых лясін зваліць і парэзаць? Папрасілі, зрабіў. Горчыку самагонкі даў бутэльку – ён закінуў на прычэп. Грошы мне дзядзька совае, а я пра дзеда ўспомніў, бо пазнаў дзядзьку – траўматолаг наш. Адмовіўся. А ён і рады, і сам прапанаваў: будзе патрэба якая – заходзь запроста. Бачыш, як атрымалася? Удалося б нешта, калі б узяў я грошы?

– Ну, мы ж дамаўляліся: у маёй знаёмая медсястра, зрабілі б, можа.

– Можа – варожа. А тут без аніякіх: падкульгаў трошкі – калі ласка, знаёмы траўматолаг, на два тыдні бальнічны, гіпс, усе справы. І Зугло наш ні халеры не западозрыў. А то б пабачыў ты сваю маскоўскую фірму. Зараз во вучыўся б чэсць аддаваць і страявым крочыць. Мяне бацька ў свой час гэтаксама акуратна ад войска адкасіў. Дурань я хіба – паўтара года выкідваць з жыцця?

– Дык і мне не па фантану, – гукнуў Сяргей, наліў. – А цяпер лафа, ты выйдзеш, Зугло мяне адпусціць...

– Ты там для яго налева што рабіў?

– Ды амаль на наступны дзень. Кажа, я цябе ўратаваў ад ваенкамата, то дапамажы. Ну, я на дзве гадзінкі пасля змены застаўся, пачак нарэзаў, затым перасеў за цялежку, пагрузіўся ды куды папрасілі даставіў, перагрузіў.

– Малаток, грошай жа не браў?

– Ды не...

– Цяпер смела адпусціць. Во выйду, пішы заяву...

Выпілі, запівалі півам, чакалі дзяўчыну з гарачым. Тая вярнулася надзіва хутка, несучы дзве талеркі з бульбяным пюрэ і адбіўнымі.

– Дзякуй, гаспадынька, яшчэ на хвілінку пазней – і памерлі б з галадухі!

– Ой, такія хлопцы ды не пацярпяць, – з гуллівасцю адказала дзяўчына. – Чакайце, прыборы дам...

– А быццам і нічога сабе, – правёў услед позіркам дзяўчыну Сяргей.

– Яны ўсе нічога, пакуль не адчуюць, што камандаваць могуць, – скептычна скрывіўся Аляксей. – Налівай пад мяса...

– А мая хадзіла ў райвыканкам, да старшыні прызыўной камісіі, – зноў пачаў пра сваё Сяргей. – Бедавала, маўляў, сірата, з адным дзіцём застаецца. І той ні ў якую. Кажа, нараджаць неабходна было двое, тады б і не ўзялі мужыка ў армію.

– А ты забыўся, як дзеці робяцца? Памагчы?

– Ідзі на... Ужо зроблена. Увосень жонка з пузам, а я ў Расіі. Не дадуць па сямейных, то я не з'яўлюся, як нічога не атрымліваў. А там і народзіць. Слухай, от ты скажы, Лёш... Бляха, ім жа там, у ваенкамаце, от усяго адзін раз алоўкам чыркнуць – а некаму як жыццё перакрэсліць. І галоўнае ж во: якая розніца ваенкаму ці гэтаму старшыні, хто пойдзе – я, ці нехта іншы? Хапае ж сёння запасу. Няма розніцы! А ты тут цэлую схему прыдумвай, каб жыць па-чалавечы.

– А я табе што ў вушы хачу ўвесці? Ім, вядома, без розніцы, але не будуць яны рабіць за проста так, калі можна зрабіць за рэальна каштоўнае, цяміш? Рабі паслугі таму, ад каго ты рэальна залежыш, хай хоць у дробязях. З тваёй галавы карона не ўпадзе, дык і ягоная карона на месцы ўтрымаецца, як ён вось так алоўкам у патрэбным месцы чыркне...

– Ды ясна... Слухай, а чаму ты ў Расію не схацеў? Я ж бачыў, да цябе гэтыя, з фірмы, пасля конкурсу таксама падыходзілі?

– Я дом сабраўся будаваць. І з лесу, як мне лес трэба, як зямля калгасу, ехаць у свет? То вам кватэрку цешча падарыла.

– З яе падарункамі! Сказала, роўмінг сама аплачваць будзе, каб сядзеў на сувязі штодзень. Жонка так не раўнуе.

– Бо разумная баба, бача, што не нацешыўся ты пакуль. І асцярожней там, дарэчы. Толік Каляны, помніш, у мінулым годзе прыехаў з пранцамі.

– Ды я ж зарабляць еду, у лесе баб няма! Давай, за нашу паспяховую аперацыю! Гэх, ну ты малайца, гэтак прыдумаць!

– Аперацыя... – ухмыльнуўся Аляксей. – Запомні, малы: усё ў гэтым свеце найлепш вырашаецца палюбоўна ці за грошы. Галоўнае, нельга чалавека заціскаць, прымушаць. Ты так яму сітуацыю падай, нібыта ён сам захацеў зрабіць патрэбнае, цяміш? Пайшоў бы ты да Зугло прасіць, каб цябе ад арміі адкасіў, ён бы паслухаў? Не. А тут – я законна хворы, план даваць няма каму, цябе пастрыглі – і сам пабег да ваенкама.

– Разумны ты, Лёха, а сядзіш у лесе...

– Спакойна: дом пабудую – не буду ў лесе. А лес мне не толькі дом дасць, у мяне кожны тыдзень – новыя сябры. Якім я раблю паслугі, а яны мне застаюцца вінныя. Вучыся жыць!

## Фрагмент 11. Віктар

Да прыёмкі новага будынка гандлёвага цэнтра заставалася каля дзвюх гадзін. Часу хапіла на тое, каб Віктар збегаў дамоў, потым – у банк, абмяняў долары, перавёў на картку Антаніны грошы. І час спыніўся. Ён выйшаў з аддзялення, азіраўся разгублена па баках: куды цяпер ісці? Што рабіць? Людзі вакол. Ідуць бесклапотныя, шчаслівыя. Радуюцца дню з зыркім сонцам. Дзе-нідзе свецяцца бессаромнасцю агаленыя высока жаночыя ногі. Бездапаможна белыя пасля зімы, а недзе і хваравіта-сінія ад частай сеткі ліловых вен, дзе з адрузлай, дзе з азызлай скурай. Сукенкі і кофты з глыбокімі дэкальтэ, там тонкая маршчыністая скура ад шыі да лагчынкі між грудзей, і самі грудзі, бы скураныя мяшэчкі, налітыя густой вадкасцю, вольныя ад цесных бюстгальтараў, боўтаюцца ад хады. Маладзёны пад'язджаюць на крутых аўто да банка, выходзяць у доўгіх шортах, на нагах – шкарпэткі і пляжныя сланцы.

Віктар нарэшце зрушыўся з месца, абы не бачыць гэтага пярэстага на-

тоўпу, што ўдаваў на вялізную бясформенную пачвару, якую абудзіла ад спячкі гарачае сонца, і вось яна, пачвара, пачала мяняць сваю скуру, тая злазіць кавалкамі, у розных месцах, выклікаючы гідоту. Схавацца каб... Але ж – прыёмка.

Камісія разам з гаспадаром будынка і прадстаўніком падрадчыка абыходзілі гулкія паверхі пустога, разбітага на мноства адсекаў – пад будучыя магазінчыкі – будынка. Віктар ніяк не мог вярнуцца ў гэтую, такую звыклую для яго раней рэальнасць, усё ўнутры яго крычала пра тое, што так немагчыма: у яго – бяда, захварэў сын, нельга, каб усё вакол заставалася ранейшым: каб лісліва ўсміхаўся падрадчык, каб нерваваўся і мітусіўся заказчык, каб прыдзірліва, як заўсёды пры прыёмцы недзяржаўных аб’ектаў, углядваўся ў кожны кут інспектар дзяржпажнагляду. Няўжо яны не разумеюць, што свет – змяніўся? І стрымліваў сябе, прымушаючы рабіць тое, што павінен быў, бо звінела тонка думка: гэта толькі ў цябе, толькі ў вас, толькі ў твайго сына. І таму свет не змяніцца.

Прыёмка прайшла даволі гладка, істотную заўвагу работнікі падрадчыка кінуліся выпраўляць пры камісіі: дзверы запаснога выхаду адчыняліся не ў той бок.

Традыцыйна – абед у рэстаране. Прыёмкі так і планаваліся па часе: каб завяршыць ці перад самым абедам, ці перад канцом рабочага дня. Знаёмыя з камісіі звярнулі ўвагу на Віктараў настрой, але ніхто не лез з пытаннямі. У гаворцы, якая зрабілася гучнай і разняволенай з першымі выпітымі чаркамі (калі п’юць разам, то ўсе нібыта і свае), Віктар удзелу не прымаў. Счакаў дзеля прыліку паўгадзіны, нехаця закусіў, бо есці ніяк не хацелася. выбачыўся перад астатнімі за сталом, устаў і выйшаў. Ля барнай стойкі прыпыніўся – хацеў спытаць кавы, але дзяўчына-афіцыянтка, прабягаючы міма яго, засмуціла: паламаўся кававы аўтамат. Параіла спусціцца на першы паверх, у кавярню.

Тут панавала пустэча і цішыня. Замовіў каву.

Толькі і зрабіў адзін глыток, а потым, безуважны да ўсяго, без аніякіх думак, сядзеў з кубкам напою... Невыносна хацелася курыць. Ён здзівіўся гэтаму свайму жаданню, разважаў над ягоным з’яўленнем. “Кінуў дзесяць... не, нават адзінаццаць год назад. Першы месяц пакутаваў. Але ж даўно адвык. І тут ніхто не курыць. Дык чаму так хочацца?” Думка пра курэнне падавалася зараз важнай і адзіна рэальнай.

Калі за спінай у размове двух хлопцаў, на погляд – равеснікаў Максіма, прагучала “адкос ад арміі”, бы іскравы разрад праскочыў у мазгах. Віктар мала не ўздрыгнуў. І слухаў, не напружваючыся, бо размаўлялі хлопцы гучна.

Да яго хутка дайшоў сэнс размовы і самой сустрэчы, сказ да сказа – усё адно як складваўся зруб з гатовых бярвёнаў. І ўсярэдзіне зруба нешта расло. Злосць, роспач, адчай – адным клубком пачуцці спляліся ў ягонай душы і нараджалі новае адчуванне – прагу рабіць, шукаць і знаходзіць.

Ён думаў, утрымаецца, і не здолеў – выбухнула, падкінула, і ён крутнуўся да хлопцаў, падхапіўся і стаў ля іх стала, нахіліўся нізка над стрыжаным, маладзейшым:

– Дык гэта ты павінны быў пайсці служыць? Цябе адкасілі?

Мабыць, на ягоным твары было столькі злой рашучасці, што хлопцы, хоць і ўдвух, дужыя, маладыя, разгубіліся.

– А якія праблемы, дзядзька? – загаварыў старэйшы, напружана, але

без выкліку, хутчэй, спрабуючы супакоіць. – Мы ж нікога тут не чапаем, пераціраем сваё.

– У мяне сын... Сын пайшоў. За цябе, так? – не адступаў Віктар, упёршы кулакі ў стол, сціскаючы-расціскаючы іх, быццам нешта давіў і не змог задавіць.

– Кожны жыве як можа, – ужо ўпэўнена адказаў за маладзейшага той самы, старэйшы. – Не мы рашаем, каму ў салдаты, каму дахаты. У ваенкамаце пытайся, ці ў старшыні прызыўной камісіі. Мы людзі маленькія, твайго сына не адпраўлялі. Так, дзядзька?

– Так... – павольна разагнуўся Віктар.

– Ну калі так, дык вунь ”белы дом” блізка, намеснік Рагоза – старшыня прызыўной камісіі. А да нас чаго чапляцца?

– Але, выбачайце...

## Фрагмент 12. Віталь Рагоза, намеснік старшыні райвыканкама, старшыня прызыўной камісіі

Сонца, зыркае і занадта святочнае для будзённага клапатлівага дня, пакрысе закацілася за вугал будынка, і ў пакоі з вокнамі, што выходзілі на ўсход, з закрытымі цяпер жалюзі быў амаль паўзмрок. Рагоза закончыў, як ён спадзяваўся, апошнюю тэлефонную размову, на гэты раз з дырэктарам рэстарана. Заспакоена адкінуўся ў крэсле: усё закруцілася як трэба, сустрэча палякаў павінна прайсці гладка. Кіраўнік польскай дэлегацыі, прафесар Люблінскага ўніверсітэта, даў зразумець: захаванне спадчыны іх паважанага земляка ў раёне можа быць адзначана не толькі словамі ўдзячнасці, але і спонсарскай дапамогай на пашырэнне экспазіцыі. Якая б ні была сума, а і самая маленькая для этнаграфічнага музея значная. Работнікі яго каторы год запар зарабляюць грошы, як могуць: платнымі выстаўкамі, майстар-класамі, за свае грошы купляюць артэфакты брэжнеўскага часу – быў мяккі загад-парада з вобласці аб стварэнні залы савецкага перыяду. З партрэтамі герояў працы, ардэнаносцамі, якіх у раёне было нямала: даяркі, свінаркі, трактарысты...

Сакратарка зазірнула, спачувальна ўсміхнулася:

– Віталь Адамавіч, да старшыні тэрмінова... Не ў гуморы зусім, – папярэдзіла.

– Тады пойдзем, – Рагоза падняўся з-за стала. – Нічога не было чуваць?

– Ды спакойна ўсё, – паціснула плячыма сакратарка, жанчына сарака пяці гадоў, вопытная і дасведчаная ў справах – на сваім месцы яна праседжвала ўжо другі дзясятак, перажыўшы чатырох старшынь райвыканкама. – Не ведаю, чаму такі злы.

Старшыня, які летась заняў пасаду, не з мясцовых, маладзейшы за Рагозу, сядзеў за сваім шырэзным сталом. Ягоны ружовы круглы твар з невялікімі прыпухлымі вачыма быццам застыў. Гэтую застыласць ужо добра ведалі ў райвыканкаме як прыкмету крайняга раздражнення. Ён спыніў Рагозу ля прычыненых дзвярэй жорсткім пытаннем:

– Што ў цябе за асінае гняздо ў Куліках?

Рагоза імкліва перабраў у памяці ўсё, звязанае з названым населеным пунктам: стаіць уздоўж трасы, не больш за пяцьдзясят двароў, палова пустых хат – выміраючая вёска. Пенсіянеры.

– Там два дзясяткі старых жыве...

– Я цябе пра гэта не пытаюся! Які герой гадзіну назад вітаў губернатара бел-чырвона-белым сцягам напачатку вёскі, калі ён вяртаўся па трасе з Мінска?

– Не ведаю, – выціснуў з сябе Рагоза, агаламшаны пачутым. Вось жа прыкрасць! Губернатар, як толькі быў назначаны, паказаў сваю рэзкасць, якая межавала з самадурствам, у першыя месяцы – звольніў чатырох старшыняў у раёнах за дробязі, з іх, тутэйшых, гледзішча. І не спыняўся ніяк у сваёй жорсткай рашучасці "навесці парадак". А бел-чырвона-белы сцяг – не дробязі. Усё, з апазіцыяй звязанае, у наш час далёка не дробязі.

– Разбірайся! Каб праз гадзіну я ўсё ведаў, – старшыня апусціў вочы ў стол, даючы зразумець: размова скончана.

– Дык... прабачце, Уладзімір Сяргеевіч, як там... невядома?

– Я перадаў табе ўсё, што мне паўгадзіны таму выказаў губернатар! І даў дзве гадзіны на вырашэнне пытання!

Рагоза змаўчаў, не заікнуўся пра дэлегацыю палякаў, якую трэба сустракаць праз тры гадзіны. Кулікі недалёка...

Кіроўца Рагозы, добра ведаючы аб сённяшняй сустрэчы дэлегацыі і пра турботы свайго начальніка, не здзівіўся таму, як ён ляпнуў дзверцамі:

– Куды, Адамавіч?

– У Кулікі, каб яны згарэлі там разам, – Рагоза не хаваў злога раздражнення.

– Здарылася нешта? – кіроўца няўцямна зіркнуў на Рагозу. – Ціхая вёска, там яблыкі прадаюць раннія смачныя па трасе. А палякі?

– Паспеем з палякамі. Ды здарылася! Нашага губернатара віталі апазіцыянеры бел-чырвона-белым сцягам. Не чуў? – на ўдачу спытаўся Рагоза – ён цалкам давяраў кіроўцу, з якім за гады работы пабываў у розных коўзкіх сітуацыях.

– Не, нічога не чуваць, у інтэрнэце карцінак не было, – адмоўна пакруціў галавой кіроўца. – Учора?

– Сёння.

– У сельсавет зразу?

– Не, давай у вёску. Яшчэ, глядзі, вісіць той сцяг.

– А ўчастковага?

– Ды потым. Мо перапіў нехта ды павесіў, ці ўнукі з дуру пачапілі. Не хапала яшчэ праславіцца ў сеціве з міліцыяй. Можа, і чакаюць з камерай. Газуй!

– Зразумела.

Траса была амаль пустой, Рагоза без цікавасці сузіраў палі ўзбоч яе – сельская гаспадарка не яго вотчына. Але абыякавым заставацца не мог. Сам з вясковых, ды і раён, лічы, сельскагаспадарчы. Вясна спрыяла – травы выраслі густымі, у большасці ўжо былі скошаныя, з пакінутымі пакуль запакаванымі ў белы поліэтылен балванамі сенажу. Густа шчацініліся ячменныя палі. Карціна агульнай дагледжанасці трохі прагнала прыкрасць.

Праз хвілін дваццаць з левага боку паказаліся першыя хаты Кулікоў. Кіроўца збавіў хуткасць, абодва ўглядваліся ў пошуках сцяга на якой жардзіне.

– Халера ведае! – гукнуў Рагоза, калі вёску праехалі. – Як ён ехаў? Які сцяг ён бачыў? Ці вісеў той сцяг, ці дзяцюк які п'яны ім махаў перад ім! Гаўкне, а ты думай, шукай... Давай развернемся ды заедзем.

Праехалі кіламетраў пяць, пакуль з'явілася магчымасць хутка перасекчы трасу і развярнуцца.

І тады, пад'язджаючы да вёскі, Рагоза пабачыў і не стрываў, мацюкнуўся:

– А тваю ж макаўку!

Крайняя хата вёсачкі стаяла на павароце дарогі, якая бегла да трасы. Вялікія вароты ў двор у адно палатно, зваранае і абшытае ліставым жалезам, былі пафарбаваныя ў бел-чырвона-белы колер і ўрачыста віталі кіроўцаў на трасе.

Сцяг. Як ёсць сцяг. Вялізны, памерам тры на два метры. Бачны здалёк.

– Во даў мужык, – не стрымаў свайго захаплення кіроўца.

Пад'ехалі, спыніліся. У Куліках Рагоза бываў (дый не было такога населенага пункта ў раёне, дзе б ён не пабываў па колькі разоў). Але ж хто жыў у крайняй хаце вёскі, не ведаў. Хата знешне добрая, плот акуратны, моцны, фарбаваны раней у блакітны колер, слупы не нахіленыя, трава падкошаная. Слядоў ад машыны не відаць. Як толькі прыпыніліся, адкрыліся веснічкі, з надворка выйшаў мужчына гадоў сямідзесяці. Павольны ў рухах, але трымаўся прама і нават з лёгкай ганарлівасцю.

– Вітаем вас, – Рагоза працягнуў гаспадару руку, назваўся: – Віталій Уладзіміравіч Рагоза, намеснік старшыні райвыканкама. А вашае як імя?

– Дзікан маё прозвішча, – мужчына без ценю ніякаватасці ці спалоху паціснуў руку Рагозы ў адказ. – Антось Дзмітрыевіч.

– Дзікан... – прыязна ўсміхаючыся мужчыну, Рагоза згадваў і згадаў: – То ж вы ў меліярацыі працавалі, так? Экскаватаршчыкам?

– То браценік мой. Заслужаны. А я простым рабочым. Працаваў, сорак гадочкаў.

– На пенсіі зараз? Ваша хата? Тут жывяце?

– На пенсіі. Мая. Будаваў на пяцёх, ды во адзін дажываю. Жонку летась пахаваў, а дзеці ў гарадах, – спакойна дзяліўся сваім мужчына, практычна без эмоцый, і раптам хітра прыжмурыўся: – Вароты мае з раніцы некаму вочы колюць?

– Хех, здагадлівы вы, патурбавалі вось...

– Ды бачыў! Спыніўся нейкі на трасе, машына чорная, вялікая. Выскачыў, утаропіўся, як сшэрхнуў. А не падышоў, не пад'ехаў. Пабаяўся, мабыць.

– Ну, вось Антось Дзмітрыевіч, вы ж самі ўсё разумееце...

– Разумны, а то ж, – неспадзявана набычыўся мужчына, ступіў крок назад. – Мае вароты. Было ў мяне такой фарбы – так і пафарбаваў. Мне падабаецца. Я нічога не парушыў з вашых тых законаў.

– Ды хто ж пра парушэнні кажа? Антось Дзмітрыевіч, калі вы пра сцяг ведаеце, дык жа разумееце. Як тут у нас усё... як робіцца, – не ўшчуваў, мякка ўгаворваў Рагоза. Ён зразумеў: вясковец няпросты, хоць не ідэйны нейкі, затое ўпарты. І азлоблены моцна.

– Ды не сляпы! – пакрывіўся мужчына. – От браценіку вы і граматаў давалі – бяры печ распальвай зараз імі, і прэміі былі. А ў мяне прэмій не было. І зарабляў ён удвая болей. А зараз пенсіі ў нас аднолькавыя. Я во хату і двор даглядаю, а браценіка жонка корміць – бо рукі так трасуцца – лыжку не ўтрымае і на нагах устаяць не можа. А пуцёўку ў санаторый падлячыцца дзесяць гадоў выпрошвае – і няма для яго! Во гэтак робіцца. А як размаляваў, так і будзе. Падабаецца мне колер – светла, і душа радуецца. І з учора, і ад раніцы сёння нехта едзе па трасе ды і пасігналіць – прыемна людзям. То і мне прыемна.

– Дык і мне гэты сцяг па сэрцы, – рашыўся на адкрытасць Рагоза. – І з пункту гледжання геральдыкі ён куды як правільнейшы, нашым светапоглядам адпавядае, як вы кажаце – на душы святлей. Ды ж вось так склалася, – Рагоза з жалем усміхаўся гаспадару хаты, як даўняму сябру ці сваяку. – Так склалася, сёння гэты сцяг выкарыстоўваюць больш тыя, хто выступае адкрыта супраць кіраўніцтва краіны, прама зневажае краіну.

– А я тут прычым? – не пайшоў насустрач Рагозу мужчына. – Я супраць не выступаю. А я – граматны, мне ўнучка надавала разумных кніжак, за зімы гару перачытаў.

Кіроўца пакурваў за колькі крокаў ад іх. Вуліца была ціхай і пустой, а за паваротам, у самым канцы вёскі, прыпыніліся трое кабет. Канечне, назіралі. Значыць, хвілін праз пятнаццаць тут пачнуць збірацца людзі – зразумеюць жа: зусім не дзеці завіталі ў родны дом да бацькі, дзень жа будні, дый машына ў двор не заязджае, і не такая яна... Хоць нейкая падзея ў вёсачцы, як гэта не падысці? Ды і не такія дурныя гэтыя вяскоўцы, няйначай жа ўся вёска тут прайшлася, дзівілася на новафарбаваныя вароты, нехта прыпыняўся ды ўшчуваў гаспадара, выказваў свае меркаванні, сярод якіх было, безумоўна было і такое: “Заўтра прыляцяць, загадаюць фарбаваць па новай!” І вось – іх рацыя, гэтых вясковых мысліцеляў, скептычных назіральнікаў, цынічных ацэншчыкаў. Прыляцелі!

– Дык хіба ў грамаце справа? – усё імкнуўся перацягнуць мужчыну на свой бок адкрытасці і шчырасці Рагоза. – Я вам шчыра скажу: у спакоі вас не пакінуць.

– А мне хай начальнік міліцыі, хай прызідэнт едзе! – сякануў паветра рукой гаспадар хаты, пераступіў на месцы, бы паказваючы, што яму час заканчваць пустую гутарку – справы чакаюць. – Я тут лозунгаў не пісаў!

Рагоза ў думках вылаяўся, сагнаў з твару ўсмешку, сказаў ціха і сур’ёзна:

– Вам нічога не будзе, канечне. Калі толькі не загадаюць знайсці нешта. Самі ведаеце: быў бы чалавек, артыкул знойдзецца.

– Які артыкул? – здзіўлена спытаў мужчына, а ў вачах з’явіўся неспакой.

– Ды ўмеючы шукаць, усё знаходзяць. Ці комін на гарышчы не пабелены, ці праводка ў доме з парушэннямі, ці восенню бульбоўнік паліць пачняце... Не мне вас вучыць, Антось Дзмітрыевіч. Спакою вам не будзе. У адным прызнаюся адразу: застануцца вароты такімі да заўтрага – мяне з работы выганяць. От так, – закончыў Рагоза з горыччу, ціха. Ён не маніў, а як маніў, дык нямнога – праз гадзіну губернатар павінен ведаць аб усім, і канечне, яму павінна быць дакладзена “аб вырашэнні пытання”. “Вы не можаце вырашаць пытанні – ідзіце выкладаць у школы па напісаных падручніках, у мяне знойдуцца тыя, хто будзе не мямліць у кабінетах, а зоймецца справамі”, – крычаў на мінулай селектарнай нарадзе ў адрас ідэалагічных работнікаў.

– То самі фарбуйце! – выгукнуў з адчаем мужчына, сплюнуў і павярнуўся ісці, ды прыпыніўся і дадаў: – Фарбы ў мяне няма, а была б, дык і не даў бы! І фарбаваць не прымусіце!

Рагоза пайшоў да аўтамабіля, сеў на месца, дастаў тэлефон, зірнуў на час: прайшло сорак хвілін пасля размовы ў старшыні.

– Тут такая справа, Уладзімір Сяргеевіч. Гаспадар самай крайняй хаты пафарбаваў свае вароты ў белы колер з чырвонай паласой пасярэдзіне. А яны глядзяць прама на трасу. Гаспадара пераканаў, ды фарбаваць па новай адмаўляецца.

– Дык ты мне раіш ехаць з фарбай ды мазаць? – гыркнуў старшыня, але было чутно, што ён задаволены вынікам разбіральніцтва – усё ж не нейкая спецыяльная акцыя, бо закончыў спакайней: – Вырашай пытанне.

– Будзе зроблена.

Паехалі ў сельсавет, чакалі, пакуль адкрыецца гаспадарчы магазін аграгарадка – Рагоза набыў слоік сіняй фарбы, два пэндзлі.

– Знайдзі якіх мужыкоў пару, – сказаў да старшыні сельвыканкама, мужчыны пяцідзесяці гадоў, лысага і ўвішнага ў рухах. – Разлічышся потым з імі. Ці сам фарбаваць будзеш?

Той, адчуваючы сваю віну, мітусіўся больш патрэбнага, зазіраў без прычыны ў вочы позіркам вінаватай жонкі, якая спаліла яечню:

– Ды тых работнікаў шукаць... Ужо ж блізка абед, паспелі пахмяліцца. Там тых варот – хутка!

– Добра, вось Макар дапаможа, – кіўнуў Рагоза на кіроўцу, які адказаў згодай:

– Памажам.

У Куліках іх чакалі – на лавачцы, якая стаяла ў цяньку пад маладым разлапістым дубам амаль насупраць “апазіцыйных варот”, сабралася сямёра жанок, усе сталага ўзросту. Рагоза мусіў выходзіць з машыны – пры ўсім ён ніколі не грэбаваў размовай з вяскоўцамі. Спыніўся перад лавачкай, павітаўся, назваўся, спытаў пра жыццё. Жанкі, калі даведаліся пра ягоную пасаду, пачалі са скаргаў: нізкая цана на малако, якое здаюць з падворкаў, зачынілі па вясне іх магазін, аўталаўка прывозіць прадукты часам не свежыя, асабліва што тычыцца рыбы ды каўбас:

– Ета ж узяла два кілаграмы таго мінтая, прынесла, а яно як адтала, дык вады з паўлітра! Нахалеру я ваду купляла тую? – напорыста даводзіла адна кабета, круглая, невысокая, як бочачка.

Рагоза слухаў з дэманстратыўнай уважлівасцю і бачыў: размаўляюць з ім, а пазіраюць жанкі ўбок і за ягоную спіну – там кіроўца і старшыня сельсавета пачалі шчыраваць пэндзлямі. Гаспадар дома стаяў у веснічках, прыхіліўшыся да слупа, курыў і глядзеў некуды праз жанок і Рагозу. У вачах мужчыны была туга.

Жанчыны ні слоўцам не абмовіліся пра вароты, і ў гэтым было нешта асабліва непрыемнае для Рагозы, сарамлівае, брыдкае нават.

– Абавязкова пагавару са старшынёй спажыўкаапераціі наконт аўталаўкі, не перажывайце. А як сама прадавачка, ці добра ставіцца, ці не грубіць? Ці выконвае замовы, як замаўляеце? – падахвочваў да размовы Рагоза старых.

– А што тая дзяўчынка, які ёй даюць тавар, такі і вязе, – апатычна на гэты раз адказала вяскоўка, павярнула галаву ў працяг вуліцы.

Па сярэдзіне пыльнай дарогі з кійкамі ў абедзвюх руках, сагнуўшыся амаль папалам, выцягнуўшы шыю, каб глядзець прама, клыпала да іх лаўкі старая ў чорнай спадніцы да пят і шэрай світцы. Яе маўкліва чакалі, і ў гэтым было нешта незвычайна паважлівае, быццам не старая ішла сюды, а галоўны суддзя іх вясковага суда.

Жанчына прыпынілася ля Рагозы, падняла на яго вочы – маленькія, глыбока запалыя.

– Добры дзень вам, – павітаўся Рагоза.

Яна нібы не пачула – моўчкі агледзела яго, пераступіла павярнуцца і паглядзець на вароты, якія ўжо на трэць сталі сінімі. Зноў павярнулася, тыкаючы кійкамі ва ўтравелую зямлю.

– Цётачка Маня, ідзіце сядайце! – адна з жанчын устала.

Старая толькі паварушыла вуснамі.

Рагозу непрыемна казытнула нават не тое, што жанчына праігнаравала яго вітанне, а тое, з якой павагай, нягучна, было прапанаванае старой месца на лаўцы. Значыць, старая чуе добра, з ёй тут лічацца. Яна пачала гаварыць да жанок, нібыта Рагозы тут не было:

– Мне як пяць гадкоў споўнілася, павёў татка ў Баркунову хату. Яна далей за магазін стаяла, спалілі ў вайну. Вялікая хата была, на другой палове лавы ставілі нас, малых, садзілі і вучылі пісаць і чытаць. Не па-польску, па нашаму. А двойчы на тыдзень па вечарах мужчыны збіраліся і жанкі прыходзілі. Мяне татка іншым разам браў. Чыталі тама. Староста абавязкова заходзіў, слухаў – то палякі набаўлялі, каб супраць улады ніц не агітавалі. Вучыліся грамаце...

– Ведаем, была ў Куліках ячэйка Таварыства беларускай мовы пры Польшчы, – не ўтрымаўся, пачціва, дачакаўшыся паўзы, уставіў Рагоза, уражаны голасам старой, які гучаў ясна і складна. “Былая настаўніца? Хто ж?” – намагаўся ўспомніць ён.

Старая, нетаропка, як і раней павярнулася да Рагозы, зірнула гэтым разам яму ў твар:

– Вядун! Ні трасцы ты не ведаеш! У Баркуновай хаце сцяг вісеў, нам, малым, казалі: наш сцяг. Во такі, як Антось намаляваў. Вісеў, і палякі не здымалі, і маёўку мы з ім ладзілі.

Да гэтага часу яна гаварыла спакойна, разважліва, а тут нечакана ўзвысіла голас:

– Бач, палякам сцяг не замінаў, а ім вочы коле! Камандаваць пачалі, чым платы фарбаваць, у чым хадзіць. Да праўнучкі ў Мінску чапляцца сталі: майка ў дзіцяці міліцыянтам не спадабалася, не тое намаляванае! Каб вас на тым свеце чэрці на крукі чаплялі! Няма ніякіх спраў вам, адно во па раёне гайсаць ды выглядваць, хто дзе якое намаляваў, хто якое носіць. Во ўлада! Бач, фарбу знайшоў хутка! А на могілках агароджу пафарбаваць няма фарбы!

– І там зірнём, – няўклюдна ўставіў Рагоза, літаральна агаломшаны абвінавачваннем. – Дапаможам...

– Перагніся ды ў с...аку сабе зазірні! – аж торкнула кійкамі ў зямлю старая. – Памочнік! Там без цябе справіліся, адшкадавалі грошай з той нішчымнай пенсіі, рублі збіралі і фарбавалі во дзеўкі!

Рагоза захліпнуўся ад абразы. Але ж старая мела рацыю – тут ён не мог хлусіць сабе. Ведаў пра могілкі – так паўсюль збіраюць на агароджу, на фарбу... І ўсё адно было прыкра і крыўдна. Хіба мала ён робіць для іх, адзінокіх вяскоўцаў выміраючых вёсачак? Хіба не ён прымушае трымаць да апошняга магазіны ў іх, перадумвае-ўзгадняе з начальнікам аўтапарка маршруты, каб у становішчы фінансавага голаду забяспечыць наяўнасць аўтобуснага маршруту хаця б два разы на тыдзень? Хіба не ён загадвае аўтаклубу раз на два гады праводзіць у кожнай такой вёсачцы святы, не даючы ціхамірнаму жыццю забалоціцца канчаткова?

Старая замаўчала, маўчалі ніякавата і жанкі на лаўцы.

Рагоза адышоўся да машыны, дастаў тэлефон, хоць званіць патрэбы надта не было. Ды ж і стаяць перад жанкамі мішэнню пасля абразлівых слоў не будзеш. Патэлефанаваў начальніку аддзела ідэалагічнай работы, тая адказала, што ўсё ў парадку, да прыёму дэлегацыі гатовыя, адно каб сам Рагоза не прыпазніўся. Ён зірнуў на лічбы гадзінніка – часу ставала.

Праз хвілін дзесяць вароты былі пафарбаваныя. Старшыня сельсавета цёр насоўкай свае рукі. У салоне аўтамабіля густа пахла фарбай. Да сельсавета маўчалі, пры развітанні Рагоза адно спытаў:

– Бабулька з кійкамі – хто яна?

– У канторы калгаснай працавала, камуністкай была, у парткаме. Бухгалтаркай, яшчэ некім там. Даўно на пенсіі, ёй дзевяноста гадоў хутка. Языкастая. Урэдная цётка, плявузгае...

– Ды не зусім плявузгае, – ціха адказаў Рагоза.

Калі паехалі, выбраў нумар, коратка даклаў:

– Уладзімір Сяргеевіч, усё зроблена, перафарбаваныя ў сіні колер. Эксцэсаў не было.

У адказ пачуў “Добра. Дакладную напішаш”.

Прыехалі ў горад, заставалася вольнымі крыху больш за паўгадзіны. Нясцерпна хацелася піць.

– Ну, чакай, – загадаў кіроўцу. – Хутка паедзем. Абедаць пазней будзем.

– Не прывыкаць, – адгукнуўся Макар.

Рагоза шпарка зайшоў у райвыканкам. Дзяжурны міліцыянт замест таго, каб націснуць кнопку і вызваліць круцёлку турнікета, устаў з-за стала і паспяшаўся яму насустрач:

– Віталь Адамавіч, выбачаюся, – загаварыў ён ціха. – Тут вас чакаюць, – павёў позіркам улева, да сцяны, дзе стаялі некалькі крэслаў. На адным сядзеў мужчына. – Мне падалося, ён трохі выпіўшы.

Рагоза павярнуўся да мужчыны. Той ужо ўстаў, зрабіў крок у яго напрамку.

– Вы да мяне? Па якім пытанні?

– Я па пытанні... па пытанні сына, – пачаў ціха, з напружаннем Віктар.

– Так, мужчына, я вас хачу папярэдзіць, – спыніў яго Рагоза. – Па-першае, у мяне няма часу. Прыходзьце заўтра зранку, сёння я буду заняты да канца дня. Па-другое, вы ўжывалі алкаголь, я не буду з вамі размаўляць у такім стане. Хто вы?

– Так, я выпіў трошкі, – прызнаўся Віктар. – Маё прозвішча Анішчук. Віктар Анішчук. Хачу вам толькі сказаць... Вы ж старшыня прызыўной камісіі? Нашага сына забралі хворым у армію. Ён скардзіўся доктару на самаадчуванне. Але яго забралі. Цяпер ён у шпіталі, у яго выявілі энцэфаліт. Ён у цяжкім стане.

– Чакайце, гэта вельмі сур’ёзнае пытанне, я разумею вашу бяду, ды мне насамрэч бракуе часу.

– Я разумею, то не ваша справа, а дактароў. Але я вам яшчэ скажу, – з упартасцю працягнуў Віктар. – Сына не павінны былі прызваць! Там нехта вырашыў адкасіць, і справу абставілі, ваенкам атрымаў хабар, а мой сын, хворы, пайшоў!

На апошнія гучныя словы Віктара звярнулі ўвагу – у вестыбюлі спыніліся некалькі чалавек, назіралі.

– Мужчына, не крычыце! – умяшаўся дзяжурны міліцыянер. – Тут вам не мітынг. Ідзіце праспіцеся, пасля прыйдзеце.

– Якое вы маеце права абражаць, абвінавачваць у злачынстве адказнага чалавека? – наструніўся Рагоза.

– Я чуў размову двух хлопцаў. І яны казалі, што ваенкам атрымаў хабар!

– Супакойцеся! А то мы выклічам нарад міліцыі! – прыгразіў Рагоза, абураны абвінавачваннем.

– Выклікайце! Давайце, судзіце і мяне, бо вам мала сына! – Віктара аглушыла пагроза: за што яго хапаць ды караць? – Я прыйшоў да вас як да старшыні прызыўной камісіі, хачу, каб вы разабраліся і пакаралі хабарніка!

Рагоза бачыў, што вакол прыпыніліся, прыслухоўваліся да размовы – і работнікі райвыканкама, і нехта з выпадковых наведнікаў. Ён разумеў, што словамі супакоіць Віктара не атрымаецца: у чалавека, сапраўды, магчыма, здарылася бяда. Але ён перайшоў межы. І Рагоза кіўнуў міліцыянеру, які зразумеў умоўны сігнал і націснуў пад сваім сталом кнопку выкліку.

– Я вас апошні раз папярэджваю: перастаньце рабіць беспадстаўныя абвінавачванні, супакойцеся і прыходзьце да мяне заўтра з самага ранку, – суха пачаў казаць Рагоза да Віктара. – Вы выпілі, вы толькі што абразілі работніка дзяржаўнай установы, абвінавацілі публічна яго ў злачынстве. Гэта не жарты, за гэта наступае і крымінальная адказнасць.

– Хай так, – выдыхнуў Віктар, ураз быццам абмякшы, павярнуўся і шпарка пайшоў да выхаду. Міліцыянт памкнуўся было з-за стала, каб затрымаць яго, але Рагоза жэстам паказаў: не трэба.

“Падурэлі людзі. Калі ў цябе пытанні – зайдзі чалавекам, звярніся! Выпіў і прэцца”, – злаваўся Рагоза, падымаючыся па прыступках на свой паверх. У кабінеце згадаў прозвішча скандаліста, падышоў да стала і алоўкам пазначыў у календары: “Анішчук Віктар. Ваенкамат: праверыць”.

## Фрагмент 13. Віктар

Казаць па-праўдзе, Віктара вельмі напалохалі словы чыноўніка пра тое, што за сказанае ім яго могуць схапіць і прыцягнуць да нейкай адказнасці. Ён таму і сышоў шпарка, бо раптам адчуў: ён недзе не мае рацыі, а праўда – на іх баку. Бо ў яго толькі словы, словы двух незнаёмых хлопцаў, якіх ён і не ведае нікольні, і заўтра ж яны адмовяцца, калі ім будзе выгадна, ад сваіх прызнанняў.

Добра, ён прыйдзе заўтра, усё роўна прыйдзе. Няхай разбіраецца, няўжо ж няма тут ніякай праўды? Хлопцам не было ніякага рэзону ілгаць: яны ж хваліліся адзін перад адным зробленым, яны радаваліся сваёй удачы. Гэта першае. А другое: Максіма ж не павінны былі забіраць. Не павінны! І значыць, сапраўды ваенкаму давялося мяняць планы, бо ж у іх там дакладны лік прызыўнікоў, які яны павінны забяспечыць...

Ён пойдзе заўтра. Абавязкова. І тады сам пабачыць – па тым, як паставяцца да ягоных слоў.

Віктар ішоў, не выбіраючы кірунку. Прыпыніўся на момант, са здзіўленнем адзначыў для сябе, што ідзе, не ведаючы куды. Але ж куды ісці? На працу? Але дзень, у які прымалі аб’екты, лічыўся закончаным тады, калі разыходзіліся з рэстарана... Дадому? Але што там рабіць? Чакаць званка?

Між Віктарам і Антанінай была дамоўленасць: без неабходнасці не званіць адзін другому тады, калі нехта з іх мог быць за рулём. Але ж цяпер немагчыма не пазваніць. Ды і чаму яна маўчыць? Ці атрымала грошы?

Павагаўся і патэлефанаваў.

Антніна адказала хутка.

– Я якраз прыпынілася ля банка ... – яна казала быццам спакойна, але ў голасе адчувалася прыхаваная роспач, і яна прарвалася: – Яны адправілі сына хворага! Ты разумееш? Гэтыя сволачы адправілі Максіма служыць, а ён быў хворы на той момант! Я ж упрасіла яго паказацца ўрачу, яны

аслеплі там?! Чаму яны не пабачылі, што яму патрэбна дапамога, давялі да другой стадыі? – крычала Віктару, і ёй самой, і яму, які прыгнечана слухаў поўны адчаю крык жонкі, падалося: ва ўсім вінаваты ён, Віктар.

– Я даведаўся... я даведаўся, што ваенкам узяў хабар, каб іншы хлопец атрымаў адтэрміноўку, вось чаму прызвалі так нечакана Максіма, – Віктар дадаў свае словы ў іх агульны касцёр адчаю і прызнаўся: – Я не ведаю, што рабіць.

– Яны за ўсё адкажуць, за ўсё адкажуць, – адказала Антаніна, шмыгнула носам і загаварыла загадна: – Трэба найперш тэрмінова забраць картку сына з паліклінікі. Калі з абласной бальніцы патэлефануюць, то пасля не знойдзем праўды, яны напішуць туды што заўгодна, абы прыкрыцца. Я прывязу лекі для сына, мне зробяць выпіску. А пасля пойдзем у пракуратуру.

– А як мне не дадуць картку? – нясмела спытаў Віктар.

– Я не ведаю! – сарвалася на крык Антаніна. – Хоць здымак на тэлефон зрабі апошняга запісу, калі Максімку прымала тая недарэка ў ваенкамаце! Божа, яна ж павінна была пабачыць, яна ж доктар, як жа так!

– Усё, я зразумеў, я ўсё зраблю, – запэўніў Віктар жонку. – Ты, галоўнае, глядзі там акуратна... І звані, як што зробіш. Я не буду цябе турбаваць.

– Добра, я буду званіць, – зноў шмыгнула носам Антаніна.

## Фрагмент 14. Мікалай Вашчыла, галоўны доктар бальніцы

Мікалай Вашчыла зразумеў, што страціў жонку тры гады назад, хоць і раней закрадвалася думка: развод непазбежны. Лідзію, лекара-стаматолага, нічога не магло ўтрымаць тут: ні назначэнне яе мужа галоўным урачом, ні прапанаваная ёй пасада загадчыка стаматалогіі, ні запланаванае будаўніцтва ўласнага дома.

– У гэтым смуродным райцэнтры я не застануся! – казала яна, тым часам употай, а апошнія гады і адкрыта збіраючы грошы для пераезду ў Мінск, каб там ці самой адкрыць свой кабінет, ці ўладкоўвацца на працу ў вялікі прыватны стаматалагічны цэнтр.

Мікалай, кар'ера якога была імклівай, – хірург, загадчык аддзялення, адразу галоўурач бальніцы, – разумеў: калі пойдзе на саступкі жонцы, дык не даруе потым ні ёй, ні сабе. Яна, уладная, нечым нават хіжая ў адносінах да жыцця, па-за сценамі бальніцы (а то і ў іх) літаральна кіравала ім. Паддацца ёй у апошнім яе жаданні азначала не толькі страціць пасаду, не толькі кінуць бальніцу, у якой ён за гады свайго кіравання дамогся рамонту і новага аперацыйнага блоку (а колькі планаў наперадзе – разам з будаўніцтвам новага корпуса тэрапіі і педыятрыі), але і загубіць самога сябе як кіраўніка, якім ён ужо пачуваўся. Бо Лідзія бачыла будучыню, дзе яна была толькі кіраўніцай прыватнай медустановы, і яго як свайго памагатага.

І вось Лідзія паставіла кропку ў сваім жыцці з ім – вярнулася з адпачынку і прызналася. Не, нават не прызналася, а будзённа паставіла перад фактам: яна сустрэла мужчыну, які гатовы ўкласці частку сваіх грошай на адкрыццё прыватнага кабінета ("Ты ж разумееш, мы зблізілася дастаткова цесна, каб разам маглі будаваць планы?"). Дзіўна, Мікалай пасля шчырасці жонкі адчуў не адчай ці скруху, а палёгку: нарэшце вырашылася. Уласных дзяцей цягам сямі год сумеснага жыцця яны не мелі, дачка Лідзіі ад першага шлюбу гадавалася ў біялагічнага бацькі па іх ранейшай згодзе пры разводзе.

Адзінае было прыкра ўсведамляць Мікалаю: ён зразумеў, што не кахаў Лідзію, і не ён, а яна была ініцыятарам і іх сустрэч, і блізкасці, і сумеснага жыцця, якое зноў жа па яе ініцыятыве перарасло ў шлюб. Яна тады быццам і не кіравала ім, само атрымлівалася – ён бег за яе жаданнямі, як дурное кацяня за ніткай з прывязанай паперчынай, рабіў тое, як трэба было ёй, і пачуваўся ўзнагароджаным, сапраўдным мужчынам, калі дасягае ёй жаданага. “Навошта было жаніцца? Дзеля чаго?” – гэтае пытанне трохі шкрабала самалюбства, і Мікалай апраўдваўся адно тым, што сапраўдная любоў ягоная – праца, затым – аддзяленне, і ў апошнія гады – цалкам уся бальніца, турботамі пра яе ён жыў, прыходзячы ў іншыя дні дадому адно пераначаваць (бо заставаўся і практыкуючым хірургам).

Так, вялікага суму не было. Урэшце, яму няма яшчэ і сарака... Лідзія не стала расцягваць свой ад’езд надоўга – праз месяц і рашэнне суда аб разводзе, і спыненне кантракта па згодзе бакоў, і запакаваныя яе рэчы былі гатовыя. Вярнуўшыся аднойчы з работы, Мікалай сустрэў дома пустэчу. Але часу нейк перажываць, перадумваць не было – пачалі закладваць фундамент новага лячэбнага корпуса, будаўніцтва якога ён так дамагаўся.

Ларысай Стральчак, якая прыйшла на працу пасля ардынатуры, ён апекаваўся ад пачатку, як сваёй дачкой: настойліва выбіваў лепшы пакой у “маласямейцы”, цікавіўся справамі і настроем пры сустрэчах. Яна была маладзей на дзевяць гадоў, ды і ўдавала з сябе старшакласніцу: невысокага росту, мілы дзявочы тварык, які пакрываўся румянцам ніякаватасці пры сустрэчах, задзірлівы “хвост” русявых валасоў. Так было да леташняга лета, калі ён, як галоўны доктар, прыехаў падтрымаць сваю каманду на турзлёце працоўнай моладзі. І там гуляў у валейбол са сваімі маладымі дактарамі і дакторкамі, надвячоркам усе купаліся ў плыткім возеры і, канечне, выпівалі трошкі ля вогнішча. Ён угледзеў тады Ларысу не ў звычным белым доктарскім халаце, у якім адно і бачыў яе, а ў купальніку-бікіні, і адчуў, як ад здаровага мужчынскага ўзрушэння ў горле захрас сапраўдны камяк: у Ларысы былі такія ладныя, такія прыгожыя формы цалкам жаноцкага, здаровага цела, што нельга было нармальнаму мужчыну не звярнуць увагі. Ларыса была не дзяўчынкай, а маладой прыгожай жанчынай – ісціна адкрылася перад Мікалаем знянацку, і ён, трохі збянтэжаны, яшчэ там, пры выпадковай сустрэчы ўранні з Ларысай, сам зачырванеўся, і голас, па-здрадніцку дрыгнуўшы, выдаў яго. А яна ўсміхнулася – ужо не вуснамі разгубленага маладога доктара, а вачыма прывабнай жанчыны, якая ведала пра чары свайго хараства.

Яны быццам памяняліся ролямі ад таго турзлёту – цяпер пры сустрэчы Мікалай Вашчыла хуценька прамаўляў прывітанне, а яна віталася амаль пяшчотна, усміхалася вачыма, вуснамі, усёй паставай сваёй выпраменьвала радаснае ўзрушэнне. Мікалай пазбягаў сустрэч сам-насам, бо адчуваў, як усё глыбей яго зацягвае ў вір пачуцця – ён думаў пра Ларысу раніцай, калі гатаваў сабе сняданак, калі ішоў на працу, калі клаўся спаць. Выява яе цела стаяла перад вачыма, ён помніў, як учарашні, малюнак: у ружовым святле сонца, якое заходзіла, Ларыса, самотная, стаяла на беразе, адціскала свае доўгія валасы, а купальнік не прыхоўваў, а толькі падкрэсліваў чароўнасць ліній яе лытак, клубоў, жывата, плячэй, грудзей, шыі... Спадзяваўся, мінецца гэтая напасць, не заводзіць жа шашні галоўнаму доктару, хай сабе цяпер і адзінокаму, з маладзейшай на гэтульki гадоў дакторкай. І так хапае плётак...

Усё закончылася так, як ніхто з іх, ні ён сам, ні Ларыса, не ўяўлялі. У рэстаране адзначалі надыход Новага года (канечне ж, не 31 снежня, раней). Нехта жартам, але настойліва прапанаваў, каб галоўурач пературанцаваў з усімі вольнымі на гэты вечар жанчынамі калектыву. І Мікалай мусіў танцаваць і з Ларысай. Калі яе гнуткае цела, нечаканую гарачыню і трымценне якога не змагла прыхаваць тонкая тканіна сукенкі, кранулася ягоных пальцаў, ён адчуў хвалю, якая пагражала ці не вар'яцтвам. Самай жаданай, самай салодкай і самай правільнай думкай падалася ў гэты момант такая: падхапіць на рукі Ларысу і несці, несці адсюль, вуліцай у рэдкіх ліхтарах, на якую ціха падае снег.

– Дзе вы сустракаеце Новы год, Ларыса? – нечакана для сябе хрыпата спытаў ён, выбачліва кашлянуў і працягнуў, не чакаючы адказу: – Я сустракаю адзін. Калі вы нікуды не збіраліся, давайце сустрэнем свята разам.

Адчуў, як уздрыгнулі яе рукі на ягоных плячах. Яна маўчала колькі імгненняў, адказала ціха:

– Я згодная. А дзе?

– Дык... Я збіраўся дома, у кватэры. А можа, паедзем у Вільню? Ці лепей – у Львоў! Я замоўлю месцы ў гасцініцы!

– Мне ўсё роўна, – яна зачырванелася, узняла на яго позірк, у якім былі пяшчота і ўдзячнасць. – Абы з вамі.

Толькі селі за стол, Мікалай дастаў мабільнік і праз інтэрнэт замовіў і тут жа аплаціў месцы ў гасцініцы ў Львове. Тры дні, якія яны прабылі разам – у дарозе, у гасцініцы, у начным горадзе, у тлумным рэстаране сярод незнаёмых, але такіх вясёлых людзей, у ягонай кватэры – падаліся салодкім трызненнем на яве.

Ды і пасля відавочнай ужо для калектыву сувязі Ларыса не згаджалася пераходзіць жыць у кватэру Мікалая. Прасіла прабачыць, пачакаць... Мажліва, саромелася плётак, якія імкліва папаўзлі па бальніцы. Ларыса марудзіла, быццам баялася, што за такім шчасцем яднання, з афіцыйным узаконьваннем іх адносін павінна наступіць нешта бязлітасна-пакутліва-штодзённае. Не можа быць такога шчасця – доўгага, бясконцага.

Вярнуўшыся з санаторыя (праблемы з пазваночнікам былі з дзяцінства), Мікалай сустрэў Ларысу з незвычайна бледным, схуднелым тварам, стомленай, не ў гуморы. Занепакоіўся, расхваляваўся: раптам яна нешта сабе навыдумляла ці ёй нагаварылі пра ягоны адпачынак. Калі прыехалі на таксоўцы ў ягоную кватэру, яна ўсміхнулася нязвыклай усмешкай, у якой было нешта незразумелае на гэты раз – жаноцкае, недасягальнае для мужчынскага розуму, і ціха прагаварыла:

– Дурненькі ты! Нічога мне не нагаварылі, нічога я не надумала. Таксікоз у мяне...

Навіна пра цяжарнасць была аглушальнай для Мікалая. Ён, высокі і дужы, падхапіў на рукі Ларысу і, колькі мог трымаць, насіў, люляў яе па пакоях сваёй кватэры. Толькі зараз выбухнула, адкрылася яму яго ж патаемнае жаданне мець сапраўдную сям'ю, дзяцей. Яны дамовіліся падаць заяву на рэгістрацыю шлюбу назаўтра, ніякага вяселля не рабіць.

Праз тыдзень Ларыса адчула сябе блага, яе тэрмінова шпіталізавалі з пагрозай выкідыша. Мікалай паклапаціўся, каб як адправілі ў абласную бальніцу. Праз два дні яна пазваніла, суцешыла: усё нармалізавалася, адно трэба паляжаць. Звычная на сёння справа.

## Фрагмент 15. Віктар

Віктар закінуў у рот адразу некалькі падушачак "Орбіту", хутка жаваў – хацеў перабіць пах алкаголю і дакараў цяпер сябе: не трэба было выпіваць.

У паліклініцы ля акенцаў рэгістратуры людзей амаль не было – толькі нейкая жанчына размаўляла з работніцай, відаць, сваёй добрай знаёмай.

Віктар нахіліўся да акенца, хутка прагаварыў:

– Мне, калі ласка, картачку Анішчука Максіма Віктаравіча.

– Адрас? – абыякава ўдакладніла рэгістратарка, павярнулася да стэлажоў.

Яна доўга корпалася, перакладала стосы бухматых і тонкіх картак, нарэшце знайшла, несла яе, учытваючыся ў напісанае. Магчыма, ды не магчыма, а канечне – каб быў ранак, каб тут была процьма людзей, якая нервова тоўпіцца перад акенцамі, дык рэгістратарка б не звярнула на тое ўвагу. Але цяпер яна ўскінула бровы, зірнула на Віктара:

– Дык гэта ж не вашая, год нараджэння які!

– Гэта майго сына...

– Дык а навошта вам? Ён жа, во тут пазначана, служыць...

– Таму што мне трэба! – рэзка адказаў Віктар, спадзеючыся на свой голас, які падпарадкуе жанчыну, але выйшла наадварот – яна прыціснула картку да вялікіх грудзей, што сплыліся пад халатам у адзін вялікі бугор, і скрывіла вусны:

– Не паложана!

– Мне трэба картка майго сына! – яшчэ паспрабаваў патрабаваць Віктар, хоць ужо зразумеў: ён прайграў. Таму дадаў паспешліва: – Вось, глядзіце, мой пашпарт, – і мітусліва палез у кішэню.

– Не трэба мне ваш пашпарт! – адказала рэгістратарка. У ёй быццам уключылася нейкая зададзеная функцыя, бы ў камп'ютары, і яна яшчэ раз паўтарыла тонам, які не пакідаў надзеі: – Не паложана!

– А каму паложана? – спытаўся Віктар.

– Хай галоўурач скажа, тады дам!

Віктар, разнерваваны, па лесвіцы падняўся на другі паверх паліклінікі – тут былі адміністрацыйныя кабінеты, зайшоў у прыёмную, павітаўся як мог стрымана і спытаў галоўнага ўрача.

Сакратарка, жанчына з пышнай фрызурай гадоў сарака пяці, зірнула на яго з насцярогай – яна адчула прыхаваную раздражнёнасць у словах, спыніла Віктара звычнай фразай:

– Мікалай Андрэевіч заняты. Прыходзьце ў часы прыёму, вунь графік. Па якім пытанні вас запісаць?

– Мяне не трэба нікуды запісваць. Мне трэба галоўурач неадкладна! – падвысіў голас Віктар.

– Мужчына, не крычыце тут, – строга загадала сакратарка. – У Мікалая Андрэевіча ідзе нарада. Там людзі.

– А я – не чалавек? А мой сын, які зараз ляжыць у ложку з энцэфалітам, не чалавек? – Віктар сарваўся на гучны крык на другім сказе.

Сакратарка падхапілася з перапуджаным тварам – перад ёй стаяў не проста раззлаваны, а ўзбуджаны мужчына, яна, як медык, гэта зразумела адразу. Паспрабавала ўлагодзіць:

– Калі ласка, супакойцеся, прысядзьце. Давайце, я вам налію вадзічкі. Мы ва ўсім разбяромся. Хто ваш сын?

– Мне не трэба вада. Паклічце мне галоўурача! – выгукнуў Віктар,

памкнуўся да дзвярэй у кабінет з шыльдай “Галоўрач”, але тыя адчыніліся самі – Мікалай Вашчыла пачуў крык і выйшаў з кабінета.

– Што здарылася? – хацеў спытацца мякка, але пачуў характэрны пах ад Віктара, з якім сутыкнуўся ледзь не твар да твару, таму адразу загаварыў рэзка: – Чаго вы тут, нецвярозы, учынілі вэрхал, перашкаджаеце працаваць?

– Я вам перашкаджаю? – скрывіўся Віктар. – Тут вы працуеце? Прабачце тады. Я думаў, вы павінны працаваць у палатах, там дзе хворыя. Я хачу пабачыць картку свайго сына, Анішчука Максіма. Мне не далі яе ў рэгістратуры. Пазваніце туды, мне трэба картка.

– Усё правільна зрабілі ў рэгістратуры, – адказаў Мікалай Вашчыла. – Амбулаторныя карткі – для ўнутранага карыстання, для ўрачоў, а не для хворых ці іх бацькоў. Што вы хочаце?

– Я хачу пабачыць картку свайго сына! – па словах паўтарыў сваё патрабаванне Віктар. – Я хачу пабачыць, які запіс зрабіла тая доктарка, якая была ў ваенкамаце, да якой звяртаўся мой хворы сын. Пакажыце мне картку!

– У чым справа, урэшце? – насцярожыўся галоўурач. – Вы незадаволеныя тым, што зрабіла доктар на прыёме?

– Яна адправіла сына хворым! Сын цяпер з другой стадыяй энцэфаліту ў ложку! Яна не бачыла, што ён захварэў? Ён звяртаўся да яе! А яна дала яму нейкую пігулку ад галавы, яна палічыла, нібыта ён проста выпіў лішняга, хоць мой сын ніколі не напіваўся!

– Я не стану цярпець абразаў і крыку, – адказаў Мікалай Вашчыла, а ў скронях яго забухалі словы “энцэфаліт”, “прызыў”, “звяртаўся”. Гэта немагчыма. Ларыса не магла быць такой няўважлівай, каб не ўбачыць захворвання. А як здарылася?

– А мне, выходзіць, цярпець? Цярпець маці, якая бачыла свайго і не свайго сына, які ў бяспамяцтве? – разышоўся Віктар.

– Калі ласка, супакойцеся... Інакш я буду вымушаны выклікаць міліцыю. Тым больш, вы выпіўшы. Хадземце да мяне ў кабінет, там пагаворым пра ўсё. Хто вы, найперш, як імя вашага сына?

– Мой сын – Максім Анішчук! Я нікуды не пайду! Я хачу атрымаць на рукі картку сына, каб ісці з ёй у пракуратуру, каб тая маладая прадажная дзеўка за ўсё адказала! Бо ўсё было падстроена, дагаворана! Майго сына не павінны былі прызваць, але ў іх там не хапала чалавека. Ён быў хворы, але яна закрыла на тое вочы, як ёй загадалі. Яна за ўсё павінна адказваць! – не сунімаўся Віктар.

Мікалая Вашчылу бы абдало кіпнем – брудная абраза ягонай Ларысы выклікала злосць, ён ледзь стрымаўся, каб не ўдарыць Віктару ў твар. Ён у гэты момант бачыў перад сабой не бацьку хворага сына, а мужчыну на падпітку, хама, які абразіў ягоную Ларысу. З імгнення пачырванелым тварам ён зірнуў на сакратарку, кіўнуў ёй. Тая ўзяла тэлефон, націснула некалькі кнопак і сцішана прагаварыла:

– Бальніца, прыёмная галоўнага доктара, тут скандаліст, п’яны...

З кабінета галоўурача выйшлі некалькі дактароў, адзін, мужчына, паспрабаваў узяць Віктара пад локаць:

– Калі ласка, не трэба так крычаць, супакойцеся... Крыкам справы не робяцца...

– Не чапайце мяне! – крутнуўся Віктар, не даўся: – Дайце мне картку! Я хачу бачыць апошнія запісы. Калі мне нельга забраць яе з сабой – я зраблю здымак. Гэта адзінае, чаго я прашу зараз!

У калідоры насупраць адчыненых дзвярэй прыпыняліся людзі, Мікалай Вашчыла прычыніў іх. У прыёмнай зрабілася цесна – дактары стаялі вакол, у цэнтры знаходзіўся Віктар. Яго спрабавалі супакоіць, нехта з урачоў даводзіў яму, што паказваць картачку іншаму чалавеку можна толькі ў надзвычайных абставінах.

– Што за тваю макаўку! – абураўся Віктар. – Я, бацька, не магу пабачыць, што напісала тая дзеўка ў картачцы сына? Гэта дзяржаўная таямніца?

– Не мацюкайцеся, – заўважыў абурана Мікалай Вашчыла, пасля ціха дадаў: – Зараз прыйдзе доктар, якая прымала вашага сына, – паабяцаў, адно каб затрымаць Віктара да прыезду міліцыянтаў. – Раскажыце, што з вашым сынам, дзе ён зараз? Мы можам звязацца з урачамі той бальніцы, нам будзе ўсё зразумела. Магчыма, вы трошкі перабольшваеце...

## Фрагмент 16. Марыля, прыбіральшчыца

Гэта ж падумаць, дык раней бы пасмяялася, а тут на табе: гэтак забрала яе, ажно адправіла дзяцей падалей ад горада, ад дарог – збіраць дзьмухаўцы зварыць варэнне. Сяброўка расказвала, прыцмоквала, маўляў, такая ўжо смаката, у свякрухі паспрабавала. От сама думае наварыць, і рэцэпт запісала. Марыля, падкая на ўсякія самаробныя прысмакі (яна і з кавуноў варыла, і з кабачкоў), чула раней пра дзьмухаўцы. Але каб самой паспрабаваць, дык не збіралася. А тут загарэлася. За два дні дзеці пакет кветак нарвалі. Паўсутак у халоднай вадзе адстойваліся, ваду мяняла, як у рэцэпце было запісана. Сёння во пакарміла сваіх, управілася з хатнімі справамі, паставіла сваё варэнне. Ёй у чатырнаццаць гадзін прыбіраць у блізкім ад дома райаддзеле міліцыі, хай пакіпіць трохі, пасля яшчэ паварыць.

І хоць было напачатку сорамна прыбіральшчыцай, сагнуўшыся, з азадкам адстаўленым у яе гады сярод мужыкоў соўгацца, а куды дзенешся, калі нідзе ніякай работы? Закрыўся яе завод, скарацілі кранаўшчыцу, а каму сёння кранаўшчыцы патрэбныя, калі ў раёне ніводнага аб'екта шматпавярховага не будуецца ўжо які год? Прадавачка з яе ніяк не выйшла, не ўмее яна з грашыма, тыя быццам скрозь пальцы сыплюцца. Тымі пальцамі налаўчылася адно рабіць хутка – ягады збіраць. Вось улетку, як год ураджайны на ягады, тут яна са сваёй увішнасцю нікому не саступіць са знаёмых. Пяты год запар за лета – пачатак восені паспявае на ягадах ды грыбочках зарабіць дзецям у школу на апранахі і абутак. І сабе крыху застаецца. А пакуль варэнне. Муж, Аляксандр, салодкае любіць, за зіму ўсё з'ядае, а дзеці насы вернуць, магазінныя смакі ім лепшыя. Ды не сядзець жа без справы самой, і дзецям нейкі занятак, хай не прывучаюцца бадзяцца абы-дзе.

Нечакана дзверы ляснулі – то толькі Аляксандр так рабіў. Вызірнула – і праўда, ён. Перапалохалася: от, ці не ў мусовы адпачынак адправілі? Тое і спыталася.

– Збяры мне ў камандзіроўку, на тыдзень пакуль! – з вясёлай зухаватасцю патлумачыў муж. – Есці сала кавалак адно, там ручнікі ды бялізну і каб з работы было пераапрануцца.

Яна збірала, ён пакаваў транты ў сумку, тлумачыў: нечакана пашанцавала аўтабазе: выйгралі тэндар на перавозку жвіру, ёсць шанец у гэтым месяцы быць з добрай зарплатай.

І калі ўжо гэта закончыцца? З бюджэту грошай на пасажырскія пера-

возкі амаль не даюць, начальнік аўтабазы за грошы са свае кішэні, былі выпадкі, запраўляў аўтобусы ў рэйсы. Тут прыбытку ніякага, адзін паратунак – грузавыя перавозкі, а што перавозіць? Вось і гойсаюць па вобласці і за межамі, і ў Расіі шукаюць кантракты, каб задзейнічаць тэхніку, даць людзям зарплату, утрымаць аўтобусны парк. А стратныя рэйсы скарачаць не спрабуй нават – сацыяльныя стандарты, бы той маўзалей: непатрэбшчына для людзей, а для ўлады – ікона.

Марыля збірала мужа, паглядвала на гадзіннік – і самой жа на работу трэба выходзіць, а яшчэ не апранутая. То ўсё бегам. І па лесвіцы спускалася, і, задыханая, спяшалася тратуарам – начальнік райаддзела не дараваў ёй спазненняў, быццам яна які ўчастковы.

Халат свой доўгі накінула, пальчаткі на рукі, вады набрала – пачала з дзяжуркі і калідора на першым паверсе. Тут людзей сустракаюць, тут пяску столькі наносіцца за паўдня. Затым – у кабінет прафілактыкі і правапарадку. Там людзей сама больш за дзень перабывае, там усе ўчастковыя, туды выклікаюць парушальнікаў, там складаюць пратаколы на затрыманых. Як там мыць, дык яна дадае ў ваду куплены ёй самой сродак пахучы. Бо ў кабінеце вітае да яе прыходу густы пах сумесяў тытуню, перагару, поту, таннай парфумы. Пачала мыць і раптоўна войкнула, застыла на месцы.

– А Божачкі мой...

– Што здарылася? – занепакоіўся начальнік аддзялення, капітан Клімуш. – Праблемы, Марылечка?

Разагнулася, вочы вырачаныя, там спалох і страх.

– Я ж газ не выключыла! Варэнне варыць паставіла, мужык прыйшоў, замітусілася, яго збіраючы, сама спяшалася. І дзяцей да бабы адправіла. Авоечкі, што ж я нарабіла!

– То бяжыце! Чакайце, вунь Манько вярнуўся, ідзём, скажу вадзіцелю, падкіне ды назад.

Марыля скінула халат, павесіла на крэсла ў куце, туды ж паставіла вядро з вадой, швабру прытуліла, выскачыла следам за капітанам.

## Фрагмент 17. Сяргей Манько, участковы міліцыянер

Дзень не задаўся з раніцы. Напачатку чатырохгадовая Волечка нечакана закапрызіла, са слязьмі збіралася ў садок. На вялікай агульнай кухні, куды Сяргей выйшаў паставіць чайнік, сустрэў суседа, раней асуджанага за хуліганства, Рыгора Кавеню. Ростам пад два метры, шырачэзны ў плячах, той павітаўся прыязна, Сяргей адказаў і нагадаў будзённа:

– Не забудзься, на чатырнаццаць да мяне.

Рыгор зморшчыўся ў адказ, рагатнуў незласліва:

– От вы пацукі пратакольныя, мы хіба кожны дзень не сустракаемся, не бачыш ты, як я жыву?

– Такі парадак, – гыркнуў у адказ Сяргей, уколаты “пацукамі”. – Прафілактычныя гутаркі не на агульных кухнях у інтэрнатах праводзяцца.

– Блін, ды прынёс бы ты мне тую паперчыну, я тут падпісаў бы ды і ўсё, – з крыўдай загаварыў Рыгор. – У нас заказ вялікі сёння, майстар псіхаваць будзе. Да вас жа на пяць хвілін зойдзеш, а прачакаеш гадзіну.

– Такі парадак, – суха адказаў Сяргей, дадаў: – Не я вінаваты.

– Я ведаю сваю віну, – з крыўдай адказаў Рыгор. – У вас раз спатыкнешся, усё жыццё кульгавым будзеш. Прыйду.

Для Сяргея самым нечаканым і непрыемным у жыцці маладога міліцыянта было ўсведамленне гэтай, на першы ягоны погляд, абсурднасці жыцця – ён і астатнія, каго закон выразна аддзяляе ад законапаслухмянага грамадства, мусяць жыць разам. Не проста ў адным горадзе. А побач, вось так, сустракаюцца ў адным калідоры інтэрната штовечар ці хоць два разы на тыдзень.

Курсантам Акадэміі МУС ён прызвычаіўся да таго, што ўсе парушальнікі-хуліганы, з якімі ён сутыкаўся, апазіцыянеры, якіх дапамагаў “пакаваць” у аўтазакі на мітынгах, а было і пачаставаў колькіх дубінкай, заставаліся не проста чужымі, а адчужанымі ад ягонага жыцця. Яны быццам жылі на іншых планетах, і сустрэчы адбываліся толькі ў час ягоных дзяжурстваў. На пабытовым узроўні існавалі адно тыя людзі, каго ўпускаў у сваё жыццё Сяргей, людзі нармальныя, правільныя. І вось выпуск, пагоны лейтэнанта, першыя дзяжурствы ў райцэнтры, які ён, у мінулым вясковец, ведаў добра, бо паспеў папрацаваць тут на заводзе да арміі. І першыя адкрыцці прымушалі глядзець вакол зусім іншымі вачыма. Сусед па інтэрнаце – Рыгор Кавеня, раней асуджаны за нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Калі верыць насельнікам інтэрната, дык пацярпеў дарэмна: у бары падвыпітыя дзецюкі абразілі дзяўчыну, незнаёмую нават Рыгору, але заступіўся. Далей – бойка, у якой адзін з маладзёнаў ад удару Рыгора заляцеў у шкляную вітрыну. Парэзаў моцна твар, шыю. Ледзь уратавалі, дый шнары засталіся. І сеў Рыгор на тры гады, бо сам быў нецвярозы. Выйшаў па ўмоўным, пад наглядам. І табе не толькі жыць з ім на адным паверсе, сутыкацца на кухні, дык і твая дачка ходзіць у адзін садок з ягоным сынам, носяцца доўгім інтэрнатаўскім калідорам па вечарах, а ты мусіш выклікаць яго, адзначаць у паперах: як сябе паводзіць, ці парушае парадак і ўмовы датэрміновага вызвалення.

А ля магазіна ты сустрэнеш алкаша Лёшку, мужычка гадоў пяцідзесяці, зморшчанага, бы грыб, з целам падлетка, які пачынае свой дзень, як спраўны рабочы чалавек – абыходзіць у вызначаны ім самім час “свае” сметніцы, і тут не жарт: сметніцы ягоныя, бо яны насамрэч падзелены між падобнымі лёшкамі. І гэты Лёшка, ты ведаеш, выскаліцца табе насустрач, павітаецца, і быццам не будзе помніць крыўды, калі ты прыехаў па выкліку суседзяў і сунімаў раз’юшана-п’янага дубінкай – не везці ж у аддзел, ад пачатку пра такіх папярэдзілі. Ды і як везці, тут дзікай коткай гатовая кінуцца на цябе сужыцелька, такая ж п’яная, з растрапанымі рэдкімі космамі...

І апазіцыянеры, аказваецца, не закідваюцца да нас аднекуль з невядомай краіны ці планеты, вунь – у суседнім двары, сівагаловы былы настаўнік, цікавы субяседнік, актывіст грамадскі, арганізоўвае то суботнікі, то нядзельнікі ў сваім невялікім двары. Тут не скардзяцца на паламаныя дзіцячыя горкі ці арэлі – самі ўсё парабілі, тут альтанкі – няма нідзе па горадзе такіх, а моладзь тут, як збіраецца, дык без ніякага крыміналу. І нявестка гэтага апазіцыянера, на якога табе раз ад разу складаць патрэбныя паперы, працуе ў краме, сустракае цябе з жонкай ветлай усмешкай, у яе кароткай размове на касе праскочыць такое цёплае роднае “калі ласка” і “дзякуй вам”, а яна ці ведае, што разам са свёкрам – на тваім асабістым уліку? І яна вораг, яна змагаецца супраць улады? Бо ніколі не падманвае на касе і абслугоўвае хутка і ветліва?

І з імі разам мусіш жыць, з усімі і ўсякімі, ды мала таго – твая жонка ходзіць па тых жа вечаровых вуліцах, па якіх і тыя, хто затаіў на цябе злосць ці смяротную крыўду. І дачушка твая ў гэтым горадзе, а ён, горад, такі невялічкі – за гадзіну пройдзеш наскрозь?...

Выклік у райвыканкам з нагоды скандаліста заспеў Сяргея ў кабінеце

– займаўся папяровай работай, якой, халера, было больш за любую іншую. Падхапіліся з кіроўцам, выехалі. Ехаць тры хвіліны, але на перакрыжаванні якраз ладзілі новы святлафор, які то працаваў, то не. Фура разварочвалася і зачапіла легкавік. Сталі. Не праціснуцца, столькі назбіралася аўтамабіляў. Прыехалі, дзяжурны па райвыканкаму даклаў аб інцыдэнце. Сяргей запісаў прозвішча і імя скандаліста, на ўсякі выпадак. Праверыць каб – можа, і ягоны раён. Вярнуліся ў аддзел, як выбегла насустрач расхваляваная Марылька, іх прыбіральшчыца, за ёй – начальнік аддзялення Клімуш. Падвезлі жанчыну да пад'езда. Тая бегам падалася ў дом. Чакалі хвілін пяць, Марылька выбегла яшчэ больш разгубленая, чым была, амаль загаласіла:

– Ай Божачкі, хлопчыкі, што мне рабіць? Каструля прыгарэла, схапіла і пад кран, тарганула, а ён сарваўся, вада свішча! Пабягу суседа шукаць, залье ж усё! Я пазваню начальніку, буду прасіцца.

Паспачуваць Марыльцы не паспелі – зноў прагучаў выклік: п'яны мужчына скандаліць у бальніцы, у прыёмнай галоўурача.

– Слухай, мо гэта той самы, што ў райвыканкаме? – спытаўся міліцыянт-кіроўца. – Во паспявае мужык!

– Ну калі гэта ён, яму мала не будзе, – буркнуў Сяргей, зірнуў на гадзіннік – была палова на трэцюю, яго, відавочна ж, чакае ў кабінеце сусед Рыгор.

На гэты раз паспелі: да другім паверсе бальніцы чуліся крыкі.

Віктар у гэты час вырашыў не чакаць, ісці адразу ў пракуратуру, бо зразумеў, што яму не пакажуць карткі і ён не дачакаецца таго маладога ўрача. Ён якраз вырваўся з рук Мікалая Вашчылы – той пераступіў яму шлях, спрабаваў утрымаць за руку.

Сяргей Манько схапіў Віктара за руку.

– Стаяць!

– Што вам трэба? Адпусціце! – паспрабаваў вызваліцца Віктар, стаў адпіхваць міліцыянта ў плячо.

– Стаяць і супакоіцца! Не чапай пагонаў, пашкадуеш! – Сяргей заламаў руку Віктара, ён мусіў сагнуцца. Дастаў кайданкі, захапіў другую руку.. – Уніз!

Калі пасадзілі сцішанага раптоўна Віктара на задняе сядзенне, Сяргей вярнуўся ў кабінет галоўурача, зрабіў апытанне. Яшчэ прайшло пятнаццаць хвілін.

"Паскудства!" – вылаяўся ў думках Сяргей, згадваючы пра суседа.

## Фрагмент 18. Мікалай Вашчыла, галоўурач бальніцы

Пальцы рук трэсліся доўга. Ён ведаў, якім чынам іх можна хутка супакоіць – захапіць у далонь адной рукі пальцы другой і моцна сціснуць, потым – наадварот. Гэта дапамагала заўсёды, так і рабіў перад аперацыямі, больш па звычцы ці для прафілактыкі. Але тут не хацелася іх супакойваць гэтак радыкальна. Бо пальцы былі працягам яго нутра, у якім усё калацілася.

Да скандалаў тут, у ягоным кабінеце, ён прывык за першыя гады кіраўніцтва бальніцай, навучыўся іх прымаць. Што паробіш, людзі – слабыя стварэнні, і ў плане фізічным, і ў псіхічным. Абвінавачванняў ён таксама наслухаўся самых розных і ў самых розных грахах. Канечне, прыемнага мала. Але сёння абразілі ягоную Ларысу. Нічога, ён яшчэ сустрэнецца з гэтым мужчынам, менавіта як мужчына з мужчынам. І прымусіць выбачацца.

Але і гэтая абраза – не ўсё. Не галоўнае.

Хворы.

Ларыса была на прызыве. Віктар Анішчук сцвярджае: да яе звяртаўся са скаргамі ягоны сын. Гэта праверыць неадкладна. Яна расказвала, як у тыя дні ледзь стрымлівалася – пахі наўкола выклікалі няспынны пазыў на ваніты.

Мікалай найперш патэлефанаваў у абласную бальніцу. Хацелася, каб мужчына памыляўся. Ды пацвердзілася горшае: у хлопца, Максіма Анішчука, сапраўды клешчавы энцэфаліт. Другая стадыя. Стан вельмі цяжкі.

Значыць, па часе, у момант прызыву, у яго была першая стадыя. Сімптаматыка: ліхаманка, стан скуры, фіксаванне позірку, трэмар мышцаў і боль у іх. Калі месца ўкусу – галава, найперш пойдзе ў мышцы шыі, плеч.

Патэлефанаваў у ваенкамат, даведаўся адрас прызыўніка. Не стаў тэлефанаваць у рэгістратуру, схадзіў сам, адшукаў і забраў картку. Толькі ў кабінеце раскрыў, пачытаў запіс, зроблены Ларысай.

Запіс у адзін сказ. Скаргі на галаўны боль. Тэмпература ў норме, ціск падвышаны нязначна.

Непрыемны халадок з жывата расцёкся па целе і быццам астудзіў галаву. Так было заўсёды: як толькі перад вачыма ўзнікала карцінка, розум безэмацыйна пачынаў выстройваць дакладную схему дзеянняў. Да Ларысы трэба ехаць і перапісваць старонку. Значыць, гэтага скандаліста, бацьку прызыўніка, трэба неяк затрымаць. Калі пойдзе ў пракуратуру, картку запатрабуюць. Да Ларысы трэба ехаць тэрмінова. Добра, што ёй стала лепш...

Мікалай выйшаў з кабінета, спусціўся ў бальнічны дворык, адшукаў у мабільным тэлефоне нумар начальніка міліцыі, з якім меў не проста сяброўскія стасункі – яшчэ загадчыкам хірургіі давялося самому рабіць тэрміновую аперацыю пляменніцы – гнойны апендыцыт, было хвалявання, але абышлося найлепшым чынам. Пасля калегі з вобласці прызналі: прамаруджванне на паўгадзіны рэальна пагражала жыццю. Хапіла розуму ў час выпіскі і сустрэчы з ім, начальнікам міліцыі, бо яго ён ведаў, а бацькі дзяўчыны былі здалёк, з нейкай вёскі, узяць адно толькі торбу з прысмакамі, а канверт, які саўганулі ў кішэню, катэгарычна вярнуў.

– Прывітанне нашай службе, Вашчыла. Слухай, Іван Пятровіч, тут да мяне сёння адзін скандаліст завітаў быў, давялося тваю службу турбаваць, твае хлопцы яго ледзь утаймавалі...

– Вітаю медыцыну! – адгукнуўся начальнік міліцыі. – Дык якія праблемы? Пагарачыўся чалавек. Прабачым? Ці іншае?

– Ды іншае... Абражаў тут усіх запар. Вясковая цётка якая, дык пацярпіш. А тут п’яны, агрэсіўны, у твар слінай пырскае, літаральна біцца лез.

– Сур’ёзна тады. Мне яшчэ не дакладвалі.

– Што там яму за гэта пагражае?

– Хуліганства, аформім – і ў суд, там вырашаць: ці штраф, ці суткі.

– Ат, ведаеш, якія сёння ў людзей заробкі, хай бы пасядзеў колькі часу ды падумаў.

– Зразумела! Усё будзе як мае быць! Аформім па поўнай схеме. Спачуваю, іншы такі спаскудзіць настрой надоўга. Там нашы хоць апытвалі, складалі пратакол? Ты расказваў?

– Так, пісалі.

– Тады ўсё схоплена.

паэзія

Валеры Дубоўскі



...Малюй удумліва, мастак.
Свет расхістаўся...
Ты хістаў?..

# Воблака шостых пачуццяў

* * *

Нябёсы – як кросны
Для думак маіх і страт,
Для сцежак дзівосных,
Дзе араты я
І салдат.

Расчараваны, нанова веру
У добрадзь маёй зямлі,
Дзе ўнукі – паэты й жаўнеры,
Якіх не клялі б
Каралі.

* * *

А цень –
што намітка.

А дзень –
ён думкай залацён.
Спазнай і памятай
аблокі,
словы
і жыццё.

Хто паўміраў,
мы тых не папарэдзім.
А хто за намі,
тых не апярэдзім.
Мы тут і там.
Мы недзе,
недзе,
недзе...

* * *

Баразна
не мае бясконцасці.
Як і чалавек,
яна мае сваё поле
і свае межы.

У бясконцасці
свая баразна ёсць.
Арэ яе чалавек,
арэ другі, трэці...

Чалавек,
у якога няма бясконцасці.
І межаў няма.

* * *

*Рыгору Барадуліну*

У мой дом
Уваходзіць памяць.
Падае ніцма.
Ніяк не магу ўцяміць –
Будучыні баіцца?

Вочы ў яе з дакорам:
“Дзе з дому
У заўтра выйсце?
А была Беларусь
Калісьці?”..

...Пазнаю вочы
Рыгора.

* * *

*Алесю Разанаву*

Лецішча.
Дуб у вакне.
На промнем
Угрэтым сталe –
Наступства.
Яго прамкне
Збылое,
Што перастае.

Лягчэе.
Знікае.
За ёсціны краем.

## ЦОТ-НЯЦОТ

Над рунню –
В облачкам-рунцом –
Мой успамін
Сплыве, здаўнее.
З дзён,
З прамінулым дымавеяў –
З усіх няцотаў
Зладзіць цот.

У безлічы –
Бясконца лік.
І ім чародкі
І адсоткі.
І ты адзінкава прынік
Да сумы,
Як вясло да лодкі.

* * *

Камяні ўздоўж ручва –
Віжы.
У рэчышчы камяні –
Парогі.
Праплываючы ўсе нязмогі,
Рэчка,
Свае берагі беражы.

Зямля і неба ў цябе –
У дарадцах.
Чалавек у жыцці –
Адзінотнае дрэўца.
Свет вялікі,
А некуды дзецца...
Буду сваіх берагоў
Трымацца.

* * *

Час,
калі ўжо не рупіць падабацца
ні часу, ні людзям, ні сабе.
Калі воблака,
якое вецер гоніць у залюстрань,
бліжэй і даражэй
за апратку на целе,
насамрэч заўсёды пад ёй голым.

Калі душа
знаходзіць сябе ў сабе.
Сталее,
застаючыся між іншага
спазнанага
душой таго дзіцяці,
якім упершыню мусіў ты
адчуць сябе чалавекам,
а не воблакам,
не лісцікам,
не птушкай і не зверам.

Калі разам ты
і здольнасць, і магчымасць,
і мроя.
А гады
з іх здабыткамі і стратамі,
адчуваннем свету і сябе
дазваляюць не саромецца
ні перад светам,
ні перад сабой.

Час гэты
можа быць і маладосцю
і сталасцю.
Імя яму – тутсамасць.
І не быць ні маладосцю,
ні сталасцю.

З нішто
перетварыцца ў тло.

* * *

Нібыта я,
дарожкай палазовай,
кульгаючы
ад недакладнай рыфмы,
нябёснай і зямной
спазнаўшы змовы,
нясмелы месячык
то прападаў, то ўспыхваў.

Я быў часовы,
ён – ліхтарык вечны.
І мы абодва
выпадкова, безпрычынна
ўсхацелі разам
да адной дзяўчыны –
папіць вады –
на станцыю забегчы.

* * *

На
Засынаючы горад шумлівы
Ціха,
Асцярожна-квёла
Нябёснае,
Зорнае
Падае мліва.

Сняжынкі белыя,
Белыя анёлы.

* * *

Вялікі выбух быў.
Вялікі будзе шчэнт[1].
Але не звеюцца,
Як зорных сцежак мліва,
Тваімі вуснамі
Прамоўленыя міла
Зямлі маёй
Чароўны спеў і шэпт.

---

* шчэнт – нішто, тло, вынік знішчэння.

* * *

У садзе Лошыцкім
Дрыготкі цень былога.
Яблыневым кветам
Заімжыла.

Раз прыйшоў па квеце-
І сцяжына,
Два – амаль пражытая
Дарога.

Сцені.
Прывіды – у веснавым сувоі
Часу.
Праз яго ідзеш,
Не крадучыся,
Следам незакончаным
Чыімсьці,
Немаль рызыкуючы
Сабою.

* * *

Хто з замірання,
Хтосьці з замірэння,
Хто з праўды,
Хтосьці з выдумкі прыснёнай,
Хто з замсты –
Разумовага зацьмення,
Мы з памяці
Вылузваемся сёння.

* * *

Два аблокі –
Самкнёныя вусны.
Танец грахоўны – маланка.
Дождж грыбны для беларуса –
Кош у рукі
І ў лес спазаранку.

Пяцьдзесят табе ці пятнаццаць –
Па баравікі і лісічкі.
Грыбоў няма –
Давай цалавацца.
Такія продкавы
Звычкі.

* * *

Марудна, марудна
Крадзецца па космасе час.
Імклівa, імклівa
Імгненні збягаюць ад нас.

Няспыннай, няспыннай
Мая падаецца хада.
Нясплыўнай, нясплыўнай
Бывае толькі вада.

Дзіўнае, дзіўнае
Воблака шостых пачуццяў.
Хітрая, хітрая
Чараўніца цябе ачмуціць.

Толькі я, толькі я
Чарам такім не веру.
Не зарыфмована, не зарыфмована
Воблака на паперы.

* * *

Жылі мы тут,
мы на сваёй зямлі былі,
калі дажджы і войны, і калі
нявест-красунь
мы пад вянцы вялі,
і нехта ганіў нас,
а нехта і хваліў,
калі на небе зорак,
што ў садзе сліў,
калі ўсе мудрацы –
і блазны й каралі,
і час –
без болю спаць
і знаць:
былі.

* * *

І музыкай стануць ноты нам,
І золатам – думкі залётныя.
І пройдуць жанчыны вабныя.
Не назавуць такіх бабамі.

І слова пялёхнецца рыбіцай
Пад берагам суседкі – Свіслачы,
На гуллівай вуліцы Зыбіцкай,
Дзе з табою месячык высачыў.

### *ПЫРСКІ*

Дажджыны
падскокваюць у лужынах.
І людзі падскокваюць.
Кроплі разбіваюцца на крапліны.
Пырскі.

Жанчыны,
мужчыны,
дзятва.
Разбіваюцца ў лужынах быццця –
кожны на сваё адлюстраванне.

Пырскі настрою ляцяць у залюстрань.
Пырскі суму і весялосці,
спазнення, спазнання,
страхаў, што здольныя сцалавацца.
Рэўнасці, злосці,
лірызму старэцкай скрыпкі.
Пустэчы, помсты, анямення.
Узнёслага бегу.
Падскоквання над сабой,
Адскоквання ў бок.

Наўме.
Наўмысля.
Наўскапыта.

Пырскі
сутыкнення,
спынення,
стаяння,
асляпення.
Любві. Нелюбві. Пералюбу.
..............

Вераб'і мыюцца.
Дождж –чысціня.
Пырскі.

### ПА-БЕЛАРУСКУ

Пераймаю тутэйшае сонца,
раблюся тутэйшай плямкай яго
на кары сасны,
квеце чабору, на камені,
снезе.

Саграваюся і саграваю.

Пераймаю тутэйшую цішыню,
адчуваю заспакаенне душы,
па-тутэйшаму збягае яна
у лес,
разумее,
што не пабываць
ва ўсіх гушчарах яго,
не паваляцца на ўсіх палянах.

На тое не хопіць жыцця.

Пераймаю тутэйшы снег,
рыплю па-тутэйшаму –
іранічна,
лагодна,
здзіўлена,
і сляды мае на снезе тутэйшыя
і снег, што на зямлі,
пераходзіць у снег, што на небе,
і ўмее лётаць,
лётаць,
лётаць...

Як ты.

Пераймаю тутэйшую сусолку-лядзеньчык.
Дзынькаю,
лаўлю музыку ільда:
“лё-да-фон”.
Ведаю з дзяцінства,
грае толькі прыродны лёд,
штучны не гучыць.
Таю.
Сцякаю кроплінаю ў зямлю.

Пераймаю тутэйшую зямлю.
Прарастаю тутэйшай цявінай,
нізкай, квёлай,
высокай, трывалай.

Шумлю трыснёгам,
борам,
дубровай,
жытам.

Раблюся пасевам.

Пераймаю тутэйшага шчамяля.
Гукаюся тутэйшым голасам
сівой хмары,
зычнай дуды,
упадабення вымя
тутэйшай каровы.

Прылегла яна ў паўдзень
пажаваць.

Пераймаю тутэйшыя словы.
Усё зразумела
і я зразумелы.
Тутэйшы,
моўлю па-свойму.

Па-беларуску.

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць
шаноўнага **Валерыя Леанідавіча ДУБОЎСКАГА** з юбілеем
і зычаць яму моцнага здароўя, творчай натхнёнасці,
а таксама – новых светлых пачуццяў!

Аксана Спрынчан



...Усё меней людзей, якім я веру.

Але тым, каму веру, веру болей...

# Змушаная рамантыка

***Разынкавая муроўка***

## Зорка

Я лашчыла зорку. Я лашчыла зорку на лбе Зоркі. Пара ад ейнага малака ядналася з небам. Я дакраналася да неба. Часцяком яно бліжэй, чым мы думаем.

## Дах, што пускае мыльныя бурбалкі

*Працяг.*
*Пачатак у №89.*

Дах гэты глядзеў адным схілам у завулак, а другім на нашую зямлю. Пад гэтым дахам жылі нашыя каровы і перахоўвалася іхняе сена, якое пакуль было травою, расло ля Прыпяці. У наваколлі ён заставаўся апошнім чаротавым дахам. І ён зачароўваў дзяцей, якія ўсяляк імкнуліся выцягнуць чарацінку. І, набоўтаўшы ў вадзе мыла і шампуню, праз чарацінку пускалі чароўныя бурбалкі. Можна было пускаць і праз саломінку, але ж тады

не ставала чарадзейства – выцягванне з даху было не раўнуючы выцягваннем з нябёсаў.

## Мара пра зямлю

Чытаю дачцэ “Новую зямлю” Якуба Коласа.
– Мама, а колькі зямлі хацеў Міхал? Як нашае лецішча?
– Не, у нас усяго 4 соткі.
– Як два лецішчы?
– Не, ён шмат хацеў, два гэта замала, каб ні ад кога не залежаць...
Пра які памер зямлі марыў Міхал, не ведаю, не ўяўляю... Мне б адзін ягадны лес, адзін грыбны, адзін бярозавы гай, адзін рабінавы, адну дуброву, адну гару, адно возера... А палеткаў... колькі мне трэба палеткаў? З грэчкай, жытам, аўсом, пшаніцай, лёнам, бульбай... А лугоў... Каб пасвіліся коні, каровы, авечкі... Мара пра зямлю не можа ажыццявіцца, яна бязмежная і паэтычная...

## Анёл зямлі

Набыла дзесяць кіляў зямлі. Меркавала набыць пяць, але ж дзесяць выгадней. Несці прыпынак. Іду, спіна адымаецца, ледзьве крочу. Але не кідаць жа сваю зямлю! Дацягнула, думаючы пра Міхала – беларускага анёла зямлі.

## Каштоўны каменьчык

У дзесяці кілях набытай зямлі трапіўся каменьчык. Каштоўны. Бо не так і часта набываеш беларускія камяні...
Сустракаюцца яшчэ, калі купляеш мех бульбы...

## Падрыхтаванне насення

Калі чытаю дачцэ “Новую зямлю”, раскладаю побач пакецікі з насеннем кабачкоў і гароху, бабоў і пятрушкі, аксамітак і цыній... Каму, як не ім, разумець Міхала і ягоную сям’ю? Няхай натхняюцца...

## Варыянты

Паказалі Альжбэце ўсе відэа і фотаздымкі з Дня Волі. Потым патлумачыла, што ніколі нельга з амонаўцамі ствараць сям’ю.
“Ты што, мама, я іх бачыць не магу”, – сказала дачка.
Далей яна стала разважаць пра знаёмых хлопчыкаў, і ўсе падзяліліся на два варыянты: “А. добры, ён у амон не пойдзе, а Б. бацькі не дазволяць”.
Цікава, што тыя, каму “бацькі не дазволяць”, таксама добрыя хлопчыкі...

## Гульня Надзеі

Сястра піша мне: «Сёння мы гуляліся ў “Снежную каралеву”, а тады ў “Аксану і Альжбэту” (Надзея зажадала) на беларускай мове».

І я напачатку дужа перажываю: за сябе, за расейскамоўную сястру, за трохгадовую пляменніцу, за іхнюю гульню ў мяне і маю дачку, зацята беларускамоўных. Перажываю, што ў іх гэта толькі гульня.

А пасля думаю, што мо й някепска, а мо нават і цудоўна, што Надзея гуляецца ў «Аксану і Альжбэту», што ў яе ёсць, у каго гуляць. І спадзяюся, што гэтая гульня можа стацца папулярнай. І не толькі гульнёй. Можа стацца жыццём.

## Касіры і пісьменнікі

Цяпер у мяне побач з працаю ёсць "Еўраопт" з дзвюма касамі, дзе касіры і касіркі з пакупнікамі размаўляюць роднай моваю.

Касір абслугоўвае ветла, гэтак ветла, што пачынаеш думаць: ці заўжды ён размаўляе беларускай моваю, ці на працы змушаюць... Як толькі я разлічылася, ён паварочваецца да дзяўчат, якія стаяць побач з ім, і пачынае фліртаваць па-расейску. Настрой у мяне пагаршаецца, але потым я ўзгадваю, што ладная частка беларускіх пісьменнікаў пераходзіць на расейскую, абы быць даспадобы дзяўчатам...

## Сон

Прысніла, што ўвесь Менск выйшаў гукаць вясну. Усе – ад мамаў з малымі дзеткамі да старэнькіх і мудрых. Тых, хто хадзіць не можа, на вазочках вывезлі, на ложках вынеслі. Усе дрэвы ў папяровых птушках...

А "найгалоўнейшы кіраўнік", як пабачыў гэтулькі людзей, злякаўся і зляцеў.

Гэтак, дзякуючы Гуканню Вясны, надышла Воля.

## Суботнік і Шэкспір

Знайшла ў паперах выдатны фотаздымак Анатоля Каляды. Падпісаны "Суботнік у Каралішчавічах".

І мяцёлкі, і вілы, і граблі – усё ёсць.

А я гляджу на Ніла Гілевіча і Аляксея Кулакоўскага і бачу шэдэўральных актораў, якія граюць Шэкспіра.

## Дык што – гэта не "Художественная"?

Болей за ўсё я люблю "Мастацкую літаратуру" ў тое імгненне, калі ў розных установах адказваю на пытанне: "Дзе вы працуеце". Бо ўсе старанна перакладаюць мае прозвішча, адрас, пасаду...

І ўрэшце я з гонарам: "Мастацкая літаратура" не перакладаецца. Так і пішыце, беларускай моваю...

## Людзі і цені

Стаю на прыпынку. Ранак яшчэ халаднаваты, але сонейка ўгравае спіну. Пасля зімы гэта ўжо радасць. І я трываю, што па мне прабегся нейкі мужчына, а кабета выцяла ў твар сваёй жахлівай торбай. Трываю,

бо спіну мне грэе сонейка. Вось і кабета прабеглася па мне, непрыемна, але ж ёсць сонейка.

Ды вось сонейка знікае, на мяне невядома хто напаўзае. Мне халодна, і я не вытрымліваю... Мне ніколі не зразумець людзей, якія становяцца за табою гэтак, каб ты трапляў у іхні цень. Людзей, якія забіраюць вясновае сонейка.

Я адыходжу ад іх. Мой цень таксама прагне спакою і сонца.

## Шалёная

Калі і не ўсё жыццё, дык дужа даўно я марыла сустрэць лісу. Не ў кнізе, не ў заапарку – у роднай прыродзе. Але не лёсіла і не лісіла. Нават лосіла, але не лісіла. І вось мікрааўтобусам з этнагістарычным цэнтрам "Явар" мы едзем у Ашмянскім раёне, і полем бяжыць ліса.

– Ліса! – крычу я, кідаюся на хаду адчыняць дзверы, каб яе сфатаграфаваць.

– Ліса шалёная! – крычыць нехта, мо Людміла Дучыц.

І тут распачынае дачка:

– Мама! Ліса шалёная!

Пад гэты лямант я адчыняю дзверы, ліса з хуткасцю гепарда бяжыць усё далей і далей, я яе бачу і не бачу, на фотаздымках амаль расплывістая мара.

Ліса ўрэшце знікае, машына спыняецца, Ілья Арыстаў паведамляе:

– Я падумаў, што ты болей шалёная за лісу.

Мажліва, і так. Няхай мая ліса будзе заўжды здаровая і вольная.

*

У Скарыны быў віленскі перыяд кнігадрукавання, а ў мяне – віленскі перыяд кахання.

## Найлепшы падарунак – зямля

"У мяне няма ні сала, ні арэхаў, што прывезці Аксане?" – запытаўся Валер Гапееў.

"Зямлі берасцейскай!"

І Валер Гапееў прывёз мне зямлі з Івацэвічаў разам з пралескамі.

Пралескі адквітнелі, а зямлю заўтра павязу на лысагорскае лецішча.

Ёсць ужо на ім зямля з Вільні, Швецыі, Лунінца. Цяпер будзе і з Івацэвічаў. Спадзяюся, і іншыя пісьменнікі не пашкадуюць мне сваёй зямлі.

## Расці прыгожы і разумны, мазгавы гарошак!

Поўнае вядро пасярод жыцця

Канец красавіка, ваду на лецішчы яшчэ не падлучылі, трэба цягаць ад калонкі за метраў сто. Сяргей Сыс прыносіць мне вядро вады. Белы Сыс ідзе з чырвоным вядром і папярэджвае: "Толькі нікому не кажы, што я табе вады прынёс".

Вядома ж, не скажу, абяцаю. Я напішу. Сыс смяецца.

Як гэта файна. Не шклянка вады перад смерцю. А поўнае вядро пасярод жыцця.

Сыс цягне свае вёдры, яму яшчэ метраў дзвесце.

## Цяжкая праца і рамантыка мінулага

Дачка змагаецца з дзьмухаўцамі, а васьмідзесяцігадовы сусед апавядае, што даўней іх мала было, бо і дзяўчаты, і хлопцы вянкі плялі.

*

Стрэлкі кахаюцца ў палёце.
І ні шрубалёт, ні самалёт, ні ракета не здзейсняць мару...

## Сап'юся — не сап'юся

Шукаючы нейкае слова (ужо і не істотна якое) у слоўніку Алега Мінкіна, я знаходжу "гарэлку". У замілаванні-захапленні-жарсці я пачынаю ўголас любавацца роднымі назвамі.

– Ты толькі паслухай, як у нас прыгожа, – натхняю калегу, –
водка гарэ́лка, весялу́ха (жарт.)
(белая) прастуха
водка (на полыни) палыноўка
водка (на тополиных пупышках) тапалёўка
водка (настоенная на травах) калга́нка
водка (настоенная на кореньях) акаві́та
водка (настоенная на ляднику) зуброўка
водка (настоенная на перце) пярцоўка
водка (с мёдом) варопуха
водка (хлебная) варану́ха.
Казка! Песня! Раман! Эсэй! Верш!

– Ты гэтак і сап'ешся! – турбуецца за мяне калега.

– Сам жа чуў, як нядаўна сын народнага пісьменніка сказаў, што я не сап'юся.

– Ці мала, што ён сказаў, жанчыны хутка співаюцца. Вось як пакаштуеш усе гэтыя, дык і сап'ешся!

Мне карціць сказаць, што я і болей пакаштавала ў жыцці... Але заканчваю з любоўю:

– Сап'юся – не сап'юся... Галоўнае, што мова нашая неверагоднай прыгажосці.

## Мачанка

Юры Пацюпа на прэзентацыі маёй "Смачнай кнігі" ў бібліятэцы Цёткі на вачах усіх гатаваў мачанку. Відовішча было філасофскае, смаката атрымалася незвычайная. Геніяльны выступ.

Юры і шчаслівы, і не: "Во так! Пішаш-пішаш вершы, а каб хоць адзін так уразіў людзей, як мачанка!"

## Кубак, якога не было

У гасцёўні Купалы стаіць кубак, музейная гідэса запытваецца ў дачкі:

– Хто на гэтым кубку?

– Пушкін, – адказвае Альжбэта.

– Гэта ўлюбёны паэт Янкі Купалы, – тлумачыць гідэса.

– А гэты кубак стаяў у гасцёўні Купалы? – пытаю я.
– Не, яго не было, яго паставілі, каб дзеці запытваліся.
Цяжка зразумець музейную палітыку... Можна ж было і кубак з Францішкам Багушэвічам паставіць...

## Галубы-рэдактары

Раней былі паштовыя галубы, а цяпер з'явіліся галубы-рэдактары. Яны залятаюць у кабінет праз прачыненыя вокны, пазначаюць тыя рукапісы, якія ім недаспадобы. І спакойна вылятаюць на волю.
Часам думаеш: чаму я не голуб?

*
Люблю дарогу, асабліва калі дарогаю нараджаецца закаханасць.

## Багоўкавае

П'ю зялёную гарбату ў чаканні зялёных лісточкаў і гляджу праз вакно на нябёсы. Паўз мяне пралятае багоўка і сядае на фіранку. Думаю пра багоўку. Чаму не? Я думаю пра яе радзей, чым думаю пра Максіма Багдановіча і радзей, чым пра Бога. А яна паўзе на белай фіранцы, утварае жывы штандар, які нагадвае пра волю. І я адчыняю вакно і выпускаю багоўку ў белы свет Беларусі. Трэ пачытаць... Багдановіча ці Біблію...

## Сітаўкі і кнігі

Побач на градах бегаюць сітаўкі, патрэсваюць сваімі хвасткамі і нагадваюць, што я да свайго сораму не прасейваю муку.
Вось хадзілі б побач кнігаўкі, разгортвалі б крылы-старонкі! Зусім сорамна не было б – чытаю шмат...
А з тым, што пішу, і з кнігаўкай рады не дасі... Але ж і прасейваю-адсейваю...

## Незапланаванае мора

Прыехала на Лысую Гару. На сметніцы ўзяла кнігу Валянціна Катаева, разгарнула і... я, нават калі была ў Адэсе, насамрэч у ёй не была. Цяпер адчуваю Чорнае мора на Лысай Гары. Чытаю сама і з Альжбэтай. І вось жа каб нашчадкі Аляксандра Дракахруста не выкінулі, наўрад ці б мне гэтак пашанцавала.

*
– Мама, а што, можна браць кнігі са сметніка? – пытае дачка.
– Кнігі можна браць адусюль...

## Прызнанне

На пачатку халоднага чэрвеня, у дзень, падобны да восеньскага, Сяргей Сыс на Лысай Гары прыносіць мне памідор і "прызнаецца": "Гэта яшчэ не мой..."
І гэтулькі ў тлумачэнні чакання свайго, гэтулькі веры і надзеі, што яно

будзе, гэтулькі любові да зямлі, гэтулькі паэзіі, што бяру ў рукі памідор як райскі цуд.

І ніхто нас не выгнаў з раю.

## Цягнікі

Ад майго першага дня і бальшыню жыцця я жыву там, дзе ўначы чуваць цягнікі. Мае цягнікі як зоркі – удзень іх няма. А ўначы, калі прыслухацца, яны ёсць. У Лунінцы – за чырвонай бажніцай са срэбнымі купаламі. На лецішчы – за Лысай Гарою са святымі камянямі. У Менску – за шматпавярховікамі-кнігамі Лесі Украінкі. Глядзець на далёкія зоркі і слухаць далёкія цягнікі – суладдзе жыцця, якое спыняе сон.

## Залатыя лініі

Мой улюбёны мост не над ракою, а над рэйкамі. Пад ім праплываюць чароды вагонаў. Поўныя плывуць на нераст. Парожныя шчаслівыя ў чаканні новага напаўнення. Ёсць вагоны-кіты, яны каўтаюць людзей, нібыта кожны з іх Іёна. Ёсць акулы, якія забіраюць у людзей жыцці... Карасікі занурваюцца ў глей найболей далёкіх каляінаў. Люстраныя карпы спыняюцца пад самым мостам, каб пакрасавацца, каб лепей было разгледзець іхную луску. Вядома ж, існуе і вагон-залатая рыбка. Ён прыплывае ў снах, і куды б ты ні збіраўся напраўду – на працу альбо ў Стакгольм, ён плыве з табою пад мост над рэйкамі і, як сапраўдная залатая рыбка, абвяшчае: “Цягнік залатых ліній прыбывае на станцыю Лунінец”.

## Выдзіранне памяці

Шмат гадоў забаронена саджаць мак, але ўвесь час па лецішчах швэндаюцца наркаманы і рассяваюць яго ў спадзеве потым прыйсці і выдраць. І з пачуццём страшнай віны даводзіцца выкідаць як пустазелле будучую красу і смакату, якую памятаеш з маленства і якую не ведае і не будзе памятаць дачка.

## Удачарэнне

– Мама, а тыя кнігі, што са сметніцы ўзяла, ты ўсынавіла? – запытваецца дачка, колькі тыдняўназіраючы, як я іх з аднаго ложка на другі перакладаю, адаграю.

– Не ўсынавіла, а ўдачарыла. Былі Дракахруставы дочкі, а сталіся мае. Твае сёстры, якія зведалі клінічную смерць. Беражы іх.

## Букет і нож

Завітвае сябра з букетам радыскі. Дзівосны букет, ды згадваецца дзяржаўны сцяг.

Нож дапамагае пакінуць сапраўдную сутнасць.

## А раптам Ларыса Геніюш…

Снедаем на лецішчы пад грушай, чуваць плач, значыцца, зазірнула Спадарыня Мяў (адна з котак-бесхацінак, якіх падкормліваем).

– Мама, – задумляецца дачка, – душа чалавека можа перасяліцца ў котку. А раптам гэта – Ларыса Геніюш?

– Не, гэта дакладна не Ларыса Геніюш. Яна не такая. Вунь глядзі – ідзе Пантэра Мяў. Мо гэта і яна...

## Рэха паэзіі

Колькі мільёнаў разоў гучалі знакамітыя радкі "Мой родны кут, як ты мне мілы!.." Якуба Коласа... на занятках і на святах, на радыё і тэлевізіі, дома і за мяжой... Іх чыталі школьнікі і знакамітыя акторы, іх спявалі і ўзгадвалі ў думках, іх шапталі.

"Хачу, каб рэха вывучыла верш!" – загарэлася дачка і пракрычала:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..<br>
Забыць цябе не маю сілы!<br>
Не раз, утомлены дарогай,<br>
Жыццём вясны мае убогай,<br>
К табе я ў думках залятаю<br>
І там душою спачываю.

Роднае рэха нарадзілася.

Упершыню чула рэха, далучанае да паэзіі.

## Дзякуй, Янка Маўр!

Прашу дачку замесці дарожку на лецішчы. Яна адмаўляецца: "Я чытаю". І што тут мовіш: чытанне – святое.

Змагаючыся з пустазеллем, забываюся на дарожку. Раптам з'яўляецца Альжбэта з мяцёлкаю і абвяшчае: "Скажы дзякуй Янку Маўру!"

І як не сказаць!

"ТВТ" у дзеянні.

*

Пісьменнік, пра якога мімаходзь напісала ў адной з нататак на фэйсбуку без прозвішча (але ж суседзі пазналі і падказалі яму) ашалела крычаў, што размазаў Адамовіча (далей ішоў пералік шаноўных творцаў, але я ад нечаканасці не запомніла), размажа і мяне. Быць у такім шэрагу надзвычай прыемна.

Адно, што дачка дужа спужалася, што прыйдзе пісьменнік і заб'е...

*

Анемон і фізастэгія дзівосна глядзяцца разам у кветніку і ў вазе. А вось назвы іхнія не цешаць слых...

## Вялікія кветкі

Як на Лысай Гары я даглядаю маленькія кветкі, пісьменнікі бачаць

мяне і размаўляюць роднай моваю. А як мяне схаваюць вялікія кветкі, мова ў некаторых творцаў становіцца чужой і кветкам, і мне...

Расціце, кветкі, вялікія і маленькія!

## Такія розныя торбы

Завітаў у рэдакцыю Мікола Чарняўскі, узгадаў, як напачатку 90-х атрымаў у выдавецтве аванс за кнігу – 120 мільёнаў. Купюры яму дасталіся не найбольшай вартасці, таму звяры запоўнілі торбу і ўзвышаліся над ёй вялікай гарой, даводзілася прытрымліваць падбароддзем. (Апавядаючы, Мікола Чарняўскі дастаў і паказаў ЧОРНУЮ ТОРБУ. На жаль, парожную.) Уладзімір Ліпскі ў той дзень быў з машынаю і завёз сябра ў “Вясёлку”, а ўжо адтуль уладальнік грошай затэлефанаваў жонцы, і тая прывезла яшчэ адну торбу.

Гэтак і ўяўляецца, як шчаслівы пісьменнік ідзе з торбай грошай, а ягоная жонка таксама ідзе з торбай грошай, і ёй няцяжка, і яна не марыць, каб муж нёс дзве...

У мяне ўзняўся настрой ад таго, што ў беларускага пісьменніка ёсць такія ўспаміны.

І тут завітала ў выдавецтва Алена Церашкова. З торбай. З парожнай. СВЕТЛАЙ. І набыла цэлую торбу кніг. І сярод іх была мая “Смачная кніга”. І было гэтак добра, што яна ў такой цяжкой торбе, і што Алена такая моцная.

Я так і ўявіла, што яна сама дала б рады двум торбам грошай...

*

І такое бывае: творца аднаго Саюза пісьменнікаў спойвае творцу другога Саюза пісьменнікаў...

*

Ах, які ўчора быў файны дзень: зранку грыбы, а потым праца ў моры кветак і ў моры зямлі ў купальніку. І цыцкі, якія вывальваюцца з яго, каб хоць адной смочкай зірнуць на зямную красу...

## Грушавае

Чытаю ў Віктара Казько: “ад добрых людзей, асабліва калі яны з Палесся... павявае пахам спелых і салодкіх груш”.

Гэтак і ёсць! У кожнага добрага чалавека водар груш з майго лунінецкага грушавага саду: смалянкі, цукроўкі, гнілкі, чырвоныя...

“...палешукі ж наскрозь і на ўсё жыццё ў белых завеях груш-дзічак, да якіх здаўна неабыякавыя”.

І я каля Лысай Гары чакаю белую завею сваёй чырвонай грушы, прывезенай некалі з Лунінца, і ведаю: зноўку будуць неўразуменні: “навошта табе гэтая дзічка?”

Я не ведаю, што адказваць тым, хто не пахне грушамі...

*

Адзінае, што мне заўжды ў сабе даспадобы, – гэта ўзрост.

## Ялінка

Іду ўкраінскім сялом Кулікоўка.

– Вось тут аграрны каледж, тут школа, бібліятэка, турклуб... – апавядаюць мне.

Ніякіх неспадзяванак. Сяло як сяло. І раптам:

– А вось тут на месцы ялінкі быў помнік Леніну.

Такога цуду я яшчэ не сустракала.

А ялінку пашкадавала – ёй даводзіцца перапрацоўваць такую цяжкую спадчыну.

*

Не яблычны год. На яблыні адзіны яблык нарадзіўся.

Перажывала за яго, і ён вытрымаў халады, залевы, ураганы, спякоту. Са-спеў. Спеў жыцця...

Жыццё не яблычнае. Нарадзіўся і вытрымлівай. Ёсць і за цябе некаму перажываць. Са-спявай. Спявай жыццё...

## Змушаная рамантыка

Кароткі дзень у верасні, а пагатоў у савы. А як яшчэ і грыбы на Лысай Гары ёсць... Даводзіцца спаржавую фасолю збіраць з ліхтарыкам. Змушаная рамантыка – усё адно рамантыка.

І нават як гатую цяпер – падаецца, што ў маёй фасолькі незвычайны жоўты колер...

*

Леанід Дранько-Майсюк заўжды ўзгадвае, як цудоўна было працаваць з маім бацькам, як ён ляцеў на працу ў “Мастацкую літаратуру”. І я, каб ляцець на працу, узгадваю, што тут працаваў мой бацька, і з ім цудоўна працаваць...

## Збірала насенне космасу

Заўжды, як пазнюся на працу, “рыхтуюся” да тлумачальнай цыдулкі (хоць і не вымагаюць іх пісаць).

Нядаўна спазнілася, ніхто не цікавіцца – чаму, і я самая апавядаю калегу “тлумачальную”: “Спазнілася на працу, бо збірала насенне космасу”. Калега кажа, што з такой тлумачальнай адразу выклічуць хуткую. А я паказваю насенне і смяюся, што галоўнае, каб не адабралі прыгажосць.

*

Баравік, бабка, яшчэ маленькая, а вунь таўсцярык... Кручуся вакол сябе – яшчэ грыб. Раптам бачу залатыя вочкі. Ножык падае.

РапУХа.

*

Лес, варты вужынага караля.

### Праграванне

Мяне яшчэ вытрымлівае маё дзіцячае крэселка, якому амаль сорак пяць. Сяджу на ім у халоднай хаце кастрычніцкім адвячоркам ля грубкі. Жарсна цалуе яна мае калені, жарсна і кругла. Гэтакія круглыя калені ў мяне бываюць адно з ёю, лысагорскай грубкай. Круглыя белыя бліны даставала бабуля Надзея за трыста кіламетраў адгэтуль з лунінецкай грубкі, а ў лысагорскай я не пяку бліны. Апякаю калені, памяць. То бліжэй, то далей адсунуся. АпяКАЮСЯ... Я даўно не люблю сядзець на мулкіх крэслах і адно на крэселку маленства станаўлюся мякчэй. Затуляю гарачыя калені рукамі – з абодвух бакоў праграю лінію лёсу.

*

Дачка:

– Мама, а я ўсцешаная за сяброўку: хоць яна і не зусім добра чытае, але затое чытае Анатоля Сыса!

### За беларускую мову!

Купляю бульбу ў двары з машыны. Мне прадаюць нашмат танней. Запытваюся: – І за што Вы мяне гэтак любіце? – Як за што? За беларускую мову!

Вось такое дзіўнае жыццё – калі б не сітуацыя з мовай, гэтаму чалавеку не было б за што мяне любіць...

*

Трэ было запоўніць паперку ў школу наконт вакцынацыі супраць грыпу вакцынай “Грыппол плюс” (Расея). Муж кажа: “Напішы, што мы катэгарычна супраць расейскай вакцынацыі!”

### Бульбяная трагікамедыя

Набываю памідоры з машыны на падворку. Перада мной мужчыну насыпалі пакет бульбы і паставілі на вагі. Ён глядзіць на яго, узіраецца, маўчыць, тады пастанаўляе:

– Не буду браць, бульба задробная, а я кавалер, дык няма каму абіраць.

Гаспадар з-пад Маладзечна аглядае пакупніка і выносіць вердыкт:

– Маглі б яшчэ і ажаніцца.

– Мог бы, але ніхто не прагне абіраць бульбу, – тлумачыць кавалер.

Я падказваю, што бульба гэтакая чысцюткая, што яе можна проста памыць і без абірання запячы, і будзе шчаслівы вечар разам з каханай.

Кавалер дзіўнавата глядзіць на мяне і сыходзіць – самотны і без бульбы.

І як тут не згадаць – “мы абіраем, нас абіраюць, як гэта часта не супадае”...

### Карпік з радзімы Разанава

Пашпацыраваўшы з дачкой па Высокім Месцы і ўздоўж Свіслачы, дапялі да Палаца спорту, каб ехаць дахаты. А там – рыбны кірмаш. І мы набылі карпіка з Берасцейшчыны, з радзімы Алеся Разанава.

Як жа мы беглі да Свіслачы з фірмовым пакетам “Сялец”! Як жа ўзіраліся ў хмаравую ваду!

Ён паплыў!

### Разанаў разумны

Дасылаю Алесю Разанаву тэлеграму. Дыктую, і там, дзе “ў” – папярэджваю, што “у нескладовае” – каб памылак не было. Урэшце мне кажуць:

– У нас няма “ў”, у нас дзве клавіятуры – расейская і ангельская, “І” беларускае мы з ангельскай бярэм. Якую літару стаўляць замест “Ў”?

Ад нечаканасці выдаю:

– Стаўляйце “У”. Разанаў разумны. Ён зразумее...

### Хто першы

– Вырашыў падпісаць кнігу Вам першай, – кажа Віктар Карамазаў, – але так атрымалася, што першай падпісаў дзяўчынцы, якой споўнілася два месяцы.

– Затое я першая прачытаю!

Прачытала і раю ўсім сябрам.

*

Мару пра дрыгву. Палескую. Непаўторную. Смачную.

*

Мікола Яцкоў прывёз кнігу майго дзеда, спісаную ў ягонай вясковай бібліятэцы. Аддаючы, выратавальнік адзначыў, што кніга зачытаная, а бываюць і са старонкамі неразрэзанымі.

1957 год. Друкарня імя Сталіна, пр. імя Сталіна, 105, а ў кнізе ніводнага верша пра Леніна, Сталіна, партыю. Чаму б і не зачытаць у тыя часы?

### Шкарпэтка

Як толькі не абкручвала маю нагу Наталка Кучмель сантыметрам, каб зняць меркі і звязаць эксклюзіўныя шкарпэткі. Я прасякнулася нагэтулькі, што пасля згадкі Максімам Клімковічам, як Жыгімонту І даслалі туфлік Боны Сфорцы і ён ажаніўся з ёю, паведаміла:

– Буду дасылаць шкарпэтку!

### Газетнае

Вершы і газеты – амаль неспалучальнае. Прынамсі, ніколі не бачыла газеты, якая б надрукавала верш так, як належыць, – адзін на старонку.

І ўсё ж раз-пораз я люблю вершы ў газетах. На гэткія старонкі я раскладаю мяту альбо мелісу. Гэткімі старонкамі затуляю іх. Травы, сцішаныя ў святле паэзіі, ратуюць у беларускія халады.

Запарыла мятна-мялісавай гарбаты, што сцішвалася паміж вершамі Валянціны Аксак і Васіля Зуёнка на старонках “Літаратурнай Беларусі”.

### Патрэбныя газеты

Альжбэта прылятае перад сном:

– Мама! На ўрок працы патрэбныя газеты! Дай мне паболей!

– Добра, пашукаю!

– Толькі беларускія! На беларускай мове! Я ж не магу шарык іншымі аблепліваць.

### Засваенне

Увесь дзень па галаве б'е пачутая гісторыя пра тое, як бацьку майго калегі (менчука ў энным пакаленні) пры канцы 50-х гадоў настаўніца расейскай мовы біла падручнікам па галаве за беларускія словы і акцэнт.

*

Лісце ў празрыстых пакетах на сметніцы ў дзіцячым садзе. Каб дзеці ведалі – не тое золата, што лятае.

### Дасканаласць

Пляшка хатняй гарэлкі была гэтакай поўнай і празрыстай, што падалася ўсім парожнай.

А калі выявіўся ейны процілеглы стан – яна падалася яшчэ пшанічней і рамантычней.

*

– Ускудрыч! – сказаў паэт.

І я абнавіла ягоную чарку.

### Суладдзе

Марцін Кухта – геніяльны выдавец. Ён адзіны выдаў генія, які сапраўды аддзячыў свайму выдаўцу вечнасцю. І ўсё нібыта ёсць у ягоным імені і прозвішчы – мара, і мора, і келіх з марціні, і куванне роднай зязюлі, і родная самота, і простае здзіўленне-захапленне.

### Шашок і тлумачэнне

Мастак Уладзімір Лукашык падабраў дэкаратыўнага параненага голуба і даглядаў яго колькі месяцаў. Калі знайшоў гаспадара, прынёс голуба і захацеў паглядзець на іншых галубоў, выявілася, што глядзець няма на каго. У галубоўню залез шашок, передушыў і ахайна склаў птушак. Я дужа здзівілася, што ў маёй Вяснянцы жывуць шашкі, а Уладзімір Лукашык запэўніў, што ў гэтым нічога дзіўнага, і супакоіў тым, што ў парку Чалюскінцаў ноччу дзікі ходзяць.

Потым я знайшла тлумачэнне шашку – Дразды побач, адтуль прыбег. Памаракавала – і вырашыла тлумачэння дзікам не шукаць...

### Захапленне

Калега апавядае, як пры канцы 90-х гадоў быў на вечарыне, прысвечанай Яўгеніі Янішчыц. На яе завітаў падпіты Анатоль Сыс, і калі яму далі слова, чытаў свае вершы непаўторна, крычаў, плакаў, кленчыў, падскокваў, лягаў на падлогу. Школьнікі, прысутныя на вечарыне, былі ў захапленні.

– А хто яшчэ выступаў? – не магла не пацікавіцца я.

– Ты думаеш, я памятаю? Гэта ж было ў мінулым стагоддзі.

### Латашэнне

Колькі разоў героі апавяданняў, аповесцяў і раманаў беларускай літаратуры латашылі яблыкі і грушы! Не пералічыць! Іх лавілі, лупцавалі, ганьбілі. Гаспадары і вартаўнікі, суседзі і бацькі. А як атрымлівалася ўцячы беспакараным – то часцяком, перад гэтым пад'еўшы яблыкаў-грушаў, апаноўвалі згрызоты сумлення.

У Лунінцы ля хаты ў нас існаваў грушава-яблычна-вішнёвы рай, таму ніякіх памкненняў да чужога не паўставала. І нават слівы раслі. Сінія. Але за плотам у маіх сяброўак (то бок у іхніх суседзяў) было золата, і рука цягнулася да яго... Там раслі жоўтыя слівы, якія пад лунінецкім сонцам даспявалі да залатых.

Ніхто мяне не лавіў, але мо як пакаранне – я зусім абыякавая да золата.

### Залатыя яйкі

Паэт і перакладнік Фелікс Баторын апавядае, што жыве на лецішчы ля Паўночных могілак і, апрача градак, трымае курак. Ці то могілкі, ці то згадка, што ён працаваў лекарам-анколагам і гінеколагам, наводзяць на жорсткае пытанне: “Што, рэжаце іх?” І чую ў адказ: “Не, яны ў мяне толькі сваёй смерцю паміраюць. Я заўжды рэзаў адно каб ратаваць, дзеля жыцця, а каб забіць, рэзаць не магу”. У наш час яйкі ад курак, якіх ніколі не заб'юць, мне падаюцца залатымі і незвычайнымі. Няхай яны прыносяць здароўе гаспадару курак. Хай нагадваюць пра тое, што ёсць стваральныя людзі, якія і ёсць тварам і творам народа.

*

Часта сустракаю ў стужцы аповеды людзей пра тое, як іх сваякоў падчас вайны ратавалі немцы, альбо як цукеркамі частавалі, альбо яшчэ нешта добрае зрабілі. Відаць, так і было. Можа, і не забілі, і цукеркай пачаставалі, можа, нават менавіта гэтыя немцы пасля спалілі маю прабабулю з сям'ёю...

### Заўтра была...

Адрэдагавала кнігу “Заўтра была адліга” Віктара Шніпа, дамову і паведамленне на ганарар аформіла ў самы мароз, бухгалтэрыя падпісала, аўтар падпісаў, і подпіс з пячаткаю паставілі, і ўжо іншымі кнігамі занялася я. І раптам надышла адліга, і адчыніліся дзверы кабінета, і мне на стол бухгалтарка паклала дакумент. Гляджу, а ўсё аформлена на кнігу “Заўтра была вайна”. Зашмаравала карэктарам, напісала замест вайны – адліга. А вайна ўсё адно праступае, бо цяжка прыбраць вайну звычайным карэктарам. Бухгалтэрыя паведаміла, што ўсё добра, а ў мяне цяпер увесь час

праз адлігу праступае вайна, і на паперы, і на менскіх вуліцах, дзе людзі заўжды ў стане "заўтра была...".

*

Усё меней людзей, якім я веру. Але тым, каму веру, веру болей. Веры не меншае.

### Калі прыбіральніца ўсміхаецца

Усё здараецца адначасна: у кабінет уваходзіць прыбіральніца, а мне тэлефануюць. Прыбіральніца мые падлогу і размаўляе з маёй каляжанкаю, я, вядома ж, праз тэлефон. Па размове схіляюся над рукапісам, прыбіральніца выходзіць, а каляжанка апавядае. Тое, што яна апавядае, я разумею не з першага разу, перапытваю, але ўрэшце карціна вымалёўваецца: прыбіральніца, памыўшы падлогу, гэтай самай анучай памыла шыбы. Я запытваюся: "І Вы нічога ёй не сказалі?" І чую шэдэўральны адказ: "Вы маўчалі, прыбіральніца ўсміхалася, а я падумала, што, як у паказцы, беларус і да цвіка можа прызвычаіцца".

### Як здымаюць стрэс ад заробку

Атрымаўшы мізэрны аванс, непітушчая знаёмая завітала ў краму, набыла малако-хлеб і шклянку "Сяброўкі" (і такая тара ёсць). Прыйшоўшы дахаты, яна прычакала, пакуль дзеці паснуць, кульнула чарку і спакойна заснула.

Атрымаўшы мізэрны аванс, я зайшла ў краму і набыла насенне. Паразглядаўшы карцінкі і памарыўшы пра пасяўную, я спакойна заснула.

Назаўтра, калі знаёмая апавяла пра "Сяброўку" (а яна месцічанка ў энным пакаленні, не бачыла, як квітнее бульба), я зразумела: якое шчасце, што ў мяне ёсць маленькі лапік зямлі, які натхняе.

Прыйшоўшы дахаты, дастала самагонку (дзякуй Богу, была) і выпіла чарку за Сваю Зямлю. І спакойна заснула.

*

Калі прыйшоў да ўлады "найгалоўнейшы кіраўнік", я набыла сабе першыя джынсы. Вядома, яны даўно ўжо спісаныя на лецішча, але ўсё яшчэ слугуюць мне. Чарговы раз пабачыўшы іх, задала пытанне, што адбудзецца хутчэй: ягоны сыход ці маё патаўсценне. На другое, відаць, шанцаў нашмат болей.

### Дванаццаць лысых, каб маразы адступілі

У беларусаў ёсць павер'е: каб маразы адступілі, пералічваюць уголас дванаццаць лысых па імені і прозвішчы.

Паспрабавала, цяпер, спадзяюся, пацяплее, пагатоў з іхнімі творамі заўжды цёпла.

Кандрат Крапіва, Цішка Гартны, Усевалад Сцебурака, Якуб Колас, Змітцер Плакс, Навум Гальпяровіч, Павел Ляхновіч, Барыс Пятровіч, Аркадзь Куляшоў, Алесь Жук, Уладзімір Ягоўдзік, Алесь Разанаў.

*

Ля бажніцы камень са следам чорта альбо Божай Маці... Беларусь.

Валерыя Кустава



...лета млее на цёплых грудзёх тваіх ямбамі вуснаў маіх...

# Усміхацца праз боль прыгожа...

## *НІБЫТА І НЕ БЫЛО*

Нібыта і не было.
Цябе. Мяне. Нас.
Таго гатэля ў Варшаве,
дзе ў першы раз...

так шляхетна,
нібыта цукрова-букетна...
прас
на руку ставіш,
нібы запрашаеш...

боль прыняць
на знак найлепшага
дарунка ад цябе –
і песціць яго,
і пра боль дбаць.

Бо ён –
наймацнейшае,
што можаш даць.

Як чужы-я,
вітаем
адзін аднаго,
каву п’ем
ні пра што,
ні навошта.

Якім коштам
гэтае маўчанне?
што да рання
сны глухія, без гуку,
гнеўным сонцам
выбухваюць.

Нібыта і не было...
вітражоў сонечных
на вокнах высокіх.
Нашых сокаў, слёзаў,
нашых аблокаў,
у якія вышэй за ўсіх
узляталі.
(Думалі,
што каха-лі.)

Так, дарагі, позна.
Заходзіць сонца.
Цябе чакаюць.
Валі.
Вызвалі памяць.

*2017*

* * *

Ён хацеў быць з ёю праз цела.
Яна ж трымала душу адкрытаю.
Трымцела,
зіхацела вачыма і...
адпаўзала ільвіцай збітаю
ды ўсміхалася праз боль прыгожа,
як толькі праз боль усміхацца можна.
А ён стаяў на ганачку,
пацягваў жыццё, як цыгарачку,
прыцмокваў
лёгка,

стрымліваючы
каханне да адной,
той яе, што далёка,
і нелюбоў да другой,
блізкай,
што пад рукой.
І ператвараўся
ва ўласных страхаў лёкая,
што зацугляны быў
самім сабой.
А любоў, рвучыся ў цуглях,
капытамі біла,
дыбілася,
пускала пену з храпы і
уставала на дыбачкі,
плакала,
крычала амаль чалавеча,
вечкам труны ляпала.
Прасілася, каб адпусцілі,
схопленую недарэчна.

*Студзень, 2018*

* * *

Цябе забілі.
Толькі ўнутры мяне.
Загубілі.
Генералы маёй вайны
цябе асудзілі.

Без дазволу майго.
Расстрэльнай камандай.
А кажуць цяпер,
што з дазволам.
Стралялі ў сэрца,
у вочы, у вусны.
Ва ўпор
у...
ва ўсё, што кахала.

Лепей бы
на выгнанне
цябе асудзіла.
Чым цяперака –
па пахаванні –
выкопваць твой труп
з магілы.

*Снежань, 2017*

* * *

Ён узяў яе сэрца
так акуратненька.
І выпусціў
долу
так нечакана.
Толькі прамовіў –
выбачай, каханенькая,
мо да раніцы
загояцца раны.

*2017*

* * *

Шалёная поўня, як яйка, –
хоць намазвай яе на лусту.
Крычыць крычма белая чайка –
як зацяжка, ірве неба хусту.

Як тваё імя?
Я забылася.
Некалі яно штоноч снілася.
Некалі яно штоноч мроілася.
Але сэрца ўсё ж –
супакоілася.

Цешуся, што нас больш нямашака.
Але ёсць успаміны прыгожыя.
Не назваць любоў болей нашаю.
Неўчасанаю, растрывожанай.

Як тваё імя?
Я забылася.
Некалі яно штоноч снілася.
Некалі яно штоноч мроілася.
Але сэрца ўсё ж –
супакоілася.

*2017*

## ПЕРАТВАРАЮСЯ

Ува мне, здаецца,
“мяў”-кацяня
ўдзень да людзей
ласціцца,
на ручкі да ўсіх просіцца,

а ўначы,
калі мыю валасы,
косы разводжу,
шторазу
адразу
з сябе выходжу,
з-за небасхілу
падглядаю
на сваё цела,
што шапацела
травой маладою
пад рукамі тваімі,
пад касою тваёю
гіне...

Ператвараю-ся
ў жанчыну чужую,
агністую,
рудзенькую,
як астравы, грудзі яе.
Ператвараюся
ў жанчыну якой
належыць
мужчына той,
што цалуе калюча
слязінкаю залатой
да шнараў унутры,
што дзеляць любоў на тры...

Ад таго,
штоначы –
калі маўчыш –
ператвараюся
ў тую,
светла-рудую,
у якой ён,
у якога маё
сэрца скача
цацкай "ё-ё".

*2017*

* * *

...Вясна прыходзіць паступова.
Цішэй.
Не спалохай каханне,

якое прачынаецца
і распраўляе крылы спрасоння.
Не, не гукай яго.
Гэтае – не нашае.
Давай проста паглядзім,
поруч стоячы.

*2017*

* * *

Ты.
Унутры.
Новы рытм-
мы.

*2017*

* * *

Краявіды карцін Марціроса Сар’яна:
пальмы з поўнямі мяняюцца ценямі.
Афрыка рыкае рудым цяляткам –
аазісы гатэляў пад капыткамі залаценькімі.

Мурыны й мурэны атачаюць нястомна,
як гандляркі з Камароўкі на Коласа.
Павольныя паганятыя вярблюдаў сонных
кіруюць кацерамі караванаў у паўголаса.

Калі цёпла на сэрцы – вершы маўчаць у галаве.
Цела пяе – і душа ў гуморы.
Жыццё звонкай манеткай
ляціць у Чырвонае мора.
І ты мінеш так –
і па табе
зазвоняць.

Краявіды карцін Марціроса Сар’яна...
Пальмы з поўнямі абдымаюцца ценямі.
Цалуюцца маладыя, ад усемагчымасці п’яныя,
на досвітку – каб ніхто не дазнаўся! –
замяняючы зноў душы целамі.

*Сінай, 2017*

* * *

Мой сон падобны да ката,
стамлёнага, сівога...

Якая ж, Божа, пекната –
аблокі і дарога!

* * *

Я веру ў Бога, які верыць у мяне.
Часам ён таксама стомлены.
І яго трэба абняць.
Асабліва пасля зімы.

Кожны раз, калі крычыць чайка, –
будзе мая чарга.
Кожны раз, калі кувае зязюля, –
чарга Ягоная.

*2017*

* * *

Ведаеш,
добра,
калі
барвовая кобра зары
ў рукі твае паўзе,
каб нашаптаць новы дзень.

Ходзіць па коле зноў
думка ў чаканні сноў.
Думка, як верабей,
сэрца, бы хлеб, дзяўбе.

А ўпоперак – скрозь мяне –
кобрай зара паўзе,
каб нашаптаць новы дзень...

*2017*

* * *

А я табе,
цябе цалуючы,
скажу,
што хутка я памру.
Душа ўзляціць,
душу мілуючы,
скрозь неба гэтае
ўгару

*2017*

## ВЕРШ ПРА ДЗЕДА

*Ахвявярую дзядулю Івану*

...На вялікай гары Яна
прычакала свайго Яго
й запяяла жалейкай у снах
доўгі шлях ад любові ў любоў.

Шлях з чужых да сваіх капцоў,
дзе ты – жменька ў далонях дачкі,
куды сам ты амаль дайшоў,
пагубляўшы свае абручкі.

Ну, бывай, мой апошні дзед.
Будзе лёгкі – у неба шлях.
Сэрца свечкаю грэе твой след.
Бог цябе люляе ў яслях.

Праз душу ты відзён.
Сорак дзён
да тваёй
божай вясны
будуць сніцца ціхія сны.

*
Усе вы, што былі да нас –
чорны камень і зорны снег –
адчакайце той судны час,
калі будзем
ў адзіным сне.

*2017*

## СПАЧЫВАЙ, МАЯ КНЯЗЁЎНА

*Ахвярую бабулі Валі*

Вяртацца ў слова ад болю.
Намацваць радок у вусці.
І з хвораю галавою
ў ноч ісці,
нібы заўтра адпусціць.

Набыцца б з табою
тою,
што адлятае ў вырай.
Набыцца з табой
жывою,
малітвамі выйсце вымыць.

Вывуджваю рэшткі сонцаў
з пальцаў тваіх галінаў.
Нырца даю ў сны да донца,
бы ў вочы твае,
Валянціна.

...Дыхаеш – а я чую,
як дрэвы шумяць табою.
І развітанне начуе
на падушцы адною з болем,
пад адною коўдрай з палёгкай,
на адною прасціне са стратай.

З жыцця звадаў і з цела кратаў
голас твой узлятае над воляй.

Ты мая казка растальная
Пульсуеш артэрыяў мовай.
Дачкою маёю – дамова? –
адродзішся на світанні.

Ты доўжышся ў нашых лёсах,
у песнях, у добрых словах.
Звышні забраў да Нябёсаў
на Вербніцу адмыслова.

...

Спачывай, мая князёўна.
Вялікдзень. Яблыні цвітуць.
Ты ўжо дзевяцідзённа
да Госпада трымаеш пуць.

*23 красавіка – 1 траўня 2016*

* * *

Да непрытомнасці водарыць хмарамі яблыняў,
россып ружовых вішняў цвіце з-пад ног...
Лета млее на цёплых грудзёх тваіх ямбамі
вуснаў маіх, трывогаў трымтлівых і сноў.

І пе-ра-хоп-лі-ва-е дыханне так соладка,
нібыта голас засмоктваеш мой у сябе.
А я хаваю вочы ад прагі і сораму,
поўныя вочы – як пляшкі з віном – цябе.

Злізвае ранак рэшткі былога і прышлага.
Спуджаным птахам сэрца ў гняздоўі грудзёў

туліцца па-бяздомнаму, просячы Звышняга...
яблыняў цвету да заканчэння дзён.

*Травень, 2018*

* * *

Каханы, не будзем пра сэнсы,
каб не заблытваць шчэ болей
нашых балючых любовей
пальцы, надзеі, вузлы.

Так многа цябе ў сэрцы,
так мала цябе, каб запомніць,
каб выцалаваць запоем
на скразняках вясны.

Вось бы зрабіўся пакоем –
сусвет мой сабой запоўніў –
у ім мне штоночы з табою
лашчыць нашыя сны.

Хавацца ў тваіх абдоймах,
зляцеўшы з сямейных гняздоўяў,
забыўшы на словаў плоймы,
сплёўшыся да цеплыні.

*2018*

* * *

Гэткага болю ёй хопіць надоўга –
яго можна, як спецыі з Персіі,
дадаваць у баршчы, успаміны і вершы,
на вастрыі ножыка,
самую дробку.

...Так феерычна, натхнёна-ўздымальна
ён расчытваў усмешак яе манускрыпты,
рассоўваў каленкі сваім дыханнем,
нібыта фіранкі ў новыя рытмы.

Але вокны цяпер завешаныя.
Прад вачыма – пейзаж прадказальны.
Яна ж зубрыхаю белавежавай
у мроі Гусоўскага ды казанні

збягае папасвіцца ад марнасці Зеўсавай,
які толькі сніць, што Еўропу скрадае...

*2018*

Таццяна Будовіч



...Няпраўда, што час лечыць.

Прытупляе, але не лечыць зусім...

# Аляксандра

***Непрыдуманая гісторыя***

Ён не ведаў, як жыць без яе. Як увогуле жыць з усведамленнем, што ён вінаваты ў яе смерці альбо (яшчэ горш) нечалавечых пакутах. Ён нават не можа прыпаўзці на яе магілу і памерці там, паклаўшы галаву акурат над тым месцам, дзе мусіла б быць яе галава...

Кожную ноч ён размаўляе з ёю. Для яго даўно ўжо знікла мяжа між явай і сном, рэчаіснасцю і фантазіяй. Часам ён ясна адчувае: яна – побач, стаіць і назірае за ім, злёгку ўсміхаючыся сваім думкам... Здараецца, яна робіць тое, чаго ніколі ў жыцці не рабіла: нечакана мяккімі пальцамі, ледзь кранаючыся, праводзіць зверху ўніз па яго руцэ, а потым пяшчотна бярэ яго далонь у сваю. І тады ён некалькі дзён запар адчувае цяпло яе дотыку.

– Анджэй, ажаніся! Вунь колькі прыгажунь на цябе паглядаюць, разуй вочы! Гэлька, Гося, Бася – адна за

другую спраўнейшыя! За Госькай яшчэ й пасаг багаты возьмеш! – часам раяць суседзі.

Ён нічога не адказвае, моўчкі глядзіць сумнымі, як нетутэйшымі вачыма кудысьці скрозь іх. Яму патрэбна толькі Аляксандра, Алеська, як ён ласкава называў яе. Без разваг аддаў бы жыццё, каб на адно толькі імгненне апынуцца ў мінулым побач з ёю, прадухіліць тое страшнае, што адбылося па яго віне.

Не раз ён думаў: небыццё прынясе яму палёгку. Нават у пекле, куды трапляюць усе самагубцы, не будзе горш, чым тут, бо нішто не можа зраўнавацца з пакутамі, з якіх няма выйсця ў гэтым жыцці, на гэтым свеце. Але... раптам яна, яго Алеська, не памерла? Што, калі ёй пашчасціла ўцячы з этапу, і менавіта зараз, днямі хаваючыся ад людзей, а ўночы пераадольваючы нейкую адлегласць, яна набліжаецца да яго?

Хаця наўрад ці яна шукала б яго. На руках у таго нелюдзя, што воляю нябёсаў стаў яе мужам, засталося малое дзіця. Яе сынок...

І тады Анджэй пачынаў меркаваць, якім спосабам расправіцца з той поскуддзю. Ён прыдумляў мільёны смерцяў, страшных, пачварных, пакутлівых. Падавалася, што тая сволач не павінна памерці раз і назаўсёды, а мусіць штодзённа зведваць самыя жудасныя мукі. Толькі тады яму, Анджэю, можна будзе спакойна заплюшчыць вочы. Назаўсёды... Каб хоць на тым свеце сустрэцца з Алеськай... Гэта надавала Анджэю сілы, і ён прачынаўся, нешта з'ядаў без адчування смаку, пераадольваючы сябе, ішоў на працу на суднаверф. Манатонная работа на нейкі час супакойвала, ён збіраў сябе ў кулак, назапашваў моцы, каб зрабіць яшчэ адзін крок. І так – дзень пры дні.

Ён пакахаў яе адразу, з першага позірку. Хаця ўбачыў са спіны: яна, спяваючы, збірала маліны. У тым голасе было ўсё: шырокая плынь Прыпяці і вышыня яе берагоў, шумлівыя бары надпрыпяцкіх лясоў, ціхамірнасць і бяздонная сінеча летніх нябёсаў, пяшчота і свежасць травеньскага дажджу... А песня лілася, лілася... Хацелася растварыцца без астатку, лунаць у паветры разам з тым мілагучным грудным напевам. Ён стаяў і слухаў, не ў сілах зрушыцца з месца. Алеся ж адчула яго позірк, павярнулася на паўслове... Смуглявая, статная, цёмнавалосая... Але больш за ўсё яго ўразіла яе ганарлівая пастава, лінія плячэй. Толькі пасля ў думках ён адзначыў: якая прыгажуня!

Мусіць, ён неяк недарэчна выглядаў, бо яна адразу ж рассмяялася і хутка знікла між дрэў. Доўга ён блукаў потым, не помнячы сябе, не разумеючы, што яму цяпер рабіць... А праз тыдзень сканчаўся тэрмін яго напаўлегальнай камандзіроўкі: праца, дзеля якой ён прыехаў у Петрыкаў на суднаверф, падыходзіла да завяршэння. Мясцовыя майстры пераймалі вопыт складанага рамонту дробных механізмаў. У Любліне яго чакалі старыя бацькі.

Ён даведаўся, што яна – дачка славутага на ўсю акругу краўца Андрэя Будовіча, ужо заручаная з брыгадзірам рабочых той самай суднаверфі. Высокі, прыгожы нейкай строгай, асаблівай мужчынскай прыгажосцю, Рыгор вылучаўся крутым норавам і любоўю да маладзіц, якія адказвалі яму ўзаемнасцю... Казалі, што толькі побач з Алеськай ён станавіўся ціхім і рахманым.

Анджэй адчуваў: у яго няма ніводнага шансу. Нават каб не была заручаная, яе бацька, шчыры вернік, які ніколі не прапускаў нядзельнай службы

ў царкве, не аддаў бы дачку за іншаверца. І ўсё ж шукаў з ёю сустрэчы, увечары пачаў хадзіць у клуб, дзе пасля працоўнага дня збіралася моладзь. Пару разоў яму пашчасціла патанчыць з ёю. Яна грацыёзна, пластычна рухалася, быццам вучылася танцам усё жыццё. Глядзела трохі звысоку, ледзь нахіліўшы галаву, і злёгку ўсміхалася.

Аднаго разу, якраз напярэдадні яго ад'езду, яна прыйшла ў клуб надзвычай задумлівая, ціхая, не жартавала, як заўжды, з сяброўкамі, не танчыла. Трохі пабыўшы, сышла. Анджэй пайшоў за ёю. Ён папрасіў дазволу прайсціся з ёй дахаты. Яны ішлі моўчкі. Ён быў як п'яны ад таго, што яна – побач, ён дыхае ёю, можа злёгку дакрануцца да яе рукі.

– Ну як, упадабаў пан наша места? – спытала Алеся штучна вясёлым голасам.

– О, так! – ён не ведаў, што адказаць яшчэ, і адначасова адчуваў, што мусіць сказаць самае галоўнае: больш шансу не будзе. – Алеся, ты така... така чароўна... Я цебе кохам!... Паехалі са мною! Будзь маёй гаспадыняй!

Яна штучна рассмяялася:

– Хіба ў пана няма гаспадыні?

У гэты момант з засені дрэваў ля суседняй хаты з'явіліся дзве постаці. Павольна, перавальваючыся, рукі ў кішэнях, яны набліжаліся. Алеся ў нерашучасці спынілася.

– Закурыць не дасі? – адзін з незнаёмых звярнуўся да Анджэя. Ён нават адказаць нічога не паспеў, толькі краем вока заўважыў, што другі незнаёмы, зайшоўшы з іншага боку, паміж ім і Алесяй, заносіць кулак для ўдару. Але Анджэй не разгубіўся, зрэагаваў вокамгненна: аднаго рэзка выцяў галавой пад дых, тым самым ухіліўшыся ад удару, "курэц" адразу ж бяссільна перагнуўся папалам, другога – нагою па шыі. Той распластаўся на дарозе перад імі. Гады трэніровак падчас вучобы не мінулі дарэмна.

– Бяжым! – ён узяў Алесю за руку, і яны рванулі ў бок яе хаты.

– Набрыдзь клятая! – пачулі яны за спінай. – Правальвай, бо здохнеш!

Ля Алесінага падворка яны яшчэ пастаялі, аддыхваючыся. Вочы яе свяціліся трывогаю і захапленнем адначасова. Не чакала яна, што з выгляду хілы, кволы Анджэй, знешне падобны да дзяўчыны (светлыя хвалістыя валасы, высокія скулы, тонкі твар, выразна абрысаваныя вусны) здатны да такога рашучага ўчынку. Яна нагадала яму, каб быў асцярожны, і хутка знікла ў двары. Анджэю не хацелася вяртацца да сябе, пяшчота летняга надвячорка напаўняла яго душу невыказным сумам і любасцю. Але заўтра – у дарогу, трэба збіраць рэчы. Як з'язджаць, калі сэрца застанецца тут?

Падыходзячы да ганку бабкі Дусі, дзе атабарыліся яго таварышы, камандзіраваныя на Петрыкаўскую суднаверф разам з ім, паглыблены ў свае думкі, ён не прыкмеціў, як з-за рога хаты бязгучна выслізнула цёмная постаць. Ён адчуў удар па галаве, але болю адчуць не паспеў – усё разам кудысьці правалілася. На самае глыбокае дно антрацытавага калодзежа...

Так ён застаўся на Палессі яшчэ на месяц, пакуль ачуняў у мясцовай лякарні. Памяць вярталася марудна. Некалькі разоў прыходзіў следчы, выпытваў падрабязнасці таго вечара, але на тым усё і скончылася. І хаця ні для каго не было сакрэтам, чыіх рук гэта справа і што (дакладней, хто) таму прычынай, яна засталася адкрытай з-за недахопу ўлік.

Аднаго разу яму перадалі падарунак ад Алесі – невялікую падушачку з вышытымі чырвонай гладдзю малінамі. Ягадкі, апавітыя зялёным лісцем, сядзелі як птушаняты ў гняздзе. А таксама і невялічкую цыдулку

наступнага зместу: “Ты вельмі добры, жадаю табе шчасця. Але не думай больш пра мяне, я выходжу замуж. Бывай”.

Калі Анджэя выпісалі з лякарні, ён адразу паехаў у Люблін да бацькоў, якія вельмі за яго перажывалі. Бацька тым часам цяжка захварэў і праз паўгода пакінуў гэты свет. Яны са слабой старэнькай маці засталіся ўдваіх.

Няпраўда, пераканаўся Анджэй, што час лечыць. Прытупляе, але не лечыць зусім. Праца і хатнія клопаты забіралі ўсе яго сілы, але ён часта лавіў сябе на тым, што размаўляе ў думках са сваёй каханай. Пытаецца, як яна жыве, ці шчаслівая яна. Яму ўяўлялася, як яна спявае сваім поўным, мілагучным, нізкаватым грудным голасам. Часам ён забараняў сабе падобныя сантыменты, адганяў балючыя думкі, стараўся выкінуць з галавы, але назаўтра ўсё паўтаралася наноў, варта было застацца на самоце альбо схіліць галаву да падушкі. Алесін падаруначак ён захоўваў як найдаражэйшую каштоўнасць.

Так мінула тры гады. Вось ужо і маці ціха адышла ў спрадвечны сон. І яго татальная адзінота зрабілася проста невыноснай, балючай, густой, суцэльнай сцяной акружыла яго і з кожным днём падкрадвалася бліжэй і бліжэй. Ён адчуў: далей так нельга. Узяў на працы тыднёвы адпачынак і пачаў збірацца ў дарогу.

У Петрыкаве ён спыніўся ў той жа хаце, у бабкі Дусі. “Ой, сыночак, барані цябе Божа”, – як прадчуваючы нядобрае, паўтарала яна. Ён даведаўся, што Аляксандра была ўжо замужам, гадавала дзіця... Яе муж Рыгор працаваў па-ранейшаму на суднаверфі і менавіта зараз знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Кіеве, вучыўся там нейкай новай спецыяльнасці ў сваёй галіне.

Анджэй меркаваў: чым менш мястэчкоўцаў будуць ведаць аб яго прыездзе, тым лепш. Таму папрасіў бабку Дусю, каб тая прывяла Аляксандру ў хату. Праз якую гадзіну яна з гадавалым хлопчыкам на руках пераступіла парог. Сэрца Анджэя ледзь не выскачыла з грудзей. Ён глядзеў на маладую прыгажуню яшчэ ў большым захапленні, чым раней. Хоць яна і была такая, якою ён яе памятаў, нешта няўлоўна змянілася: яна стала сапраўднай Мадоннай. Густыя цёмныя валасы зачасаны назад, высокі лоб, вялізныя цёмныя вочы глядзелі з нейкім сусветным усёдаравальным разуменнем і спакоем.

Невядома, колькі б працягвалася тое красамоўнае маўчанне, калі б Аляксандра першай яго не парушыла. Яе словы былі строгімі і патрабавальнымі:

– Нашто ты прыехаў?! Паміж намі нічога не можа быць! Зразумей, я замужам, у мяне – дзіцё!

– О, дарагая, кохана, Алеся! Я цебе кохам! Паехалі са мной! Будзь маёй гаспадыняй! Тваё дзіцятка будзе маім!

– Вар’ят! Пакінь мяне ў спакоі! Знікні, чым хутчэй, тым лепш! – яна рэзка павярнулася. Хлапчанё смуглявай аголенай ручкай абдымала яе за шыю і глядзела на Анджэя вялізнымі, як у маці, анёльскімі вачыма ў поўным непаразуменні. Аляксандра знікла за дзвярыма.

У тую ж ноч Анджэй рушыў у бок чыгункі. А ў мястэчку ўжо ўсе былі ў курсе, што ён сустракаўся з Аляксандрай. І калі назаўтра Рыгор сышоў з цягніка, “добразычліўцы” адразу ж яму ўсё даклалі. Разагрэты іх пачастункам і нечаканай навіной, ён кінуўся дадому, каб пакараць жонку – здрадніцу. Але не прайшоў і паловы дарогі, як яго азарыла ідэя... Крута павярнуўшыся, ён скіраваўся ў аддзел да мясцовага следчага.

Па Алесю прыйшлі тым жа вечарам. Абвінавацілі ў польскім шпіянажы. Больш яе ніхто не бачыў... Анджэй даведаўся пра гэта годам пазней. Страшныя звесткі прывёз яго знаёмы, які нелегалам падпрацоўваў на Петрыкаўскай суднаверфі.

І вось Анджэй зноў у фатальным Петрыкаве. Уночы ён перайшоў мяжу. За пяць гадоў ён вельмі змяніўся. Цяпер гэта худы, згорблены, зарослы шчэццю селянін з кіем, які нібыта падаўся на пошукі лепшага жыцця. Ніхто не пазнаў бы ў ім жыццярадаснага, мройнага Анджэя. На мясцовым кірмашы ён даведаўся, што Рыгор больш не працуе ні на суднаверфі, ні дзе яшчэ. Бадзяецца ад двара да двара, часам начуе дзе прыйдзецца. Алесіна дзіцё да нядаўняга часу гадавалася ў бабкі, пакуль тая не памерла, а самой яе няма, як не было.

Увечары ён адчыніў дзверы Рыгорава дома. Поўная занядбанасць, бруд... Дзіцё сядзела на кучы рыззя, галоднае і недагледжанае.

– Здароў! А як цебе зваць?

– Віцік, а ты хто? А таткі няма, ён пайшоў некуды!

– Я... прыйшоў да яго... Мяне завуць... дзядзька Анджэй (ён так і не паспеў, а дакладней, не змог нічога прыдумаць, невыказны жаль да гэтага бездапаможнага дзіцяці праняў усю яго істоту). – Я пшынёс табе... На, еш! – Анджэй дастаў з торбы кавалак хлеба з салам, сыр.

Тым часам зусім сцямнела, а дахаты ніхто не вяртаўся. Ён усё размаўляў з хлопчыкам, нават казкі згадаў, якія сам чуў у дзяцінстве, але міжволі ўяўляў з жахам: што ён зробіць, калі вось прама зараз вернецца Рыгор. Але перш, чым гэта адбылося, Віцік ужо заснуў. Анджэй перанёс яго на ложак. Праз якую гадзіну здалёк пачуўся брэх сабак, а пасля – брудная лаянка. П'яны голас нешта гарлапаніў, набліжаючыся. Анджэй, гатовы да ўсяго, стаіўся ў двары. Калі Рыгор уваліўся ў весніцы, Анджэй кінуўся на яго са спіны. Збіўшы з ног, перавярнуў яго тварам угору і адвалок да сцяны дома, прыпёр спінай да прызбы. Запаліў ліхтар. Колькі ён марыў пра гэты міг, уяўляючы, як уласнымі рукамі душыць яго, альбо як фінка ўваходзіць яму між рэбраў... Але, як ні дзіўна, зараз Анджэй не адчуў той лютасці, што апаноўвала яго раней пры любой згадцы пра Рыгора. Быццам уся нянавісць перагарэла, вычарпалася за тыя няўмольныя гады пакутаў... П'яная пыса, якая хрыпела перад ім, выклікала ў яго адно гідлівасць.

– У мяне... няма нічога... – толькі і паўтарыў у жаху Рыгор, потым нечакана яго галава звесілася і ён захроп.

Анджэй увайшоў у хату. Ён не мог пакінуць дзіця. Яе дзіця. Каб знайсці якую вопратку, вывернуў куфар. Сёе-тое паклаў у торбу. Нечакана ў святле ліхтарыка ўбачыў Алесіну хустку. Яркія чырвоныя кветкі нагадалі яму той дзень, калі ўпершыню ўбачыў яе, пачуў яе голас. Тады хустка ляжала ў яе на плячах. Ён схапіў яе, прыхінуў да твару, удыхнуў паветра... Алеся зноў была з ім. І ён адчуў сябе поўным сіл.

Шкада было будзіць хлопчыка, але яны мусілі спяшацца. Наперадзе чакала доўгая дарога, небяспечны пераход мяжы.

Ірына Мацкевіч



...трэба разам бываць
часцей...

# Прысніўся небакрай...

* * *

Сама сабе абрала лёс.
Не веру у наканаванасць,
як быццам хто яго прынёс,
ў далонь паклаў –
трымай як шанец.

Я па сабе сапраўдны жнец
хвілін узнёслых. Снопам цяжкім
яны збяруцца пад канец,
каб апынуцца
хлебнай бражкай.

І водар тых хвілін хмяльных,
калі піла іх з асалодай,
непараўнальны да зямных
маркотных дзён.
Ён пахне мёдам

і поўны зоркавай расы,
і месяц у ім адлюстраваўся,
і слодыч той святой начы,
калі са мной
ты сустракаўся.

* * *

Пад раніцу прысніўся небакрай,
І мы ўдваіх, узяўшыся за рукі,
Стаім, увачавідку бачым рай
І музыкі чароўнай чуем гукі.

І не страшыць нас воддаль, вабіць шлях.
Што там, за небасхілам у нябёсах?
Здаецца, што жыццё зрабіла так,
Каб зразумелі мы кірунак Лёсу.

Нам крылы Бог таму падараваў,
Каб мы адчулі радасць ад палёту.
І я хачу, каб здзейсніўся наяў
Мой сон і мары пра кахання асалоду.

## ДЫПТЫХ

### *I*

Не заўважаючы ні межаў, ні адлегласці,
маё каханне існуе на супрацьлегласці:
гарачыня пачуццяў сутыкаецца
з халодным сіверам, пры гэтым назіраюцца
маланкі і ўначы імклівы дождж.
Калі пральецца, бачым зорны коўш,
а ранкам, як надзея на сустрэчу,
вясёлкі мост – ён абяцае вечнасць.

### *II*

Маё каханне існуе на супрацьлегласці,
не заўважаючы ні межаў, ні адлегласці:
гарачыня пачуццяў раптам сутыкаецца
з халодным сіверам.
Пры гэтым назіраюцца
маланкі, спрэчкі,
слёз маіх імклівы дождж.
Твая разважлівасць ў мяне ўсяляе злосць.
Надзьмутым ветразем гатовая на рух,
я чую ціхіх слоў тваіх няўмольны гук:

“Не спадзявайся, не шукай са мной сустрэчы.”
Як быццам не казаў: “Мы разам – вечнасць”.
І... ападае ветразь, сохне мора.
Каханне – радасць, ці каханне – гора?

### ***ШЫПШЫНА***

Шыпшына ў шоку – снегападу
даўно такога не было.
Я толькі бачыла ў вакно,
яна шчасліваю здавалася,
ад ранка сонцу усміхалася
у спадзяванні на дабро.
Але бывае так, што хмара
наблізіцца неспадзявана
і перакрые кісларод.
І быццам рыбіна аб лёд,
ты б’ешся ў роспачы, а зоры
ўжо ткуць квяцістыя узоры
на мяккім саване зімы –
падлічаны шыпшыны дні.
...Як тая бедная шыпшына,
я прападаю. Палавіна
ужо, здаецца, не жыве,
і сэрца ў ледзяной труне.
Каханнем сэрца адагрэеш,
ці можа холадам павееш?
У тваіх руках мой грэшны Лёс.
Цяпло нясеш альбо мароз?

* * *

Я адчуваю твой пякучы боль
не галавой і целам –
проста сэрцам,
але прадбачу, любы, што спакой
адзін не знойдзеш –
паасобку не сагрэцца.

* * *

А ведаеш, як добра засынаць
пад ціхі шэпт пяшчотных слоў, каханак?
І неўзабаве хай прыходзіць ранак,
лагоднасць ночы ён не ў стане парушаць.
Як доўжанне той казкі, што у сне,
прамень ад сонца нагадае мне

ласкавы дотык вуснаў на шчацэ,
ад лёсу нас Каханне агарне.

## ***ДЗЕНЬ “Л”***

Прызнач сустрэчу.
Хай будзе ранак,
і ты, паўсонны,
такі жаданы.
Альбо дзень ясны.
Бліснеш вачыма,
адвесці позірк
мне намагчыма.
А калі вечар,
зарніцы промень
твой твар асвеціць.
Ах, бессаромны!
Усё мне роўна,
хоць ноч паўстане,
і не палохае,
а ўзбуджае.
...Іду насустрач,
нібы чаруеш.
Прызнач сустрэчу –
не пашкадуеш!..

* * *

Трэба разам бываць часцей,
дакранацца да *лю*бых скроняў,
апынацца ізноў і зноў
у палоне цяпла далоняў,
з вуснаў піць той нектар святы,
што адвечна завем Каханнем,
не дзяліцца на «я» і «ты»,
аб’яднаць душы пры спатканні.

Галіна Сіўчанка



...ды зярнятка заўжды будзе мкнуцца на поўдзень
тым акрайкам з якога праб'ецца сцябло...

# Наследаваны звычай

### ВЫСПАВЕРХ

падсціл лясны ўзарваны кратавінай
разгладжаная берага кайма
няма недаравальнае правіны
і раны незагойнае няма
ні богам не агледжанае глебы
ні д'яблам разамкнутае душы

мне тут не жыць без вечнай выспатрэбы
мне госцяй быць у гучнай плынь-глушы
маўленне і дыханне ў часазломе
ахвяраваць таму хто смерць абверг
і знаць што калісь у захмарным доме
ключар мяне ўзвядзе на выспаверх

### ВЫСПАКУШЭННЕ

па-над выспай бягуць ганчакі па нябеснай пожні
да вялікага воза вядзе двух валоў валапас
я заўжды абяцаю сабе
гэты раз – апошні
ды прыцягвае зноў дасканалы дасконны штораз
ды працягвае зваць неадольнае спакушэнне
зьлішпяшчоту
зьлішпамяць
усю адбалелую зьліш
птахам ночы скарміць быццам крошкі з пустых кішэняў
глебе ночы аддаць каб атожылкі спелі заміж
дзённай стомы на выспе птушынай
каб вершазавязь
незаўважна мацнела на дрэвах пад зорным сьвятлом
што ліе вадаліў праз галінаў густую навісь
на драўляныя сьцегапаломы і ў сэрцапалом
мне не выснiць спакой без цябе
мне начэй не выспаць
мне чуваць пераспевы жыцьця ў маладым трысьці
гэта я спакушаю найлепшую ў сьвеце выспу
непаўторным сусьветам са слоў ува мне прарасьці

### ВЫСПАМІНАЛЬНАЕ

памінальнікі цягнуцца на клады
я цягнуся да сьціпласьці сон-берагоў
для мяне пачалося жыцьцё з вады
і са слова тае што сышла да багоў
я не помню што значыць дачкою быць
успаміны сьцер час аднаго акрамя
як да слыху душы бы вада бруіць
яе голасам вымаўленае імя
і маўчаць берагі
і вада пяе
выспаміны вызвоньваюцца ў пустаплаў
і я маю імя
не маё –
яе
ды не маю таго хто б мяне назваў

### ВЯРТАНЬНЕ

для каго найворагам жыцьцядар стаў
для таго найсябрам няўхільны скон
зброяспевы бітвы пяці ваярстваў
абрывае зьвіты з маўчаньня сон

смалякі бязгучна трашчаць жывіцай
рассыпае страхі агонь у тло
ды з цясніны горнай здалёк цадзіцца
тагасветам доранае святло –
узыду туды дзе няіснай смерці
шэраздані белы глытае дым
жорнам лёсу памяць не перацерці
век-дажджу не змыць успамін аб тым
як праз пругкі звіў валасоў з прасторай
праз супынам часу нацятую ціш
да вяршыні мклівай стралой празору
далятае

– спіш?

## СУПРАЦЬСТАЯННЕ

дух паўночны табе адзінотай аддзячыў
тут расталі даўно каго-кольвек сляды
ды у тым каб таліцца напоем нястачы
на самоце няма аніякай бяды
сам сабе гаспадар ды паслужлівы лёкай
ты праз непагадзь к мору дарогу праклаў
ды ў адвечным бязмор'і радзімы далёкай
мы да Бога хутчэй дабіраемся ўплаў
ты на ўласныя вочы пабачыў мясціны
дзе над жэглішчам век не ўзнімаўся агонь
ды ажыўлены памяццю дотык адзіны
невыносным цяплом апякае далонь
у захмар'е загнаў прамяні вецер-збродзень
халадэча такая што дух заняло
ды зярнятка заўжды будзе мкнуцца на поўдзень
тым акрайкам з якога праб'ецца сцябло

## ПЯЧОРА

паступова – па гукакроплях – сцякае не
па часовым угнуцці ў вечнае недаўчора
мне ізноў прывыкаць да звершанае мяне
зноў хавацца ў разломе ўнутранае пячоры
адплывае затворам мыслення лёдагор
азараецца сцегавыглад – вястун слізготы
зберагла б я сябе ды толькі святла адмор
пачынаецца тут за першым жа паваротам
я трымаюся за накапкі хвілін дабра
ухіляюся ад нацёкаў былога страху
дзесь на поўдні нячутна плача сузор-гара

дзесь на поўначы кліча дом пад прарослым дахам
а навокал адно блакіць
белаглінь
вугляк
мне не выйсці наверх пакуль не знайсці пакладу
найпразрыстых
сумленнем выпаласканых так
каб пусціць іх цячы у заўтра ручвом пажады

## АЕР

аднойчы ты выйдзеш пад неба на цьмяным дасвецці
захочаш спакою набраць у вясны напавер
і знойдзеш дарогу сваю па адзінай адмеце
да старыцы мглістай дзе шоўкам шапоча аер
кранешся разгладжанай зелені ў мулкай трывозе
завостраным рубам парэжаш руку да крыві
пачуеш як трэскі – ахвяры былога разводдзя –
з зямлі блаславяць тваю чырвань:
– жадай і жыві!
суніме твой боль найпяшчота аеравых хваляў
на кожнай травінцы падзенні ды ўздымы паўскрай
растане цяпла майго след у таемным прагале
не выдасць расліна расталага як ні шукай
праз ліха сыход прарасце надыход ціхалецця
наперадсвітальная зорка пакліча дамоў
ты знойдзеш дарогу сваю па адзінай адмеце –
пакінутых мною найменнях нячутных слядоў

## КВЕТКІ ПАДВЕЖЖА

уладарства травы ды россып дзікарослага дзіўнацвету
прыцягальны холад камення і ўласнай рукі цяплынь...
сівазём векавога падвежжа разумее ўсе мовы свету
ідучы да вяршыні пачуеш бы загад на сваёй:
застынь
скаланешся ды паслухмяна знерухомееш і заўважыш
як пялёсткавымі штрыхамі лёс малюе высокавей
летапісцы і летапіўцы на спрадвечным падвежжы княжым
зноў кладуцца на зрок узорам залачоных зарой надзей

## НЕБАРАСЦЬ

нашы цені плывуць да Віліі на туга звітым дубовым згоне
паўмінулае расцярушваецца паўцяперашнім па вадзе
паслухмяныя пасмы водарасцей тояць небарасці прадонне
той у хвалях урэкавечваецца хто пісаў зніадкуль...

нідзе
я дагэтуль не адлюстроўвалася так прыгожа і так спакойна
да адхону ўспамін прывязваецца праз атрутны балігалоў
як на роўнядзь тваю далоневую пад ухвальны спеў дрэвастойны
я кладуся бясконцай небарасцю без націны ды каранёў

## УЦЁКІ

не прыняўшы як дар пераемнасць раення ў вуллі
пад аховаю думаў пра волю і мову рэчаў
уцякаю на ўсход ад тваёй жыццяноснай кулі
у сухмень па суглінку і супескам у макрэчу
ад тваіх віратворных стрэлаў хаваю спіну
духу логу за схоў адплачваю злом і злогай
адпалосквавю пасак блікамі лукавіны
зноў шукаю дарогу выклятая дарогай
я даўно не бяглячка – сястра вятрам адзінокім
хоць за мною няма пагоні – не маю сілы
азірнуцца і стаць
я праз яву чыню уцёкі
на Радзіму што ймёны для нас з табой парадзіла

## ПЯРЭВІТКА

вітаю медзь што залівае ўсход
ўнутры званчэе дзіва супадзення
кароткі верш – бясконца доўгі плот
ад слоў-жардзінаў – роўнядзь змыслаценяў
аблашчаныя сцятыя слупкі
прыцьмелым траўем некалі бліскотным
і нечы рух уздоўж нетарапкі
змушае птахаў пець не так самотна
завяз у пруцці сіверу павеў
ды плоць яго мярэжную казыча
каб і ўва мне надалей не слабеў
пярэвіткай наследаваны звычай
так лёгка мову гэтаму вязьму
ператвараць у плот пазадарожжа
ён паўстае дзе хочацца таму
каму не знаць ніколі агароджаў

# «За лесам, за летам, за Летай»

***Вершы ўдзельнікаў першага пленэру Тацяны Сапач***

***Улетку 2017 года ў вёсцы Маркава, на радзіме паэткі Тацяны Сапач, мы правялі першы творчы пленэр. У яе гонар, дзеля яе памяці, але, найперш, дзеля сяброўства ды радасці. Бо ва ўменні сябраваць ды ствараць радасць Тацяна Сапач была не менш адоранай, чым у словах ды шматслойных сэнсах. І ўсё атрымалася. Адбыліся і эпічная Маркесава зліва, і яблычнае жнівеньскае сонца, і сяброўства, і вершы, што паслягукам і паслясмакам ляцелі яшчэ паўгода ад паэтаў, якія наведалі чатырохдзённы летнік.***

***Лектарамі на вясковым пленэры былі сябры Тацяны Сапач: настаўніца і маркаўская краязнаўца Ларыса Сапач, доктарка багаслоўя Ірына Дубянецкая, мастак ды музыка Сяргей Верамейчык, спявачка Вальжына Цярэшчанка. За чатыры дні паэты-ўдзельнікі наведалі ўнікальную экскурсію па палацы Агінскага ў Залессі, гутарылі з маркаўскімі знакамітасцямі, заглыбляліся ў вершы Тацяны Сапач і ва ўласны працэс тварэння. Шмат спявалі, шмат размаўлялі. Прэзентуем вам вынік – іх вершы.***

**Адэля ДУБАВЕЦ**

## Наста КУДАСАВА

* * *

вымарай мора, прашу, і прыйдзі марошкай,
дай заімшэць, дай аддацца зялёнай імшы...
што я магу – валацуга, дзіця, скамарошка?
толькі дарosламу шоў свае кволыя швы
ў ціхай журбе накладаць, жылы ніцям аддаўшы,
верыць у вернасць ды ткаць на ўсіх вечнасці бінт...

Ты, Хто мяне пасяліў у жыцця на паддашку,
Ты ж аднаму навучаў мяне – “ўстань і любі!”
што ж Ты трымаеш цяпер гэтай ярасцю гончай?
мне не пад сілу нішто – ні займаць, ні займець.
дай мне бясконцую восень і рыжую поўнач:
ягадны сон, ясны зрок і няісную смерць.

* * *

Няхай шчыруе паміж намі злосць,
няхай пячэ ўспамін аб тым, хто здрадзіў, –
ёсць зорны дождж
і ёсць брунатны лось,
застылы святаром на даляглядзе.
Ёсць провід рыб, ёсць вера вераб’я –
і ўсё жыве,
жыве любові дзеля:
апенька сэрцам горнецца да пня,
прадуць анёлы нам на лёс кудзелю...
І жабчын хор свой улюбёны верш
пяе на ўсе лады, раздзьмуўшы шчокі, –
усё жыве.
І недзе ты – жывеш,
такі каханы і такі далёкі...

* * *

цыравала надрывы, хавала рубцы,
забівала дарэмныя вокны,
але восень прысела ў мяне на гаўбцы
і завыла воўкам.
завывай жа,
зрывай гэты зманлівы рай:
хай у схібах гартуецца схіма,
хай нясецца душа з горкіх шахт
на-гара –
міма часу
і болю
міма.

* * *

ты не кліч, не заві,
толькі верасень – мой візаві.
колкі сівер і вусціш сівілы ў маёй крыві.
але кожным радком я малю цябе, любы,
жыві!

аддавайся дарогам, заблуквай у хмельных травах...
салаўіныя сэрцы кунеж,
заварожвай і княж!
так, бязлітасны час,
але жыць немагчыма інакш,
бо любоў ахінае сабой
свет няўрымслівы наш,
асвятляючы ўсё –
нават самую простую яву.

* * *

там, дзе лета ахоўвае шчасця няўлоўнага трымт,
дзе зялёнага лесу наўсцяж раскашуецца хорам,
там па сцежках чароўных чароўныя ходзяць звяры,
там дагэтуль жывыя давер, спагада і сорам.
лапкай мыш бласлаўляе мурог, а вавёрка дупло
высцілае любоўю – сасны гаспадарлівы пробашч...
там на сцежках зямных мы зямное люляем цяпло
бо не трэба ні раю, ні выраю
там, дзе ты побач.

## Павел АСТРАВУХ

* * *

Ведаеш, лепей адразу пазбавіцца друзу.
Так, не адразу: шар заганяючы ў лузу,
Робячы звычнае, робячы тое, што знаеш,
Тое, што з галавою цябе паглынае.

Ведаеш, не дарма адбываюцца ў свеце
Дзеці, сустрэчы, пагоркі, дарогі, вецце,
Якое шапоча на вуха, нібы напамін:
Усё, што было – не дарэмна. І кропка. Амін.

Слухай, забудзься на тое, што непакоіць.
Што табе трэба? Трэнінг? Забава? Споведзь?
Зрэшты, прачнуцца прасякнутым гэтакім болем
Непараўнальна круцей за гульню з алкаголем.

Гэта ўсяго і толькі павінна сведчыць,
Што ёсць яшчэ здольнае сэрца тваё камечыць,
Што ёсць яшчэ круглае неба і лісце травы,
Што ёсць у гэтым роспачным свеце
Хоць нехта
Жывы.

### ЭЛЕГІЯ ЗАЛЕССЯ

Лётайце, ластаўкі, лётайце,
Не ведаючы падзенняў.
Міф пра Ікара ўпотай ці
Яўна на вас падзеяў.

Нават не ведаю, птушкі вы
Ці толькі птушыны цень?
На рэчкі працяглы, стужкавы
Твар пазіраю ўвесь дзень.

Лётайце, духі крылатыя,
Лётайце, маеце час!
Імклівыя, мілыя, заўтра я
Буду далёка ад вас.

У ветраны час і ў вербавы
Ў роспачы памаўчы.
Маладзіковы серпавы
Твар назіраю ўначы.

У дзень, калі зломяцца стрэлы ўсе,
Цень, невыпадкова сустрэты,
Мы абавязкова сустрэнемся –
За лесам, за летам, за Летай.

* * *

Птушка ранішняга радку
Ператвараецца ў раку.

Куды прыводзіць тая рака,
Што пачынаецца з радка?

Кволы зялёны парастак
Доўга не думае, проста так

Радуецца жыццю,
Ціха расце адсюль.

Птушка, ці што,
Грукае ў шкло.

* * *

Усё жыццё нібы плыву ў рацэ,
У белым паўпразрыстым малацэ,
Ў адлегласці працягнутай рукі
Кісельныя праходзяць берагі.
Ці то наяве, ці у сне жыву:
З'ядаю хлеб свой і тапчу траву.
Хоць адрастае новая трава,
А на плячах ўсё тая ж галава.
А побач пралятаюць цягнікі,
Там дзверы ляпаюць
і ходзяць скразнякі,
Іх колы паваротамі рыпяць,
Як быццам нешта хочуць расказаць.
Але пачуе той скрыпучы крык
Не хлопчык, не падлетак, не стары –
Той, хто ніяк не можа пасталець,
Адзіны зможа гэта зразумець...
Няхай адкажа вечнае дзіцё
У рэшце рэшт за ўласнае жыццё!
Не хопіць часу выслухаць адказ...
Ніяк не скончыцца чарга ля кас,
Дзе кожны набывае свой квіток
На транспарт, што – далёка і здалёк.
Глядзі наперад і далей трывай,
Ужо ляціць паветраны трамвай.
...Усё жыццё жыву нібы у сне,
І ў гэтым сне амаль утульна мне.

## Ніна ЛІСТОТА

### *СЦЮЖА*

Я іду,
Але я баюся,
А што будзе, калі паслізнуся?
Калі месяц паб'ю крыштальны,
Як жыць будзем у цемры далей?

(...)

Хто мне дасць натхнення і волі?
Бо даволі сцюжы. Да болю –
Жыць у шэрым, пустым пастарунку.
А зіма малюе карункі...

Разламаліся крохкія краты,
Пад нагамі лёд – бы гарматы,

Быццам трэск фіялетавай белі,
Быццам новае сцюжа сцеле.
У ціхім ззянні, у цёплым прызнанні
Новы год сустракае ранне.

* * *

У мяне ёсць горад,
Які – сям'я,
Дзе самой сабою
Прачынаюся я.

Горад – кроў душы,
Месца, дзе ў цішы
Зноў магу лятаць,
Дзень і ноч не спаць,

Зоры прыручыць,
Каву змроку піць,
У ззянні ліхтароў
Засвяціцца зноў.

Ты казаў: "Ідзі –
Веру ў добры шлях.
А хочаш – прылятай
На любы мой дах,

Разам пасядзім,
У неба паглядзім.
Я навекі твой.
М. заўжды с табой".

* * *

Цёплая куртка на чорны шоўк, чаравікі і шалік,
зранку, бачыш, туман сышоў, знік з прагалін.
Восень вострыць свае нажы. Светла, доўга і тонка.
Дзе ты зараз, скажы, скажы, ці смех твой звонкі?
На скрыжаванні стаіць таксі, з вуліцы галасы.
Сонцам асветлены верасы, бэзавыя верасы.
Пахне сокам мясцовых дрэў, вадой, што з неба цячэ,
восень цягне за кожны нерв, выцягне кожны яшчэ.
Восень цягне сцябліны ажын, вецер цягне ў дым.
Памяць робіць цябе жывым, робіць цябе слабым.
Ўсе, хто прарос у сырых палях, ўсе, хто цяпер не тут,
ў гэтых светлых нясконченых днях знойдуць к табе маршрут.

Ўсё, што з табою колісь было, ўсе, што колісь былі,
будуць балець, як бітае шкло, як успышкі з імглы,
будуць стаяць з табой побач яны – ўсіх іх убач, прымі.
Восень выкочвае кавуны, выдыхае дымы,
адпускае з рукі ўсе грахі. І не вырываюцца,
як гузікі, толькі не расшпілі, нашы сэрцы зрастаюцца.

*(Пераклад з украінскай верша Кацярыны БАБКІНАЙ)*

* * *

Усё добра, усё ў парадку, паслухай сяброў.
Зімой гарады – бы бедныя вуліцы пільных гаспадароў,
дзе калені голыя і зеляніна; астатняе – усё не як след,
але груша цвіце, і сонца ёсць у абед,
і на тым трымаецца свет.
Усё ідзе – плывуць туманы, ліюць дажджы, стаяць дамы.
Ну хіба што тыя, хто не вытрымаў гэтай зімы,
зачапіўшыся пер'ем крылаў за слупы і драты,
у апошніх усмешках тужліва ім крывяць раты –
нібы кажуць, забудзься, пусці.
Усё ідзе – дрыжыць гарадское святло ўначы,
і людзі адно аднаму пакідаюць свае ключы,
і разам прыгадваюць гэта ці тое, і смяюцца праз нешта пустое.
І музыкі выходзяць на вуліцы з цёплых хацін.
І нават калі душа твая – найпусцейшая з усіх пустынь,
Ў ёй народзіцца нешта жывое.

*(Пераклад з украінскай верша Кацярыны БАБКІНАЙ)*

## ДУША

Душа, лятаць прывучаная,
У сутарэннях шматпавярховых
Пачынае гібець і нікнуць.
Баіцца прачнуцца аднойчы
Цвёрдай, як гукі цвёрдыя
Ў закрытым складзе.
Я кажу ёй: "Не бойся, душа,
Нашы дарогі чакаюць,
І хісткасці ветру ніхто не адніме,
У чыстых палях,
Пад бяскрайнімі небамі свету
Нас спаткаюць маланка і дождж,
І сонца цёплага светлыя крыгі.
Няма таго, хто б здолеў забраць
Месцы, дзе ты не бывала, душа.
Апрані крылы. І хадзем.

Разліемся расой на прасторных палях,
Зробімся хвалямі вадаспадаў
І зыбкімі дзюнамі самых
Гарачых адмецінаў мапы.
А хочаш, арлом паімчышся
І будзеш глядзець, як аблокі скараюцца.
Потым уніз кінешся,
Каб над самай зямлёю завіснуць...”
Душа, лятаць прывучаная,
У сутарэннях шматпавярховых
Пачынае гібець і нікнуць.
Я кажу ёй: “Не бойся, душа,
Нашы дарогі чакаюць,
І хісткасці ветру ніхто не адніме”.

* * *

У дзвярэй ёсць вушы, а ў вокан – шчыліны,
Праз якія залазіць вецер і крадзе твае сакрэты.
У паштовых скрынак – неахайныя паштальёны,
А ў адрасатаў – дзіравыя рукі і пустыя думкі.
У тваіх аповедаў ёсць складанасць пачатку,
У сімфоній ненапісаных – цяжкасці з гамай.
Адны птушкі, летучы на Поўдзень, замярзаюць,
А другім па вяртанні баляць крылы.
Тваё сёння баіцца будучыні,
А будучыні страшна за ўчорашняе.
Старых сяброў непакоіць,
Што сцежкі вашы разышліся,
А новых, што ты ім не свой.
Для кагосьці занадта легкадумны.
Для іншых – сур’ёзны празмерна.
Балансуючы на мяжы “можна” і “нельга”,
Пераймаючыся праз “сапраўднае” і “напускное”,
Выбіраеш у шафе масак
Сваё Я.

## Таццяна НЯДБАЙ

* * *

Вада помніць імя тваё,
Шэпча яго ўначы,
Хадзі да мяне са сваіх раёў,
Не знікай, не маўчы.

Вада насіла ў сабе рыб,
Ззяла срэбрам лускі.
Плынь цягнула “бяры, бяры”,
А хто ты цяпер такі?

Вада хавала нас ад прынад
Прамоўленых таямніц.
І ў глыбіню, як у дзіўны сад,
Ты ўваходзіў, бы падаў ніц.

На самым дне, як у вязкім сне,
Мяне твой водар насціг,
І тых, хто не даў веры блясне,
Схаваюць водарасці.

## Наста ШАКУНОВА

* * *

усё месцы мяняе
а я спыняюся
між пластамі
пароды
глыбока ўдыхаю
але на грудзях ляжыць
шматпавярховы дом
усе пра каго
я ўзгадаю
на каго я надзеі ўскладаю
лепш бы нікога з іх не было
а засталіся толькі танцы
хапіла б нават
удару кулаком па сцягну
мне не балюча
так я размаўляю з целам
нават у межах сутак
усё знікае 7 разоў – не менш
усё месцы мяняе
а я спыняюся
між акном і вадой
быццам шкло
ад мяне ніякага толку
толькі
пырскі
ўразаюцца мне ў твар
і калі вецер дзьме
робіцца
холадна

я абдымаю скуру далонямі
вочы пранізваюць паветра
ў пошуках дому
паласа ілба
робіцца глыбей і выразней
мы ператвараемся
ў вусці і дэльты
ўсё мяняецца
я ўжо не спрабую
нават смешна
што калісьці
мае лёгкія
былі такімі вялікімі
ўсё мяняецца
не змяняюцца толькі людзі

*(Пераклад з рускай Ніны Лістоты)*

## Аксана ЯРАШ-КАМІНСКАЯ

### *ЗАЛЕСКІЯ МРОІ*

Я між гасцей праціснуся ў палац
І затаюся ціхенька ў пакоі.
Але ці зможа Міхал даравац
З'яўленне нечаканае такое?
Ад жырандоляў цёплае святло
Люструецца ў каралях у шляхцянак,
У карагодзе музыкі і слоў
Народ у зале танчыць апантана.
А скрыпкі раптам грымнуць паланэз
Пакуль яшчэ не той, што ў "ля міноры",
Падхопіць гукі парк, а потым – лес,
І – зазвіняць залескія прасторы!
Я без убору, Міхал, выбачай.
Няёмка ўсё ж: у джынсах – ды на танцы...
А сэрца цісне, цісне мне адчай,
Я ж ведаю, што станецца з палацам,
Што не нашчадкам княжым тут гуляць,
Бо ўжо шчыруюць пёры пільных суддзяў...
Прабач мяне, знявечаны палац,
За думкі-мроі ў гэтым навабудзе.



## Сядзіба Тацяны Сапач запрашае маладых паэтаў

Другі паэтычны пленэр Тацяны Сапач пройдзе ў вёсцы Маркава Маладзечанскага раёна **22-26 жніўня** 2018 года.

Удзельнікі адкрыюць для сябе поўную паэтычных таямніцаў вёску Маркава і маляўнічыя ваколіцы на гістарычным шляху з Вільні ў Менск, павучацца аддзяляць і разумець усе слаі сапачаўскай паэзіі, даведаюцца, як з вершаў паўстаюць музычныя хіты, створаць уласныя творы ды пераклады і атрымаюць прафесійны аналіз ад нашых лектараў.

Сярод лектараў – **Ірына Дубянецкая, Кася Камоцкая, Сяргей Дубавец**.

Да ўдзелу запрашаюцца маладыя паэты, якія ўжо дэбютавалі ў друку. Наяўнасць надрукаваных зборнікаў не абавязковая. Мова пленэру беларуская.

Удзел у пленэры бясплатны, інфармацыю пра сябе і ўласныя вершы просім дасылаць на скрынку plenervyraj@gmail.com да **22 ліпеня**.



## Эліза Ажэшка



...буду апавядаць табе пра людзей,
якія мелі ў сабе Любоў...

# Афіцэр

***Навела***

***Сёлета спаўняецца 155 гадоў з часу паўстання 1863 года. І нам не шкодзіла б не толькі кваліфікавана і глыбока вывучыць усе абставіны паўстання, але і больш грунтоўна выдаць у скандэнсаваным выглядзе ўсё, што датычыць гэтай значнай для нашай гісторыі падзеі. Бо, як ні дзіўна, усё яшчэ часам чуюцца нараканні на занадта высокую ацэнку самога паўстання і дзейнасці паўстанцаў менавіта на нашых землях. Але ж калі мы павыкідаем усё тое, што некаму некалі не падабалася альбо не падабаецца ў нашай даўняй і не вельмі гісторыі, то ці будзем мець права казаць пра дакладнае і адэкватнае тагачасным падзеям вывучэнне і асвятленне падзей? Ці не будзе выглядаць наша гісторыя абскубанай і падладжанай пад нейкі і нечы погляд, які вельмі часта не адпавядае сапраўднасці?***

***У гэтым ключы варта разглядаць, як на маё меркаванне, адносіны да паўстання 1863 года і да ягоных удзельнікаў нашай слыннай зямлячкі Элізы Ажэшкі – непасрэднай сведкі таго, што адбывалася на нашых землях. У пэўным сэнсе***

*Пераклад з польскай Анатоля БУТЭВІЧА.*

***яна і сама была далучана да тых падзей. Аднак пад уплывам тагачасных абставін не магла адкрыта пра гэта напісаць. Ды жаданне не замоўчваць гэты гістарычны факт змушала яе хоць і закамфулявана, ды ўсё ж пазначыць у сваіх творах тое, што бачыла і ведала сама. Я маю на ўвазе найперш самы буйны раман Элізы Ажэшкі “Над Нёманам”. Але ж не меншую, калі ў дачыненні да паўстання не большую, каштоўнасць мае цыкл яе навел “Gloria victis” – “Слава пераможаным”.***

***Часопіс “Дзеяслоў” ужо друкаваў на сваіх старонках дзве з гэтых навел у маім перакладзе – “Gloria victis” і “Яны” (№№35, 90). Сёння прапаную чарговы твор з гэтай серыі, навелу “Афіцэр” – пра паўстанцкія падзеі на Палессі. Тут мо найбольш адкрыта Ажэшка звяртаецца да ўзаемаадносін паміж мясцовымі жыхарамі Палескага краю і расійскімі жаўнерамі. І стасункі гэтыя падае даволі своеасаблівa, маючы на іх свой погляд. Можа, нават часам занадта сентыментальна выглядаюць некаторыя эпізоды. Але гэта сведчыць толькі аб адным: тагачаснае жыццё было больш разнастайным і багатым на розныя адценні, чым уяўляецца нам сённяшнім. І яшчэ адзін доказ таго, што вывучаць і ведаць варта і трэба як мага больш, каб зрабіць адпаведныя аб’ектыўныя ацэнкі паўстанцкіх падзей.***

**Анатоль БУТЭВІЧ**

Адным зімовым вечарам, доўгім і самотным, мая даўняя і блізкая знаёмая прамовіла:

– Добра, я выканаю тваё жаданне. Буду распавядаць табе аб тых даўніх падзеях, убачаных, пачутых, адчутых, перажытых, якія нязводна пульсуюць на дне маёй памяці і ў сэрцы. Час няспынна струменіць над імі, і пад ягонымі нястомнымі хвалямі, здаралася, туманіліся іхнія вобразы, але не знікалі ніколі. І сёння яны паўстаюць у вірлівым пульсе хвілі, якая іх спарадзіла, агучваюцца крыкамі трагедыі, афарбаваны барвамі эмоцый такіх глыбокіх, якой глыбокай была бездань ахвяр і пакут...

Добра, я ў цішыні, абмежаванай самотнымі сценамі, буду распавядаць табе пра той час і расказваць пра тых людзей, а ты шырока рассунь сцены і ўсяму свету пакажы і тыя падзеі, і тых асобаў, якія іх тварылі.

Бо надышла прыдатная хвіля. Наступіў патрэбны час. Няхай сэрцы, што астываюць для Айчыны, наблізяцца да таго прысаку, які некалі насыпаўся на яе дарогу, няхай удыхнуць ягоны пах, пякучы і горкі.

Гэта пах самой сутнасці спаленага на ахвярным вогнішчы дрэва. Хто прыме яго ў свае лёгкія, вочы таго напоўняцца слязьмі і сэрца заб’ецца мацней, а ў гэтых слязах і ў гэтым сэрцабіцці ўваскрэсне Любоў.

Не да магутнасці жалеза і золата Любоў, не для раскашавання пыхі, не для трыўмфальнага крыку на ўвесь свет: “Я! Я! Я!”, калі іншыя тонуць у пагардзе і няшчасці.

Іншая Любоў.

Тая, закаханыя вочы якой успрымаюць зямлю айчыны як самы блізкі і самы родны на свеце воблік матулі;

тая, чые пільныя вочы ўзіраюцца ў родны народ як у найбольш блізкую і мілую грамадку родных братоў;

тая, чые верныя вочы таварышуюць братам на дарогах дабрадзейства, над якімі запальваюцца паходні радасці;

тая, чые спагадлівыя вочы ўзносяцца да дзвюх вялікіх зорак, назвы якіх Справядлівасць і Вольнасць;

тая, чые мудрыя вочы заўважаюць, што без святла гэтых дзвюх зорак цёмнай стане зямля і нешчаслівымі будуць яе народы.

Буду апавядаць табе пра людзей, якія мелі ў сабе Любоў з такімі вачыма, і таму былі сутнасцю свайго спрадвечнага дрэва.

Акурат таму яны і згарэлі на ахвярным вогнішчы.

Буду апавядаць табе пра гэта ў цішыні, абмежаванай самотнымі сценамі, а ты рассунь шырока сцены і тым, хто адмаўляе існаванне ў сваім народзе любові да вялікіх зорак, крыкні, што яны падманваюць!

І пакажы ім тых, хто з любові да вялікіх зорак гінуў тады, калі на вялізным і разлеглым прасторы вымаўляць з любоўю іхнія імёны яшчэ ніхто не ўмеў альбо не хацеў.

Гэтую любоў яны разам з крывёю перанялі ў сваіх папярэднікаў і разам са сваёй крывёю пералілі ў сваіх наступнікаў. Бо былі і ёсць у народзе нашым шанавальнікі зорак.

У той час наш край быў багатым на іх, я ж сярод іх ведала толькі адну жменьку. Яе буду табе паказваць і пра яе апавядаць.

Але не па парадку, не па чарзе, не паводле вартасцяў, не паводле дат.

А пра тое, што прыйдзе на памяць у гэтую хвіліну, што найбольш выразна ўсплыве ва ўяўленні, што нашэпча ў маё вуха той таямнічы голас, які аднекуль з невядомых вышыняў альбо глыбіняў дыктуе нам думкі і словы...

## I

Двор гэты быў стары, са старым і вялікім белым домам, са старым і вялікім цяністым садам, з прасторным дзядзінцам, засаджаным дрэвамі, кустамі, кветкамі. Гэта быў палескі двор, таму здаля і зблізку яго атачаў стары, густы і высокі лес.

Непадалёк ад гэтага двара блакітам свяцілася на зялёнай лугавіне палоска вады, канал быў выкапаны некалі для гандлёвых патрэбаў. Мінула няшмат дзён, як атрад паўстанцаў пад кіраўніцтвам Рамуальда Траўгута перапраўіўся праз гэты Каралеўскі канал і рушыў у стары, густы і высокі лес. У сваім паходзе для адпачынку і падсілкавання ён затрымаўся ў гэтым двары. А неўзабаве блакітным досвіткам аднаго з першых чэрвеньскіх дзён насельнікі двара былі пабуджаны шумам блізкіх людскіх галасоў, тупатам конскіх капытоў, туркатаннем падводаў. Падыходзіла войска. Відаць, мела намер услед за атрадам заглыбіцца ў цёмны лес, але перад гэтым вырашыла затрымацца ў тым месцы, якое дало атраду адпачынак і падсілкаванне.

Не ўсе аднак у двары спалі, бо, калі чорны ў ранніm світанку шнурок людзей і коней наблізіўся да дзядзінца, два маладыя мужчыны выбеглі з дома і вельмі хутка пакіравалі да месца, дзе каля плота, які акружаў дзядзінец, стаяў асядланы конь. На бягу абменьваліся кароткімі словамі:

– Ці шмат іх?

– Няшмат! Рота пяхоты, сотня ці дзве казакоў.

– Добра бачыў?

– Ого! З гэтага даху ды праз падзорную трубу іх можна нават пералічыць...

Гэта быў дазор, які з даху дома вёў назіранне. Рабіў гэта маладзён дваццаці з лішнім гадоў, невысокі, але дужы, ладна скроены, у рухах і гаворцы незвычайна жвавы. Другі, таксама малады, але слабейшы і больш марудлівы, быў гаспадаром гэтага дома. Абодва яны не былі там, у нетрах лесу, таму што іхняя прысутнасць тут была проста неабходнай.

Каля самага каня, ужо асядланага, іх дагнала маладая дзяўчына, у ранішнім убранні, з распушчанымі па плячах доўгімі густымі валасамі.

– Алесю! – выгукнула яна. – Толькі будзь асцярожным! Прашу цябе... не пападзіся ў іхнія рукі!

Хлопец, нага якога ўжо была ў стрэмені, засмяяўся весела, молада.

– Ха, ха, ха! Хіба ты думаеш, што я, як той заяц, буду на кані адным вокам спаць?

Дзяўчына засмяялася таксама.

– Глядзі ж, не заплюшчвай вачэй і не закрывай вушэй!

У яе голасе і смеху чуліся слёзы. Ён падаў ёй руку ўжо з каня.

– Бывай здарова! Не палохайся! Мой Пярун пранясе мяне нават праз пякельныя дарогі.

Гаспадар дома прамаўляў паспешна:

– Найгорай тое, што лесу добра не ведаеш. Калі выедзеш з лагера, праз паўвярсты будуць дзве дарогі...

– Ведаю, ведаю! Ты казаў ужо... адна направа, другая налева...

– Памятай, трэба прыняць улева... адразу там будзе гушчар, а за ім балацявіна, якую трэба аб’ехаць... памятай, што дарога налева... Па той, што направа...

– Будуць ісці яны...

– Так!..

– Адно каб не спазніцца мне...

– Ого! Забавіўся я тут... А там жа вобыск...

– Ага, праўда!

– Гэта доўга будзе!

Ён выпусціў каня праз бакавыя вароты на захінутую дрэвамі дарогу, якая сваім блізкім паваротам датыкалася да лесу. Брат і сястра паспешна вярнуліся ў дом, дзверы якога, што выходзілі на вялікі ганак, ціха і шчыльна зачыніліся за імі.

У гэты самы момант галава вайсковай калоны, якая набліжалася, была ўжо каля шырокай брамы дзядзінца, над плотам, што атачаў яго, у світальным блакіце чарнела вастрыё казацкіх пікаў.

Праз некалькі хвілін дзядзінец напоўніўся тлумам людзей, коней і падводаў. Жаўнеры з карабінамі на плячах злазілі з падводаў, калі з людскога шуму, крыкаў і мітусні пачуліся загады камандзіраў і каля кожнага акна і кожных дзвярэй дома спыніўся ўзброены высокай пікай казак на кані.

Адчынілася адно акно дома, другое, трэцяе, з іх высунуліся і адразу ж схаваліся мужчынскія і жаночыя галовы. Адчыніліся цяжкія старасвецкія дзверы на ганак з чатырма тоўстымі слупамі-падпоркамі і на чале звыш дзесяці ўзброеных жаўнераў у вялікія сені ўвайшлі два афіцэры, якіх сустрэў малады гаспадар дома.

Вобыск.

Шукалі зброю, кулі, порах, схаваных людзей, забароненыя паперы, падазроную вопратку, усялякія сляды і доказы супрацоўніцтва і сувязі з тымі, за кім неўзабаве мелі самі ісці ў таямнічыя і ненавісныя ім лясныя нетры. Не могучы вінаваціць у супрацоўніцтве і спачуванні, шукалі сляды і доказы гэтага, а таксама для сябе саміх шукалі нейкія высновы і пэўнасць, не знаходзячы ж, усё больш рашуча і грунтоўна пераварочвалі, раскідвалі, разбуралі, патрашылі дом. З вуснаў афіцэраў чуліся загады жаўнерам:

– Адарваць падлогу! Разбіць замок! Параспорваць аббіўку! Высыпаць зямлю з вазонаў! Прабіць сцяну, якая пры стуку па ёй выдае глухі гук! Высадзіць дзверы, ад якіх некуды прапаў ключ!

Грукалі молаты, у нарастаючай мітусні чуліся ўсё больш гучныя галасы, з-пад цяжкіх ботаў, з-пад паадрыванага паркету, з паразразанай вострымі палашамі матэрыі выбіваўся пад нізкія столі пакояў удушлівы жоўты пыл, рамкі са сцен падалі на рэшткі мэблі, хтосьці прыкладам вінтоўкі стукнуў па люстэрку, якое бліскучымі аскепкамі са звонам рассыпалася па смецці, нехта іншы з гучным рогатам малаціў па фартэпіяна, якое ажно разляталася на трэскі, а клавіятура выдавала пад ударамі страшныя крыкі і скаргі, ля вокнаў падалі на ўзарваны

паркет высокія алеандры, бягоніі, калы, пазбаўленыя зямлі, у якой раслі. Усё гэта жаўнеры рабілі спачатку моўчкі, паслухмяныя толькі загадам двух афіцэраў, але штохвілінна галасы іхнія мацнелі, набухалі раз’ятранасцю і насмешкамі, станавіліся ўсё больш рэзкімі размахі рук, убраных у шырокія, вялікімі бліскоткамі пазначаныя рукавы мундзіраў. Апрача тых, якія ўвайшлі за сваімі начальнікамі, неўзабаве сюды пачалі падыходзіць іншыя, напачатку нясмелыя і ціхія, пасля ўсё больш крыклівыя і асмялелыя. Там і тут на пэўным аддаленні ад афіцэраў выбухаў моцны рогат; сям-там нецярплівыя вусны перажоўвалі прысмакі, знойдзеныя ў сховах, а галодныя вочы з бляскам хцівасці бегалі па кутках і сховах пакояў, пажадна шукаючы здабычы. У паветры адчувалася нарастанне жаўнерскага свавольства. Не міналі яму, не імкнуліся папярэдзіць яго абодва афіцэры.

Былі гэта людзі, зусім адзін да аднаго непадобныя. Казацкі сотнік з высмуклай постаццю статнага маладзёна, са смуглай скурай і кучаравымі валасамі паўднёвага чалавека рухі меў спакойныя. Ягоныя вусны часцей за ўсё былі маўклівыя, толькі часам кранала іх іранічная ўсмешка альбо крывіліся яны ад пагарды. Ягоны агністы позірк часта пераносіўся з прадметаў, якія абшуквалі, туды, дзе збоку ад сівой кабеты ў чорнай сукні аказвалася пекная белатварая дзяўчына, у блакітных вачах якой нерухома стаялі слёзы.

Старэйшы рангам і векам кіраўнік пешай роты, ужо мо саракагадовы, даволі высокі, але плячысты і няўклюдны, з буйнымі часткамі цела і вялікім, хоць і зграбным тварам, бландзін, з ілбом, бялейшым за загарэлыя і румяныя шчокі, выяўляў у рухах, мове, у аддаваных загадах такую грозную рашучасць і такую заўзятую прылежнасць, што здавалася: гэта давядзе яго да імгненнага вар’яцтва. Былі моманты, калі ён уласнымі рукамі вырываў з абсталявання замкі, рукаяткай шаблі абстукваў падлогу і сцены, бегаў, мітусіўся, крычаў, выдаючы ўсё новыя і ўсё больш суровыя загады, а сівыя зрэнкі яго пад рудаватымі брывамі набіраліся беспадстаўнага неспакою і бляску. Часта гэтыя трывожныя позіркі з выразам нямых запытанняў скіроўваліся ў абыякавы і толькі часам іранічны альбо самотны твар маладзейшага таварыша. Тады здавалася, што вочы ягоныя крычаць да гэтага твару: “Ты бачыш? Ты заўважаеш? Зірні! Раблю ўсё, што патрэбна, больш, чым патрэбна, больш, чым робіш ты... Я адданы службе, прылежны!”

На дзядзінцы пачуўся, а хутчэй у тлуме лагернага войска громам прагучаў моцны выбух крыкаў і рогату. Малады гаспадар дома зірнуў у акно і звярнуўся да афіцэраў:

– Панове, – прамовіў, – салдаты выкочваюць з бровара бочкі з гарэлкай...

– *Так что же?* – з пагардлівым позіркам на гаваруна востра запытаў казацкі сотнік.

Маладзён адказаў:

– Нап’юцца, а п’яныя людзі і паляць, і забіваюць...

На імгненне змоўклі, пасля чаго з вуснаў казака з працяглым шыпеннем прагучала слова:

– *Пусть!*

Але на гэты раз на твары гарачлівага і крыклівага капітана з’явіўся выраз развагі і няпэўнасці. Ён амаль што ў самае вуха таварышу кінуў пытанне:

– Як лічыце?... Забараніць? Можа быць *плохо*... там...

Ён пальцам паказаў у той бок, дзе за вокнамі бачыўся лес.

Казак з усмешкай на чырвоных вуснах адказаў:

– *Пусть пиют! Молодцами станут!*

За лесам ужо павінна ўзыходзіць сонца, бо над ружовай стужкай ранішняга світанку на пагодлівае неба выстраліла некалькі палос залатога святла. Вобыск у доме быў скончаны; заставаўся сад – разлеглы, цяністы, у якім яшчэ больш,

чым у сценах дома, маглі хавацца рэчы і людзі. Афіцэры з большасцю жаўнераў абодвух відаў зброі падаліся ў сад; у пакоях дома запанавала самачынства.

З крыкам і рогатам жаўнеры апаражнялі нутро сховаў і начыння, хаваючы знойдзенае ў сваёй вопратцы альбо выкідваючы праз вокны, якія адчынялі з грукатам, на траву і кветкі каля дома. Цяпер практычна ўсе гэтыя вусны нешта елі альбо пілі, усе рукі былі актыўныя, імі размахвалі, наўзаем між сабой мераючыся сілай, выпроствалі, напружвалі. Разам з тупатам цяжкіх ног чуўся трэск ламаных і разбіваных рэчаў, сярод рогату і свавольных выкрыкаў выбухалі нядобрыя словы грубых праклянццяў і лаянкі.

Трывала гэта даволі доўга, але неўзабаве дом унутры апусцеў. Затое на дзядзінцы набіраў моцы крыклівы і разняволены гармідар. Было чуваць, што ў нарастаючым там тлуме людзі службы, якія звычайна пазбягаюць галасу, асмялелі і разняволіліся, нейкая невядомая сіла безаглядна гасіла ў іх чалавечы пачатак, замяняючы яго жывёльным. Сіл гэтых было дзве: трунак у гарачых грудзях і выгляд блізкага лесу, які выклікаў раз'ятранасць. Калі б гэта было поле – адкрытае, чыстае, звычайнае, усім вядомае і бачнае! Але тая таямнічая сцяна, тая загадкавасць, тыя невядомыя дарогі ў атачэнні смерці, нябачна затоенай у змрочных ценях... у лясным гушчары, які непадатны зроку... Гэта грукала ў грудзі, распаляла мазгі, затуманеныя гарэлкай...

Сонца паказалася з-за лесу і спынілася над ім залатой прасветленай тарчай.

Частку дзядзінца займаў гурт асядланых і запрэжаных у падводы коней.

Дзе-нідзе састаўленая ў козлы зброя пад старымі ліпамі і таполямі нагадвала валы, якія тапырыліся жалезным вастрыём. Сонечныя праменні весела гулялі па штыках і хітравата падміргвалі вочкамі стрэльбавых руляў.

На траўніках і аздабляючых іх кветніках сонца да снежнай белізны высвечвала кашулі салдат, што пазбавіліся мундзіраў і большымі альбо меншымі купкамі ляжалі вакол катлоў, у якіх варылася ежа, а таксама вакол высокіх бочак, напоўненых гарэлкай. Катлы выбухалі густымі клубамі пары, а бочкі смуродам, які перабіваў у паветры пахі язміну і рэзеды.

Каля квітнеючых кустоў язміну і ружаў вясёлкавымі бліщчынкамі іскрыліся аскепкі паразбіванага шкла і крышталю. Мноства брудных рук падносіла да вуснаў поўны трунку посуд, каб пасля кідаць яго на стаптаную траву і кветкі, дзе ён, тонкі і ўзорчаты, рассыпаўся роем брыльянтавых іскраў.

Іскрыстым возерам, хвалістым і запоўненым грознымі раскатамі, над якімі пераважалі свавольныя выкрыкі і посвіст, мусіў здавацца гэты дзядзінец, шырока разлеглы перад нізкім домам, доўгім, белым, з усімі шырока паадчыненымі дзвярыма і вокнамі, праз якія бачылася ўсё нутро – разбуранае, поўнае жоўтага пылу і непазнавальнай формы рэчаў, зруйнаваных і паразбіваных.

А на ганку...

Прыхінуўшыся плячыма да аднаго са слупоў, стаяў малады гаспадар дома ў атачэнні жаўнераў, якія трымалі ў руках стрэльбы са штыкамі. Пастаўленыя тут на варту, яны акружылі гаспадара, да яго штурхалі іх цёмныя інстынкты, абуджаныя і ўзбуджаныя момантам небяспекі. Выпіты трунак чырвоніў іхнія шчокі і распальваў зрэнкі вачэй пад грозна насупленымі брывамі. З вуснаў сыпаліся словы пагрозы, праклянцця, запалохвання, лаянкі – усё больш гучныя і грозныя, рухі рук станавіліся ўсё больш размашыстымі, а разам з гэтым усё больш небяспечна хісталіся штыкі.

Высмуклы маладзён стаяў пасярод гэтай грознай аравы нерухома, з безабаронна скрыжаванымі на ўпалых грудзях рукамі, позірк ягоны быў скіраваны да зямлі. Пасма льняных валасоў упала на збялелы твар, кропля крыві выступіла на тонкай губе, прыкушанай ад пакут. Пакуты ж гэтыя былі выкліканы рознымі пачуццямі. Вочы з-пад апушчаных павекаў гарэлі грозным маўклівым гневам, бо да маўчання змушалі

яго ўласная бездапаможнасць і безабароннасць. Дзве кабеты настойліва прабіваліся да яго, але іх няспынна адпіхвалі жаўнеры. Жанчын пранізвала нязводная трывога, тая шалёная трывога, якая кідае ў сэрца ўсю кроў, а ногі даводзіць да трымцення.

Калі ўсё больш звужвалася і закрывала маладзёна кола жаўнераў і штыкоў вакол яго, сівая кабета ў чорнай сукні з неймавернымі высілкамі прарвалася да сына і, адпіхнутая, не здолеўшы абняць яго рукамі, распасцерла іх, быццам дрыготкія крылы, якія то ападалі, грубымі папіханнямі скіраваныя долу, то ўздымаліся зноў, калі дрыготкія ад канвульсіі страху вусны вышэптвалі толькі адно, пастаянна толькі адно слова: “Злітуйцеся! Злітуйцеся! Злітуйцеся!”

Нечакана яна прарэзлівым голасам выкрыкнула:

– Забіваюць!

Бо адразу некалькі штыкоў сваім вастрыём ужо дакрануліся да грудзей і скрыжаваных рук маладзёна.

І ў гэтую ж хвіліну пекная дзяўчына ў белым ранішнім ўбранні, высокая і дужая, прадзерлася праз лес узброеных цел і абедзвюма рукамі хапала мардэрцаў за зброю, намагалася адхіліць яе ад грудзей брата. Але не магла зрабіць гэтага. Яе залатыя валасы, нядбайна сабраныя, расспыпаліся і ўпалі з галавы да каленяў, а з шырокіх рукавоў паказаліся белыя, як алебастр, плечукі.

Некалькі гучных галасоў пачалі крычаць і смяяцца:

– *Эх, красотка! Беленькая! Прелесть какая! Погоди!* Будзе і табе! *Отступись, а то поцелую!*

І тады адбылося нешта незвычайнае. Сівая кабета ў чорнай сукні птушкай сарвалася з ганка і ляцела праз дзядзінец да сада, з распасцёртымі рукамі, з тварам, белым, як хустка, з аднастайным, нязмоўчным, усё больш гучным крыкам:

– Дзе капітан? Дзе капітан?

Перад гэтым крыклівым прывідам расступаліся альбо сыходзілі з дарогі купкі п’яных людзей, а ён, гэты прывід, спыніўся ля ўваходу ў сад перад двума афіцэрамі, што падыходзілі, і са скрыжаванымі на грудзях рукамі пачаў шматразова і бясконца паўтараць:

– Пане капітане! Мае дзеці! Мае дзеці!

Цяпер ужо і яны нават здаля заўважылі ўсё. Разгарачаныя трункам і ўзбуджаныя пажаднасцю твары жаўнераў, вастрыё штыкоў, з усіх бакоў скіраванае да абапёртага на слуп ганка маладзёна, пекная дзяўчына, уся ў распушчаных залатых валасах, якая прадзіралася праз рукі ў мундзірах...

Два розныя чалавекі, два розныя ўражанні.

Па смуглым твары казацкага сотніка прамільгнулі бліскавіцы свавольнай і хцівай усмешкі, чырвоныя вусны абыякава кінулі да таварыша:

– *Ничего себе барышня! Стоит русского солдата!*

Але кіраўнік пешай роты гэтых слоў не чуў.

Ягоныя шырокія плечы здрыгануліся і кроў раптоўнай хваляй кінулася да бялейшага за шчокі ілба.

– *Эх! Чёрт возьми! Напились! Несчастье будет!* – выгукнуў ён і з тварам, на якім гнеў змагаўся з перапалохам, прыбавіў кроку. Прыспешваў крок усё больш, ажно пачаў бегчы, а дабегшы, спыніўся на сходах ганка і зарыкаў. Гэта сапраўды было рыканне, а не крык, чуліся працяжныя грымоты голасу, якія выкідвалі з грудзей град зняважальных і пагрозлівых выказванняў. Адной рукой ён да паловы выцягнуў з похваў палаш, другой паказваў у бок дзядзінца.

– Прэч! Прэч! Прэч! Да падводаў і коней! Рыхтавацца да ад’езду!

Хвіліна, дзве хвіліны, і ганак апусцеў. Па твары капітана струменіў пот, ён выціраў яго хусцінкай, усё яшчэ мармычучы незразумелую лаянку і пракляцці. Узрушэнне, якое адчуваў, і намаганні, якія прыкладаў, мусілі быць значнымі.

Сівая кабета, якая дагэтуль туліла каля сваёй чорнай сукні ўзбуджаны і

заплаканы твар дачкі, наблізілася зараз да чалавека, які ўратаваў жыццё і гонар яе дзяцей. Уся яшчэ дрыготкая і белая, як папера, яна прашаптала:

– Дзякуй!

Ён буркатліва прамармытаў:

– *Не за что! Не за что!* Гэта мой абавязак!

Пасля парывістым рухам павярнуўся да маладога гаспадара дома і цвёрдым, але не крыклівым, не гнеўным голасам пачаў казаць:

– *Ой, вы, безумцы!* Што вы нарабілі! От няшчасце! Але самі... самі... самі вы вінаватыя... *Безумцы* вы*!* Сляпцы! Вар'яты!

Ён стрымаўся, азірнуўся і, убачыўшы паблізу казацкага сотніка, закрычаў да яго і да іншых, каб жаўнеры рыхтаваліся да ад'езду, каб праз дзесяць хвілін былі на падводах і на конях.

Сотнік, ніжэйшы рангам, паднёс руку да ілба, адсалютаваў, але для выканання загаду не адышоўся, кабета ж у чорнай сукні, крыху ўжо супакоеная, зноў прамовіла да капітана:

– Пане! Уратаваў пан маіх дзяцей... ад страшнай бяды. Прагну ведаць, каму ўдзячнасць павінна складаць... як прозвішча пана?

Дзіўная рэч! Гэтыя словы, прамоўленыя лагодным і дрыготкім ад перажыванняў голасам, як бы нечым цвёрдым альбо вострым зачапілі капітана.

Зноў пад сукном мундзіра закалаціліся ягоныя шырокія плечы і зноў хваля крыві ажно да самых льняных валасоў заліла ягоны твар. З панурым бляскам вачэй, шорстка і хутка ён адпрэчыў:

– *На что вам моя фамилия?* Што вам да таго?

Казацкі сотнік слухаў гэты абмен словамі з загадкавай усмешкай на смуглым твары, а ў ягоных агністых вачах, засяроджаных на твары капітана, прамільгнуў бляск з'едлівай насмешкі. Затым ён зноў стаў перад старшым па рангу таварышам навыцяжку, з рукой, паднесенай да галавы.

– Маю гонар далажыць, што жаўнеры яшчэ не з'елі стравы і што ім належыць...

– Сядаць на коней! Быць гатовымі да маршу! *Слушать!* – крыкнуў капітан, і сотнік з ганка закрычаў:

– На коней! Марш!

Капітан не зірнуў ні на гаспадара дома, ні на дзвюх кабет, што стаялі каля яго, адно схіліў галаву, панура пазіраючы ў зямлю, цяжкім крокам сышоў з ганка, сеў на падрыхтаванага для яго каня і няспешна рушыў пасярод жаўнерскага тлуму.

Праз некалькі хвілін дзядзінец быў пусты. Яшчэ нейкая запозненая падвода імкліва праімчала каля стайняў, яшчэ за штыкетнікам, за будынкамі прабегла адна, другая казацкая стража, што з'язджала з паста, яшчэ ад войска, якое аддалялася і расцягвалася на дарозе, далятаў шум людскіх галасоў, змяшаны з туркатаннем колаў і конскім тупатам, а дзядзінец ужо быў пусты. І не засталося на ім нічога, апрача стаптанай муравы, паламаных кустоў і кветак, бліскучых аскепкаў, паразбіванага начыння, лужын разлітага трунку і агідных, смуродлівых выпарэнняў, што падымаліся над усім гэтым.

Пекная дзяўчына з растрапанымі валасамі і набрынялым ад слёз тварам кінулася да маткі, паказваючы рукой на лес:

– Мамця! Там жа Алесь! І яны пайшлі туды! Пападзецца ў іхнія рукі! Забяруць... а мо і заб'юць!..

## II

Аляксандру Авічу было дваццаць пяць гадоў, дужы, выразныя рысы твару, пекныя блакітныя вочы пасярод смуглай скуры твару цёмнага бландына.

Год таму ён вярнуўся са сталіцы краіны, дзе скончыў нейкія вышэйшыя навукі, у сваю невялікую, але ўдала паміж лесу і каля возера раскінутую радзінную вёску, у якой і жыў.

У сям'і і ў суседскім асяроддзі яго называлі вясёлым Алесем.

Слушна называлі менавіта так, бо нават цяпер, калі пакінуў лагер паўстанцаў і ў дарозе, якую меў перад сабой, магла напаткаць яго вялікая небяспека, на твары, зацененым казырком невялікай шапкі, свяцілася гарачае, выкліканае размовай і гатовае выбухнуць вясёлым смехам жыццё.

Быў рады, што годна і своечасова выканаў ускладзенае на яго заданне, быў рады з таго, што бачыў і чуў у лагеры, быў рады ад гарачыні пачуццяў, якія разліваліся па свеце і гарачым струменем уліваліся ў ягоныя грудзі, быў рады ад размаітых надзей, якія нараджалі ў гэтых грудзях радасныя гімны, радаваўся пекнаце дзяўчыны, якая сёння на світанні развіталася з ім з трывогай у сэрцы, быў рады ад сваіх дваццаці пяці гадоў, ад сузірання вялікай колькасці свежых, пахкіх, ціхіх дрэў і раслін, што атачалі яго, калі на сваім любімым кані ехаў па вузкай лясной сцежцы.

Ёсць людскія натуры, падобныя да стаячай вады, якія ўсё, што іх атачае, адлюстроўваюць у сонных, каламутных, панурых, мёртвых адбітках, але ёсць і такія, у якіх, як у вірлівай плыні, свет рассыпаецца на тысячы светлых, каляровых малюнкаў, на тысячы іскраў, што праменяцца ўсімі колерамі вясёлкі.

Ён меў натуру вірлівай плыні, свет тысячамі чарадзейных вобразаў адбіваўся ў ягонай дужай маладосці і ўражлівым сэрцы, выкрасаючы ў іх вясёласць. Прыцьміць вобразы і адабраць вясёласць жыццё яшчэ не паспела.

Лес тым летнім перадпоўднем быў ціхі, па ім гулялі толькі павевы лёгкага ветрыку. Звілістая дарожка бегла між арэшніку, з-пад якога цікаўна вызіралі белыя і жоўтыя вочкі кветак. Аб гнуткія дубцы арэшніку і яго халоднае лісце церліся бакі каня, які часам весела пырхаў. Над арэшнікам узвышаліся і сягалі далёка ўглыб іглістыя і лісцястыя дрэвы. Пахла жывіцай, у дрэвах шчабяталі птушкі.

У галаве ездака віўся ружанец думак, кожная пацерка якога мела свае барвы і па-іншаму ўлівалася ў сэрца.

Добра робіцца там, у лагеры. Хлопцы – зухі! Як годна пераносяць яны ўсе нягоды, як не шкадуюць нічога, што пакінулі дома, не губляюць запалу і адвагі! На гэта скіроўвае іх і іхні начальнік! Заўсёдныя вучэнні, муштра. І – дысцыпліна! Бо там было ўжо – для некага непаслухмянага і магілу выкапалі, і расстраляным меў быць... толькі іншыя выпрасілі яму жыццё. Што за чалавек! Загартаваны як сталь, хоць часам чуллівы, як кабета. За праўна прывезеныя звесткі дзякаваў яму сёння вачыма болей, чым вуснамі, і тады праз гэтыя вочы можна было ўбачыць, што душа ягоная знаходзіцца ў агні пакут...

І што? Не дзіва! Палкоўнік рэгулярнага войска, абазнаны ў вайсковай справе, ведае, напэўна, як будзе цяжка. Партызанка... Але што зробіш! Так кравец кроіць, як матэрыял дазволіць...

А тут дарожка, па якой ехаў, скіравала ў густы зараснік і прапала. Ён прыпыніў каня, пачаў азірацца. Навокал быў лес, лес і толькі лес. А дзе ж тая балацявіна, міма якой мусіў праехаць, каб, абмінуўшы, патрапіць на дарогу, што шырокім і цяжкім аб'ездам прывядзе да двара? Няўжо пасля выезду з лагера павярнуў направа замест таго, каб скіраваць улева? Галава была так забіта ўсім тым, што бачыў і чуў, што, хто ведае, ці не зрабіў капітальнай памылкі? Трэба з'арыетавацца, падумаць...

Прыпадняўся ў страмёнах, каб як мага далей бачыла вока. Заўважыў недалёкі прасвет паміж дрэвамі, якія расступаліся перад нейкай жоўта-зялёнай паласой. Мо гэта менавіта тая балоцістая лугавіна... тое багнішча?

Няспешна ехаў па пружыністым моху сярод высокіх соснаў да прасветленага блакітам неба лапіка лесу, а ў галаве зноў разгортваўся ружанец думак.

Горка і шкада, а часам нават сорамна, што ён не з імі, не там, у лагеры. Але не яго тут воля. Такі быў загад. Крышку маладых і адданых справе людзей мусіла застацца на волі, каб служыць лагеру іншым чынам. Але і для яго наступіць пара... Калі атрад будзе пераходзіць у іншыя мясціны, тады... А ці будзе пераходзіць? Ці датрывае? Ці не рассыплецца? Вядомая рэч, што раней альбо пазней мусіць рассыпацца, але збярэцца зноў дзе-небудзь у іншым месцы, і тады... Але што будзе сёння? Што станецца сёння? Сёння... праз гадзіну... праз дзве... Калі ад'язджаў з лагера, там усе рыхтаваліся. Пальецца кроў... упадуць людзі... чые? Хто з прыяцеляў, крэўных, ягоных таварышаў дажыве да раніцы? Які будзе вечар дня сённяшняга, гэтага цудоўнага дня? О, Божа! Ты ствараеш такія цудоўныя дні, як сённяшні, цалкам блакітныя і залатыя, а людзі кідаюць на іх чырвоныя плямы!

Смутак цяжкім каменем падаў яму на сэрца, у якім закіпаў неспакой спачатку за вынікі блізкай бітвы, а потым за далёкі канец усяго гэтага... Маладая вера ў канчатковую перамогу справы, моцная вера ў абавязак, які, будзь што будзе, мусіць быць выкананым, быццам калоны залатых дымоў, якія тарганулiся пад парывам ветру, захісталася пад подыхам сумневу, які страшна балючым вастрыём пранізаў сэрца.

Жыццё пачынала адбіраць маладую весялосць...

Але ён прыехаў ужо туды, куды міма волі кіраваў каня, спыніўся на ўскрайку невялікай лясной паляны. Не была яна той макрэчай, якую спадзяваўся знайсці тут. Дзе там! Сухая і квяцістая, ажно іскрыцца ад тысяч жоўтых люцікаў, а на яе ўскрайку бялеюць плямкі кветак суніц. З паляны бягуць у глыбіню лесу некалькі вузкіх і цяністых дарожак.

Са злосцю ўдарыў сябе па ілбе. Глупства здарылася капітальнае! Няправільна паехаў! Відаць, адразу пасля лагера памыліўся дарогай.

Разгневаны на самога сябе, спыніўся, узіраўся ў гарызонт. Адна з дзвюх дарог, што збягала з палянкі ў лес, найбольш верагодна ішла ў напрамку двара. Выбраў яе і зноў паехаў па вузкай зялёнай паласе, сярод дрэў, якія сваімі галінамі штохвілінна стукалі яму па грудзях і галаве, сцёбалі па баках ягонага каня. Разложыстыя, поўныя вялікага лісця плечы грабаў, клёнаў, дубоў стваралі перад ягоным зрокам суцэльную заслону, такую, што за некалькі крокаў перад сабой нічога не мог бачыць. Затое ўнізе, у траве, якая ўкрывала дарогу, паміж сонечных палос, што прадзіраліся праз галіны, яму ўсміхаліся даспелыя ўжо суніцы, буйныя, бліскучыя, з вільготным бляскам – як кроплі чырвонай расы. Пах іхні быў свежы, як ранак, і дзікі, як гэты лес.

Вось каб зараз была тут ягоная Тося, яна збірала б гэтыя суніцы, вось гэта была б радасць! Як жывая, паўстала перад вачыма каханая дзяўчына, уся ахінутая сонцам, усмешлівая, схіленая над суніцамі, і зноў прамяністая ўсмешка расплылася па ягоным твары.

Вось каб апынуцца зараз ў моры зелені, у гэтай цішыні і ў гэтай самотнай глушы разам з ёй, удваіх... Без таго неспакою, які свярдзёлкам укручваецца ў сэрца, бо...

Што там робіцца з ёй зараз, з імі ўсімі, з тым дваром, у якім ён перажыў гэтулькі шчаслівых гадзін – як дзіця, як падлетак, як маладзён? Калі ён ад'язджаў, пад'язджалі тыя. Што натварылі яны там? Чаго не змаглі нарабіць? У такія моманты, як гэты, нядобрыя сны становяцца явай, казкі – праўдай, немагчымасці – рэальнасцю. Што ж робіцца там зараз? Мо агонь... мо кайданы... мо трупы... Ці не здаралася тое дзе-небудзь у іншым месцы... недалёка, нядаўна?

Ён нізка схіліў твар і ўпаў у бездань перажыванняў, пакутлівых, як нядобры сон... Ладны гняды конь ступаў па мяккай траве няспешна, роўна, ціха. Далонь ездака час ад часу гладзіла яго па бліскучым акруглым хрыбце, тады ён весела пырхаў, то падымаючы, то апускаючы зграбную галаву, нібыта ў знак прыяцель-

скага паразумення, і было бачна, што паміж гэтым чалавекам і жывёлінай панавала даўняя прыязнасць...

Нечакана да слыху ездака данеслася нешта невыразнае, але бясспрэчна чужое лясным гукам і павевам. Як бы слабое туркатанне, быццам глухі на аддаленні цокат. Ні вецер, ні дрэвы так не шумяць. Не быў гэта ніводны з галасоў лесу... Хвіліна, другая, і ўсё сціхла, спынілася. Затое птушкі, невядома чаму, зашчабяталі над вузкай дарогай амаль што аглушальным хорам, але нельга было зразумець ці вясёлым, ці трывожным.

Ён спыніў каня і пачаў услухоўвацца ў цішыню. Нічога ўжо ў паветры не было, апрача лёгкага пошуму ветру ў галінах дрэў і гэтага шчабятання птушак, якое пачало аціхаць.

Мо гэта яны недзе недалёка адгэтуль праходзяць, праязджаюць?

Упершыню ў ягоную галаву стукнула думка, што можа сутыкнуцца з імі. Гэты ўдар адразу быў падобны на кіпень, які абліў чалавека ад галавы да пят. Але хутка ён пачаў астываць. Дапушчэнне не здавалася надта верагодным, бо лес быў вялікі і тая дарога павінна знаходзіцца далёка адгэтуль. А калі... Ну, што ж? Дзе дрэвы сякуць, там трэскі ляцяць! На вайне як на вайне! Зрабіў тое, што яму належала, і толькі адно глупства дапусціў – памыліўся ў лесе дарогай... Але ж і конь, які мае чатыры нагі, часам спатыкаецца, а што казаць пра яго, які мае толькі адну галаву, і ў дадатак такую, што ажно кіпіць ад розных думак і перажыванняў!

Ехаў далей і разважаў, што зробіць у выпадку сустрэчы. Найперш шчыра папросіць Перуна, каб яго, быццам на крыллях ветру, аднёс як мага далей... калі будзе можна, а калі не будзе можна, то... то скажа... а што ж ён скажа? Выехаў на паляванне... Як гэта? Без стрэльбы і без аніякай зброі? Тады на прагулку... нібыта так сабе... конна шпацыруе па лесе, дзеля прыемнасці, альбо, як кажа стары дзядзька Клеменс, для “мацыёну”...

Усміхнуўся ад згадкі пра пачцівага дзядзьку, а таксама ад прыемнасці коннага шпацыру па лесе ў гэтую пару лясных падзей, але адразу ж агарнула яго прыкрае адчуванне непрыемнага асадку. Ілгаць, адмоўчвацца, выкручвацца! Агідна! І лепей не думаць пра тое, што, верагодна, не станецца.

Канец дарогі, па якой едзе, ужо бачны. Як падаецца, яна ўпіраецца там у іншую, шырокую дарогу, якой, аднак, немагчыма разгледзець. І наогул, нічога наперадзе за некалькі крокаў нельга ўбачыць выразна праз гэтыя галіністыя заслоны, якія штохвілінна схіляюцца над дарогай.

Зноў нейкі розгалас, чужы для лясных шумаў. Быццам паблізу павольна топчацца конь, а далей, далей нібыта прыцішаны пошум, але не дрэў і не ветру...

Гэй! Ану з намі! Там людзі! Але якія? Хто? Ды што рабіць, калі казе смерць!

Ладны гняды шырока распраставаў грудзі, разарваў густы сплёт гнуткіх грабавых галін, за якімі паказалася шырокая дарога, і коннік, што выбіраўся з вузкай дарожкі, вока ў вока сустрэўся з іншым вершнікам, які пад’ехаў па шырокай дарозе і хуткім, спраўным рухам павярнуў свайго каня перадам да яго.

Гэтая сустрэча была такой нечаканай і неспадзяванай, што абодва коні сталі, як укапаныя, а абодва коннікі ўзаемна ўтаропілі здзіўленыя, ды ўсё адно пільныя і хуткія позіркі адзін у аднаго.

Плячысты чалавек у мундзіры расійскага афіцэра, румяны з твару, таропка, падазрона, трывожна пазіраў з-пад насупленых броваў на маладзёна, які, выпрастаўшыся, сядзеў на ладным кані і пільна зіркаў на яго іскрыстымі вачыма. Два разложыстыя клёны ўзносілі над іхнімі галовамі глыбокую аркаду з прасветленага сонцам лісця.

Маўчанне трывала нядоўга: секунду, пасля чаго басавіты і рэзкі голас афіцэра запытаў:

– *Кто ты такой?*

Вельмі спакойна малады коннік назваў сваё імя і прозвішча.

– *Аткуда?*

Паведаміў назву сваёй радзіннай вёскі, недалёкай адгэтуль, у якой знаходзіўся стала...

Сівыя вочы афіцэра пільным, прыдзірлівым позіркам агледзелі яго ўсяго, ад пят да галавы. Не меў права памыліцца; у звыклым штодзённым уборы, без зброі, без слядоў змэнчанасці ў вобліку ўласным і каня, на якім ехаў, не мог гэта быць паўстанец. Але ж чаго ў такіх абставінах... валачэцца па лесе? І нейкі дзіўны гнеў, пануры і нязводны, які меў быць пастаяннай адметнасцю, загарэўся ў ягоных вачах і на твары.

– Чаго *шляетесь* па лесе? Розум страцілі, ці ніколі яго не мелі? Ой, ты, Божа мой, *какие безмозглые люди!*

А затым гучным голасам і з указуючым жэстам рукі:

– *Убирайся к чёрту!* Дадому едзь! *Скарей, скарей!*

Малады коннік з ветлівым паклонам зняў шапку, пасля чаго павярнуў каня на тую дарожку, якая прывяла яго сюды.

Ой, ты, Пяруне мой любы, пранясі ж ты мяне па пякельных дарогах! Бо вось жа на шырокай дарозе, яшчэ на пэўным аддаленні, але ўжо бліжэй, чым раней, чуваць тупат коней і туркатанне колаў...

Паслухмяны голасу і дотыку свайго гаспадара, панёс яго Пярун па лясной дарожцы, праз заслоны галін, якія то растуляліся, то закрываліся за ім, і нёс усё хутчэй, але нядоўга... вельмі нядоўга. Бо вось тут, паблізу пачуўся тупат коней, якія беглі, паміж зялёнага лісця замільгацелі чырвоныя аздобы ўбораў, а доўгія пікі бачыліся чорнымі лініямі. Казакі прадзіраліся праз гушчар да заўважанага ездака, дарогу яму перагароджваючы. На чале іх быў сотнік, высмуклы, зграбны, пекны, у чырвоных пасах убору, з чорнымі вачыма, якія блішчалі на смуглым твары...

Нейкая слушнасць была ў нядаўнім двойчы паўтораным выкрыку афіцэра: “*Скарей, скарей!*” Мо, калі казаў, у ягонай галаве прамільгнула згадка аб гэтых хуткіх, як птахі, людзях. Але паспяшацца часу ўжо не было.

– *Стой! Стой!* – пачуліся і рэхам разбегліся па ціхім зялёным лесе воклічы.

Акружаны з усіх бакоў, ён мусіў спыніцца.

Плячысты афіцэр, трохі прыгорблены, на сваім цяжкім кані няспешна пад’язджаў да групы ездакоў з вострымі пікамі.

Казацкі сотнік адразу запытаў:

– *Кто вы такой?*

Ці то гучанне голасу, у якім акрамя строгасці чулася пагардлівая насмешка, ці то пільныя вочы паўднёўца, у якіх блішчала іскра варожасці, – нешта ў гэтым чалавеку і нешта ў гэтым пытанні зачапіла гонар затрыманага маладзёна, падагрэла іскру гневу, што разгаралася ў ім. Спакойным голасам, але з бліскучымі вачыма, ён адказаў:

– Я ёсць чалавек!

Казак з усмешкай, дзелячы словы на склады, пажартаваў:

– *Че-ла-век!* Не малпа? *Ха-ра-шо!* Але куды едзяце?

– Паперадзе сябе... у свет.

– У свет! *Харашо!* Але адкуль?

– Са свету.

Два розныя тыпы, дзве расы, два розныя, але роўныя сабе моладзевыя аблічча. У абодвух нарастала, усё больш кіпела тое, што даўнія лаціняне выказалі ў выслоўі: *Homo homini lupus est.* (Чалавек чалавеку воўк – *А.Б.*) Іхнія вочы, як падчас паядынку, кінжальнымі позіркамі змагаліся між сабой, набіраліся воўчага бляску.

– Са свету? Не, не са свету, а ад *мя-теж-ников...* ад *мя-теж-ников,* да якіх ездзілі з папярэджаннем...

Прамаўляў няспешна, дзяліў словы на склады, а словы гэтыя ажно шыпелі ў ягоных вуснах, усмешка якіх была здзеклівай, задзірыстай.

– Так, – адказаў той, – гэта праўда. Быў у лагеры паўстанцаў і еду адтуль.

Гэтыя словы вылецелі з грудзей, разгарачаных бурай пачуццяў, раз'ятраныя блакітныя вочы пазіралі проста на праціўніка.

У той жа момант да яго наблізіўся кіраўнік пешай роты і з насупленымі брывамі прамовіў:

– Вы арыштаваныя! Злезьце з каня!

Па загаду ён павінен злезці з каня! О, калі б у ягоных руках альбо пад рукамі была зброя! Ён стрэліў бы спачатку ў іх... пасля ў сябе... Але ён не меў зброі... і таму стаў палонным.

Калі саскочыў з каня і развітальным жэстам паклаў далонь на ягоную грыву, пачуў словы, што няспешна і са свістам выляталі з вуснаў казацкага сотніка:

– *Ха-ра-шо!* Ведаеце дарогу да *мя-теж-ников,* то і нам яе пакажаце. Сядайце на першым возе і паказвайце дарогу!

Палонны адвярнуўся і зноў скіраваў позірк у твар казака. На гэты раз ён зусім не нагадваў вясёлага Алеся. Белы, як палатно, лоб зморшчаны, губы дрыготкія. Гэтымі збялелымі трымцівымі губамі, голасам, які ад абурэння перасядаў у горле, прамовіў:

– Забіць мяне можаце, але не маеце права зневажаць дапушчэннем, што я магу стаць здраднікам.

Ці было гэта здагадкай, ці ён на самой справе пачуў, што капітан пешай роты ціха прамармытаў з-пад натапыраных вусоў:

– *Маладзец!*

А на чорныя вочы казацкага сотніка павольна апусціліся цёмныя павекі. З вуснамі, на якіх пекная лінія выкрывілася ў нібыта здзеклівую, нібыта здзіўленую ўсмешку, ён павярнуў свайго хуткага каня і пакіраваў па шырокай дарозе да падводаў, што набліжаліся.

На тую ж дарогу ступіў і плячысты капітан, які злез з каня. Ён стаў каля палоннага, перад жаўнерамі, якія праводзілі вачыма двух коней, што рухаліся наперад, і таксама павярнуў да яго свой твар. Ён не казаў нічога, толькі штохвілінна пазіраў на яго, адварочваўся і зноў пазіраў, бровы і вусы ягоныя сталі менш натапыранымі, абрысы вуснаў менш цвёрдымі...

І не было гэта падманам, што з-пад рудаватых вусоў ціхім мармытаннем прагучала:

– Ах, *безумцы... мечтатели... несчастные жертвы!...*

Яны дайшлі да падводаў, што табарам расцягнуліся на дарозе. Капітан павёў вачыма па падводах і на адну з іх паказаў енцу. На ёй сядзела некалькі жаўнераў.

Капітан нахіліў над палонным свой вялікі румяны твар, спатнелы ад гарачыні, і шапнуў:

– *Остерегайтесь!* Не *раздражайте* іх... бо... можа быць бяда!

Апошнія словы ён вымавіў па-польску.

## III

Па дарозе, даволі шырокай, але нашпігаванай каранямі старых дрэў, якія стваралі сетку вялікіх і цвёрдых гарбоў, марудна і цяжка рухаўся табар з некалькіх дзясяткаў падводаў, запоўненых жаўнерамі. У руках кожнага з іх тырчала напагатове стрэльба з прымацаваным да яе штыком. На першым возе ехалі двое сялян, панурых і маўклівых – праваднікі па гэтым вялізным лясным лабірынце, поўным дарог, дарожак, зараснікаў, цёмнасці. Страх, добрая аплата, а мо нейкія інстынкты нянавісці альбо зайздрасці, якія ў моманты буры абуджаюцца віхурамі, усадзілі іх на гэты воз праваднікамі.

Спераду, з тылу, па баках ехалі казакі, пікамі страсаючы з дрэў дождж лісця, часам яны збочвалі ў лес, дзе капыты коней выбівалі з сухіх галін і моху град кароткага трэску, а аздоба жаўнерскай формы мільгацела сярод зелені рухлівымі чырвонымі плямамі.

З падводаў чуліся прыглушаныя людскія размовы. Мо прыцішаў іх загад кіраўніка, а мо гасілі ў грудзях кожнага лясныя пагрозы і невядомасць. Цяжка сказаць, але гэта было падобна на грознае і адначасова трывожнае гырканне звера, які ідзе на здабычу і азіраецца, ці няма тут мысліўх. Мысліўыя маглі хавацца за кожным паваротам дарогі, за кожнай фіранкай зараснікаў, у кожным ценю, мноства якіх сярод высокіх дрэў стаялі чорнымі веліканамі, дзе-нідзе прабітыя залатымі стрэламі сонца.

Чым далей, тым больш густым і высокім быў падлесак, а ствалы таўсцейшымі, дарога ж, якая пакрысе спускалася ў дол, станавілася мокрай. З яе паверхні знікла гарбатая сетка каранёў, затое з'явіліся ў розныя бакі скіраваныя прамоіны, выжалабленыя вадой, якая вясной разлівалася тут шырока, яшчэ і зараз гэтыя прамоіны не зусім высушыла майскае цяпло, сям-там яны блішчалі шклом у доўгіх раўчуках і даволі глыбокіх лагчынах.

Відочным было набліжэнне да месца нізкага, мокрага, якое менш за іншыя спрыяе расліннасці, што імкнеццца ўгору, затое з вялікай шчодрасцю дадае жыцця раслінам ніжэйшага росту. Дрэвы стаялі радзей, былі ніжэйшыя, танчэйшыя, скрыўленыя, аблепленыя сукамі, пакрытыя нейкай чарнатой, затое з абодвух бакоў дарогі паўставалі не такія, як у іншых месцах, дзе празрыстыя зараснікі былі паразрываныя прагаламі, а суцэльныя густыя сплёты кустоў і карлікаватых альбо недарослых дрэўцаў.

Пярэдняя падвода збочыла і, пакідаючы шырокую дарогу, з'ехала на вузкую грэблю, аточаную з абодвух бакоў глыбокімі канавамі. У канавах стаяла белаватая вада, сям-там пакрытая зеленаватай плесенню, за канавамі ўзвышаліся сцены зараснікаў, не аднолькавай гушчыні ўгары, затое ў доле яны ўяўлялі паверхню, густа сплеценую з пруткоў, галінак і незлічонай лістоты.

Гэта былі неаглядныя шэрагі і тлумы арэшніку, маліны, каліны, ажыны, малых вербаў, алешын і асін, дзікага бэзу, лазы, чароту, вялізнага аеру, касачовых раслін, нейкай высокай і расчухранай травы, нейкіх паразітных пальцаў і вянкоў, якія ўсё гэта апляталі, а з гэтых скрутаў і сплётаў, з усёй гэтай гушчэчы ліній і формаў, пазначаных тысячамі відаў і родаў, угары і ўнізе бачыліся белыя парасоны дзікага бэзу, ліловыя касачовыя келіхі, жаўтаватыя зоркі нейкіх багністых раслін, мутнасцю барваў нагадваючы аб набліжэнні каралеўства мёртвай вады і гразкага багнішча. Сонца кідала на гэтыя зялёныя і расквечаныя сцены пазалоту, для вачэй прыкрую і сляпучую, сярод якой вузкая палоска грэблі нагадвала чорнага вужа, які быццам бы грэў на сонцы пакарабачаную і дзе-нідзе бляклa бліскучую скуру. Прыцьмелымі бляскамі свяцілася ў выжалабленнях і каляінах грэблі вада.

Калі падводы табару заехалі на грэблю, гамана аціхла, чуваць было не туркатанне, а толькі шоргат колаў, якія вельмі павольна перасоўваліся па размоклым грунце, часам пад капытамі коней хлюпала вада, часам на якой-небудзь з падводаў гучаў п'яны, але кароткі выкрык. З жаўнерскіх галоў яшчэ не выветрылася гарэлка, выпітая ранкам з бочак у двары, аднак месца, у якім знаходзіліся, глухім неспакоем альбо невыразным прадчуваннем пазамыкала ім вусны, а ўзамен шырока парасплюшчвала вочы.

Капітан выехаў у галаву табара, і было чуваць, як абменьваўся ён з панурымі праваднікамі то пагрозлівымі фразамі, то словамі запытання. Тыя адказвалі:

– Іначай ехаць нельга. Іншай дарогі да іх няма. Ёсць недзе іншая, але яшчэ горшая і... далёкая...

На вялікім, гладкім кані, сам мажны і пануры, афіцэр ехаў уздоўж табара, калі позірк ягоны ўпаў на маладога вязня, які сядзеў сярод жаўнераў. Ён павярнуў каня і пачаў ехаць наўзбоч той падводы.

Раптам сталася нешта такое страшнае, нібыта прагучаў нечаканы пярун альбо падала голас раптоўная смерць. У зялёных сценах, што ўзвышаліся паабапал грэблі, пачуўся гром стрэлаў, адтуль вылецеў рой агністых бліскавіц. Некалькі казакоў, што ехалі наперадзе, зваліліся з коней, пад некаторымі іншымі пападалі коні, мажныя постаці на падводах таксама падалі долу і выпускалі з рук зброю.

Засада, адзін з найстрашнейшых сродкаў, уласцівых партызанскім войнам.

На вузкай грэблі пачалася неразбяруха, мітусня, напоўненая крыкамі.

Жаўнеры саскоквалі з падводаў і бязладна, гэтак жа, як і без відочнай цэлі, стралялі па зарасніках, напалоханыя коні пераварочвалі вазы, якія станавіліся папярок дарогі альбо перакульваліся ў канавы, тым самым рабілі немажлівым хоць якое ўладкаванне жаўнераў у шарэнгі альбо атрады, спрытныя казакі на сваіх быстрых конях пераскоквалі праз равы і імкнуліся ўдзерціся ў гушчэчу, якая супраціўлялася і з якой штохвілінна чуўся рой стрэлаў з новымі бліскавіцамі і новымі грымотамі. Целы людзей, у якіх трапілі кулі, падалі на размоклую грэблю, на колы і драбіны павозак, пад капыты ашалелых коней, у ваду, што запаўняла равы. Паветра напоўнілася крыкамі, громам і грымотамі стрэлаў, клубамі парахавога дыму.

Пасярод гэтага пякельнага гоману і мітусні капітан з вялікай сканцэнтраванасцю і адвагай, голасам і рухамі намагаўся ўліць у гэтую дзіўную бітву дух парадку і арганізаванасці. Але ягоны моцны голас, які выкідваў з шырокіх грудзей словы каманды, губляўся ў гамане, а фармаваныя ім шарэнгі і атрады адразу ж пачыналі мітусіцца і рассыпаліся, абстраляныя спераду і з тылу, з-за абедзвюх сцен зараснікаў, што хавалі ворага. Ягоны задыханы конь быў занадта вялікі і цяжкі для руху па вузкай прасторы, сярод бязладнага тлуму людзей і рэчаў. Некалькі разоў заднія ногі каня саслізгвалі ў роў, не раз ён станавіўся на дыбкі перад раптоўна ўпалым конскім альбо чалавечым трупам. Па твары капітана ліліся струмені поту, у вачах свяцілася роспач, кулі, як пчолы, гулі і ляталі каля галавы і плячэй. Адна разарвала яму рукаў мундзіра і зачапіла руку, але ён не зважаў на гэта і не асцерагаўся, з хуткасцю, на якую толькі дазвалялі туташнія перашкоды, кіраваўся да жменькі жаўнераў, якія, плячыма адвярнуўшыся да поля бітвы, пачыналі бегчы ў пачатак грэблі. Перасек ім дарогу, гучным голасам загадваў і прасіў, рухамі палаша заахвочваў і накіроўваў, каб вярнуліся, каб не павялічвалі на грэблі мітусню цел. А гукі стрэлаў, скіраваных да нябачных мэтаў, не змаўкалі.

Частка казакоў пад кіраўніцтвам сотніка пераскочыўшы праз равы, здолела прадзерціся ў зараснікі і там былі чуваць шалёныя крыкі, густыя стрэлы, з гучным трэскам ламаліся пад напорам конскіх грудзей галіны дрэў, а пад капытамі трашчалі людскія косці.

Не доўжылася ўсё гэта і чвэрці гадзіны, а ўжо вада ў канавах і трава над равамі забарвяніліся крывавай чырванню.

Аляксандр стаў на возе, ля дышла якога з шыяй, па-пакутніцку скурчанай, ляжаў забіты конь. Аляксандр сціскаў бяззбройныя рукі вакол нейкіх прадметаў, што тырчалі на возе, увесь падаўся наперад, позірк шырока расплюшчаных вачэй быў скіраваны да пранізанага кулямі і агнём зарасніку. Магло здавацца, што душа з яго вылецела і знаходзілася на тым баку зялёнай сцяны, сярод тых, чые кулі ў любы момант маглі прынесці смерць і яму. Не было такой секунды, у якую ён не мог бы не загінуць і... жудасная думка! – загінуць ад рук, якія любіў. Ці прыходзіла гэтая думка ў ягоную галаву, вакол якой са свістам і віскам ляталі кулі? Ці мо не меў ніякай выразнай думкі, акрамя той адзінай, спапяляючай, што ён не там, што не можа быць там... з імі? Пазней ён ніколі не мог адказаць

на гэтае пытанне. Але цяпер халодны пот штохвілінна абліваў ягоны твар, а дыханне спынялася ў грудзях у прадчуванні нечага невядомага, назразумелага... Мо іхняга з'яўлення з-за той сцяны, якая іх засланяла. А мо тых крылляў, якія перанеслі б яго праз гэтую сцяну да іх. Ці мо смерці. Нечакана ён затрымцеў ад пят да галавы і дрыготкімі вуснамі выгукнуў:

– Аполек!

З амаль вар'яцкім бляскам вачэй узіраўся ў маладзёна, які парывістым рухам выбраўся з зараснікаў і ля самых іхніх ног, на адно калена ўкленчыўшы, са стрэльбы, прыкладзенай да шчакі, пачаў страляць. Гэты дзёрзкі рыцарок, у моладзевым запале не надта паслухмяны загадам кіраўніка, мо захацеў вока ў вока спаткацца з тымі, з кім змагаўся, каб зрабіць больш, дабіцца большага за іншых. Ён выскачыў з гушчэчы, укленчыў на адно калена і страляў... Кармазінавая канфедэратка ссунулася з ягоных цёмных валасоў, адкрываючы гладкі і загарэлы лоб, вочы, крыху прымружаныя, напоўніліся пільнай увагай, а на вусны пад невялікімі вусамі выстрэльвала ўсмешка амаль што хлапечай упартасці. Раптам ён закрычаў:

– Алесь! А ты адкуль тут?

Заўважыў стаячага на павозцы палоннага, але адразу ж забыўся пра яго, са стрэльбай, прыкладзенай да вока, зноў цэліўся, зноў страляў. Ды тут сталася з ім справа хуткая, як пярун, і смяртэльная.

З зараснікаў выехаў казацкі сотнік на кані, з галавы якога цякла кроў і якога ён падганяў, каб пераскочыць праз роў і вярнуцца на грэблю, калі дзёрзкі рацарок у кармазінавай шапцы прыцэліўся ў яго, стрэліў, і казак, у грудзі якога трапіла куля, упаў з каня, выцягнуўся каля зараснікаў. А праз імгненне, такое кароткае, што людское вока наўрад ці паспела б маргнуць, з грэблі на другі бок рова пераляцела іншая куля і патрапіла ў галаву рыцарочка, ён таксама ўпаў...

У той жа момант Аляксандр адчуў на твары гарачае дыханне каня, а каля ягонага вуха адразу ж пачуўся цяжкі шэпт капітана:

– *Кто это? Кто это?*

Капітан стаяў на кані, белы, як крэйда, і, паказваючы пальцам на забітага паўстанца, з амаль што шалёнымі вачыма пытаўся ў маладога палоннага:

– Аполек? *Разве это* Аполек? Аполек?

– Так, Аполек.

Двое грудзей: афіцэра і палоннага, дыхалі парывіста, з глухімі енкамі.

– Карлавіцкій?

– Карлавіцкі.

– *Бог мой!* – выгукнуў капітан, і гэта быў крык страшнага здзіўлення, болю, невядома яшчэ якога пачуцця, што разрывала ягоныя грудзі.

Каля зараснікаў, на беразе каламутна бліскучай вады, ляжалі непадалёку адзін ад аднаго, выцягнуўшыся на зялёнай траве, два прыгожыя маладзёны, адзін чырвоным, другі чорным пасам перапаясаныя, адзін у разарваным і скрываўленым на грудзях адзенні, другі – у чорным, і пляма крыві чырванела пасярод ягонага ілба. Іхнія галовы былі пакрытыя чорнымі і цёмнымі валасамі, а шапкі, далёка на зялёную траву адкінутыя, двумя рознымі адценнямі чырвонасці блішчалі ў святле сонца. І нерухомай іскрай здавалася сонечнае святло ў шкле іхніх мёртвых вачэй.

## IV

З дня паразы, якую ў палескіх лясах атрымаў атрад пешага і коннага войска, з дня, калі разам з некалькімі таварышамі быў забіты Аполек Карлавіцкі, а Аляксандр Авіч апынуўся ў вязніцы бліжэйшага горада, куды быў адвезены рэшткамі разбітага войска, мінула некалькі тыдняў.

На свеце стаяў ужо ліпень – гарачы і душны. На шырокія палі клалася зжатая сярпом багатая збажына, чулася шамаценне залатой саломы. У рэках, азёрах, лясных ручаях і лугавінах высыхала вада. Над залатымі палямі, над пажоўклымі ад спякоты лугамі, над лясамі, што стаялі ў скамянелай цішыні, шырокім колам пад іскрыстым скляпеннем неба вучыліся лятаць буслы.

Трохпавярховы турэмны гмах узвышаўся над нізкімі дамкамі мястэчка, як і ўсе турэмныя гмахі пануры, голы, счарнелы, замкнёны. Каля яго, на дзядзінцы і на ніжэйшых паверхах часам чуўся галас, шум, крыкі, размовы, лязгат зброі, але самыя высокія вокны пад чырвонымі карнізамі даху здаваліся праз дзіркі жалезных кратаў маўклівымі і самотнымі.

Чым вышэй, тым самотней. Туды не даляталі з дзядзінца і ніжэйшых паверхаў ніякія людскія галасы, не чуцен быў самы ціхі вулічны шум мястэчка. Толькі часам гучалі кароткія размовы ахоўнікаў, якія мяняліся, чуліся цяжкія крокі назіральнікаў альбо скрыгат ключа ў замках, які адмыкаў і замыкаў камеры. Чым вышэй, тым лепей. З вокнаў, высока ўзнесеных над зямлёй, позірк мог заўважыць лапік залатога поля, якое атачала мястэчка, палоску лесу за полем, а ў поўдзень – чорныя абрысы буслоў, якія ўтваралі пад нябесным блакітам шырокае кола. З вялікай адлегласці буслы здаваліся зусім маленькімі, затое заўсёды вялікім быў твар сонца, кожны вечар яно кацілася па схіле неба за палоску лесу, над якім неўзабаве запальваліся вечаровыя зоркі.

Чым вышэй, тым больш самотна. На кавалачак вольнай прасторы, на крылатых птушак, на неба і нябеснае святло пазіраючы, тыя высока ўзнесеныя вокны вязніцы здаваліся вачыма, налітымі чарнатой ночы.

За адным з гэтых вокнаў, у турэмным памяшканні, як і ўсе турэмныя памяшканні цесным, нізкім, счарнелым і панурым, Аляксандр Авіч сядзеў каля сцяны на вузкім зэдалі і чытаў. Колькі дзён таму яму дазволілі атрымаць з волі некалькі кніжак, але ён зусім не ведаў, чаму альбо каму гэтую палёгку ў сваім лёсе меў прыпісаць.

Бо ажно да апошніх дзён суровасць адносін да яго была роўнай цяжкасці ягонай правіны. Менавіта ён вінаваты ў тым, што войска панесла паразу ад папярэджаных ім паўстанцаў, гэта прызнаў ён сам яшчэ ў лесе і неаднаразова паўтараў пазней перад тварам следчай камісіі. І паводзіны ягоныя перад тым зборным тварам схіляць да лагоднасці не маглі. На мноства задаваных яму пытанняў ён ніколі не меў іншага адказу апроч пастаяннай спасылкі на прызнанне, якое зрабіў сам. Ён належаў да самых стойкіх, самых вынослівых. Да малагаваркіх таксама, бо разумеў, што калі хоць раз пачне гаварыць, то, як полымя, можа ўспыхнуць такой узнёсласцю, з якой кінуў сваё прызнанне казацкаму сотніку.

Вытрымаў шмат – пакуты працягнулі па ім свой разец і свой пэндзаль. Схуднеў, а на твары спалавела ягоная мужчынская чырвань. На ілбе пакінулі сваю бледную пляму глухія дні і бяссонныя ночы, у вачах адбівалася туга, выкліканая ўспамінамі, якая саступала толькі перад неспакоем, поўным магільных прывідаў. Аднак з гэтых маладзёнавых вачэй не зніклі ні бляск, ні агонь, а згадкі аб мінулых справах часам выклікалі на збялелыя вусны ўсмешку, з якой самы маленькі жыццёвы пробліск мог выкрасаць даўні смех – вясёлы і пусты. Але ён вытрымаў усё і заставаўся лагодным. У вышчупленым целе жыла нейкая пружына, якая выпроствалася горда, і гучала нейкая песня са смутнай нотай, але ўзлятала яна высока.

Праз адчыненую ў акне невялікую фортку дзьмухнуў вецер і пачаў варушыць на галаве цёмна-льняныя валасы. Здалося, нейкая рука апусціла на галаву асвяжальную пяшчоту, а звонку нешта нібыта загукала да яго. Кніжка вывалілася з рук. Ён устаў, амаль што свавольным рухам даўняга Алеся ўскочыў на зэдаль, які стаяў каля акна, пачаў пазіраць праз адкрытую фортку. Пазіраў на вялізны

і яскравы твар сонца, што вісела над далёкім лесам, на лапік залатога поля, на якім чорнымі кроплямі варушыліся маленькія здаля постаці, і глыбокая баразна пакуты прарэзала ягоны лоб.

У гэтую ж хвіліну ў вялізным замку заскрыгатаў ключ і з-за крышку прачыненых дзвярэй басавіты мужчынскі голас спытаў:

– *Позволяете?*

Вязень здзіўлена зірнуў на таго гжэчнага госця, які перад уваходам у турэмную камеру прасіў дазволу ўвайсці.

Гэта быў афіцэр, даволі высокі, плячысты і мажны, з вялікім тварам, хаця вельмі зграбным, з ілбом, бялейшым за румяныя шчокі, і рыжаватымі над ім валасамі. Срэбная вузкая стужка з падвешаным на ёй палашом касой лініяй перапаясвала ягоныя грудзі і плечы, пакрытыя аблеглым мундзірам.

Камера была цесная, яе дзверы знаходзіліся за некалькі крокаў ад акна, ля якога, саскочыўшы з зэдаля, стаяў Авіч. Афіцэр спыніўся за адзін крок перад дзвярыма, якія зачыніліся за ім і зноў заскрыгаталі ключом, павернутым у замку.

– Не хацеў бы замінаць, – пачаў ён, – і калі *не ў час* прыходжу...

Прамаўляў неверагодна сапсаванай пальшчызнай.

– Наадварот, – перарывістым голасам, узіраючыся ў госця, адказаў вязень. – Няўжо гэта пан быў... там... з войскам?.. Ці мо я памыляюся?

Не адказваючы на пытанне, госць з-пад рыжых вусоў мармытнуў:

– Маю гонар адрэкамендавацца: Апалінары Карлавіцкі.

– Карлавіцкі?.. Апалінары? – з выбухам найвялікшага здзіўлення закрычаў вязень.

Афіцэр нахіліўся.

– І Карлавіцкі, і Апалінары. Дзівіцца пан... *ну,* розныя *случаи* на свеце бываюць...

– Мо крэўны беднага Апанькі?

Афіцэр правёў рукой па белым ілбе.

– Гэта быў мой стрыечны брат. Ягоны бацька і мой бацька былі *родными* братамі.

У камеры апроч вузкага зэдаля ля сцяны, адзін канец якога, пакрыты турэмнай пасцеллю, служыў ложкам, знаходзіўся драўляны столак і крывы, брудны, збіты з патрэсканых дошак, стол. Афіцэр паставіў столак каля крывога стала і сеў.

– Я прыйшоў, каб пагаварыць з панам аб ім... я таго хлопца любіў... ён быў мне *дорог...* я сёння тут, у вязніцы, цэлы дзень дзяжуру... і падумаў сабе: пайду распытаю пра яго... калі? якім чынам? Бо я ніколі не спадзяваўся... Ён вучыўся ў Маскве. Два гады вучыўся там і на велікодныя святы паехаў да старэйшага брата. *Ну, да!* Як паехаў, так і не вярнуўся. Яны недзе тут маюць свой маёнтак... пан яго напэўна ведае. Ці пан ведае яго?

– Блізка ведаю, мы жылі па-суседску, непадалёку.

– *Да! Да!* Як толькі мне пан там... у *лесу* назваў сваё прозвішча, я адразу прыгадаў сабе, што недзе яго чуў, а пасля і тое прыпомнілася, што чуў ад Апанькі... Ён мне ўсё расказваў, як дзіцем быў, каго ведаў, з кім час бавіў... Ах, *несчастный!* Як ён туды патрапіў? Хто яго намовіў? Такі малады... і *добры! Ах, добры! Какое у него было доброе, чистое, детское сердце!*

Ён звесіў галаву і глыбокі жаль разліўся па ягоным твары. Пры гэтым было відаць, што ў моманты ўзрушэння на ягоныя вусны просіцца мова, да якой прывык і якую добра ведаў. Праз хвіліну падняў галаву і спаткаўся вачыма са скіраваным на яго здзіўленым позіркам вязня. Іскра гневу затрапяталася ў ягоных хмурых вачах.

– Пан дзівіцца? Чаго дзівіцца? Чаму ж гэта Аполек братам маім быць не мог? На свеце розныя *случаи* бываюць. От, два *родные* браты былі, далёка між сабой жылі. Адзін застаўся пры маёнтку, а другі яго страціў, а калі страціў, пайшоў на службу... у *Тверской* губерні служыў. *Ну, да!* Так, Аполек быў сынам аднаго

брата, а я быў сынам другога... *дедушка* наш меў імя Апалінары, і нас абодвух так назвалі. Але дзядзьку я не ведаў, бо *он рано* памёр і я да гэтага часу ніколі сюды не прыязджаў, а зараз *увы!* са сваім палком прыехаў, каб супакоіць *мятеж*. І вось што ўбачыў! Апольку забітага ўбачыў... хлопца, майго мілага брата!

Прывязанасць да забітага паўстанца, нейкая дзіўная ў гэтым мажным чалавеку, чулліва закранула маладога вязня, яго зацікавіў гэты афіцэр з характарам, як здавалася, даволі складаным. Спытаў, якім чынам ён мог так блізка ведаць стрыечнага брата, раз ніколі дагэтуль не быў тут. Афіцэр паспешна адказаў:

– Я казаў ужо, што ён два гады быў у Маскве, а я там стаяў тады з палком. *Ну, вот,* мы недзе сустрэліся... адно прозвішча... пытаецца ён у мяне, ці не крэўны! А я ўжо ведаў, хто ён, і кажу: “Я ваш стрыечны брат”. Дык ён, *сердечный,* за шыю мяне абняў...

Ягоны голас засеў у горле, аточаным тоўстым каўняром мундзіра.

– Сям'і я не маю, нікога свайго на *свете* не маю... кроў адгукнулася... палюбіў я брата... І як не палюбіць? Такі добры, *сердечный* хлопец. І *красавец* быў! І ён мяне палюбіў, хоць часам і *сердился* на мяне, *ну, там,* за розныя глупствы, але заўсёды пасля прыходзіў і казаў... “Ты бедны... які ты вінаваты...”

Ён змоўк, рукой зрабіў роспачны жэст.

– Што ўжо тут казаць! Што расказваць. Мінулася, *пропало!* Яго ўжо няма на свеце... Але...

Выпрастаўся, ягоныя хмурыя вочы з выразам просьбы ўтаропіліся ў твар вязня.

– Але цяпер я прыйшоў прасіць пана, каб пан мне ўсё пра яго расказаў: як гэта сталася? Як да гэтага дайшло? Хто яго намовіў?

Аповед быў кароткі. Ніхто яго не намаўляў і дайшло да гэтага простым чынам. Хлопец быў жвавы, шляхетны, любіў свой край, любіў ідэю, натхніла яго тое цячэнне, якое натхняла і іншых.

Афіцэр слухаў з апушчанай галавой, пазіраючы ў дол.

– *Глупость!* – прамармытаў.

– Што ёсць *глупость?* – усміхнуўся Авіч.

– *А вот,* гэтыя ўсе вашы ідэі і ц я ч э н н і!

– Можна шмат аб гэтым расказваць, – з новай усмешкай кінуў вязень.

– Я і хацеў бы з панам больш паразмаўляць аб гэтым... вельмі хацеў бы... Ну, але гэта пазней, калі я сюды іншым днём прыйду... а зараз вось што яшчэ хачу пану сказаць...

Ён абапёрся далонямі на калені, расставіў локці трохі з фантазіяй, у ягоных нахмураных вачах заблудзілася слабая ўсмешка.

– Я не толькі для таго сюды прыйшоў, каб пра Апольку распытацца, але і для таго таксама, *ну, да!* для таго, каб пазнаёміцца з панам... вы мне там, у лесе спадабаліся... На кані ездзіце як вайсковы чалавек і *вот,* смела вы тады ў вочы казацкаму *сотнику* пазіралі; як ён вам тую *гадкую низость* паведаміў, то ў вас іскры з вачэй пасыпаліся і вы адказвалі яму добра! Ну, і адвага там была! З голымі рукамі паміж *штыков* і пікаў! Я тады падумаў сабе: *молодец!*

– І пан нават прамовіў гэта, я пачуў, – з нечаканай радасцю на твары засмяяўся вязень.

– *Неужели так?* Прамовіў? Ну, можа, і прамовіў. У мяне тады ўсё ўсярэдзіне пераварочвалася, а калі ў мяне ўсё ўсярэдзіне пераварочваецца, то я тады часам размаўляю сам з сабою.

Ён смяяўся. Смяяліся абодва.

– А чаму ў пана тады ўсё пераварочвалася ўсярэдзіне?

Ён зрабіў адмоўны жэст, зноў спахмурнеў.

– Доўга пра тое расказваць. Мо калі-небудзь пазней, як іншым днём прыйду.

Але зараз скажу адну рэч, каб пана пацешыць! Я бачыў, як пан любіць коней, і таго, на якім пан ехаў, вачыма праводзіў пры расстанні так, быццам развітваўся з прыяцелем. Гэта добры конь і разумная бестыя. Я не хацеў бы, каб ён змарнаваўся ў злых руках, і таму папрасіў, каб аддалі яго мне. Мой стары ўжо быў і не вельмі рухавы. *Ну, да!* Той конь зараз у мяне, і я магу пана ўсцешыць, што ён здаровы, а я абыходжуся з ім, як з дзіцем.

Вочы вязня свяціліся ад радасці.

– Мой Пярун! Я думаў, што забіты альбо яго мэнчаць, што ён галадае... Дзякуй пану і за добрыя да яго адносіны, і за мілую пра яго навіну. Я любіў... не! кахаў гэтую прыгожую, разумную жывёліну, я наогул захапляюся коньмі!

– Гэта так, як і я! – усклікнуў афіцэр. – З дзяцінства захапляюся коньмі, і хоць мы з нябожчыкам бацькам жылі ў мястэчку, ды, будучы малым, *однако же* хоць да клячы якой дападу і заўсёды лячу на ёй па мястэчку на злом галавы... толькі ў нас, у пешых палках, афіцэрскія коні неважнецкія! А вось той панскі... як ён называецца? Пярун? Добра, я буду яго так называць... такія разумныя жывёліны прывыкаюць да свайго... як гэта сказаць.

– Імя!

– *Да! Да!* І калі да яго гукнуць гэтым *именем,* да якога прывык, то ён паварочвае галаву, альбо, як дзіця, ідзе за чалавекам. Той панскі Пярун гэта *английской* крыві конь, праўда?

– Паўкровак, – адказаў вязень.

– Такія часам найлепшыя.

Некалькі хвілін яны размаўлялі пра розныя пароды коней, іхнія вартасці і недахопы. Абодва ажывіліся. Вязень адным разам засмяяўся голасна і весела, афіцэр непазнавальна змяніўся ў гэтай фамільярнай гавэндзе аб тым, што любілі абодва. Пачаў нават з меншай, чым раней, цяжкасцю прамаўляць па-польску і часам, запінаючыся, пытаўся: як гэта сказаць?..

– Перапрашаю пана, што спытаю, – пачаў вязень, – але хацеў бы ведаць, дзе пан нарадзіўся.

– Дзе я нарадзіўся? У бацькавым маёнтку, у Віленскай губерні, але, калі мне было чатыры гады, калі той бацькаў маёнтак прадалі за даўгі, ён пачаў клопаты аб службе. Службу знайшоў хутка, але ажно ў *Тверской* губерні! І мы выехалі туды, калі я не меў яшчэ пяці гадоў. Але чаму пан пытаецца ў мяне аб гэтым?..

– Так... – развażліва адказаў Авіч. – Размаўляць... пан развучыўся!..

Афіцэр махнуў рукой.

– Эх, як дзіцем быў, то дома заўсёды па-польску казаў, але ў адзінаццаць гадоў бацька аддаў мяне ў корпус... Тады ўжо, прызнацца, ён трошкі піў і быў вельмі бедны, а ў корпусе за дзяржаўны *счет* яму нічога не каштавала... Так я там і забыўся... а пасля дзе было прыпамінаць? Калі з Апольскам часта бачыўся, то крышку згадваў, бо ён інакш, *як на своём родном,* размаўляць не хацеў...

– Як гэта на сваім, хіба і не панскім таксама? Хіба маці... Перапрашаю, што яшчэ запытаю, а кім была панская матка?

– Як гэта кім?

– Якой народнасці?

– *Народности?* Якой жа яна магла быць? Таксама ў Віленскай губерні нарадзілася... Полька...

Напалову са смехам, напалову з прыкрым настроем Авіч выгукнуў:

– А-а, то пан з паходжання ёсць сапраўдным палякам!..

Афіцэр зноў спахмурнеў.

– З *происхождения да... но,* што азначае *происхождение?* Вось, скажу пану, што я, перш чым з войскам прыехаў сюды, ніколі аб такіх рэчах не думаў. Не прывык. А калі часам задумваўся, то заўсёды толькі аб тым, што падобныя рэчы

*полно ничево* не значаць. І толькі цяпер я пачаў над імі разважаць... І пачало мне здавацца, што яны нешта значаць.

Ён зірнуў на гадзіннік.

– *Однако же,* мне пара! Заседзеўся я ў пана. Ці пан дазволіць мне часам прыходзіць? *Симпатию* я маю да пана і вельмі пана шкадую.

Паазіраўся па камеры.

-- Самотна тут сядзець... аднаму... нязручна, га?

– Нявесела. Але зараз менш сумна, бо дазволілі чытаць кніжкі, я нават не ведаю, адкуль такая ласка.

Дзіўная ўсмешка прабегла па змаркотнелым да гэтага твары афіцэра. Было ў ім крышку фіглярнасці і ўнутранага трыумфу, якія, аднак, хутка згаслі. Ён зірнуў на кніжку, што ляжала на зэдалі.

– Я чытаць не прывык... але таму, хто прывык...

– Таму, хто прывык, – падхапіў Авіч, – кніжка можа даваць хвіліны шчасця ў няшчасці...

– Ну, то й добра, што пан яго зараз мае!

Ён устаў са столка. Уздыхнуў.

– Не хочацца ісці! Гэта пан замкнёны сядзіць, а я ж па вольным свеце хаджу, а *однако же,* можа, пану... як гэта сказаць... можа, пану і не горай, чым мне. Бо які гэта свет? Брыдкі, подлы свет... кроў людская льецца на ім... людзі ненавідзяць адзін аднаго... І найгорай тое, што чалавек не разумее сам сябе і часам сам на сябе хацеў бы плюнуць... То і не хочацца часам па гэтым свеце хадзіць!

Пакутлівая туга разлілася па ягоным твары.

– То прыходзь, пан, зноў калі-небудзь, раз гэтая мая нара так падабаецца пану, – ветліва прамовіў Авіч.

– *Приду...* Мне можна да пана прыходзіць. Нікому не можна, а мне можна...

– Чаму так?

Афіцэр прыцішыў голас.

– Плечы, ведае пан, маю! *Вот* чаму.

– Як гэта плечы? Што гэта?

– А *вот* такія плечы, што мяне ад усяго бароняць... Таму мяне і пасля таго няшчасця ў лесе з *ротного командирства* не скінулі. Іншы б так паляцеў, што о-я-ёй! А мяне *он* бараніў, праз гэта я і да пана прыходзіць магу, калі толькі захачу...

Ён стаяў перад Авічам за крок, крышку вагаўся, на твары быў выраз збянтэжанасці.

– І сам не ведаю, – пачаў, – ці магу я падаць пану руку, ці не магу?

Авіч падаў яму руку, якую далонь афіцэра абхапіла моцным, крыху дрыготкім поціскам. Нешта накшталт ушанавання і расчуленай нясмеласці адбілася ў гэты момант на ягоным твары.

Ён адыходзіў. Ля дзвярэй павярнуўся.

– Ведаеш, пан, што?... Я пачынаю думаць, што, *однако же,* такія рэчы *должны быть* вельмі значнымі. Ідзеш з войскам *на мятежников и око в око* сустракаешся з братам... з братам, якога, як сваё жыццё, любіш. І твайго брата забівае тое войска, якому ты сам скамандаваў: страляць! *Вот* што такія рэчы...

Ягоны голас перасеў у горле. Хуткім рухам павярнуўся да дзвярэй і з тварам, схіленым да круглай адтуліны ў іх, крыкнуў:

– *Отворить!*

Гучанне гэтага выкрыку было зноў гучным, цвёрдым, вострым і нагадвала Авічу капітана, які выкрыкваў словы каманды на той грэблі.

Не дзіва, што ён зноў пачаў прамаўляць гэткім чынам, бо з турэмнай камеры выходзіў на вольны свет!

## V

Мінула некалькі дзён, і зноўку нязвыклай парой цяжкі ключ заскрыгатаў у вялізным замку, але гэтым разам за прачыненымі дзвярыма малады і свежы кабечы голас спытаў:

– Ці можна?

Ах, гэта ж голас Тосі!

Адным скокам Аляксандр апынуўся каля дзвярэй.

– Цётка! Цётка, дарагая! Наймілейшая! Залатая!

Ён цалаваў рукі сівой кабеты ў чорнай сукні, а пасля абедзьве свае працягнуў да пекнай дзяўчыны, блакітныя вочы якой застылі ў бляску радасці і слёз. З гэтымі блакітнымі вачыма і хітрай усмешкай на твары, больш бледным і схуднелым, чым раней, з рукамі, схаванымі ў ягоных руках, яна казала:

– Бачыш, Алесю, бачыш! Відаць, як заяц, адным вокам спаў на кані, бо патрапіў у іхнія рукі!

Пасля з яе вачэй паплылі слёзы, якія рабілі вочы яшчэ больш бліскучымі, і тады можна было зразумець, што за апошнія тыдні яна дастаткова наплакалася.

Але якім цудам, якім такім цудам яны змаглі патрапіць сюды, калі нікому гэта не дазвалялася? Так, яны і самі гэтага не разумеюць. Дагэтуль адмаўлялі ім, адмаўлялі ў спатканні з вязнем і рабілі гэта прыкра, жорстка. Ды раптоўна стала мякчэй, лагодней і дазволілі... На кароткае спатканне, праўда, але нават без сведкаў. Аднак даволі аб гэтым. Маецца тысячы тэмаў для гаворкі. Яны жывуць зараз паблізу ад гэтага мястэчка, у сваякоў, бо іхні двор зруйнаваны...

– Як гэта зруйнаваны?

– Падчас вобыску.

Яны расказалі аб гэтым усё.

Двор разам з гаспадарствам падпаў пад дзяржаўны вопіс, што з'яўляецца пачаткам канфіскацыі. Ім загадалі адтуль выехаць. Сын адной і брат другой апынуўся ў зняволенні, не, не тут, яго павезлі некуды ў іншае месца, а ехаць за ім туды яны яшчэ не могуць...

І маці адразу, расказваючы пра сына, расплакалася, а двое маладзёнаў пазіралі адзін на аднаго сваімі нябеснымі вачыма.

Пасля яны гаварылі аб атрадзе, які быў разагнаны, але неўзабаве зноў сабраўся недзе далей, аб вязнях і забітых, аб слабай надзеі, аб жудаснай трывозе, аб усёй гэтай страшнай трагедыі, рэха якой, аднак, за гэтыя сцены не пранікала.

З двух пар маладых і закаханых вачэй нябеснае шчасце знікла, у іх вярнуліся панурая трывога і пякучы жаль за зямлю, самую нешчаслівую на ўсім зямным шары.

Пасля яшчэ: а як табе тут? Што ясі? Як спіш? Што табе трэба? Мо дазволяць прыслаць! А мо дазволяць прыйсці зноў! Яны будуць прыязджаць у мястэчка, будуць прасіць... Як усё закончыцца? Божа міласэрны... як усё гэта закончыцца для яго, для іх, для ўсіх, для справы?

Іхні час ужо скончыўся, аб гэтым папярэджваў стук у дзверы назіральніка.

Усе трое ўсталі з вузкага зэдаля. Маці ўзяла за руку дачку і, лёгенька падпіхаючы яе да маладога вязня, дрыготкімі губамі прамовіла:

– Аддаю яе табе, Алесю! Дагэтуль была супраць... бо мы блізкія сваякі, а жаніцьба паміж крэўнымі... І яшчэ адно: я марыла аб нечым іншым для Тосі... Кожная маці мае для свайго дзіцяці нейкія спадзяванні... Бачыш, спавядаюся... Але зараз, мой Алесю, калі ты гэткі нешчаслівы і гэткі годны сын Айчыны... станься ж і маім сынам... Калі толькі будзеш вольны...

Ад узрушэння яна не магла гаварыць далей, а яны абое, укленчыўшы перад ёю, абнімалі яе калені.

Назіральнік, усё яшчэ стукаючы ў дзверы, чуў у турэмнай камеры плач не толькі нявесцін, але, як здавалася яму, і мужчынскі таксама.

Яны пайшлі. Вязень застаўся адзін. У ягонай галаве шумела, сэрца ў грудзях нібыта вырасла. Яго душылі слёзы, якія штохвілінна набіралі моцы. Сорамна плакаць, як дзіця альбо кабета! Плаксам ён не быў ніколі. Наогул, раней ён быў вясёлым Алесем. А цяпер вось гэтулькі тыдняў розных пакут і пасля іх такая радасць...

Толькі ці будзе ён вольным? Відочна, не. Вырак, які меў яму выпасці, мог быць толькі менш альбо больш строгім, поўнай вольнасці яму не вернуць. Ён ведаў тое, але ведаў таксама і нешта іншае, адчуваў, што нядаўняя навіна ператварала ягоны боль амаль што ў шчасце. Ведаў, што на любой дарозе і ў любой бездані, у любы час віхуры і ў любы момант слоты не пакіне яго жанчына, якую кахае.

Праз некалькі гадзін пасля гэтага, усяго ў гарачцы, у мроях, у неспакоі, знайшоў яго афіцэр, які ўваходзіў у камеру. Адразу ж, як толькі ўсунуў галаву ў прачыненыя дзверы, ён спытаў:

– Ці не *мешаю?*

– Не! Не! Не перашкаджае мне пан нічым. Прашу заходзіць! Я нават жадаў пабачыцца з панам.

Ён увайшоў, відочна ўзрадаваны такім павітаннем, і даволі дзіўна выглядала на ягоным твары, найчасцей панурым, хітраватая ўсмешка, з якой ён спытаўся:

– А што? Былі крэўныя пана?

– Былі, пане, былі! Так цешуся, што пабачыў іх, і толькі дзіўлюся...

– Чаму пан дзівіцца?

– Што дазволілі...

Афіцэр зноў усеўся на адзіны ў камеры драўляны столак, абапёрся далонямі на калені, а локці фантазійна расставіў.

– Хе, хе, хе, – ціха засмяяўся, – хе, хе, хе!

Шызыя вочы яго, што пазіралі ў разгарачаны твар вязня, мелі ў сабе нешта быццам бы апякунскае і адначасова гордае, здавалася, цешылі яго радасцю і адначасова прамаўлялі: “Вось бачыш, што я магу! Вось бачыш, які я!”

– *Вот,* калі ўжо дайшло да гэтага, то раскажу пану, як гэта было.

Ён кінуў неспакойны позірк на вялізныя зачыненыя дзверы і, нахіліўшыся да Авіча, шаптаў:

– Тут ёсць адзін чалавек, які займае вельмі высокі *пост.* Гэта мой таварыш з корпуса і мы яшчэ ў корпусе вельмі адзін аднаго любілі. А пасля аднойчы я ўратаваў яго ад вялікай бяды. Ды менш пра тое, якая гэта была бяда, і як я ратаваў яго. Але хоць ён займае высокі *пост* і многае можа, а я малы чалавек, тое ўсё ж было, і ён ніколі аб гэтым не забываецца. Ён любіць мяне, гэта мой праўдзівы *друг...*

– Дык гэта панскія плечы і пан дзеля мяне за іх станавіўся...

Ён згодна кіўнуў галавой.

– Я нават схлусіў яму і сказаў, што пан з’яўляецца маім *племянником.*

Аляксандр быў узрушаны.

– Дзякую! Не ведаю, чым апраўдаць...

– Ну, *вот!* Чым апраўдаць? Я палюбіў пана... *как-то сразу...* яшчэ там, у лесе... пан ведае Апольку... і я нават прыгадаў сабе, што ён мне пра пана казаў...

– Не, не! Гэта не тое... – ажыўлена запярэчыў вязень. – Пан наогул павінен быць... Мне казалі мае крэўныя, якія няшчасці маглі стацца... калі б там тады не было пана!

– Казалі, казалі пану аб гэтым!

Вочы ягоныя заіскрыліся радасцю, якая аднак хутка згасла.

– *Ну, да!* Але што ў гэтым *асаблівага*? Зверам хіба што трэба быць...

– Аднак жа, – не без пэўнай іроніі перапыніў Аляксандр, – пан з’яўляецца руплівым у сваёй службе. Падчас тагоператрусу пан быў больш строгі за свайго таварыша, і пасля там... на грэблі... я сам бачыў, з якой стараннасцю, з якім запалам...

Афіцэр выпрастаўся і з вялікай паважнасцю ў паставе і на твары перапыніў:

– Гэта быў мой абавязак. Раз я пайшоў на службу, то мушу служыць годна. Я з гэтага хлеб ем і павінен рабіць тое, за што хлеб гэты мне даюць, іначай я быў бы здрайцам, а здарада – гэта паскудная рэч, брудная. Пан гэта сам казацкаму сотніку казаў, і я адразу палюбіў пана! Пан гэта ведае...

– Не магу адмовіць пану ў слушнасці. Так ёсць, як кажа пан, – з такой самай паважнасцю, як прамаўляў афіцэр, адказаў вязень.

– *Ну, да!* Мне загадалі зрабіць *вобыск*, дык я павінен быў зрабіць яго яшчэ лепей, чым гэта рабіў бы іншы...

– А навошта яшчэ лепей...

– А *вот,* ведаеце, таму, што я польскага *происхождения* чалавек... дык на мяне можа ўпасці падазрэнне, што я здраджваю... І ў гэтым падазраваў мяне казацкі сотнік, то я хацеў паказаць яму, што *честь и совесть* мае чыстыя. Але забіваць бяззбройных і... розныя там *пошлости* даказваць... ніхто не загадае... гэта да службы не адносіцца. *Ну, да!* Гэта належыць да афіцэрскай службы наогул, каб такога не было... Бачыш, пан, што я і ў адзін бок, і ў другі бок абавязак свой выконваю...

Ён схіліў галаву, задумаўся.

– Здаецца, усё добра... У войску служыш, на вайну ідзеш, робіш тое, што *начальства кажа,* абавязак свой выконваеш, нічога іншага тут і быць не можа... а, *однако же*... цяжка... ой-ёй, як цяжка, які жаль... Усё ўсярэдзіне пераварочваецца...

Апошнія словы ён прамаўляў з абапёртым на далоні ілбом, цяжкім шэптам, такім, якім быццам прамаўляў да зямлі, да якой апусціў стомлены і пануры позірк.

– Чаму так цяжка? Чаго такі жаль? – спачувальна і з цікавасцю спытаў Авіч.

– А *вот*, каб жа я сам пра тое ведаў, то было б нармальна. Здаецца, што тут такога? *Глупостей* нарабілі... *мятеж*, бунт. Супакоіць трэба. На тое і войска, на тое і я, афіцэр. Смерці не баюся! *Трусам* мяне пан Бог не стварыў. *Однако же,* такі жаль, такі смутак, такі нейкі ўнутры цяжар... Думаю я, думаю, што са мной сталася, і не разумею.

Ён не мог зразумець тых інстынктаў, якія пачалі праяўляцца ў ім, не разумеў той іскры, якая доўга спала, а зараз пачала разгарацца пякучым полымем.

– Становішча страшнае! – шапнуў Аляксандр, а пасля ажыўлена выгукнуў: – Чаму пан, перш чым прыбыў сюды з войскам, не пажадаў сваёй дымісіі?

Нічога не магло б параўнацца з тым здзіўленнем, з якім афіцэр падняў на яго вочы.

– Дымісіі! – паўтарыў аслупянела. – *В отставку!* А што я пасля гэтага рабіў бы на свеце?

Была ў гэтых словах горкая і пераканаўчая праўда. Што ён рабіў бы, на адзінаццатым годзе жыцця аддадзены ў корпус, і з усіх на гэтым свеце работ толькі вайсковую службу ведаючы, але затое, аб чым не без пэўнага гонару казаў, ведаў яе выдатна, як рэдка хто, і любіць, і ганарыцца ёю дагэтуль... Толькі цяпер нешта дзіўнае сталася з ім...

У душу сваю глыбока ён не зазіраў. Не прывык. Былі хвіліны, калі бязмежны гнеў нараджаўся ў ім супраць тых *безумцев*, вар’ятаў, якія ва ўсім гэтым былі вінаватыя, і, калі на самоце ў сваім афіцэрскім жытле думаў пра іх, яму здавалася, што ненавідзіць іх, што імі, іхнім глупствам пагарджае, што з асалодай сцёр бы іх з паверхні зямлі. Але дастаткова было толькі аднаго спаткання, аднаго погляду, адной сустрэчы, часам адной пачутай весткі пра іх, гераічнай альбо трагічнай, каб зноў нейкія д’яблы, што раздражнялі і разрывалі яго, з’явіліся ўнутры. Сярод

гэтых д’яблаў аднойчы адкрыў аднаго, у якога ёсць імя: сорам. Ані не ведаў таго, чаго меў бы саромецца. Аднак менавіта той шайтан усю кроў кінуў у ягоны твар, калі ў часе таго вобыску ў тым двары кабета, удзячная яму за выратаванне сваіх сыноў, спытала, як яго звацца. К а р л а в і ц к і ! Гучанне гэтага прозвішча... Ні за што на свеце не здолеў бы вымавіць яго ў той час голасна. А казацкі сотнік пазіраў на яго з іроніяй, мо лепей яго разумеючы, чым ён сам сябе!

Але ніколі больш не паўтарыўся той дзень, тая фамільярная і дабрадушная весялосць, якая прасвятляла некалі ягоны пануры твар. Бавіўся зараз нядоўга, але перад адыходам яшчэ спытаўся ў Аляксандра, ці тая пекная панна, якая наведвалася сёння разам са сваёй маці, з’яўляецца ягонай нарачонай.

Сёння акурат адбыліся іхнія заручыны.

– Сёння? Дзе? Тут? Як гэта?

Авіча рассмяшыла ягонае здзіўленне.

Што ў гэтым дзіўнага? Кахаюць адно аднога з дзяцінства, але дагэтуль маці супрацiўлялася іхнім жаданням з нагоды сваяцтва і нейкіх іншых сваіх пачуццяў ці намераў... І толькі сёння прызналася, што ўжо не супраціўляецца, што заручае іх. Афіцэр зноў быў здзіўлены.

– *Вот как!* Раней не згаджалася, а зараз, калі пан... загублены чалавек... згадзілася. *Ну, это* ужо такое... як гэта сказаць... *благородство,* што чалавеку ажно галаву кружыць. Але ж як гэта будзе? Ці пан думае, што пана так і адпусцяць адгэтуль, без жаднага *наказания?* Гэтага быць не можа. Сашлюць пана туды, дзе горкі перац расце, і маёнтак, напэўна, адбяруць...

Шчаслівая ўсмешка расцвіла на твары вязня. Трохі прыціхлым ад летуценнасці голасам ён адказаў:

– Ведаю аб гэтым. Але і ў тым пэвен таксама, што нарачоная мая не пакіне мяне ані ў галечы, ані ў выгнанні, і што ў кожнай бездані, пасярод кожнай віхуры альбо слоты жыцця мы будзем наўзаем дапамогай сабе і збавеннем.

Афіцэр хвіліну стаяў моўчкі, апусціўшы вочы долу. На ягоным белым ілбе з’яўляліся і знікалі маршчынкі. Былі гэта хвалі, узнятыя новымі дзіўнымі думкамі, у якія ён узіраўся, якія намагаўся зразумець. І, можа, не толькі думкі. Выраз летуценнасці, які пакрываў твар вязня, закраўся і ў ягоныя вочы. У іх адбілася нейкая раптоўна паўсталая туга.

– Слічна пан сказаў пра гэта... *вот* гэта праўдзівая паэзія... праўдзівая... і вера ў чалавека, якога любіш...

А пасля з выбухам перамяшаных пачуццяў прыязнасці і зайздрасці:

– *Ну, да!* Шчаслівы з пана чалавек!

– Хоць і загублены? – усміхнуўся Аляксандр.

– *Ну,* не зусім загублены. Ды хоць патрапіў пан у бяду, *однако же,* шчаслівы!

Калі, адыходзячы, ішоў да дзвярэй, ягоныя крокі здаваліся цяжэйшымі, чым звычайна.

Даволі доўга пасля гэтага ён не заходзіў, але ж прыйшоў зноў і адразу пасля прывітання паведаміў, што быў нездаровы, і што яму наогул нядобра на целе і ў душы. Тады чаго, думаў сабе, меў у такім настроі прыходзіць? Разважаў нават над тым, каб ужо наогул не з’яўляцца і сваёй прысутнасцю не замінаць вязню, не дакучаць...

– Бо дзе мне да вас? І што вам са мной за забава? Вы горны чалавек, а я звычайны, з *низменности,* з нізін...

Але не мог вытрымаць. Нешта цягне яго сюды. Хацеў бы спытацца пра некаторыя рэчы, паразважаць пра іх і, калі Авіч дазволіць, то яшчэ гэтым разам...

Так, вядома, разумеецца! Не толькі гэтым разам, але колькі разоў пан захоча. Хіба ж не аказаў яму і блізкім яму асобам важных паслуг? Хіба насуперак таму, што іх падзяляла, не былі звязаны супольнай радзіннай зямлёй і мо яшчэ нечым болей?..

– Чым жа? Чым жа? Якое між намі можа быць падабенства? – з нахабствам дапытваўся афіцэр. Відаць, гэтае падабенства моцна турбавала яго.

– Хіба пан пачувацца шчаслівым? – наўзаем спытаўся Авіч.

Ён зрабіў рукой нечаканы жэст.

– *К чёрту такое счастье!*

– Але, бачыш, пан! Адзін з нас такім чынам, а другі – такім, а абодва...

– Разумею ўжо, разумею, і гэта праўда! – панура пазіраючы ў дол, дакончыў афіцэр.

Ягоныя шчокі былі значна менш, чым раней, румянымі і поўнымі, нават плечы здаваліся менш шырокімі і мундзір атуляў іх менш цесна.

Вельмі выразна схуднеў і збялеў. Авічу таксама кожны прамінулы дзень пакрываў твар усё больш прыкметнымі плямамі вязневых пакут. Ягоныя блакітныя вочы здаваліся вялізнымі на схуднелым твары, маладое цела, пазбаўленае свабоды рухацца, набралася цяжкасці, грудзі, прызвычаеныя да паветра, да шырокіх і вольных прастораў, часам дыхалі з цяжкасцю.

Некалькі хвілін яны пазіралі адзін на аднаго, а пасля аднолькава, паразумеўшыся, страсянулі галовамі.

Афіцэр сядзеў на столку, але локці не расстаўляў, абапёрся імі на калені і, сціснуўшы галаву абедзвюма далонямі, казаў:

– Я пра Апольку заўсёды думаю... Днём яшчэ нічога, але ноччу ён заўсёды стаіць нада мной, такі, як я яго там, на траве, бачыў, з той чорнай дзіркай пасярод ілба... Пытаюся ў яго... Ён быў разумным хлопцам, школу скончыў і быў на другім курсе *университета...* То я ў яго пытаюся: “Якім чынам ты, такі разумны хлопец, не ведаў і не разумеў...” Але не толькі ён! Вы ўсе, з навукай, з розумам, якім чынам маглі не ведаць таго і не разумець, што гэта *безумие – сумасшествие* паўставаць супраць такой моцы... Я ў яго пытаюся: “Чаго ты, каханы мой хлопец, з матыкай супраць сонца скакаў?” Ён мне нічога не адказвае, але наступнай ноччу прыходзіць зноў, становіцца нада мной з той жа дзіркай у галаве і толькі *губами* варушыць, а мне здаецца, што *губы* гэтыя прамаўляюць: “Гэта ж ты сам, браце, скамандаваў жаўнерам: страляць!”

Тады я крычу да яго, што выконваў сваю павіннасць, а ў яго зноў варушацца *губы* і прамаўляюць: “Ты добра зрабіў, але ты і плакаць па мне не павінен, бо я быў ворагам таму, каму ты прысягаў служыць”. *Ну,* то і што, што добра зрабіў і што не павінен плакаць? Я *плачу,* бо ён *дорог* мне быў, бо гэта была мая кроў... І ўсе вы мая кроў, я адчуў гэта зараз, калі спазнаў вас...

Ён раптоўна падняў галаву, утаропіў здзіўленыя вочы ў твар Аляксандру.

– Пан быў некалі ў Пецярбургу?

Пытанне было нечаканае, адказ сцвярджальны. Як жа не? Ведае добра гэты горад, чатыры гады прабыў там, калі вучыўся, амаль год, як з’ехаў адтуль. Афіцэр і далей задуменнымі вачыма пазіраў на яго.

– Якія багацці? Га? Якія палацы, усё аздоблена дарагім каменем! Мармур, граніт, малахіт, золата паўсюль. А якія парады! А ваенныя агляды войска бачыў пан? Га?

І багацце, і палацы, і парады, і агляды Авіч бачыў і нават зблізку прыглядаўся да іх.

– А якія сілы маюцца ў нашай арміі, ці ведае пан?

І перакананы, што аб гэтым прадмеце вязень дастатковых ведаў мець не мог, пачаў грунтоўна пра ўсё расказваць. Гэтулькі і гэтулькі карпусоў, дывізій, палкоў у пяхоце і кавалерыі, на такія і такія роды і атрады падзелена артылерыя, а ў кожным з атрадаў знаходзіцца столькі і столькі гармат, коней і людзей. Найлепшыя камандзіры, альбо генералы карпусоў і дывізій, называюцца так і так, маюць за сабой такія і такія пераможныя бітвы, вайсковую дасведчанасць,

усё, што патрабуецца, каб кожнага непрыяцеля, хай сабе самага моцнага, разбіць, знішчыць, раздушыць...

Распавядаў доўга, падлічваў, высвятляў, і чым даўжэй прамаўляў, тым больш горкай станавілася ягоная мова. З адчуваннем шанавання, выкліканага разуменнем той збройнай магутнасці, якую маляваў словамі, з адчуваннем гонару, што сам станавіўся часцінкай гэтай магутнасці, здавалася, знікаюць і змаўкаюць тыя згрызоты, сумненні і жаль, ад якіх схуднелі і збялелі ягоныя шчокі, якія спараджалі ягоныя бяссонныя ночы з прывідам забітага брата, што стаяў у галавах.

Узамен яго пачаў апаноўваць гнеў, які даймаў усё больш, і падчас таго вобыску ў тым двары ён крычаў на ўсё горла.

Ён пачаў бегаць па камеры, насупліваючы бровы, размахваючы рукамі.

– І вы, вы, жменька людзей *невайсковых,* маленькая жменька, без войска, без гармат, *без крепости,* без слаўных ваеначальнікаў, без *скарбу* супраць такой магутнасці выступілі! *Ведь это есть безумие, сумасшествие, самоубийство, чёрт знает что такое*... І каб жа гэта рабілі людзі неразумныя, цёмныя, а то ж не! Сярод тых, што рабілі гэта, мала неразумных і цёмных. Самы цвет народу... самае ягонае святло... Я гэтага зразумець не магу і я б вас за гэта... *чёрт побери,* караў, саджаў у *турму*, ссылаў...

Раптам ён зноў сеў на столак і абедзвюма рукамі абхапіў галаву.

– Ой, Аполек, ты, Аполек, браток ты мой няшчасны! Не праклінай ты мяне на тым свеце за тое, што я зараз кажу! Мне *скорбно, жалостно,* мне страшна, у мяне ўсё ўсярэдзіне пераварочваецца, калі я кажу гэта... Ты быў разумнейшы за мяне, меў навуку... а зараз кожнай ноччу прыходзіш да мяне... Чаму ж ты не скажаш мне, што ты думаў, у што верыў, што табой *руководило,* калі ты тое рабіў?

Той хвілінай, калі пытаўся пра гэта, ягоная далонь лагодна, з братэрскай фамільярнасцю спачывала на плячы вязня.

– Я раскажу табе, браце Аполька, аб тым, што кіравала ім, калі ён тое рабіў. Ён любіў Айчыну і вольнасць. Ці ведаеш ты, што такое Айчына? Ці ведаеш ты, што такое вольнасць? Не! Ані адной, ані другой ты нават не бачыў! І яшчэ: ён ненавідзеў няволю. Ці ведаеш ты, што такое няволя? Не, ты ніколі не адчуваў, чым з'яўляецца яна, бо ты сам быў яе слугой. І яшчэ: ён любіў даўнюю славу свайго народа. Ці ведаеш ты, якая гэта была слава? Не: табе ніхто не паказаў ні аднаго промня з яе кароны, ніводнага кавалачка яе святочнага ўбору. Таму ты не можаш зразумець, што ў тую няроўную бітву падштурхнула Апольку, што ў яе штурхала ўсіх нас, якія буры шалеюць у грудзях чалавека, таптанага нагой мацнейшага, і які неперамножны запал вырывае яго з-пад гэтай нагі, каб выпрастацца, узняць галаву, расправіць плечы і стаць з раба чалавекам, вольным чалавекам... Гэта законы прыроды, якія ажылі ў нас, гэта воля Бога, які кожнаму чалавеку і кожнаму народу даў душу асобную і вольную, гэта крык нашай душы да свету, да зямлі, да неба, што жывём і што жывымі ніхто не мае права кінуць нас у магілу. Загінем – хай сабе, але гэты наш крык, крывёю і слязамі паліты, застанецца ў паветры, і тым, што прыйдуць пасля нас, не дасць памерці, і сонных зрываць будзе з пуховых пасцеляў, і станецца сном чорным і сном залатым для народа, і падганяючым яго да вечнай бітвы бізуном, і тады толькі адгучыць, калі пераможа ідэя.

Але хіба ж думаў ты калі-небудзь, што гэта такое – ідэя? Не; ты кажаш: ідэя гэта *глупость.* Але ж ты не разумееш таго, што ідэя гэта сіла, мацнейшая за тваю пяхоту і кавалерыю, за твае гарматы і слаўных генералаў, бо войска гэтай ідэі – найлепшыя людскія галовы і сэрцы, а поле яе бітваў – вякі. Сцертая сёння на пыл гарматнымі стрэламі ідэя адродзіцца заўтра, і рана ці позна ёй будзе належаць канчатковая перамога, і яна з'яўляецца вышэйшым розумам над колькасцю тваёй арміі, над тваімі пецярбургскімі гранітамі і малахітамі, над тваімі здзекамі і гневам – бо гэта сама праўда свету і Бога.

Аляксандр упаў на зэдаль змэнчаны, узрушаны, цяжка дыхалі ягоныя ўпалыя ў камерным паветры грудзі, а за крок ад яго той, хто сядзеў на столку, падняў твар з белым ілбом і шызымі вачыма, якія пад рудаватымі брывамі гарэлі як прысак.

– Я зразумеў... Можа, не ўсё, але многае з таго, што казаў пан, я зразумеў. Так ёсць. Ідэя – гэта не *глупость*. Можа, вы альбо вашы *наследники* і зробяць так, што жыць на свеце стане лепей. А зараз я скажу вось што! Не пан з'яўляецца загубленым чалавекам, хоць пана чакае Сібір, але я... Таму што пра такія рэчы ніколі не думаў, не ведаў... Я загублены чалавек... Каб і генералам стаў, то адчуваю... што ўсё адно загублены!

Ён ускочыў са столка, зірнуў на гадзіннік.

– А *всё таки* трэба на службу.

Моцна страсянуў руку вязня.

– Дзякуй пану! Дзякуй! Дзякуй!

За што так горача і доўга дзякаваў? Ці за вытлумачэнне яму цемры, у якую ўзіраўся напалоханымі вачыма? Ці за абуджэнне ў ягонай галаве думак, вышэйшых за штыкі, гарматы, малахіты, граніты і вайсковыя агляды? Ці мо за тое братэрскае т у т, якое ў голасе Аляксандра загучала яму рэхам голасу Апалькі?

Наступнымі днямі яшчэ некалькі разоў прыходзіў у камеру да вязня, але быў нядоўга, бо меў нейкія важныя службовыя справы, што адбіралі ягоны час. Аднак размаўлялі між сабой, хоць заўсёды мала, пра розныя рэчы, будзённыя і небудзённыя. Афіцэр крышку расказваў вязню пра сваё жыццё, афіцэрскае жыццё, якое па-за службовымі абавязкамі запаўнялі карты, кабеты, гулянкі. Адно толькі, што ён не быў п'яніцам. Астатняе ўсё як і ва ўсіх іншых...

– Подлае жыццё! – прамовіў ён аднойчы. – Чым гэтак жыць, то, можа, лепей так, як Аполек...

Пасля нейкі час Авіч не бачыў яго, аж аднойчы...

## VI

Аднойчы капітан Апалінары Карлавіцкі выйшаў ад свайго прыяцеля, які стаяў на высокім *посту,* быццам аглушаны і аслеплены, моцна ўражаны і прыгнечаны. Штосьці чорнае вісела ў яго перад вачыма, невядома што цяжкае было ў ягонай галаве, нешта страшнае калаціла ягонае сэрца.

На свеце быў ужо жнівень; над зямлёй, убранай у жоўтае іржышча, час плыў у чорных шатах і іхнімі берагамі тут і там чапляўся за выразна бачныя ў блакіце неба лініі шыбеніц.

Лясы апусцелі, і ўжо розгалас збройных бітваў перастаў палохаць птаства, якое збіралася для адлёту ў вырай; затое напоўніліся і перапоўніліся людзьмі вязніцы; запоўніліся і перапоўніліся людзьмі жалезныя вазы, што вывозілі людскія грамады ў мясціны неаглядных даляў і нязмерных пакут.

Па гарадах і дарогах зазвінелі кайданы, разляцелася па шырокім краі слова: к а т а р г а.

Над дахамі вясковых хат узвышаліся стройныя італьянскія таполі і ў ціхай жнівеньскай лагоднасці маўкліва слухалі ля сваіх ствалоў шумныя, напышлівыя, пераможныя, дагэтуль не чутыя гамонкі на чужой мове.

Ці былі тыя таполі вышэйшыя за чорныя і выразна ў блакіце неба бачныя лініі шыбеніц? І ці бачылі гэтыя палі з жоўтым іржышчам тыя лініі, што паўставалі каля нізкіх сцен мястэчак і ля высокіх муроў местаў?

Кожнае мястэчка і кожнае места мелі свае шыбеніцы. Яны сталіся спадарожнікамі людзей, малюнкам для іхніх вачэй, прадметам думак і прыправай да хлеба.

Ад правіцеля краю ў месты і мястэчкі прыбыў загад, каб у кожным з іх пэўная колькасць людзей дастала на свае шыі вяроўкі. Абавязкова і як мага хутчэй.

Лічба гэтых прадметаў найвышэйшай кары і помсты была канкрэтна вызначана для кожнага места і мястэчка. Тут мела быць іх тры, там – пяць, недзе дзесяць і г.д. Выбар быў за тымі, хто на кожным месцы вывучаў і даследаваў правіну. Капітану Карлавіцкаму пра гэты загад расказаў ягоны высока пастаўлены прыяцель, а таксама пра тое, што на мястэчка, у якім яны знаходзіліся, прыпала тры будучыя вісельнікі.

На каго ўпадзе выбар, прыяцель не ведаў, затое з жалем мусіў паведаміць – і да гэтага хацеў падрыхтаваць свайго даўняга прыяцеля, што выбар можа ўпасці, між іншым, і на *пляменніка* прыяцеля, гэта значыць, на Аляксандра Авіча.

– Як гэта? Бог з табой! Гэтага не можа быць! Гэта толькі для тых, што ўцяклі з войска, альбо зрабілі нешта страшнае... Але ён...

Ён! Гэта праз яго, менавіта праз яго загінула амаль цэлая вайсковая рота, быў забіты малады і здольны казацкі афіцэр, а на войска звалілася гэткая ганьба.

– Зразумей жа ты, Апалінары, што гэта велізарная віна, а твой крэўны прымнажае яе яшчэ і паводзінамі, якія дэманструе ў адносінах да камісіі. Праўда, ён прызнае свае злачынства, але што здзейсніў яго, не выказвае ані ценю жалю. І нічога больш, акрамя таго, што здзейсніў яго, сказаць не хоча. Скрытны ён, ганарысты, запальчывы. Вылятаюць у яго часам адносна суддзяў словы неабачлівыя, якія, праўда, ён хутка стрымлівае, але якіх, калі адзін раз выляцяць, то з памяці ўжо не сатрэш. Суддзі не любяць яго і лічаць адным з самых небяспечных, самых шкодных. Маюцца таксама абвінавачванні яго людзьмі староннімі. Пашыраў бунт, намаўляў да ўдзелу іншых, збіраў зброю, ягоная служба прывозіла ў лагер *мятежников* правіянт... Вельмі, вельмі верагодна, што выбар суддзяў сярод іншых выпадзе і яму таксама. Зразумей жа, Апалінары, што я не з'яўляюся членам камісіі, што гэта не адносіцца да мяне, і я паўтараю толькі тое, што чуў ад іншых, а паўтараю таму, што люблю цябе, як сваю душу, і хачу, каб тое, што моцна забаліць, ты пачуў з вуснаў зычлівых. Бо гэта ж бяда мець крэўных сярод такіх... і яшчэ любіць іх! Я шкадую цябе, *голубчик,* і ўсё, што ў маіх сілах, буду рабіць, каб гэтага не сталася, каб гэта адмянілася. Але ж я не ўсемагутны, і нават калі ўратую яго ад шыбеніцы, то ўжо ад катаргі аніяк... Калі не на шыбеніцу, то на катаргу мусіць пайсці... Калі не за свае злачынства, то за ганарыстасць і за замкнутасць, за тое, што суддзяў сваіх супраць сябе настроіў. На гэта я ўжо аніяк не магу паўплываць...

Прыяцель, які стаяў на высокім *посту,* не быў чалавекам злосным, ён быў нават удзячным і літасцівым чалавекам.

Яшчэ адно можа зрабіць ён для крэўнага прыяцеля. Упрасіць членаў камісіі, каб яшчэ раз паставілі яго перад сабой і спыталі, ці не апамятаецца, ці не памякчэе, ці не згадае розных там справаў, пра якія ў яго безвынікова пыталіся. Гэта магло б улагодзіць іх і стаць да яго трошкі памяркоўнымі...

– Я зраблю так, што ён яшчэ раз будзе выкліканы ў камісію, а ты, Апалінары, папрацуй над ім, каб скарыўся, памякчэў, адкрыўся...

Афіцэр падзякаваў свайму высока пастаўленаму прыяцелю за ягоную прыязнасць, за ягоны добры намер, але доўга размаўляць не мог, бо нешта душыла яго за горла і за галаву так, што адбірала думкі і мову. Адно толькі, што запытаў яшчэ:

– Як хутка гэта можа наступіць?

– Што?

– Ну, як хутка будзеце вешаць?

Прыяцель жахнуўся:

– *Помилуй,* Апалінары! Хіба ж гэта я?

– Не, не ты, не ты, *голубчик,* але як хутка?

– Праз тыдзень, дзён праз дзесяць самае большае. У загадзе сказана: неадкладна!

– Добра. А гэты выклік у камісію?

– Можа, дзён праз пяць альбо шэсць... Не хутчэй, бо яны там работы маюць *пропасть!*

– Дазволіш даведвацца?

– А як жа! Вядома.

– Кожны дзень?

– Кожны дзень, Апалінары, *я к твоим услугам,* і яшчэ... ніколі цалкам не адплачу...

Ён спускаўся па сходах ад высока пастаўленага прыяцеля як аглушаны і асеплены, і калі выйшаў на вуліцу, вочы ўсё яшчэ засланяла чырвоная цемра. Прыяцель быў добрым да яго і да ягонага *племянника,* але праўдзіва казаў, што ўсемагутнасці ў сваіх руках не трымаў.

Капітан Карлавіцкі забыўся пра тое, што схлусіў перад прыяцелем і што Авіч не з'яўляецца ягоным крэўным. Некалькі разоў назваў яго ў думках сваім *племянником,* а няспынна адчуваў, што ягонае сэрца і галава баляць, як бывае ў тых, што ідуць за трунoй самых дарагіх сваякоў. І яшчэ горай, бо аб пахаванні, якое наступіць хоць праз дзень, хоць праз два, вядома загадзя, а гэта звалілася так неспадзеўкі. Ведаў і да гэтага, што нейкія беды мусяць стацца. Напэўна, адбяруць маёнтак, вышлюць у Сібір; але гэта яшчэ хай сабе... Такі зух і без маёнтка, і ў выгнанні... асабліва з той нарачонай... З выгнання людзі вяртаюцца... Але шыбеніца! Катарга альбо шыбеніца! І выбірай тут, чалавеча, што горай, а што лепей! Адно і другое, як пачвары, пазіраюць яму ў вочы. Шыбеніцу бачыць так выразна, быццам на самай справе яна стаіць перад ім, і звон кайданоў чуе. І стук малаткоў таксама, і свіст бізуноў... *Чёрт знает,* што гэта за свет! Што за людзі! Якое гэта нашае жыццё!

Перайшоў вуліцу мястэчка, нічога і нікога не бачачы, і апынуўся ў полі. Тут павевы ветру крышку астудзілі яго. Спыніўся, зірнуў на гадзіннік, падумаў: мо мае нейкія службовыя абавязкі? Мо трэба вяртацца да іх? Не; на шчасце сёння ўсё, што было да выканання, ужо зрабіў і ажно да канца дня меў вольны час. Таму пайшоў далей па дарозе, якая бялела сярод жоўтага іржышча, і неўзабаве ягоная плячыстая постаць з апушчанай галавой знікла ў недалёкім лесе.

Набліжаўся вечар, над лесам вісеў толькі беражок сонца, калі ён вяртаўся ў мястэчка. Некалькі гадзін правёў у адзіноце са сваімі самотнымі думкамі, пакуль хадзіў па лясных дарогах альбо сядзеў на паваленых калодах пад парасонамі соснаў, пад птушынае шчабятанне, сярод паху вільготных імхоў.

І мо прырода і адзінота напоўнілі яго супакаеннем. Рысы твару сталі лагоднымі, галава паднялася, крок быў упэўнены і мерны. Крочыў хутка, а калі апынуўся на вуліцах мястэчка, пачаў ісці яшчэ хутчэй. Ішоў проста ў напрамку вязніцы.

Як толькі зачыніліся за ім дзверы камеры Авіча, без слоў прывітання спытаў:

– Дзе жыве нарачоная пана?

– Дык сёння ж яна і маці яе былі тут! – весела выгукнуў Авіч.

– То, можа, яны яшчэ ў мястэчку?

– Не, проста адсюль паехалі дадому...

– А дзе той дом? Дзе дом той? Як называецца той маёнтак? Колькі вёрст адсюль? – сыпаў пытанні афіцэр, і цяпер зноў можна было прачытаць у ягоных вачах пакуты душы, гарачку цела.

Авіч, усцешаны новым спатканнем з нарачонай, смяяўся.

– Навошта пану такія звесткі? І што азначаюць гэтыя пытанні? Няхай пану не прыходзіць у галаву закахацца ў маю нарачоную...

– Жартуеце, а я *серьезно...*

Упаў на столак перш, чым сеў на яго. Правёў рукой па галаве.

– Я змэнчаны! Але вось што... *по делам* службы мяне пасылаюць у вёску. Мо недзе там блізка жыве нарачоная пана? Хацеў бы сустрэцца, пазнаёміцца, скласці шанаванне ёй і яе маці...

Авіч прыязна адказаў:

– Вядома, вядома! Будуць радыя пану. У мае цёткі заўсёды слёзы ў вачах, калі ўспамінае пана. “Крычаць, – кажа, – то крычаў і абразліва лаяў жаўнераў, але ад страшных няшчасцяў уратаваў!” І за тое, што яна можа сустракацца са мною, вельмі пану ўдзячная. Усцешацца, калі пан адведае іх. Ці мае пан з сабой нататнік і аловак, каб запісаць назву маёнтка, бо назва цяжкая для запамінання і пан можа забыцца альбо пераблытаць.

Ён меў з сабой нейкі сшытачак, патрэбны для выканання службы, і разам з алоўкам падаў яго Авічу. Той ужо меўся пісаць, але затрымаўся і задумаўся.

– А мо тую назву і як туды ехаць напісаць пану па-расійску... пан лепш прачытае... можа, калі спехам.

Сцвярджальна кіўнуў галавой і пільна пазіраў на Авіча, які натаваў у малым сшытачку некалькі слоў па-расійску.

– Пан гэтую мову ненавідзіць?

– Меў бы ненавідзець мову? У чым яе віна? Хіба гэта яна падбухторвае, бярэ ў няволю, крыўдзіць, прыгнятае?

Вусны афіцэра ўсміхнуліся цяпер паважна.

– *Ну, да!* Але ж людзей, якія гэтай мовай паслугуюцца, то пан напэўна *ужас как* ненавідзіць.

Авіч паціснуў плячыма.

– Не ўсіх. Тых, якія мардуюць маю маці і даймаюць братоў, ненавіжу, але тых, хто жыве недзе там далёка і аб гэтым не думае і ніякай карысці з гэтага не мае, толькі шкадую, бо злосць, як атрута, пранізвае ўвесь арганізм, і можа пераліцца і ў іх. Ведаеш, пан, што...

Ён сарваўся з зэдаля і з энергічнымі жэстамі закончыў:

– З маёй натурай нянавісць не ў згодзе. Я хацеў бы любіць усіх людзей, з усімі быць у згодзе... Але што ж, калі гэткі свет!

– Гэткі свет! – быццам рэха, паўтарыў афіцэр.

Але вязень аб балючых рэчах гаварыць доўга сёння не хацеў. Быў увесь ружовы ад сённяшняй сустрэчы і ад сённяшняй размовы. Ягоны позірк упаў на адчыненую ў акне фортку.

– Які цудоўны надвячорак! – усклікнуў. – Паглядзі, пан!

Над лесам стаялі барвы надвячорку, бадай што, ужо зусім асенняга, яркага, але журботнага. Атачалі ўсё гэта агні прыгаслыя, таямнічыя, і выплывала з-над іх возера бледнага золата.

Дзве пары задуменных людскіх вачэй праз акенца вязніцы пазіралі на гэтыя пышныя аздобы неба. Праз хвіліну вязень пачаў казаць:

– Ці пан, пазіраючы на гэты надвячорак, нічога, акрамя яго, не бачыць? Ці пану нічога на гэтай паверхні не ўяўляецца? Я ж бачу. Мне ўяўляецца тут, на гэтым залатым возеры, мой радзінны дом, што стаіць над возерам, мая любімая Азярына, якую ўжо мо ніколі не ўбачу. Невялікая сядзіба, не пышная, але такая мілая, дарагая, звязаная з кожным нервам майго цела, з кожнай струной маёй душы. Вось тут, пад гэтай фіялетавай хмаркай, стаіць невялікі дамок, як усе нашыя, белы і з ганкам, а там далей – італьянскія таполі, а там – стары вяз пасярод дзядзінца, па якім бяжыць сабака Нестар, улюбёнец маёй нябожчыцы маці...

Ён неяк ціха засмяяўся і зноў паказаў на паласу цёмнага фіялету, у далёкіх глыбінях налітага палымнеючым бляскам.

– А на той цёмнай паласе, палымнеючай знутры, ведаеш, пан, што бачу? Сібірскую хату, далёка-далёка, пад святлом паўночнага надвячорка, а на яе парозе

стаім мы ўдвух... А пан што бачыць? Ці наогул нічога? Гэтага не можа быць! Скажы, пан, шчыра...

Ён змоўк на палове фразы і хуценька перанёс позірк на таварыша, здзіўлены ягоным нечаканым рухам. Афіцэр раптоўна рвануўся ад акенца і закрыў вочы рукой, якая дрыжала. Нешта ўбачыў і ён на залатым надвячоркавым возеры. Убачыў рэзка вымаляваныя на ім чорныя лініі...

Адымаючы руку ад вачэй, пачаў паспешна прамаўляць:

– Ну, нічога! Нічога! Вочы забалелі ад пазірання на гэтую светласць. Мне ўжо час ісці. Дні са тры буду ездзіць па *службе* і не ўбачу пана. Бывай, пан, здаровы!

Стаяў ужо каля дзвярэй. Але затрымаўся яшчэ.

– Будзь здаровы! – паўтарыў.

А пасля праз акруглае акенца ў дзвярах:

– *Отворить!*

Але неяк не так голасна і цвёрда, як звычайна.

Лёгка атрымаў трохдзённы водпуск і напрыканцы трэцяга дня вярнуўся ў мястэчка. Адразу пайшоў да высока пастаўленага прыяцеля.

– Дакучаю я табе, *голубчик,* але гэта ўжо апошні раз... Пазней ужо ніколі не буду. Што з тым выклікам майго *племянника* ў камісію? Калі?

– Заўтра вечарам!

Радасць бліснула ў ягоных вачах.

– Вечарам! Гэта добра, добра!

– Чаго ты так усцешыўся, Апалінары?

– Буду мець яшчэ цэлы дзень для ўгавораў...

– Угаворвай, угаворвай, каб скарыўся. Ад гэтага залежыць усё.

– Але, дарагі, зрабі ты мне яшчэ адну ласку. Няхай я сам правяду яго ў камісію. Не жаўнеры, а я сам. Ведаеш, як будзе ісці з жаўнерамі, то ў ім зноў узбунтуецца польская і шляхецкая душа, а са мной гэта нешта іншае. Я яго яшчэ па дарозе да апошняга моманту... разумееш? Апошняе ўражанне.

– Разумею! Як ты, *однако же,* Апалінары, схуднеў, і якая *печаль* у тваіх вачах! Я шкадую цябе. Папрашу, каб далі табе *бумагу... по приказанию...*

Капітан Карлавіцкі абняў з хлапечых гадоў таварыша, невядома чаму пазіраў на яго доўга-доўга і нарэшце шчыра яго пацалаваў.

– Хай Бог будзе з табой! Хай будзе з табой Бог! Я табе ад усяго сэрца дзякую... за ўсё!

– Што з табой? Быццам некуды выязджаеш і развітваешся! Але і праўда, жывучы тут цяпер, можна розум страціць. *Ужасы такие!* Я паслаў ужо просьбу, каб мяне перавялі адсюль, хоць на Камчатку альбо куды-небудзь яшчэ. Не магу болей трываць і рук сваіх ва ўсім гэтым *марать* не хачу.

Капітан выйшаў ад свайго прыяцеля з дзіўна спакойным, улагоджаным тварам. Перад гэтым яго даймала трывога, ці не прыпадзе гэты выклік у камісію на дзённыя гадзіны, хоць меў надзею, што станецца тое вечарам, бо камісіі, занятыя велізарнай колькасцю паседжанняў, працавалі днём і ноччу. Зараз ён упэўніўся ў нечым для сябе вельмі важным, і гэта надавала яму выгляд чалавека задаволенага. І яшчэ, няшмат аб гэтым думаючы, адчуваў унутраную радасць ад таго, што высокапастаўлены прыяцель, добры і любы яму чалавек, хоча пакінуць гэты край і рук сваіх *ужасами* гэтымі *марать* не жадае.

Намаўляць Авіча, каб стаў пакорлівым, памякчэў, казаў тое, аб чым будзе пытацца камісія, ён нават не думаў. Ведаў наперад, што намова карысці не прынесла б, зрэшты, і не хацеў, каб цаной хай сабе жыцця ягонага і свайго заплаціць давялося. Ахвотна толькі ў думках разважаў пра гэта, але надзвычай выразна адчуваў, што калі б так сталася, што Авіч згадзіўся, памякчэў, пачаў сведчыць,

было б гэта для яго нечым такім, як сонечнае зацьменне альбо расцярушванне прахам усіх тых каштоўнасцяў, якімі захапляліся ягоныя вочы.

Аднак, нягледзячы на тое, што з праводзінаў вязня да месца паседжання камісіі не намерваўся рабіць такіх захадаў, пра якія казаў прыяцелю, радасць маўклівая, але глыбокая, напаўняла ягоныя вочы, калі ўзяў у рукі абяцаную *бумагу*. Схаваў яе пад мундзір на грудзях і пайшоў некуды на ўскраіну мястэчка, дзе бавіўся даволі доўга, аж нарэшце, трохі апераджаючы вызначаную гадзіну, падаўся да вязніцы. Уваходзячы ў камеру Авіча, прамовіў адразу:

– Пана выклікаюць у камісію, і я маю пана туды правесці.

На вязня гэтая навіна зрабіла прыкрае ўражанне. Не чакаў яе; думаў, што следства ўжо закончана. Але калі трэба, то трэба! Чаго тыя людзі хочуць ад яго яшчэ? На што спадзяюцца? Павінны ж былі нарэшце зразумець, што не выб'юць з яго ніводнага слова больш за тое, што ўжо расказаў. Хутка тое наступіць? Сёння? Заўтра? Зараз? Афіцэр упрасіў, каб яму дазволілі правесці яго туды, бо мо не так прыкра будзе, як з фельдфебелем і жаўнерамі.

Аляксандр, узрушаны, пацiснуў яму руку.

– Які ты добры да мяне, браце!

– *Ну,* што там! Што там! Я для цябе гатовы *Бог знает что!..*

Дзіўныя ў людзей бываюць часам прадчуванні, гэткія апераджальныя парыванні душы. У гэтую хвіліну гэтыя двое людзей упершыню пачалі казаць адзін аднаму “ты”!

– Ну, – прамовіў афіцэр, – нам пара ў дарогу!

Праз прачыненыя дзверы гукнуў:

– *Смотритель!*

Выкліканы наглядчык адразу ж увайшоў у камеру; Карлавіцкі дастаў з-пад мундзіра паперу і паказаў яму:

– *По приказанию...*

Абодва выйшлі з камеры, прайшлі па розных калідорах і сходах, перад выйсцем з будынка Карлавіцкі зноў паказваў некаму паперу. Усе вартавыя салютавалі ротнаму кіраўніку.

Калі апынуліся на вуліцы, афіцэр узяў вязня пад руку і пачаў ісці хуткім крокам. Аляксандр дыхаў на поўныя грудзі.

– Ах, – прамовіў ён, – хоць хвіліну падыхаю свежым паветрам, што за раскоша! Але чаму ідзём так хутка?

І не даў таварышу часу на адказ, бо нешта сам сабе згадаў.

– Так, так! Ты бачыў маю нарачоную і яе маці! Ты быў у іх? Як яны маюцца? Што там чуваць?

Вулічкі мястэчка былі цёмныя і амаль пустыя; толькі калі-нікалі двое паспешлівых людзей сустракаліся з прахожымі, якія спяшаліся і былі абыякавыя да ўсяго, што іх саміх не датычыла. Аднак афіцэр амаль да шэпту панізіў голас і апавядаў:

– Твая нарачоная – паненка цуд! Адважная, для цябе гатовая на ўсё. *Вот польки-то какие!* Я раней ніводнай не ведаў! Мы з ёй шмат, вельмі шмат гаварылі аб розным... раіліся. І я скажу табе, што ў яе не толькі *красота* і сэрца, але і розум...

Гаворачы, ён усё прыспешваў крок.

– Чаго мы так бяжым? – зноў здзівіўся Аляксандр.

– Так трэба! – адказаў афіцэр і ў ягоным голасе загучала нотка *командира,* які аддае загады.

У канцы вузкай вулічкі ўжо быў відаць аднапавярховы будынак, у якім засядала камісія. Усе вокны гэтага будынка былі асветленыя, перад ганкам гарэла лятарня, і ў яе святле паблісквала зброя вартавых.

Яшчэ некалькі, яшчэ колькі крокаў, і афіцэр раптоўным рухам збочыў у нейкі

цесны, брудны пераход паміж нейкімі напаўразваленымі будынкамі і платамі, пацягнуўшы за сабой вязня.

– Што гэта? Куды? Куды мы ідзём?

– Маўчы! – шапнуў афіцэр, і хоць гэта быў шэпт, у ім прагучаў цвёрды, амаль грозны загад.

Рукой, бы жалезным абручом, ён сціскаў руку вязню.

Будынкі і платы станавіліся радзейшымі, ужо можна было ў змроку заўважыць за імі поле.

Рука Аляксандра, нягледзячы на жалезны ціск афіцэра, пачала дрыжаць.

– Што гэта такое? Куды ты мяне вядзеш? Што хочаш зрабіць?

Ён не адказваў, і праз хвіліну яны апынуліся за мястэчкам.

Вечар быў даволі позні і, нягледзячы на зоркі, што высыпалі на неба, цёмны, бо шматы хмар насіліся пад зоркамі, гнаныя і разганяныя ветрам, амаль што асеннія парывы якога шумелі на роўным полі.

На атуленай кустамі вузкай сцежцы, якая пераразала поле, афіцэр запаволіў крок і шэптам пачаў казаць:

– Ты не ведаеш, што табе пагражае смерць... на шыбеніцы альбо катарга. Я даведаўся пра тое і не мог сядзець, склаўшы рукі, чакаць. Я паехаў да тваёй нарачонай і мы з ёй аб усім дамовіліся. Ты будзеш вольны...

– Магутны Божа! – выгукнуў Аляксандр.

– Ц...ц...ц...іха! – зашыпеў афіцэр і пачаў наракаць: – Ой ты, Божа ж мой! Які *пылкий* характар! Тут трэба як мышы, ціха... а ён крычыць! Слухай і нічога не кажы! Я раскажу аб усім...

Ідучы хутка, з галавой, схіленай да галавы таварыша, ён гаварыў:

– Праз гэты лес праляціш вярсты тры, за лесам будзе карэта, запрэжаная шасцёркай коней, а на ёй будуць дзве пані.

Пасля яшчэ шмат дэталяў і нарэшце:

– На світанні ўжо будзеш у іншай губерні, а там недалёка *австрийская* мяжа, будуць такія людзі, што табе...

Яшчэ трохі дэталяў і падказак!

Аляксандр не адказваў, аглушаны, узрушаны да страты дыхання, цягнуты наперад таварышам, які зноў нязмерна прыспешваў крок.

Яны былі ўжо недалёка ад лесу. Каля лесу, на цёмным фоне, бачыліся абрысы асядланага каня і чалавека, які трымаў яго за вуздэчку. Убачыўшы тых, што падыходзілі, чалавек закінуў вуздэчку на шыю каню і як скрозь зямлю праваліўся, імгненна знік. А конь з галавой, павернутай да падыходзячых, заіржаў раптоўна, коратка.

– Пярун! Мой Пярун! – выгукнуў Авіч і кінуўся на шыю пекнай жывёліне, а яна зграбную пысу на плячо яму паклала і выдавала перарывістае хрыпенне, у якім чулася пяшчота і радасць.

Але паміж прыяцелямі, што віталіся гэткім чынам, умяшалася рука ў мундзіры, нецярплівы голас загадна прамовіў:

– Даволі таго! Сядай на каня!

Аднак у паставе Аляксандра бачыўся цяпер выраз супраціву.

– Не хачу... А ты? Будзеш адказваць за мяне, загінеш праз мяне! За нішто на свеце. Вяртаймася, вяртаймася як мага хутчэй!

З паблажлівай усмешкай афіцэр пакруціў галавой.

– *Вот!* Нібыта і разумны, а дзіця! Хіба ты лічыш, што я і для сябе ратунку не прыдумаў? Я здрадзіў, я паступіў насуперак абавязкам і правілу службы, я ашукаў прыяцеля. То як жа я мог бы заставацца тут? Я таксама, як і ты, уцяку.

– Ці праўда? Давай разам! А чаму не разам?

Афіцэр зноў пакруціў галавой, але ў знак пярэчання.

– Нельга разам. Я сабе іншую дарогу *придумал*. І ты за мяне будзь спакойны. Ні на кару, ні на ганьбу я не дамся. Праз чвэрць гадзіны і мяне, як і цябе, тут ужо не будзе.

Заўважыўшы, што Аляксандр усё яшчэ вагаецца і стаіць каля каня, ён паклаў яму далонь на плячо. Вочы ягоныя з глыбокай балеснай мальбой зблізку ўставіліся ў вочы Авічу.

– Сядай! Хутка! І ляці! Зрабі мне такую ласку. Я вораг Айчыны...

У ягоных грудзях нешта якатала.

– Няхай хоць тое зраблю, што выратую яе добрага сына! Хай сабе я... для Айчыны...

Авіч расправіў плечы. Яны сышліся ў дужых, але кароткіх, абдымках. Афіцэр падганяў:

– Хутчэй! Хутчэй!

Эй, Пяруне, конь ты мой любы, пранясі ж ты мяне на ветраных крыллях праз пякельныя дарогі!

У полі, непадалёк ад лесу, пад разложыстай дзікай грушай афіцэр услухоўваўся ў тупат каня, які аддаляўся, аціхаў у лесе, аж пакуль не сціх зусім. Афіцэр дастаў з-пад мундзіра гадзіннік, нізка схіліўся над ім, адзначыў, нягледзячы на змрок, гадзіну і хвіліну. Ужо пяць хвілін як павінен быць там разам з вязнем, але ж нічога! Яшчэ пяць хвілін будзе чакаць спакойна. Абапёрся плячыма аб дрэва, разложыстыя галіны якога ўкрывалі яго густым ценем, і пазіраў на шматы хмар, што плылі пад зоркамі. Праплывалі вельмі хутка і нагадвалі вялізных птахаў з паразрыванымі целамі і крылламі. Зоркі то паказваліся, то знікалі. Бязмежная туга разлівалася па роўным полі і па густым змроку, у якім адзінока, з лёгкім шалясценнем лятаў халаднаваты вецер.

Чалавек, які стаяў пад дзічкай, зноў паднёс да вачэй гадзіннік.

Зараз там пачалі ўжо непакоіцца... Ён імкліва залез рукой у кішэню мундзіра, і праз некалькі секунд пад разложыстымі галінамі дрэва прагучаў рэвальверны выстрал.

Адначасова з гэтым невыразная ў змроку постаць, цёмная і мажная, абсунулася каля дрэва на расістую траву.......................................................................................................

.............................................................................................................................

...Эй, ты, сэрца чалавечае, якія суровыя псоты пляцеш часам тым, хто да стуку твайго не прыслухоўваўся ніколі...

Эй, ты, кроў, ад роду спрадвечнага ў спадчыну атрыманая, як абыякава кружляеш часам па жылах чалавечых, пакуль раптам не ўзбурышся і не запалымнееш смяротнай крыўдай!

Эй, ты, нявольнік бедны, якому пальцы земскага пана прыціснулі душу ў стан для яго пажаданы, што зрабіў ты, калі душа твая прачнулася і закрычала, што прагне заставацца такой, якой стварыў яе Пан Нябесны?

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
шаноўнага **Анатоля Іванавіча БУТЭВІЧА** са слаўным юбілеем
і зычаць яму бадзёрасці, моцнага здароўя,
а таксама – новых яскравых твораў ды перакладаў!

Лінда Клакен



...чаму ўсё так няправільна
калі я ўсё раблю правільна...

# Пакуль чакала цябе

### ЛЮДЗІ ЯК І

нябесныя целы
круцяцца вакол зоркі
якая паступова
робіцца ярчэйшай
перад тым як
саму сябе ўвабраць
і выбухнуць
у бязмоўную
цемру

*Пераклад
з нарвежскай
Вольгі
ГАПЕЕВАЙ.*

*Пераклад быў
падтрыманы
фундацыяй
NORLA
(Norwegian
Literature Abroad).*

### БЕЗ СЛОВАЎ

пайсці на траву
стаяць там без словаў
толькі
ногі
і трава

### НЕ МІРГАЮЧЫ

ляжу на спіне
пасярод падлогі

з распасцёртымі рукамі
як Ісус у 33

утаропіўшыся ў рэзкае святло лямпы
не міргаючы

дзяўчо чэрпае лыжкай
з пустога рондалю

цікава, ці зменіцца нешта
калі застануся ляжаць так

### КАРОТКАТЭРМІНОВАЕ СВЯТА

вецер парывам
трапляе ў квартал
каштанаў
і раскідвае пялёсткі
як белае канфеці

### КАЛІ РАПТАМ

згодна з НАСА
спатрэбіцца восем хвілінаў
каб цемра дайшла да нас
калі згасне сонца

восем хвілінаў
выявяцца паўсюль
восем хвілінаў
маленькая вечнасць

спытайце ж мурашак
якія нясуць шышку на спінах сваіх
праз кветкавы луг

### КАЛІ ТЫ ХОЧАШ

сёння мы ніхто
(кажа яна)
што ніхто?
(кажу я)

*нічога*
(кажа яна)
ок, давай будзем ніхто
(кажу я)
*і заўтра таксама*
(кажа яна)

### *ПЕРШЫ*

яна пытаецца
чаму мы нараджаемся
і я не ведаю

але не думаючы
цалую ейную спіну
высока-высока

першы
раз
потым двойчы

### *ПАКУЛЬ ЧАКАЛА ЦЯБЕ*

чытала кнігу
скакала праз крыгі
грызла яблык
зашпільвала станік
крычала ў лесе
падпальвала траву
губляла апетыт
круціла глобус
ішла ўздоўж шашы
піла самагон
дзіравіла калготкі
апраналася
вешала сябе ў шафу
ставіла адны і тыя ж песні
тэлефанавала дадому без прычыны
білася галавой аб сцяну
ганялася за галубамі
плавала пад вадой
папарадкоўвалася догме
караскалася на дрэва
глядзела на горад
крала нарцысы
тэлефанавала
бегла прэч

## НОЧ У МЛЕЧНЫМ ШЛЯХУ

з усіх планетаў
сусвету
толькі Венера

такая цёплая
што яе скулы палаюць
у цемры

## ПАВЕДАМЛЕННІ

белае покрыва па-над паркам
птушкі шлюць цьмяныя паведамленні
адна адной праз
хмызняк

я не разумею тое
што разумее прырода
ўжо мільёны гадоў

## ТЫ КАЖАШ

што з мяне
выйдзе добрая мама
і як толькі я пачынаю лапатаць
ты спыняеш мяне пацалункам

## ЦЯПЕР ЗРАЗУМЕЛА

нельга трымаць
на адлегласці нешта

трэба цалкам адкрыцца
і проста прыняць

узяць да сабе
што б там ні было

і любіць

## НА АДЛЕГЛАСЦІ ДВАЦЦАЦІ ТЫСЯЧ СВЕТЛАВЫХ ГАДОЎ

я рассыпаю муку на стале
і мну цеста
пакуль яно не самлее

дрожджы, вада, соль
і мёд
які завіваецца пад сілай цяжару

яна хаваецца ў траве
пераследуе суседскага ката
што спрабуе злавіць чмяля лапамі

на адлегласці дваццаці тысяч светлавых гадоў
вадарод ў сонечным ядры
выдаткуецца

## *ЦЫКЛ СОНЕЧНЫХ ПЛЯМАЎ*

шыя
чырванее і ідзе плямамі

калі яна размаўляе з
людзьмі якіх не ведае

я тлумачу ёй
што і на сонца ёсць плямы

праз іх
цяпло прасочваецца вонкі

з яго

## *ТАЯ*

я была той дзяўчынай
што сыходзіла позна ўвечары
і ніколі не вярталася дадому
я ехала на ровары са схілаў
з заплюшчанымі вачыма
і білася з дзяўчатамі
з іншых бандаў
смерць была адно званочкам у сэрцы
і тое што нешта значыла ў жыцці
прыйшло потым
і што сапраўды значыла нешта
не прыйшло ніколі
хацела было сысці
але не ведала куды
думала, што чакае мяне
думала, чаму я адна
і ці раблю нешта не так

і цела ўбірала ў сябе
процьму
святаў
паркаў
канцэртаў
насення травы
аргазмаў
дажджоў

Я была як тая дзяўчына
што заўсёды сядала долу
калі справы ішлі кепска
Я сядала на ходнікі
лесвіцы
прыступкі
і ўскрайкі ложкаў
занадта бадзёрая
занадта стомленая
смеццявозы будзілі мяне зранку
хуткая дапамога ехала за мной услед дадому
дні былі напоўненыя
бэзам і дажджом
і я думала пра што заўгодна
толькі не пра лекцыі
што будзе са мной
напрыклад
і мае сябры
былі так далёка ўнізе
што не маглі ўзняцца

вядома ж бачылі мы сябе
схіленымі над французскімі раманамі
схіленымі над паведамленнямі
схіленымі над напятай смочкай
схіленымі над рэштай каб палічыць
ці хопіць на цыгарэты
схіленымі над самімі сабой

файна было
але і вельмі складана
потым прыйшоў нехта
і прытуліўся шчакой
да майго сэрца
і ўвесь час
вісела я ў паветры
увесь час думала я
дзе маё месца

я была той дзяўчынай
што танчыла без забаронаў
і прачыналася ў чужых ложках
і тэлефанавала дадому.
так проста
я скакала з моста летам
і плавала ў рэчках без страху

і калі я думаю пра гэта
можа быць мы ўсе бы тая дзяўчына
якая думае сысці
але застаецца
думае быць разам
таму што самотна
думае, чаму ўсё так няправільна
калі я ўсё раблю правільна

Артур Бартэльс



...Вітаю, палеская вёска,
Дзе зоры мне ззялі ярчэй.
Сплыла тут і першая слёзка
З дзіцячых нявінных вачэй...

# Артур Бартэльс і яго паэма "Дзяніскавічы"

### Уступнае слова да перакладу

Сёлета спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння аднаго з таленавіцейшых людзей нашага краю – Артура Бартэльса. Яго імя, аднак, сённяшняму чытачу нічога не гаворыць. Рэдкія спецыялісты ў гуманітарыстыцы чулі пра такога. Між тым яго фігура – шматгранная. Паэт. Драматург. Нарысіст. Публіцыст. Мастак. Кампазітар. Урэшце, артыст.

Апошні з указаных талентаў – эстраднага музыкі і выканаўцы шансону (у нармальным значэнні гэтага жанру) – прынёс Артуру Бартэльсу прыжыццёвую славу і... спрычыніўся да забыцця пра яго пасля сыходу ў лепшы свет (1885). Так, перасталі гучаць песні, што напрыканцы жыццёвага шляху А. Бартэльса паланілі Рыгу і Кракаў, – і аўтар іх застаўся толькі ў памяці сваіх сучаснікаў, якіх, натуральна, да нашага часу таксама не засталося. Нават не дапамог факт прыняцця верша "A tu jest Warszawa" А. Бартэльса ў якасці нефармальнага гімна Варшавы пасля антыфашысцкага паўстання 1944 г.

Аднак – scripta manent! Пісьмовая спадчына А. Бартэльса, магчыма, не самая багатая. Але ж і не малая: чатыры паэмы (“Deniskowicze”, 1862; “Tydzień poleski”, каля 1860; “Zimowe łowy na Litwie”, 1879; “Polowania letnie i jesienne”, 1880), 40 вершаў зборніка “Piosnki i satyry” (1888), сем п’ес (1859–1878), пяць нарысаў пра паляванне на Літве (1878–1879). Намі яшчэ не знойдзены яго публіцыстычныя допісы. Акрамя таго, тры альбомы графічных малюнкаў, прычым сюжэтна складзеных, з дасціпнымі каментарыямі, – іх можна расцаніць як свайго роду Graphic novel / графічны раман; плюс адзін альбом каляровых “Літоўскіх тыпаў”. Таксама ў апублікаваную і захаваную спадчыну А. Бартэльса ўваходзяць ноты з песнямі. Для вывучэння такой творчай разнастайнасці патрэбен цэлы калектыў даследчыкаў рознага профілю.

Не беручыся за вызначэнне ўзроўню работ А. Бартэльса як мастака і кампазітара, мы можам высока ацаніць яго літаратурную працу. Перадусім – паэмы. Геаграфія аповедаў у іх мае вузкую лакалізацыю. Яны засяроджваюцца галоўным чынам на лясах Клецкай ардынацыі Радзівілаў. А. Бартэльс, будучы сам заўзятым паляўнічым, па-мастацку апісаў гадавы цыкл паляванняў у беларускім лесе. Як заключае расійскі пісьменнік І. Корвін-Кучынскі, “въ былыя времена одинъ изъ лучшихъ охотниковъ на Литвѣ, онъ создалъ мало извѣстную, но цѣнную и, пожалуй, единственную въ славянской литературѣ – охотничью эпопею”[1]. Тым самым паэма становіцца адной з самых каштоўных у тагачасным кантэксце, для якога падобныя па выбары аб’екта ўвагі творы былі на працягу XIX ст. досыць распаўсюджаныя ў польскай літаратуры[2]. Але ці ўздымаліся іншыя аўтары да такой ступені сістэматызацыі і абагульнення?

Каштоўнасць паэм А. Бартэльса павышаецца яшчэ і дзякуючы іх суправаджальнаму тэматычнаму спектру. Ён ахоплівае, акрамя разгляду самой тэхнікі палявання ў беларускім лесе на працягу ўсяго года, быт паляўнічых (апісваюцца жыллё, сталаванне, даецца псіхалагічная характарыстыка асоб і інш.), аналіз філасофіі і культуры палявання, зносіны паміж удзельнікамі палявання, а таксама апісанні беларускай прыроды.

Акрамя паэм, у А. Бартэльса вартыя ўвагі нарысы: “O bobrach na Litwie”, “O niedźwiedziach na Litwie”, “O wilkach litewskich i polowaniu na nich”, “Kilka słów o Polesiu, Poleszukach i o polowaniu”, “Książe wojewoda trocki”. Этнаграфізм у А. Бартэльса можна параўнаць з аналагамі ў іншых польскіх і беларускіх пісьменнікаў XIX ст. “Зацікаўленасць жыццём народа была ўласціва таксама і польскай літаратуры, асабліва творчасці Э. Ажэшка. <...> Этнаграфізм у Ажэшка – натуральны побытавы каларыт. Ён нясе мастацка-адлюстравальную функцыю. Быт беларускай вёскі адлюстроўваецца ў яе творах не самамэтна... а як рэальная жыццёвая аснова мастацкіх вобразаў. Прынцыпы мастацкага выкарыстання беларускага жыцця, уласцівыя Ажэшка, маюць моцныя традыцыі ў творчасці У. Сыракомлі і А. Міцкевіча, для якіх яно таксама не складала нічога экзатычнага...”, – пісаў В. Каваленка пра сучасніцу нашага аўтара[3].

У беларускай літаратуры традыцыйна разглядаюцца польскамоўныя “Na głuszce.

---

[1] Корвин-Кучинскій І.И. С моего прошлого // Исторический вестник. – СПб. – 1903. –Т. 94. – №11. – С. 526.

[2] Гл., напрыклад, агляд паэтычных твораў на тэму палявання: Dynak W. Łowiectwo w poezji polskiej // Pamiętnik Literacki : czasopismo kwartalne poświęcone historii i krytyce. – 1991. – Z. 1. – S. 3–22. А таксама рэестр твораў, у якім толькі колькасць паэтычных, створаных на працягу XIX ст., ідзе на сотні: Daszkiewicz K. Biblioteka poezji myśliwskiej w Internecie // Digital Library of Wielkopolska [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://www.wbc.poznan.pl/dlibra/doc metadata?id=161723&from=publication. – Дата доступу: 13.11.2017.

[3] Каваленка В.А. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Развіццё беларускай літаратуры XIX – XX стагоддзяў / рэд. П.К. Дзюбайла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – С. 179.

Akwarela myśliwska z Polesia" ("Паляўнічыя акварэлі з Палесся") трохмоўнага паэта Янкі Лучыны (вядома, звычайна ў перакладзе). Трэба заўважыць, што яны створаныя пазней, чым "паляўнічая эпапея" А. Бартэльса (першыя звесткі пра Лучынавы "Акварэлькі" адносяцца да 1882 г., а цалкам яны былі апублікаваны ў 1898 г.). Мяркуючы па храналогіі, Янка Лучына да напісання свайго твора мог азнаёміцца з "эпапеяй" земляка. Некаторыя пераклічкі адчуваюцца. Хоць у цэлым паляўнічая тэма ў Янкі Лучыны раскрыта значна вузей, чым у А. Бартэльса.

З улікам тэматычнага кантэксту важна, што чырвонай, магістральнай ніткай паэмных твораў і нарысаў А. Бартэльса становіцца ідэя так званага ліцвінскага патрыятызму. Пра што б ні гаварылася ў іх – усё зводзіцца да свайго, роднага, часта вузкарэгіянальнага. Рэгулярна гучаць словы пра Літву як пра найлюбімейшы ў свеце край з нешчаслівай доляй (традыцыйныя для літаратуры першай паловы XIX ст. і часам з прыкметнай доляй збаналізаванасці – для другой), ухваляюцца пэўныя элементы жыцця (акрамя магчымасцей палявання, напрыклад, коні, кірмашы, яда, таварышы і нават слугі). У той жа час А. Бартэльсам прадчуваецца і цэласнасць краіны, якая неўзабаве назавецца Беларуссю. Прывядзём паказальныя ўрыўкі:

Że zaś koniecznie już to być musi
Na tej poczciwej Litwie i Rusi...[1]

Litwo poczciwa, w lasach twych i błotach,
Jeszcze człek może żywić nieco ducha
Niepodległości...[2]

"...W niedostępnych prawie miejscowościach Polesia i innych częściach Litwy..."[3]

Аўтар прыведзеных радкоў успрымае непадзельна гістарычна літоўскія і беларускія землі Паўночна-Заходняга краю.

Тым не менш пачынае шлях да радзімы ў шырокім сэнсе А. Бартэльс з роднага кута. На ім засяроджваецца і галоўная ўвага аўтара, канцэнтруецца падзейны змест. Вёска Дзяніскавічы (цяпер – Ганцавіцкі раён Брэсцкай вобласці) і яе наваколлі – радзівілаўскія лясы, балоты, лугі, дарогі, урочышчы – ледзь не дакументальна становяцца фонам для разгортвання аповеду (чаго варты дзясяткі тапонімаў, якія фігуруюць у творах). Прычым як прырода, так і людскія партрэты падаюцца нярэдка ў якасці тыповых для ўсёй краіны. Хоць аўтар не пазбягае магчымасці ўказваць на іх адрозненні з іншымі куткамі яго Літвы. Відавочна, А. Бартэльс не лічыць іх прынцыповымі і ўсведамляе розныя рэгіёны ("іншыя часткі Літвы") адной краінай – "велічнай Літвою і Руссю". Увага да Бацькаўшчыны вытлумачваецца вялікай любоўю, якая ў эміграцыі толькі абвастрылася. Ізноў-такі – характэрны для тагачасся выпадак (у сувязі з вымушанымі ўцёкамі пасля паўстанняў іх удзельнікаў).

Адшукаўшы паэму "Дзяніскавічы", аўтар гэтых радкоў паспяшаўся назваць яе першым творам пра канкрэтную беларускую вёску[4]. Аднак першым тут стаў Адам Плуг (1823–1903) таксама з польскамоўнай паэмай «Żukowy Borek» (1848). Сімптаматычна, што і гэты пісьменнік паходзіць з Мінскай губерні. Больш за тое – як і А. Бартэльс – з Радзівілавых угоддзяў! Не выключана, што да напісання

[1] Barthels A. Tydzień Poleski. Ustęp z życia myśliwego na Litwie. – Lwów: I. Związkowa Drukarnia, 1878. – S. 9.

[2] Barthels A. Tydzień Poleski. Ustęp z życia myśliwego na Litwie. – Lwów: I. Związkowa Drukarnia, 1878. – S. 67.

[3] Barthels A. Kilka słów o Polesiu, Poleszukach i o polowaniu // Łowiec. – 1878. – 1 maja. – Nr 5. – S. 73.

[4] Трафімчык А. Першая паэма пра беларускую вёску // ЛіМ. – 2016. – 7 кастр. – С. 10.

сваіх “Дзяніскавіч” у 1862 г. апошні паспеў азнаёміцца з тагагодняй публікацыяй “Жукава Барка”. Унісон між творамі відавочны – і па форме, і па змесце, да дэталей. Супастаўляльны нават аб’ём: 350 радкоў у Плуга і 272 – у Бартэльса. Супадае вершаваны памер: кожны радок з’яўляецца 8-складовым; прычым, нягледзячы на польскамоўнасць, якая нібыта павінна была дыктаваць схільнасць да сілабічнага гучання, і Адам Плуг, і А. Бартэльс цягнуцца да выразнай сілаба-тонікі ў выглядзе 4-стопнага харэя. «У сваёй вершаванай гавэндзе “Жукаў Барок”, напісанай падчас жыцця Адама Плуга на Падоле, аўтар імкнецца на радзіму, бо яму там “cicho, błogo, słodko, miło”. Ён успамінае ўсё да драбніц: вёску, лес, раку, хату, двор, пакоі... Памяць паэта захавала кожную падзею, пачуцце, звязанае з той альбо іншай рэччу, краявідам. Мастацкая тканіна гавэнды густа перасыпана каларытнымі апісаннямі роднай і дарагой сэрцу Адама Плуга наднёманскай зямлі», – піша пра твор Адама Плуга М. Хмяльніцкі, заўважаючы далей зусім не адзінкавую прысутнасць беларусізмаў у тканіне твора, а таксама зварот аўтара да тапаніміі роднага кута[1]. Такая характарыстыка цалкам пасуе паэмным творам і А. Бартэльса, і многім яго творчым сучаснікам-ліцвінам[2]. Дагэтуль яны ў мастацкіх творах не раз звярталіся, у прыватнасці, да гарадоў і вадаёмаў: успомнім, напрыклад, “Прысвячэнне гораду Вільня” Антонія Гарэцкага, “Ваколіцы Віцебска” і “Вілія” Тадэвуша Лада-Заблоцкага, “Да Палоты” Юзафа Маралёўскага, “Свіцязь” Яна Чачота, “Свіцязь” Адама Міцкевіча, “Да Дзвіны” Ануфрыя Казакевіча, “Да Нёмана” Юліяна Корсака... Але гэта вершы. Твораў вялікай паэтычнай формы, напісаных пра канкрэтную вёсачку на Беларусі, не было нават у “вясковага лірніка” Уладзіслава Сыракомлі. Жукаў Барок стаў першым, хто заслужыў такога гонару. Дзяніскавічы – другімі.

Якая ж прычына ўвагі пісьменніка да глухога палескага паселішча? На наш погляд, менавіта ў той вёсцы з’явіўся на белы свет А. Бартэльс – 30 жніўня ці (хутчэй) 13 кастрычніка 1818 г. Наша версія месца нараджэння пісьменніка – як мінімум чацвёртая. Не будзем пералічваць іншыя. Даверымся самому аўтару:

| Witaj wiosko ty poleska,<br>Gwiazdko dni dziecinnych,<br>Gdzie spłonęła pierwsza łezka,<br>Z oczu mych niewinnych. | Вітаю, палеская вёска,<br>Дзе зоры мне ззялі ярчэй.<br>Сплыла тут і першая слёзка<br>З дзіцячых нявінных вачэй. |
|---|---|
| <...> | |
| Witaj domu, gdzie dzieciątkiem<br>Pierwsze spędził lata,<br>Tyś się zdawał mi początkiem<br>Razem koncem świata. | Вітаю свой дом, дзе дзіцяткам<br>Няўцямна шалеў, – гэты дом<br>Здаваўся мне свету пачаткам<br>І разам з тым свету канцом. |

Больш за тое, ёсць падазрэнні, што А. Бартэльс быў пазашлюбным сынам князя Радзівіла[3]. Магчыма, гэтым і можна вытлумачыць той факт, што будучы творца атрымаў выдатную адукацыю: гімназія ў Варшаве, затым вучоба ў Санкт-Пецярбургу і Парыжы.

Аднак адметна, што паэт заўсёды вяртаўся ў *родны кут*. Спярша – наведваў, відаць, у сувязі са сваім хобі. Адзін з лепшых паляўнічых-ліцвінаў, ён задавольваў свой інтарэс у шыкоўных дзяніскаўскіх лясах:

---

[1] Chmialnicki M. Адам Плуг і Беларусь // Acta Polono-Ruthenica: UWM w Olsztynie Acta Polono-Ruthenica. – 2001. – Nr VI. – S. 405-408. Пар.: Pług A. Żukowy Borek // Верхняе Панямонне. — Мінск: І. П. Логвінаў. — Вып. 1. — 2012. — С. 82–93.

[2] Гл., напрыклад: Круглова В. Феномен культурнага памежжа і творчасць Янкі Лучыны // Роднае слова. – 2017. – №11. – С. 7.

[3] Baljul I. Artur Bartels – zapomniany piesniarz litewski // Czas [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://www.nasz-czas.lt/_NCZ_ARCHYVAS/411/czas.html. – Дата доступу: 13.11.2017.

| | |
|---|---|
| Znam was wszystkie po nazwisku,<br>Dla ucha tak miłem,<br>Wszak podobno na Izbisku<br>Niedźwiedzia zabiłem... | Па назвах, з дзяцінства мне мілых,<br>Згадаў я і вас – не забыў.<br>Мядзведзя чартоўскае сілы<br>Я тут, на Ізбіску, забіў.... |

Пасля паўстання 1863 г. бываў там толькі ў думках. І – пісаў. У эміграцыі – зыходзячы з настальгіі. А дома – з натуры: "Паэмка тая (маецца на ўвазе "Палескі тыдзень". – *А.Т.*), што адпачывала гадоў 20 у маёй тэчцы, ёсць найпэўнейшым увасабленнем літоўскага вясновага палявання на токах, асабліва глушцовых. Не мае яна іншых пераваг, апроч вялікай праўды, таму што пісалася ў лесе і ёсць толькі з натуры знятым апісаннем аднаго з тых нашых паляванняў, пра якія хацеў я для сябе захаваць успамін"[1].

А. Бартэльс не быў арыгінальны для свайго асяродку – ліцвінскай шляхты – пры выбары мовы ў сваёй творчасці. Гэта была польская. Нягледзячы на гэта, творца не лічыў сябе палякам у сённяшнім разуменні, не раз праявіўшы сваю прыналежнасць да ліцвінскага народа. У недалёкай для тагачасся – сярэдзіны XIX стагоддзя – будучыні ліцвінская свядомасць трансфармуецца ў беларускую. Несумненна, роднай мовай народа, сярод якога А. Бартэльс прыйшоў на свет, ён валодаў. Аднак традыцыя пісьма на ёй тады толькі аднаўлялася. Многія калегі А. Бартэльса па пяры ў той час пачалі ўсё часцей звяртацца да рэалізацыі свайго творчага патэнцыялу ў мове занядбанага стагоддзямі народа. У аўтара "Дзяніскавіч" запісаў па-беларуску не выяўлена. Тым не менш, хоць твор і напісаны на польскай мове, многія элементы ў ім ды іншых паэмах і нарысах выдаюць на тое, што думае паэт па-беларуску. Гэта адбіваецца хіба на ўсіх узроўнях мовы, а на лексіцы – найбольш кідка. Прычым аўтар ужывае не толькі знаёмыя сёння носьбітам беларускай мовы беларусізмы, але і дыялектныя словы, як укладаючы іх у вусны герояў, так і ў аўтарскай мове – дзеля фактаграфічнасці. Прывядзём некалькі зносак з самага лепшага твора, у якіх тлумачыць паэт ім ужытыя слоўцы:

"Zieziula – kukawka";

"Hało – rzadko, niezarosło";

"Sęk, po chłopsku – suk – gałąź";

"Postoły, łapcie nie lipowe, ale ze skóry – także chodaki";

"Jelniaki, miejsce zarosłe przeważnie jedliną"[2].

Складаецца паэма "Дзяніскавічы" з шасці частак, кожная з якіх мае ад 5 да 23 чатырохрадковых строф (усіх – 68). Змест мае лірычна апісальны характар. Аповед вядзецца ад першай асобы. Лірычны герой пасля пэўнай адлучкі прыязджае ў родны кут, дзе ён сорак гадоў таму распачаў знаёмства са светам. Яго душа заходзіцца ад замілавання пры выглядзе царквы, курных хатак, калодзежаў, гумнаў. Асаблівая ўвага адрасуецца дому, дзе былі праведзены першыя гады. Далей герой выходзіць за межы сяла – на сустрэчу з грэбляй, мілымі для вуха ўрочышчамі (Градкі, Ізбіск, Лясішча, Дзерамінішча, Крэмцы), з вартаўнікамі лясоў – леснікамі Сойкамі і Кавальчукамі, дакладней – іх нашчадкамі. Прычым аўтар, як этнограф, дэталізуе многія карціны. Зразумела, найперш тыя, якія звязаны з асбістымі ўспамінамі. У апошняй частцы паэт раскрывае прычыну такіх цёплых адносін да Дзяніскавіч ды іх наваколля: там ён душою парадніўся ледзь не з кожным дрэвам. Такім чынам, мясцовасць у "Дзяніскавічах" выпісана даволі рэалістычна, з дакументальнай дакладнасцю.

| | |
|---|---|
| Tyś ta sama jak przed laty,<br>Taż cerkiew z krzyżami,<br>I też same kurne chaty,<br>Kryte dranicami. | Такая, якой і была ты:<br>Царква вунь з крыжамі відна,<br>І тыя ж скрозь курныя хаты,<br>Хоць крыюць іх дранкай здаўна. |

[1] Barthels A. [b. n.] // Łowiec. – 1878. – 4 lut. – Nr 2. – S. 29.

[2] Barthels A. Tydzień Poleski. Ustęp z życia myśliwego na Litwie. – Lwów: I. Związkowa Drukarnia, 1878. – S. 6, 12, 13, 42. 52.

| | |
|---|---|
| Jak przed laty! – jak to cudnie,<br>Wspomnień świeci gwiazda,<br>Też na miejscu stare studnie,<br>Też bocianie gniazda. | Усё, як раней, і цудоўна,<br>Што зорка ўспамінаў гарыць.<br>Пароблены студні грунтоўна,<br>А гнёзды буслоў не злічыць. |
| Też oborki w rząd stawione,<br>Też gumna zapadłe,<br>Toż bydełko wygładzone,<br>I kundle zajadłe; | Аборы – то ў шэраг, то кучай,<br>Пахілыя гумны наўзбоч,<br>Быдэльца дык з поўсцю бліскучай,<br>А брэх дварнякоў – на ўсю ноч. |

Сапраўды, якраз да часу напісання паэмы ў Дзяніскавічах пераважалі курныя хаты, якія неўзабавае пачалі змяняцца на жыллё з комінам[1]. А на буслоў наваколле багатае і сёння.

Аўтар апісвае як тыповыя, характэрныя для тагачасных вёсак гэтай мясцовасці рысы, так і эксклюзіўныя з'явы. Да першых аднясём, напрыклад, этнаграфічныя малюнкі быту, да вузкалакальных – тапанімічныя назвы ў наваколлі. Больш за тое, у некаторых выпадках (такіх у паэме налічваецца пяць) паэт прыбягае да зносак-тлумачэнняў з мэтай павысіць ступень чытацкага разумення момантаў, якія для шырэйшага кола чытачоў могуць цьмянымі.

Тым часам у сусветнай літаратуры ўсё большую прастору займаў рэалізм, выцясняючы пры гэтым свайго папярэдніка – рамантызм. Разам з тым, аўтар не схільны катэгарычна не пускаць рамантычныя ноткі і шырока аздабляе лірызмам сваю паэзію. У паэме "Дзяніскавічы" галоўная ўвага сканцэнтравана на ўнутраным свеце лірычнага героя, нягледзячы на тое, што ў творы апісваецца звычайная вёска і яе ваколіцы. Усё не проста акідваецца вачыма, але перадусім прапускаецца праз душу:

| | |
|---|---|
| I ty także odwiedzana<br>Z przyjemnością wielką,<br>Od czterdziestu lat poznana,<br>Witaj mi grobelko!<br><...> | Таксама я грэблю наведаў,<br>Дзе ў радасці быў і ў гульбе.<br>Мо сорак гадоў цябе ведаў,<br>Цяпер жа вітаю цябе! |
| To też cię klnie w każdej porze,<br>Kto nie żyje prawie,<br>Jeden w świecie ja ci może<br>Tylko błogosławie!<br><...> | Як помню, то ганяць з адчаю<br>Ды мацаюць цвердзь на дрыгве.<br>Цябе толькі я выслаўляю –<br>Адзіны, хто тут не жыве. |
| Tyś mi więcej naśpiewała<br>Śpiewem leśnych ptaków.<br>Jak przez zimę rzesza cała<br>Paryskich śpiewaków; | Ты, грэбелька, больш наспявала<br>Мне спевамі птушак лясных,<br>Чым там, у Парыжы, навала<br>І песень, і скокаў пустых. |

Адразу ўзнікае жаданне правесці паралель з Міцкевічавай крыніцай паэзіі, пра якую В. Каваленка пісаў: "Запрашэнне глянуць на звыклы як быццам краявід, але ўжо і нязвыклы, бо ён непазнавальна змяніўся пад поглядам паэта, было па сутнасці запрашэннем глянуць у сваю душу, адкрыць яе для роднага краю. Свае "дамашнія", правінцыяльныя, нічым як быццам не знакамітыя лес і возера заслугоўвалі, аказваецца, самай натхнёнай паэтычнай увагі, бо яны, як увесь край, раўнапраўныя, над імі тое ж самае неба, што і над іншымі краінамі"[2].

А. Бартэльс нібы прадчувае, што гэта – яго апошняя сустрэча з Бацькаўшчынай. Меней чым праз год пачнецца паўстанне К. Каліноўскага з вядомым вынікам.

Каб уцячы ад пакарання, А. Бартэльс едзе жыць у шматлюдную Варшаву. У

[1] Гл. падрабязней: Трафімчык А. Калі з'явіліся сучасныя хаты // Ганцавіцкі краязнаўча-інфармацыйны партал [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://www.gants-region.info/publ/kali_z_javilisja_suchasnyja_khaty/3-1-0-193. – Дата доступу: 13.11.2017.

[2] Каваленка В.А. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Развіццё беларускай літаратуры XIX – XX стагоддзяў / рэд. П.К. Дзюбайла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – С. 69.

1875–1878 гадах жыве ў Рызе. Апошнім прытулкам стаў Кракаў[1]. Але дзе б ні быў паэт, яго душа балела па радзіме. Таму ён так шанаваў невялічкую паэмку “Дзяніскавічы”, якую не згубіў у віхурах часу і вырашыў дастаць на свет Божы праз 16 гадоў пасля яе стварэння. Па нейкім супадзенні ў год пераезду А. Бартэльса ў Аўстра-Венгерскую імперыю (1878) у Львове, які тады належаў таксама да названай дзяржавы, пачаў выходзіць месячнік “Łowiec”. Назва адносіцца да старапольскіх слоў і перакладаецца як “паляўнічы”. Прычым паэма “Дзяніскавічы”, відавочна, ствралася не для друку, а для сябе, бо пісалася задоўга да публікацыі. З цягам часу нашчадкамі твор быў забыты зусім[2].

Перакладаў твораў А. Бартэльса на беларускую мову маем толькі два: Ф. Багушэвічам перастворана байка “Свінні і бараны”[3] і М. Арочкам – гумарыстычны верш “Дзянёк абывательскі”[4]. Таму ў юбілейны для паэта год вельмі дарэчы яшчэ адзін перакладчыцкі здабытак, а менавіта – якраз паэма “Дзяніскавічы”.

Глыбока сімвалічна, што выканана гэтая праца ўраджэнцам тых самых мясцін – нашым вядомым паэтам і празаікам Віктарам Гардзеем. Да таго ж у часы журналісцкай маладосці ногі карэспандэнта “раёнкі”, дзе працаваў перакладчык, патапталі нямала сцежак, якімі ў свой час хадзіў А. Бартэльс, рукі краналіся дрэў, за якімі мог падпільноўваць звера ці птушку лепшы *мысліві* (у тым ліку на мастацкае слова) той мясцовасці, лёгкія ліцвіна ўбіралі дух бароў і балот, які зарадзіў невымерную тугу пасля адарванасці ад роднае зямелькі:

| | |
|---|---|
| Tak witajcie mi pamiętne<br>Dziecinnych dni świadki:<br>Lasy, błota, puszcze smętne,<br>Wy poziome chatki,<br><...> | Я помню цябе і вітаю,<br>Як сведку, палескі пейзаж:<br>Балоты і пушчы, а з краю –<br>Гасцінцы і тракты наўсцяж. |
| Z sosny zgniłej, co służyła<br>Dziś nam do ogniska,<br>Może kiedyś moja była<br>Sieroca kołyska! | З сасны, што ўзрасла на Ізбіску,<br>Скуль вызнаў сірочыя дні,<br>Шкада, не зрабілі калыску,<br>А так і згарыць у агні. |
| Już z tej sosny być nie może<br>Do trumny mej deska,<br>Żegnam cię więc w imię Boże,<br>Rodzino poleska! | Ужо з тае хвоі нічога<br>Не ўзяць для магілкі маёй,<br>Развітваюся ў імя Бога<br>З палескаю крэўнай сям'ёй. |

Даверымся паэтычнай і зямляцкай інтуіцыі сучасніка – і заглянем у паэтычны свет нашага земляка XIX стагоддзя. Такімі даробкамі на беларускай глебе рыхтавалася ніва, якая неўзабаве дала ўзыходы ў выглядзе літаратурнай класікі, той жа “Новай зямлі” Якуба Коласа, пераклічка з якой выразна адчуваецца ў паэмах А. Бартэльса. Безумоўна, знойдзеныя пасля паўтаравяковага забыцця творы заслугоўваюць увагі гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, мовазнаўцаў, этнографаў, краязнаўцаў, а таксама перакладчыкаў. Знаходкі павінны стаць даступнымі шырокаму колу чытачоў нашай краіны. Зрэшты, як і ўся разнастайная і цікавая творчая спадчына Артура Бартэльса.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

---

[1] Такім жыццёвы шлях А. Бартэльса падаецца большасцю крыніц. Пры падрыхтоўцы гэтага тэксту да друку адшукаліся сляды сталага пражывання А. Бартэльса ў Кракаве не пазней як ад чэрвеня 1874 г. (Afisz Teatralny. – 1874. – nr145. – S. 1; гл. таксама пазнейшыя кракаўскія перыёдыкі). Дапускаем, што творца ўжо ад таго часу жыў там. Такім чынам, “рыжскі перыяд” у яго жыцці мог быць яшчэ раней. Тым не менш інфармацыя патрабуе верыфікацыі.

[2] Твор публікаваўся толькі аднойчы: Barthels A. Deniskowicze // Łowiec. – 1878. – 1 paźdz. – Nr 10. – S. 148-151.

[3] Багушэвіч Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты / Уклад., прадм. Я. Янушкевіча; Камент. У. Содаля, Я. Янушкевіча; Маст. Г. Хінка-Янушкевіч. – Мінск: Маст. літ., 1991. – С. 126–128.

[4] Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай; Беларуска-польскамоўная паэзія XIX стагоддзя: Вершы. / Уклад., прадм. і камент. У. Мархеля. – Мінск: ППП імя Я. Коласа, 1998. – С. 39, 41, 43.

## Артур БАРТЭЛЬС

### ДЗЯНІСКАВІЧЫ[1]

***I***

Вітаю, палеская вёска,
Дзе зоры мне ззялі ярчэй.
Сплыла тут і першая слёзка
З дзіцячых нявінных вачэй.

Такая, якой і была ты:
Царква вунь з крыжамі відна,
І тыя ж скрозь курныя хаты,
Хоць крыюць іх дранкай здаўна.

Усё, як раней, і цудоўна,
Што зорка ўспамінаў гарыць.
Пароблены студні грунтоўна,
А гнёзды буслоў не злічыць.

Аборы – то ў шэраг, то кучай,
Пахілыя гумны наўзбоч,
Быдэльца дык з поўсцю бліскучай,
А брэх дварнякоў – на ўсю ноч.

З мядункай, румянкам, пралескай
Блукае вясна ўкруг лясін.
Малюся я вёсцы палескай,
Сястры маіх даўніх часін.

***II***

Вітаю свой дом, дзе дзіцяткам
Няўцямна шалеў, – гэты дом
Здаваўся мне свету пачаткам
І разам з тым свету канцом.

Вялікі такі і багаты,
А я ж то маленькі зусім.
Спрабуюць у вёсцы ўсе хаты
На пальчыкі ўстаць перад ім.

Вось гэты пакой, дзе, дарэчы,
Прывязаны быў за нагу,
Бо няньцы свавольна пярэчыў,
Ды згадкі навеюць тугу.

А кветак! Ружовых гартэнзій!
Другі аж свяціўся пакой.
Да кветак любоў без прэтэнзій,
Хоць сёння тут водар не той.

Скрозь мэбля – што ў лепшым гатэлі.
Старэчу знаходзіць праграэс?
Сталы з палісандру, фатэлі,
Фіранкі дык з мокету спрэс.

І ветрык не шкодзіць нікому,
Бо шчылін спрадвечных не шмат.
Вітанне з падзякаю – дому[2],
Які мне і сябра, і брат.

***III***

Таксама я грэблю наведаў,
Дзе ў радасці быў і ў гульбе.
Мо сорак гадоў цябе ведаў,
Цяпер жа вітаю цябе!

“Палешкаю” грэбля названа,
Пралегла ад вёскі ўбаку,
Пустэльная больш, а паслана,
Гарбатым хрыбтом з кругляку.

Тры лужы люструюць эпоху
І гэты шырокі прагал.
Вось тымі бярозкамі з моху
Вітаю твой, грэбелька, шал!

Праехаць глухмені ці зможам?
Сказаць я хацеў бы, аднак,
Што стала ўтрапеннем ты Божым –
Праедзе вандроўнік няўзнак!

Як помню, то ганяць з адчаю
Ды мацаюць цвердзь на дрыгве.
Цябе толькі я выслаўляю –
Адзіны, хто тут не жыве.

---

[1] Дзяніскавічы, вёска, якая належыць Клецкай ардынацыі, у самай лясістай частцы Слуцкага павета, размяшчаецца ў пачатку Палесся, пра што сведчыць тое, што сваіх суседзяў за пару міль сяляне называюць ужо ліцвінамі.

[2] Гэты дом некалі быў вельмі прыстойны, потым з прычыны арэнды яго стан пагоршыўся, у рэшце рэшт адрэстаўраваны дзякуючы князю Леану Радзівілу, быў пераўтвораны ў камфортнае прыстанішча для паляўнічых падчас выдатнага палявання вясной на глушцоў, летам на качак, восенню на цецерукоў, а зімой на вялікага звера.

Бо я, калі гойсаў з сябрамі,
Больш слонак здабыў пры стральбе,
Чым бокі набіў гузакамі
На доўгім тваім пагарбе.

Тут больш адчуваў, што на свеце
Я верай, надзеяй жыву,
Чым хутка, імкліва, як вецер,
Чыгункай скараў сіняву.

Ты, грэбелька, больш наспявала
Мне спевамі птушак лясных,
Чым там, у Парыжы, навала
І песень, і скокаў пустых.

Ты, грэбелька, больш насвяціла
Заходамі сонца ў бары,
Чым дзесьці над Сенай зняміла й
Блішчэлі ўначы ліхтары.

Дзе гнусу заўжды да халеры,
Грызуць камары менш яшчэ,
Чым гэтыя людзі без веры –
Аж Божаму свету пячэ.

На грэбельцы быў я з удачай,
Меў шчопцікі шчасця ў журбе,
Малітвай, ад сэрца, гарачай
Вітаю, сяброўка, цябе.

## *IV*

Цяпер я вітаю вас, пушчы,
Урочышчы, нетры свае.
Напраўду, то зрок мой відушчы
І слых мой яшчэ не здае.

Сябе аглядзець ёсць патрэба,
Паслухаць адзін аднаго,
І мы пагамонім пра неба –
Пабачылі з ім усяго.

І вы, пашаноўныя нетры,
Такія ж усё, як былі.
На свежым і чыстым паветры
Шчаслівыя, пэўна, жылі?

Дзе хцівых сякер прыбліжэнне,
Мой бор там ад жудасці стыў.
Мінуў і злавесным шыпеннем
Расхрыстаны лакаматыў.

Прасцяг ніпачым, перашкоды –
Імчаць і падсвечваць з імгі.
Але ж ці ён зблізіць народы?
Хутчэй пераверне мазгі.

Таксама згадаліся Градкі –
Глухі, сівы бор-старына.
У мох паўрастаныя кладкі,
Дый мох сам – хіба навіна!

Гляджу, як нам помсціць прырода:
Паверсе на кладках вада.
Такія не меў Ваявода,
Мне колішніх кладак шкада.

Рабілі ці ў найм, ці хаўрусам:
Прыкмет жа таму не адна:
Што ў дзеда выходзіла з бруса,
Адолеў унук з бервяна.

Па назвах, з дзяцінства мне мілых,
Згадаў я і вас – не забыў.
Мядзведзя чартоўскае сілы
Я тут, на Ізбіску, забіў.

Знаёмае надта Лясішча,
Глушцоў там – нібы салаўёў.
Ды помнае Дзерамінішча[1] –
Ого кацалапых, дзікоў!

У Крэмцах жа цецеруковы
Адвеку нялічаны ток.
Зляцяцца, а лоўчы талковы
Не ступіць ні ўперад, ні ўбок.

Пар трыццаць... Заквохчуць цяцеры –
Тут стрэльбу трымаць адно знай.
Страляй, ды, па меншае меры,
Цяцеру не забівай.

Асеннія і веснавыя
Балоты, куп'ё паўз алёс,
Вітаю вас, нетры лясныя,
Навекі звязаў з вамі лёс.

[1] Ад "дзярэ міня, дзярэ мяне" – крык, якім мужык дае знак, што яго мядзведзь пачаў дзерці, інакш – покліч на падмогу.

**V**

Нарэшце, прыязныя словы
Вам, стражнікі гэтых лясоў
І нашых традыцый – тыповых
Для краю крыніц, верасоў.

Скрозь пушчы і – мужныя людзі.
Літва тут, дзе Бобрык, дзе Стыр,
Злашчасця не мела, не будзе,
Прайдзі хоць уздоўжкі і ўшыр.

На тронах, далей ад мядзведзяў,
Шыкуюць раздзелаў гульцы.
Як біч на нядобрых суседзяў,
Заўзятыя ў пушчах стральцы.

Прагалы і – іншыя згукі.
Дзе Сойкі? Кавальчукі?
Але і сыны іх, і ўнукі –
Славутыя ўжо леснікі.

На пушчах усё ім вядома:
Дзе воўк, дзе барсук, дзе жаўна?
Бярлога ў старых бураломах,
Праз ліньку наўпрост баразна.

Спаткацца ў лясах толькі марым,
А бачыць і чуць – Божа мой!
Пад неба вялікім абшарам,
Вячэрняю светлай парой.

Вось тут, у глушцоў, у іх стане,
Над вогнішчам іскраў віхор.
Паслухаць прыемна, васпане:
Размова сягае да зор!

У коле сяброў, у абліпку,
Стары, бач, за ўсіх тут мудрэй.
То Берташ, смыголячы піпку,
Нязменна вядзе гэты рэй.

Ён з гонарам носіць на скуры
Няйнакш трох мядзведзяў сляды,
Даводзячы, што па натуры
Яны – баязліўцы заўжды.

Заступіць з-пад елкі зазвычай –
Глядзі яму ў вочы і стой!
Пагневаецца, памармыча
Ды пойдзе дарогай лясной.

Маўчанне пра гора навокал:
Збяднелі бацькі і сыны.
Пра гэта – у сэрцах глыбока,
На вуснах – мядзведзі адны.

Калісьці на ловах навалам:
Алені, казулі, ласі.
Што, дзе, калі ды як стала? –
Няпростыя думкі насі.

Пастой, але ўжо апаўночы,
І вогнішча ззяе зырчэй.
Як свецяцца іхнія вочы!
Якая адвага з вачэй!

Мільгнецца чый твар загарэлы,
То ясна ўжо: з працаю звык.
Не дзіўна, што рух дужа смелы,
Калі дзе пачуецца ўскрык.

Сачы: не гулякі збяруцца
І кінуцца ў жарты і смех.
Во гэта асілкі смяюцца!
Во гэта пацеха з пацех!

Ваколле зацягнута дымам,
Ды белай маланкай зубоў
Азорыцца лес, ці, магчыма,
То свецяцца іклы дзікоў.

Ах, зубы не спарахнелі
Стары ты ці хто маладзей,
А моц набылі, пабялелі
Хіба не ў крынічнай вадзе?

Як зубы – цана і здароўю,
Ды гэта не жарт, скажу вам,
Бо пушча заўсёды з любоўю
Узновіць здароўе сябрам.

Падняць бервяна аскабалак,
Дык гэтыя плечы нясуць,
Турбота пра хлеба кавалак,
Дык ногі за свет павядуць.

Чаго не дагледзела б вока
І слых не дачуў бы, калі
Па сена зноў ехаць далёка,
А трыбы[1] снягі замялі.

---

[1] Трыбы – лясныя дарогі (*заўвага перакладчыка*).

З такою сябрынай, мой пане,
Зімою, у слоту і ў золь,
Як сёння ў глушцоў, у іх стане,
Мне жыць толькі ў пушчы дазволь.

З вясною ў душы і пры зорках,
І ў стомленым сэрцы маім,
Тут будзе не сумна, не горка
Мне нават і з хлебам сухім.

Надзея ўзняла, падкружыла,
Ды ў Божых руках многа спраў.
Ну, што ж, дарагая дружына:
Чарга, каб і я павітаў!

***VI***

Я помню цябе і вітаю,
Як сведку, палескі пейзаж:
Балоты і пушчы, а з краю –
Гасцінцы і тракты наўсцяж.

Народзе, і ты гэткі ж дзікі,
І ціхі, як тая вада...
Тут шмат пахаванняў бязлікіх
З набегаў татарскіх[1] – жуда.

Мне ліха без маці хапала,
І нянька глядзела, хаця
Тут кожнае дрэва казала:
Жыві, не журыся, дзіця!

На схіле гадоў усялякіх
Не здзьмуў я дарэшты пылку
Належнае Вам жа аддзякі
За добрае ўсё на вяку.

Сябрам усміхнуцца, прывецiць –
Спагады не лопнецца ніць.
Душу ён шчасліва расквеціць,
Пылок, што ў яе заляціць.

Кранеш, каму кепска жывецца,
Ты, мой чарадзейны пылок, –
З душы лёгкі жур застаецца,
А з сэрца – засохлы лісток!

Яшчэ ж і тады маё сэрца
Адчуе пылок на сабе,
Калі хто не быў у зняверцах,
А ходзіць з бядой і ў жальбе.

Вітаю пад елкай хаціну,
Дзе нанач і клопат прыціх,
Вітаю і клён, і каліну,
Як бацьку і маці сваіх!

З сасны, што ўзрасла на Ізбіску,
Скуль вызнаў сірочыя дні,
Шкада, не зрабілі калыску,
А так і згарыць у агні.

Ужо з тае хвоі нічога
Не ўзяць для магілкі маёй,
Развітваюся ў імя Бога
З палескаю крэўнай сям'ёй.

*Пераклаў Віктар ГАРДЗЕЙ.*

*Літаратурны рэдактар –*
*кандыдат філалагічных навук*
*Алена МАНКЕВІЧ.*



Lwów, dnia 1. Października 1878. Rok I.

ŁOWIEC

WYCHODZI Z POCZĄTKIEM KAŻDEGO MIESIĄCA.

PRZEDPŁATA
półroczna . złr. 2·50
roczna . . . 5·—

Członkowie Towarzystwa odbierają bezpłatnie.



DENISKOWICZE[1)]

PRZEZ

ARTURA BARTHELSA.

I.

Witaj wiosko ty poleska,
Gwiazdko dni dziecinnych,
Gdzie spłonęła pierwsza łezka,
Z oczu mych niewinnych.
Tyś ta sama jak przed laty,
Taż cerkiew z krzyżami,
I też same kurne chaty,
Kryte dranicami.
Jak przed laty! — jak to cudnie,
Wspomnień świeci gwiazda,
Też na miejscu stare studnie,
Też bocianie gniazda.
Też oborki w rząd stawione,
Też gumna zapadłe,

*Адбіткі першапублікацыі паэмы А. Бартэльса ў часопісе «Łowiec».*

[1] У Дзяніскавіцкіх лясах шмат кургано ў, званых татарскімі або шведскімі. Праўдападобна, гэта дахрысціянскія пахаванні.

Сяргей Чыгрын



...Прайшлі мы і з словам «нацдэмы»
па мёрзлай зямлі і вадзе.
Ня ведалі нашыя, дзе мы,
і думалі: можа, нідзе...

# Масей Сяднёў і Тодар Лебяда

Шмат гадоў збіраю звесткі пра беларускага драматурга, паэта, празаіка, журналіста Тодара Лебяду (Пятра Шырокава, 1914-1970), які быў двойчы рэпрэсаваны і нават два тыдні ў камерыадзіночцы чакаў расстрэлу. Апублікаваў шэраг артыкулаў пра яго з новымі жыццёвымі фактамі і, вядома ж, творамі. У пошуках звестак пра Тодара Лебяду напачатку 1990-х гадоў звярнуўся я і да беларускага паэта Масея Сяднёва (1913-2001), які жыў у ЗША. Тым больш, што Масей Сяднёў з Тодарам Лебядой разам вучыліся, сябравалі, ён згадваў пра яго і ў сваіх творах. Таму абмінуць такога чалавека, які ведаў асабіста Тодара Лебяду, я не мог.

У 1933 годзе Тодар Лебяда паступіў у Мінскі педагагічны інстытут, дзе пазнаёміўся з яўрэйкай Басяй Цыпінай, якая была на сем гадоў старэйшая за яго. Але яна ўмела прывабіла беларускага рахманага хлопца. Пра гэта добра напісаў Масей Сяднёў у сваім рамане "Раман Корзюк" (Нью-Ёрк – Мюнхен, 1985): "...Скончылася лекцыя Піятуховіча, і студэнты высыпалі на перапынак на калідор... Пятрок Шыракоў[1] з Цыпінай і з некаторымі іншымі

[1] У рамане Масея Сяднёва Пятро Шырокаў выступае як Шыракоў.

студэнтамі заставаліся ў аўдыторыі, на калідор не выходзілі. Цыпіна карміла Шыракова бутэрбродамі, якія яна прыносіла з дому і якімі яна спадзявалася ўтрымаць пры сабе галоднага Шыракова. Шыракоў напачатку адмаўляўся ад пачастунку, але Бася ўмела яго ўгаварыць, і Пятрок згаджаўся, вымаў з кішэні сьцізорык і гаварыў: “Ну, калі ты ўжо гэтак просіш, адрэжу ад цябе на капейку!” Потым Пятрок пачаў адразаць і на рубель. Нарэшце, Пятрок сьцізорыка ўжо не вымаў, а браў Басіны бутэрброды цалком... Гэтак вось і цяпер, з’еўшы бутэрброд, ён выцягнуў за руку з-за стала Басю і закружыўся з ёй у вальсе каля прафэсарскай кафэдры. Вальс ён граў сам сабе на губах. Трымаючы Басю шчыльна, але настолькі, каб можна было сваім корпусам адкінуцца назад, Пятрок кружыў Басю да шаламлівасці, і яна, быццам у вялікай жарсьці, клала яму сваю галаву на плячо, заглядаючыся ў ягоныя вочы знарок спакуслівa і міргліва. Потым ініцыятыву забірала Цыпіна, пачынала знарок круціць Петрака налева, ведаючы, што ён умее танцаваць толькі ў адзін бок. Гэта называлася вальсам Цыпінай. Прысутныя смяяліся і білі ім у ладкі...”

Пра Тодара Лебяду прыгадваў Масей Сяднёў і ў сваёй паэме “Мая вайна”, якая была апублікаваная ў зборніку “Патушаныя зоры” (Нью-Ёрк, 1975. – С. 203-205). У паэме якраз апісваецца той момант, калі пачалася вайна і немцы бамбілі горад Чэрвень, дзе сядзелі рэпрэсаваныя беларускія літаратары і чакалі прысуду. Але, калі немцы сталі бамбіць горад, савецкім чэкістам было ўжо не да зняволеных. Так Тодар Лебяда і іншыя апынуліся на волі:

...Я падаў і плакаў...
– Ты што? –
пачуўся мне голас ласкавы
і нехта падаў паліто:
– Накрыйся й ляжы!
Апрытомнеў
І вочы падняў я – на крок.
У ранішніх сонца промнях
Стаяў ад мяне Пятрок.
Той самы Пятрок, зь якім мы
вучыліся тры гады.
А потым экзамен ў Нарыме
трымалі за курс бяды.
Прасоўваліся па балотах
армейцы ваўчынай гайнёй.
І лёталі самалёты
чужыя над нашай зямлёй.
Быў горад далёка за намі,
Ад сажы і дыму густы.
Ішлі з Петраком мы жытамі,
ня ведаючы куды.
І ўспомнілі мы, што болей
канвою над намі няма,
што сапраўды на волю
нас выпусьціла турма.
І хоць мы турму гнаілі,
ды посьля пяцёх гадоў
здавалася нам, наіўным, –
мы сталі студэнтамі зноў.
Шумлівыя, сьветлыя залі,
прыемны студэнтак напеў.
Мы лепш, чым другія, пазналі
«Кароткі курс ВКП».
Прайшлі мы і з словам «нацдэмы»
па мёрзлай зямлі і вадзе.
Ня ведалі нашыя, дзе мы,
і думалі: можа, нідзе.

Ісьці не маглі мы болей,
супольна – рука ў руку:
мяне у вадным чакалі,
яго – у другім баку.
Заплакалі мы на ростань,
змораныя ад хады,
і разьвіталіся проста,
як нашы калісьці дзяды.
У памяці дзень той выцьвіў,
на музыку просіцца слоў...
Мой сябра пайшоў на Віцебск,
а я – на Магілёў...

Напрыканцы вайны хлопцы вырашылі ўцякаць на Захад, бо добра ведалі, што яны зноў апынуцца за кратамі. І лёс разлучыў іх. Тодар Лебяда спачатку быў у Берліне, а пасля ў Прусіі, дзе ён разам з жонкаю Верай Жгут[1] уладкаваўся на працу да аднаго баўэра. Як жылося і працавалася ім там, сведчыць адзін ліст Тодара Лебяды да Масея Сяднёва. У свой час гэты ліст Масей Сяднёў прыслаў мне, ён захоўваецца ў маім хатнім архіве: "Здароў, Масей! Сёньня атрымалі ад цябе першы ліст і былі бясконца рады. Малайчына, што не застаўся ў Беластоку! Аб нас ты ўжо напэўна тое-сёе чуў. Жывем з Валодзькам[2] у аднаго баўэра, працуем у яго: косім, чысьцім гной і г. далей, за што маем ад яго кавалак хлеба. Калі казаць аб нашым жыцьці, дык пра ўсё можна выказаць адным словам – сытыя. Больш нічога. Ніякай духоўнай стравы. Рана ўстаем, ідзем на працу, прыходзім з працы – вячэраем і кладземся спаць, каб заўтра ісьці зноў на працу. Гэтаксама жыве і Віцьбіч[3]. Ён толькі за чатыры вярсты ад нас. Пісалі мы некалькі лістоў у Бэрлін, але адказу не атрымалі, што яшчэ раз пацьвярджае думку аб нашых беларусах: калі сам сыты, дык аб галодных не спагадае. Я гэта адчуў яшчэ на Бацькаўшчыне, а цяпер гэта лішні раз толькі пацьвярджаецца. Мы – беларусы такімі адносінамі (панскімі) да людзей дабіліся таго, што нам ужо мала хто й верыць, аб чым бы мы ні казалі. Вось мы сёньня радуемся з Валодзькам, што ты зараз у Бэрліне. Ты – не такі, як нашыя астатнія беларусы. Будзем спадзявацца, што ты дзе-небудзь, калі-небудзь і закінеш там за нас слова. Галоўнае – каб ты не забываўся пра нас і пісаў нам лісты, дасылаў газэты (як мага акуратней) і па магчымасьці іншую літаратуру, бо мы зараз анічога ня маем. Атрымалі адзін нумар "Раніцы"[4] ад сп. Караленкі[5], за што вельмі шчыра яму ўдзячны. Учора я пахаваў сваё дзіця. Пасьля ўсяго вельмі дрэнны настрой. Мы з Валодзькам разабралі наш ложак і зрабілі майму сыну маленькую дамавіну. Цьвікоў нацягалі са сьцен і з старых дошак.

Яшчэ раз просім цябе – пішы нам. Мы будзем пісаць як найчасьцей. Бывай здароў! Твае Пятрок і Валодзя Клішэвіч. Калі ты ўведаеш аб нашых паэтах Л. Случаніну[6], Золаку[7], Алесю Салаўю[8], або ўведаеш, дзе зараз П. Манькоў[9], не забывай паведаміць. Устрой, Масей, для мяне, калі ласка, у газету "Раніца" аб'яву: шукаю дачку Аляксандру Шырокаву – 8 год, і маці Настассю Паедаву, якія апошнія часы

[1] Вера Жгут – другая жонка Тодара Лебяды, лёс яе невядомы.

[2] Маецца на ўвазе Уладзімір Клішэвіч (1914-1978) – вядомы паэт беларускай эміграцыі.

[3] Маецца на ўвазе Юрка Віцьбіч (1905-1975) – беларускі пісьменнік, публіцыст, папулярызатар гісторыі Беларусі і дзеяч эміграцыі ў ЗША.

[4] Газета "Раніца" выдавалася са снежня 1939 года па красавік 1945 года ў Берліне на беларускай мове.

[5] Маецца на ўвазе Мікола Караленка, журналіст, рэдактар газеты "Голас вёскі", якая выходзіла ў Мінску з 1941 па 1944 гады на беларускай мове.

[6] Лявон Случанін (Шпакоўскі, 1914-1995) – беларускі паэт.

[7] Янка Золак (Антон Даніловіч, 1912-2000) – беларускі паэт-эмігрант, празаік, выдавец.

[8] Алесь Салавей (Альфрэд Радзюк, 1922-1978) – беларускі паэт.

[9] Палікарп Манькоў (1910-?) – беларускі грамадскі дзеяч.



*Валянцін Таўлай, Сяргей Хмара, Тодар Лебяда, Масей Сяднёў, Алесь Салавей, Уладзімір Дудзіцкі, Хведар Ільяшэвіч, Андрэй Чэмер. Мінск, 1943 г.*

знаходзіліся ў мястэчку Лентварова Віленскай акругі. Паведаміць праз газэту "Раніца" – Тодару Лебядзе. Аб'яву гэтую перарабляй, як хочаш. Я падаў толькі сэнс. Тодар Лебяда".

У газеце "Раніца" я гэтай аб'явы не знайшоў, а вось невялікая рэцэнзія Масея Сяднёва на зборнік вершаў Тодара Лебяды "Песьні выгнаньня" была апублікавана ў газеце "Новая дарога" (Беласток)...

Пасля таго, як я напісаў ліст у ЗША да Масея Сяднёва і даслаў яму газеты з першымі сваімі публікацыямі пра пошукі слядоў Тодара Лебяды, я хутка атрымаў ад Масея Сяднёва першы адказ. А потым былі яшчэ некалькі пісем ад яго. Вось гэтыя цікавыя лісты.

*24.02.1992 г.*

Шаноўны спадару Чыгрын.

Вялікі дзякуй за мілы, прыемны для мяне ліст і за газету "Слонімскі веснік" з Вашым цікавым артыкулам пра Тодара Лебяду. Вы сваім артыкулам "Два гады ў Слоніме" проста ашаламілі мяне, бо я ўжо думаў, прасці Госпадзі, што ўжо майго сябра Петрака Фёдаравіча Шырокава даўно няма на гэтым белым свеце, аж тут, глядзіце, чалавек жыве, у 1960 годзе вяртаецца з Сібіры ў Слонім, працуе на фабрыцы, піша, творыць, не прызнаючыся, што ён Тодар Лебяда, аўтар зборніка "Песьні выгнаньня". Для мяне гэта было нечаканым, радасным адкрыццём. Яшчэ раз вялікі дзякуй, спадар Чыгрын, за цудоўную інфармацыю. Гэта сапраўды цуд.

Дадам тут колькі штрыхоў пра Шырокава-Лебяду. Я вучыўся з ім у ВПІ (Вышэйшы педагагічны інстытут). З намі разам вучыліся Якуб Ермаловіч[1], Мікола Гваздоў[2] і іншыя пачынаючыя аўтары, у тым ліку і Уладзімір Клішэвіч. Пятро пабраўшыся ўжо быў са студэнткай Басяй Цыпінай (дарэчы, яна фігуруе, як гэткая ў маім рамане "Раман Карзюк", дый сам Пятрок). З іхнага сужэнства і з'явілася на свет Божы дачушка Алеся, якой ён прысвяціў вядомы Вам верш. Ён, верш, быў нат перакла-

[1] Якуб Ермаловіч (1910-1987) – беларускі пісьменнік.
[2] Мікола Гваздоў (1916-1938?) – беларускі паэт.

дзены на чэшскую мову. На допытах нас (12 студэнтаў) абвінавачвалі ў "буржуазным нацыяналізме". Пятро і іншыя быў асуджаны на 5 гадоў, Ермаловіч і я – на 6 гадоў. З Пятром я правёў зіму 1937-1937 гадоў у Новаіванаўскім лагеры (Новасібірская вобласць). Тут Пятро аб'явіўся кавалём і, як гэткага, яго расканваіравалі, узялі на працу ў саўгасе, а мяне, Клішэвіча і іншых патарабанілі далей – на Калыму. У 1940 годзе па хадайніцтву Басі Цыпінай Вярхоўны Суд СССР адмяніў вырак Вярхоўнага Суда БССР са стадыяй новага следства. Гэтак уся наша група і была ў гэтым годзе дастаўлена ў Менск. Ды выбухнула вайна, з турмы нас гналі пад канвоем да Чэрвеня. Тут нас кінуў канвой і мы з Петраком, ужо вольныя, пусціліся (аб гэтым у маёй паэме "Мая вайна). У Менску я сустрэўся з Петраком у 1944 годзе, крыху пазней у тым жа годзе – у Берліне, ён ужо быў з новай жонкай, віцебскай артысткай Верай Жгут. Калі яны апынуліся на працы ў баўэра ў Прусіі, у іх нарадзілася дзіцё, але хутка там жа памерла. Пятрок разам з Клішэвічам скалацілі з дошак труну і малое аддалі зямлі. Пра гэта ў мяне ёсць ад Пятра Шырокава ліст (надрукаваны вышэй. – *С.Ч.*). Пасля Прусіі сляды па Петраку для мяне ўжо губляюцца. Хадзілі толькі чуткі, што, загітаваны савецкім афіцэрам, Пятро вярнуўся... да сваёй былой жонкі Цыпінай, дарэчы, яўрэйкі, да дачкі Алесі. Недзе ў 1960-х гадах Клішэвіч пісаў мне з Лос-Анджэлесу, што ён атрымаў ад Петрака ліст з Гродна, у якім між іншага той паведамляў, што ён ужо дзед... І вось цяпер – Ваш артыкул у "Слонімскім весніку" – надта ўсцешаны я, што Пятрок мо недзе жыве яшчэ, шукайце яго далейшых слядоў, калі ласка. Буду Вам моцна ўдзячны, калі Вы адшукаеце нешта новае пра Тодара Лебяду і паведаміце мне. Шырокаў – чалавек заціты і ўпарты – будзе маўчаць, не заяўляць пра сябе. Але Пятрок Шырокаў – добры, залаты чалавек, таварыскі, паслядоўны. Ёсць у мяне і ягоныя "Песьні выгнаньня". У "Новай (беластоцкай) дарозе". Змяшчаў пра гэты ягоны зборнік і невялікую рэцэнзію. На жаль, у мяне яна не захавалася.

Прыемна мне, што Вы ацанілі мой "Беластоцкі сшытак"[1], змешчаны ў "Ніве". У ім я стараўся быць найбольш праўдзівым. У нас гасціць сп. Лідзія Савік, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН Рэспублікі Беларусь. Праз яе я перашлю Вам сваю нейкую кніжку.

Яшчэ раз шчыра дзякую за ўсё, чым Вы мяне ўзбагацілі, парадавалі, узнялі мой дух. Пішыце пра сябе. Ваша прозвішча мне знаёмае. Над чым працуеце?

З найлепшымі прывітаннямі і зычэннямі – Масей Сяднёў.

*01.04.1992 г.*

Даражэнькі Сяргей.

Усцешаны тваім хуткім лістом. Вялікі дзякуй. Хвалю цябе за энергічныя пошукі Тодара Лебяды і ягонай спадчыны. Жадаю, каб яны закончыліся поўнай удачай. Уявім сабе – знайшоўся б сам Тодар Лебяда, мой колішні Пятрок. Гэта было б найвялікшым цудам. Ды думаецца мне, крый ты Божа, Пятрака няма ў жывых, у цяперашніх умовах ён не вытрымаў бы – падаў бы голас. Найбольш істотна – выдаць ягоныя творы, змайстраваць, скласці кніжку з ягоных (думаю нешматлікіх) твораў і матэрыялаў пра яго. Але пытанне твораў – найцяжэйшае. Ці ёсць яны ў каго і ці яны ёсць наогул, апрача тых, пра якія мы ведаем, якія ёсць у наяўнасці. Думаю, што ў Клішэвіча іх няма, я пра гэта ведаў бы. Ды сцвярджаць не стану. Ліст ад Тодара ў Клішэвіча быў, прысланы яму ў Лос-Анджэлес. Здымак – можа. Клішэвіч быў нашым кумам, і мы з ім было і сябравалі. Пасля ягонай смерці кантакты з ягонай жонкай, нашай кумой, блізу перапыніліся. Яна з сынамі ў Лос-Анджэлес пераехала, а мы мянялі не раз сваё месца жыхарства. Нешта ўжо даўно мы не мелі ад яе вестак. Даю табе ейны адрас:

---

[1] У 1991 годзе ў беларускім тыднёвіку "Ніва" (№29-35), які выдаецца ў Беластоку, былі апублікаваныя ўспаміны Масея Сяднёва з 1943-1944 гады, калі паэт жыў і працаваў у Беластоку.

*Klishewich Maria*
*4080 Redwood Ave.*
*Los Angeles? Ca.*
*9066 USA*

Мо яна і адпіша Табе. Спашліся на мяне.

Тодаравага верша па-чэшску мне, на жаль, не давялося чытаць, я толькі чуў, што верш быў надрукаваны ў нейкім чэшскім выданні. Не захавалася ў мяне і мая рэцэнзія на Тодараў зборнік у “Новай дарозе”. У Берліне Тодар чытаў мне сваё “Загубленае жыццё”, але, на жаль, гэтай п’есы не маю, не ведаю нат, ці яна дзе друкавалася[1]. Пацікаўлюся, і калі знайду, дашлю, або дам адрас асобы, што мае яе. Да вайны Пятро Шырокаў друкаваўся мала. Ведаю, што змяшчаў свае нарысы ў “Віцебскім рабочым” і ў “Савецкай Беларусі”, таксама ў “Піянер Беларусі”(вершы), можа і яшчэ дзе, але не ведаю. Ведаю, будзеш расчараваны, бо ж нічога новага пра Тодара не сказаў, што ты прасіў не атрымаў ад мяне, і я шкадую, што тваіх просьбаў я не ў стане быў выканаць іх. Буду табе ўдзячны, калі будзеш інфармаваць мяне пра знойдзенае нешта новае пра Лебяду. Дазваляю і табе звяртацца да мяне проста Масей, гэта ў традыцыі Тодара Лебяды. Дык яшчэ раз дзякую за ліст і чакаю. Атрымалася – выбачай – неяк суха, бярэ змора. Масей Сяднёў.

*24.04.1992 г.*

Даражэнькі Сяргей.

Атрымаў твой ліст ад 11 красавіка, шчыра дзякую. Вестка ад цябе радуе мяне. Таксама дзякую за добрае слова пра маю кніжку. Лідзія Савік спраўдзіла сваё слова – яна гаварыла мне, што напіша табе.

Тодар Лебяда, наколькі я ведаю, у “Раніцы” не друкаваўся: ён жа мала жыў у эміграцыі, пасля вайны хутка апынуўся там. Нешта было ягонае ў “Пагоні”, што выдаваў Алесь Салавей (Аўстрыя).

Нічога Клішэвіча ў мяне не засталося, што было я пераслаў Барысу Сачанку[2] для анталогіі беларускіх замежных паэтаў. Дарэчы, можа што ёсць у Сачанкі і новае пра Тодара Лебяду – у яго ж найбольшы збор матэрыялаў пра нашу эміграцыю.

Шкадую, што гэтым разам нічым не змог табе дапамагчы. Калі што Петракова мне трапіць у рукі, абавязкова дашлю табе. Жадаю табе поспехаў у адшуканні сцяжынкі Тодара Лебяды.

Твой Масей Сяднёў.

Пасля гэтых лістоў на мой слонімскі адрас прыслалі кнігі Масея Сяднёва Лідзія Савік і сам спадар Сяднёў. Амаль усе яны з аўтографамі. На кнізе “Раман Карзюк” аўтар напісаў: “Паважанаму Сяргею Чыгрыну на добрую згадку. Аўтар Масей Сяднёў. 12.06.1992 г.”.

У пачатку ліпеня 1993 года Масей Сяднёў упершыню за ўсе пасляваенныя гады наведаў Бацькаўшчыну. Ён прымаў удзел у Першым з’ездзе беларусаў свету. 8 ліпеня я спаткаўся ў Мінску з ім. Часу было мала, асабліва для тых, хто завітаў з далёкіх краін, але мы паспелі пагутарыць пра жыццё-быццё і, вядома ж, пра лёс Тодара Лебяды, дзе я яму расказаў пра тое, што яго сябра Пятрок адбыў сталінскія лагеры, прыехаў на Беларусь, а потым жыў у Разанскай вобласці ў Расіі, дзе і памёр у 1970 годзе.

---

[1] Часопіс “Тэатральная Беларусь” у 1995 годзе апублікаваў п’есу Тодара Лебяды “Загубленае жыццё”.

[2] Барыс Сачанка (1936-1995) – беларускі пісьменнік.

Юлія Бібіла



..як можна апраўдваць і праходзіць каля такіх жахлівых рэчаў у жыцці, як забойства?..

# "...Прысвяціць сябе справе блізкай, харошай!"

***Успаміны***

*Заканчэнне. Пачатак у №6 (91) за 2017 год, №1-2 (92-93) за 2018 год.*

*Падрыхтоўка да друку і каментары Таццяны КЕКЕЛЕВАЙ і Арсеня ЛІСА.*

*Аўтарскі правапіс захаваны.*

## *Сшытак 12*

Відаць, пасля лютаўскай рэвалюцыі я пісала матцы ўсхваляваныя лісты, захаплялася падзеямі. Яна вельмі хвалявалася за мяне, пісала мне (6.III.17 г.), што калі не выйшлі газеты петрагр[адскія] і маскоўскія, перастала спаць, а сама падзеі спаткала з радасцю. "Второй раз в жизни такое переживание, такое волнение. Это ведь большое счастье для таких натур, как моя. Завидую тебе, ты могла видеть и слышать, а я только душой с тобой была там". Пісала, што газет няма. Калі атрымліваюцца, бяруць з бою, № "Рус[ского] слова" прадаюць па 5 руб., "Бобр[уйский] курьер" па 25 – 50 кап. №, просіць прысласць ёй газет. Гімназісты хацелі маніфестацыю правесці, іх угаварылі начальнікі не рабіць гэтага. Няма ні паліцыі, ні міліцыі.

Прыехала я з Петраграда дамой у пачатку красавіка 1917 г. Усё жыццё шкадавала, чаму так рана выехала. Каб трошкі затрымалася, пабачыла б і паслухала У.І. Леніна. Аб ім я саўсім мала

ведала. Сядзеў ён у турмах, быў у эміграцыі, казалі, што выступае супраць вайны. Гэта пытанне мяне асабліва хвалявала.

Прыехала я ў вельмі ўзнёслым настроі. Мне здавалася, што ўсе павінны вітаць рэвалюцыю, што пачынаецца новае жыццё і г.д. З захапленнем апавядала аб тым, што перажыла, што бачыла на свае вочы. Мяне аблівалі халодным душам. Ці ведаю я, што Ленін у запламбіраваным вагоне вярнуўся на радзіму з эміграцыі? Гэта нямецкі шпіён, ён хоча замірэння з немцамі, а іх трэба біць. Такія гутаркі чуліся ў мяшчанска-чыноўніцкім асяроддзі. Я наскоквала пеўнем, але поспеху не мела і рашыла не траціць свайго запалу на такія гутаркі. “Ці можна ўскалыхнуць гэта застаяўшаяся балота?” – разважала я.

Скора пачаліся мітынгі. Як не пайсці і не паслухаць? Вось выступае ў шынялі акопнага выгляду ваенны. Гаворыць, што вайну трэба канчаць, што зямлю даць сялянам, не чакаючы Устаноўчага сходу. Мясцовы дзяяч у гарнітуры і акулярах супярэчыць яму – ён за падтрымку часовага ўрада. Адзін за другім падымаюцца на трыбуну прамоўцы ад розных партый. Не разабрацца, у чым яны згодны, што іх падзяляе. Я прыслухоўвалася да тых, хто гаварыў: “Прэч вайну!” Прызнаюся, праграмныя максімумы і мінімумы мяне займалі мала. Часам разгаралася палеміка, тэмпература павышалася. Слухачы жвава рэагавалі: адны падтрымлівалі, іншыя былі супраць. Прамоўцы не карысталіся шпаргалкамі, гаварылі як умелі, не аглядаючыся на другіх. Не баяліся каму-небудзь не дагадзіць.

Вядома, трэба пабегаць па мітынгах і па сходах, але трэба думаць і аб заробку. Не сядзіш за моцнай спіною, якая цябе засланяе ад жыццёвага клопату. У школу прасіцца яшчэ ранавата, заняткі канчаюцца, а да восені далёка, але ўсё ж я зрабіла разведку. Мне абяцалі месца з восені. А пакуль што я пайшла ў гарадскую ўправу, там набіралі працаўнікоў для статыстыкі. У сувязі з падрыхтоўкай да выбараў ва ўстаноўчы сход трэба было праводзіць перапіс насельніцтва горада, і я пачала працаваць.

З Петраграда паварочаліся і мае сябры-студэнты: абедзве Зіны, Мікола, Валодзя, Надзя, Ніна. Пакуль што яны гулялі, а з восені некаторыя з іх уладкаваліся ў новай школе, якая толькі арганізавалася – у Грамадскай гімназіі, а я атрымала працу ў Вышэйшай пачатковай школе (настаўнікаў пабралі ў войска). У школе вучыліся хлопцы, дзяўчат не было. Работы ў школе мне хапала. Выкладала гтсторыю і часткова рускую мову. Падручнікі па гісторыі былі з душком Турцэвіча ці Ілавайскага. Наглядзеўшыся ў Петраградзе як скідалі “благочестивейшего і самодержавнейшего”, як пад свіст гледачоў яго эмблему – двухгаловага арла – адрывалі ад сцен будынкаў і разбівалі, ці магла я не рабіць сваіх каментарыяў да слоў падручніка? Было шмат запалу, але быў і такт. І вось мне прыйшлося адбівацца ад абвінавачванняў бацькі майго вучня, які прынёс скаргу на мяне загадчыку школы. Загадчык яшчэ не скінуў форменнага мундзіра. Стаяў ён каля стала і, па звычаю свайму, перабіраў лісткі нейкіх паперак, не глядзеў ні на кога, хаваючы свае вочы за шклом акуляраў. Перад ім стаяў круглатвары, прылізаны чалавек, які даводзіў, што я адважваюся “непочтительно” гаварыць аб царах. Гэта быў царкоўны староста, верны манархіст. Ці не такія ў 1905 г. з абразом і дубінамі ўчынялі пагромы?

Настаўнікі школы былі сталага веку, паглядалі ў бок пенсіі, кожны думаў: хто яго ведае, чым усё гэта скончыцца? А мяне казытаў неспакойны мікроб.

Пры школе існавалі двухгадовыя настаўніцкія курсы, дзецюкі там – ого – го! Калі ўстаюць пры ўваходзе настаўніка, як маладыя дубкі. Загадчык запрапанаваў мне там лекцыі літаратуры, дакладней кажучы, трэба было знаёміць з паэтыкай літаратурных твораў. Я – нагамі і рукамі запярэчыла. Куды мне? Што я ім магу даць? Не пайду. І вось прыйшла да мяне цэлая дэлегацыя ад вучняў. Я гляджу на іх знізу ўверх, а яны так мяне ўпрошваюць. Я ім кажу адкрыта, што не падрыхтавана чытаць для настаўнікаў, але калі ўжо ім так хочацца, папрабую. На першую

лекцыю ішла са страхам, але ўсё абыйшлося як найлепей, выручыў мой “мікроб”. Я ім падсунула праграму для самаадукацыі, калі вучылася яшчэ ў восьмым класе, выпісвала з Масквы, параіла запісацца ў бібліятэку. Я ім чытала вершы Янкі Купалы, кніга якога “Шляхам жыцця” трапіла да мяне. Лічылі, што я нядрэнна чытала вершы, у гімназіі нават выступала на вечарах, а таму не дзіва, што хлопцы захапіліся імі. Не дагадалася, ды і час быў неспрыяльны, прыцягнуць іх да запісу фальклорнага матэрыялу. Скора давялося мне, па просьбе другога курсу, латаць у іх нейкую дзіру. Адносіны ў нас склаліся добрыя, я перастала глядзець на сябе, як на незнайку. Выявілася, што мае вучні ўсё ж далёка меней ведаюць ніж я, і гэта мяне заспакоіла.

Мне вельмі хацелася працаваць разам са сваімі сябрамі-студэнтамі ў Грамадскай гімназіі, і яны жадалі мяне як-небудзь перацягнуць з восені. Атмасфера ў нашай школе мяне не задавальняла, я адчувала сябе белай варонай, а там свае таварышы, якія могуць прыйсці табе на дапамогу, параіць. Сярод іх былі і старэйшыя векам настаўнікі, як дырэктар Я. і матэматык У., але яны па стылю свайму падыходзілі да маладога асяроддзя. А тут яшчэ не паспела як след пусціць карэнні савецкая ўлада, як надарылася нямецкая навала, і лепей быць разам з блізкімі табе людзьмі.

З восені 1918 года мяне прынялі ў сваю сям’ю мае таварышы. Пачала працаваць у Грамадскай гімназіі, якая пасля ўстанаўлення савецкай уладыператварылася ў школу 1-й і 2-й ступені. Пачаліся гарадскія нарады, сходы. Столькі праслухалі прамоваў – і цікавых, і бязглуздых. Непрыемнае ўражанне зрабіла публічная “экзекуцыя”, іначай не назавеш, калі вучні наводзілі крытыку на сваіх настаўнікаў і “выбіралі” сабе іх. Хто быў арганізатарам, не захавалася ў памяці, але адбывалася гэта ў нейкім клубе ў агульнагарадскім маштабе.

Спакою не было, на душы цяжка. Толькі пазбавіліся адных акупантаў, якія рабавалі ўсё, што трапляла пад руку, як насоўвалася другая навала. Мы ўсе спачувалі савецкай уладзе, хацелі працаваць на культурнай ніве. Праўда, не ўсе працаўнікі, з якімі прыходзілася мецць справу, выклікалі павагу. Так, у школьным аддзеле гарсавета быў нейкі Р-н, якому ў вочы і за вочы пападала, а другі Р., разумны сталы чалавек, карыстаўся аўтарытэтам.

Успамінаючы тыя нялёгкія часы, думаеш: бывала і холадна, і голадна, і апрануць на сябе не было чаго, на душы нявесела ад таго, што чуеш і бачыш навокал, а ні роспачы, ні безнадзейнасці няма ў цябе. Чаму гэта? Маладосць? Вядома, гэта важна, але трэба далучыць яшчэ адну драбніцу: прывычка з ранняга юнацтва разлічваць на ўласныя сілы, пэўная загартоўка да ўсякіх нягод. Пачынаеш шукаць нейкага выхаду. Матка казала: “Як не будзе з чаго жыць, стане бабка варажыць”.

Вясна 1918 г. Двое настаўнікаў-таварышаў З. і Ч. надумаліся ехаць на вёску на харчовыя здабыткі, далучаюся і я да іх. У Ч. было нямала ўсякіх сваякоў-хутаранцаў. Наш менавы гандаль быў паспяховы, і вярнуліся не з пустымі рукамі. Я была адна дзяўчына, маім таварышкам не трэба было непакоіцца аб такіх справах, за іх думалі і рабілі іншыя. Малако нам часам прывозіў сквапны вясковы дзед. Тут матка паказвала свае здольнасці, разлічваючыся з ім – яна ўмела добра шыць.

Вясна 1919 г. Мой блізкі сусед і таварыш па школе В. яшчэ ўзімку падзяліўся са мною адным сваім праектам: арганізаваць калектыўны агарод. Мне ідэя вельмі спадабалася, і мы пачалі падрыхтоўку. Наш калгас склаўся з сямі настаўніцкіх сем’яў, В. быў галоўным арганізатарам, а мяне выбраў сабе за памочніка. Знайшлі мы недалёка вялікі пляц на цэлы квартал, каля паркана расло некалькі фруктовых дрэў, пры вуліцы стаяў напаўразбураны барак часоў імперыялістычнай вайны. В. дагаварыўся з гаспадаром, а на якіх умовах, я не памятаю. Думаю, што гаспадар рад быў такому выпадку, бо сам не карыстаўся гэтай зямлёю, ды і часы былі такія няпэўныя.

Пасля нялёгкай зімы моладзь вырвалася на сонечны прастор і працавала ў “камуне” з ахвотаю. Агранамічны нагляд меў стары бацька нашага настаўніка В.Н., у

яго была свая нядрэнная камяніца і пры ёй невялікі садок і агарод. Там усё было так акуратна зроблена, так прыладжана, нагадвала японскія сады-мініятуры.

Зьявіліся ў нас і кніжкі па агранаміі. Рабілі спробы садзіць бульбу ў глыбокія ямы, угнойваць неяк адменным спосабам, потым сцяблінкі распраўляць і засыпаць зямлёю. Куст атрымліваўся вельмі вялікі, і бульбін шмат пад ім. Разбурылі стары барак, а з прыдатных фанерных шчытоў збудавалі двухпакаёвы барак, з вокнамі і ганкам. У мяне захавалася фатаграфія яго. У большым пакоі В. паставіў ложак і спаў там. А калі да яго прыехаў з Мінска стрыечны брат А.К., яны там удваіх размясціліся. Калі пачала паспяваць гародніна, арганізавалі дзяжурствы і для ласункаў пасеялі загончык рэпы.

У камуне было весела, яна стала своеасаблівым клубам, куды часта наведваліся нашы сябры. Матэматык У., цікавы субяседнік, чалавек вострага слова, прысвяціў камуне “оду”. Пад чатырмя старымі сёстрамі-ліпамі, на накошаным намі сене, колькі было спрэчак, сур’ёзных размоў і апавяданняў, часам да раніцы.

Нам з вопраткай было лягчэй: усялякая старызна так штучна латалася, перараблялася і аздаблялася, што яна пачынала сваё новае жыццё, нават на зайздрасць тым, хто не ўмеў так “варажыць”. Цяжэй з абуткам, але і тут знайшліся таленавітыя вынаходцы, зьявіліся вяроўчаныя падмёткі і проста дзеравянныя дошчачкі. Я ўзялася за справу. Вярхі шыла матка з рэшткаў усякіх – парусіны, мешкавіны, зрэб’я, што мелася пад рукамі. Я не мяшалася ў гэта, бо дагадзіць матцы было цяжка – яна была вельмі акуратная. Затое шытво – мая справа. Заказалі калодкі паназе, я падглядзела ў шаўца, як нацягваюць вярхі, абцасы адарвала ад старых чаравікаў і ўзялася за работу. Шыла сабе і матцы. Пальцы былі ў рабоце. Нож сталовы не так рэзаў, як гэтага хацелася б. Малаток таксама часта трапляў не туды, куды трэбы было. Паадрывала ад старога абутку падэшвы, падлатала іх і стала шыць не толькі на вяроўках, а на цвіках. Абцасы можна было купіць у дзядоў, нават сама пробавала рабіць у майстэрні В.Н.

Нельга не ўспомніць пра асвятленне. Добра ўлетку, калі дзень такі вялікі, а ўзімку што рабіць? Ды яшчэ калі табе трэба падрыхтавацца да заняткаў і сшыткі выправіць. Газы не было, запалак таксама. У салдат, што “адваяваліся”, набылі штучны каганец, зроблены з нейкіх частак снарада, вельмі просты і добры, высокі, моцна закручваўся. Можна было, не баючыся выбуху, паліць усё вадкае, што магло гарэць. Даставалі, што было магчыма дастаць. Я пазабывала ўжо назвы ўсякіх смярдзючак, якія чадзілі, і галовы балелі ад іх. Ставіла каганец на пліту, адчыняла трохі в’юшку і папраўляла сшыткі. Дасталі і запальнічкі, і нейкія каменьчыкі да іх.

Смярдзючая сумесь мяне ледзь на той свет не адправіла. Я ўжо лягла адпачываць, як нехта прыйшоў да маткі па справе. Яна запаліла не каганец, а лямпу. Загаварыліся, кнот добра не адрэгулявалі. Раніцаю я ніяк не магла прачнуцца, пачала стагнаць. Пачула матка, я ледзь галаву падняла, але неяк усчапілася, выйшла на ганак і ўпала. Прыйшлі суседзі, я была непрытомнай. Неяк адхаялі. Доўга мая галава была вельмі ўражлівай да ўсякіх смярдзючак і чаду.

Арганізавалася БССР. Дайшоў да нас маніфест за подпісам Зм. Жылуновіча (Ц. Гартнага). Асоба была трохі вядомая, а вось А. Чарвякоў, хто такі? Кажуць, быў настаўнікам. З ім прыйшлося пазнаёміцца і ўбачыць, што гэта ветлівы, просты і інтэлігентны чалавек.

Здарылася так. Пасля адступлення з Вільні ўрад рэспублікі Літвы і Беларусі (ЛітБел) нейкі час знаходзіўся ў Бабруйску. Наш таварыш па школе В.Ф. недзе ў краме ці на вуліцы нешта сказаў (не памятаю, аб чым была гутарка) у прысутнасці “мадам” Чарвяковай. Гэта асоба шмат непрыемнасці свайму мужу рабіла. Яна была прычынай арышту харошага настаўніка і ніякага не контррэвалюцыянера. Мы перапалохаліся, і я з адным настаўнікам пайшлі проста да Чарвякова. Той прыняў нас ветліва, спакойна выслухаў і абяцаў разабрацца. Сваё слова стрымаў, і В. зноў быў з намі і разводзіў усякую сваю філасофію (12.VII.1919 г.).

1919 год. Толькі нарадзілася БССР. Безліч было неадкладных гаспадарчых спраў, але з першых крокаў, не зважаючы на складанае міжнароднае становішча, вялікая ўвага пачала ўдзяляцца народнай асвеце, ліквідацыі непісьменнасці.

Я працавала ў школе. Мяне разам з іншымі настаўнікамі прыцягнулі да абследавання школ у раёнах і пастаноўкі там пазашкольнай асветы. Гэта было ў ліпені і першай палавіне жніўня. Я наведала Бацэвічы, Якшыцы, Свіслач. А час быў трывожны, заварушыліся белапалякі, і ўжо 28 жніўня яны з'явіліся ў Бабруйску. Перад ад'ездам адбылося спатканне з І.Б.С[іманоўскім], які прасіў разведаць, ці няма дзе-небудзь кніжных беспрытульных фондаў. Такі каштоўны скарб, які складаўся з замежных кніг у добрых пераплётах, знаходзіўся ў маёнтку Бацэвічы. Там я спакалася з жанчынаю і мужчынам, якія ўжо зацікавіліся гэтай бібліятэкай. Не ведаю, хто іх накіраваў. Прозвішча жанчыны – Машынская, а мужчыны – ці не Гельтман (аўтар кнігі ў далейшым "Robotnik polski w Rewolucji październikowej na Bialoj Rusi"?).

Успамінаюцца пару цікавых здарэнняў, якія характарызуюць той час.

Прыязджаю ў Бацэвічы. У школе адзін настаўнік, другі пайшоў пехатою за 30 вёрст у Бабруйск па зарплату для настаўнікаў. Я абураюся, чаму гэта мясцовыя ўлады не далі каня? Мой субяседнік пацёпвае плячыма і кажа, што такія да нас адносіны. У начальніках ходзіць нейкі зубр з багацеяў і дабіцца ў яго чаго-небудзь нялёгка.

Праз некалькі дзён пасля сходу працаўнікоў асветы гэтай мясцовасці, на якім я азнаёмілася з матэрыяламі (living) (рознымі стат[ыстычнымі] бланкамі), якімі мяне адарылі ў аддзеле асветы, мяне завялі да начальства. Са мною быў настаўнік, што пехатою хадзіў у Бабруйск, ён папрасіў мяне не супярэчыць таму, як ён будзе гаварыць са старшынёю. Я зрабіла наскок на апошняга за няўважлівыя адносіны да настаўнікаў. Гэта ж савецкая ўлада, а не якая іншая! Той слухаў і да мяне прыглядаўся. Я папрасіла каня, каб мяне падкінуць у горад. Тут пачаў паціху гаварыць мой спадарожнік, я добра не чула. Мяне накіравалі паласавацца ў садку малінай, конь неўзабаве зьявіўся. Я папрасіла тлумачэння ад настаўніка, той зарагатаў. У начальства было "рыльце в пушку", ён як скарэй хацеў мяне адправіць далей, а настаўнік падшапнуў нешта аб маіх "паўнамоцтвах". Вось так я нечакана апынулася ў ролі Хлестакова. Рэвізораў баяліся не толькі ў часы Гогаля.

А то другое здарэнне. Здаецца, гэта адбылося ў м. Свіслачы. Час быў трывожны, наступалі палякі, але даручэнне трэба выканаць. Думалася часам, ці патрэбна зараз займацца нейкімі школьнымі справамі? Людзям не да гэтага. Ехала я на параходзе па Бярэзіне. Як на тое, параход прыйшоў позна ўвечары. Дзе спыніцца? Трэба шукаць школу. Паказваюць, дзе яна знаходзіцца. Стукаю. Доўга ніхто не падыходзіць да дзвярэй. Нарэшце нейкі голас у страху папытаў, хто ды што. Дзвярэй не адчынілі і мяне не пусцілі. Прыйшлося павандраваць па незнаёмаму мястэчку, пакуль не трапіла на агеньчык у яўрэйскую сям'ю, дзе руплівая гаспадыня не палічыла мяне падазронай асобай і паклала на мяккую пярыну.

На наступны дзень, калі быў скліканы настаўніцкі сход, я даведалася, што мяне палічылі за... бандыцкую атаманшу Марусю, якая нібыта ў тым раёне рабіла налёты! Як жа лёгка баязліўцы адбіліся ад бандыткі!

Якіх прыгод не здаралася!

Мы былі сведкамі, як дрэнна апранутыя, але з рэвалюцыйным запалам чырвонаармейцы ішлі на белапалякаў, напаўшых на маладую савецкую дзяржаву. Гэта было імклівае наступленне – "Даёшь Варшаву!" З трывогай прыслухоўваліся да вестак аб няўдачах на фронце. Урад Літвы і Беларусі пераехаў у Бабруйск. Што нас чакае? Няўжо зноў акупацыя? Збіраліся мы на сваім агародзе-камуне і дзяліліся сумнымі весткамі, нашы "палітыкі" ставілі ўсякія прагнозы. Не чакалі, што так скора зьявяцца акупанты. У мяне захаваліся тагачасныя запісы.

*28.VIII.1919 г., чацвер.* Гадзін з пяці пачалася кананада. Стралялі з боку мінскага тракта. Батарэя чырвонаармейцаў стаяла паблізу могілак. Да страляніны аднесліся

неяк абыякава. Ніхто не чакаў, што ў гэты дзень вырашыцца лёс горада. Але потым, калі пачулі паблізу гукі разрываў і стралянiну на шасе, захваляваліся. Патрулі па нашай вуліцы крыкнулі, каб зачынялі аканіцы. Імгненна ўсё прышло ў рух, пачуўся стук аканіц, шум засоўваемых балтоў. У кватэрах стала цёмна. Страляніна не сціхала. Часам са свістам праляталі шрапнелі. Апранаю паліто, грошы і дакументы – у кішэнь. Мама сабірае цёплую вопратку – і ў склеп гаспадароў. Разрывы бліжэй і бліжэй, свіст, стукат. Нервы, як нацягнутыя струны. Дзеці ў склепе сядзяць. Пажылы сусед, інжынер, спакойна п'е чай на балконе. Выходжу на вуліцу. Каля адчыненых дзвярэй стаяць цікаўныя суседзі і нервова перакідаюцца жартамі. А недзе блізка бухаюць снарады. Але вось зьявіўся камандзір з павязкай на галаве. Сабірае салдат. Адступаюць. Сумна. Палякі ўжо занялі частку горада.

*2.IX.* Мая пісаніна ў мінулы раз была спынена моцнымі выбухамі. Шыбы зазвінелі, і рука задрыжала. Я выбегла на падворак глянуць, што здарылася. Гэта польская батарэя, што недалёка стаяла (у садаводстве), страляла за рэчку. Гул, свіст снарада, секунд праз 30 – разрыў. Бліжэй да берага страляюць трохдзюймоўкі. З усіх кватэр сабраліся на падворку. Учарашняга страху непрыметна. А гарачы быў дзянёк!

У нашым раёне разарвалася шмат шрапнелей, пашчапалі платы ў Корб., Ганчарэнка, Інасавых, насупраць нас у садзе разарваліся, але шкоды не нарабілі. Уночы страляніна спаць не давала, а тут яшчэ палохалі артылерыйскім боем, то ў 4 гадзіны дня, то ўночы. У чаканні прыслухоўваліся да кожнага стрэлу. У суботу а 2-й гадзіне ўночы ўскочылі з пасцелі ад грукату пушачных стрэлаў. У склеп спусцілі крэслы, лямпу, пасадзілі дзяцей. Усе К. там пабывалі. Я неяк не магла прымусіць сябе ўлезці туды і пайшла да інжынераў пагутарыць. І на гэты раз нічога сур'ёзнага не здарылася. Але ў нядзелю была ночка! Тры разы ўскоквала з пасцелі і выходзіла на падворак. У хаце дзынкалі шыбы, не разабраць, адкуль страляюць. Пад раніцу застракаталі кулямёты ў напрамку ракі, жылі мы на адлегласці некалькіх кварталаў.

Вельмі намучаліся. Хлеба нельга было дастаць і за вялікія грошы, запасаў ніякіх. Добра што бульба была, і ў садзе гаспадароў яблык і слівак колькі хочаш. Казалі, што легіянеры разбілі шмат яўрэйскіх крамак. У аднэй яўрэйкі забралі 40 тысяч руб.

*6.IX.* Ужо два дні, як можна дастаць хлеба. Курс рубля няўстойлівы. Кажуць, у Глуску на царскія грошы пуд мукі 100 руб., а ў нас 1.500 руб.

Засмярдзела гніллём рэакцыі.

---

Горад стаў франтавым. За рэчкай стаяла Чырвоная армія. Не было дня ці ночы, каб не ўзнаўлялася страляніна. Сядзіш на педагагічнай нарадзе ў школе, ідзеш па вуліцы, поркаешся на агародзе – усюды цябе можа застаць свіст, грукат. Снарад трапіў у дом нашай настаўніцы К-а, добра што нікога не было. Параніла д[окта]ра Марзона. Абстрэльвалі крэпасць, дзе стаялі батарэі легіянераў. Відаць, 30 верасня асабліва сур'ёзнае было становішча, бо адчувалася нервознасць, падцягвалі рэзервы. Нават гаварылі аб магчымым адыходзе з горада. Хадзіць па гораду можна толькі да 6-ці гадзін. Неяк варочаліся са школы і заўважылі на Беларускай вуліцы (ранейшая – Мураўёўская – назва та, назва!), што нязвычайна людна. Над горадам вельмі нізка ляцеў самалёт з чорнымі сцягамі. Гэта цела забітага генерала везлі ў Варшаву.

Адчувалася, што існуе ў горадзе падпольная арганізацыя, якая ўзначальвае барацьбу з акупантамі. Можна было меркаваць па тых чутках, якія перадаваліся. Казалі, што ў некаторых дамах знаходзілі зброю, што затрымалі возніка з возам яблык, а там на дне быў схаваны кулямёт. На беразе ракі злавілі некалькі чалавек з тэлефонамі, што раскрылі змову супраць акупантаў і г.д.

Але і ўся каламуць, якая ляжала на дне, усплывала наверх і пачала задаваць тон. Ах, гэтыя размовы! Ратунак знаходзіла ў кнігах для юнацтва, вялікія пачкі іх прынёс мне мой таварыш З.

Прайшоў верасень і добрая дэкада кастрычніка ў нервовым напружанні – страляніна не заціхала. А тут яшчэ ў мяне разладзіўся абмен рэчываў у арганізме (так па-вучонаму называлі дактары) – апанавалі скулы (фурункулы) вялічынёю з добрага вераб'я. У адным месцы выскачыць, чакай, што з другога боку нябавам сядзе. Высокая t°, не можаш спаць. Доктар Марзон рэзаў. Трэба прымаць лекі, а без добрага харчавання і яны не памогуць. Наш сусед насупраць, пажылы ваенны, таксама мучыўся.

## *Сшытак 13*

### Зноў Бабруйск

Вясна 1921 г. была ранняя. 1-га мая сады былі ў квеце. Надвор'е цёплае. Трое настаўнікаў, у тым ліку і я, надумалі наведаць таварышоў у Бацэвічах за 30 км ад Бабруйска, за ракою Бярэзінай. Пераехалі рэчку на пароме і пайшлі пехатою. Па дарозе вырашылі паглядзець, як працуюць хаты-чытальні. У мяне захаваліся тагачасныя запісы, перадаю іх. Падыходзім да вёскі.

– Дзядзька, дзе тут у вас хата-чытальня?

– Чытальня? Гм... Спытайцеся Уласа, ён вам скажа, бо так то ніхто не ведае.

Ідзем далей. Было свята – Вялікдзень, і грамадка людзей сядзела на прызбах з люлькамі ў зубах. Пазіраюць на нас.

– Добры дзень! Дзе тут хата-чытальня?

– Мусіць, у школе, – гаворыць адзін з грамады. – Унь у тым канцы сяла. Там усё кніжкі чытаюць, але настаўніка няма, бо выехаў на свята, і вы нічога тамака не даведаецеся.

– А Улас дзе жыве?

– Улас? Ось тут, другая хата з новымі варотамі, – адказаў дзядзька, вымаючы люльку з зубоў і сплюнуўшы ўбок.

Падыходзім да хаты Уласа. У варотах стаіць барадаты чалавек. Праз шыбу відаць кончык газеты.

– Вы будзеце Улас?

– Я.

– А хто загадчык хаты-чытальні?

– Гэта мой сын. Ён захварэў якраз на тыфус. Другі тыдзень ляжыць. Прывёз сённячы доктара. Зайдзеце, будзьце ласкавы, у хату...

– Дзякуй. Можа б можна было аглядзець чытальню? Дзе яна месціцца?

– А тутака, у хаце, зайдзеце...

Развітаўшыся са старым, пайшлі мы далей, пастукваючы кійкамі.

---

Другая вёска. Шукаем чытальню. Крыва прыбітая фанера з надпісам чырвонымі літарамі, якія ад дажджу расплыліся. Дзве бярозкі ля варот. Маладзіца склікае свіней. Замурзаныя дзеці ў кашульках гуляюць у пясочку. Усярэдзіне хаты поўна курэй, квактуха клапатліва кліча куранят, са ўсіх куткоў хаты нясецца іх тоненькі піск. З людзей – нікога. Напалоханыя куры паднялі гвалт. Адна ўскочыла на стол і шастае лапкамі па газетах, акуратна зложаных купкамі. Кот, прымасціўшыся на аконцы, лена пацягнуўся, перакуліўся і зачапіў нейкую кніжку. У бязладдзі кніжкі валяюцца на посцілцы пасцелі.

---

Трэці абразок. Супраць могілак, на канцы сяла, школа. Будынак вялікі, высокі. Фанера ўстаўлена ў вокны. За часы боек з белапалякамі тут стаяла батарэя, і многа

шыб павылятала. Сіратліва стаіць школа: ні аднаго дзерава. Пытаюся ў настаўніка, дзе чытальня. Ён адказвае, што ў незанятай кватэры, тут пры школе.

– А дзе загадчык?

– По обыкновению, его нет.

Настаўнік прапануе яго паклікаць і ідзе на сяло, але хутка варочаецца адзін. Бяда ў загадчыка чытальняй: укралі каня і ён пайшоў яго шукаць.

Чытальню аглядзець можна было толькі праз акно, бо загадчык з сабою ключ забраў. Праз пыльную шыбу ўгледзець можна было невялічкі пакойчык, на стале – чарнільніца, побач на сцяне – каляндар і на паліцы пад календаром нейкая газеціна. Больш нічога разглядзець немагчыма: шыба вельмі пыльная.

Дзень быў святочны. Сонца схілялася к захаду. З сяла чуліся песні і вясёлы гоман моладзі. Старыя сядзелі грамадкамі на прызбах і вялі гутаркі.

---

Бацэвічы. У хаце вокны шырока адчынены. Відаць цёмныя і чырвоныя фарбы плакатаў, абвесткі. Праз сені і невялікі пакойчык, дзе на століку параскіданы шаўцоўскія прылады, трапляеш у чытальню. Светла, чыста. На стале кіпы газет. На лаўках уздоўж сцяны сядзяць хлопцы з газетамі ў руках. Шафа з кнігамі адчынена. Скрынка з абанементамі (150 падпісчыкаў, найбольш вучні). Загадчык адпускае па запісках старшынь сельсаветаў газеты ў вёскі.

За тонкаю сценкаю з дошак плача хлопчык, які пасварыўся са сваім братам. З вуліцы чуваць стукат калёс: па шляху едуць фурманкі.

---

Сярод маіх запісаў трапілася мне адна размова, відаць, запісаная па гарачых слядах. Мне яна здалася цікавай.

*1.II.1921 г.* Шэрае вячэрняе сутонне. Вільготна. Цёпла. Шмат зорак, часам яны закрываюцца хмаркамі. Зоры і зямля.

– Паглядайце часцей на зоры, памятайце, што ўсё жыццё імкнецца да зор, быць можа, гэта для вас будзе лепшаю ўцехаю. Дасканаласць набываецца дарагой цаной: кроўю. Мы – маленькія пясчынкі духа ўсеагульнага, усеабдымнага.

– Добра ўсё гэта. Але пазіраючы на зоры, вы забываеце пра зямлю, пра людзей. Вы абыякавы да іх. Адно сузіранне не прывядзе чалавецтва да дасканаласці, патрэбна душу сваю перабудаваць, трэба не забываць людзей і ісці да іх з ласкай і любоўю...

– Вы вось адмаўляецеся ад рэчаў, а ад “індывідуалізму” – не.

– Дазвольце, немагчыма замкнуцца ў абыякавасці да людскога гора і да свайго ўласнага і пазіраць толькі на зоры. Поркацца ў жыцці, памятаючы аб іх – гэта так. Як можна апраўдваць і праходзіць каля такіх жахлівых рэчаў у жыцці, як забойства? Быць абыякавым і апраўдваць, не змагацца, толькі памятаваць, што ўсё к лепшаму?

Рэбус: дзе тут я?

## Сшытак 14

### *Курсы*

Увага: цытаты запазычаны з кнігі “СПбургские высшие женские курсы”. 1878 – 1903 (25-летие курсов). СПб, 1903. (Назва не саўсім дакладная. Кніга бальшых памераў, з малюнкамі. Апроч гісторыі ўтварэння курсаў шмат розных афіцыйных матэрыялаў.)

Сярэдзіна XIX ст. Жанчыны імкнуліся вырвацца з-пад хатняй апекі, стаць самастойнымі, незалежнымі. Яны былі апутаны заімшэлымі забабонамі, што з’яўляюцца толькі “рабром” Адама і месца іх толькі ў сям’і. Роўнасці з мужчынамі ім трэба было

дабівацца, бо, на агульную думку, яны ні фізічна, ні разумова раўняцца з мужчынамі не здольны. Цяжка было прабіваць браню застарэлых поглядаў, і нават такія адзінкі, як матэматык С.В. Кавалеўская, не маглі пахіснуць спрадвечных адносін да жанчыны. Між іншым, прафесару-жанчыне, прызнанай за межамі, не знайшлося месца ў рускай Акадэміі навук.

Жанчыны атрымлівалі асвету або ў хатніх умовах, або ў пансіёнах, з 1858 г. – у гімназіях для жанчын. Не ўсіх задавальняла роля будучых жонак, сякія-такія імкнуліся мець уласны заробак і быць самастойнымі. На рынку працы з'явіліся канкурэнты мужчын: жанчыны ў б[ібліятэ]ках, кнігарнях, наборшчыцы, пераплётчыцы, краўчыхі. Нямала жанчын захапляла жаданне вучыцца. Жанчыны стукаліся ў дзверы універсітэта, але дзверы яго адчыняліся толькі для мужчын. Пасля настойлівых намаганняў у 1857 г. у Пецярбургскім універсітэце з'явіліся першыя слухачкі – Карсіні (сёстры), Багданава, Блюмер. У Медыка-хірургічнай акадэміі – Н. Суслава, В. Кашаварава. Сярод прафесароў былі прыхільнікі асветы жанчын, але хапала і злосных супраціўнікаў, якія на лекцыях дазвалялі сабе абразлівыя выбрыкі. Падтрымлівалі такія вучоныя, як І.М. Сечанаў, Д.І. Мендэлееў, М.М. Бекетаў, Бутлераў. М. Пірагоў у артыкуле "Вопросы жизни" ("Морской сборник", чэрвень 1856 г.) таксама далучыў свой голас.

Гэтая ідэя насілася ў паветры, захапляла лепшых людзей, але і рэакцыя не драмала. Забаранілі наведваць лекцыі ва універсітэце. І тады пачалі збірацца ў прыватных дамах і слухаць лекцыі прафесароў па спецыяльных прадметах. Наладжваліся такія заняткі ў Н.В.Стасавай. Тут можна было спаткаць і дам у шыкоўных туалетах, сціплых дзяўчат і "стрыжаных нігілістак".

У 1863 г. арганізавалася "Таварыства перакладчыц" у складзе М.В. Трубнікавай, дачкі дзекабрыста Іванова, Н.В. Стасавай, дачкі архітэктара, А.П. Філасофавай, асобы заможнай з высокіх "сфер", але захопленай ідэяй роўнаправуя жанчын. Гэты гурток энтузіястак з цягам часу аброс шматлікім актывам і з'явіўся пачынальнікам заснавання для жанчын курсаў з універсітэцкай праграмай. Трэба было прабіваць глухую сцяну не толькі ў афіцыйных установах, але і змагацца з заскарузлымі перакананнямі наваколля: жанчынам не патрэбна навука.

Каб прыцягнуць увагу грамадскасці да гэтага пытання, была выкарыстана трыбуна з'езда натуралістаў у Пецярбургу ў 1867 г. З запіскай аб неабходнасці для жанчын вышэйшай асветы выступіла Я.І. Конрадзі, уласніца часопіса "Неделя" (яна паходзіла з абяднеўшых дваран).

Трэба шукаць шляхоў, каб так ці інакш задаволіць імкненне жанчын да вышэйшай асветы.

У 60-х гг. жанчыны, якія не маглі атрымаць асветы ў Расіі, накіроўваліся ў Швейцарыю і іншыя замежныя ўніверсітэты. Абы вырвацца на самастойны шлях, ішлі на фіктыўны шлюб (С. Кавалеўская). Урад, агледзеўшыся, забіў трывогу. Трэба сёе-тое зрабіць, каб затрымаць ад паездкі за межы. Там набіраюцца "крамольных" ідэй і завозяць іх на бацькаўшчыну.

У 1869 г. Міністэрства асветы дало дазвол на арганізацыю "публічных" курсаў па ўніверсітэцкай праграме. Адчыніліся яны ў 1870 г. у Пецярбургу. Чыталі прафесары: Бутлераў, Сечанаў, Мендэлееў. Трымаліся на дабраахвотнасці, на энтузіязме, бо грашовай дапамогі не атрымалі.

Цемрашалы заскуголілі. Паліцмейстар Трэпаў у 1871 г. пісаў: "Отсюда нигилистическое направление может распространиться неудержимо и здесь имеет все способы созревать во взаимных беседах. В антрактах мужчины и женщины долго прогуливаются по коридору впотёмках".

Князь Мяшчэрскі ("Гражданин", 1872, №10) пісаў: «Область женщины есть семья, цель ее – воспитание, сила ее – любовь. ... Женщина, в которой ум развит в ущерб сердца, перестает быть женщиной».

Цікавы выказванні супраціўнікаў "модных" ідэй і тых, хто імкнецца за межы і

трапляе пад уплыў рэвалюцыянераў-эмігрантаў. (“Правит[ельственный] вестник” 1873, 21/V):

«Коноводы эмиграции избрали это город (Цюрих) центром революционной пропаганды и обратили все усилия на привлечение в свои ряды учащейся молодежи».

Яны ездзяць у Расію і прывозяць пісьмы, пракламацыі, прымаюць удзел у прапагандзе (“преступной”).

«Другие увлекаются коммунистическими теориями свободной любви и под покровом фиктивного брака доходят до забвения основных начал нравственности и женского целомудрия до крайних пределов».

«Нельзя не остановиться на страшном вопросе: какое поколение могут возрастить такие женщины?»

«... Ложное понимание значения женщины в семье и обществе, увлечение модными идеями, растление молодого поколения».

Курсы з’явіліся не толькі ў Пецярбургу, але ў Кіеве, Маскве, Казані. Яны мелі поспех, а цемрашалы не суніmaліся. Вакол курсаў і жаночага пытання не заціхала барацьба. Шмат хто лічыў існаванне курсаў шкодным з розных пунктаў гледжання – дзяржаўнага, грамадскага і маральнага. У друку працягвалі з’яўляцца варожыя артыкулы, пасквілі.

Буру абурэння сярод студэнтаў выклікала кніга прафесара Наварасійскага універсітэта Цытовіча “Ответ учёным людям”, у якой ён выступаў супраць вышэйшай асветы для жанчын і выкрыў свой, далёкі ад вучонасці, твар.

У адным з даносаў (Кіеў) пісалася: «... Устраиваются вечера, где напиваются пьяными, затем расходятся попарно на квартиры. Устроена уже студентско-курсистская коммуна, где помещаются в комнате две курсистки и один студент».

І якой гразі толькі не лілі, каб скампраметаваць самую ідэю асветы жанчын. Баранеса Э.Родэн у запісцы імператрыцы пісала (1884 г.):

«Большинство увлекается не столько научными занятиями, сколько ложным стремлением и желанием выйти из своей семьи и своей среды, оставить обыденные обязанности и добиться прав едва ли соответствующих призванию женщин».

«Болезненное явление – тип нашего времени – студентка».

Не толькі мужчыны, але і жанчыны нападалі на курсы. У сем’ях адбываліся сутычкі паміж бацькамі і дочкамі, якія імкнуліся вырвацца ў шырокі свет. І, бывала, пакідалі сям’ю, не палохалі нястачы, пошукі заробку. “Жаночае” пытанне хвалявала розныя “сферы”. Ці можа жанчына працаваць нароўні з мужчынамі? Ці патрэбна гэта? Месца яе – сям’я, выхаванне дзяцей. Нашто падтрымліваць у жанчын імкненне да навукі?

Цяжка было курсам заваёўваць павагу і давер. Бацькі не адважваліся даручаць курсісткам выхаванне дзяцей, навучальныя ўстановы неахвотна прымалі на работу. Бывалі выпадкі, калі, шукаючы працы, стараліся прамаўчаць, што былі на курсах.

Не гледзячы на завыванне прыхільнікаў патрыярхальшчыны, інсінуацыі, супраціўленне ўрадавых устаноў, цікавасць да вышэйшай асветы жанчын, да курсаў узрастае. Прагрэсіўная прафесура падтрымлівае, выступае ў абарону, дапамагае, чым можа. Адказваючы на разважанні тых, хто лічыць, што жанчыны па сваёй натуры не могуць раўняцца з мужчынамі, прафесар А.М. Бекетаў зазначыў: «Что же касается до умственных и нравственных основ, то они одинаковы для всех людей, какого бы пола они не были». Такія думкі далёка не ўсе падзялялі.

На курсы пацягнуліся дзяўчаты, большасць з іх былі незаможныя. У справаздачах курсаў адзначаецца, што ў многіх няма ні цёплага адзення, ні моцнага абутку, няма грошай на набыццё неабходных кніг. На дапамогу ім прыходзілі грамадскія арганізацыі ўзаемадапамогі.

Па зацверджанай праграме, на чале з адказным за дзейнасць курсаў праф. Бястужавым-Руміным, курсы пачалі працаваць з 1878 г. Курсы не мелі свайго памяшкання,

туляліся па школьных будынках. Не было грошай. Прафесары чыталі лекцыі дармова. Узнікла пытанне аб арганізацыі "О[бщест]ва для доставления средств высшим женским курсам". У ініцыятыўную групу ўвайшлі: Н.В. Стасава, В.П. Тарноўская, М.В. Трубнікава, В.А. Мардвінава, А.П. Філосафава. Пачалі збіраць дабраахвотныя сродкі. Шмат хто адгукаўся, ідэя знаходзіла сваіх прыхільнікаў. Сябрамі т[аварыст]ва маглі стаць усе, хто хацеў, асобы "всех состояний и званий", узнос – 5 руб. на год.

Адміністрацыйныя і гаспадарчыя абавязкі выконвалі члены т[аварыст]ва ў грамадскім парадку, толькі сакратар быў платны.

Наладжваліся на карысць т[аварыст]ва лекцыі, дактары лячылі хворых без грошай, друкарні адбівалі без аплаты справаздачы і г.д. Была падтрымка, але ў друку не-не ды з'явіцца якая-небудзь заноза і прыходзілася адбівацца ("Гражданин" 1884, №47 – адказ Пед[агагічнага] Савета).

З 1885/86 акад[эмічнага] года курсы пераехалі ва ўласны будынак на 10 лініі Васільеўскага вострава. Бывалі вельмі цяжкія моманты ў існаванні курсаў, але дзякуючы настойлівасці і самаадданай працы кола жанчын з Т[аварыст]ва, а таксама падтрымцы спачуваючых, грашовае становішча курсаў з часам паляпшаецца, і на рахунку Т[аварыст]ва маюцца ўжо сотні тысяч капіталу, а ў пачатку новага стагоддзя ён перавышае мільён.

Па ініцыятыве В.П. Тарноўскай у 1897 г. было ўтворана "О[бщест]во вспомоществования слушательницам ВЖК». Мэта: падтрымліваць матэрыяльна тых, хто ў гэтым мае патрэбу. Навучанне на курсах каштавала 100 р. на год. Грошы немалыя. Т[аварыст]ва прыходзіла на дапамогу тым, хто не мог сам аплаціць. В.Я. Багданава зрабіла ўклад (15.000 р.), абумовіўшы, каб «капитал отдавать нуждающимся с тем, чтобы они возвращали его, если могут это сделать, не утруждая себя непосильными работами и новыми долгами. Если не могут, пусть не возвращают, это дело их совести рассудить, нуждаются ли они более, чем другие».

З часам утварылася яшчэ Т[аварыст]ва дапамогі скончыўшым ВЖК. Члены Т[аварыст]ва падтрымлівалі сувязь з былымі слухачкамі, дапамагалі адшукаць працу. У "Памятных кніжках скончыўшых ВЖК" змяшчаліся табліцы, у якіх адзначалася месца жыхарства, заняткі, сямейнае становішча, бібліяграфічны паказальнік літаратурных і навуковых прац.

Існавала каса ўзаемадапамогі слухачак курсаў, якая матэрыяльна дапамагала – выдавала пазыку на абеды, на пражыццё, на аплату за права навучання. Мелася бібліятэка падручнікаў (1 капейка ў суткі). Каб папоўніць сродкі касы, арганізоўвалі вечары, лекцыі, латарэі.

Нямала перашкод курсам стварала Міністэрства нар[однай] асветы. Нават вісела пагроза зачынення курсаў, тры гады не было прыёму (1886 – 88). Мін[істэрст]ва патрабавала зацверджаных правіл, абмяжоўвала ўзрост паступаючых (21 год), даведкі аб палітычнай надзейнасці. Баяліся "крамольных" выступленняў.

На курсы прымалі скончыўшых жаночую гімназію, пасля заканчэння курсаў дазвалялася выкладаць у ніжэйшых класах жаночай гімназіі. На хадайніцтва аб праве выкладання ў вышэйшых класах быў адказ: дазволіць толькі пасля экзаменаў ва ўніверсітэцкай камісіі па выбраных прадметах. А што да выкладання ў мужчынскіх гімназіях, то рашуча забаранялася.

Падзеі 1905 года шмат чаго змянілі. Гурток жанчын самааддана працаваў з года ў год, радаваліся поспехам, стараліся выправіць недахопы, адбіваліся ад варожых выказванняў. Дзесяткі гадоў (каля 30-ці) прымала дзейны ўдзел у арганізацыі і рабоце курсаў Н.В. Стасава (памерла ў 1897 г.). У складзе 1-га Камітэта курсаў была матэматык С.В. Кавалеўская (у 1878 г.). Было нямала іншых энтузіястак вышэйшай асветы жанчын.

*(Заканчэнне будзе).*

СЛОВЫ

Наталля Гардзіенка



...можна сказаць, што ўсе людзі
нараджаюцца таленавітымі,
але толькі ў некаторых
вырастаюць крылы...

# "Белавежа": нацыянальная акрэсленасць і смеласць духу

***Гутарка з Янам Чыквіным***

*У красавіку 2015 г. я мела магчымасць наведаць Польшчу ў сувязі з архіўнымі справамі, і адной з маіх мэтаў было спатканне з пісьменнікам, літаратуразнаўцам, выдаўцом, старшынёй літаратурнага аб'яднання "Белавежа" Янам Чыквіным. Уласна, тады я асабіста і пазнаёмілася з гэтым чалавекам, хоць кнігі яго, асабліва працу "Далёкія і блізкія", ведала і раней. Нас аб'ядноўвала агульная цікавасць да спадчыны беларускай эміграцыі на Захадзе.*

*Дзякуючы Яраславу Іванюку, адбылася мая паездка ў Бельск і размова са спадаром Янам. Гутарка заняла амаль дзве гадзіны. Цёплыя і яскравыя ўспаміны пра дзяцінства ў родных Дубічах Царкоўных, пераезд з бацькамі ў 1950-м у Бельск, навучанне ў Варшаве і вяртанне на родную Беласточчыну, усё гэта было ў той размове і некалі будзе апублікавана. Тут жа прапаную тую частку інтэрв'ю, якая датычыла менавіта творчай, літаратуразнаўчай часткі жыцця Яна Чыквіна.*

## Пачаткі

***Наталля Гардзіенка:* Вы вучыліся на русістыцы, абаранялі доктарскую дысертацыю па творчасці Афанасія Фета. Што Вас падштурхнула да беларусістыкі?**

Ян Чыквін: Мая ўласная творчасць. Гэта несумненна. Калі я быў студэнтам, а затым у аспірантуры, у тым варшаўскім асяроддзі, з якім я быў увесь час звязаны, усе ведалі, што я пішу вершы па-беларуску, што маю свае выдадзеныя зборнікі. І гэта, як ні дзіўна, заахвочвала шмат каго да кантактаў са мной. Я быў прыемна здзіўлены, што мяне, беларуса, вельмі зычліва ўспрымаюць. Аднойчы старшыня Саюза польскіх пісьменнікаў Яраслаў Івашкевіч, выпадкова сустрэўшы мяне ў калідоры, пастукаў сваёй вялікай далонню па плячы і сказаў: "О, Янэк, Чыквін, так-так, чыталэм!" Тады якраз з'явіўся нумар "Twórczości", якой ён быў рэдактарам, і там пару маіх вершаў выйшлі ў перакладзе. То ж мяне пахваліў сам старшыня Саюза польскіх пісьменнікаў Івашкевіч! Для маладога чалавека гэта мела вялікае значэнне.

Тое, што я пісаў вершы па-беларуску і меў нейкі даробак, і схіліла да таго, каб самому паспрабаваць інтэрпрэтаваць творчасць і маіх калегаў "белавежцаў", але таксама і іншых беларускіх пісьменнікаў.

## Літаратура эміграцыі

*Мне асабліва цікава было распытаць Яна Чыквіна пра эміграцыйную літаратуру, якую ён даследаваў. У кнізе "Далёкія і блізкія" можна знайсці нарысы пра Наталлю Арсенневу, Масея Сяднёва, Янку Юхнайца, Кастуся Акулу. Чым быў абумоўлены выбар творцаў, як ацэньвае аўтар творчую спадчыну эміграцыі — гэта тое, пра што хацелася паразмаўляць з літаратуразнаўцам.*

***Н.Г.:* Сярод іншага, Вы звярнуліся да творчасці эміграцыйных пісьменнікаў. Але калі і як Вы пра іх даведаліся? Наколькі вядома было ў Польшчы пра Наталлю Арсенневу, Масея Сяднёва, Янку Юхнайца?**

Я.Ч.: Пра іх я ведаў, калі быў яшчэ студэнтам. У Варшаве на вуліцы Сенатарскай, 8 размяшчаўся Варшаўскі аддзел Беларускага культурна-грамадскага таварыства. Я часта там бываў. І аднаго разу туды зайшоў Сяргей Карніловіч, які прыехаў у Польшчу з Амерыкі. Гэта было напачатку 1960-х гадоў. Помню здзіўленне, што ў Амерыцы ёсць нашы людзі. Ідзем з ім па цэнтры Варшавы і размаўляем па-беларуску. Цудоўна! Ва ўсякім выпадку імёны эміграцыйных беларускіх пісьменнікаў тады былі ўжо на слыху. Потым я, здаецца, першы раз у 1982 годзе і другі ў 1985-м ездзіў у Лондан. Запрасіў мяне Джым Дынглі, на той час супрацоўнік Лонданскага ўніверсітэта. Быў, зразумела, у бібліятэцы айца Надсана на Фінчл, Беларускай бібліятэцы, пра якую шмат у той час гаварылася і ў Беларусі. З гэтых размоў пра яе мне ўяўлялася, што тая бібліятэка вельмі вялікая. Калі ж я ўбачыў яе, крыху нават сумеўся, бо аказалася, што там былі толькі дзве невялікія залы, а падвал быў завалены падшыўкамі розных беларускіх эміграцыйных газет. Я спачатку прайшоўся, паглядзеў, што айцец Надсан мае на стэлажах. Наверсе былі рарытэты. З Лондана я прывёз дамоў некаторыя матэрыялы пра эміграцыйную літаратуру. Там, на месцы, я адразу ўхапіўся за кнігі, якія мяне зацікавілі, а такіх было шмат. Пачаў гартаць, чытаць у спешцы, выпісваць, але гэтага было так многа: імёнаў, назваў, — і зразумеў, што мне тут трэба з тры-чатыры месяцы пасядзець. А вяртацца дадому мусіў, я ж працаваў у Варшаўскім універсітэце. Хоць айцец Надсан запрашаў застацца... Так што знаёмства з эміграцыйнай літаратурай працягнулася.

***Н.Г.:* Вы ездзілі ў Амерыку?**

Я.Ч.: Не, у Амерыцы не прыйшлося пабываць. У Лондане ж сустракаўся з Кастусём Акулам, Раісай Жук-Грышкевіч. Вельмі цёпла ўспамінаю Лёлю і Янку Міхалюкоў. Былі і іншыя цікавыя субяседнікі. Так што я з некаторымі эміграцыйнымі беларускімі дзеячамі і пісьменнікамі быў асабіста знаёмы. І пра іх хацелася напісаць. Так, пра Акулу напісаў у артыкуле “Нявычарпаная тэма” – пра нявычарпаную тэму, як мне тады падалося. Я не тое, што папракаў яго, але хацелася, каб спадар Акула не засланяўся новым часам, а сказаў па праўдзе, як было тады, як бачылася вайна “з другога ракурсу”. Так, як і Белямук мог бы сказаць пра той час. З Міхасём Белямуком я быў, між іншым, таксама вельмі добра знаёмы, ліставаўся. Ён прыязджаў і ў Польшчу, і ў Лондане мы хадзілі з ім, куплялі для яго матэрыял на касцюм, каб у Амерыцы пашыць, бо, як ён гаварыў, так будзе танней. Як вядома, Белямук выдаваў свой часопіс «Полацак», а Акула – «Зважай». Гэта ўсё было ў маім абсягу.

***Н.Г.:* А як Вы выбіралі эміграцыйных аўтараў, пра каго напісаць у сваёй кнізе? Чаму менавіта Сяднёў, Арсеннева, Юхнавец?**

Я.Ч.: Гэта вынікала, па-першае, з таго, што я чытаў, а па-другое, з маіх літаратурна-эстэтычных густаў. Тут ужо дзейнічаў вельмі выразны прынцып. Зразумела, мусіш быць начытаны ў творчасці, каб вызначыць, што вось гэты, а не іншы паэт варты асаблівай увагі. А гаворачы жартам, эміграцыйныя паэты, якія маюць прозвішча на “К”, слабейшыя.

***Н.Г.:* А Алеся Салаўя чаму ў Вашым спісе няма?**

Я.Ч.: І Салавей, лічу, слабейшы.

***Н.Г.:* Ну так, таксама прозвішча на “К”, калі сапраўднае…**

Я.Ч.: Начытаўшыся паэзіі Арсенневай, Сяднёва і Юхнаўца, я прышоў да высновы, што яны сапраўды вельмі таленавітыя. А Юхнавец, на маю думку, нават геніяльны ў кантэксце беларускай паэзіі і прозы. Чаго варта ўжо адна толькі ягоная аповесць “Яно”! Дарэчы, упершыню надрукаваная ў “Тэрмапілах” №6 і 8 за 2002 і 2004 гады (між іншым, я аналізаваў яе). У паэзіі ён перастварае беларускі верш, хіба ўпершыню далучае яго да мадэрнавай паэтыкі Эзры Паўнда, узбагаціўшы яе вопытам беларускага народнага верша, з яго лексікай, вобразнасцю, светабачаннем. І я рады, што Арнольд Макмілін пагаджаецца са мною. У сваёй кнізе “Беларуская літаратура дыяспары” ён таксама даходзіць да высновы, што Арсеннева, Сяднёў, Юхнавец — выдатныя, а тыя на “К”, у тым ліку і Салавей, гэта як бы другі шэраг. Гэта не загана быць у другім шэрагу, таму што тых шэрагаў уніз значна больш...

***Н.Г.:* Калі Вы ацэньвалі беларускую эміграцыйную літаратуру, Вы яе разглядалі як нейкі асобны феномен ці як частку агульнай беларускай літаратуры?**

Я.Ч.: Я не ставіў сабе за мэту разгледзець творчасць і Масея Сяднёва, і Наталлі Арсенневай, і Янкі Юхнаўца адразу ў кантэксце нацыянальнай літаратуры. Гэта і немагчыма, пакуль не схоплена сутнасць кожнай творчай індывідуальнасці. У нейкай ступені мае артыкулы былі аднымі з першых, што дазваляла мне, як ужо сказаў, сканцэнтравацца ў першую чаргу на саміх асобах, паказаць менавіта іх адметнасць. Паказ жа ў кантэксце з’яўляецца наступным крокам даследчыцкай думкі. Зразумела, дасюль месца таго ж Юхнаўца і двух іншых выдатных беларускіх эміграцыйных паэтаў асэнсоўваецца ў беларускай паэзіі. Вядома, для кожнага з так званага першага шэрагу ўзорам быў Максім Багдановіч.

Хіба невыпадкова мае артыкулы пра Арсенневу і Сяднёва былі прыняты ў падрыхтаваную Інстытутам літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі “Гісторыю беларускай літаратуры”, якая выйшла ў 4-х тамах. Гэта для мяне пацверджаннем, што яны маюць сваю вагу. Прынамсі, мелі на той час, калі гэтая

гісторыя літаратуры пісалася. Ужо на той час ведаў, што пра гэтых пісьменнікаў пісалі, але ўсё ж такі ўзялі мае матэрыялы. Шкадую, што па-за той "Гісторыяй беларускай літаратуры" застаўся Янка Юхнавец.



*Ян* ЧЫКВІН.

## Пра літаратурную тэорыю

***Н.Г.:* У сваіх літаратуразнаўчых кнігах, калі Вы разглядаеце тых ці іншых пісьменнікаў, то як вызначаеце, пра каго пісаць, а пра каго — не? Якія прынцыпы адбору?**

Я.Ч.: Ёсць нейкае немагчымае для дакладнага вызначэння інтуітыўнае чуццё. І ад гэтага, відаць, пачынаецца. Затым уваходзяць прафесійныя веды, начытаннасць, урэшце ўласны літаратурна-эстэтычны густ, разуменне таго, што такое ўвогуле паэзія і паэзія нацыянальная. Дзе ў нацыянальнай паэзіі цэнтр, а дзе перыферыі. А калі ёсць цэнтр, то што ў цэнтры? Што стварае цэнтр у беларускай, рускай, украінскай, польскай лірыцы? Што стварае цэнтр ў нацыянальных паэзіях? Бо ў амерыканскай, пэўна, нешта адно, а ў славянскіх — нешта іншае. А магчыма, як гаворыць Гаспараў, развіццё паэзіі адбываецца сінусаідальна, верх-ніз, як бяжыць па акіяне хваля. Гэта ж прынцып дыялектычнага развіцця. Калі ў паэзіі крызіс, яна падпарадкоўваецца прозе, набірае шмат празаізмаў, абцяжарваецца матэрыяй, а потым ад гэтага вызваляецца – аж да чыстай паэзіі. Як Афанасій Фет казаў, вялікая паэзія не хоча служыць нікому, ніякім палітычным, дэмакратычным, рэлігійным ці іншым мэтам. З-за гэтых сінусоідаў мяняецца і форма самой паэзіі. Кожнай катастрафічнай сітуацыі і сітуацыі высокага развіцця адпавядаюць пэўныя формы вершаў. І гэтым я займаўся. Вельмі важна мець уяўленне пра ўсю сусветную паэзію. Як развівалася паэзія японская, а як кітайская? Ці гэта нешта іншае, чым еўрапейскае? Ці гэта адна для ўсяго свету граматыка, ці ёсць асобныя нацыянальныя законы? І гэтак далей.

***Н.Г.:* А ў беларускай паэзіі што з'яўляецца нацыянальнымі адметнасцямі і што ёсць цэнтрам?**

Я.Ч.: Гэта так адразу, злёту не вызначыш. Тут можна толькі яшчэ раз вярнуцца да паняцця цэнтра паэзіі і мець на ўвазе, што ў еўрапейскай паэзіі ад XVI ст. па сённяшні дзень цэнтрам з'яўляецца лірыка. І тут зноў можна ўдакладняць думку. А што з правага боку лірыкі, а што з левага? Калі будзем глядзець на мастацтва слова як на лінію. Так ці інакш, несумненна, еўрапейская паэзія ў цэнтры заўсёды ўтрымлівала лірыку, а калі яна выходзіць з цэнтра, то або ідзе ў бок прозы, значыць, стаецца публіцыстычнай паэзіяй, далей жа пераходзіць у лірычную прозу. І далей з прозы мастацкай – у гістарычныя трактаты, а нарэшце проста ў, так сказаць, звычайную пісьменнасць. А з левага боку, прынамсі, як даказваюць вучоныя, якія займаюцца марфалогіяй мастацтва, лірыка, калі яе штораз больш рытмізаваць, больш фанізаваць, развіваецца ў напрамку музычных жанраў мастацтва. З аднаго боку проза, а з другога музыка...

## "Белавежа"

*Ян Чыквін — сённяшні старшыня літаратурнага аб'яднання "Белавежа", якое дзейнічае ўжо амаль шэсцьдзесят гадоў і мае за дзве сотні выдадзеных кніг ды перыёдыкаў. Зразумела, што ў размове немагчыма было абмінуць і гэтую тэму.*

***Н.Г.:* Раскажыце, калі ласка, пра літаратурнае аб'яднанне "Белавежа". З чаго яно пачалося?**

Я.Ч.: Пачалося з нацыянальнага ўздыму, з адлігі, з палітычных рашэнняў, што Польшча дазваляе сваім нацменам займацца ўласнай культурай. Гэта быў магутны штуршок. Без гэтага штуршка мы былі б да гэтага часу пад каўпаком. Але ў сацыяльна-палітычным жыцці ёсць прылівы і адлівы: адзін раз гавораць, што Польшча чыста мананацыянальная краіна, другі раз, перад выбарамі, — што ў нас ёсць нацыянальныя меншасці, і тады паслабляецца ціск. Ці гэта сацыялізм, ці капіталізм — гісторыя паўтараецца. Тым не менш, беларусы, як і іншыя нацыянальныя меншасці, скарысталі з гэтага выразна. Нашыя людзі схапіліся, узяліся да працы і зрабілі тое, што магчыма было ў той сітуацыі другой паловы 1950-х. І, дзякуй Богу, з'явіліся людзі нацыянальна свядомыя, не загледжаныя ў свой пуп, а грамадска актыўныя, што не засталіся ў сталіцах, дзе вучыліся і дзе лёгка дэнацыяналізавацца. Ім захацелася дадому, у сваю старонку. Як таму ж Георгію Валкавыцкаму. Гэта вельмі важна. Цяпер, на жаль, амаль ніхто не скажа ім дзякуй, бо час зноў вельмі ж змяніўся. У нейкай ступені я і пра сябе гавару, таму што і я меў прапановы працаваць, асабліва калі зрабіў дактарантуру, у розных "чужых" далёкіх месцах. Усюды прынялі б з раскрытымі абдымкамі. Але ж застаўся на сваім. Аб чым не шкадую.

***Н.Г.:* А хто быў ініцыятарам стварэння літаратурнага аб'яднання?**

Я.Ч.: Ініцыятарам стварэння літаратурнага аб'яднання ўжо ў прамым сэнсе быў Георгі Валкавыцкі. Ён сапраўды Богам пасланы беларусам Беласточчыны. Ён быў падрыхтаваны для такой дзейнасці, закончыўшы прэстыжны Літаратурны інстытут у Маскве. Вы ведаеце, як у рэдакцыях працуюць? Журналістам, вядома, трэба плаціць, а Валкавыцкі, як бы супраць нейкае логікі, сказаў, што выдзяляе адну старонку "Нівы" і будзе друкаваць вершы, і плаціць ганарары няштатным працаўнікам! Значыць, скараціў нейкім чынам ганарары для сваіх сталых супрацоўнікаў. Больш за тое, увёў штатную адзінку паэта. Вось такая логіка была. Аднак такім чынам "Ніва" ставалася мэтакіраванай нацыянальна і чытабельнай, і запатрабаванай, і пачынала дзейнічаць у школе як падручнік у нейкай ступені. Чыталі вершы і апавяданні сваіх аўтараў. Гэта зноў вельмі важна было. Невялікімі ганарарамі, бо якія тады былі ганарары — 10-15 злотых за верш, Валкавыцкі заахвочваў пісаць, прысылаць напісанае ў рэдакцыю. Так увасаблялася ўвогуле геніяльная ідэя Валкавыцкага: стварыць на Беласточчыне сваё літаратурнае асяроддзе.

Валкавыцкі і паклікаў да жыцця такую арганізацыю, як літаратурнае аб'яднанне. 8 чэрвеня 1958 года адбыўся яго Устаноўчы сход. Праз некалькі гадоў і назва была дадзена – "Белавежа". І першым старшынёю стаў Валкавыцкі. А ўжо ў 1962 годзе быў абраны Алесь Барскі. І ён хіба звыш 20 гадоў быў кіраваў "Белавежай". Відавочна, не было патрэбы мяняць старшыню, таму што, як я лічу, у пісьменніцкіх арганізацыях так і павінна быць. Абіраюць таго, хто мае салідны творчы даробак і аўтарытэт сярод сваіх сяброў. Так яно павялося ў нас.

***Н.Г.:* А колькі было напачатку ўдзельнікаў гэтага аб'яднання? Ці змянялася іх колькасць?**

Я.Ч.: На першым з'ездзе было 19 чалавек. І прыкладна такая лічба 18-20-25, заходзіла пад 30, утрымлівалася да пачатку 2000-х гадоў. Паступова пачалі ады-



*Маладыя паэтычныя сілы "Белавежы" – Юстына КАРОЛЬЧЫК, Кацярына СЯНКЕВІЧ, Юрка БУЙНЮК разам з Галінай ТВАРАНОВІЧ. Фота Улі ШУБЗДА.*

ходзіць сябры старэйшага ўзросту. На жаль, няўхільна адбываецца нераўнацэнная змена пакаленняў. Сілаю рэчаў запаволілася папаўненне "белавежскіх" шэрагаў. Прычынаю таму і агульная сітуацыя з беларускаю моваю, і індывідуальны патэнцыял. Маладыя нешта напішуць, пададуць някепскі сігнал, а далей як бы не хапае сіл, не хапае крылаў, творчага ўяўлення, жыццёвага і культурна-мастацкага вопыту, з якога пісьменнік можа карыстаць, словам, чагосьці яшчэ не хапае. Можа, нейкай метафізікі ў чалавека не хапае... Той метафізікі, пра якую Афанасій Фет гаварыў, што паэзія – гэта вар'яцтва. Калі вы не скочыце з высокага вакна на зямлю, вы не паэт. Вы павінны ўмець скочыць, мець фантазію, а часам не хапае якраз фантазіі. Часам жа бывае так, што маладыя людзі маюць задаткі ад прыроды, але не могуць развіцца, не развіваюцца, таму што не хапае шмат чаго. Няма дома кніжак, няма добрых настаўнікаў, або чытаюць не тыя кнігі, слухаюць не тых людзей. Усё гэта іх замуляе, чалавек глухне. Можна сказаць, што ўсе людзі нараджаюцца таленавітымі, але толькі ў некаторых вырастаюць крылы. І, вядома, суіснаванне ў гушчы пальшчызны патрабуе дадатковай нацыянальнай акрэсленасці і смеласці духу.

І прыкладаў тут хоць адбаўляй. У школе, як я лічу, вельмі кепскія адносіны да паэзіі як такой, кепскія паэтычныя ўзоры падсоўваюцца, хутчэй імітацыя паэзіі. Таму што і ў польскай, і ў рускай, і ў беларускай літаратуры, можа, працэнтаў 90 — гэта падробкі паэзіі, нейкія філалагічныя практыкаванні. Чалавек, які атрымаў вышэйшую адукацыю на філалагічным факультэце, пэўна, павінен умець пісаць вершы. Тым не менш гэта не арганічная паэзія, а зробленая на адзін капыл, гэта тыя ж "філалагічныя" вершы. І сёння нават "Дзеяслоў" запоўнены такімі тэкстамі.

Моладзь у ліцэй прыходзіць свежая, чыстая, *tabula rasa*, яна падрыхтаваная да таго, каб чытаць высокую, узнёслую паэзію, а ёй часта падсоўваецца "мыла". І ўсё. Гэта нашыя праблемы. Я маю тэарэтычныя веды, але куды з імі пойдзеш... Мяне і мае сябры-"белавежцы" часам не хочуць слухаць [смяецца]. Тут я, вядома,

жартую. Але калі паміж “белавежцамі” ёсць творчыя напружанні, я лічу, што гэта вельмі карысна. Бо, я маю адвагу гэта сказаць, мы — індывідуальнасці, а творчыя людзі “калючыя”. Трошкі недзе даткнешся нібыта не так, і ўжо хмаркі наплываюць.

***Н.Г.:* Скажыце, ці не было ў “белавежцаў” крыўдаў, што пра кагосьці Вы напісалі, а пра кагосьці не?**

Я.Ч.: Пра тое якраз і гаворыцца. Вядома, ёсць такія прэтэнзіі, што, відаць, і зразумела. У мяне цяпер на стале ляжыць публікацыя (чытаю яе), дзе называецца Барскі, яшчэ нехта, а пра мяне ні слова. І ў мяне ўжо таксама ўзнікае падсвядомая насцярожанасць. Якраз такія раптоўныя перапады ціску добра сведчыць – я неабыякавы, я ангажыраваны ў гэты працэс, я жывы.

## “Тэрмапілы”

***Н.Г.:* Сёння гадавік “Тэрмапілы”, адзін з самых трывалых беларускіх тоўстых літаратурных часопісаў у замежжы. Як ўзнікла ідэя гэтага выдання?**

Я.Ч.: Вельмі проста. Прынамсі, цяпер здаецца, што гэта проста. З нейкага даўняга часу было так, што Георгі Валкавыцкі выдаваў Літаратурную старонку ў “Ніве”, каб мы маглі друкавацца. Яна выходзіла штомесяц, на працягу сарака гадоў, мела сваю нумарацыю. Калі я стаў працаваць у 1964-м у Беластоку, ён запрасіў мяне да сябе, адкрыў шафу і гаворыць: “Вось тут ляжаць тэчкі, дзе імёны “белавежцаў” і матэрыялы, якія яны дасылаюць. Выбірай і рабі Літаратурную старонку. Таму што я не хачу гэтым ўжо займацца. Пішу кнігу”. Магчыма, ён так сказаў, каб мяне заахвоціць. І я стаў яе рабіць.

Помню, у нейкім часе здарылася мая памылка. Я трапіў на вершы Яшы Бурша і мне прыйшло ў галаву, каб гэтыя вершы Стэфан Рыбі, рэдакцыйны графік, нейяк упрыгожыў, выдзяліў. А ён ўзяў і кожны радок падкрэсліў тоўстай лініяй. І гэта вельмі аўтару як мастаку (бо Яша Бурш па адукацыі мастак) не спадабалася. Ён сказаў, што паколькі так здзекліва мы падышлі да ягоных тэкстаў, ён з намі не хоча болей нічога мець супольнага. І ад гэтага часу ён перастаў друкавацца. Так што гэта маю на сваім сумленні. Канчатковую работу зрабіў мастак Стэфан Рыбі, але ідэя ў нейкай ступені была мая – хацелася падкрэсліць вартасць твора, ацаніць дадаткова па-мастацку. Лічу, задума была правільная, добрая, а вынік аказаўся фатальны.

Як я казаў, Георгі Валкавыцкі скінуў рэдагаванне Літаратурнай старонкі на мяне. Пасля нейкі час я гэтым не займаўся, бо быў у Варшаве, у аспірантуры, а потым зноў вярнуўся да Старонкі. І мне цягам часу самому гэта таксама надакучыла, бо я быў заняты навуковай працаю. І недзе ў 1996 годзе я перадаў рэдагаванне Літаратурнай старонкі Сакрату Яновічу. Валкавыцкі ўжо не працаваў, а Сакрат Яновіч сутыкнуўся з чарговай цяжкасцю — перасталі прыходзіць матэрыялы. У “Ніву” не прысылалі, відаць, таму, што не было Валкавыцкага. І Сакрат папытаўся: “Ясь, што будзем рабіць?” А я адказаў: “Скончым. Не мусім жа перадрукоўваць мінскіх пісьменнікаў”. І такім чынам мы дамовіліся, што даводзім Старонку да саракагоддзя “Белавежы” — і замыкаем. Так і сталася. З’явіўся 460 нумар Літаратурнай старонкі і на гэтым была пастаўлена кропка.

Але ж мы не прапалі. Яшчэ раней я выношваў ідэю выдання тоўстага “белавежскага” часопіса, у якім можна было б друкаваць і даўжэйшыя творы, якія перарасталі рамкі месячнай Старонкі. Ідэя аказалася трапнай. Вось рыхтуецца ўжо 22-гі[1] нумар “Тэрмапілаў”. Каб удалося давесці да нейкай прыгожай лічбы... Да 460 нумароў немагчыма, але каб выдаць хоць з 25 штогоднікаў...

[1] Лічба ўдакладнена Янам Чыквіным па стане на 2018 год.

***Н.Г.:*** ***А адкуль сродкі? Гэта ж не проста прыдумалі й пачалі рабіць. Трэба ж аднекуль і грошы мець на выданне…***

Я.Ч.: Дзякуй Богу, ёсць у Польшчы яшчэ нейкая здаровая частка палітыкаў, якія нацыянальным мяншыням даюць грошы. Адным больш, іншым менш, але даюць. Можна сказаць так, што даюць тым, хто моцна і ўмела просіць, мінус пэўныя карэктывы. Можна здзіўляцца, што з усіх беларускіх арганізацый “Белавежа” атрымлівае найменш. Але ў сваё апраўданне я магу сказаць, што мы просім столькі фінансавых сродкаў, колькі можам выкарыстаць. Я не магу прасіць, скажам, 200 тысяч, таму што я іх не выкарыстаю, няма такой магчымасці. “Белавежа” не з’яўляецца фабрыкай, дзе штогод з канвеера сыходзяць тры кнігі. Праўда, выходзіць часам і чатыры, і шэсць кніг, але дзякуючы іншым фундатарам. А ў справах фінансавых падыход досыць-такі прагматычны мусіць быць. Трэба за год да выдання кнігі ведаць яе параметры, колькі на яе грошай пойдзе, і толькі тады запусціць працэдуру атрымання датацыі. Так што на “Тэрмапілы”, як на выданне перыядычнае, грошы атрымліваем. І дзякаваць Богу.

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
**сяброў «Белавежы»**
з шасцідзесяцігоддзем літаратурнага аб’яднання
і зычаць найстарэйшай творчай арганізацыі Беласточчыны
росквіту ды спору ў працы!

Алесь Бельскі



...такія нараджаюцца
раз на сто гадоў...

# Рытм сэрца і лейтматыў жыцця

***Слова пра Ігара Жука***

Рытм – паўсюль, дзе рух, дынаміка, жыццё. Рытмавае існаванне ўласціва не толькі ўсяму жывому, але і вершу, слову, тэксту. І ў яго, Ігара Васільевіча Жука, быў свой жывы рытм сэрца: то размераны і ціхі, то знерваваны і гулкі – і тады надаралася парушэнне, арытмічнасць суправаджалася непрыемнымі сімптомамі і адчуваннямі. «Сэрца ные, сэрца кроіцца ад болю...», – гэткі стан, перададзены вядомым паэтам, Ігар Жук спазнаў у яго дакладным сэнсе, напоўніцу. Урэшце, ён нечакана дайшоў да экстрэмальнай жыццёвай рысы-мяжы і апынуўся перад выбарам. Таму, ратуючы сэрца, і рашыўся на аперацыю...

Рытм – галоўная стыхія навуковых зацікаўленняў і творчасці І. Жука. Яго надзвычай захапілі тэарэтычныя штудыі беларускай класічнай прозы ў аспекце даследавання рытміка-метрычнай арганізацыі і дынамікі тэксту. Ён выступіў як бліскучы літаратурны тэарэтык-структураліст. Патэнцыяльныя магчымасці паглыбленага структуралісцкага аналізу да І. Жука ў нашым нацыянальным літаратуразнаўстве, а структуралізм стаў адным

з апошніх найбуйнейшых сусветных навуковых адкрыццяў, не былі доўгі час пасняхова і плённа скарыстаны. Структура тэксту для яго – мікракосмас, які ён спасцігаў ва ўсёй шматграннасці, багацці з'яў, дэталяў і нюансаў. Сваёй манаграфіяй «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання» (2003), а потым доктарскай дысертацыяй на гэтую тэму, якая мае ў дужках удакладненне «на матэрыялах беларускай літаратуры», ён зрабіў значны і па-наватарску арыгінальны ўнёсак у сучаснае беларускае літаратуразнаўства. Рытміка-метрычны чыннік тэксту І. Жук разглядаў як своеасаблівы код мастацкага мыслення і індывідуальнага стылю пісьменніка. Алгебрай ён правяраў гармонію, скарыстоўваў з гэтай мэтай дапаможныя дысцыпліны і найноўшыя тэхналогіі – метады матэматычнай тэорыі і лінгвастатыстыкі. Шэраг навуковых эксперыментаў ён правёў разам з гродзенскім матэматыкам В. Родчанкам, надрукаваў у суаўтарстве з ім артыкулы ў другой палове 1990-х гг. – на пачатку 2000-х гг.: «Атрыбуцыя літаратурных тэкстаў з дапамогай матэматычнай статыстыкі» (1995), «Аб'ектны падыход у пабудове атрыбуцыйнага тэксту» (2003) і інш. Асабіста мяне асабліва ўразіла супольная навуковая праца гродзенскага творчага тандэма «"Чаму плача песня наша?": загадка аўтарства» (1998). Здаецца, ці не дзякуючы гэтай публікацыі ўрэшце пастаўлена кропка наконт атрыбуцыі спрэчнага тэксту на аснове эксперыментальнага даследавання рытміка-інтанацыйных і маўленчых комплексаў. Праведзены аналітыка-тэксталагічны аналіз з выкарыстаннем стылеметрыі і метадаў праграмна-кампутарнага мадэлявання, прыкладной матэматычнай статыстыкі дапамог выявіць індывідуальна-аўтарскую спецыфіку палемічнага артыкула «Чаму плача песня наша?», які быў падпісаны псеўданімам «Адзін з парнаснікаў».

І фундаментальнай працай «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання», і шэрагам праблемных тэарэтыка-гістарычных публікацый І. Жук яскрава прадэманстраваў, што вывучэнне тэксту на структурна-кампазіцыйным і семіятычным узроўнях можа быць надзвычай цікавым філалагічным заняткам, захапляльным творчым працэсам.

Ігар Жук добра ўсведамляў неабходнасць новых навуковых дыскурсаў і сістэмных падыходаў пры даследаванні беларускай літаратуры, патрэбу ў фундаментальных тэарэтычных распрацоўках, якія забяспечылі б прэстыж нацыянальнай літаратуразнаўчай школы. Калі паўстала праблема выбару, што і як даследаваць, то вырашыў рухаць тэорыю, выйсці на глыбіню спазнання і асэнсавання мастацкай творчасці, найбольш рэпрэзентатыўных узораў класікі, роўнавялікіх з'явам сусветнай літаратуры. З аднаго боку, яму быў цікавы каштоўны вопыт станаўлення беларускай тэарэтыка-літаратурнай думкі. А, з іншага, ён арыентаваўся на яскравыя прыклады сучаснікаў. Так, метрадынаміку беларускай вершаванай мовы і маўлення грунтоўна даследаваў І. Ралько. Яго манаграфія «Верш і мова (праблемы тэорыі і гісторыі беларускага верша)» (1986), выдадзеная пасмяротна, мела несумненную навукова-даследчую перспектыву. Дарэчы, І. Жук выказаў пашанотнае стаўленне да памяці і таленту свайго папярэдніка-тэарэтыка. У аўтарэфераце дысертацыі ён вылучае імя «таленавітага беларускага вучонага І. Ралько» (с. 8) – і робіць гэты сэнсава-ацэначны акцэнт свядома. Аддае ён належнае і яшчэ аднаму папярэдніку – А. Яскевічу, які распрацоўваў новыя эксперыментальна-даследчыя падыходы ў манаграфіі «Рытмічная арганізацыя мастацкага тэксту» (1991; на рус. мове).

Колан – невялікая рытміка-інтанацыйная адзінка – з'яўляецца ключавым паняццем у доктарскай дысертацыі І. Жука «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання». Развіваючы тэорыю метрадынамікі, ён разглядаў тэкст на мікраўзроўні, аналізаваў рытм як рух слова і самой моўнай структуры, пры гэтым вылучаў у празаічным маўленні, вербалізацыі семантычна-метрычныя цэнтры, рытмавыя дамінанты. Ён у выніку эксперыментальных доследаў прыйшоў да канцэптуальна значнай высновы: «Рытмавы вобраз тэксту ляжыць у аснове стратэгіі цэласнага

стылёвага афармлення твора і засноўваецца на асаблівасцях прасодыі. Таму наяўнасць агульнанацыянальнага рытмавага вобраза – гэта наяўнасць пэўным чынам сфармаванага пласту гістарычнай і эстэтычнай памяці народа, што складае аснову стылістычнай эвалюцыі нацыянальнай прозы». Тэарэтык-даследчык надзвычай скрупулёзна, нібы пад мікраскопам, разгледзеў коланавыя словападзелы і камбінацыі, вылучыў пэўныя рытмаўтваральныя тыпы маўлення, рытмавыя вобразы тэксту і ў выніку вызначыў вядучыя метрадынамічныя тэндэнцыі развіцця беларускай мастацкай прозы. Ці не гэты тэкстацэнтрычны ўхіл, паглыбленне ў структурны аналіз, засяроджанае «корпанне» ў літаратурных тэкстах аж да «растварэння» ў іх моўна-стылёвай тканіне і дало падставы Ігару Васільевічу крыху іранізаваць над тым, чым ён займаўся. «У мяне, як у Паўлава ці Пірагова, занятак такі: трэба прэпараваць матэрыю. А ты, на шчасце, найперш атрымліваеш эстэтычную асалоду, радуешся слову», – казаў ён мне пра свой даследчы метад. Праз колькі хвілін ён пакінуў аўтограф на сваёй манаграфіі «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання»: «Шаноўнаму Алесю Іванавічу, які нават у XXI стагоддзі змог утрымаць у сабе і зберагчы невераемны, міфічны, – паганскі па сутнасці – давер да слова. Схіляю перад гэтым галаву. “Крот” Ігар Жук. 26.06.05». Акурат тады я другі год запар быў старшынёй Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі ў Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы, і мы з Ігарам Васільевічам зноў працавалі разам у камісіі. На аказію прыгадваецца і ранейшы аўтограф ад 11 чэрвеня 2004 г. на кнізе «Сустрэчны рух», якую ён надпісаў мне, адзначаючы, што наша сумоўе яму «адкрыла... прафесара тонкіх чалавечых рэфлексій».

Але вярнуся да Ігаравай абароны доктарскай дысертацыі. Пасля «суднага дня» 17 сакавіка 2004 г. Ігар Васільевіч з удзячнасцю мне сказаў: «Ты – адзіны доктар навук, хто адгукнуўся на аўтарэферат маёй дысертацыі». Між тым, я з ахвотаю напісаў не толькі той сур’ёзны тэкст водзыву, але яшчэ, каб падняць дысертанту настрой, дазволіў пагумарыць, напісаў дзве жартоўныя эпіграмкі. Рэч у тым, што адным з апанентаў па доктарскай дысертацыі быў доктар навук, прафесар У.М. Конан. Колан – Конан – гэтае фанетычнае перагукванне, яскравую рыфму маё вока прыкмеціла адразу, таму не ўтрымаўся і склаў гумарныя пацешкі для ўсмешкі. Па выступленнях шаноўнага Уладзіміра Міхайлавіча ў нашым філфакаўскім савеце па абароне дысертацый ведаў, што той любіць грунтоўнасць, а таму выступае падоўгу. Да таго ж, як сказаў паэт, «суха, теория, мой друг...». Згадайма хаця б дасціпны аўташарж У. Караткевіча, які занудзіўся на абароне дысертацы В. Рагойшы па паэтыцы Максіма Танка. Прысутным доўгую працэдуру пасяджэння, а то і задоўжаную абарону дысертацыі з яе мітрэнгамі, часам трэба проста мужна вытрымаць. Вось таму з нагоды абароны гродзенскага калегі я крыху і пакпіў:

Пад рытмаў прозы ціхі стук
На абарону выйшаў Ігар Жук.
Ва ўнісон пра дзіва-колан
Тачыць да ранку будзе Конан.

О, як жа ён шчыра пасмяяўся! (Сустрэўся з ім пры ўваходзе ў беларускі аддзел старога будынка Нацыянальнай бібліятэкі, ля вялізнага акна пры ліфце, акурат для таго, каб перадаць водзыў на аўтарэферат.) Як высветлілася потым, яго абарона тады ў Нацыянальнай акадэміі навук сапраўды зацягнулася... У другой эпіграме, здаецца, было такое: «...А ўсё астатняе пра колан // На абароне скажа спадар Конан». Першым апанентам выступаў тэарэтык Алесь Яскевіч...

Кажу далей без усялякай іроніі ды жартаў: абмяркоўвалася арыгінальная і глыбокая праца, таму было там пра што гаварыць вучоным мужам, былі падставы не толькі для ўхвалення зробленага дысертантам, але і доўгай грунтоўнай размовы пра навуковую праблему, скрупулёзна распрацаваную таленавітым даследчыкам.

Як вядома, з пустышкі нічога не высмакчаш. А «грунт» зазямляе, заглыбляе думку, дае аснову для назіранняў і высноў, дае магчымасць, каб адштурхнуцца і сягнуць у мастацкі космас, у ментальную сферу далей і вышэй. Ігара Жука аднадушна прынялі ў склад беларускай навуковай эліты як роўнага сярод роўных.

Інтэлектуал-мысляр, ён меў піетэт перад вялікім і геніяльным, захапляўся маштабам здзейсненага, і найперш пад увагу і за павагу браў талент навукоўца ці пісьменніка. Працуючы ў літаратуразнаўстве з савецкага часу, ён, як многія іншыя даследчыкі, быў у парадыгме тэарэтычнага мыслення Б. Тамашэўскага, В. Жырмунскага, Ю. Лотмана, М. Бахціна, Ю. Тынянава, М. Гаспарава і інш. Зрэшты, і мяне навуковы кіраўнік прафесар А. Лойка арыентаваў на самыя найлепшыя дасягненні літаратурна-эстэтычнай думкі свайго часу. Раіў чытаць і набірацца досведу ў Л. Гінзбург як найвыдатнай даследчыцы лірыкі. І па сёння захоўваю з надпісам навуковага кіраўніка кнігу Ю. Тынянава «Поэтика. История литературы. Кино», якую Алег Лойка набыў у Гомелі ў 1977 г. Памятаю, на экзамен кандыдацкага мінімума па спецыяльнасці – гэта значыць па беларускай літаратуры – Алег Антонавіч прынёс кнігу «В мастерской художника слова» і паклаў яе на стале з нейкім вядомым яму намёкам, а потым, даруючы мне, узрадавана сказаў: «Ва ўкраінцаў ёсць Аляксандр Іванавіч Бялецкі, а ў нас хай будзе свой Алесь Іванавіч Бельскі». І тады ж даў мне для азнаямлення аўтарэфераты кандыдацкіх дысертацый І. Жука, В. Русілкі, Т. Чабан: «І на сваіх маладых папярэднікаў раўняйся. Спадзяюся, твая абарона будзе наступнай».

У прапанаваным артыкуле «Тэкст як увасабленне памяці верша» для навукова-метадычнага зборніка «Філалагічная адукацыя» (2011, №2) Ігар Васільевіч Жук акурат прывёў кароткі спіс літаратуры з імёнамі выдатных творчых асоб – аўтараў даследаванняў па тэорыі паэзіі. «Мы з табою – вязні Філалогіі. І ў нас адны аўтарытэты ў літаратурнай зоне», – пачаў я тэлефонную гамонку з Ігарам Васільевічам з нагоды яго артыкула. «Зону» адмыслова жартам супрацьпаставіў «полю» П'ера Бурдзьё, пакпіўшы, як нашы калегі з дапамогай тэорыі знанага француза кінуліся дружна гуртам распрацоўваць беларускія «палі». «Нават урбаністы, дзеці горада не ўтрымаліся, шчыруюць. Палі, вакол палі...» – працягваю, а затым прашу ў яго дазволу, каб пашырыць спіс рэкамендаванай літаратуры. Прапаную ўлучыць імя аўтара выдатных прац па тэарэтычнай паэтыцы. «О, гэта наш кораш! Давай!..» – падхапіў жартаўліва-вясёлы, сцёбны тон размовы Ігар Васільевіч і засмяяўся. Ён сам любіў дасціпна гумарыць, пакепліваць, прышпільваць слоўцам з перцам. Але рабіў гэта інтэлігентна, эстэтычна, без нейкіх абразлівых эпітэтаў ці выразаў.

З 1979 г. І. Жук пачаў актыўна выступаць як крытык у рэспубліканскай перыёдыцы. Яго артыкулы друкаваліся перыядычна, ён звярнуў на сябе ўвагу літаратурнай супольнасці. На працягу 1980-х – у пачатку 1990-х гг. на старонках штотыднёвіка «ЛіМ» і часопіса «Маладосць» з'явілася больш як два дзясяткі публікацый маладога крытыка, якога з цягам часу прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі (1991). І. Жук удумліва аналізаваў новыя кнігі і творы беларускай прозы. Ён сваёй літаратурна-крытычнай творчасцю дэманстраваў узор інтэлектуальнага літаратуразнаўства.

Акурат тады, пасля 1991 г., пачалося пераасэнсаванне савецкай гісторыі і літаратуры савецкага часу. Многім запомнілася дыскусійнае выступленне І. Жука ў «ЛіМе», выкліканае праблемным артыкулам М. Мушынскага «Ці быў Міхал Тварыцкі ворагам народа?». У артыкуле «Нявольнік лёсу: спроба рэабілітацыі літаратурнай традыцыі» (1990) І. Жук у супрацьвагу сацыялагічным трактоўкам зірнуў на Міхала як на ментальна-псіхалагічны тып героя, носьбіта нацыянальнага характару. Ён пісаў: «Міхал – нацыянальны характар. І не трэба палохацца, што нацыянальны характар аказваецца такім нязвычным... Тут К. Чорны ніяк не ўступае ў супярэчнасць ні з жыццёвай логікай, ні з нацыянальнай эстэтычнай маральнай

традыцыяй. ...Міхал Тварыцкі існуе якраз у пераломным моманце жыцця народа. Такія моманты істотна ўплываюць на фармаванне характэрных рысаў нацыі. Адны рысы і асаблівасці нацыянальнага характару сціраюцца, знікаюць, іншыя знаходзяцца яшчэ ў зародкавай стадыі. І калі гэтыя кволыя зачаткі замарозіць, далейшае іх развіццё можа пайсці з яўнай "геннай мутацыяй". Сталіншчына – гэта сёння мы можам сцвярджаць з абсалютнай упэўненасцю – якраз і ёсць акт суб'ектывісцкага ўмяшання ў "генетычны" код нацый». І яшчэ вельмі важная думка-выснова ў новым прачытанні чорнаўскага рамана: «У той час, як з-пад пяра К. Чорнага (магчыма, міжвольна) выйшла *нацыянальная драма*, пачыналася крушэнне нацыі: трэцяе пакаленне карэнным чынам парывала сувязі са сваімі папярэднікамі». Хай сабе погляд на твор і героя Кузьмы Чорнага часам выглядае суб'ектыўна-палемічным, але з выкладкамі і меркаваннямі канцэптуальна-ацэначнага характару аўтара лімаўскай публікацыі нельга не было пагадзіцца і не прыняць іх на ўвагу пры далейшай распрацоўцы праблемы стварэння новай гісторыі літаратуры, рэпрэзентацыі ў ёй мастацка-псіхалагічнай традыцыі, нацыянальнага менталітэту, важных сацыяльна-філасофскіх сэнсаў.

Прыкладна з 1992-1993 гг. І. Жук пачаў менш выступаць з літаратурна-крытычнымі артыкуламі, рэцэнзіямі-водгукамі на кніжныя навінкі. Памятаю, як у гутарцы са мною пра бягучы літаратурны працэс пісьменнік Генрых Далідовіч абмовіўся: «Шкада, што Ігар Жук больш нічога не дасылае ў "Маладосць". Піша ён талкова і грунтоўна. Цяпер адышоў ад літаратуры, бо, кажуць, амаль увесь час у яго займае дэканства». Так я дачуўся пра тое, што ў 1991 г. малады дацэнт кафедры беларускай літаратуры І. Жук стаў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце дэканам факультэта беларускай філалогіі і культуры. Аддаў ён адміністрацыйна-кіраўнічай працы пяць гадоў. Доўжылася ягонае дэканства да 1996 г., а прыпала на пачатковы перыяд станаўлення беларускай незалежнасці і дзяржаўнасці, калі пачалі адраджацца нацыянальная свядомасць, мова нашага народа, яго традыцыі і культура, пакрысе аднаўлялася гістарычная памяць – і да беларусаў у выніку вярталася пачуццё нацыянальнай самапавагі і годнасці. Ігар Васільевіч успрыняў працу па беларусізацыі, перабудове і мадэрнізацыі адукацыі як важную справу жыцця, ён імкнуўся сумленна спраўдзіць свой доўг беларускага інтэлігента-патрыёта перад уласным народам. Гэта было і духоўнае, маральнае пакліканне, і галоўны звышсэнс, жыццёвы лейтматыў, і выяўленне яго актыўнай грамадзянскай пазіцыі. На тым этапе найноўшай гісторыі час выбраў яго, таму, усведамляючы сваю запатрабаванасць, неабходнасць змен і пашырэння новых культурна-грамадскіх працэсаў, ён ахвяраваў навукова-літаратурнай і бібліятэчна-даследчай дзейнасцю на карысць працы па рэалізацыі надзённых нацыятворных і перспектыўных адукацыйных задач па выхаванні новага пакалення моладзі.

Творчая паўза, напэўна, усё ж задоўжылася, адміністрацыйнае кіраванне спарадзіла калі не абсалютнае маўчанне Жука як крытыка і даследчыка, дык прывяло да дыскрэтнасці, парушэння прапорцый у бок уяўнай перавагі над навукова-літаратурнай творчасцю. Тым не менш у 1995 г. з'явілася адметная публікацыя І. Жука «Уладыслаў Чаржынскі: загадкі і трагедыя лёсу» ў гродзенскім рэгіянальным навуковым зборніку, потым яе пашыраны варыянт быў змешчаны ў рэспубліканскім друку – у часопісе «Полымя» (1997, №12) пад назвай «Жыццё на мяжы бездані». Гэтая палымянская публікацыя стала адкрыццём беларускага крытыка У. Чаржынскага, забытае імя якога рэабілітавалася і паўнавартасна ўлучалася ў гісторыка-літаратурны кантэкст. Скажам, калі я пісаў прадмову да кнігі «Творы» (1993) нашаніўскага паэта Янкі Журбы, то згадваў рэцэнзію на яго зборнік «Заранкі», якую «напісаў нехта Улідзе». Тады, шчыра кажучы, праз недахоп часу я не абцяжарыў сябе пацікавіцца, хто ж выступаў пад гэтым псеўданімам. Дзякуючы публікацыі І. Жука даведаўся, што Улідзе – адзін з псеўданімаў У. Чаржынскага. Ён напісаў грунтоўны гісторыка-біяграфічны нарыс,

які дае ўяўленне пра творчы шлях крытыка, суправаджаючы свой аповед глыбокім аналізам і ацэнкай з'яў, падзей, фактаў літаратурнага ды грамадска-палітычнага жыцця 1920-х гг. Аўтар артыкула стварыў выразную канцэпцыю творчай асобы У. Чаржынскага, які «публічна выступаў супроць яўнага збяднення і няслушнага спрашчэння ўнутранай канстытуцыі беларускага пісьменства пачатку XX стагоддзя» і «сваімі ідэямі трапляў яўна не ў тон часу». І. Жук раскрыў сутнасць ідэйна-эстэтычных поглядаў крытыка і асэнсаваў яго літаратурна-крытычны вопыт.

Пасля перыяду працы на пасадзе дэкана І. Жук колькі часу выкладаў на кафедры беларускай літаратуры ГрДУ імя Янкі Купалы, а потым падаўся ў дактарантуру ў родны БДУ, які скончыў у 1979 г. Выдаў першую значную кнігу «Сустрэчны рух» (1998), дзе, апрача праблемна-змястоўнага тэксту «Актуаліі класікі» і згаданых вышэй артыкулаў пра творчасць Кузьмы Чорнага і Уладыслава Чаржынскага, асобны раздзел складае літаратуразнаўчы трыпціх «Анталагічнае ядро "Тутэйшых"».

Скончыўшы даследаванне метрадынамічных працэсаў у мастацкай прозе, І. Жук скіраваўся да паэтыкі матыву і рэпрэзентацыі матыўных лексіка-семантычных кампанентаў і мадэляў у нацыянальнай літаратурнай класіцы. Ён да гэтага ў артыкуле «Актуальнасць класікі» ўжо гаварыў пра неабходнасць адкрыцця духоўна-ментальнай і вобразна-мастацкай прасторы беларускай літаратуры, яе глыбіннага тэкстуальнага прачытання. Уласна кажучы, І. Жук на аснове выразна акрэсленага тэарэтычнага падыходу («матывы – своеасаблівы ДНК літаратуры») жадаў-імкнуўся стварыць інавацыйнае практычна-прыкладное даследаванне. І гэтую задуму, і творчы праект ён змог увасобіць у жыццё, рэалізаваць дзякуючы калектыўным намаганням. У 2009 г. пад агульнай рэдакцыяй І. Жука выйшла манаграфія «Матыўная прастора ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (2009). Яго суаўтарамі выступілі А. Пяткевіч, Д. Лебядзевіч, А. Петрушкевіч. Культуралагічны вертыкальна-гарызантальны зрэз праз матыўную канцэптуалізацыю дапамог раскрыць адметнасць нацыянальна-мастацкай карціны свету. Вось як І. Жук падагульняе вынік праведзенага даследавання, прэзентуючы мадэльнае бачанне прасторы беларускай літаратуры пачатку XX ст.: «Так узнікла змястоўная трыяда "хата – бяседа – шлях": *хата* (як анталагічная каштоўнасць роду, этнасу), у якой нешта адбываецца (сцверджанне ідэалаў этнасу праз паэтыку "*бяседы*"), і да якога вядуць *шляхі* адкрытай ці лакалізаванай сувязі са светам». Апрача тэарэтыка-гістарычных выкладак, І. Жук грунтоўна разглядае паэтыку шляху ў творчасці Янкі Купалы на матэрыяле лірычных твораў і драмы «Раскіданае гняздо».

Ён лічыў, што неапраўдана запозна мы пачалі сістэмна вывучаць і асэнсоўваць матыўную прастору нацыянальнай літаратуры. Пра гэта, уласна кажучы, Ігар Васільевіч і гаварыў мне, калі дзяліўся творчымі планамі па стварэнні кнігі на азначаную тэму. З напрацовак расійскіх даследчыкаў ён вылучаў кнігу Б. Гаспарава «Литературные лейтмотивы: очерки русской литературы XX века» (1994). Калега бачыў і яшчэ больш грандыёзную, маштабную задачу – стварэнне энцыклапедыі ці літаратуразнаўчага слоўніка літаратурных матываў. У сэнсе навуковых падыходаў да асэнсавання класічнай літаратурнай спадчыны ў нас погляды супадалі, тут мы былі аднадумцы. Ігар Васільевіч цудоўна разумеў, чаму і навошта я скіраваўся да рэпрэзентацыі пейзажных вобразаў і матываў у беларускай паэзіі. Яны – не проста адлюстроўваюць прыгожыя рэаліі і ландшафты, а ўвасабляюць нацыянальна-характэрную прастору, у якой выяўляецца філасофія быцця беларуса. Ён станоўча выказваўся пра кнігу «Свет ад травы да зор. Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу» (1998), змест якой, дарэчы, складае значную частку маёй доктарскай дысертацыі. А некаторыя з калег-раўналеткаў на філфаку пасмейваліся, кпілі з маёй тэмы дысертацыі. Маўляў, мне лепш падацца працаваць на геафак на кафедру ландшафтазнаўства ці землязнаўства або раілі ісці выкладаць на біяфак батаніку. Вось з гэткім бачаннем, успрыманнем нацыянальна-паэтычных

вобразаў і матываў мне даводзілася сустракацца тады, у канцы 1980-х – 1990-я гг. Што гэта было з боку асобных калег: недасведчанасць ці спроба прынізіць мяне разам з такой, як здавалася, не вартай увагі тэмай? Я ж прытрымліваўся найперш думкі-ідэі М. Эпштэйна: «аналіз пейзажных матываў дапамагае зразумець не толькі *нацыянальную своеасаблівасць*... паэзіі, але і яе *гістарычны рух*». Мой дысертацыйны тэкст грунтаваўся на вялікім факталагічным матэрыяле, на аснове праведзенай сістэматызацыі пейзажных вобразаў і матываў. Гэтак жа, як і мой калега І. Жук, пры аналізе тэксту я разглядаў нацыянальна-тыповае, устойлівае і адметнае ў мастацкім светаспазнанні і светаўспрыманні, а таксама праз аналіз матыўных структур імкнуўся вылучыць сэнсава важнае, анталагічна значнае, канцэптуальнае, у тым ліку тое, што вядзе да трансфармацыі традыцыйнага вобраза быцця. Мяне ўсцешвала, што ў нас з Ігарам Васільевічам ёсць не проста агульныя навуковыя кропкі судакранання і лініі перасячэння, але і блізкасць, нават агульнасць духоўнай пародненасці праз піетэт да нацыянальнай класікі.

Значным набыткам сучаснага беларускага літаратуразнаўства стала кніга І. Жука «Прыхінуцца да крыніцы» (2017), у якой аўтар тэарэтычна і канцэптуальна асэнсаваў літаратурную спадчыну Янкі Купалы і Якуба Коласа. На вялікі жаль, кніга выйшла пасмяротна, Ігар Васільевіч не паспеў патрымаць яе ў руках. Рыхтаваў гэтую кнігу як канцэптуальны навукова-творчы праект, імкнуўся падсумаваць свой вопыт у рэчышчы даследавання нацыянальнай класікі. І. Жук надрукаваў больш як 130 прац, значная частка якіх прысвечана менавіта творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. Філасофскі матыў пошуку беларускага шляху стаў сэнсаўтваральным цэнтрам аўтарскага дыскурсу. У кнізе, назва якой мае мастацка-паэтычную афарбоўку – «Прыхінуцца да крыніцы», надзвычай грунтоўна прааналізаваны рытміка-інтанацыйныя і метрычныя асаблівасці будовы паэтычных тэкстаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, іх сэнсава-семантычная напоўненасць і вобразна-сімвалічная архітэктоніка. У космасе-сусвеце нацыянальнай класікі Ігара Жука можна параўнаць з беларускім астранаўтам-даследчыкам, які выдатна ўсведамляў сваю звышзадачу і перспектыву, не шкадаваў сіл і энергіі, каб паспяхова выканаць выключна важныя эксперыменты і доследы. І ўсё гэта для таго, каб на рэпрэзентатыўным літаратурным матэрыяле даць філасофска-канцэптуальныя адказы на складаныя пытанні нацыянальнага быцця.

Трэба дадаць, што Ігар Жук быў ініцыятарам і адным з арганізатараў правядзення Рэспубліканскіх Купалаўскіх чытанняў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце. Выступіў з дакладамі на шматлікіх навуковых канферэнцыях, у якіх асвятляў розныя аспекты тэорыі літаратуры і паэтыкі творчасці беларускіх класікаў. Паводле сведчання І. Штэйнера, «бліскуча выступіў Ігар Васільевіч на з'ездзе славістаў у Любляне, што было сапраўдным трыумфам не толькі для яго, але і для ўсёй беларускай дэлегацыі» («Вянок айчыннага літаратуразнаўства»). Магу засведчыць і я: яркімі былі выступленні прафесара Жука перад навуковай супольнасцю ў Гродна і Мінску. Памятаю, як на чытаннях на філфаку БДУ, прысвечаных 90-годдзю Івана Мележа, ён узяў слова і пачаў разважаць пра завейны, суровы сталінскі час, драму калектывізацыі і лёс беларускага сялянства, на заканчэнне запытаўся, даючы тут жа адказ: «Дык якая "праўда вясны"? Ці змог бы тады Мележ давесці твор да канца і паказаць усю праўду, нацыянальную трагедыю беларусаў? Час яму тады не спрыяў. Фактычна ён апынуўся ў творчым тупіку».

Персаналіі Ігара Жука магло б і не быць у энцыклапедыі «Янка Купала» (2018), аднак першы том выйшаў з невялікай біяграфічнай нататкай пра яго. Атрымалася так, што мне на вочы трапіў план-праспект артыкулаў, якія неабходна падрыхтаваць для купалаўскай энцыклапедыі. І ў гэтым спісе не фігуравалі імёны даследчыкаў спадчыны нашага песняра новых пакаленняў. Стварылася ўражанне, што сучаснае купалазнаўства быццам бы спынілася-скончылася на працах В. Рагойшы і У. Гніламёдава. А за апошнія трыццаць гадоў ад часу выхаду першага выдання энцыклапедыі

«Янка Купала» (1986) былі ж абаронены доктарскія і кандыдацкія дысертацыі па творчасці народнага паэта, выйшлі манаграфіі, кнігі, зборнікі і грунтоўныя артыкулы, якія сталі значнымі ці прыкметнымі набыткамі ў галіне купалазнаўства. Апрача шэрагу тэм канцэптуальнага характару, рэдакцыі «БелЭн» я прапанаваў улучыць у новае выданне энцыклапедыі больш як тры дзясяткі персаналій пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, лінгвістаў, прытым незаслужана забытых творчых людзей з нашых рэгіёнаў і беларускага замежжа. Наўскід, без поўнага пераліку, прыгадаю тых, каго тады назваў: А. Петрашкевіча, Р. Баравікову, А. Разанава, Г. Коласа, В. Жураўлёва, Ц. Ліякумовіча, Л. Тарасюк, Г. Тычко, М. Тычыну, Р. Станкевіч, П. Васючэнку, Ж. Шаладонаву, Г. Праневіча, В. Рагаўцова, В. Ляшчынскую, В. Краснея, А. Каўруса і інш.). Бясспрэчна, у шэрагу беларускіх купалазнаўцаў вылучаецца асоба выдатнага тэарэтыка і гісторыка літаратуры Ігара Жука – ён паўстае ў авангардзе і кантэксце гродзенскай купалазнаўчай школы, якая прадстаўлена выбітнымі імёнамі такіх даследчыкаў, як І. Лепешаў, А. Пяткевіч, М. Даніловіч, А. Петрушкевіч і інш. На жаль, рыхтавалася энцыклапедычная нататка пра І. Жука досыць хутка, і я быў абмежаваны часам (заставалася, як у студэнта, адна ноч напярэдадзе) і адведзенай тэкставай плошчай. Не думаў, што давядзецца ратаваць сітуацыю, паколькі аператыўна не спрацавалі калегі, таму пісаў матэрыял у пажарным парадку замест ужо звярстанага і змешчанага тэксту, падрыхтаванага рэдакцыяй паводле «Вікіпедыі». Ды і з сябе віны не здымаю: своечасова не скантактаваўся з рэдакцыяй, не высветліў, што да чаго, а калі б гэта зрабіў, то потым трэба было самому брацца за напісанне артыкула, а не на кагосьці спадзявацца. Зрэшты, Ігар Васільевіч быў яшчэ жывы, калі я складаў спіс сваіх дапаўненняў і прапаноў для «БелЭн». Ведаю, што ён сам даволі скептычна паставіўся да падрыхтоўкі біяграфіі для купалаўскай энцыклапедыі. Самаіранізаваў, аджартоўваўся. Напэўна, Ігар Васільевіч праз сваю сціпласць так гаварыў і нічога не рабіў, каб засведчыць уласнае імя на старонках новага, пашыранага выдання. А ён жа сваімі працамі ўвайшоў у шэраг найлепшых купалазнаўцаў Беларусі.

У той падрыхтаванай мною энцыклапедычнай нататцы рэдактарка пры скарачэнні вырашыла, што звесткі ў тэксце пра пасаду прафесара можна выкасаваць і там, дзе пазначана навуковае званне дацэнта, замяніць яго на прафесара, а таксама змяніць год прысваення звання на 2005 г., бо менавіта ад гэтага часу Ігар Васільевіч Жук працаваў на прафесарскай пасадзе. На жаль, ВАКаўскага прафесара наш калега не паспеў атрымаць, але гэта было пытанне самай блізкай перспектывы. Праз такую недакладнасць я вельмі што не засмуціўся. Нягледзячы на неатрыманне адпаведнага ВАКаўскага атэстата, Ігар Васільевіч Жук быў і назаўсёды застанецца для мяне Прафесарам Філалогіі, навукоўцам высокага кшталту і рангу.

Дарэчы, нямала часу ён аддаў працы ў экспертным савеце ВАКа. Пастаянна ездзіў у Мінск на штомесячныя пасяджэнні. Аднойчы пры нагодзе я сказаў Ігару Васільевічу, ведаючы пра яго нездараўчатасць: «Пакідай гэны ВАК. Навошта табе лішнія хваляванні і мітрэнгі?» Добра ведаю: атмасфера ў экспертным савеце была неспрыяльнай, а то і напружанай, трэба было мець немаведама якое цярпенне і жалезныя нервы. Праз сваю сціпласць, памяркоўнасць і адказнасць перад універсітэтам, які дэлегаваў яго, Ігар Васільевіч не мог прамовіць катэгарычнае «не». Зрэшты, а хто іншы ў такіх умовах хіба справіўся б лепш з абавязкамі эксперта? Ці змог бы там нехта іншы доўга і годна трымацца, цягнуць апрыкрую і няўдзячную ношу?!

У апошнія гады амаль кожную восень, калі ён прыязджаў у сталіцу, мы імкнуліся сустрэцца і дзе-небудзь ціха пасядзець, пагаманіць. А гаварыць заўсёды было пра што, нават і расходзіцца не хацелася. Неяк, штосьці пераказваючы адзін аднаму, дайшлі да Чырвонага касцёла, пакланіліся светлай памяці Эдварда Вайніловіча, а потым селі на лаўку насупраць храма і яшчэ доўга гаварылі... Амаль усе нашы размовы былі пра літаратуру, творчыя клопаты, праекты, публікацыі, хаця мы шчыра абменьваліся думкамі на тэмы, якія нас хвалявалі. «Няўцямнасць гаварэння, засілле

варварызмаў выдаецца за навуковасць. Ну нельга засушыць усё ў дысертацыі па лірыцы, па паэзіі, напісаць так, каб у тэксце ніводнага жывога слова не было!» – усклікаю я, абмяркоўваючы манеру выкладу і стыль асобных філалагічных прац апошняга часу. Ігар Васільевіч пагаджаўся, што мастацка-паэтычны свет вымагае і чулага судакранання душы, і эмацыянальнай рэакцыі. У такіх выпадках ён выказваўся за сінтэз эмоцыі і рацыё, маўляў, і такі тып даследаванняў мусіць быць, існаваць. Спасылаўся на эстэтычны вопыт нацыянальнай культурна-гістарычнай школы. У кнізе «Прыхінуцца да крыніцы» ён выяўляе чуйнае, пранікліваe ўспрыманне паэзіі, дэманструе сваім тонкім аналізам паэтычнай матэрыі, метафарычных вобразаў і матываў яскравы ўзор сінтэтычнага літаратуразнаўства.

Мой гродзенскі калега і старэйшы таварыш цікавіўся, што пішу, ці можна ў блізкай перспектыве чакаць ад Алеся Ветаха-Бельскага раман ці аповесць. Ігар Жук прачытаў падараваныя мною кнігі прозы. Ён, не гуляючы ў хованкі, сказаў як ёсць: «Творы няроўныя. Але лепшае абнадзейвае. Чакаю ад цябе большага». Ведаю, што на Ігара Васільевіча асобныя пісьменнікі крыўдавалі за такую адкрытасць меркаванняў. Ён гаварыў шчыра тое, што думае, мог сказаць без рэверансаў: «Прозу так не пішуць!» І ён мог давесці, патлумачыць, чаму ён так лічыць. Для Ігара Васільевіча я падрыхтаваў у дарунак два новыя зборнікі сваіх аповесцей і апавяданняў, але перадаць яму не паспеў. Меў спадзеў, што сустрэнемся зноў па восені. «А што скажа Ігар Жук?», – вось чыя думка для мяне была важнай і ці не самай галоўнай. Бо хіба ад крытыкаў-шулераў і верхаглядаў якія набілі ў аглядах руку, дачакаешся ўдумлівага, талковага слова? Наўрад, ды і няма даверу. Не веру іх, як казаў Варлен Бечык, «шчырай няшчырасці», хітрыкам, крытычным ацэнкам. Спекулятыўныя іхнія матывы распазнаю лёгка, без лупы.

Праз вонкавае падабенства нас з Ігарам Жуком зрэдку блыталі. Сустракаю вядомага пісьменніка, а ён мне гаворыць: «Слухаў учора тваё выступленне ў Саюзе пісьменнікаў». І далей чую пахвальбу: «Малайчына, добра выступіў». У адказ з недаўменнем пацiскаю плячыма ды кажу: «Дзякую», хоць сам сабе думаю: учора я да Фрунзе, 5 і блізка не падыходзіў, не кажучы, каб трымаў перад публікай слова, гаварыў нейкую прамову. Перад паездкай на Купалаўскія чытанні ў Гродзенскі ўніверсітэт мы з жонкай набылі мне ў краме на Нямізе цёмна-зялёны касцюм. У апошні момант я перадумаў і апрануў стары касцюм, бо новы яшчэ не асеў, не аблёг як след – у ім пачуваў бы сябе няўтульна, няўпэўнена. На чытаннях пабачыў Ігара Жука ў абсалютна ідэнтычным касцюме: і па мадэльным выглядзе, і па колеры. Глядзеў на яго ў вялікім здзіўленні, але адразу на гэты конт і словам не абмовіўся. Потым усё ж сказаў яму: «От каб я паўстаў поруч з табою ў гэткім жа касцюме, то нас не распазналі б, як блізнят. Наслухаліся б кпінаў ды жарцікаў».

Што і казаць, бываюць жа людзі вонкава падобныя, а то і двайнікі: кропелька ў кропельку. Блізнятамі нас цяжка назваць, але штосьці агульнае ёсць. Найперш, мабыць, тыпалогія існуе праз акруглы твар. Памятаю, калі мы зімовым днём удваіх з Ігарам Васільевічам зайшлі ў кабінет галоўнага рэдактара часопіса «Роднае слова» Міхася Шавыркіна, я жартам папытаў: «А ці пазнаў спадар Міхась хто ёсць хто?» І патлумачыў сэнс свайго запытання: «Кажуць, што мы з Ігарам Васільевічам падобныя». Міхась Шавыркін, чалавек дасціпны і вясёлы, агледзеў нас лёгкім позіркам і, параўноўваючы, адрэагаваў з усмешкай: «Падобныя, падобныя... Абодва чырванашчокія хлопцы». І яго, Ігара Васільевіча, колькі разоў блыталі са мною, пра што ён мне сам казаў.

Адкуль гэтае падабенства? Мая версія такая. Ігар Жук нарадзіўся ў вёсцы Зані на Мядзельшчыне, але карані яго на Случчыне. Бацька Васіль Пятровіч родам з вёскі Паўстынь. Мае Цімкавічы далекавата ад Слуцка, але туды ўвесь час да вайны хадзілі і ездзілі мая бабуля і дзед, бацькі. Мама працавала ў Слуцку. Па матчынай лініі нашы родзічы – Жукі з Прусаў, што побач з Цімкавічамі. Лявон Жук – бабулін апякун, яна ў яго хаце доўгі час жыла, гадавалася. Дарэчы, ён сябраваў з Міколам

Раманоўскім, які стаў вядомым у свеце як пісьменнік Кузьма Чорны. Пасля вайны, калі Мікалай Карлавіч даведаўся, што бацькоўская хата ў мястэчку згарэла, то марыў паехаць у Прусы да Лявона Жука, жыць пры Скіп'ёўскім лесе і пісаць свае творы (пра гэта можна прачытаць у дзённіку пісьменніка). Бабуля Ганна казала, што сваякі дзядзькі Лявона жывуць пад Слуцкам. Сярод Жукоў, па яе словах, былі настаўнікі, а сястра працавала ў школе, дык і ты, маўляў, паступай вучыцца на настаўніка. Васіль Пятровіч Жук выбіўся, як казалі раней, у людзі, стаў педагогам, настаўнічаў на Мядзельшчыне. Ён быў заслужаны настаўнік БССР. Жук – прозвішча распаўсюджанае на Случчыне. Цяпер цяжка сказаць наконт нашага сваяцтва з Ігарам Васільевічам, даўно няма ў каго пра штосьці запытаць. Але гэтую версію і ён, аднак, не выключаў. Пароднены мы з ім праз прыналежнасць да адной зямлі, да аднаго краю – Случчыны: гістарычнай, этнаграфічнай.

Жалобная вестка 30 чэрвеня 2017 г. пра раптоўную смерць Ігара Жука літаральна прыбіла, прыгнечвала не адзін дзень. Прадоўжылася чарада цяжкіх для мяне асобасна-чалавечых страт: Міхась Шавыркін, Уладзімір Дзіско, Генадзь Праневіч...

Двое сяброў, духоўных пабрацімаў Генадзь Праневіч і Ігар Жук нібы згаварыліся і адзін за адным пакінулі наша грахоўнае зямное быццё, людскую рэчаіснасць, пайшлі ў лепшы свет. Не ведаю, ці лепшы ён там, але ў вырай-дарогу да раю здаўна верылі беларусы. Выбар, пакліканне Уладара Сусвету ці накрэслены лёсам апошні дзень жыцця яшчэ ніхто не змог адмяніць, тое, што суджана, здзейсніцца. Кожны смяротны або ідзе на той голас-покліч, або раптам, не паспеўшы словам абмовіцца, без просьбаў і скаргаў пакідае штодзённую мітульгу, выпраўляецца ў невядомую далеч вечнасці. У Ігара было хворае сэрца, і яно, жывое, ранімае, дало рытмічны збой-злом і, на вялікі жаль, спынілася. І вось гэтая трагічная вестка прыляцела – і я страціў унутраную раўнавагу, зажурыўся ў нэндзе і перажываннях. Прыгаломшаны і выбіты з жыццёвай каляіны, не змог адгукнуцца на смерць Ігара Жука, не было проста моцы і сіл сесці за стол, штосьці там напісаць, вартае яго памяці. Ад пахаванняў духоўна блізкіх мне людзей адыходжу доўга, патрэбен час, каб прыйсці ў сябе і асэнсаваць страту, хоць змірыцца з ёй цяжка, немагчыма...

...Я думаю пра Ігара Васільевіча, з цеплынёй згадваю яго. Перад вачыма – абаяльнае жывое аблічча са светлай усмешкай, адкрыты позірк, вобраз унутрана цэльнага і самадастатковага чалавека. Спраўджаным у навукова-літаратурнай творчасці сваімі глыбокімі думкамі і меркаваннямі Ігар Жук здабыў пазітыўны імідж арыгінальнай і значнай творчай асобы. «Такія нараджаюцца раз на сто гадоў», – ацэньваючы маштаб асобы І. Жука, сказаў прафесар Аляксей Пяткевіч. Духоўная прысутнасць такіх выдатных людзей, як ён, застанецца ў нашай літаратурна-філалагічнай сферы і ў прасторы нацыянальнай культуры.

Пафасам дзейнасці гродзенскі філолаг, педагог і пісьменнік увасабляў сабой яскравы нацыянальны характар беларуса-патрыёта. Ігар Васільевіч меў шчырае і палымянае беларускае сэрца, а найважнейшы лейтматыў яго жыцця – сумленнае і высакароднае служэнне ідэі нацыянальнага адраджэння. Ён нездарма свядома арыентаваўся на духоўныя ідэалы і пастулаты нашаніўства, яму быў блізкі пафас нацыянальнага аптымізму і жыццесцвярджальнай філасофіі. Ігар Жук стаў адным з выбітных мысляроў-адраджэнцаў найноўшага часу, які ў канцы XX – на пачатку XXI ст. пераканальна прадэманстраваў інтэлектуальна-пасіянарную і творчую моц сучаснай навуковай эліты, беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі.

*2018*

Арнольд Макмілін



...задача літаратурнага аглядальніка мусіць быць не ў тым, каб усё растлумачыць, а ў тым, каб прыцягнуць увагу чытача...

# Вальжына Морт: паэтка паміж двума кантынентамі

Ужо ў сваёй першай кнізе "Я тоненькая як твае вейкі" (у спасылках гэтая кніга будзе пазначана як *Ят*). Вальжына Морт паказала сябе вельмі арыгінальнай паэткай і празаікам, а таксама бліскучай перакладчыцай на беларускую мову з ангельскай, польскай і ўкраінскай. Таксама яна выдатна дэкламуе свае вершы. Пасля пераезду ў ЗША ўвесну 2005 года яна працягвала эксперыментаваць у сваёй творчасці, пачала пісаць па-ангельску, а таксама супрацоўнічала з амерыканскімі паэтамі, якія перакладалі яе беларускія творы (некалькі з іх будуць згаданыя далей). Вялікай падзеяй для беларускай літаратуры ў 2017 годзе стаў выхад у Мінску яе чарговай кнігі паэзіі і прозы – "Эпідэмія ружаў", якая шмат каму дае надзею, што эміграцыя Вальжыны Морт не паставіла кропку ў яе творчай кар'еры, якая пачалася так бліскуча.

Вальжына Морт (сапраўднае прозвішча – Мартынава) нарадзілася ў Мінску ў 1981 годзе і ў 2004 годзе скончыла

факультэт ангельскай мовы Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. У Злучаных Штатах яна атрымала шмат узнагародаў і была адзначана вялікай колькасцю публікацыяў, прысвечаных яе паэзіі; таксама пра яе пісалі ў часопісах і газетах. Магчыма, адной з самых важных падзеяў, якая непасрэдна паўплывала на яе паэзію, сталася знаходжанне паэткі ў Варшаве ў якасці стыпендыяткі *Gaude Polonia* ў 2005 годзе. Яе настаўнік Адам Паморскі, паводле яе словаў, "цалкам змяніў тое, як я разумела паэзію, і я зрабіла рэзкі паварот да вершаў, якія потым увайшлі ў *Factory of Tears*"[1]. У 2009-2012 гады яна была запрошанай паэткай магістэрскай праграмы прыгожых мастацтваў (MFA) ва ўніверсітэце Балтымара, праводзячы, між іншым, групавыя заняткі і семінары ў галіне паэзіі, літаратуры і літаратурнай дзейнасці. За гэты час Вальжына атрымала ступень магістра прыгожых мастацтваў у галіне мастацкай творчасці і паэзіі ў Амерыканскім універсітэце ў Вашынгтоне. Улетку 2013 года яна была запрошаным прафесарам ва Універсітэце Гумбальдта (Берлін), а ў 2012-2017 гадах – запрошаным дацэнтам у Карнэльскім універсітэце, дзе, апроч іншага, займалася навучаннем пісьменніцкаму майстэрству, напісанню вершаў, літаратурнаму перакладу і розным аспектам сэксуальнай палітыкі. З 2017 года Вальжына займае важную пасаду прафесара практыкі ў Карнэльскім універсітэце. Такая бліскучая кар'ера, апісаная ў агульных рысах, аднак, блякне побач з яе выключнай таленавітасцю як арыгінальнай паэткі, аўтара паэтычнай прозы і перакладчыцы.

Перш чым перайсці да агляду творчасці Вальжыны Морт, варта адзначыць, што яна не толькі зрабіла "рашучы паварот" пасля сваёй першай кнігі, але і адмовілася ад многіх сваіх ранніх вершаў[2]. Некаторыя з яе ранніх твораў, аднак, патрапілі ў пазнейшыя публікацыі, часам у змененым выглядзе, а часам той самы твор друкаваўся ўжо з новай назвай[3]. Далей у гэтым артыкуле будуць давацца спасылкі на апошнюю або адзіную публікацыю пэўнага твора, хоць некаторыя з больш ранніх вершаў, якія пазней не перавыдаваліся, таксама будуць згадвацца і часам цытавацца. Больш познія выданні: *Factory of Tears* (2008) (у спасылках – Fot), дзе беларускія тэксты друкуюцца паралельна з ангельскім перакладам; *Collected Body* (2011) (у спасылках – Cb) – усе творы на ангельскай мове і без нумарацыі старонак; *Milk as an Animal* (2013) – выключна па-ангельску, але толькі з адным вершам, які не ўваходзіў у ранейшыя выданні; і, нарэшце, – "Эпідэмія ружаў" (у спасылках Эр). Да іншых кніг або брашур, у прыватнасці *Favourites for Accordion* (з перакладамі Франца Райта), было немагчыма атрымаць доступ на момант напісання гэтага артыкула. Таксама варта адзначыць выдатную п'есу "Мова Х" у выкананні (часткова з імправізацыяй) студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ[4]. Нельга не згадаць і поспехі Вальжыны Морт у Амерыцы, а менавіта – складанне і рэдагаванне кнігі *Something Indecent: Poems Recommended by Eastern European Poets*. У гэтай кнізе ёсць выбраныя творы адной з яе сяброўак – выбітнай рускай паэткі Веры Паўлавай, яшчэ адной адоранай пісьменніцы, якая адыгрывае вялікую ролю ў выданні і папулярызацыі іншых аўтараў. Такія працяглыя ўводзіны ў паэзію і прозу Вальжыны Морт абумоўленыя насычанасцю яе не па гадах багатага на таленты жыцця.

---

[1] З прыватнай размовы.

[2] З прыватнай размовы. Адзін з такіх вершаў – "і людзі ператварыліся ў каменне..." – прысвечаны асабістым адносінам. Ён як бы прадказвае пазнейшае рашэнне Морт: *забяру назад усе свае словы* (Ят, 7). Гэта, вядома, права творчых людзей (пісьменнікаў, а таксама і кампазітараў, і мастакоў) – адмовіцца ад сваіх ранніх твораў, але аглядальніку няма патрэбы гэтак абмяжоўваць сябе.

[3] Напрыклад, верш "Sitzendes Mädchen mit verschränkten Armen", які пададзены ў вольнай версіі ў *Collected Body*. У гэтым і аналагічных выпадках пераклад будзе прыведзены паводле ангельскай версіі, а беларускі тэкст – з кнігі "Эпідэмія ружаў".

[4] Гэтую п'есу не трэба блытаць з вершам у прозе "Х" з Эр. – С. 89-91.

Асаблівасць яе паэзіі – бясконца вынаходлівыя і паслядоўна арыгінальныя вобразы, часта звязаныя з асабістымі ўзаемаадносінамі паміж людзьмі і, у прыватнасці, з жаночым целам, а таксама мноства іншых аспектаў насычанага жыцця паэткі, якая мае выключна жывую фантазію, незалежна ад тэмы, на якую яна піша. Апроч вершаў пра каханне, сэкс і палкасць, у яе творчасці ёсць шматлікія разважанні пра беларускую мову, памяць, падарожжа і ўцёкі ад шаблонаў, поры году, жывыя і мёртвыя кветкі, у тым ліку, што зусім не здзіўляе ў яе самай апошняй беларускай кнізе, – ружы. Моўна багатыя вершы Морт вылучаюцца выключнай музычнасцю з ненадакучлівай асанацыяй і мелодыкай[1], у іх часта паўтараюцца радкі як унутры аднаго верша, так і з верша ў верш[2]. Яе творы характарызуюцца вялікай кантрастнасцю, у прыватнасці, паміж гвалтам і пяшчотнай адчувальнасцю, хоць ёсць і вершы пра каханне, сэкс і жаночае цела, якія зусім не маюць элементаў змрочнасці. Адзін цудоўны ранні верш, які аўтарка вырашыла перавыдаць у сваёй двухмоўнай анталогіі, можа паслужыць у якасці пэўнага прыкладу пранікнення гвалту ў вершы, які пачынаецца і, магчыма, заканчваецца выявамі, якія адлюстроўваюць цуд асабістых блізкіх адносінаў – “ці гэта згублены табою волас...”:

ці гэта згублены табою волас
пусціў карэньне
пасьля таго як на пустыню прасьціны
упалі
дажджом доўгачаканым целы

ці гэта гады
разбуджаныя ў пячорах коўдры
свае вогненныя
высунулі языкі
альбо фантанам крыві
сканала паветра
задыхнулася
паміж двух целаў
унутры

белая пена – вось чым стала прасьціна
і хвалі коўдры вынесьлі на падлогу
дзьвюх рыбаў што рты выварочваюць няўмела
і што гэта там вісіць
ці не чырвоны месяц
ці гэта бог узьняў свой голас
і кінуў уніз
і ён упаў на дом мой громам
і нерухомаю маланкай
на маім ложку
стаіць тулiпан (Fot, 26)

Таксама адносна мяккім з’яўляецца яе насычаны сэксуальнай пачуццёвасцю верш-прысвячэнне “Жан-Поль Бельмандо”, у фінале якога падчас хуткіх танцаў жанчыны *сякуць цябе праз грудзі лязом сукенак, вываленых у півонях*. У наступных радках узнікае метафара праз тое, як рака збянтэжыла Бога:

вядзеш мяне да ракі, што аднойчы ўзняла сваю спадніцу,
І Бог, збянтэжаны такім відам,
Загадаў прыкрыць яго горадам. (Эр, 57)

---

[1] Тут варта сказаць, што апісваць працу паэта заўжды вельмі цяжка. Як пісаў Алег Лойка пра майстра метафары Рыгора Барадуліна, толькі беларус можа цалкам зразумець і ацаніць яго паэзію (Алег Лойка. Пра Барадуліна без цытатаў. – Роднае слова, 2000. – №2. – С. 14-16).

[2] Два раннія прыклады гэтай з’явы – “Сон дрываcека” і “Я аглухну ад цішыні” (Ят, 20-22).

Іншы верш прысвечаны выдатнаму чалавеку з трагічна нядоўгім жыццём – польскаму паэту Рафалу Ваячаку (1945-1971), дзесяць вершаў якога былі перакладзеныя ў першай кнізе Морт. Яе верш "Рафалу Ваячаку" з'явіўся ў *Factory of Tears* і быў перавыдадзены ў "Эпідэміі ружаў":

перад вачыма
лезе ў рот
над вухам
брыдкаю мухай
лётае сьмерць
перашкаджае
глядзець
есьці
слухаць
нарэшце здолеў яе ўхапіць
сьціснуць
у кулаку
і ў выніку
больш нічога не трэба
адарваў яе крыльцы
галаву
адпусціў яе мітусіцца
на падлогу
і назіраеш падоўгу
дакладней вечна (Эр, 59)

Гэты верш вельмі яскрава апісвае прыроду дэпрэсіі і самагубства.

Але не згадкі пра смерць самі па сабе робяць творы Вальжыны Морт змрочнымі. Лірычная гераіня не баіцца смерці як такой. У паэтычнай прозе "Цётка Анна", да прыкладу, яна стварае надзвычай моцны вобраз, каб апісаць яе непазбежнасць:

Смерць, як распешчанае дзіця, якому ніхто ніколі не казаў «нельга». (Эр, 33)

Яшчэ адзін моцны вобраз смерці ёсць у вершы "Беларуская Мова II", дзе родная мова паэткі параўноўваецца, апроч усяго іншага, да смерці:

яна як смерць раптоўная і неразборлівая,
як смерць, ад якой немагчыма памерці,
як смерць, ад якой мерцвякі ажываюць. (Fot 108)

У зборніку "Эпідэмія ружаў" ёсць цікавы безназоўны верш, які, аднак, мае назву "Love" у *Collected Body*. Ён уражвае інтымнасцю:

Найчалавечы з усіх чалавечых гукаў:
уверх-уніз шчоткай па зубах, праз калідор.
Нават саранча збянтэжана слухае. Таксама
яна, на голым матрасе, кінутым на падлогу,
дзівіцца, колькі яго цела ў гэтым гуку –
быццам толькі зараз заўважыла, што ён не бязрукі.

Плявок у ракавіну – яна лічыць
яго целам.
Пятлю яго сліны над сваёй вагінай –
яна лічыць яго целам. (Эр,14)

Морт валодае талентам ствараць моцнае адчуванне цялеснасці, увасобленае ў апошніх чатырох радках верша:

Яна ляжыць на матрасе, а праз калідор,
знятая пасля доўгага дня на працы,
кінутая на падлогу пасля доўгага дня на працы,
ляжыць маўклівая вопратка. (Эр, 15)

Паўтор у апошнім слупку, здаецца, падкрэслівае, чым нядаўна быў заняты яе каханы, але версія ў *Collected Body*, с. 15 не мае паўтору і больш пашырана і ярка падае гэты вобраз.

Багаты на вобразы верш "Утопія" (Эр, 74-76), які таксама прадстаўлены ў Cb, 40 у крыху іншай версіі. У ім Морт адлюстроўвае ў паслядоўнасці смелых вобразаў карціны ідылічнага гарадка, дзе каханне вольнае і гарачае: "Мы вітаем вас у калоніі сонца, / чый жоўты сцяг – шклянку ліманаду – / мы ўздымаем за кожным сталом" (Эр, 74 ):

Таму мы не ведаем ні дабра, ні зла.
Часам нашымі словамі можна рэзаць мяса.

Калі нам здраджваюць,
мы заходзім глыбока ў ваду
і глядзім, як нашае сэрца
ўзбівае акіян у пену. (Эр, 75)

У гэтым вершы таксама ёсць характэрныя для Морт імклівыя пераходы ад святла да цемры: напрыклад, кроў падае на белыя камяні, і каханкі ломяць аб іх зубы, думаючы, што гэта яблыкі (Эр, 75); яна жадае паказаць вобраз свету, у якім было б адлюстраванне яго супярэчнасцяў; слова «рэалізм» тут зусім недарэчнае, але гэтая асаблівасць вынікае з сучаснасці Морт і, магчыма, нават з яе беларускага паходжання, у выніку чаго яе фантазія вагаецца ад асалоды інтымнага шчасця да часцяком суровага знешняга свету, найбольш ярка паказанага ў масавай вытворчасці слёз ў яе двухмоўнай кнізе (*Factory of Tears*).

Іншы багаты на вобразы верш – "Музыка саранчы", дзе гэтыя драпежныя казуркі адыгрываюць значную ролю; так, апавядальніца марыць ехаць у машыне з адчыненым верхам з мужчынам, у сталым веку ці падлеткам, але напрыканцы яна піша:

і немагчыма заснуць з тым мужчынам
з ім цела становіцца ўначы
музыкай саранчы (Эр, 55)

Крыху раней у гэтым вершы ёсць выдатнае месца, у якім горы параўноўваюцца з вобразам, які час ад часу паўтараецца ў Морт – з чарапахамі:

і горы прыселі як бегуны на старце
і вецер уздымае іх зялёныя майкі
а потым горы – гігантскія чарапахі (Эр, 54)

У якасці аднаго з прыкладаў англамоўных твораў Морт можна прывесці верш "Photograph", у якім ідзе гаворка пра фотаздымак падчас мядовага месяца ў Сочы 1982 года, у той час, калі "вялізнага памеру маці" чытае ў газеце імёны ахвяр авіякатастрофы:

Under her sweaty palms, the print blurs,
turning into black body bags
arranged on the page (Cb, 36)

Думкі шчаслівай маладой, аднак, далёкія ад гэтага бедства;

She thinks to herself:
my Lifeline is not on the palm of my hand,
but bent slightly in the knee,
it's my leg lifted over a man's body.
How natural it is for a Lifeline
to start where the leg does. (Cb, 36-37)

Для чытачоў ранейшых беларускіх твораў Вальжыны Морт вышэй пададзеная згадка пра авіякатастрофу можа нагадаць пра надзвычайны верш пра мужчынаў у жыцці паэткі, які пачынаецца на беларускай і заканчваецца на ангельскай мове: "Мужчыны прыходзяць, як лічбы ў календары ..." Гэта адзін з вершаў, які быў паўтораны са зменамі, у асноўным у ангельскіх частках, з першага выдання ў *Factory of Tears,* і атрымаў назву "Мужчыны". Гэтыя мужчыны не толькі паўтараюцца раз на месяц, але, мабыць, валодаюць велізарнымі здольнасцямі, якія здаюцца амаль унікальнымі для іх полу. Вось некаторыя з беларускіх радкоў і апошнія ангельскія, у якіх яна звяртаецца да сваёй маці з просьбай аб выратаванні:

мужчыны, што вучаць дзяцей дзіцячаму сьмеху.
мужчыны, што вучаць час не стаяць на месцы.
мужчыны, што любяць мужчын у туалетах клюбаў,
мужчыны, што цалавалі рукі самое сьмерці,
мужчыны, што ніколі не павераць.
which bound me to a chair
mama their lips fall down on me
like burning airplanes

[....]

come back
rescue me find me
in this plane wreck (Fot, 94-96)

Метафарычная авіякатастрофа ў гэтым вершы, вядома, моцна адрозніваецца ад здаганай у вершы "Photograph". Апісанне ўсемагутных і ўсёведных мужчын тут у пэўным сэнсе прадугадвае многія з пазнейшых твораў паэткі, у якіх у цэнтры ўвагі знаходзяцца жанчыны і іх целы.

Вальжына Морт вельмі свабодна кажа пра жаночае цела і функцыі арганізма ў цэлым. Да прыкладу, у творы "Цётка Анна" апавядальніца глядзіць здалёк на сады ў вёсцы М., уяўляючы, што гэта жаночыя геніталіі: *Пучок садоў М., зменшаны перспектывай да аднаго куста, быццам лабок голай жанчыны, што ляжыць перада мной на спіне* (Эр, 26).

Пазней у тым самым урыўку апавядальніца кажа пра жанчыну, чые грудзі – нібыта геаграфічныя аб'екты: *...жанчына з грудзямі, што, як Уральскія горы, аддзялялі яе твар ад цела* (Эр, 28).

У пэўным сэнсе, вобраз валасоў жанчыны, што ляжыць на грудзях, у вершы "Дзве Евы", нібыта чыгуначныя лініі з цягнікамі, якія па іх ездзяць, можна было б разглядаць у якасці прыкладу гвалту ў дачыненні да жаночага цела (Эр, 3). Іншы верш, "Крыжаванка", пачынаецца з цікавага апісання жаночых геніталій і параўнання смочкаў з кончыкамі святочных туфляў. Вось першая страфа:

Жанчына ідзе ўздоўж кустоў ядлоўцу і шыпшыны,
з чыстай вульвай, складзенай паміж ног,
з грудзямі, што, як кончыкі яе святочных туфляў,
ціха блішчаць у цяжкой шафе. (Эр, 23)

У раннім вершы “Каб увайсці ў гэтую кватэру...” жанчына хоча прапанаваць свайму мужчыну, які яшчэ не прыйшоў, яблыкі, пятрушку і свае аголеныя смочкі, якія нагадваюць ёй колер чырвонай ікры:

нібы два
калівы чырвонае ікры
вось будзе ежа
але ты едзеш (Ят, 35)

Абуджаць памяць – гэта як зняць прастытутку, каб пакатаць яе па кватэры на драўляным коніку, у той час як нават стрэлкі гадзінніка паводзяць сябе агрэсіўна:

ты бачыш як па дыску цыфэрблатным
дзьве стрэлкі прагна носяцца па крузе
адна другой наскоквае на плечы
наскоквае на плечы – гвалтуе
і мы – іх ненароджаныя дзеці (Ят, 36)

У вершы “Апошняя яблыня” валасы апавядальніцы прыліпаюць да разгладжанага лісця дрэва (Ят, 17). Больш мякка, у сваім вершы ў прозе “Жэня”, паэтка параўноўвае вільготныя валасы да мноства стрэлак гадзінніка, што нязменна паказваюць уніз (Эр, 72).

Пры ўсёй сваёй яскравай вобразнасці, у паэзіі Вальжыны Морт няма нічога абстрактнага, яна перадае ў сваіх вершах фізіялагічныя сэнсы (валасоў, сліны, мачы). Напрыклад, у раннім вершы “Сонца – марскі асілак...” лірычная гераіня Морт адчувае агіду ад таго, як мухі робяць гнёзды ў яе валасах на беразе мора:

у маіх валасах
зьвілі сабе гнёзды мухі
якія пераносяць заразу
я адчуваю кожны іх крок
кожны іх стогн у стане экстазу
мухі казычуць
маё драўлянае горла
сваімі лапамі валасатымі
пад імі нехта нараджаецца
а нехта гніе
некаторыя назаўсёды застаюцца гарбатымі. (Ят, 12)

У вершы “Вогнішча з вачэй конскіх” ёсць прыкметная спасылка на сліну, што можна ўбачыць у наступных радках:

І калі ўвойдзеш у гэтае вогнішча,
то спачатку
будзеш глытаць яго
сьліну чырвоную (Ят, 18)

Пра мачу ідзе гаворка ў апісаннях дзяцей у вершы “З пляжаў Фларыды”, дзе да гераіні вяртаецца агіда пасля падрабязнага апісання птушак і рыб у якасці грошай:

на вадзе – дзеці – будучыя магі,
смеючыся, пазначаюць сваю тэрыторыю

Толькі захлынуўшыся, ты разумееш.
што ўся соль зямлі – у акіянскай вадзе,
што рыбы
у прыроднай валюце – дробная манэта.
якую ня цяжка здабыць. Ня тое што птушкі –

папяровыя грошы, якім ўсё дазволена.
Яны нават вецер паставілі ракам
і па яго сьпіне спускаюцца да вады
і там пакідаюць вадзяныя знакі.
[...]
У вадзе – дзеці – нашчадкі малпаў
бессаромна мочацца на люстэрка Бога (Fot, 68)

Даволі адрозныя карціны такой "непаэтычнай" рэчы, як мочаспусканне, можна знайсці ў двух іншых вершах Морт. Па-першае, у страшнаватым англамоўным вершы "My Father's Breed", які потым будзе цытавацца, і ў "Одзе да Бранкі" пад дахам цырка медзведзяня спраўляе малую патрэбу:

З-пад купала цырку нам на галовы
сцыць медзведзяня,
не ад сораму альбо страху:
каб узняцца да самай гары, яно мусіць скінуць
залатую вагу нашых дзяцінстваў. (Эр, 18)

Гэты верш багаты на вобразы, у тым ліку ў ім ёсць некаторыя яркія вобразы мовы – тэмы, прынамсі, не менш важнай для Вальжыны Морт, чым яе цела і ўсе яго натуральныя функцыі. Яна паўтарае фразу аб дзвюх мовах (як мяркуецца, рускай і беларускай), якая працягваецца наступным вобразам:

Вось калідор паміж мовамі, дзе мае вусны
складзены адно на адно, як бярвёны лясное хаты.

Вось келіх забытай мовы, напоўнены да краёў
словам сэ-рэ-ма-ка-ра-а-пі,[1]
што разліваецца на падлогу,
*аздоблены бюстамі абезгалоўленых сірэн.* (Эр, 19-20)

Два асноўныя вершы паказваюць стаўленне паэткі да сваёй роднай мовы: "Беларуская мова I" і "Беларуская мова II". У "Эпідэміі ружаў" яны надрукаваныя ў выглядзе аднаго верша, а ў зборніку *Factory of Tears* – як два асобныя, і менавіта апошняе выданне, у тым ліку пераклады, будзе выкарыстоўвацца ў далейшым: "Беларуская мова I" пачынаецца з нараджэння паэткі і яе роду, які паўзе з руінаў пасля бамбардавання, пазней адчувае любоў у патэнцыйна пагрозлівым вобразе машынаў, што прыязджаюць да дзвярэй, пазначаных крэйдай, а таксама высвятляе, што грамадскія туалеты – неадпаведнае месца для сацыяльна непрымальных дзеянняў, як і ў вершы "Мужчыны", але адзінае месца для свабоды[2], і потым робіць рашучае адкрыццё, што мова была імі самімі:

а калі апынулася што мы былі нашай мовай
і нам вырвалі языкі мы пачалі размаўляць вачыма
а калі ў нас выкалалі вочы мы пачалі размаўляць рукамі
калі нам адсяклі рукі мы размаўлялі пальцамі на нагах
калі нам прастрэлілі ногі мы ківалі галавою на "так"
і хісталі галавою на "не"... а калі нашыя галовы з'елі жыўцом
мы залезлі назад у чэравы нашых сьпячых маці
як у бомбасховішчы
каб нарадзіцца ізноў
а там на даляглядзе гімнастачка нашай будучыні

---

[1] Гэта старажытнае слова, якое дадае вершу вобразы як гвалту, так і магіі. З прыватнай размовы.

[2] У гэтым яна падзяляе пазіцыю Эндэрбі, аднаго з самых вядомых персанажаў у творах брытанскага раманіста Энтані Берджэса (1917-1993).

скакала праз вогненны абруч
сонца (Fot, 2-5)

Фінал верша ўтварае сувязь з яго больш ранняй часткай, калі віртуозная гімнастка іх будучыні была таксама апісана з сумессю агіды і трывогі. Другі верш – “Беларуская мова II” – пачынаецца з моцнага вобразу, праходзіць праз шэраг пярэчанняў самому існаванню беларускай мовы і варожасць у адносінах да таго, што “у ёй няма аніякай сістэмы”, і яе фатальна невялікі памер, які здаецца доказам таго, што яна не існуе. Верш пачынаецца радкамі пра тое, што нацыянальна (і моўна) свядомых беларусаў заганяюць у велізарны дзіцячы дом. Вось некалькі пачатковых гнеўных радкоў:

за тваімі межамі, мая краіна,
пачынаецца вялізны дзіцячы дом.
і ты вядзеш нас туды, беларусь,
можа нарадзіліся мы без ног,
можа ня тым багам молімся,
можа табе ад нас гора,
можа мы невылечна хворыя... (Fot, 106)

У гэтай сітуацыі адсутнасці любові дэкляруюцца пярэчанні адносна сапраўднасці мовы, якія сама Вальжына Морт выкарыстоўвае з такім майстэрствам:

твая мова такая маленькая
што яшчэ й размаўляць ня ўмее.
а ты, беларусь, у гістэрыцы,
табе ўсё здаецца,
што акушэркі пераблыталі скруткі.
што ж табе зараз, карміць чужое дзіця,
сваім малаком паіць мову чужую?
мову, што ляжыць сіняя на падваконні,
ці мова гэта ці шэрань мінулагодняя,
ці шэрань гэта, ці толькі цень ад іконы,
ці цень гэта, ці проста нічога.

гэта ня мова
бо ў ёй аніякай сыстэмы.
яна як сьмерць, раптоўная і неразборлівая,
як смерць, ад якой немагчыма памерці,
як смерць, ад якой мерцьвякі ажываюць. (Fot, 106-08)

Крыху ніжэй пачынаецца іншая ўяўная тырада пра мову і немагчымасць яе існавання:

гэтая мова не існуе!
яна нават не мае сыстэмы!
з ёй размаўляць немагчыма.
яна адразу б’е ў морду! (Fot, 108)

Пратэст супраць гэтай недарэчнасці і варожасці (“а я клала на тую сістэму свой акардэон”), выяўлены ярка і з неверагоднай персаніфікацыяй:

ён ежу бярэ з рукі
ён ліжа і як дзіця
не злазіць з маіх кален (Fot, 108)

За акардэонам застаецца апошняе слова ў гэтым палкім вершы. Таксама

беларускай мове і яе цяжкаму становішчу прысвечаны вельмі кароткі безназоўны верш, поўны адчаю:

> Лепш бы мы нарадзіліся нямыя,
> каб ніхто ў нас не пытаў пра родную мову.
>
> Лепш бы нарадзіліся не мы,
> а зязюлі (Эр, 46)

У творах Вальжыны выяўляецца моцная любоў паэткі да роднай мовы, нават калі яна непасрэдна пра гэта не кажа, як у вершы “неба пад пудраю аблокаў...”:

> неба пад пудраю аблокаў
> вяжа з паветраных глыбаў вузлы,
> і мне лягчэй крычаць: Курлы!
> чым проста мовіць насустрач:
> *Здравствуй* (Ят, 9)

У шэрагу іншых вершаў можна знайсці прыклады з’яўлення рускай мовы, якая, у большасці выпадкаў, падаецца курсівам. Верш “Мара – ня быць абароненым...” уяўляе з сябе квазі-калыханку, дзе ідзе гаворка пра мару аб смерці, руская мова выкарыстана, верагодна, каб падкрэсліць ідэю максімальнай глыбіні:

> Наша справа –
> *пойти ко дну* (Ят, 30)

У вершы “І быццам бы я шарык...” рускае слова *“внимание”* ў афіцыйнай аб’яве, падобна, уключана толькі для таго, каб дадаць рэалістычнасці вершу, які ўяўляе з сябе чыстую фантазію. У вершы “Ты –...” ідзе гаворка пра набіты людзьмі цягнік, у якім паэтка вымушана ў цісканіне заставацца да канца: “Мне прыйдзецца ехаць у тваім цягніку да *конечной*” (Ят, 29). Магчыма, гэтае рускае слова выкарыстоўваецца тут для большай выразнасці, альбо проста для рыфмы з беларускім словам “канечне”. Яшчэ адзін верш пра цягнік мае рускую назву – “Не прислоняться”. Менавіта такія словы напісаныя на дзвярах вагонаў метро, нягледзячы на тое, што ўсе аб’явы там – па-беларуску. Незалежна ад таго, якое значэнне мае выкарыстанне рускіх слоў у ранніх вершах, ніводзін з іх не вылучаецца такой моцай, як “Беларуская мова” ці “неба пад пудрай аблокаў...”

Як ужо было адзначана, у творчасці Морт вялікую ролю адыгрывае кантраст. Ёсць некалькі спасылак на выкарыстанне магіі, а адзін безназоўны верш сам па сабе з’яўляецца замовай – ні больш і ні менш: гэта верш “Беражы мяне, беражы...”, у якім першыя два радкі апошняй страфы складаюцца з перамяшаных літараў з двух першых радкоў і сканчаюцца першым радком. Трэці радок чацвёртай страфы, аднак, не паддаецца разуменню:

> Жырабе немя, жырабе!
> Гірабе ема на жымя!
> Жуцька ешаін цёсь цыцёжы...
> Беражы мяне, беражы!.. (Ят, 27)

Зусім іншы аспект паэтычнага арсеналу Морт – моц яе апісанняў. У якасці прыкладу можна прывесці яе твор “Сцэна сярэднявечнай вайны (паводле аднайменнай карціны Дэга)”, у якім на шэсць аголеных жанчын нападаюць трое мужчын на конях. Вось першыя пяць радкоў:

> Бог з’яўляецца перада мной жанчынай,

прывязанай да вогненнага куста.

Яе галізна – белае месца на палатне,
дзе мужчынская рука практыкавала
жаночыя жэсты. (Эр, 16)

Гэты верш уяўляе з сябе не толькі ўважлівае прачытанне карціны Дэга, напісанай ім у 1865 годзе, але таксама моцную асабістую інтэрпрэтацыю выяўленых там жудасных сцэнаў, у прыватнасці, жорсткіх паводзінаў мужчынаў у адносінах да жанчын. Іншы прыклад умелым назірання – згаданы раней верш “Х” пра Хрысціну з Сухумі; хоць гэтая асоба, верагодна, не існавала ў рэальнасці, але месца яе паходжання ў Грузіі прыцягнула да сябе ўвагу паэткі часткова тым, што амаль з’яўляецца амонімам з беларускім словам “сухі”. Гэта адносіцца да шматлікіх іншых выдатных апісальных вершаў Морт, якія не могуць не зацікавіць чытача або пакінуць яго ў зоне камфорту праз выкарыстанне ёй нечаканых і заўсёды арыгінальных прыметнікаў і выяваў.

Перш чым перайсці да замежжа, варта адзначыць два іншыя вершы пра краіну, з якой яна з’ехала, ці, у выпадку верша “Берлін-Мінск”, у якую яна вяртаецца з-за мяжы. У апошнім вершы пры праездзе праз Варшаву гераіня праходзіць праз шэраг фізічных рэакцый: яе сэрца ператвараецца ў павеў ветра або круціцца як планета ўнутры, потым лезе праз рот і напружвае зрок. Верш “Мінская песня” прысвечаны, у асноўным, рацэ Нямізе, якая цячэ праз цэнтр горада і мае вялікае значэнне для яго жыхароў, але, магчыма, не такое, якое апісвае Морт:

Горад трымае Нямігу
як фігу.
за спінай (Эр, 64)

Усе сучасныя паэты, якія не дарма ядуць свой хлеб, часам задаюць сваім чытачам складаныя пытанні. Звяртаючыся да сваёй краіны ў цэлым у вершы “У позе пытальніка” Морт піша пра дзяцей, якія выпростоўваюцца з позы пытальніка ў позу клічніка, пераходзячы да апісання таямнічага знаходжання Беларусі:

Левая губа Польшчы і правая губа Расеі рассоўваюцца,
і нашыя галовы з’яўляюцца з...
чаго?
[...]
У позе пытальніка –
усім сваім целам мы ставім сябе пад пытанне,
замацаванае кропляй мачы.
Гэта мы? Насамрэч? Ставім сябе пад пытанне? (Эр, 87)

У вершы “Для А.Б.” паэтка дзівіцца працэсу сталення і ўяўляе сабе сусвет як бяздомнага сабаку, якога яна з сябрам хацела забраць да сябе, але яго забраў нехта іншы і навучыў камандзе “чужы” на іх:

а наш сабака вырас на чужым падворку
а нашы маці раптам перасталі спаць з мужчынамі
і гледзячы на іх сёньня
усё лягчэй паверыць у нявіннае зачацьце. (Эр, 49)

Верш сканчаецца выявай ідэальнага горада з белымі дамамі на беразе акіяна, дзе жывуць героі – далёка ад Беларусі, якая не мае свайго выхаду да мора.

Ёсць у творчасці Вальжыны Морт яшчэ некалькі вобразаў месцаў у замежжы: часам як месца ўцёкаў, часам з прывідамі мінулага. У першую чаргу, аднак, варта згадаць тры вершы пра паўночную Германію: два з іх прысвечаныя курорту – “Зюльт” і “Зюльт 2”, дзе паказваецца спакойнае месца і людзі, якія адчуваюць сябе камфортна

ў сваім целе. Падобна, што з гэтымі двума вершамі звязаны яшчэ адзін, адзіны з нямецкай назвай – "Sitzendes Mädchen mit verschränkten Armen". Гэты верш, які з'яўляецца ў зборніку *Collected Body* пад назвай "Unter den Linden", спалучае ў сабе рэалізм з імпрэсіянізмам, пра што сведчаць наступныя радкі:

> Яна складае рукі на грудзёх, што вырастуць неўзабаве,
> калі жанчыны ў яе родзе заручаліся імі,
> калі іхнія звісалі смочкамі, патрэсканымі, як локці, уніз.
>
> Яна хавае рукі, бо ў хаце
> з такімі крывымі сценамі нельга
> разлічваць на роўны почырк.
>
> Яе дзед міргае, заікаецца і кульгае. Далоні гадзінніка
> складаюцца ў малітве, калі ён заходзіць,
> каб з'есці страву адбеленую
> ў смятане, пакласці
> свой надкусаны хлеб
> на сінякі яе літар.
> [...]
> Тутэйшая зямля і неба скелены разам
> вантробамі матыля, засушанага між імі –
> вуліца вёскі і крылы садоў абапал.
> Яна сціскае асадку, бы лыжку. Яе сцятыя вусны
> насупіліся на лінію далягляду. (Эр, 81)

Апісанне больш прывабных месцаў можна знайсці ў вершы "Утопія", які ўжо згадваўся раней: у гэтым благаслаўлёным наваколлі амаль усё выдатнае, хоць некаторыя фантазійныя вобразы, як мы ўжо бачылі, могуць выклікаць пачуццё неспакою. Можна сказаць, што наступнае параўнанне эмацыйна нейтральнае, але з дапамогай яго атрымліваецца пазбегнуць банальнасці ў апісанні гэтай ідыліі:

> Акіян кідаецца на чаек,
> Як сабака на ланцугу,
> І капліца адкашліваецца штогадзіну,
> Але так і не наважыцца нічога прамовіць. (Эр, 74)

Заслугоўваюць згадкі яшчэ два вершы пра экзатычныя замежныя мясціны: "Гатэль «Перасмешнік»" пачынаецца з крыкаў "Алілуя", але на працягу верша атмасфера робіцца больш змрочнай – гэта чытаецца і ў паводзінах кельнера перад тым, як героі пачынаюць спуск уніз па Перасмешнік-Гары:

> Нашым рахункам кельнер рассякае стол.
> Мы сыходзім уніз па Перасмешнік-Гары,
> не уздымаючы пылу. Не ўздымаючы задняй нагі,
> сабакі, чыя поўсць вісіць, як мокрае пер'е.
> Сцуць жоўтым дымам. (Эр, 94-95)

Іншы яе твор, "Выспа", які па сутнасці з'яўляецца любоўным вершам, малюе патэнцыйна ідылічнае месца, але тут таксама ёсць згадкі пра плявок сонца і аплявухі хваляў, што бачна з наступных радкоў, дзе апавядальніца параўноўвае мужчынскія аплявухі з гэткімі ж ад мора:

> але ніводзін не змог мне пляснуць па твары так,
> як мора б'е сваю прыёмную дачку
> і само ў слязах адступае.
>
> Выспа, выплюнутая сонцам праз плячо сусвету (Эр, 96)

Калі звярнуцца да новай краіны Вальжыны Морт, то ва ўжо згаданым вершы

“На пляжах Фларыды” ўсё амаль адваротнае ідыліі. З іншага боку, Нью-Ёрк у аднайменным вершы, хоць і прадстаўлены з вялікай доляй фантазіі, адначасова рэалістычны і чароўны. Гэты верш пачынаецца з параўнання Нью-Ёрка з гіганцкай рыбай і сканчаецца выявай горада, дзе нават час ідзе з аншлагам, горада, які выцягваюць за вушы яго хмарачосаў:

нью ёрк мадам<br>
гэта помнік гарадам<br>
гэта –<br>
        ТА-ДАМ<br>
гіганцкая рыба<br>
у якой луска ад зьдзіўленьня<br>
паўстала дыбам<br>
[...]<br>
і нават час ідзе з аншлягам<br>
калі пад агульны ох і ах<br>
з чорнай шляпы<br>
хвастаты маг<br>
вымае нью ёрк<br>
за вушы хмарачосаў (Fot, 92)

Каб скончыць гэты кароткі агляд вершаў Морт аб яе новай краіне, звернемся да верша “Восень у Тампе”, дзе мы зноў бачым яркую фантазію паэткі:

гэта наша кроў высахла<br>
і цярушыцца скрозь пальцы<br>
як пажоўклае лісьце<br>
але тут не бывае восені<br>
і лета нерухома застыла<br>
белаю чапляй ў зялёнай вадзе (Fot, 66)

Вяртаючыся да тэмы падарожжа як уцёкаў і да краіны, адкуль Морт родам, варта разгледзець ранні верш “Опера – Не”, які паказвае даволі мудрагелістым чынам спробу ўцячы на аўтобусе з горада, ад якога мурашкі па спіне; у канцы першага акту высвятляецца, што паездка была адмененая, што выклікае такія іранічныя словы:

Вось такі ў мяне з табою<br>
пратэктарат. (Ят, 31)

Сярод спробаў заняцца каханнем і любоўных абяцанняў напрыканцы акта прыходзіць запрашэнне купіць квіткі ў іх першапачатковае месца прызначэння. Пра падарожжа, аднак, зусім іншага характару ідзе гаворка ў моцным і поўным суперажывання вершы “Польскія эмігранты”: ён прысвечаны прыезду новых эмігрантаў у Злучаныя Штаты, і мы прывядзем тут з яго першыя тры страфы:

як яны адарваліся ад зямлі<br>
дзе нават камяні пускаюць карані

як дзьве мовы дзеляць адзін рот<br>
бы дзьве жанчыны на адной кухні

як яны пранесьлі свае акрываўленыя целы<br>
абмотаныя акардэонамі замест бінту<br>
праз таможню (Fot, 70)

Успаміны адыгрываюць значную ролю ў паэзіі Морт, і не толькі пра дзяцінства, але і пра сям’ю і іншых. Адным з прыкладаў было ўжо згаданае раней параўнанне памяці са зняццем прастытуткі і катаннем на драўляным коніку ў вершы “Каб

увайсці ў гэтую кватэру...”. Перш чым перайсці да такіх тэмаў, аднак, варта разгледзець некалькі выдатных вобразаў успамінаў саміх па сабе. “Цёплай пустэчаю, далёкабачнасцю” – даволі ўдалы ранні верш, які сканчаецца непазнаваннем:

успомніць
твары памяці
і
не
пазнаць. (Ят, 10)

Больш драматычны вобраз намаляваны ў вершы “успаміны”:

успаміны
два
пальцы
якія
засунулі
у
рот
лёсу (Fot, 62)

У вершы “Фабрыка слёз” адна са строф апісвае, як гэтая ўстанова выкарыстоўвае ўспаміны, ці, больш дакладна, пераапрацоўвае і псуе іх:

у нас калі станцыя па апрацоўцы ежы
пераажоўвала чарговую катастрофу,
фабрыка слёз перайшла на эканамічна рэнтабельную
пераапрацоўку адходаў мінулага –
галоўным чынам, асабістых успамінаў. (Fot, 112)

І, таксама, у вершы пра шпіталь (трэба думаць, псіхіятрычны) – “Больніца” – пацыент, які доўгі час біўся галавой аб бетонную сцяну, нарэшце, суцішваецца:

адчуць
як зазямляецца праз цела памяць (Fot, 24)

З ліку самых кранальных – вершы Морт, прысвечаныя ўспамінам пра членаў сям’і. Адзін з самых простых – пра яе маці: “каб я пра яе ніколі не забывала...”:

каб я пра яе ніколі не забывала
завязала мама
на маім целе
вузялок твару (Эр, 24)

Больш складаныя ідэі выказваюцца ў вершы “A Portrait of a Mother in Fall”, які не мае беларускай версіі, але зноў пачынаецца з тэмы вузялка:

**A PORTRAIT OF A MOTHER IN FALL**

we tie a knot on everything that bends
and only our necks are free of knots
the sky like the soggy feathers of a bird
that’s sleeping or most likely dead

and dinner comes
exchanges food
for our time

she used to bend over her teacup brim
as if it were the edge of the universe

and she would sip and pause
and sip and pause
and never talk
about what she might have seen

and it is comforting to know
when far away:
the end of the world
is in our mother's hands (Fot, 17)

Ёсць шмат іншых згадак пра дзяцінства і маці, жывую ці памерлую, у паэзіі Морт, у тым ліку ў вершы "My Father's Breed", дзе яна ўспамінае сябе дзесяцігадовай дзяўчынкай, якая біла маці ў грудзі ("каб не параніць пальцы") у чатыры гадзіны раніцы, каб не пускаць яе да свайго мужа, які відавочна прыйшоў дадому пасля гулянкі.

Двойчы Вальжына Морт вельмі кранальна пісала пра сваю бабулю: у вершы ў прозе "Бабулі" і ў вершаваным творы "Бабуля". Першы з іх пачынаецца з апісання няхітрых бабульчыных пераканнняў і, пасля таго, як паэтка называе сваю бабулю бібліяй для Бога, сканчаецца зваротам Бога да старой – паважліва, ласкава і адначасова з гумарам:

> Ты бачыш сваё жыццё як рэч, пазычанаю на нейкі час у суседзяў.
> Ты кажаш – асьцярожна з ім, гэта чужое. Яго трэба будзе аддаць
> такім, якім яго нам прынесьлі. Ты бачыш сваё жыццё, як рэч,
> пазычаную ня толькі табе, але ўсім нам. Вакол твайго жыцця, як
> вакол першага чорна-белага тэлевізара, мы сядзім усе разам у
> захапленьні.
>
> Не жыццё вучыць цябе – ты вучыш сваё жыццё. Быць самім
> сабою. Аддаваць сябе да канца (Fot, 82)
>
> [...]
>
> Дарагая Вальжыніна бабуля, зьвяртаецца да цябе Бог. Мы асабіста незнаёмыя, але, можа, ты пра мяне і чула – пра мяне пісалі ў некаторых кніжках. [...] Я такі стары, што шмат хто ўжо ўголас пацьвярджае маю сьмерць! Яшчэ крыху, і я сам паверу ў яе. Пасадзі мяне да сябе на калені, распавядзі мне, як зямля трымаецца на чарапахах. Твае рукі на дотык – як чарапашы панцыр. Дай мне схаваць пад імі сваю галаву. (Fot, 82-84)

Канцоўка гэтага верша ў прозе часткова тлумачыць нязменную цікавасць паэткі да чарапах: напрыклад, у незвычайным вобразе ў вершы "Музыка саранчы", хоць гэтая жывёла, вядома, мае сваю ўласную гісторыю ў міфах свету.

Верш "Бабуля" не такі мудрагелісты, як "Бабулі", але гэтаксама, як і першы, вельмі кранальны і багаты на вобразы, у выніку чаго чытач адчувае сваю блізкасць да адносін паміж паэткай і яе любай бабуляй:

мая бабуля
не ведае болю
яна думае што
голад – гэта ежа
галота – гэта багацьце
смага – гэта вада

яе цела як вінаград абвілося вакол палкі
яе валасы як пчаліныя крылцы
яна глытае сонечныя зайчыкі таблетак
называе інтэрнэт тэлефонам у амэрыку

яе сэрца стала ружаю – толькі і можна
што нюхаць

прыціскаючыся да яе грудзей
больш ад яго ніякага толку
толькі кветка

яе рухі як ногі бусла
чырвоныя палачкі
і я сяджу на кукішках
і выю ваўком
на белую поўню тваёй галавы
бабуля
я кажу табе: гэта ня боль
гэта так моцна цябе абдымае бог
цалуе і коле сваёй няголенай шчакою (Fot, 12)

Мала хто з паэтаў не зважае на змену пораў года, і многія звяртаюць увагу не толькі на надвор'е, але і на дрэвы і кветкі. У апошнім працытаваным вершы, да прыкладу, грудзі бабулі ператварыліся ў ружу, і карысць ад іх толькі як ад кветкі. У апошняй кнізе Вальжыны Морт, "Эпідэмія ружаў", не толькі ружы, але і цюльпаны, півоні і шмат якія іншыя кветкі паказаны як літаральна, так і, часам, у пераносным сэнсе. Да прыкладу, у вершы "Кенатаф" паэтка кажа пра тое, што радавод – гэта не дрэва, а бутон ружы (Эр, 9). Ва ўжо згаданым раней вершы "Сонца – марскі асілак", гаворачы пра прыморскі пыл, паэтка заяўляе рашуча: «але ж я не кветка папяровая!»

Апроч часу летніх вакацый самая прыкметная пара года ў вершах Морт – беларуская зіма. Дарэчы, нязвыклае слова "пандэмія" таксама сустракаецца ў раннім вершы "Кунсткамера", дзе звонку існуе "пандэмія снегу" (Эр, 85), у якую паэтка ў рэшце рэшт збягае. У іншым раннім вершы "а я ад цішыні такой..." паэтка кажа, што аглухла ад цішыні:

а я ад цішыні такой
аглухла. Сьнег набраўшы ў грудзі,
ты кажаш: Вось і судны дзень.
а я ў адказ: Нарэшце студзень. (Ят, 8)

*

З прыкладаў, пададзеных у гэтым артыкуле, можа падацца, што паэзія Вальжыны Морт вельмі змрочная, але насамрэч яе творы заўсёды разнастайныя і натхняльныя, змрочныя тэмы і вобразы ў іх спалучаюцца з тымі, якія можна назваць выключна жыццесцвярджальнымі. Асноўная задача літаратурнага аглядальніка мусіць быць не ў тым, каб усё растлумачыць, а ў тым, каб прыцягнуць увагу чытача да выдатных, арыгінальных тэкстаў. Нямногія сучасныя беларускія паэты могуць пахваліцца такім багаццем вобразаў, моўным, тэматычным і эмацыянальным спектрам твораў, як гэтая таленавітая літаратарка.

Бібліяграфія:

1. Вальжына Морт. Я тоненькая як твае вейкі. – Менск: Логвінаў, 2005.
2. Mort, Valzhyna. *Factory of Tears*, with translations by Franz Wright in collaboration with the author and Elizabeth Oehlkers Wright. Port Townsend, Washington: Copper Canyon Press, 2008.
3. Mort, Valzhyna. *Collected Body*. Port Townsend, Washington: CoppЭр Canyon Press, 2011.
4. Mort, Valzhyna. *Milk as an Animal*. Glenrothes, Scotland: Fivehundred places, 2013.
5. Mort, Valzhyna (ed.). *Something Indecent: Poets Recommended by East European Poets*. Pasadena, CA: Red Hen Press, 2014.
6. Вальжына Морт. Эпідэмія ружаў. – Менск: Логвінаў, 2017.

кнігапіс

Леанід Галубовіч



...менавіта літаратура
стала яго "крыжам і малітвай"...

# Несці свой крыж

***Віктар Карамазаў. Пад крыжам. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 100). – 144 с.***

Шчыра кажучы, я палюбіў прозу Віктара Карамазава пасля прачытання яго кнігі літаратурных эсэ і падарожных нарысаў "Проста ўспомніў я цябе" (1989). Разгадка і мастацкае выяўленне глыбока псіхалагічнага і душэўна-духоўнага ўнутранага свету чалавека-творцы прываблівала мяне як чытача і літаратара да яго прозы. Да гэтай пары не забываюцца яго творчыя партрэты магілёўскіх выбітных паэтаў Аляксея Пысіна і Міхася Стральцова. І вось гэты яго эсэістычны і нарысавы стыль пісьма найперш уражваў мяне, бо менавіта праз яго сіта адвейвалася ў будучым зерне ад паловы ў яго маштабнай мастацкай прозе (раманах "Пушча", "Бежанцы", аповесці "Дзень Барыса і Глеба"). Нездарма што і Дзяржаўную прэмію імя К. Каліноўскага (1990) ён атрымаў якраз за вышэйзгаданую кнігу "публіцыстычнай прозы і эсэ". Так, яго высокі мастакоўскі стыль адчуваўся ўжо ў гэтых тэкстах. Калі праз успрынящце вобразаў жывой прыроды выяўляўся і вобраз




самога чалавека. Фразеалагічныя раскаваныя мазкі словам, нібыта алеем на палатне карціны. Колеры подумак, паўтаны прадчуванняў... Проста класічна накрэсленыя "тэкставыя закладкі" для тых, хто ідзе ў літаратуру (мастацтва агулам), скажам, у яго эсэ пра Міхася Стральцова: "Адзінота – лёс гордага генія. (...) На вяршыню Парнаса амаль усе, здаецца, узыходзілі пад ярмом адзіноты. Натоўпам туды не ішлі. Леў Талстой казаў, што раіцца толькі драбяза, вераб'і, напрыклад, толькі арлы не пакідаюць гордае вышыні адзіноты. Сёння, у нашым прагматычным грамадстве, гэтая вышыня не ў пашане. Дружным табуном лягчэй пражыць. Постаць мастака, які адбіўся ад талакі, чарады, застолля, групоўкі – як тут не назаві – стала рэдкасцю. Але ж ярмо адзіноты благаслаўлёнае найвышэйшым знакам літаратуры. (...) Не пра тое размова, каб мастак жыў адзін, як пустэльнік. Пра тое, што ён не павінен баяцца адзіноты. Каб з гонарам нёс яе крыж, тым больш што адзінота мастака пладаносная. І тут з нейкай прачула-абвостранай павагай, з пачуццём светлага вызвалення бачыш Стральцова, яго задумліва-самотную постаць у нашай сённяшняй літаратуры".

І вось новая, як бы для прозы невялікая па аб'ёме, кніга "Пад крыжам" (памятаем, што ў В. Карамазава ўжо была кніга "Аброчны крыж" і аповесць-эсэ "Крыж на зямлі і поўня ў небе" пра жывапісца Бялыніцкага-Бірулю). Паколькі чарговая кніга складаецца з расповедаў пра мастакоў і мастацтва, то агулам гэта ўжо восьмая, калі не памыляюся, кніга пісьменніка з гэтай тэматыкі (пісаў ён пра вядомых нашых жывапісцаў: Жукоўскага, Бархаткова, Неўрава, Вашчанку, Бараноўскага). Сёння В. Карамазаву пераваліла за восьмы дзясятак, таму па-добраму ўражвае яго літаратурная і мастакоўская працаздольнасць. У нашай літаратуры па сутнасці ніхто тэматычна не пісаў, а тым больш грунтоўна не заглыбляўся ў сваіх творах пра жыццё і лёсавызначэнне нашых нацыянальных мастакоў. Карамазаў захапіўся гэтай тэмай не проста так, з нейкай выпадковай адвольнай хэнці, а для гэтага ў яго былі важкія прычыны і аргументацыі. Справа ў тым, што Віктар Філімонавіч сам добра валодае пэндзлем і гэта цяпер ужо, можна сказаць, не хобі, не аматарства, а натуральнае творчае захапленне (з нядаўняга часу ён прыняты ў Ганаровыя сябры Саюза мастакоў РБ). Хоць ён і кажа, што першая і па-сапраўднаму вартая яго жывапісная карціна "Зазімак" з'явілася толькі на першым пленэры Бялыніцкага-Бірулі ў 1997 годзе. А пачалося ўсё ў далёкім школьным маленстве, калі ён перамалёўваў з бібліятэчных кніжак партрэты класікаў літаратуры і рабіў гэта на адваротным баку розных плакатаў. Прыносіў "партрэты" ў школу, а настаўніца прышпільвала іх да дошкі і так з "дапаможна-выяўленчым матэрыялам" вяла ўрокі літаратуры. Пасля ўжо бацька, заўважыўшы сынава захапленне, купіў яму скрынку алейных фарбаў, і той пачаў капіраваць карціны Левітана, Шышкіна ды іншых мастакоў. Аднак так склаўся лёс, што менавіта літаратура стала яго "крыжам і малітвай". Але ж і мастацтва, *разняволіўшы* яго, далёка ад сябе не адпускала. І вось ужо ў сталым веку зноў прыцягнула. Адразу – да прозы-разважання пра сутнасць мастацтва, а пасля і да значных літаратурных твораў пра саміх мастакоў, і ўрэшце самога пісьменніка – да пэндзля і палітры.

Што ж найперш вабіла В. Карамазава як творцу ў гэтай тэме? Як казаў ён сам у гутарцы з Э. Дзвінскай: "У мастакоў кандэнсуецца высокая духоўнасць, прыгажосць жыцця чалавека і прыроды. Мастак чытае прыроду знутры. Ён раскрывае духоўны патэнцыял прыроды, і мы павінны вучыцца ў яго разуменню прыроды". Вось якраз сыходзячы з гэтага пастулата і піша В. Карамазаў. Пэўна, хто дзе і паспрачаецца з ім, як і сам ён у кантэксце твора ўнутрана палемізуе са сваім героем, з яго некаторымі

ўчынкамі і дзеямі. То ён як пісьменнік прымае іх пункт погляду, іх творчыя ідэі ды задумкі, то як самабытны мастак спрабуе аспрэчваць іх, ці часам нават папярэджваць, або ўносіць свае мастацкія карэктывы, а бывае, што і карэктуе малазаўважныя гістарычнай і акадэмічнай памяццю біяграфічныя і жыццёвыя моманты іх лёсаў...

Аповесць "Зямля Фердынанда" напісана ім па матывах біяграфіі цудоўнага мастака-пейзажыста Ф. Рушчыца. Гэтую тэму ён адчувае і разумее на прафесійным узроўні. Сюжэтна і факталагічна літаратурнае палатно выбудавана празаікам у форме медытацыі да праяў мастацтва і творчасці агулам. Са слоў В. Карамазава, укладзеных у вусны яго героя, "мастакам заўсёды трэба памятаць, што золата ў мастацтве – гэта гармонія жаданага і рэальнага. Яна, гармонія, прынцэса з норавам, ёю авалодаць ой як нялёгка. Але ў ёй праўда мастацтва. (...) Аснова ж усяго – прырода, у ёй караніліся ўсе школы і эстэтыкі. Шукай тое карэнне – знойдзеш сваю крону".

Чытаючы аповесць, можна адчуць тагачаснае (канца XVIII ст.) жыццё Пецярбурга, Варшавы і роднага Рушчыцу бацькоўскага кутка Багданава, што пад Крэвам. Цікава, што духоўная і фізічная прывязанасць Фердынанда да малой бацькаўшчыны трактуецца вельмі блізкімі і знаёмымі па сёння аргументацыямі. Маўляў, жывучы не ў сталіцы, трэба было "нагадваць і даказваць, што і ў вёсцы можна быць арыгінальным мастаком". А што тычыцца замежжа, то"там вочы весялейшыя ў людзей. Мы тут бачым зашмат шэрага. Баімся чыстых колераў". Пра сябе самога, зноў жа словамі Карамазава, Фердынанд кажа, што "мне цікава пісаць прыроду, якая не адразу адкрываецца, гуляе са мною ў хованкі, вымагае ад мяне і вытрымкі, і рэакцыі на кожны яе рух, на кожнае адценне колеру, яе імгненныя праявы не губляюць у праявах іншых, менш цікавых, імгненна заўважаць патрэбнае і зберагаць у сваіх эмоцыях. Усё павінна быць напагатове: вока, слых, нервы, думка". Вельмі выразна і ярка выпісаны і фігуры сучаснікаў Ф. Рушчыца, найперш вядомага арыгінальнага мастака (яго выкладчыка і настаўніка ў Акадэміі мастацтва ў Пецярбургу) Куінджы. Той, хто цікавіцца мастацтвам, разумее веліч і неардынарнасць гэтай мастацкай постаці. Запамінальныя ў аповесці псіхалагічныя і характарныя накіды да натуры мастака. Прыкладам, да такіх яго пачуццяў, як шанаванне бацькоў і Айчыны. І любоў гэтая падаецца таксама як праява мастацкага і чалавечага таленту. Асабліва запамінальна яна гучыць у размове пра "Літву вялікага Міцкевіча" з вуснаў яго каханай Гэлены Макоўскай: "Калі не ведаеш гісторыю краіны, то цяжка зразумець каменне, якое застаецца ад яе. Як яго тады адчуць і выявіць?" Ну і, безумоўна, выяўляючы чалавечы і творчы вобраз мастака Рушчыца, пісьменнік Карамазаў не мог не закрануць і ўласнага стаўлення да людзей і творчасці. Таму што толькі сапраўднае мастацтва ўзаемапранікальнае і ўзаемадзейснае – бо, пішучы пра нешта ці некага, пішаш і пра сябе самога. Як заўважае Карамазаў, "галоўная думка Рушчыца на мяжы двух стагоддзяў" была "пра адказнасць мастака перад мастацтвам і перад Радзімай". А паводле словаў самога Фердынанда: "Мастак носіць у сабе стрэмку. Заўсёды яе адчувае, ніколі ад яе не пазбавіцца. Стрэмка – яго мастацкае сумленне".

Сам вядомы пісьменнік, даючы тлумачэнне тэксту і сюжэтным ходам сваіх апошніх твораў, кажа, што "мне не патрэбная ўся біяграфія мастака. Мне трэба быць моцна ўражаным яго творчым, духоўным подзвігам або яго трагедыяй, ёй запаліцца, у яе ўвайсці і яе разгадаць, маючы ўсяго некалькі фактаў з жыцця, але такіх, якія даюць дастатковую прастору для псіхалагічнага мастацкага аналізу. Гэтакая праца патрабуе і майго ўласнага жыццёвага вопыту, не менш як жыццёвага вопыту майго літаратурнага героя".

Закранаючы аспекты прафесійнага наканавання, відаць, можна сказаць і боскага дару, таленту мастака ў згаданай аповесці, В. Карамазаў падкрэслівае і сутнасны адсыл да выпісанага ім вобраза: "У аповесці пра Рушчыца я даследаваў праблему

адрыву яго ад родных каранёў, спрабаваў спасцігнуць, чаму Рушчыц назаўсёды пакінуў палітру і пэндзлі і пераключыўся на выкладчыцкую дзейнасць", і заключае тым, што "мастак павінен трымацца свайго асяроддзя, сваёй глебы, сваіх традыцый, школы. Як толькі ён пачынае мяняць іх, то губляе сваю непаўторнасць". Хоць уласна для мяне гэта неадназначнае і спрэчнае выказванне пісьменніка.

Апавяданне "Ван Гог" В. Карамазава напісана ў спакойна-разважлівым традыцыйным стылі, адпаведным узросту самога аўтара. Яно пра сучаснага мастака, які праз творчасць сусветна вядомага класіка шукае сваё (нацыянальнае) месца ў адзінай выяўленчай галерэі свету... Пакуты і перажыванні нараджаюць новыя вобразы зямнога жыцця. Да таго ж "сваю карціну ён не пісаў для ўсіх, для ўсяго народа, як яшчэ нядаўна казалі і патрабавалі ад мастака. Пісаць для ўсіх хлусня. Усім яна навошта? Ды і яму хапала адной жывой душы, якая чакала сустрэчы з ім, з яго Ван Гогам".

Пісьменнік нават раскрывае сваю літаратурную кухню, распавядаючы ў гутарцы, што яго "апошнім часам захапілі маладыя мастакі рэалістычнай школы (...): Антон Вырва, Васіль Пешкун, Уладыслаў Петручык, і я пішу нататкі пра іх творчасць. (...) Новая кніга адкрываецца навелай "Ван Гог", у ёй аповед ідзе пра Атона Вырву". Шчыра кажучы, фраза "пішу нататкі пра іх" здзівіла сваёй нечаканасцю і ў той жа час яшчэ раз дадала душэўнай шчырасці ў адносінах да вядомага творцы. У дзвюх абсалютна мастацкіх навелах ("Макі" – пра сучасных мастакоў-пейзажыстаў Міколу і Марыю Ісаёнкаў і "Бабіна лета") Віктар Карамазаў адмыслова выпісаў і па магчымасці раскрыў таямніцы "мастакоўскай лабараторыі" і разам з гэтым псіхалагічны характар творчасці ўвогуле – у тым ліку і літаратурнай. Уражваюць такія вось, як пісьменнік кажа, "прынцыпы": "пісаць настрой пейзажны адразу ад пачатку да канца, за адзін сеанс, як не паспееў – другі раз з палітрай не падыходзь да палатна. Хай застаецца незакончаным... Каб не было ілжы. Лепш змоўчаць, недагаварыць, як сылгаць". І тут зноў Віктар Філімонавіч выклікае мяне на палеміку. Ну не зусім я з такім тэзісам згодны. Але ж такія спрэчныя моманты і дадаюць чытацкага імпэту і цікавасці да яго творчасці.

Бадай, толькі адно апавяданне выразна вылучаецца з таго шэрагу твораў, пра якія гаварылася вышэй. Зрэшты, прырода, лес і паляўнічыя – гэта яшчэ адна, "маладзейшая" ўлюбёная тэма пісьменніка. Гэтае апавяданне – "Пад крыжам божым, альбо Развітанне з Ліменню" (і тут не без "крыжа") – на першы погляд, бессюжэтнае, аднак, каштоўнае і важкае само па сабе, па ўзнятай балючай для нас, беларусаў, тэме, – яно пра тую Бацькаўшчыну, якая памірае разам з намі. Працытую яго кульмінацыйны, найбольш уражвальны і балючы фрагмент, калі пісьменнік прыязджае ў сваю, калісь прыкіпелую да душы Лімень, і бачыць, што "тут пры дарозе ўсцяж раней стаяў плот, за плотам стаялі хаты, у хатах жылі людзі. Цяпер ніводнай хаты не было, дзе-нідзе па лініі былога плота тырчэў з зямлі, быццам гнілы зуб у бяззубым роце, слуп, валяліся ў бураломе зломкі ад жэрдак. (...) На ганачку адной хаты (...) сядзеў хлапчук гадкоў васьмі, а можа дзесяці, не болей. трымаў у руках кухонны нож і нейкую рагульку нажом часаў. Я спытаў у яго пра дзеда, пра Баяра, ці ў хаце ён. (...) Кажу, што дзеду я не чужы, ён мяне добра ведае, што ён заўсёды мне адчыняў свае дзверы... Хлапчук мацней насупіўся, сказаў аж неяк грозна, схіліўшы галаў над рагулькай: "Дзед памірае, не трэба да яго ісці, хай памірае ціха". Я стаяў, не мог кроку зрабіць ні ўперад, ні назад. А хлапчук нервова страсянуў бялявай грыўкай, узняў яшчэ раз вочы на мяне і вымавіў праз сціснутыя зубы: "Ідзі, дзядзька, адсюль". Я пахіснуўся. Вочы ў яго былі налітыя рашучаю, жахлівай чырванню".

І вось яна, перад намі, наша беларуская рэчаіснасць, наша жыццё – **наш зямны крыж**... Наша Бацькаўшчына – каму малая, а для каго заўсёды велічная. Каб любіць і разумець яе, клапаціцца пра яе, трывожыцца за яе, трэба быць яе родным сынам. І для гэтага, як піша Віктар Карамазаў, "трэба выпрацаваць пэўны стыль і метад" жыцця. Людскі. Чалавечны. Стваральны.

Павал Абрамовіч



...я жадаю

дайсці да ўсяго сам...

# Маё жыццё ў нетрах літаратуры

## Талстоўская мера

Эрнст Гомбрых, якому ангельская каралева надала рыцарскае званне, у "Гісторыі мастацтва" адзначаў, што мастакі каменнага веку стваралі рэчы выключна для рытуалаў. І галоўным крытэрам была тады не "прыгажосць", а здольнасць твора "спрацоўваць" магічна. Пры гэтым супляменнікі мастакоў "дакладна ведалі, што азначае тая ці іншая форма, той ці іншы колер". Уявіце: была эпоха ў гісторыі чалавецтва, калі публіка магла прафесійна ацаніць, ці выканаў мастак сваю задачу!..

Калі Янка Брыль, Васіль Быкаў ці Алесь Адамовіч казалі пра раман Льва Талстога "Вайна і мір", яны не прыгажосцямі нейкімі абстрактнымі захапляліся, а менавіта ацэньвалі, і ацэньвалі прадметна, наколькі гэты твор дакладна спрацаваны ў тым ліку з пункту гледжання іх уласнага ваеннага вопыту.

Так, часы былі розныя, але *War Never Changes* ("Вайна ніколі не змяняецца"), як казаў нейкі персанаж. Вось адзін толькі "колер", выкарыстаны Талстым:

*“Жерков после своего изгнания из главного штаба не остался в полку, говоря, что он не дурак во фронте лямку тянуть, когда он при штабе, ничего не делая, получит наград больше, и умел пристроиться ординарцем к князю Багратиону”.*

Такіх жарковых нашы класікі-франтавікі нагледзеліся дастаткова... І, канечне, сам Талстой пісаў кнігі дзеля таго, каб яны “спрацоўвалі” – іншай мэты ў яго не было, і ён ведаў, што менавіта так яго ацэньваць будуць, і не баяўся гэтага, бо працаваў сумленна.

“Талстоўская мера”, “Талстоўскі крок” – такія словаспалучэнні з усёй сур’ёзнасцю выкарыстоўвалі ў сваёй літаратурнай крытыцы беларускія пісьменнікі. Быццам “Вайна і мір” – сапраўды тая адзінка вымярэння, якой павінны адпавядаць найперш іх уласныя кнігі.

## Буханка хлеба за верш

Цяпер усе ў горадзе жывуць лайкамі, каментарамі да сваіх і чужых допісаў. Дарэчы, пра каментары, як і пра чалавека, якому ён адрасуецца, можна сказаць словамі беларускай прымаўкі: “Якое дрэва, такі і клін”.

Іншым разам робіцца шкада, што многія нашыя пісьменнікі-класікі не дажылі да эпохі інтэрнэту і сацыяльных сетак. Бо людзі, здараецца, дасюль пакідаюць пяшчотныя, паўнюткія дарагіх успамінаў каментары з нагоды іх літаратурных твораў.

Прыкладам, на сайце http://yakubkolas.ru пад вершам Якуба Коласа “Ў школку” (1910) ёсць два каментары ад неаўтарызаваных карыстальнікаў (прыводжу з захаваннем аўтарскай арфаграфіі):

Даслаў Гость у Пн, 10/07/2013 – 22:13: *“Гэты вершык мая маці, 1913 г. нар. па памяці запісвала ў блакноцік, калі ляжала ў бальніцы ў Барайлянах у 1983 годзе. Яна яго вучыла ў першым класе, а помніла да самай смерці. А я маленькая зусім, прыблізна ў 1955 годзе, бачыла Якуба Коласа на яго дачы ў Караліщавічах”.*

Даслаў Гость у Пн, 04/10/2017 – 13:47: *“Гэты верш расказваў мой бацьу 1939 годзе калі прыйшлі саветы ў заходнюю Беларусь перад аднавяскоўцамі. Яму за гэта далі буханку хлеба”.*

## Водар кніг

Я цалкам на баку навуковага калектыву, які працуе над новым зборам твораў Уладзіміра Караткевіча ў 25 тамах, працуе да таго ж у час, вольны ад асноўнай працы. Але вось спатрэбіўся мне “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”. Толькі гэтая кніга, толькі гэты тэкст. І што я бачу ў кнігарні? Непрывабная вокладка, дробныя літары, вялікі кошт, да таго ж кніга цяжкая, як цагліна, бо 240 старонак дадатковага матэрыялу ўтрымлівае, прычым пададзены ён тым жа шрыфтам!

Перайшоў я, як кажуць, дарогу, і набыў гэты ж раман за 3 рублі ў букіністаў у выдатным стане з таго збору твораў Караткевіча ў 8 тамах, які выдаваўся ў 80-я. На мой выбар паўплывала і якасць паперы. Новыя кнігі – нават самыя бялюткія з іх – жаўцеюць за адзін год, патыхаюць вільгаццю і брыдкім клеем, а старыя – яны старэюць годна, шляхетна, пахнуць сухім, але моцным дрэвам з “адценнем” нейкага адмысловага гатунку тытуню.

Не пах, а парфума!

## Што рабіць, калі мой пісьменнік спайлерыст?

Усе мы ненавідзім спойлеры альбо “перашкоды”.

“Тераіня насамрэч глуханямая”, “Дый галоўны герой – прывід”, “А ведаеш, напрыканцы яна ляжа на рэльсы”, “Андроід пранясе на борт касмічнага карабля эмбрыёны” – чума на галовы тых, хто без папярэджання кідае падобныя фразы, забіваючы наша жаданне чытаць кнігу альбо глядзець кінастужку.

“Сябры, падкажыце, што рабіць, калі мой хлопец спайлерыст”? – піша з роспаччу дзяўчына ў сацсетках. Бойфрэнд “зліў” ёй фінал серыяла, у якім 12 сезонаў, а яны разам толькі дзесяць серыяў першага паглядзелі.

І сапраўды, што рабіць з такімі людзьмі?

Здараецца, некаторыя чытачы самі сабе робяць спойлер, заглядаючы ў канец кнігі ці фільма. Яны не могуць больш выносіць напружання альбо проста стаміліся. Але звычайна робіцца гэта таемна і на самоце – чытанне (прагляд) потым прадоўжыцца, а сакрэт, хутчэй за ўсё, не будзе выдадзены.

А вось раней у якасці спайлерыстаў нярэдка выступалі самі пісьменнікі! Асабліва вылучаўся на іх тле ангелец Даніэль Дэфо. Выдаваць сакрэты ён пачынаў адразу, у назвах уласных кніг:

*“Жизнь и удивительные приключения Робинзона Крузо, моряка из Йорка, прожившего двадцать восемь лет в полном одиночестве на необитаемом острове у берегов Америки близ устьев реки Ориноко, куда он был выброшен кораблекрушением, во время которого весь экипаж корабля кроме него погиб; с изложением его неожиданного освобождения пиратами, написанные им самим”.*

Дзякуй, Даніэль, што хоць канібалаў і Пятніцу ад нас прыхаваў!

І гэта яшчэ не самы грандыёзны, вычарпальны спойлер Дэфо. Так, назва ягонага рамана пра палкоўніка Джэка ўдвая даўжэй і змястоўней, чым назва “Рабінзона Круза”. І як толькі вокладкі для такога тэксту хапіла? Прычым рэальны сюжэт не супадае з тым, што пададзены ў назве рамана, – Дэфо яшчэ і наважыўся на падман чытача!

Спойлерылі ад душы і беларускія пісьменнікі. У тым ліку Янка Маўр. Прыкладам, напачатку восьмай часткі аповесці “Чалавек ідзе” чытаем: “Блуканне па лесе. – На лузе. – Смажаны трус. – Гульня з агнём. – Пажар. – Ноч ля вогнішча. – Зноў у пячоры. – Неспадзяваная сустрэча. – Смех пераможцаў”.

У сярэдняй школе гэта называюць планам сачынення – Маўр, як бачна, пакідаў іх у кнігах. Зрэшты, тое было ў традыцыях сусветнай літаратуры. Як у “Дэкамероне” Джавані Бакача, дзе з назвы адной часткі мы даведваемся, што *“Мессер Чеппарелло лживою исповедью вводит в заблуждение святого отца и умирает; злочестивец при жизни, он после смерти был причислен к лику святых и наречен «святым Шапелето»”.*

Персанаж памірае... Выдаванне звестак аб тым, што здарыцца з героямі напрыканцы кнігі, – самы злосны спойлер у прыгожым пісьменстве! Тут, відаць, усіх пераўзышоў наш Караткевіч. У невялікім уступе да рамана “Дзікае паляванне караля Стаха” ён, засланіўшыся першай асобаю, выдаў адразу: галоўныя героі ажэняцца, пражывуць доўгае жыццё, і Яна памрэ першай, а Ён будзе дажываць век у адзіноце.

Спойлерамі грашылі прадстаўнікі, як правіла, прыгодніцкай літаратуры. Але ж як так – у гэтым жанры ўсё трымаецца на інтрыгах, рухах! Але пісьменнікі смела і бескампрамісна выдавалі чытачам нават сюжэт – адразу з франтыспіса ці потым, ідучы па раздзелах. Навошта?

Магчыма, раней пісьменнікі не баяліся, што прыём забягання наперад, разгорнуты ці канспектыўны, адштурхне чытача. А наадварот, верылі ў свой талент апавядальніка і ў тое, што такі метад распаліць уяўленне публікі, дапаможа заваяваць яе. Горда трымалі, так бы мовіць, сваю краму адчыненай – вось, паважаныя, усе мае таямніцы і цуды, выбірайце!

Што не правіла, канешне, то выключэнне. У выпадку з “Дзікім паляваннем”

пісьменнік падліваў масла ў агонь меладрамы, прызвычайваў чытачоў да няспешнага, грунтоўнага аповеду, які аб сваёй маладосці павядзе чалавек, што напоўніцу зведаў жыццё і гора.

А, магчыма, пісьменнікі-спайлерысты проста не жадаюць, каб за іх усе сакрэты выдавалі нейкія косназыкія тлумачы, у тым ліку кніжныя рэцэнзенты? “Мая кніга – мае спойлеры, і няма чаго там напрыканцы рамана корпацца, я вам сам зараз усё праўдзіва і дакладна пакажу!”

Дзеля добрай гісторыі я гатовы, хоць і нехаця, даравaць пісьменнікам-спайлерыстам “перашкоды”, якія яны самі мне ствараюць. І ўсё ж па звычцы, выпрацаванай у часе чытання сярэднявечнай еўрапейскай літаратуры, назвы раздзелаў я прапускаю, як і ўсялякія анатацыі, прадмовы і ўступы да кніг.

Прычына зразумелая: я жадаю дайсці да ўсяго сам.

## Тры нататкі на палях апавяданняў Коласа

***

Знешні выгляд сялян у Якуба Коласа: “*...палешукі гулі, як рой пчол. Адзеты яны былі – хто ў доўгія халаты, хто ў кажухі з шырокімі, як засланка, каўнярамі. Усе яны былі ў лапцях, з голымі грудзьмі, хоць на дварэ крапіла зіма”* (“Кантракт”, 1908). Халаты, лапці, голыя грудзі. Азія. Беларускі народны касцюм? Не, не чулі!.. Між тым 1908-ты – год заснавання футбольнага клуба “Інтэр”, Мілан, пуску 4-й лініі Парыжскага метро, чарговых прэзідэнцкіх выбараў у ЗША, адкрыцця стрэптацыда. А ў Коласа людзей сагналі разам, як быдла ў полі, каб аб’явіць ім волю валаснога начальства, усім па “піццот”.

***

Агульны “малюнак” апавяданняў Коласа на “макраўзроўні” – аднастайны, непрыметны, як беларускі краявід, а вось на “мікраўзроўні” (сказ ці нават выраз, рыска) яго творы ўтрымліваюць безліч прыгажосці, запамінальных адметнасцяў.

Прыкладам: *“Тэта быў самы стары чалавек у вёсцы, яе жывая кніжка”*. Альбо: “*І-гэ-э-э-э-эй ты, гарэ-э-э-э-лачка! – прабаваў Міхась выдумаць песню пра гарэлку. Далей нічога не мог прыдумаць і сціх*”.

***

*“Замест “благодарю” ляпне Міхалка ні к сялу ні к гораду – “дзякую”.*

*– Што за “дзякую”?!*

*Міхалка чуе, што вушы яго чырванеюць”.*

Цытата з Коласаўскага апавядання “Дзеравеншчына” (1912). Тое, што з нагэтулькі моцным, выразна-негатыўным стаўленнем да сябе і да сваіх носьбітаў беларуская мова працягнула звыш стагоддзя, – гэта светлы радасны цуд і ўадначас – цёмны неспатолены помстаю выклік мове-прыгнятальніцы.

## Гісторыя ў пераказе нацыяналістаў

Непрыемна, дый і няма асаблівай патрэбы чытаць гістарычны “труд”, напісаны знерваваным і ўшчэмленым нацыяналістам-даследчыкам. Ангельскі гісторык Мэры Бірд, аўтарка шматстаронкавай кнігі “SPQR. Гісторыя Старажытнага Рыма” (2015), пры кожнай зручнай нагодзе пстрыкае па носе старажытных рымлянаў – гэтых, як яна піша, “акупантаў”, “імперыялістаў”. Відавочна, яна робіць гэта найперш ад імя брытаў.

Патрыётка Бірд з цяжкасцю выціскае з сябе простыя, нешматслоўныя канстатацыі фактаў накшталт “Многія гарады Брытаніі, уключна з Лонданам, заснаваныя па волі і па плану рымлянаў”. Затое пасля гэтага яна хуценька адыйдзе ўбок і абавязкова ўзнагародзіць сябе (і чытачоў-ангельцаў) патрыятычнымі воклічамі аб “Брытанскай Імперыі, якая ў прызначаны час пераўзыйшла Старажытны Рым”. То бок, спадарыня Бірд стала яшчэ ў большай ступені і “акупантам”, і “імперыялістам”?

Бірд нагадвае тых беларускіх гісторыкаў, якія імкнуцца – о, руплівыя беражліўцы! – зрабіць усё, каб толькі не пабіць аб якісьці востры вугал крыштальны гонар Радзімы, дзеля чаго ўключаюць унутранага цэнзара.

Прыкладам, назва бравурнага гістарычнага матэрыяла крычыць: “Бамбарду Вітаўта цягнулі ажно сорак коней!” – менавіта з клічнікам. Але ў самім тэксце пасля сказа: “Тая ж Вітаўтава бамбарда стрэліла толькі аднойчы...” – на самым цікавым і важкім месцы! – ідзе, як бачыце, шматкроп’е, фактычна стаіць пропуск.

У іншага нашага гісторыка на тую ж тэму чуем скорагаворку і таксама з налётам гігантаманіі пра колькасць коней, пакліканую – не інакш! – адцягнуць увагу ад галоўнага: “У войску Вітаўта была бамбарда “Галка” вялікага калібру, якую цягнулі 40 коней. Яна ўзарвалася ў часе аблогі наўгародскай крэпасці Порхаў у 1426 годзе”.

Не, шаноўныя гісторыкі, узяліся, дык дэталізуйце, дагаворвайце, што нямецкі майстар-бамбардзір, пахваліўшыся перад вялікім князем літоўскім Вітаўтам, стрэліў з гэтай гарматы цераз сцены Порхава па царкве святога Мікалая, дзе тады ішла літургія, і трапіў па купалах. Адразу ж пасля гэтага стрэлу гармату разарвала і, як сведчыць летапіс, “много воинства Витовтова убило и коней великое множество поразило”.

## Дакладныя адказы ў літаратуры

Здаецца, літаратура – таямнічая сфера, дзе ўсё няпэўна, неакрэслена і дзе немагчымыя выразныя, як у дакладных навуках, адказы. Але ж гэта не заўсёды так, і ў прыгожым пісьменстве можна вывесці формулу, рашыць ураўненне, даць прагноз.

Скажам, ёсць такое пытанне: калі ў беларускай літаратуры будзе распрацаваны жанр навуковай фантастыкі (НФ)? Адказ: калі ў літаратуру прыйдуць вучоныя (матэматыкі, фізікі і інш.) – выпускнікі педагагічнага ўніверсітэта ці былыя навучэнцы філфаку гэты жанр не пацягнуць.

Прыкладам, англійскі НФ-пісьменнік Артур Кларк (ён з адзнакай скончыў Каралеўскі каледж у Лондане) прапанаваў ідэю стварэння сістэмы спадарожнікаў сувязі на геастацыянарных арбітах. Амерыканскі НФ-пісьменнік Айзек Азімаў (доктар біяхіміі) працаваў у групе Масачусецкага тэхналагічнага інстытута па даследаванні ўплыву атамнай зброі на паветраныя аб’екты; ваенныя прапаноўвалі яму далучыцца да стварэння сістэмы супрацьракетнай абароны ЗША. А савецкі НФ-пісьменнік Барыс Стругацкі (спецыяльнасць – “астраном”) працаваў на лічыльнай станцыі Пулкаўскай абсерваторыі інжынерам-эксплуатацыйнікам падлікова-аналітычных машын.

## Наш час

Свет больш не літаратурацэнтрычны, але людзі яшчэ саромеюцца, калі ім даводзіцца адказваць на пытанне, чаму яны не чытаюць кнігі, і адчуваюць сябе няёмка ў чужых кватэрах, дзе маюцца кнігазборы – у адрозненні ад іх жытла. “Не чытаю літаратуру, бо няма часу, – такая ў іх адгаворка. – Дый і на пыл у мяне алергія”.

Саромеюцца па інерцыі, алергію прыдумляюць.

Між іншым сярод гэтых людзей багата тых, хто мае акаўнты ў сацыяльных сетках. Па некаторых падліках сярэднестатыстычны чалавек штодзённа выдаткоўвае 50 (!) хвілін на прагляд сваёй стужкі ў *Facebook*. (Гэтага часу хопіць, каб удумліва прачытаць 30 хайку японскага літаратара Басё.) А калі сюды дадаць перагляд пошты? ("У наш час у высокаэфектыўнага прафесіянала мусібыць, па сутнасці, толькі адзін абавязковы навык: своечасова разграбаць пошту", – іранізуе амерыканскі пісьменнік Джонатан Франзен у рамане "Бязгрэшнасць".)

Сацсеткі і інтэрнэт – частка нашага жыцця, так. Але для многіх цяпер гэта адзінае чытво. Недалёкі той час, калі людзі, вызваляючыся пакрысе ад фізічнай працы, будуць праводзіць яшчэ больш часу ў Сетцы, замацоўваючы сваю залежнасць ад гэтага спосабу кантактавання са светам. Хвіліны, праведзеныя ў *Facebook*, ператворацца ў гадзіны. А чытанне кніг, найперш мастацкай літаратуры, канчаткова назавуць "адсталым" спосабам засваення інфармацыі і спазнаня свету для сучаснага грамадства.

"Галоўны канкурэнт нашай кампаніі – сон", – цынічна і адкрыта канстатуе Рыд Хастынгс, кіраўнік амерыканскай кампаніі па вырабу кінастужак і серыялаў на аснове патокавага мультымедыя *Netflix*.

Страшныя словы насамрэч. Прамое сведчанне таго, што сусветныя карпарацыі імкнуцца распісаць жыццё чалавека па хвілінах – у сваіх карыслівых мэтах. Мастацкай літаратуры ў гэтым "новым дзіўным свеце", відавочна, няма месца і часу.

## Чытанне ўслых

Дзядуля і бабуля, змораныя цяжкай працаю, кладуцца спаць рана, дзесьці а дзявятай. Да таго ж эканомія электраэнергіі. Нам, маленькім, даводзіцца гасіць святло па ўказцы, але не бунтуем, бо таксама адчуваем стому. У беларускіх вёсках анічога не ведаюць пра Канвенцыю аб правах дзяцей – малодшыя працуюць тут з раніцы да вечара нароўні з дарослымі, як на плантацыі: нас "клічуць" гной і сена, яблыкі трэба збіраць, каларадскі жук ізноў прэ, да таго ж вада заліла склеп – на беларускай прыродзе, літаральна на кожным кроку, нас чакае праца, хай бы скула села на гэтыя школьныя вакацыі!..

Адзінае, што дазваляецца ў цемры перад сном – хвілін з дваццаць ціхенька паслухаць радыё... Якія хвалі? Не памятаю. Маленечкі радыёпрымач зваўся "Бородино", а трансляваў усялякія "культурніцкія" праграмы. Там дзьмуў вецер, рыпелі масніцы, нервова і адрывіста звярталіся адзін да аднаго акторы. А ты ляжаў пад коўдраю, быў поруч з крэўнымі і ўадначас адзін у свеце. Быў і плыў па хвалях.

Дзякуючы радыёп'есам, я цяпер нармалёва стаўлюся да аўдыёкніг. Але – толькі калі там ёсць Голас. Такі, прыкладам, як у Аляксандра Клюквіна. Ён чытае "Мёртвыя душы" Мікалая Гогаля. Чытае так, што тры гадзіны ночы, а ты, дарослы, слухаеш і слухаеш, ловіш кожнае слоўца. Цяпер ты сам сабе камандзір, няма сена, яблык і жука, няма дзядулі і бабулі, можна не спаць.

"Мёртвыя душы" – вы ж ведаеце, гэта кніга пра чорта, які збірае душы, і поруч з ім такія смешныя, даверлівыя людзі – хоць і цемра за вакном, але яны ўсе добра чутныя, бачныя! Толькі вось смех Гогаля – змрочны, начны, адзінокі, і ты раптам чуеш – поруч з крэўнымі і ўадначас адзін у свеце – жудасныя словы пісьменніка, фразу, якую днём не пабачыў на свае вочы ў кнізе, хоць і перачытваў яе разоў восем: "Мне не смешно..."

Клюквін здолеў зрабіць так, каб яна сталася самай гучнай у кнізе.

# Не як так

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*



**Адам Глобус. Казкі сталічныя. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 104). – 160 с.**

Новая кніга Адама Глобуса складзена з казак (некаторыя з якіх вядомыя чытачу “Дзеяслова”), напісаных у розных сталічных гарадах. Дзіўныя падзеі адбываюцца ў Парыжы, Вільні, Мінску і Віцебску. Пісьменніку пашанцавала, і ён змог пажыць і папрацаваць у гэтых цудоўных сталіцах. У дадатку аўтар змясціў казкі пра мастакоў віцебскай школы і неверагодныя гісторыі пра іх таленавітыя творы. Звычайнае гарадское жыццё тут пераплятаецца з містыкай, казкамі: анёлы, вядзьмаркі, пярэваратні, чараўніцтва... Кніга будзе цікавай і падлеткам, і дарослым – кожны знойдзе свой сэнс: філасафічныя па сваёй сутнасці, казкі маюць яркую сюжэтную лінію пра простыя і зразумелыя кожнаму чалавеку рэчы: ежа, хвароба, каханне...

Кніга была выдадзена ў якасці ўзнагароды за трэцяе месца ў літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца.



**Алесь Камоцкі. Не як так. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 103). – 252 с.**

У серыі “Кнігарня пісьменніка” Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў пабачыў свет зборнік лепшых вершаў вядомага паэта і барда. “*Голас барда Алеся Камоцкага хораша пачувае сябе ў міжзор’і ўдзячных сэрцаў. Філосаф па адукацыі, тонкі лірык на паслугах у роднага слова. У век усеагульнай папсы яго песні вяртаюць душу да вытокаў, натуральна гучаць беларускаму вуху, не губляюцца ў сугуччы песняў суседзяў*”, – гэтыя словы-вітанні Рыгора Барадуліна, абраныя замест прадмовы, ёмка і дакладна прадстаўляюць аўтара і выканаўцу ўласных песень, з якім Народны паэт сяbraваў шмат гадоў. Сапраўды, усё, напісанае і праспяванае Алесем Камоцкім, аўтарскае або на вершы іншых беларускіх або замежных творцаў, кранае сэрца. У гэтай кнізе – найлепшае, што назбіралася ў творчым багажы спадара Алеся-паэта, пачынаючы з 1997 года, калі выйшаў яго зборнік “Спроба ісьці па расе”, і заканчваючы нізкай 2017 года.

*“Не буду шмат прыводзіць цытат на майстэрства і непаўторнасць. Давялося б як не ўсю кнігу прывесці ў прыклад. А што тады чытачу рабіць? Не асмелюся красці ў яго радасць*”, – Рыгор Барадулін.

**Палац. Літаратурны альманах. №5. – Мінск, Кнігазбор, 2018. – 280 с.**




У новым “Палацы”, які прадстаўляе літаратурнае жыццё Гомельшчыны, вялікая ўвага надзяляецца рэтраспектыўным матэрыялам. Акрамя сучасных прозы, паэзіі, літаратуразнаўства, у выданні можна знайсці гісторыю і краязнаўства, а таксама архіўны раздзел “Спадчына”. Імёны 30 аўтараў, змешчаныя на вокладцы выпуска, сведчаць пра жанравую і эстэтычную разнастайнасць твораў. Тут прадстаўленыя розныя пакаленні, ад маладога да сталага, а ў тэксце “Замест уступнага слова рэдактара” можна адшукаць першыя спробы пяра мясцовых школьнікаў, іх дэбютныя вершы і выказванні пра родную мову. Рубрыка “Пабрацімства” змяшчае вершы дзвюх чарнігаўскіх паэтак у арыгінале – па-ўкраінску. Укладальнікамі альманаха традыцыйна выступілі Анатоль Бароўскі і Генадзь Лапацін.

**Уладзімір Папковіч. Зазімак. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 105). – 156 с.**




Новая кніга паэта прыйдзецца даспадобы аматарам класічнай рыфмаванай традыцыі, сур’ёзнай філасофскай тэматыкі, тонка аздобленай доляй іроніі і самаіроніі. У вобразе лірычнага героя, сталага чалавека, які азіраецца назад і па-добраму пакеплівае з сябе маладога, многія могуць пазнаць сябе. І ў адначассе ў гэтым зборніку шмат прыватнасці, шмат асабістага. Нават калі Уладзімір Антонавіч піша пра вёску – а гэтая тэматыка найбольш звыклая і кансерватыўная для беларускай паэзіі, – ён робіць гэта настолькі па-свойму, інтымна, з вышыні свайго жыццёвага досведу, што гэта сапраўды кранае. Поруч з адмыслова беларускай прывязанасцю да сваёй зямлі, “укаранёнасцю” ў крэўныя сувязі, свойскасцю можна знайсці ў зборніку і матыў падарожжа. Нездарма ж архетыповы вечны вандроўнік ужо колькі стагоддзяў вывучае дарогі еўрапейскай літаратуры!

*Люблю падацца ў белы свет,*
*У шлях нязнаны і ньяблізкі,*
*Купіць да пункта Х білет,*
*Жыць без нагляду і прапіскі.*

*Пакінуўшы свой родны дах,*
*Пакуль душа зноў не заные,*
*Павандраваць па гарадах,*
*Дзе ёсць музеі і піўныя.*

*Худым, счарнелым, з барадой*
*Вярнуцца і паспавядацца...*
*Піць роднай мовы сырадой*
*І ад зласліўцаў адбівацца.*

Такім чынам, кніга “Зазімак” выправілася ў белы свет, і, спадзяемся, на сваім шляху яна сустрэне нямала ўдзячных чытачоў.

# Нашыя аўтары

**Абрамовіч Павал** – крытык. Болей за 15 гадоў пісаў літаратурна-крытычныя тэксты для друкаваных і электронных СМІ, сярод якіх «Наша Ніва», «Arche», «Дзеяслоў», «Радыё «Свабода», «Белорусский журнал», агенцтва «Интерфакс-Запад» і інш. Вядзе ў месенджэры *Telegram* канал «Кнігазор» аб кнігах. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Койданава. Жыве ў Мінску.

**Ажэшка Эліза** — польская пісьменніца беларускага паходжання. Аўтарка раманаў «Пампалінскія», «Сям'я Брохвічаў», «Над Нёманам», «Арганаўты», аповесцяў «Апошняе каханне», «Нізіны», «Марта», «Дзюрдзі», «Хам» і інш. Нарадзілася ў 1841 годзе ў маёнтку Мількаўшчына на Гарадзеншчыне. Памерла ў 1910 годзе ў Гародні.

**Астравух Павел** – паэт. Творы друкаваліся ў часопісах «Першацвет» і «Нёман», газеце «ЛіМ» і інш. Нарадзіўся ў Лідзе ў 1979 годзе. Жыве ў Мінску.

**Бартэльс Артур** – польскамоўны паэт, драматург, публіцыст, мастак, кампазітар, артыст. Лічыў сябе ліцвінам. Вучыўся ў Варшаве, Санкт-Пецярбургу і Парыжы. Удзельнік паўстання 1863–64 гг. Пасля яго жыў у Варшаве і Рызе. Праславіўся пры жыцці дзякуючы сваім песням і выступленням забаўляльнага плану. Нарадзіўся ў 1818 годзе ў вёсцы Дзяніскавічы Слуцкага павета Менскай губерні (гіпотэза), цяпер – Ганцавіцкі раён Брэсцкай вобласці. Памёр у Кракаве ў 1885 годзе.

**Бельскі Алесь** — празаік, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг прозы «Ружовая знічка», «Хроніка смутку», «Сны пра дзяцінства» і інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (2000). Нарадзіўся ў 1963 годзе ў мястэчку Цімкавічы на Капыльшчыне. Жыве ў Мінску.

**Бібіла Юлія** – бібліёграф. Склала бібліяграфію твораў Ц. Гартнага. Апублікавала матэрыялы да біяграфіі Цёткі. У 1930-я гады была рэпрэсаваная і высланая за межы Беларусі. У 1937—59 гг. была галоўным бібліёграфам бібліятэкі Саратаўскага ўніверсітэта. Вярнулася ў Мінск у 1959 годзе. Працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР. Нарадзілася ў 1897 годзе ў мяст. Поразава Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл.). Памерла ў 1974 годзе ў Мінску.

**Будовіч Таццяна** – паэтка, празаік. Аўтарка кнігі вершаў «Дуэль паглядаў». Вядомая таксама пад псеўданімам Тадора Шпілька. Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бутэвіч Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісцікакарунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці». Перакладаў творы С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хемінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапеева Вольга** – паэтка, перакладчыца, лінгвістка. Аўтарка кніг «Няголены ранак», «Прысак і пожня», «Сумны суп», «(в)ядомыя гісторыі» і інш. Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф» (2010). Стыпендыятка міжнародных праграм для пісьменнікаў і перакладчыкаў (Аўстрыя, Нямеччына, Латвія, Швейцарыя), удзельніца шматлікіх міжнародных канферэнцый і літаратурных фестываляў. Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гапееў Валерый** – журналіст, празаік. Аўтар кніг «Пастка на рыцара», «Урокі першага кахання», «Ведзьміна тоня», «Я размалюю для цябе неба», «Праклён», «Ноч цмока», «Мая мілая ведзьма» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2016), прэміі Цёткі (2018). Нарадзіўся ў пасёлку Восава на Рагачоўшчыне ў 1963 годзе. Жыве ў Івацэвічах.

**Гардзей Віктар** – паэт, празаік, перакладчык. Аўтар зборнікаў вершаў «Касавіца», «Верасное палясоўе», «Засевак Радзімы», і інш., кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі», «Карані вечнага дрэва», «Уратуй ад нячыстага» і інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1993). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Малыя Кругавічы на Ганцавіччыне. Жыве ў Мінску.

**Гардзіенка Наталля** — гісторык. Вядучы архівіст у Беларускім дзяржаўным ар-

хіве-музеі літаратуры і мастацтва. Галоўны рэдактар альманаха «Запісы БІНіМ». Аўтарка кніг «Беларусы ў Аўстраліі», «Беларусы ў Вялікабрытаніі», «Рада БНР 1947–1970. Падзеі. Дакументы. Асобы» (разам з Л. Юрэвічам). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гардзіёнак Ігар** – мастак. Працуе ў станкавай і кніжнай графіцы, жывапісе і дызайне. Удзельнік і арганізатар міжнародных і рэспубліканскіх мастацкіх выстаў і пленэраў. Уладальнік шматлікіх узнагарод конкурсаў «Мастацтва кнігі», «Мастак і кніга» і інш за найлепшае афармленне выданняў. Нарадзіўся ў 1971 годзе ў вёсцы Кублішчына на Ушаччыне. Жыве ў Мінску.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтар кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дубавец Сяргей** — празаік, крытык, публіцыст, выдавец. Аўтар кніг «Практыкаванні», «Дзённік прыватнага чалавека», «Русская книга», «Вострая Брама», «Вершы», «Як?», «Сіні карабель у блакітным моры плыве» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мазыры. Жыве ў Вільні.

**Дубоўскі Валеры** – паэт, выдавец. Працаваў журналістам, кіраўніком розных беларускіх перыядычных выданняў, дырэктарам выдавецтва «Беларусь». Аўтар кніг вершаў «На пачатку маўчання» і «Родавыя аскепкі неба». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Клакен Лінда** – нарвежская літаратарка. Аўтарка кніг вершаў «Маці, жонка, рабыня» і «Восем хвілін», кнігі прозы «Скончыць кнігу пра сваё жыццё», кнігі для дзяцей «Дурное, дурное сэрца». Нарадзілася ў 1997 годзе ў Олесуне (Нарвегія). Жыве ў Осла.

**Кустава Валерыя** – паэтка, сцэнарыстка, кіназнаўца. Аўтарка кніг «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...», «Тамсама». Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2009), пераможца літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» імя Р. Барадуліна (2015). Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лістота Ніна** – паэтка, празаік, журналістка. Аўтарка празаічнага зборніка «Каханні. Дваццаць рэальных гісторый«. Нарадзілася ў 1990 годзе ў Маладзечне, жыве ў Мінску.

**Макмілін Арнольд** – брытанскі філолаг-славіст, прафесар, папулярызатар беларускай літаратуры. Доктар славянскай філалогіі. Прафесар рускай літаратуры Лонданскага ўніверсітэта. Сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Англа-беларускага таварыства. Даследаваў навуковую дзейнасць Я.Ф. Карскага, Я. Чачота, творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, В. Быкава і інш. Аўтар кніг «Напісанае ў халодным клімаце: беларуская літаратура ад 1970-х гадоў да нашых дзён», «Рунь», «Адмова ад традыцыі: кароткая беларуская проза на пачатку XXI стагоддзя» і інш. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Ньюкасле (Англія). Жыве ў Лондане.

**Мацкевіч Ірына** – паэтка, матэматык, выкладчык Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, навуковец у галіне методыкі выкладання матэматыкі. Аўтар 12 падручнікаў па матэматыцы і кнігі паэзіі «Чатыры стыхіі». Нарадзілася ў Магілёве. Жыве ў Мінску.

**Нядбай Таццяна** – паэтка. Аўтарка зборніка «Сірэны спяваюць джаз». Фіналістка конкурсу Беларускага ПЭН-цэнтра да 75-годдзя У. Караткевіча (2005). Пераможца прэміі «Дэбют» імя М. Багдановіча (2014). Нарадзілася ў 1982 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Сіўко Франц** — празаік, публіцыст. Аўтар кніг «З чым прыйдзеш...», «Удог», «Ягня ахвярнае», «Асіметрыя», «Дзень бубна», «Выспы», «Эдэм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Вята на Мёршчыне. Жыве ў Віцебску.

**Сіўчанка Галіна** – паэтка. Фіналістка (2015) і прызёрка (2016, 2017) Фэста аднаго верша. Нарадзілася ў 1983 годзе ў Брэсце. Жыве ў Мінску.

**Спрынчан Аксана** — паэтка, празаік. Аўтар кніг «Вершы ад А.», «Хата для Моўчы», «ЖываЯ», «Смачная кніга» і інш. Пераможца конкурсу «Літаратура — дзецям» (2009). Нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы. Жыве ў Мінску.

**Шакунова Наста** – паэтка. Пераможца паэтычнага конкурсу «Рухавік 2015». Арганізатарка і вядоўца творчага праекта @shakunovalive. Нарадзілася ў 1989 годзе ў Мазыры, жыве ў Гомелі.

**Ярашонак-Камінская Аксана** – паэтка, журналістка. Аўтарка зборніка вершаў «Звычайнае шчасце». Вершы друкаваліся ў рэспубліканскіх і раённых перыядычных выданнях, у калектыўных зборніках. Нарадзілася ў Маладзечне, дзе і жыве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.